# HOMO HISTORICUS 2023

## Гадавік антрапалагічнай гісторыі

Пад рэдакцыяй
доктара гістарычных навук Аляксандра Смаленчука

Беласток
Фонд Kamunikat.org
2023

Выдаецца пры падтрымцы:
*Orsa-Romano Cultural and Educational Foundation Inc.*
*Belarusian Kreceuski Foundation*

**Homo Historicus 2023.** Гадавік антрапалагічнай гісторыі / Пад рэд. д-ра гіст. н. А. Смаленчука. — Беласток: Фонд Kamunikat.org, 2023. — 336 с., [11 л. іл.] іл.

Homo Historicus 2023 працягвае традыцыі шасці папярэдніх тамоў (2008, 2009, 2012, 2016, 2019 і 2022 гг.) з іх арыентацыяй на пашырэнне антрапалагічнага стылю мыслення ў аналізе мінулага. Апублікаваныя тэксты знаёмяць з раней невядомымі беларускамоўнымі тэкстамі з атачэння Кастуся Каліноўскага, датычаць суадносін біяграфіі навукі з біяграфіяй навукоўца, асвятляюць многія важныя старонкі айчыннай гісторыі. Сярод аўтараў – вядомыя даследчыкі з Беларусі, Польшчы і Украіны.

**УДК** 572+94(476)

ISSN 2424-5216

# ЗМЕСТ

**Прадмова (Аляксандр Смалянчук)** .......... 8

- INTRODUCTION (ALIAKSANDR SMALIANCHUK) .......... 8

**ДАКУМЕНТ**
**DOCUMENT**

**АЛЯКСАНДР СМАЛЯНЧУК (ВАРШАВА).**
**Невядомыя беларускамоўныя тэксты з атачэння Кастуся Каліноўскага. 1862–1863 гг.** .......... 10

- ALIAKSANDR SMALIANCHUK (WARSAW).
  Unknown Belarusian texts from Kastus Kalinouski's inner circle. 1862–1863 .......... 10

**ДАСЛЕДАВАННІ**
**STUDIES**

**БІЯГРАФІЯ НАВУКІ І НАВУКОЎЦА**
**BIOGRAPHY OF SCIENCE AND SCIENTISTS**

**ПАМЯЦІ ГІСТОРЫКА ВАЛЯНЦІНЫ МЯТЛІЦКАЙ (10.03.1955–8.02.2022)** .......... 34

- IN MEMORY OF THE HISTORIAN VALIANTSINA MYATLITSKAYA (10.03.1955–8.02.2022) .......... 34

**ВАЛЯНЦІНА МЯТЛІЦКАЯ (ГОМЕЛЬ).**
**Шляхі да маіх універсітэтаў…** .......... 35

- VALIANTSINA MYATLITSKAYA (HOMEL).
  The way to my universities .......... 35

**Бібліяграфія навуковых прац Валянціны Мятліцкай (Лебедзевай). 1994–2021 гг. (укладальнік А. Кіштымаў)** .......... 52

- Bibliography of the Scientific Workers of Valiantsina Myatlitskaya (Lebedzeva). 1994–2021 (compiled by A. KISHTYMAU) .......... 52

**Валянціна Мятліцкая ва ўспамінах сяброў і калег** .......... 66

- Valentina Myatlitskaya in the memories of friends and colleagues .......... 66

**ЯНІНА ГРЫНЕВІЧ (МЕНСК).**
**Як нацыя вучылася спяваць: жыццё і дзейнасць Антона Грыневіча** .......... 82

- YANINA HRYNEVICH (MENSK).
  How nation learnt to sing: life and work of Anton Hrynevich .......... 82

**ДЫЯЛОГІ**
**DIALOQUES**

**Я сябе місіянеркай не адчуваю… АЛЯКСАНДР СМАЛЯНЧУК размаўляе з ВОЛЬГАЙ ЛАБАЧЭЎСКАЙ** .......... 101

- I don't feel like a missionary… ALIAKSANDR SMALIANCHUK talks with Professor of Art History VOLHA LABACHEUSKAYA .......... 101

*Змест*

**Віленскі сшытак**
**Vilna's notes**

**Аляксандр Смалянчук (Варшава).**
**Чалавек, які сказаў праўду. З жыццяпісу Францішка Аляхновіча (1883–1944)** ........ 124

- Aliaksandr Smalianchuk (Warsaw).
  The man who said truth. Sketches of Frantishek Aliachnovich's biography (1883–1944) ........ 124

**Ала Пігальская (Варшава).**
**З гісторыі друкарні Юзафа Завадскага (1805–1940): выдавецкая дзейнасць і сетка кантактаў** ........ 147

- Ala Pihalskaya (Warsaw).
  From the history of the printing house of Józef Zavadzkyi (1805–1940): publishing activities and network of contacts ........ 147


**Гісторыя ў антрапалагічнай перспектыве**
**History in antropological perspective**

**Віктар Якубаў (Варшава).**
**Права на супраціў тыраніі ў Вялікім Княстве Літоўскім на прыкладзе дзейнасці Льва Сапегі і Януша Радзівіла (канец XVI – пачатак XVII ст.)** ........ 163

- Viktar Yakubau (Warsaw).
  Evolution of the right to resist tyranny in the Grand Duchy of Lithuania and its understanding on the example of the legacy of Leo Sapieha and Janusz Radziwill (the end of the XVIth – beginning of the XVIIth century) ........ 163

**Сяргей Грунтоў (Менск).**
**«Аўгусцейшы дзед». Імператарскія скульптурныя помнікі ў беларускіх гарадах і мястэчках у пачатку XX ст.** ........ 176

- Serhei Hruntou (Mensk).
  "August old man". Imperial sculptural monuments in Belarusian cities and small towns in the beginning of the 20th century ........ 176

**Ян Гардзееў (Кракаў).**
**Białoruś w koncepcjach Leona Wasilewskiego i Stanisława Grabskiego przed traktatem ryskim** ........ 195

- Jan Gordziejew (Krakow).
  Belarus from Leo Wasilewski's and Stanisław Grabski's perspectives before the Treaty of Riga ........ 195

**Ольга Зубко (Вінніца).**
**Штодзённае жыццё беларусаў у міжваеннай Чэхаславакіі (1919–1939)** ........ 209

- Olga Zubko (Vinnytsia).
  Everyday life of Belarusians in interwar Czechoslovakia (1919–1939) ........ 209

**Аляксандр Гужалоўскі, Данута Грынь (Менск).**
**Іншадумства ў БССР у часы Адлігі** ........ 223

- Aliaksandr Hužaloŭski, Danuta Hryn (Mensk).
  Dissent in Soviet Belarus during the 'thaw'. 1953–1968 ........ 223

**Мікола Бянько (Менск).**
**Вобразы савецкай рэчаіснасці 1960-х гг.: перапіска «антысаветчыкаў» Луцкевічаў**......................247

- Mikalai Bianko (Mensk).
  Images of the Soviet reality of 1960s: «anti-soviet» Lutskevichs' correspondence..........................247

**Аляксандр Радзюк (Гродна).**
**Вобраз Расійскай імперыі ў гістарычнай памяці сучаснай Беларусі**
**(на прыкладзе афіцыйных сайтаў мясцовых органаў улады)** ........................................................ 280

- Aliaksandr Radziuk (Hrodna).
  Russian Empire image in the historic memory of modern Belarus
  (on the example of official sites of local authorities)..................................................................... 280

**ВОЛЬНАЯ ТРЫБУНА**
**FREE TRIBUNE**

**Ігорь Баринов, Иван Стрелков (Москва).**
**Проблемы исторического сознания в современной России**........................................................... 296

- Igor Barinov, Ivan Strelkov (Moscov).
  Problem of historical consciousness in modern Russia ................................................................... 296

**НАВУКОВАЕ ЖЫЦЦЁ**
**SCIENTIFIC LIFE**

**Рэцэнзіі**
**Reviews**

**«Археаграфічная энцыклапедыя аднаго жыцця…»**
"Archaeographic encyclopedia of one life..."
*Мітрафан Доўнар-Запольскі (1868-1934): асоба ў дакументах і ўспамінах.*
*Укладанне В. М. Мятліцкай. Пад рэд. А. Смаленчука і А. Кіштымава, Мінск, 2020. 488 с*. ........... 304

**Анатацыі**
**Annotations**

*Umysł miał jasny i serce miłujące. Edward Woyniłłowicz w dokumentach i materiałach.*
Wybór, opracowanie, wstęp i przypisy Roman Jurkowski, Olsztyn 2021, 743 s..............................318

*J. Grzybowski, Białoruski ruch niepodległościowy w czasie II wojny światowej,*
Warszawa 2021, 432 s. ........................................................................................................................320

*Беларускі гістарычны агляд*, т. 29, сшытак 1–2 (56–57), снежань 2022. ...........................................322

*ЗАПІСЫ 42. Беларускі інстытут навукі й мастацтва = ZAPISY 42. Belarusan Institute of*
*Arts and Sciences*, New York – Miensk 2022 ......................................................................................324

*Rocznik Centrum Studiów Białoruskich = Гадавік Цэнтра беларускіх студыяў*, 2022, nr 8. ................327

**Звесткі пра аўтараў**..........................................................................................................................329

- About the Authors ............................................................................................................................329

Удакладненні да артыкула В. Івановай *Беларускі музей імя Івана Луцкевіча ў Вільні – шлях да ліквідацыі,* Homo Historicus, 2022 .....................................................................................................335

ISSN 2424-5216

*Памяці Валянціны Мятліцкай (Лебедзевай) (1955–2022) прысвячаецца*

# ПРАДМОВА

Папярэдні том гадавіка *Homo Historicus* выйшаў з друку ў студзені 2022 г. А ўжо праз месяц слова ВАЙНА стала ключавым для характарыстыкі не толькі сітуацыі ва Украіне, але таксама ва ўсёй Цэнтральна-Усходняй Еўропе. Гэта слова ў чарговы раз шмат каго прымусіла задумацца над пытаннямі: што рабіць, як жыць далей? Калісьці на на гэтыя пытанні адказаў Альбер Камю: «У гэтым свеце канфліктаў, свеце ахвяр і катаў перад чалавекам, які здольны думаць, стаіць адна задача – не апынуцца на баку катаў». А падчас працы над сёмым томам гадавіка думалася і пра тое, што моцным антываенным сродкам з'яўляецца культурніцкая праца, адстойванне агульначалавечых каштоўнасцей ва ўмовах пашырэння гвалту і нянавісці.

Гэты том гадавіка распачынаецца артыкулам пра раней невядомыя беларускамоўныя тэксты, якія ствараліся ў атачэнні Кастуся Каліноўскага, а таксама іх публікацыяй. Дакументы г. зв. «Бернардзінскай калекцыі» дазваляюць паглыбіцца ў праблему «Каліноўскі і беларуская нацыянальная ідэя» і адкрываюць новыя старонкі ў гісторыі паўстання 1863–1864 гг. Насамрэч яно таксама было вайной, цэнтральным элементам якой стала паняцце СВАБОДЫ. Даследчыкам варта яшчэ раз задумацца над пытаннем, за якую свабоду змагаліся паўстанцы? Сацыяльнае ці нацыянальнае было яе сэнсам? Іншы бок гэтай праблемы – тая несвабода, якую прынесла на штыках Расійская імперыя. Якія сляды яна пакінула ў нашай гісторыі? І, канешне, заўсёднае «праклятае» пытанне пра кошт спробы вырвацца з-за кратаў заняволення.

Гадавік працягвае лінію антрапалагічна арыентаванай гісторыі, дзе асобае месца займае праблематыка гісторыі навукі і навукоўцаў. Гэты нумар рэдакцыя вырашыла прысвяціць памяці Валянціны Мятліцкай (Лебедзевай) (1955–2022). Яе заўчасны сыход прымусіў яшчэ раз задумацца пра значэнне асобы ў беларускай гістарычнай навуцы, у сітуацыі, калі дзейнасць навуковых інстытутаў абмежавана ідэалогіяй, у якой прасавецкі дыскурс з культам першай асобы змяшаўся з ідэямі заходнерусізму. У рубрыцы *Біяграфія навукі і навукоўца* публікуецца апошні тэкст В. Мятліцкай *Шляхі да маіх універсітэтаў*, бібліяграфія яе прац, а таксама ўспаміны калег і сяброў. Гэтую тэму ў рубрыцы *Дыялогі* працягвае размова рэдактара з мастацтвазнаўцам і гісторыкам Вольгай Лабачэўскай.

Праблематыка *memory study* прадстаўлена даследаваннямі вобраза Расіі і яе кіраўнікоў у гістарычнай памяці беларусаў і расійцаў. Таксама ў гэтым томе прысутнічае тэма беларускага супраціву тыраніі ў разуменні як XVI стагоддзя, так і пазнейшых.

Даводзіцца канстатаваць, што вайна ў самых розных яе праявах стала сумнай традыцыяй гісторыі народаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Хоць трэба прызнаць, што часам яна дае больш падстаў захапляцца людзьмі, чым пагарджаць імі. Украінскі гісторык Яраслаў Грыцак у кнізе *Подолати минуле: глобальна історія України* (2021) заўважыў, што «для побудови нової українскої нації окрім героїв, готових віддати свої життя заради ідеалів, потрібні герої, які би демонстрували просту людську порядність та жертвували життям заради інших». Такіх выпадкаў даволі шмат у нашай гісторыі. Даследчыкам варта засяродзіцца на гэтых героях. Яны часта сыходзілі ў нябыт, не пакідаючы слядоў у культурнай памяці грамадства. Аднак менавіта іх учынкі баранілі асновы цывілізацыі, якая грунтуецца не на гвалце і прымусе, а на ўзаемнай падтрымцы і свабодзе.

*Рэдактар*

ISSN 2424-5216

# ДАКУМЕНТ
# DOCUMENT

## НЕВЯДОМЫЯ БЕЛАРУСКАМОЎНЫЯ ТЭКСТЫ З АТАЧЭННЯ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА. 1862–1863 гг.[1]

***Аляксандр Смалянчук,***
*доктар гіст. навук (Варшава)*

***Summary***

*The issue deals with some Belarusian language texts from so-called «Bernardine collection» which is stored in the National museum of Lithuania (Vilnius). It includes such texts as Kaimszczyna na Litwie i Bielajrusi (May 26, 1863 ); Do Ciebie swiaty nasz Ojcze (September (?) 1863); draft newspaper «Mużyckaja prauda», № 6 (October 12, 1862) and Rąd Narodowyj Polskoj (May 3, 1863). These documents were discovered in Vilnius in 1989, but only now they are introduced into scientific use. A creator or creators of these documents belonged to Kastus Kalinouski's circle who favoured «the Reds» during the uprising of 1863.*

*The author makes a brief review and analysis of these Belarusian language texts. For the first time ever the texts of these documents as well as their photocopies are published in the appendix.*

Гісторыя гэтай знаходкі пачалася ў 1989 г., калі падчас рэстаўрацыйных прац у капліцы Трох каралёў касцёла Св. Францыска Асізскага (Бернардзінскага касцёла) у Вільні была знойдзена патаемная ніша з дакументамі ды іншымі рэчамі, датычнымі паўстання 1863–1864 гг. Гэта была частка архіва віленскай паўстанцкай арганізацыі, якая ўзначальвала барацьбу на беларускіх і літоўскіх землях.

Аднак інфармацыя пра гэту сенсацыйную для гісторыкаў знаходку не трапіла на старонкі газет. Магчыма, пэўную ролю адыграла тое, што літоўскіх журналістаў і грамадскасць рэспублікі ў той час больш цікавілі палітычныя перамены, галоўным зместам якіх было вяртанне незалежнасці Літвы. Таксама трэба адзначыць, што знойдзеныя дакументы былі ў вельмі кепскім стане і на працяглы перыяд трапілі ў рукі рэстаўратараў. Паводле аповеду намесніка дырэктара Літоўска-

[1] Даследаванне выканана ў рамках праекта «Lietuva-Baltarusija. Dialogas apie praeitį».

га нацыянальнага музея Жыгінтаса Бучыса (Żygintas Bučys), гэтыя знаходкі былі ўнесены ў каталог музея толькі пасля заканчэння рэстаўрацыі ў 2000 г.

У 2013 г. фотакопіі некаторых дакументаў, у тым ліку фотаздымкаў, былі апублікаваны ў альбоме *1863–1864 metų sukilimas Lietuvoje* (укладальнікі Aldona Bielūnienė, Birutė Kulnytė, Rūta Subatnikienė, рэдактар Daiva Stakišaitienė). Аднак і гэтае выданне Літоўскага нацыянальнага музея не прыцягнула ўвагі даследчыкаў да знаходкі, хоць у альбоме былі апублікаваны фотакопіі амаль 20 дакументаў «Бернардзінскай калекцыі», а распачынаўся ён артыкуламі вядомых літоўскіх гісторыкаў Дарыуса Сталюнаса (Darius Stalūnas) і Браніславаса Гензяліса (Bronislovas Genzelis)[1].

Асабістае знаёмства з каталогам і дакументамі «Бернардзінскай калекцыі» пераконвае ва ўнікальнасці знаходкі, якая можа значна пашырыць нашы веды пра падзеі паўстання 1863 г. на тэрыторыі сучасных Літвы і Беларусі. Асаблівую каштоўнасць мае карэспандэнцыя паўстанцаў і паўстанцкіх арганізацый з віленскім цэнтрам, адозвы і звароты віленскага і варшаўскага кіраўніцтва, дзённікі паўстанцаў ды іх асабістыя дакументы, шматлікія матэрыялы друку, а таксама іх чарнавікі, фотаздымкі паўстанцаў. Мовай большасці дакументаў з'яўляецца польская, але таксама сустракаюцца матэрыялы на расійскай і беларускай мовах. Рэстаўрацыйныя працы былі праведзены на вельмі высокім узроўні, што дазваляе працаваць з гэтымі дакументамі. Думаю, што ў бліжэйшы час вывучэнне калекцыі матэрыялаў з Бернардзінскага касцёла стане прыярытэтам даследчыкаў Студзеньскага паўстання.

Знаходка 1989 г. сведчыць пра цесныя сувязі святароў і манахаў Бернардзінскага касцёла з паўстанцамі. Гэтыя сувязі ўжо былі прадметам вывучэння. Так, літоўская даследчыца Ева Шанавічэне (Ieva Šenavičenė) адзначала актыўнасць бернардзінцаў у палітычных маніфестацыях 1861–1862 гг.[2] Паводле дакументаў паліцыі, дыякан Адрыян Навіцкі (Adrian Nowicki) падчас набажэнства 12 (24) снежня 1862 г. дазволіў сабе «палітычную агітацыю». У выніку віленскі паліцмайстар загадаў біскупу Красінскаму ўзяць з яго тлумачэнні і забараніць казані[3].

---

1 Пэўным выключэннем можна лічыць спробу беларускага гісторыка Васіля Герасімчыка апублікаваць у кнізе *Канстанцін Каліноўскі: асоба і легенда* (Гродна, 2018) адзін з дакументаў гэтай калекцыі, а менавіта чарнавік падрыхтаванага да друку шостага нумара *Мужыцкай праўды*. Аднак тэкст быў перададзены кірыліцай, з тэкставымі недакладнасцямі, сучаснай пунктуацыяй і без належных каментароў і тлумачэнняў. Таксама не згадвалася прыналежнасць чарнавіка да калекцыі дакументаў віленскай паўстанцкай арганізацыі.

2 *Lietuvos katalikų dvasininkija patriotiniame sąjūdyje (1861–1862)*, „Lietuvių katalikų mokslo akademijos metraštis", 2008, t. 31, s. 244–278.

3 Ibidem, s. 257–258.

Даследчыца гісторыі Бернардзінскага касцёла Рута Янонене (Rūta Janonienė) адзначыла ўдзел у паўстанні згаданага Адрыяна Навіцкага[1], а таксама манахаў Габрыэля Бежанскіса (Gabrielis Biežanskis) і Рамуальда Лукашэвіча (Romualdas Lukoševicius). Яна сцвярджала, што Лукашэвіч быў блізкі да Каліноўскага[2]. Магчыма, менавіта з гэтымі асобамі і звязаны тайнік у капліцы Трох каралёў.

Для беларускіх гісторыкаў асаблівую каштоўнасць уяўляюць беларускамоўныя тэксты, звязаныя з асобай Вікенція Канстанціна (Кастуся) Каліноўскага і яго атачэння з г. зв. групоўкі «чырвоных», якія належалі да дэмакратычнай плыні польскага нацыянальна-вызваленчага руху.

Вобраз Каліноўскага ўжо даўно перакрочыў межы ўласна беларускай гістарыяграфіі. Паўстанне 1863 г. у папулярнай літаратуры часта фігуруе яе «паўстанне Каліноўскага», што выклікае зразумелае здзіўленне польскіх гісторыкаў. Як трапна заўважыў вядомы літаратар Сяргей Дубавец, Каліноўскі стаў беларускім нацыянальным героем № 1. Аднак навукоўцы разумеюць, што вывучэнне ўласна «беларускага чынніка» ў паўстанні патрабуе новых грунтоўных даследаванняў.

Беларускамоўныя тэксты «Бернардзінскай калекцыі» якраз ствараюць такую магчымасць, бо ў гэтым выпадку гаворка ідзе не толькі пра Каліноўскага, але таксама пра дзейнасць усёй групоўкі віленскіх «чырвоных».

Хто акрамя Каліноўскага прадстаўляў у Беларусі і Літве гэту плынь нацыянальна-вызваленчага руху? Найчасцей гісторыкі называюць імёны Фелікса Ражанскага, які таксама фігуруе як аўтар беларускіх паўстанцкіх песень, Валерыя Урублеўскага, якому яго пляменнік вядомы адвакат, бібліяфіл і знаўца гісторыі Беларуска-Літоўскага краю Тадэвуш Урублеўскі прыпісваў аўтарства трэцяга нумара *Мужыцкай праўды*. Таксама да шэрагу блізкіх паплечнікаў Каліноўскага належалі яго сакратары Фелікс Зянковіч і Юзаф Ямант, ужо згаданы бернардзінец Рамуальд Лукашэвіч, ксёндз з Вялікай Бераставіцы Ігнат Казлоўскі, першы кіраўнік Літоўскага правінцыйнага камітэта Людвік Звяждоўскі, паўстанцкі начальнік Гродзенскага ваяводства Станіслаў Сільвястровіч, Станіслаў Сангін, які загінуў у баі на пачатку лютага 1863 г., паўстанцкія начальнікі Вільні Ігнат Здановіч і Цітус Далеўскі, Уладзіслаў Малахоўскі, якога Г. Кісялёў лічыў верагодным суаўтарам апошняга сёмага нумара *Мужыцкай праўды*, Баляслаў Длускі, Зыгмунт Чаховіч ды інш. Яны падтрымлівалі кантакты з групоўкай «чырвоных» у Варшаве, якая якраз і рыхтавала паўстанне. Сярод апошніх вылучаліся Яраслаў Дамброўскі, Зыгмунт Сераkоўскі, Аскар Авэйдэ, Браніслаў Шварцэ ды інш.

---

1 Адрыян Навіцкі быў арыштаваны 31 ліпеня 1863 г., асуджаны і высланы ў вёску Тунку ў Іркуцкай губ. Гэта было сумна вядомае месца высылкі палітычных зняволеных, дзе пераважала каталіцкае духавенства.

2 R. Janonienė, *Bernardinų bažnyčia ir konventas Vilniuje*, Vilnius 2010, s. 357.

Іх праграма прадугледжвала прыцягненне сялянства да паўстання і правядзенне дэмакратычных сацыяльных рэформ, між іншым перадачу сялянам земляў, на якіх яны жылі і працавалі, без выкупу. Для віленскіх «чырвоных» актуальным было спалучэнне сацыяльных рэформ з разуменнем сацыяльнай і нацыянальна-культурнай адметнасці земляў гістарычнай Літвы. Пашырэнне сацыяльнай базы паўстання яны звязвалі з падтрымкай інтарэсаў беларускага і літоўскага народаў.

Дарэчы, гэта ўпісвалася ў той працэс разняволення і нацыянальнага абуджэння народаў Еўропы, пра які пісаў віленскі карэспандэнт газеты *Głos z Litwy* (14 лютага 1864 г.), што з ініцыятывы Каліноўскага пачала выдавацца ў Кёнігсбергу ў студзені 1864 г. Ён сцвярджаў, што абуджаны ў народах дух ужо занадта выразна выступіў на сцэну; там італьянцы вызваляюцца, тут скандынавы, нават немцы [...] злучаюцца пад сцягам нацыянальнасці. Розныя братнія атожылкі славян прагна адкопваюць свае родныя памяткі, са слязой спачування ў браце пазнаюць брата...»[1]. Дарэчы, да апошніх належалі і беларусы, бо 1850-я гг. былі пераломнымі для новай беларускай літаратуры, якая імкліва ўзбагачалася творамі Людвіка Кандратовіча (Уладзіслава Сыракомлі), Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Вінцэся Каратынскага, Арцёма Вярыгі-Дарэўскага ды інш. Дзеячы культуры задумваюцца пра беларускі тэатр і школу.

Але вернемся да беларускамоўных дакументаў «Бернардзінскай калекцыі». Пра якія матэрыялы ідзе гаворка? Па-першае, у калекцыі знаходзіцца даволі вялікі рукапіс пад назвай ***Kaimszczyna na Litwie i Biełajrusi*** (*Каімшчына на Літве і Белай Русі*) за подпісам ***Janka z pad Wilna*** (*Янка з пад Вільна)*[2], датаваны 26 мая 1863 г. (гл. Дадатак 1). Гэты дакумент з'яўляецца надзвычай цікавай крыніцай для вывучэння як ідэалогіі паўстання, так і асаблівасцей паўстанцкай прапаганды, разлічанай на сялянства. Тэкст рыхтаваўся да друку, пра што сведчаць польскамоўныя аўтарскія (рэдактарскія?) заўвагі, датычныя перадачы на пісьме і ў друку літары ū (ў). Невядома, ці дакумент быў надрукаваны. Яго друкаваны варыянт у калекцыі адсутнічае і даследчыкам невядомы (гл. Дадатак 1 у Ілюстрацыях напрыканцы часопіса).

Таксама варта адзначыць прысутнасць на апошняй старонцы тэксту дазволу на друк ад імя цэнзара Мухіна. Такі цэнзар сапраўды існаваў. Больш за тое, Аляксандр Мухін быў сябрам Віленскай следчай камісіі па палітычных справах, а з 17 мая па 17 жніўня 1863 г. выконваў абавязкі старшыні Вілен-

---

1 *Wilno, 14 lutego*, „Głos z Litwy" 1864, nr 2 (цытата паводле: К. Каліноўскі, *За нашую вольнасць. Творы, дакументы*. Уклад., прадм., пасляс. і камент. Г. Кісялёва, Мінск 1999, с. 69. Пераклад з польскай мовы Г. Кісялёва).

2 Lietuvos Nacionalinis Muziejus (LNM), R–15702.

скага цэнзурнага камітэта[1]. Падобна на тое, што паўстанцы імкнуліся надаць *Каімшчыне…* нейкія рысы «законнасці», а таксама яшчэ і паздзекавацца з расійскіх улад.

Назва дакумента і яго галоўная ідэя звязана з біблейскім сюжэтам пра Каіна (Каіма) і Авеля (Абля). Аўтар «з цяжкаю на сэрцы тугою»[2] называе сялян «каімамі», якія прадаюць ворагу сваіх «братоў». А гэтымі «братамі» з'яўляюцца «дзеткі зрадзоныя з той жа маці, што і ваша – маці Айчыны – зямелькі Літоўскай і Беларускай, зямелькі Польскай», а менавіта «шляхта Літоўская і Беларуская, шляхта польская, каторая падняла вайну проціў цара маскоўскага, штоб дабіцца праўдзівай вольнасці – і то для ўсіх братоў зароўна – паноў, мяшчан і мужычкоў».

Да згаданых тэрытарыяльных або нацыянальных пазначэнняў звярнуся пазней, а пакуль заўважу, што змест *Каімшчыны…* адразу прымушае задумацца пра сэнс славутага лозунга «За вольнасць нашу і вашу». Менавіта размова пра «вольнасць» з'яўляецца першым сюжэтам дакумента. Дзеля зняпраўджвання вядомага тэзіса расійскай прапаганды, што цар вызваліў сялян з-пад улады «палякаў», аўтар сцвярджае, што «палякі» якраз імкнуліся да сялянскай вольнасці. Гэта сцвярджэнне ў тэксце атрымала гістарычнае абгрунтаванне са згадкай Канстытуцыі 3 мая 1791 г., якая нібыта гарантавала вольнасць кожнаму, хто «ступіў на польскую зямлю», а таксама абвяшчала роўнасць «паноў» і «мужычкоў» як «дзетак зямелькі польскай». Якраз гэта імкненне да вольнасці стала прычынай падзелаў Рэчы Паспалітай «суседнімі тыранамі». Як барацьба за вольнасць разглядаўся ўдзел «палякаў» у напалеонаўскіх войнах і паўстанне 1830–1831 гг.

Маніфест ад 19 лютага 1861 г. тлумачыўся тым ціскам, які пасля разгрому Расіі ў Крымскай вайне аказвалі на Маскву яе еўрапейскія праціўнікі і ў першую чаргу «французскі цар». Аднак гэты Маніфест аказаўся падманам, бо значна выраслі падаткі за зямлю, «якую дзяды, бацькі і вы крывавым аблівалі і абліваеце потам». Да таго ж сяляне павінны аплачваць «канцылярыю» з яе «старшынамі і пісарамі»: «Да на тое ж ён маскаль, штоб красці і абдзіраць беднага польскага мужычка». Выплата сялянамі зямельнага чыншу ў дзяржаўную казну тлумачылася як перавод сялян з «панскіх» у «казённыя». Адзначалася цяжкае становішча апошніх, якія актыўна далучаліся да паўстання і змагаліся разам са шляхтай, «штоб агарадзіць вас ад маскоўскага здзерства, разбою і крадзежы».

Наступны важны сюжэт датычыў ліквідацыі ўніяцкай царквы і гвалтоўнага пераводу большасці сялян-уніятаў у праваслаўе («сызму»). Аўтар тэксту

[1] *Цэнзары Вільні XIX – пачатку XX ст.* [у:] *Белорусский сборник*, вып. 3, Петербург 2005, с. 228. На гэта імя звярнуў увагу даследчык Зміцер Кузьменка.

[2] Тут і далей усе цытаты прыводзяцца адпаведна арыгінальнаму тэксту, але кірыліцай.

тлумачыў чытачам гэту канверсію імкненнем цара «атуманіць другіх цароў на Божым свеце, што вы не палякі, а маскалі, бо верай сызмацкай збраталіся з імі». Адпаведна прапаганда даводзіла, што літоўскія і беларускія землі – гэта спрадвечная расійская тэрыторыя, захопленая калісьці польскай шляхтай. *Янка з пад Вільна* быў упэўнены ў марнасці гэтага тэзіса, бо «ведае свет цэлы, што Літва, Беларусь, Валынь, Падол і Украіна цэлая, то былі зямлі польскія, што маскаль з Немцамі ў разныя гады напасцяй заграбілі ад яе тыя зямлі, ведае, што як ат паноў, так і ат мужычкоў у тых зямлях зароўна выціскалі і выціскаюць апошнія духі із цела і апошні грош із кяшэні».

Дакумент нагадваў чытачам пра ўніяцкую веру іх бацькоў, пра ўрадавы гвалт як адзіны шлях у праваслаўе. Разбураючы пэўныя стэрэатыпы свайго часу і баючыся, каб перамена веравызнання не пацягнула за сабой перамену ідэнтычнасці, аўтар пераконваў: «Вера не становіць народнасці». Ён прыводзіў прыклады змагання супраць Масквы і яе саюзнікаў праваслаўных Канстанціна Астрожскага, Ярэмы Вішнявецкага і г. зв. «лісоўчыкаў». Таксама адзначалася, што кожны шосты ўдзельнік паўстання належыць да праваслаўнай канфесіі, а поруч з каталікамі і праваслаўнымі таксама змагаюцца «жыды, кальвіны і лютэране», якія «ведаюць, што як польша зацвіце вольнасцю, то ўсі станы, паны, мяшчане, жыды, мужычкі, не гледзя на веру будуць роўныя сабе браты, сыны адной маці Польшы!». Аўтар вярнуўся да тлумачэння той свабоды, за якую змагаюцца паўстанцы і ў якой ён вылучаў не толькі нацыянальны, але таксама канфесійны і сацыяльны аспекты.

У канцы тэксту зноў загучаў біблейскі матыў віны Каіна, але цяпер ён набыў больш канкрэтнае вымярэнне. Аўтар пералічыў тых, хто здраджваў паўстанцам і, «злучыўшыся са сваімі ўрагамі маскалямі», дапамагаў карнікам забіваць сваіх «братоў». Ён пагражаў «каімам» пакараннем ад людзей на гэтым свеце і «агнём пякельным ад Госпада Бога» пасля смерці. Дакумент заклікаў далучацца да паўстання, бо пасля абвяшчэння Францыяй вайны Расіі («калі пранцуз залье Польскую і Літоўскую зямелькі») пакаранне стане непазбежным.

Уласна нацыянальны аспект у *Каімшчыне...* невыразны. Ці, дакладней кажучы, ён мае пэўны палітычны характар. Аўтар па-беларуску звяртаецца да сялян «зямлі літоўскай, беларускай і польскай», даводзіць, што яны «польскія мужычкі», пераконвае, што «шляхта літоўская, беларуская і польская» – іх родныя браты. У тэксце сустракаем назвы «Літва», «Беларусь», «Украіна» і «Польшча», прычым апошняя фігуруе як паняцце, якое ўключае ў сябе тры папярэднія. Відавочна, што светапогляд аўтара месціўся ў рэчышчы рэчпаспалітаўскага патрыятызму. Уласна Рэч Паспалітая ў дакуменце існуе ўжо як «Польшча», а яе жыхары фігуруюць як «палякі». Аднак гэты палітонім, вядомы з часоў Вялікага Княства Літоўскага, у *Каімшчыне...* мае больш дэмакратычны характар. Ён ужо не датычыць толькі шляхты каталіцкага вера-

вызнання, а распаўсюджваецца таксама на «мужычкоў», якія размаўляюць па-беларуску, а бацькі іх маліліся ва ўніяцкіх цэрквах.

Відавочна, што аўтар тэксту *Янка з пад Вільні* аддае пэўную даніну традыцыям Рэчы Паспалітай і характэрнаму для яе палітычнаму разуменню «польскага народу». Нешта падобнае, але ў больш катэгарычнай форме назіраецца ў вядомым *Пісьме Яська гаспадара з пад Вільні да мужыкоў зямлі Польскай*, аўтар якога пераконвае чытачоў, што яны «палякі з векоу вечных». Гаворка пра гэта *Пісьмо ад Яська...* яшчэ наперадзе, а пакуль варта адзначыць, што хparty храналагічна яно вельмі блізкае да *Каімшчыны...* Славуты даследчык асобы і дзейнасці Каліноўскага Генадзь Кісялёў лічыў, што яно з'явілася ўлетку 1863 г.[1]

Таксама варта заўважыць, што *Каімшчына...* пераклікаецца з апублікаваным шостым нумарам *Мужыцкай праўды* (кастрычнік – лістапад 1862 г.), прысвечаным якраз праследу ўніятаў, а таксама з яе апошнім, сёмым нумарам (май – чэрвень 1863 г.), у якім гучалі пагрозы ў адрас здраднікаў паўстанню і сцвярджалася абвяшчэнне Францыяй вайны Расіі. Пры гэтым *Каімшчына...* адрозніваецца ад *Мужыцкай праўды* зваротам да «браткоў Грамады» і «мужычкоў», згадкай «Беларусі» (Белайрусі»), подпісам *Янка з пад Вільна і* ўжываннем літары **ū** (ў).

Гісторык беларускай літаратуры XIX ст. Мікола Хаўстовіч прыйшоў да высновы, што ў 1850–1860-х гг. сярод беларускай інтэлігенцыі літаральна некалькі чалавек выкарыстоўвалі ў сваіх тэкстах літару **ū** дзеля перадачы гука **ў**. У першую чаргу гэта Аляксандр Рыпінскі і Вінцэсь Каратынскі. Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч ужываў звычайна графему **ú** (у друкаваных выданнях яна часта замянялася літарай *u* курсівам). Іншыя тагачасныя літаратары звычайна выкарыстоўвалі літару **u**. Гук [ў] не быў адлюстраваны і ў перадсмяротных лістах Каліноўскага[2].

Уніяцкі сюжэт у *Каімшчыне...* прыгадваецца, калі знаёмішся са зместам наступнага дакумента, а менавіта чарнавіка ліста, які распачынаўся словамі «***До Цебе святы наш Ойчэ...***»[3] (гл. Дадатак 2а і 2б). Гэты ліст нібыта быў адрасаваны Святому Айцу, у якога аўтар шукаў заступніцтва і дапамогі ў справе абароны ўніятаў-беларусаў ад гвалту з боку расійскай улады. Ліст таксама быў элементам беларускамоўнай паўстанцкай прапаганды. Чарнавік не меў ні подпісу, ні даты, але відавочна, што пісаўся ўжо падчас паўстання.

Яго аўтар прадставіўся як «мужык і сын зямлі літоўскай», чые бацькі «цяжкою працою самі зараблялі на кусок хлеба, служылі верне каралём поль-

1 К. Каліноўскі, *За нашую вольнасць. Творы, дакументы*. Уклад., прадм., пасляс. і камент. Г. Кісялёва, Мінск, 1994, с. 388.

2 М. Хаўстовіч, *Гутарка старога дзеда* [у:] ён жа, *Даследаванні і матэрыялы: літаратура Беларусі XIX стагоддзя*, том VI, Варшава 2020, с. 41.

3 LNM. R–15782.

скім і літоўскім і жылі з Богом і праудаю у уніяцкой веры». Ён паведамляў пра рэпрэсіі супраць уніятаў і расійскую палітыку насаджвання праваслаўя. Пры гэтым аўтар сцвярджаў, што сам ён захаваў веру продкаў і застаўся ўніятам, а таксама прызнаваўся, што «ешчэ у прошлом року мужыкі разумнейшыя Літоўскага і Беларускага народу выбралі мяне да Ронду Польскага, каб дабро іх глядзець і сцерагчы прауды і справедлівасці». Менавіта гэта давала яму права звярнуцца да кіраўніка Касцёла.

Аналагічна тэксту *Каімшчыны…* у лісце выкрываліся палітычныя прычыны ліквідацыі уніі і пашырэння праваслаўя, а менавіта імкненне «маскоўскага цара» пераканаць «цалы свет […], што народ просты літоўскі і беларускі гэта маскале чыстыя і саусім найміловаліся в его сызме». Насамрэч «маскаль […] адно сілаю дзержаць нас може ў сызме і у сызму его ніхто не верыць». Аўтар прасіў Святога Айца прыслаць «ксендзоу уніяцкіх» і вымаліць «мілосердзя боскаго».

Цікава, што падчас працы з дакументамі «Бернардзінскай калекцыі» быў знойдзены ліст, напісаны ў прэсавай секцыі Аддзела кіраўніцтва правінцыямі Літвы, які ўтрымліваў фрагмент ліста «агента» Аддзела з Парыжа, у якім паведамлялася, што 18 лістапада ліст пра гвалт расійскай улады ў адносінах да ўніятаў трапіў у рукі Святога Айца. Кіраўнік Касцёла быў узрушаны да слёз і прасіў перадаць «Нацыянальнай уладзе» ўдзячнасць і «апостальскае блаславенне»[1].

З гэтага ліста таксама можна даведацца, што пасланне да Святога Айца было напісана ад імя 300 тыс. каталікоў Віцебшчыны «двух абрадаў – лацінскага і русінскага, з якіх апошні гвалтам яшчэ ў часы імператара Мікалая адарваны ад Апостальскай сталіцы», але марыць пра вяртанне да яе. Яго падпісалі цывільны начальнік Віцебскага ваяв. і сябры паўстанцкай арганізацыі ў Віцебску. У верасні яно было дастаўлена ў Вільню, а пазней праз Парыж трапіла ў Ватыкан.

Магчыма, што гэты ліст натхніў кагосьці з «чырвоных» на напісанне паслання *До Цебе святы наш Ойчэ…* як яшчэ аднаго дакумента, які апеляваў да пачуццяў вернікаў і заклікаў іх бараніць родную веру. Шукаючы яго верагодных аўтараў на Віцебшчыне, варта звярнуць увагу на асяродак беларускіх літаратараў і ўдзельнікаў паўстання Арцёма Вярыгу-Дарэўскага (1816–1884) і Элігія Францішка Карафа-Корбута (1835–1894), вядомага таксама як Ялегі Пранціш Вуль. Абодва былі арыштаваны на пачатку мая 1863 г. пасля няўдалай спробы стварэння паўстанцкага атрада.

Трэці беларускамоўны дакумент – гэта **рукапіс неапублікаванага нумара шостага *Мужыцкай праўды***[2]. Рукапіс быў падпісаны Літоўскім правінцыйным

---

[1] LNM. R–15876.

[2] LNM. R–15886.

камітэтам і датаваны 12 кастрычніка 1862 г. Ён ужо быў апублікаваны ў *Homo Historicus* за 2019 г.[1], але варты паўторнай публікацыі. Разгляд гэтага рукапісу як аднаго з комплексу беларускамоўных тэкстаў «Бернардзінскай калекцыі» спрыяе больш уважліваму яго прачытанню і аналізу, а апрача таго за мінулы час была зроблена больш дакладная расшыфроўка рукапісу (дадатак 3).

Адразу варта заўважыць, што ў гэтым тэксце традыцыйны для *Мужыцкай праўды* зварот «Дзяцюкі» сустракаецца толькі аднойчы, на самым пачатку. Потым яго пасляхова замяніў зварот «Дзяцюшкі» («Dziaciuszki»)[2] як памяншальны ад «Дзецюкоў».

Тэкст пачынаўся з аўтарскага звароту да чытачоў з тлумачэннем, кім яны з'яўляюцца і на якой зямлі жывуць. Паводле аўтара, «зямля наша з векоу вечных называецца літоуская, а мы то называемся літоуцы». Ён даводзіць пэўную палітычную параднёнасць з палякамі, якія калісьці «нашаго Караля выбралі і сваім Каралём». Гэты выбар меў вялізнае значэнне, бо «з гэтае пары Дзяцюшкі мы прысягнулі на век векоу жыці з Палякамі, разом на вайну хадзіці, меці адзін ронд, адну веру і яе шэрока зямля наша, адну вольносьць для усіх».

Аднак гэтая свабода «калола очы» многім «панам», якія «шукалі только способу як скруціці вольнасць». І яны знайшлі сабе саюзніка – «маскоўскага Цара». У выніку «гыцлі» з «велікаго панского роду» здрадзілі Польшчы, а народ трапіў у «паньшчыну». Адказам на гэта стала паўстанне 1831 г., калі «маладзёж да і мястэчковые [...] збунтаваліся». Барацьба скончылася паражэннем, бо «мужыкі» не зразумелі, за што змагаліся «маладзёж і мястэчковые», а «гыцлі з велікаго паньскаго роду захапіўшы ронд у свае рукі не думалі а вольносьці для цэлаго народу». Аўтар сцвярджаў набліжэнне новага паўстання і заклікаў «дзяцюшкоў» падтрымаць яго, але ні ў якім выпадку не перадаваць уладу («ронд») у рукі «паноў». Ён заклікаў спадзявацца толькі на ўласныя сілы («маладзёж», «мястэчковые» і «мужыкі») і выказваў упэўненасць, што «навекі растанемыся з маскоускім здзерством, а вольносьць справедлівая будзе наградаю за нашу працу, за нашу кроу».

Відавочна, што аўтарам рукапісу быў прадстаўнік групоўкі «чырвоных». Малаверагодна, што гэта быў Каліноўскі, бо ў тэксце замест подпісу *Ясько гаспадара з пад Вільна* фігураваў *Правінцыйны Літоўскі Камітэт* як той, хто

---

[1] А. Смалянчук, *«Мужыцкая праўда» № 6 (1862). Рукапіс неапублікаванай газеты*, «Homo Historicus». Гадавік антрапалагічнай гісторыі, 2019, с. 126–133. Фотакопія дакумента была апублікавана ўпершыню ў альбоме *1863–1864 metų sukilimas Lietuvoje.* Sudarytojos Aldona Bielūnienė, Birutė Kulnytė, Rūta Subatnikienė, redaktorė Daiva Stakišaitienė, Vilnius 2013, l. 103–105.

[2] Слова «дзяцюшок» сустракаецца ў *Слоўніку мовы «Нашай Нівы». 1906–1915,* том 1, А–Д. Навуковы рэдактар тома В. П. Лемцюгова, Мінск 2003, с. 575.

дазволіў друк шостага нумара «без змен і з умовай вяртання арыгіналу». Апошняе не характэрна для іншых нумароў *Мужыцкай праўды*. Дарэчы, подпіс з дазволам друкаваць быў на польскай мове.

Аўтарства Літоўскага правінцыйнага камітэта пацвярджаецца пячаткай з выявай поціску рук і словамі *ODWAGA* і *ROZWAGA*, а таксама вядомай манаграмай[1]. Дата напісання «арыгіналу» (12 кастрычніка 1862 г.) ставіць пытанне пра верагоднасць прынятай храналогіі выдання нумароў *Мужыцкай праўды*. Генадзь Кісялёў лічыў, што нумар чацвёрты газеты выйшаў «каля кастрычніка 1862 г.», нумар пяты – «каля лістапада 1862 г.», а нумар шосты – «каля снежня 1862 г.»[2] Магчыма, гэта датаванне патрабуе перагляду, бо малаверагодна, што нумары *Мужыцкай праўды* рыхтаваліся загадзя і захоўваліся ў архіве Літоўскага правінцыйнага камітэта, чакаючы моманту публікацыі. Дарэчы, менавіта ў кастрычніку 1862 г. кіраўнік Камітэта Людвік Звяждоўскі выехаў у Пецярбург, а яго пераемнікам стаў Кастусь Каліноўскі.

Гэты нумар *Мужыцкай праўды* не быў надрукаваны. Прычыны невядомыя, але цалкам магчыма, што ў асяроддзі «чырвоных» адсутнічала адзінства поглядаў. Да таго ж, змест гэтага нумара мог выклікаць (выклікаў?) абурэнне групоўкі «белых», што пагражала пэўным расколам сярод арганізатараў паўстання.

Даследчык Сяргей Абламейка паклапаціўся пра графалагічны аналіз трох вышэйзгаданых тэкстаў ды іх параўнанне з трэцяй часткай славутых *Пісем з-пад шыбеніцы*. Паводле вынікаў экспертызы, зробленай у Празе, згаданыя тэксты належалі чатыром розным асобам[3]. С. Абламейка быў усцешаны тым, што сцвярджэнне наконт «літоўскай зямлі» і «літоўцаў» не было напісана рукой Каліноўскага. Але ж няма сумнення, што яно пісалася кімсьці з яго блізкага атачэння.

Імёны паплечнікаў Каліноўскага з групоўкі «чырвоных» ужо фігуравалі ў артыкуле. Магчыма, устанаўленню аўтараў беларускамоўных тэкстаў можа паспрыяць лінгвістычная экспертыза дакументаў. Пакуль што адзіная вядомая спроба падобнага аналізу датычыць мовы *Мужыцкай праўды*, падпісанай ***Jaśko hospodar s pod Wilni***. Даследчыкі даўно звярнулі ўвагу на «окаючыя» асаблівасці сёмага нумара газеты. Ужо ў 1968 г. у томе 2 *Гісторыі беларускай літаратурнай мовы* яго аўтары (І. Крамко, А. Юрэвіч і А. Яновіч) прыйшлі да высновы, што гэты нумар быў напісаны кімсьці з паплечнікаў Каліноўскага,

---

1 Выявы пячаткі і манаграмы можна ўбачыць у зборніку Генадзя Кісялёва: К. Каліноўскі, *За нашую вольнасць* (ілюстр. перад с. 226).

2 К. Каліноўскі, *За нашую вольнасць. Творы, дакументы*, с. 296–297.

3 С. Абламейка, *Чаму Каліноўскі не пісаў «зямля наша называецца літоўская»* [у:] ён жа, *Чаму Беларусь не Расея. Эсэ з гісторыі і культуры (2015–2022)*, б. м. 2022, с. 116.

прадстаўніком паўднёвай (окаючай) гаворкі[1]. Генадзь Кісялёў у якасці верагоднага аўтара, а дакладней суаўтара, разглядаў Уладзіслава Малахоўскага, які паходзіў з Кобрыншчыны[2].

Дарэчы, у параўнанні з *Каімшчынай…* этнічныя або нацыянальныя катэгорыі зрэдку прысутныя на старонках *Мужыцкай праўды*, дзе дамінуе сацыяльная праблематыка. Прычым у першых двух нумарах у якасці ворага селяніна поруч з «царом» і «маскалямі» фігуруюць таксама «паны». Назва «Беларусь» ды вытворныя ад яе наогул адсутнічаюць. Нацыянальнае пытанне ў *Мужыцкай праўдзе* не ўздымалася[3]. Аналіз пэўнага гістарычнага дыскурсу, у якім прысутныя «польскія і літоўскія каралі», Тадэвуш Касцюшка, ліквідацыя ўніяцкай царквы, Крымская вайна, адмена прыгону і, нарэшце, падзеі паўстання ў Польшчы, сведчыць хутчэй пра тое, што аўтар (ці аўтары) газеты звяртаўся да «мужыцкага народу» гістарычнай Літвы як часткі Рэчы Паспалітай.

Можна пагадзіцца з думкай гісторыка Сяргея Токця, што тэксты Каліноўскага (і яго блізкага атачэння) былі мала прыдатнымі для выпрацоўкі беларускага нацыянальнага дыскурсу[4]. Хоць нельга не заўважыць пэўныя змены ў гэты бок, якія пачалі адбывацца ўжо падчас паўстання. Тут дарэчы прыгадаць стварэнне віленскімі «чырвонымі» 1 лютага 1863 г. *Часовага правінцыйнага ўрада Літвы і Беларусі*. Ён праіснаваў менш за месяц, але, на думку Сяргея Абламейкі, меў выключнае сімвалічнае значэнне. Гісторык з Прагі ўпэўнены, што гэту падзею можна лічыць палітычным нараджэннем Беларусі[5].

Цікавасць уяўляе таксама **асобнік надрукаванага шостага нумара *Мужыцкай праўды*** з «Бернардзінскай калекцыі». Як вядома, той нумар быў прысвечаны праблеме ўніяцкай царквы і пераследу яе вернікаў. На адвароце асобніка аказалася рукапіснае вершаванае чатырохрадкоўе на беларускай мове:

---

1 Цытата паводле: Г. Кісялёў, *Кастусь Каліноўскі, яго час і спадчына* [у:] *К. Каліноўскі, За нашую вольнасць*. Творы, дакументы, с. 287. Пазней мову *Мужыцкай праўды* прааналізавала Ніна Баршчэўская (Варшава), якая зрабіла падобныя высновы. (Гл.: N. Barszczewska, *Wersje językowe gazety „Mużycka Prauda“*, „Studia z filologii rosyjskiej i słowiańskiej“ 1989, t. 15, s. 101–109).

2 Г. Кісялёў, *Кастусь Каліноўскі, яго час і спадчына*, с. 287.

3 Пра гэта, дарэчы, пісаў яшчэ Міхась Біч. Гл.: М. Біч, *Паўстанне 1863–1864 гг. Кастусь Каліноўскі*, «Гістарычны альманах», 2002, том 6, с. 28.

4 С. Токць, *Нацыянальны і сацыяльны дыскурсы ў тэкстах «Мужыцкай праўды»і «Рассказов на белорусском наречии»* [у:] *Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі*. Пад рэд. А. Смаленчука, Мінск 2011, с. 33.

5 С. Абламейка, *Каліноўскі і палітычнае нараджэнне Беларусі*. Гістарычна-філязофскае эсэ. 2-е выданне, дапоўненае, [Прага] 2020.

*Ach mój Boże wieru Tabie*
*Usiu nadzieju maju u Tabie*
*Usiu nadzieju u Tabie maju*
*Ciebie lepsz za usio kahaju*[1].

Мікола Хаўстовіч лічыць, што гэта запісаны з памяці пачатак вядомага ўніяцкага гімна.

Апошні беларускамоўны тэкст са згаданай калекцыі даўно вядомы даследчыкам. Гэта **Маніфест Нацыянальнага ўрада** ад 3 мая 1863 г.[2], які быў перакладзены на беларускую мову і меў пячатку *Аддзела кіравання правінцыямі Літвы* (дадатак 4).

Маніфест паведамляў, што Польшча ўзнялася на паўстанне «за вашу і сваю свободу». З моманту выдання гэтага маніфеста ўсе абвяшчаліся роўнымі, сяляне атрымлівалі «зямлю якая была у іх ужывальнасьці без жадной паньшчызны, ні чыншу ні якога отроботку». Беззямельныя за ўдзел у паўстанні павінны былі атрымаць 5 моргаў зямлі[3]. Таксама абвяшчалася свабода веравызнання і падкрэслівалася магчымасць вярнуцца з праваслаўя ў «свою веру». Паўстанцы атрымлівалі шляхецтва «на век». Заканчваўся гэты маніфест зваротам да беларусаў: «Браты Беларусы, прышла пора добрая. Прачуйцяжся і вы да прызваўшы Бога у помошч, браніце волі, зямлі і веры вашэй. Бог вам допоможэ».

«Бернардзінская калекцыя» таксама багатая дакументамі, якія маглі захоўвацца ў асабістым архіве Кастуся Каліноўскага. Гэта выпіска з метрычнай кнігі Ялоўскага касцёла пра дапаўненне абраду хрышчэння Вікенція Канстанціна Каліноўскага, якое адбылося 4 красавіка 1838 г.[4], пасведчанне Гродзенскага шляхецкага дэпутацкага сходу аб зацвярджэнні Каліноўскага ў шляхецтве ад 18 студзеня 1856 г.[5], пасведчанне рэктара Пецярбургскага ўніверсітэта Пятра Плятнёва ад 28 чэрвеня 1860 г. пра тое, што студэнт Вікенцій Каліноўскі закончыў курс навук па камеральным праве на юрыдычным факультэце з выдатнымі адзнакамі па галоўных дысцыплінах і атрымаў ступень кандыдата, якая пакуль не зацверджана, бо студэнт яшчэ не падаў дысертацыі[6]. Гэта быў адказ на ліст Каліноўскага да рэктара з просьбай выслаць падобнае пасведчанне для падання

---

1 LNM. R–16014-1.

2 LNM. R–15953-1.

3 Морг – адзінка вымярэння плошчы зямлі ў Рэчы Паспалітай, роўная прыблізна 0,56 га.

4 LNM. R–15935.

5 LNM. R–15936.

6 LNM. R–15937. Дысертацыя была прадстаўлена і абаронена пазней. У лютым 1861 г. К. Каліноўскі атрымаў дыплом.

ў «штаб военно-учебных заведений»[1]. Да дакументаў верагоднага асабістага архіва Кастуся Каліноўскага маглі належаць некалькі адбіткаў кішэннага фармату з двух вядомых яго фотаздымкаў, зробленых Ахілам Банольдзі ў 1862 г.[2]

Таксама трэба адзначыць лісты старшыні Аддзела кіравання правінцыямі Літвы Якуба Гейштара да «грамадзяніна Канстанціна Каліноўскага». Першы з іх ад 14 (26) сакавіка 1863 г. паведамляў пра прызначэнне Каліноўскага агентам Гродзенскага ваяводства з загадам зрабіць камунікацыю паміж Аддзелам і Гродзенскім ваяводствам больш эфектыўнай[3], другі – ад 25 сакавіка (6 красавіка) 1863 г. – прызначаў «грамадзяніна Канстанціна Каліноўскага, агента Гродзенскага ваяводства», яго ўрадавым камісарам у тым самым ваяводстве[4], а трэці ліст ад 1 ліпеня 1863 г. інфармаваў пра яго абранне сябрам Выканаўчага аддзела ў адміністрацыйнай секцыі[5]. Тут варта дадаць, што Якуб Гейштар быў арыштаваны 31 ліпеня. Аднак даследчыкі лічаць, што кіраўніцтва паўстаннем у Літве і Беларусі перайшло ў рукі Каліноўскага яшчэ ў чэрвені. А ў жніўні ён становіцца ўпаўнаважаным камісарам Нацыянальнага ўрада ў Вільні.

Сярод іншых матэрыялаў фонду Літоўскага нацыянальнага музея варта таксама адзначыць ***Pismo ad Jaska haspadara s pad Wilni da mużykou ziemli polskaj*** (*Пісьмо ад Яська гаспадара з пад Вільні да мужыкоў землі польскай*). Яно здаўна захоўваецца ў фондах музея і не мае дачынення да знаходкі ў касцёле Св. Францыска. Тым не менш яго трэба згадаць, бо *Пісьмо ад Яська...* дапаўняе музейную калекцыю беларускамоўных тэкстаў часоў паўстання, а таксама тэматычна і стылістычна блізкае да *Каімшчыны...*

Гэты твор, дакладней верагоднае аўтарства Каліноўскага, застаецца прадметам дыскусіі. Спрэчкі выклікаў наступны абзац дакумента: «Дзецюкі! Калі цяпер Ронд Польскі падняушу паустанне проціу маскаля, дае нам землю, справедлівою вольносьць і Веру нашых Бацькоу, калі Француз, Англічанін і цэлы сьвет ідзе нам памагаці, калі як шэрока земля наша, народ грамадою, хто зэ стрэльбою, а хто с касою, ідзе на адвечнаго нашаго непрыяцеля, маскаля паганаго, калі маскаль ад нашых кос агнём уцекае, чыж мы Дзецюкі седзеці будзем? Мы, што жывемо на землі Польской, што емо хлеб Польскі, мы, Палякі з векоу вечных. Трэба нарэсьці і нам прыйці да таго розуму, што адно сілою, дай касою, даб'емся справедлівой вольносьці і веры нашых дзедов і прадзедов».

---

1 Ліст быў апублікаваны ў выданні: К. Калиновский, *Из печатного и рукописного наследия*. Составители Р. П. Платонов, Н. С. Сташкевич, В. Ф. Шалькевич, А. Н. Гесь, Минск 1988, с. 101–102.

2 LNM. R–16038, 16039.

3 LNM. R–15738.

4 LNM. R–15737.

5 LNM. R–15739.

Беларускія гісторыкі, як правіла, адмаўляюць аўтарства Каліноўскага, сцвярджаючы, што ў іншых тэкстах ён ніколі не атаясамліваў так моцна беларусаў і палякаў. Хоць пэўная даніна традыцыям Рэчы Паспалітай і польскага вызваленчага руху, безумоўна, прысутнічала ў тым ліку і ў *Мужыцкай праўдзе*. Апошняе, дарэчы, відавочна і ў тэксце вышэйзгаданай *Каімшчыны…* Непрыняцце выклікае таксама папрок да «дзяцюкоў», якія нібыта «ядуць хлеб польскі». Нарэшце, звяртаецца ўвага, што *Пісьмо ад Яська…* было надрукавана ў Варшаве, у друкарні Нацыянальнага ўрада. Усё гэта дае падставы сцвярджаць, што ў дадзеным выпадку маем справу з пэўнай падробкай, да якой прычыніліся дзеячы групоўкі «белых»[1]. Праўда, Генадзь Кісялёў, які мае найвялікшыя заслугі ў спробе зразумець Каліноўскага, усё ж дапускаў, што той мог мець дачыненне да гэтага дакумента на першапачатковым этапе[2].

На маю думку, пра гэта сведчаць стылістыка і мова дакумента. Магчыма, гэты дакумент быў адрасаваны сялянам Падляшша, якое паводле дамоўленасці паміж паўстанцамі тэрытарыяльна належала да Кароны. Менавіта таму ў дакументах, якія ствараліся пазней за *Каімшчыну…*, «зямля літоўская і беларуская, зямля польская» ўжо былі падзелены. У выніку ў беларускамоўным звароце да «мужыкоў зямлі польскай» польскі элемент прапаганды мог быць узмоцнены. Да таго ж і тут прысутнічала даніна традыцыям Рэчы Паспалітай, дзе палітонім «паляк» датычыў шляхты і магнатэрыі як паўнапраўных «грамадзян» краіны. Можна дапусціць, што аўтар імкнуўся дэмакратызаваць гэты палітонім і далучыць сялян да катэгорыі «грамадзян».

Прыблізна ў той самы час з'яўляецца яшчэ адзін беларускамоўны дакумент, адрасаваны ўжо «народу зямлі літоўскай і беларускай», дзе аўтарства Каліноўскага не выклікае сумненняў у даследчыкаў. Гаворка ідзе пра *Прыказ ад Ронду Польскага над цэлым краем літоўскім і беларускім да народу зямлі літоўскай і беларускай,* датаваны 11 (23) чэрвеня 1863 г. Гэты дакумент таксама асуджаў сучасных «каімаў» ды «юдаў скарыётаў», якія «добрых братоў прадавалі ворагам вашым», але ў ім значна больш асуджэння і пагроз расправы з «каімамі» з асяроддзя як «мужыкоў», так і «паноў». «Польскасць» у гэтым дакуменце фігуруе выключна ў выглядзе «Ронду Польскага», які сваім маніфестам дараваў «народу зямлі літоўскай і беларускай» зямлю бацькоў, «праўдзівую вольнасць» і «вяртанне справядлівай веры Дзядоў і Прадзедаў»[3].

---

1 Гл., напр., М. Біч, *У крывым люстэрку. К. Каліноўскі: праўда і вымыслы,* «Настаўніцкая газета», 1991, 17 ліпеня; 24 ліпеня; 27 ліпеня; Ён жа, *«…І думаў аб самастойнасці Літвы»*, «Беларуская мінуўшчына», 1997, № 5; Г. Кісялёў, *Здарэнне з Яськам-гаспадаром,* «Полымя», 1994, № 6.

2 Г. Кісялёў, *Кастусь Каліноўскі, яго час і спадчына,* с. 280.

3 Цытаванне паводле: К. Каліноўскі. *За нашую вольнасць*. Творы, дакументы, с. 102–103.

вітрына, ад столі да долу завешаная слуцкімі паясамі. Мы, канешне ж, чулі пра іх, але ўбачыць ніякай магчымасці не мелі. А тут – залатыя і срэбныя пераліва ва ўсю сцяну. Аповед Ірыны Пятроўны пра іх паходжанне і значэнне для беларускай культуры не мог пакінуць нас абыякавымі. І такія адкрыцці чакалі нас кожны дзень практыкі.

Па дарозе ў Траццякоўскую галерэю мы раптам збочылі ў раён Ганчары, і сярод нейкіх зараснікаў, але ва ўсёй велічы, нам адкрыўся храм, ад падмурка да купальнага барабана пакрыты паліхромнымі рэльефамі сіне-зялёнага адцення. Такога раней мы не бачылі нідзе, але даведаліся, што аздабляў храм у XVII ст. майстар-кафляр з Мсціслава Сцяпан Палубес. У нас была магчымасць палазіць навокал і ўнутры храма. Тады ён быў у запусценні, не меў ні акон, ні дзвярэй. А вось у Крамлёўскім палацы працы мсціслаўца – Аружэйныя палаты, Церамны палац ды царкву за залатымі кратамі – нам паказалі толькі здалёк, бо там была крамлёўская скарбніца. Даведаліся таксама, што брыгаду разьбяроў у Аружэйнай палаце ўзначальваў шкловец Клім Міхайлаў, які ўпрыгожыў знакамітай «беларускай навылётнай разьбой» самыя лепшыя храмы Масквы.

У Траццякоўскай галерэі Ірына Пятроўна правяла са мной маленькі эксперымент на ідэнтычнасць. У адной з залаў жывапісу XIX ст. яна прапанавала паказаць твор, які найбольш падабаецца. Сярод некалькіх дзясяткаў палотнаў я выбрала невялікі краявід у ружовых танах, нават не памятаю – усход ці заход сонца. Потым высветлілася, што замалёўка належала беларускаму мастаку Сяргею Заранку, які наогул быў партрэтыстам, але ў зале апынуўся пейзаж яго працы. Я была ўражана…

Знаёмства з Масквой беларускай працягвалася і ў Каломенскім, дзе мы даведаліся, што знакаміты палацавы комплекс таксама ўзведзены і ўпрыгожаны беларускімі майстрамі! Але наймацнейшае ўражанне аказала наведванне Навадзявочага манастыра, дзе пасля экскурсіі па могілках мы аглядалі храмы. Уражанне на ўсё жыццё пакінуў Смаленскі сабор, алтары якога былі выразаны і пакрыты сусальнай пазалотай тым жа Клімам Міхайлавым «со товарищи». Мы разглядалі з падачы Ірыны Пятроўны «візітныя карткі» беларускай разьбы – слупы, увітыя вінаградными гронкамі і лісцем, смакоўніцай. Ад падбарабаннага святла, жырандоляў і свечак галоўны алтар зіхацеў ва ўсю сцяну, і ўражанне было неверагодным.

З Масквы мы вярталіся ўжо іншымі. Не скажу пра ўсіх маіх таварышаў, але мяне паездка «перапахала» ў сэнсе свядомасці і стаўлення да беларускасці. Мяне ўжо цікавалі не маскоўскія «брэнды», хаця належнае было аддадзена Музею іконы імя Андрэя Рублёва і не толькі. Я кожны дзень практыкі спадзявалася на новыя беларускія знаходкі. Адпаведна, тое, што ўжо пасля ўніверсітэта адбывалася ў 1980-я гг. у Гомелі і ў Менску, мела добра падрыхтаваную глебу.

Наша блізкасць і сяброўства з Ірынай Пятроўнай працягваліся, але больш пазааўдыторна. Я даволі часта хадзіла да яе на каву. Заўважу, што пазней тут часта гасцявалі Анатоль Сыс, Алесь Бяляцкі, Анатоль Казлоў ды іншыя літаратурныя і даследчыцкія таленты нашага ўніверсітэта.

Падчас маіх наведванняў да нашай з Ірынай Пятроўнай размовы часта далучаўся яе муж Уладзімір Іванавіч Качаткоў. Гэта быў незвычайна цікавы чалавек. Ён паходзіў з царскіх казакаў і не траціў сувязі з малой радзімай. У Маскоўскім універсітэце Качаткоў быў вучнем вядучага археолага, спецыяліста па Сібіры акадэміка Акладнікава. Удадзімір Іванавіч ездзіў з настаўнікам у экспедыцыі і гэту справу любіў. Але каханне да беларускі Ірыны аказалася мацнейшым, і замест Сібірскага Усходу маладая пара паехала ў беларускі Магілёў, дзе Уладзімір Іванавіч пачаў працаваць выкладчыкам мясцовай... партыйнай школы(!). З адкрыццём Гомельскага ўніверсітэта перабраўся сюды.

Падчас аднаго з маіх гасцяванняў я пачула ад гаспадара жахлівую гісторыю пра новачаркаскія падзеі 1962 г., калі быў расстраляны пратэстны мітынг рабочых мясцовага паравозарамонтнага завода. Былі шматлікія ахвяры, сем'і ахвяр высланы, а ўлады дабіліся поўнага замоўчвання гэтай трагедыі. Уладзімір Іванавіч непасрэдна назіраў тыя падзеі. Ён і яшчэ некалькі хлапцоў, схаваўшыся за нейкія металаканструкцыі, бачылі ўсё. Пачуць пра такое ў 1980-я гг., калі, як здавалася, савецка-партыйная сістэма была здольная толькі на кропкавыя рэпрэсіі, было моцным узрушэннем. Я верыла свайму выкладчыку і пачынала ўсведамляць злачынасць усёй савецкай сістэмы. А праз пэўны час часопіс «Огонёк» В. Кароціча надрукаваў вялікі матэрыял пра Новачаркаск.

Я адразу стала фанаткай Антаніны Цітовай, якая чытала нам курс гісторыі еўрапейскага Сярэднявечча і некалькі спецкурсаў. Мяне скарыла логіка, паслядоўнасць выкладання, абгрунтаванасць высноў. Сярэднія вякі і эпоха Рэнесансу сталі самымі прывабнымі ў сусветнай гісторыі. Усе курсавыя працы я пісала пад кіраўніцтвам А. Цітовай, як і дыпломную працу «Гуманізм Дантэ Аліг'еры». Як і Ірына Бязручка, Антаніна Цітова набліжала да сябе студэнтаў, сярод якіх вылучаліся я і Яўген Броўкін. Трэба адзначыць, што мы складалі меншасць сярод аднакурснікаў, бо большасць дыстанцыравалася ад яе, адчуваючы няшчырасць і здольнасць да маніпуляцыі людзьмі. Я ж давярала свайму кіраўніку да слепаты і не заўважала гэтых якасцей. У выніку ўрэшце атрымала даволі цяжкую маральную і не толькі маральную траўму.

Я была захоплена даследчыцкай працай і ўжо марыла пра аспірантуру. Было гэта небеспадстаўна, бо ў мяне знайшоўся моцны «адміністрацыйны рэсурс». Паколькі, пачынаючы з падрыхтоўчага аддзялення, у мяне склалася даволі цеснае, хаця і даволі фармальнае (не прыцягвала мяне гэта сфера) супрацоўніцтва з камсамольскімі і прафсаюзнымі структурамі ўніверсітэта, я неяк парэкамендавала на пасаду сакратара-машыністкі студэнцкага камітэта камсамола сваю старэйшую сястру Марыю. Маша да гэтага часу працавала

ў аддзеле культуры аблвыканкама і была даволі добра ўладкавана. Адсутнасць усялякіх амбіцый дэматывавала яе паступленне на вучобу ў сярэднюю спецыяльную ці вышэйшую ўстанову. Гэта было прадметам заклапочанасці маёй маці і мяне таксама, бо Маша была бібліяфілкай, літаратурна адукаванай, тактоўнай і прыродна інтэлігентнай асобай. На сямейнай нарадзе было вырашана перавесці яе ва ўніверсітэт, каб «спакусіць» на навучанне ў ім жа. Мушу сказаць, што высокія прафесійныя і асабістыя якасці забяспечылі маёй сястры за два гады максімальны кар’ерны рост па спецыяльнасці. Праз два гады яна апынулася ў прыёмнай рэктара ўніверсітэта акадэміка Барыса Уладзіміравіча Бокуця. На гэтым месцы працавала да сваёй смерці, была сакратаром трох рэктараў. А вось вышэйшай адукацыі пры гэтым так і не атрымала.

Некалькі слоў трэба сказаць пра нашага тагачаснага рэктара. Па-сапраўднаму я пазнаёмілася з ім значна пазней, а ў студэнцкія гады наважвалася заходзіць на працу да сястры толькі ў моманты, калі рэктар адсутнічаў. Барыс Уладзіміравіч быў прадстаўніком «партызанскага пакалення», якое прыйшло да ўлады і кіравання ў БССР пасля вайны. Ён у вельмі маладым узросце партызаніў на Меншчыне, быў цяжка паранены і ўсё жыццё насіў у пазваночніку аскепак снарада, які не дазваляў рухацца без кійка. Калі ўжо ў статусе выкладчыка мне давялося збіраць матэрыял па гісторыі ўніверсітэта, то я пачула ад Барыса Уладзіміравіча ўспамін пра пасляваенную прагу яго пакалення сцвердзіць Беларусь не толькі як краіну-партызанку, але і як высокаінтэлектуальную рэспубліку. Менавіта таму ён і яго сябры-франтавікі пайшлі ў наватарскія сферы – хімію палімераў і новых матэрыялаў, ядзерную фізіку і оптыку і г. д. Многія сябры Б. Бокуця дасягнулі высокіх навуковых вяршынь.

Непрыхаваны беларускі патрыятызм нашага рэктара выявіўся і ў тым, што пасля прызначэння ў ГДУ з Акадэміі навук БССР ён знайшоў у сталіцы і прывёз на філалагічны факультэт такіх прызнаных даследчыкаў, як Мікола Грынчык і Уладзімір Анічэнка. Менавіта яны заклалі ў нашай культурнай правінцыі школу скарыназнаўства.

Даволі часта студэнтаў адпраўлялі ў актавую залу на сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі – найчасцей землякамі-Іванамі Мележам, Шамякіным, Навуменкам, Барысам Сачанкам ды інш. Разам з жывымі класікамі сядзеў у прэзідыуме і вёў свабодную гаворку па-беларуску наш рэктар-фізік. Ніколі пасля Барыса Уладзіміравіча такая з’ява не паўтарылася. Мы, тагачасныя студэнты-гісторыкі, былі настроены нацыянальна-нігілістычна, але жывыя сустрэчы з цікавымі людзьмі пакідалі свой след.

Падчас студэнцтва мяне вабіла сярэднявечная гісторыя і культуры Еўропы і Беларусі, прыцягвала даследчыцкая дзейнасць. Мая дыпломная праца на тэму «Гуманізм Дантэ Аліг’еры» была высока ацэнена рэцэнзентамі і дзяржаўнай выпусной камісіяй. Але працягваць такую праблематыку ў Беларусі не было аніякай магчымасці.

У 1980 г. вучоба была закончана і па накіраванні рэктарата я паступіла ў аспірантуру пры Белдзяржуніверсітэце, але на спецыяльнасць, да якой была вельмі мала падрыхтавана – «гісторыя КПСС». Навучанне ў аспірантуры было супярэчлівым. З аднаго боку, я ніяк не магла зразумець метадалогію і методыку гісторыка-партыйнага даследавання. Навуковыя тэксты ўспрымаліся як рэдакцыйныя калонкі ў газетах «Праўда» альбо «Звязда». У дадатак у тэматыцы дысертацыйных прац панавала г. зв. «мелкатэм'е». Пісаліся працы пра партыйнае кіраўніцтва любой сферы дзяржаўна-грамадскага развіцця ў нейкую пасляваенную пяцігодку. Мне было даручана даследаваць кіраўніцтва фарміраваннем вясковай інтэлігенцыі ў 1970-я гг. Сапраўдныя навуковыя праблемы, звязаныя з драматычнай гісторыяй КПБ ці КПЗБ, былі прэрагатывай Інстытута гісторыі пры ЦК КПБ. Адпаведна, тэкст дысертацыі пісаўся надзвычай цяжка і быў закончаны толькі праз 10 гадоў. З іншага боку, тры гады ў Менску далі каштоўны досвед архіўнай працы і важныя кантакты.

Аспіранты мелі права працаваць у Партыйным архіве пры ЦК Кампартыі Беларусі, а таксама ў абласных партархівах і любых дзяржаўных архівах. Праца над дакументамі падлягала пільнай цэнзуры. Усе негатыўныя факты з выпісак выдаляліся. Задачай даследавання было сцвярджэнне неабходнасці кіруючай ролі КПБ(б) для паступовага развіцця рэспублікі.

У партархіве і Інстытуце гісторыі пры ЦК я пазнаёмілася з такімі выбітнымі беларускімі даследчыкамі 1980–1990-х гг., як Аляксандра Гесь, Уладзімір Міхнюк, Аляксей Кароль, Мікалай Сташкевіч, Канстанцін Ракашэвіч ды інш. Ужо напачатку 1980-х гг. яны апеліравалі да няпростых тэм, звязаных з беларускім рухам, дзяржаўным самавызначэннем у XX ст. Нашы кулуарныя размовы былі надзвычай цікавымі.

Аспірантуру я закончыла ўвосень 1983 г. без абароны дысертацыі. Яе напісанню зашкодзіла цяжкая хвароба і смерць маёй маці летам 1982 г., што пацягнула за сабой неабходнасць клапаціцца пра пяцігадовага сына. Са снежня 1983 г. я пачала працаваць на кафедры гісторыі КПСС Гомельскага ўніверсітэта, дзе заставалася да пачатку 1990-х гг. За гэты час пад уплывам палітычных падзей (распад СССР, забарона дзейнасці КПСС–КПБ(б), стварэнне Рэспублікі Беларусь) кафедра шмат разоў мяняла назву і навучальныя дысцыпліны, якія давялося выкладаць: гісторыя палітычных плыняў і рухаў, палітычная гісторыя Беларусі ды інш.

На абарону дысертацыі я выходзіла двойчы: у 1985 і ў 1991 гг. Першы раз дапрацоўцы зашкодзіла аварыя на Чарнобыльскай АЭС, пасля якой увесь вольны час давялолася займацца аздараўленнем сына. У другі раз мяне «абагнала гісторыя». Дысертацыя ўжо знаходзілася на разглядзе вучонай рады Белдзяржуніверсітэта, калі здарыўся г. зв. «путч ГКЧП» і Камуністычная партыя трапіла пад забарону сваёй дзейнасці. Пытанне з дысертацыяй адпала само па сабе, пра што я ніколі не шкадавала.

Пасля вяртання ў Гомель на працягу амаль 10 гадоў я не займалася даследчыцкай дзейнасцю, хаця прага да яе заставалася. Але адсутнічала тэма для даследавання. Тэма знайшлася толькі ў пачатку 1990-х гг., калі на першы план выйшла гісторыя беларускага руху і станаўленне нацыянальнай дзяржаўнасці. Некалькі гадоў займалася аднаўленнем палітычнай біяграфіі зямлячкі, ураджэнкі Навабеліцы і адзінай жанчыны ў складзе ўрада БНР Палуты Бадуновай. Вынікам працы стала серыя артыкулаў і біяграфічнае даследаванне *Пуцявінамі змагання і пакут: Палута Бадунова* (Мінск 2004). У 2012 г. рэжысёрам Валерыем Мазынскім быў зняты дакументальны фільм *Палута Бадунова – успомніць і не забыць*, а ў 2018 г. кніга выйшла другім выданнем пад назвай *Пакліканая свабодай: нарыс жыцця і дзейнасці Палуты Бадуновай.*




*Вокладка першага выдання кнігі пра П. Бадунову*



*Палута Бадунова. 1919 г.*

Вывучэнне асобы Палуты Бадуновай і яе дзейнасці паспрыяла даследаванню такіх тэм, як гісторыя беларускай дзяржаўнасці, яе палітычных структур і міжнародных аспектаў гэтага працэсу. Апублікавала некалькі артыкулаў пра Беларускую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў, яе пазіцыю на Рыжскіх перамовах 1921 г., пра дзейнасць замежных эсэраўскіх камітэтаў. Асобнай важнай тэмай стала даследаванне беларуска-ўкраінскіх дыпламатычных дачыненняў на этапе станаўлення незалежнай дзяржавы.

Праца над новай праблематыкай актуалізавала сувязі з Менскам і знаёмства з новай генерацыяй даследчыкаў, якія станавіліся лідарамі беларускай не-

залежнай гістарыяграфіі. Мне давялося цесна кантактаваць і супрацоўнічаць, акрамя вышэйназваных Аляксандры Гесь і Уладзіміра Міхнюка, з выбітнымі архівістамі Віталем Скалабанам, Ганнай Запартыкай, Вячаславам Селеменевым, Міхаілам Шумейкам, гісторыкамі Уладзімірам Ляхоўскім, Валянцінам Голубевым ды інш. Шматгадовае цеснае супрацоўніцтва звязала мяне з Андрэем Кіштымавым. Падтрымку маім даследчыцкім вышукам аказалі такія карыфеі беларусазнаўства, як Арсень Ліс, Адам Мальдзіс, Аляксей Каўка…

Валянціна Мятліцкая
Лістапад 2021 – студзень 2022 г.

## ДАДАТКІ

### *Астрагляды*

Першае знаёмства – сярэдзіна 1960-х гг. Што кінулася ў вочы? Памеры вёскі: некалькі доўгіх і раскіданых вуліц. Паводле перапісу 1959 г. – больш за тысячу жыхароў. Захавалася планіроўка сярэднявечнага мястэчка: невялікая круглая плошча, ад якой як прамяні разыходзіліся вуліцы. Галоўнымі будынкамі на плошчы былі сельмаг і клуб. Трошкі далей знаходзілася праўленне саўгаса і цагляная школа. Клуб стаяў на высокім падмурку, і каб трапіць у кіназал, трэба было ўздымацца па прыступках ганка. Як даведалася, пад клуб была прыстасавана былая царква, а сельмаг стаяў на падмурку Астраглядскага касцёла.

Зямля была чорная і тлустая. Пасля дажджу было немагчыма ісці па вёсцы – вада стаяла некалькі дзён. Мінакі літаральна танулі.

Астраглядскія сады – яблыні, грушы, вішні (для Гомеля – экзотыка). Мой бацька першым пасадзіў сад на гомельскай новабудоўлі.

Мясцовыя норавы: жыццё на чужых вачах, узаемадапамога, блізкасць суседзяў. Імёны астраглядаўцаў: Мальвіна, Ванда, Акцябрына (?). У навальніцу суседзі збіраліся ў адным доме, каб разам яе перачакаць. Традыцыі святаў – савецкіх, выбары ды інш. Гасціннасць. Беларуская мова бабулі і суседак.

### *Мятліцкія*

Хойніцка-Брагінскі арэал прозвішча

1815 г. – Фёдар Андрэевіч Мятліцкі вянчаўся ў Троіцкай царкве. У сярэдзіне XIX ст. – некалькі сямей, усе праваслаўныя.

1-е пакаленне. 1857 г. – нарадзілася Пульхерыя Мятліцкая, маці – Еўдакія Іванава Мятліцкая, удава [Ігната].

Лістапад 1877 г. – шлюб сялянкі-ўласніцы Пульхерыі Ігнатаўны Мятліцкай, 20 гадоў, і селяніна-ўласніка Іларыёна Пятрова Бордака, 26 гадоў. Абодва – з вёскі Астраглядавічы.

2-е пакаленне. Мятліцкі Кандрат Ігнатавіч + Ганна Рыгораўна. Сястра – Матрона Рыгораўна. У 1877 г. Ганна хрысціла сына Матроны Саву. 20.08.1877 г. памёр ад шкарлятыны сын Кандрата Філіп.

3-е пакаленне. Мятліцкі Нікіфар Кандратавіч, 1876 года нарадж., в. Астрагляды + Марыя Фадзееўна, 1877 года нарадж., бацька – Фадзей Карабуцёнак.

На 1932 г. (на дзень арышту): жонка Марыя Фадзееўна, 58 гадоў, дзеці – Аўтаном, 16 гадоў, Кацярына, 20 гадоў (названы толькі тыя дзеці, якія жылі з бацькам).

Абвінавачаны паводле арт. 72/76 Крымінальнага кодэкса БССР за антысавецкую дзейнасць, «разлажэнне» калгаса. Арыштаваны 21.12.1932 г. Пастановай «тройкі» пры ПП АДПУ ад 11.01.1933 г. заключаны ў канцлагер на 5 гадоў з заменай на высылку ў Казахстан на той самы тэрмін (адбыў 3 гады).

Да рэвалюцыі і ў 1922 г. у Нікіфара Кандратавіча Мятліцкага было 34 дзесяціны зямлі, бакалейная лаўка, 10 коней, 8 кароў, дробнай жывёлы – 50 галоў, наёмных работнікаў – 2 чалавекі, 2 дамы, прыбытак – 500 руб. у год, малацілка, саломарэзка, веялка.

У калгас уступіў у 1929 г., але на той час «разбазарыў» (прадаў) усю маёмасць. У калгасе быў конюхам. Зімой 1929–1930 гг. быў падзеж коней (па словах Н. К. Мятліцкага, коней не было чым карміць), у чым яго і абвінавацілі.



*«Разумоўскія сустрэчы» ў Чарнігаве.*
*Справа Андрэй Кіштымаў. 2018 г.*

4-е пакаленне. Мятліцкі Пётр Нікіфаравіч, 1897 года нарадж., в. Астрагляды.

На 1932 г.: жонка Анастасія Сямёнаўна, 32 гады; дзеці – Ліда, 7 гадоў, Матрона, 3 гады, Міхаіл, 5 гадоў, Мікалай, 1 год.

Аддзяліўся ад бацькі ў 1927 г., у 1929 г. уступіў у калгас, у 1930 г. – выйшаў з калгаса.

Маёмасць: ворнай зямлі 7 дзесяцін (асобна ад бацькавай), сенакосу – 8 дзесяцін, коней – 2, каровы – 2, авечак – 5, свіней – 2.

Арыштаваны 20.12.1932 г., абвінавачаны ў антысавецкай дзейнасці (той самы артыкул Крымінальнага кодэкса). Пастановай «тройкі» ад 11.01.1933 г. заключаны ў канцлагер на 3 гады. Вінаватым сябе не прызнаў.

# БІБЛІЯГРАФІЯ НАВУКОВЫХ ПРАЦ ВАЛЯНЦІНЫ МІХАЙЛАЎНЫ МЯТЛІЦКАЙ (ЛЕБЕДЗЕВАЙ). 1994–2021 гг.

Гістарычная бібліяграфія нагадвае компас для тых, хто не хоча згубіцца або нават патануць у бязбрэжным гістарыяграфічным моры. Але часта маем парадаксальную сітуацыю, звязаную з тым, што самі даследчыкі праяўляюць неахайнасць у пераліку ўласных публікацый. Псіхалагічна гэта можна зразумець. Праца напісана і апублікавана. Яна знайшла свайго чытача. Навошта аўтару вяртацца да яе? Ён зрабіў сваю справу. А каму яна патрэбная, той яе знойдзе. У выніку ўласная бібліяграфія застаецца неўпарадкаванай.

Мы гэта зразумелі, калі працавалі над выданнем біябібліяграфіі Мітрафана Доўнар-Запольскага. Здавалася, што ўся яго гістарыяграфічная спадчына павінна быць вядомая і даступная. Насамрэч над даведнікам працаваў аўтарскі калектыў, а пасля першага выдання было падрыхтавана і другое, значна дапоўненае выданне.

Добра, калі ўсё табой напісанае стаіць у хаце на кніжнай паліцы. Але ж часам даводзіцца за «сваім» ісці ў бібліятэку.

Гэты спіс складзены самой Валянцінай Мятліцкай. Больш дакладна, у яе камп'ютары было 14 варыянтаў бібліяграфіі з рознай ступенню паўнаты. Давялося ўсё вывяраць, каб скласці адзіны спіс. Яго дапоўнілі дзясяткі не ўлічаных аўтаркай пазіцый.

Бібліяграфія пачынаецца з публікацый 1994 г. Гэта была яе воля, і я не стаў яе парушаць. Хоць, безумоўна, былі аспіранцкія, а магчыма, і студэнцкія публікацыі. Калі Валянціна Міхайлаўна лічыла сябе гісторыкам толькі з 1994 г., з публікацыі пра Палуту Бадунову, то няхай так і будзе. Гэта не проста сімвалізм, гэта яе зварот да нас жывых.

**1994**

Палута Бадунова: палітычны партрэт // Беларуская мінуўшчына. 1994, № 4, с. 49–54.

**1995**

Год 1918: барацьба за Гомель // Беларускі гістарычны часопіс. 1995, № 1, с. 28–33.

Стракапытаўскі мяцеж // Беларуская мінуўшчына. 1995, № 4, с. 28–33.

**1996**

Гомельшчына і Беларуская Народная Рэспубліка // Спадчына. 1996, № 4, с. 67–69.

Леў Акіншэвіч аб гісторыі Беларусі // Спадчына. 1996, № 6, с. 32–38.

Л. Гаранін, Г. Еўдакіменка, В. Лебедзева, А. Макушнікаў, М. Старавойтаў. Гомель // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т., т. 3, Мінск 1996, с. 61–65.

Барацьба за Гомель у 1918 г. // Гомельшчына: старонкі мінулага. Нарысы. Вып. II. Рэдкал. Лазько Р. Р. і інш. Гомель 1996, с. 102–106.

Гомельская Дырэкторыя // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т., т. 3. Мінск 1996, с. 61–65.

Гомельская забастоўка 1990 // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т., т. 3. Мінск 1996, с. 70.

Гомельская забастоўка чыгуначнікаў 1918–1919 // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т., т. 3. Мінск 1996, с. 70–71.

**1997**

Камітэт заграчічных груп Беларускай партыі эсэраў // Спадчына. 1997, № 4, с. 27–32.

Трывожныя 20-я // Палессе. 1997, № 1, с. 104–118.

Камітэт заграчічных груп Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т., т. 4. Мінск 1997, с. 51.

Карма // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т., т. 4. Мінск 1997, с. 117.

Касцюкоўка // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т., т. 4. Мінск 1997, с. 144.

Камітэт Заграчічных груп Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў // Спадчына. 1997, № 4, с. 22–47.

Эміграцкая канцэпцыя гісторыі Беларусі: Леў Акіншэвіч // Наш радавод. Кніга 7. Гістарычная памяць народаў Вялікага Княства Літоўскага і Беларусі, XIII–XX стст.: матэрыялы міжнар. навук. канф., Гродна, 3–5 ліп. 1996 г. Адк. рэд. і склад. Д. Караў. Гродна, 1996, с. 150–151.

**1998**

У віхуры грамадзянскай вайны // Памяць: гісторыка-дакументальная хроніка Гомеля. Мінск 1998, кн. 1, с. 274–288.

Мітынг // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т., т. 5. Мінск 1998, с. 212 (у суаўтар. з М. Сакаловай).

Старонка мартыралогу: Палута Бадунова // Палітычныя рэпрэсіі на Беларусі ў XX стагоддзі: матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі (Мінск, 27–28 лютага 1998 г.). Мінск 1998, с. 77–83.

**2000**

Удзел М. В. Доўнар-Запольскага ў беларуска-ўкраінскіх перамовах 1918 г. // Даследчык гісторыі трох народаў: М. В. Доўнар-Запольскі: Зборнік навуковых артыкулаў і дакументраў. Пад рэд. В. М. Лебедзевай. Гомель – Рэчыца 2000, с. 96–105.

Тэрытарыяльнае пытанне на беларуска-ўкраінскіх перамовах 1918 г.: факталагічны і крыніцазнаўчы аспекты // Архівознавство. Археографія. Джерелознавство: міжвідомчи навуковий збірник. Вип 2: Архівознавчі читання. Київ 2000, с. 104–113.

Пратаколы беларуска-ўкраінскіх перамоў аб мяжы. Кіеў, красавік 1918 года // «Архівы і справаводства». 2000, № 5, с. 93–103.

**2001**

Першыя спробы цывілізацыйнага аналізу гісторыі Беларусі: І. Канчэўскі і Л. Акіншэвіч // Социально-экономические отношения в современной Беларуси: со-

стояние и перспективы на рубеже веков: материалы науч.-практ. конф. (25 мая 2000 г., Гомель). Под. ред. С. И. Ляха. Гомель 2001, с. 161–165.

Мітрафан Віктаравіч Доўнар-Запольскі: біябібліяграфічны паказальнік. Уклад.: В. У. Скалабан, В. М. Лебедзева і інш. Мінск 2001, 120 с.

Дыпламатычная місія БНР у перамовах з Украінай (1918 г.) // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2001, Nr 15, s. 97–109.

Аўтабіяграфічны дакумент М. В. Доўнар-Запольскага // Беларускі археаграфічны штогоднік. Вып. 2. Мінск 2001, с. 287–293.

БНР–УНР: першы вопыт дзяржаўных стасункаў // Arche. 2001, № 5 (19), с. 394–405.

Стракапытаўскае паўстанне // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т., т. 6, кн. 1. Мінск 2001, с. 428.

Пра некаторыя аспекты гістарыяграфічнага даследавання «Гісторыі Беларусі» М. В. Доўнар-Запольскага // Гістарычны альманах. 2001, т. 4, с. 34–39.

Гарадская ўлада ў Гомелі: (1918 – пач. 1919) // Беларускі горад у часе і прасторы: 500 гадоў Полацкай магдэбургіі: зб. навук. прац. Наваполацк 2001, с. 68–72.

**2002**

БНР–УНР: першы вопыт дзяржаўных стасункаў // Проблемы славяноведения. № 4. Брянск. 2002, с. 198–212.

Рэцэнзія на манаграфію Ст. Рудовіча «Час выбару: Праблема самавызначэння Беларусі ў 1917 г.» (Мінск 2001) // Беларускі гістарычны агляд». 2002, т. 8, сш. 1–2, с. 343–349.

Спроба рэканструкцыі бібліятэкі М. В. Доўнар-Запольскага // Здабыткі: Дакум. помнікі на Беларусі. Мінск, 2002, с. 90–109 (у суаўтар. з Л. Сільновай).

Юнацкія гады М. В. Доўнар-Запольскага // Трэція Міжнародныя Доўнараўскія чытанні (Рэчыца, 14–15 верасня 2001 г.). Мінск 2002, с. 7–16.

Наш радавод: ураджэнцы Гомельшчыны – славутыя дзеячы мастацкай культуры. Гомель 2002, 120 с. (у суаўтар. са Зм. Паўлаўцом і С. Фейгінай).

Кіеўская публіцыстыка М. В. Доўнар-Запольскага. Публікацыя, прадмова і каментарыі В. Лебедзевай // Спадчына. 2002, № 5–6, с. 84–91.

**2003**

Шлях да Доўнара // Крыніца: Славянскі свет. 2003, № 5, с. 73–78 (у суаўтар. з Д. Лінам).

М. В. Довнар-Запольский и его наследие // М. В. Довнар-Запольский. История Белоруссии. Редкол. В. М. Лебедева (отв. ред.) и др. Мінск 2003, с. 1–30 (у суаўтар. з В. У. Скалабанам, М. Ф. Шумейкам).

Именной указатель // М. В. Довнар-Запольский. История Белоруссии. Редкол.: В. М. Лебедева (отв. ред.) и др. Мінск 2003, с. 585–675 (в соавт. с Н. К. Мазовко).

Словарь белорусизмов и малоупотребительных слов // М. В. Довнар-Запольский. История Белоруссии. Редкол.: В. М. Лебедева (отв. ред.) и др. Мінск 2003, с. 569–584 (в соавт. с Д. Д. Павловцом).

Биографистика как направление международного научного сотрудничества (на примере исследования биографии М. В. Довнар-Запольского) // Еврорегион «Днепр». Гомель 2003, с. 114–117 (в соавт. с Д. Г. Лином).

Полута Бодунова: женщина в политике // Женщины на краю Европы. Под ред. Е. Гаповой. Мінск 2003, с. 306–318.

## 2004

Дзённік Н. М. Доўнар-Запольскай як біяграфічная крыніца // Чацвёртыя Міжнародныя Доўнараўскія чытанні (г. Рэчыца, 18–19 верасня 2003 г.): у 2 ч., ч. 1. М. В. Доўнар-Запольскі: жыццё і навуковая спадчына. Рэд. кал.: В. М. Лебедзева (адк. рэд.) і інш. Гомель 2004, с. 27–38.

Пуцявінамі змагання і пакутаў: Палута Бадунова. Мінск 2004, 70 с., [8] л., іл.

## 2005

Перапіска М. В. Доўнар-Запольскага з дзеячамі навукі Украіны (1893–1908): навук. выданне. Склад.: В. М. Лебедзева і інш. Гомель 2005, 170 с.

Письма Е. Р. Романова к А. Н. Пыпину // Проблемы славяноведения. Сб. научных статей и материалов. Брянск 2005, с. 382–393.

Белорусско-украинские территориальные проблемы в контексте становления новой государственности (весна 1918 г.). // Регионы и границы Украины в исторической ретроспективе: сб. научных статей и материалов. Москва 2005, с. 144–158.

Дмитрий Григорьевич Лин. Библиография // Составители В. Лебедева, В. Сафонов и др. Гомель 2005, 90 с.

Довнар-Запольский и его наследие // М. В. Довнар-Запольский. История Белоруссии. 2-е изд. Минск 2005, с. 3–16 (в соавт. с В. В. Скалабаном, М. Ф. Шумейко).

Именной указатель // М. В. Довнар-Запольский. История Белоруссии. 2-е изд. Минск 2005, с. 569–584 (в соавт. с Н. К. Мазовко).

Словарь терминов, устаревших слов и белорусизмов // М. В. Довнар-Запольский. История Белоруссии. 2-е изд. Минск 2005, с. 569–584 (в соавт. с Д. Д. Павловцом).

Ліст Е. Р. Раманава да М. В. Доўнар-Запольскага ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Украіны // «Открыть миру душу белоруса»: матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі 25–26 кастрычніка 2005 г. [прысвечаная 150-годдзю з дня нараджэння Е. Р. Раманава]: зборнік матэрыялаў. Рэдкал.: А. Р. Яшчанка [і інш.]. Гомель 2005, с. 24–28.

## 2006

Ранні аўтабіяграфічны дакумент Яўсея Канчара // Гісторыя Лоеўскай зямлі: факты. Каментарыі // Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай 500-годдзю г. п. Лоеў (Лоеў, 20 кастрычніка 2005 г.). Рэд. кал. С. А. Чаропка (адк. рэд.) ды інш. Гомель 2006, с. 78–83 (у суаўтар. з В. Скалабанам).

«Я прежде всего Белорус». Лісты Е. Раманава да А. Пыпіна (1888–1992) // Беларускі археалагічны штогоднік. 2006, вып. 7, с. 206–215.

Гомельская гарадская Дырэкторыя (1918–1919 гг.): палітычныя і дзяржаўныя арыентацыі // Беларусь і суседзі: гістарычныя шляхі, узаемадзеянні і ўзаемаўплывы: міжнародная навуковая канферэнцыя, 9–10 кастрычніка 2008 г. Гомель 2006, с. 102–110.

**2007**

Довнар-Запольский Всеволод // Енціклопедия сучасної України. Т. 7, ч. 2. Кіїв 2007, с. 216.

Гомельська область // Енціклопедия сучасної України. Т. 6. Кіїв, 2007, с. 127–128.

В. М. Доўнар-Запольскі ў Мінску (1925–1926 гг.) // Проблемы славяноведения. Сб. научных статей и материалов. Отв. редактор С. И. Михальченко. Брянск 2007, вып. 9, с. 85–95.

Листи білоруських громадсько-політичних діячів-емігрантів до Микити Шаповала // Часопис української історії. 2008, вип. 10, с. 134–148 (у суаўтар. з О. Ямковай).

Тэрытарыяльнае пытанне ў беларуска-ўкраінскіх адносінах на этапе станаўлення дзяржаўнасці (1918–1919 гг.) // Bielaruś w XX stuleciu w kręgu kultury i polityki. Pod redakcją D. Michaluk. Toruń 2007, s. 225–247.

М. В. Довнар-Запольский и М. С. Грушевский: встреча на страницах «Записок Навукового товариства імені Шевченка» // Вісник Київського національного університету імені Тараса Шевченка. Сер. історія. Вип. 91–93. Київ 2007, с. 35–39 (в соавт. с А. Киштымовым).

М. В. Доўнар-Запольскі і праблема кансалідацыі беларускай інтэлігенцыі // Беларусь и беларусы ў часе і прасторы: зборнік да 75-годдзя прафесара А. В. Мальдзіса. Мінск 2007, с. 297–305.

М. В. Довнар-Запольський – депутат Київської міської думи // Студії з архівної справи та документознавства. 2007, т. 15. Київ 2007, с. 172–176.

Юбилей белорусского архивиста (к 60-летию со дня рождения Виталия Скалабана) // Студії з архівної справи та документознавства. 2007, т. 15. Київ 2007, с. 167–170 (в соавт. с А. Киштымовым).

Листування білоруських громадсько-політичних діячів з Микитою Шаповалом // «Пам'ятки», 2007, т. 8. Київ 2007, с. 126–180 (у суаўтар. з О. Ямковай).

О жизни в Баку (Из дневника Надежды Маркияновны Довнар-Запольской. Публикация и комментарний В. М. Лебедевой // Бакинский период в творчестве М. В. Довнар-Запольского (1921–1925) // Автор-сост. Д. Козлов, ред. В. Лебедева. Гомель 2007, с. 19–21.

Мітрафан Віктаравіч Доўнар-Запольскі: біябібліяграфічны паказальнік. Выданне другое, дапоўненае. Уклад.: В. М. Лебедзева і інш. Мінск 2007, 168 с.

М. В. Довнар-Запольский и М. С. Грушевский: сотрудничество в «Записках НТШ» // Науково-історичні читання присвячені 140-річчю з дня народження М. С. Грушевського 22 грудня 2006 р. Ніжин 2007, с. 135–150 (в соавт. с А. Л. Киштымовым).

М. В. Довнар-Запольський – гласний Київської міської думи // Студії з архивної справи та документознавства. Редкол.: І. Б. Матяш (гол. ред.) та ін., т. 15. Київ, 2007, с. 172–176.

**2008**

Павел Дземідовіч – гродзенскі карэспандэнт М. Доўнар-Запольскага // Гродна і гродзенцы: дзевяць стагоддзяў гісторыі (да 880-годдзя горада): матэрыялы міжнар. навук. канф., Гродна, 10–11 красавіка 2008 г. Рэдкал.: А. І. Антоненка (адк. рэд.) і інш. Гродна 2008, с. 454–460.

Лісты П. Дземідовіча да М. В. Доўнар-Запольскага з Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва Украіны ў Кіеве // Проблемы славяноведения. Сб. научных статей и материалов, вып. 10. Брянск 2008, с. 264–274.

М. В. Доўнар-Запольскі і Савецкая Беларусь // Шостыя Міжнародныя Доўнараўскія чытанні, міжнародная навуковая. канф. (2007, Рэчыца), 14–15 лістапада 2007 г.: [матэрыялы] : у 2 ч., ч. 1 : М. В. Доўнар-Запольскі: жыццё і навуковая спадчына. В. М. Лебедзева (адк. рэд.) і [інш.]. Гомель 2008, с. 62–80.

М. В. Доўнар-Запольскі ў ацэнках У. Міхнюка // Праблемы крыніцазнаўства, археаграфіі і гістарыяграфіі: да 60-годдзя з дня нараджэння У. М. Міхнюка. Мінск 2008, с. 48–58.

Украінцы ў культурнай прасторы Беларусі XX ст. // Беларусь і суседзі: гістарычныя шляхі, узаемадзеянні і ўзаемаўплывы: міжнародная навуковая канферэнцыя, 9–10 кастрычніка 2008 г. Рэдкал. Лазько Р. (галоўны рэд.) [і інш.]. Гомель 2008, с. 272–280.

Чотирьохсотлітні ювілей білоруського книгодрукування через призму одного листа // Скарына і наш час: матэрыялы IV Міжнароднай навуковай канферэнцыі (14 лістапада 2008 г.). У 2 ч., ч. I. Рэдкал.: А. А. Станкевіч (гал. рэд.) [і інш.]. Гомель 2008, с. 80–88 (у суаўтар. з О. Ямковай).

Доўнар-Запольскі і скарыназнаўства // Скарына і наш час: Матэрыялы IV Міжнароднай навуковай канферэнцыі (14 лістапада 2008 г.). У 2 ч., ч. II. Рэдкал.: А. А. Станкевіч (гал. рэд.) [і інш.]. Гомель 2008, с. 202–209.

М. В. Доўнар-Запольскі ў 1888–1892 гг.: нараджэнне беларускага навукоўца // Homo Historicus 2008: гадавік антрапалагічнай гісторыі. Вільнюс 2008, с. 261–283.

**2009**

Эпісталярныя кантакты М. Доўнар-Запольскага і Е. Раманава // Пятые Романовские чтения: сборник трудов международной научной конференции. Могилев 2009, с. 3–4.

Российские научные общества и становление белорусоведения // Проблемы истории Центральной и Восточной Европы. Сб. научных статей. Ред. С. И. Михальченко, В. Н. Гурьянов. Брянск 2009, с. 90–98 (в соавт. с А. Л. Киштымовым).

«Зажегши светильник науки…» Лісты П. Дземідовіча да М. Доўнар-Запольскага // Известия Гомельского государственного университета имени Франциска Скорины. 2009, № 3 (54), часть 2, с. 140–147.

Забытая губерния (рецензия на книгу «Гомельская губерния. 1919–1926. Документы и материалы»). Минск 2009) // Архіви України. 2009, № 3–4 (травень – серпень), с. 291–295.

Гомельская городская Директория (декабрь 1918 – январь 1919) // Студії з архівної справи та документознавства. 2009, т. 17. Київ 2009, с. 133–141.

Пытанне Усходняга Палесся ў беларуска-ўкраінскім дзяржаўным будаўніцтве (1918 г.) // Традыцыі матэрыяльнай і духоўнай культуры Усходняга Палесся: праблемы вывучэння і захавання ў постчарнобыльскі час: зборнік навуковых артыкулаў. Вып. 2. Рэдкал.: Станкевіч А. А. (гал. рэд.) [і інш.]. Гомель 2009, с. 16–18.

**2010**

Стракапытаўскае паўстанне ў Гомелі // «Из истории не вычеркнуть...»: к 90-летию Стрекопытовского мятежа в Гомеле (март 1919 г.): сб. науч. статей. Сост. В. М. Лебедева, М. П. Чуянова. Гомель 2010, с. 78–85.

Социо-демографические характеристики украинского меньшинства в составе населения Беларуси // Студії з архівної справи та документознавства. 2010, т. 18. Київ 2010, с. 124–145 (в соавт. с Д. Г. Лином).

Невядомы эпізод з жыцця святара і грамадскага дзеяча Фёдара Жудро // Православие на Гомельщине: историко-культурное наследие и современность: сборник научных статей. [Редколлегия Г. А. Алексейченко (ответ. ред.) и др.]. Гомель 2010, с. 38–42.

Праект архіўнай рэформы Д. Я. Самаквасава ў ацэнках сучаснікаў: М. В. Доўнар-Запольскі і яго карэспандэнты // Мінулае і сучаснасць: архівы ў сістэме гуманітарных ведаў. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі, прысвечанай 100-годдзю Віцебскай вучонай архіўнай камісіі (Мінск, 20 мая 2009 г.). Рэд. кал. М. Ф. Шумейка (адк. рэд.) [і інш.]. Мінск 2010, с. 75–81.

Традиционная белорусская семья в исследованиях М. В. Довнар-Запольского и её трансформация в ХХ столетии // Сёмыя Міжнародныя Доўнараўскія чытанні, 1–2 кастрычніка 2010 г. Рэдкал. : В. М. Лебедзева (адк. рэд.) [і інш.]. Гомель 2010, с. 13–23 (в соавт. с Д. Г. Лином).

Стрекопытовский мятеж марта 1919 г. Речицкая страница // Сёмыя Міжнародныя Доўнараўскія чытанні, 1–2 кастрычніка 2010 г. Рэдкал. : В. М. Лебедзева (адк. рэд.) [і інш.]. Гомель 2010, с. 309–318.

Святар Хведар Жудро і Стракапытаўскі мяцеж 1919 г. у Гомелі // Архіварыус: зборнік навуковых паведамленняў і артыкулаў. 2010, вып. 8, с. 78–89.

Старонка Маскоўскага перыяду біяграфіі М. Доўнар-Запольскага: праца ў Маскоўскім археалагічным таварыстве // Сёмыя Міжнародныя Доўнараўскія чытанні, Рэчыца, 1–2 кастрычніка 2010 г. Рэдкал.: В. М. Лебедзева (адк. рэд.) [і інш.]. Гомель 2010, с. 37–51.

М. В. Довнар-Запольский и Московское археологическое общество (Приложение: Письма гр. П. Уваровой к М. Довнар-Запольскому в Центральном государственном историческом архиве Украины в г. Киеве) // Русское наследие в странах Восточной и Центральной Европы. Материалы межгосударственной научной конференции 5–8 июля 2010 г. (г. Брянск), приуроченной к 600-летию битвы при Грюнвальде. Брянск 2010, с. 185–202.

Стрекопытовский мятеж марта 1919 г.: причины и пролог // Беларусь і суседзі: гістарычныя шляхі, узаемадзеянне і ўзаемаўплывы. Матэрыялы III Міжнароднай навуковай канферэнцыі, Гомель, 30 верасня –1 кастрычніка 2010 г. [Рэдкалегія: Р. Р. Лазько (адказны рэдактар), М. М. Мязга, Д. М. Талочка]. Гомель 2010, с. 158–164.

**2011**

Новыя матэрыялы да біяграфіі Абрама Маневіча (да 130-годдзя з дня нараджэння) // Пытанні мастацтвазнаўства, этналогіі і фалькларыстыкі: [зборнік артыкулаў]. Мінск 2011, вып. 10, с. 79–91 (у суаўтар. з В. М. Ямковай).

Ескін Аркадій Борисович // Енциклопедія сучасної України. Київ, 2011, т. 9, с. 240.

Єрмоленко Микола Федорович // Енциклопедія сучасної України. Київ, 2011, т. 9, с. 441.

Ельстон Лев Михайлович // Енциклопедія сучасної України. Київ 2011, т. 9, с. 573.

Жданов Павло Ілліч // Енциклопедія сучасної України. Київ 2011, т. 9, с. 519.

Жировицький Свято-Успенський чоловічий монастир // Енциклопедія сучасної України. Київ 2011, т. 9, с. 577–578.

Забара Ігор Володимирович // Енциклопедія сучасної України. Київ 2011, т. 10, с. 10.

Залозний Микола Григорович // Енциклопедія сучасної України. Київ 2011, т. 10, с. 203.

Заславський Євген Львович // Енциклопедія сучасної України. Київ 2011, т. 10, с. 345.

Захар Дмитро Андрійович // Енциклопедія сучасної України. Київ 2011, т. 10, с. 365.

Звонак Олесь // Енциклопедія сучасної України. Київ 2011, т. 10, с. 464–465.

Зільберберґ Євгенія Володимирівна // Енциклопедія сучасної України. Київ 2011, т. 10, с. 501.

«Украінская» ўлада на Беларускім Палессі: Гомельская гарадская Дырэкторыя 1918–1919 гг. // ARCHE Пачатак. 2011, № 3, с. 356–370.

Мадэль традыцыйнай сям'і ў даследаваннях М. В. Доўнар-Запольскага // Известия Гомельского государственного университета им. Ф. Скорины. Гомель 2011, № 2 (65), с. 141–145.

Николай Румянцев и круг Виленского университета (на примере переписки с И. Лелевелем, опубликованной Францевым) // Вісник Чернігівського національного педагогічного університету. Вип. 87. Серія: історичні науки. № 8. Чернігів 2011, с. 92–97.

М. В. Довнар-Запольский и его наследие // М. В. Довнар-Запольский. История Белоруссии. 3-е изд. испр. и доп. Минск 2011, с. 1–13 (в соавт. с В. В. Скалабанам, М. Ф. Шумейко).

Именной указатель // М. В. Довнар-Запольский. История Белоруссии. 3-е изд., испр. и доп. Минск 2011, с. 521–587 (в соавт. с Н. К. Мазовко).

Словарь устаревших слов и белорусизмов // М. В. Довнар-Запольский. История Белоруссии. 3-е изд., испр. и доп. Минск 2011, с. 507–520 (в соавт. с Д. Д. Павловцом).

Рыжскі перамоўны працэс і дзейнасць Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў // Да 90-годдзя прыняцця Рыжскага дагавора 1921 г.: зборнік навуковых прац. Навук. рэд. Э. Расоўска, А. Вялікі. Мінск 2011, с. 111–128 (у суаўтар. з У. В. Ляхоўскім).

Эпизод антибольшевистского сопротивления: Стрекопытовское восстание в Гомеле в марте 1919 г. // Studia internationalia: материалы Международной научной конференции «Западный регион России в международных отношениях XVII–XX вв.», Брянск, 22–24 июня 2011 г. Редкол. С. И. Михальченко [и др.]. Брянск 2011, с. 99–110.

Эпізоды палітычнага жыцця Гомеля 1917 г. на старонках гарадскіх газет // Беларусь у гістарычнай рэтраспектыве XIX–XX стагоддзяў: этнакультурныя і нацыянальна-дзяржаўныя працэсы. Матэрыялы рэспубліканскай навуковай канферэнцыі, Гомель, 13–14 кастрычніка 2011 г. Рэдкал.: В. А. Міхедзька (гал. рэд.) [і інш.]. Гомель 2011, с. 92–99.

Рыцар беларускай архівістыкі: памяці Віталя Скалабана // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2011, Nr 36, s. 241–245 (у суаўтар. з А. Вялікім).

**2012**

Мой завод – моя гордость. Речицкий метизный завод, 1912–2012: 100 лет. [Авторы текста: О. М. Шандрак, В. М. Лебедева]. Минск 2012. 303 с.

Крымский период жизни М. В. Довнар-Запольского по материалам дневника жены // Ученые записки Таврического нац. ун-та им. В. И. Вернадского. Сер.: «Исторические науки». 2012, т. 25 (64), № 1. Симферополь 2012, с. 97–105.

Патоны и Рикки как представители новой региональной элиты начала XX века // Беларусь і суседзі: шляхі фарміравання дзяржаўнасці, міжнацыянальныя і міждзяржаўныя адносіны. Зборнік навуковых артыкулаў. Вып. 1. Р. Р. Лазько (гал. рэд.) і інш. Гомель 2012, с. 111–117.

Железные дороги Беларуси в Первой мировой войне // История Белорусской железной дороги. Из XIX века – в век XXI. Ред. кол. В. В. Яновская и др. Мінск 2012, с. 263–305 (в соавт. с О. В. Волковой, Н. П. Гайбом, А. Л. Киштымовым, В. Г. Мазцом, А. В. Унучеком).

Ігнатовський Всеволод Макарович // Енциклопедія сучасної України. Київ 2012, т. 11, с. 188.

Іпатова Ольга Михайлівна // Енциклопедія сучасної України. Київ 2012, т. 11, с. 501.

Кадочников Іван Петрович // Енциклопедія сучасної України. Київ 2012, т. 11, с. 667.

Установление и укрепление большевистской власти в Гомеле: персональный аспект // Гомель: старонкі гісторыі (да 870-годдзя першай узгадкі горада): зборнік навуковых артыкулаў. Рэдкал.: В. А. Міхедзька (адказны рэд.) [Общественно-политическая ситуация в Гомельской губернии в 1919–1920 гг. // Проблемы славяноведения. Сб. научных статей и материалов. Отв. редактор С. И. Михальченко. Вып. 14. Брянск 2012, с. 143–161 (в соавт. с М. Н. Мурашко).

Да пытання аб лёсе бібліятэкі М. Доўнар-Запольскага // До Дня слов'янської писемності і культури: тези Міжнар. наук. конф.; 24–25 трав. 2012 р. Київ 2012, с. 78–82.

Гомельская Директория // Регионы Беларуси: энциклопедия. В 7 т., т. 3. Гомельская область. В 2 кн., кн. 1. Ред. кол.: Т. В. Белова (гл. ред.) [и др.]. Минск 2012, с. 129.

Гуло Даниил Семенович // Регионы Беларуси: энциклопедия. В 7 т., т. 3. Гомельская область. В 2 кн., кн. 1. Ред. кол. : Т. В. Белова (гл. ред.) [и др.]. Мінск 2012, с. 202–203.

Калаптур Ніна Федорівна // Енциклопедія сучасної України. Київ 2012, т. 12, с. 11.

Камінський Дмитро Романович // Енциклопедія сучасної України. Київ 2012, т. 12, с. 124.

Кам'янець (містечко, Білорусь) // Енциклопедія сучасної України. Київ 2012, т. 12, с. 267.

Карпович Петро Володимирович // Енциклопедія сучасної України. Київ 2012, т. 12, с. 294.

Кащеєв Михайло Олександрович // Енциклопедія сучасної України. Київ 2012, т. 12, с. 356.

Отрывок воспоминаний бывшего командира 1-го Гомельского Коммунистического Пролетарского батальона В. С. Селиванова // Europa Orientalis: studia z dizejów Europy Wschodniej i państw Bałtyckich. Toruń 2012, s. 133–157.

Канцэпцыя беларускай дзяржаўнасці ў творах М. В. Доўнар-Запольскага // Новае слова ў гісторыі і культуралогіі. Матэрыялы V Міжнароднага кангрэса беларусістаў (20–21 мая 2010 г.). пад рэд. А. А. Сушы. Мінск 2012 (Беларусіка-Albaruthenica; кн. 33), с. 147–155.

Украінская ўлада на Беларускім Палессі: Гомельская гарадская Дырэкторыя // Хроніка 2000. Український культурологічний альманах. 2011, вип. 4 (90). Україна–Білорусь. Кн. 1. Київ 2012, с. 359–378.

Крымский период жизни М. В. Довнар-Запольского (по материалам дневника жены) // VII Міжнародний конгрес україністів. Збірник наукових статей. Фольклористика. Голов. ред. Г. Скрипник. Київ 2012, с. 125–138.

**2013**

Стрекопытовское восстание в Гомеле в марте 1919 г. // Крестьянский фронт 1918–1922 гг. Сборник статей и материалов. Составитель и научный редактор А. В. Посадский. Москва 2013, с. 189–224 (в соавт. с И. Т. Такоевой).

Да праблемы кансалідацыі беларускай адраджэнцкай інтэлігенцыі: М. Доўнар-Запольскі і Б. Эпімах-Шыпіла // Проблемы славяноведения. Брянск 2013, вып. 15, с. 121–127.

Василий Селиванов: Политический портрет // Ісці на святло лабірынтамі даўніх падзей. Зборнік памяці Віталя Скалабана. Мінск 2013, с. 269–287.

Лісты М. В. Доўнар-Запольскага да акадэміка А. А. Шахматава ў Санкт-Пецярбургскім філіяле архіва Расійскай акадэміі навук // Беларускі археаграфічны штогоднік. Мінск 2013, вып. 14, с. 217–220.

Новыя дакументы аб універсітэцкім перыядзе жыцця М. Доўнар-Запольскага // Архіварыус: зб. навуковых паведамленняў і артыкулаў. Вып. 11. Мінск 2013, с. 100–107.

Февральская и Октябрьская революции. Борьба за власть в городе // Речица. Дорогой столетий в будущее. В. М. Лебедева (рук. кол.), В. Ф. Голубев, А. Л. Киштымов [и др.]. Под общ. ред. В. С. Панченко [и др.]. Речица 2013, с. 90–94.

Немецкая оккупация и украинская власть // Речица. Дорогой столетий в будущее. Под общ. ред. В. С. Панченко [и др.]. Речица 2013, с. 94–98.

Стрекопытовский мятеж. Речицкая страница // Речица. Дорогой столетий в будущее. Под общ. ред. В. С. Панченко [и др.]. Речица 2013, с. 98–100.

События советско-польской войны // Речица. Дорогой столетий в будущее. Под общ. ред. В. С. Панченко [и др.]. Речица 2013, с. 100–106.
Восстановление разрушенного и «красногвардейская атака на капитал» // Речица. Дорогой столетий в будущее. Под общ. ред. В. С. Панченко [и др.]. Речица 2013, с. 107–110 (в соавт. с М. Н. Мурашко).
Переход к новой экономической политике // Речица. Дорогой столетий в будущее. Под общ. ред. В. С. Панченко [и др.]. Речица 2013, с. 110–116 (в соавт. с М. Н. Мурашко).
В годы «великого перелома» // Речица. Дорогой столетий в будущее. Под общ. ред. В. С. Панченко [и др.]. Речица 2013, с. 116–125.
Образование и культура в предвоенные годы // Речица. Дорогой столетий в будущее. Под общ. ред. В. С. Панченко [и др.]. Речица 2013, с. 125–130.
Эхо войны // Речица. Дорогой столетий в будущее. Под общ. ред. В. С. Панченко [и др.]. Речица 2013, с. 175–177.
Все силы – на восстановление промышленности // Речица. Дорогой столетий в будущее. Под общ. ред. В. С. Панченко [и др.]. Речица 2013, с. 177–180.
Послевоенная драма деревни // Речица. Дорогой столетий в будущее. Под общ. ред. В. С. Панченко [и др.]. Речица 2013, с. 180–184.
Возрождение социально-культурной сферы // Речица. Дорогой столетий в будущее. Под общ. ред. В. С. Панченко [и др.]. Речица 2013, с. 184–189.
Реформы и эксперименты в промышленности // Речица. Дорогой столетий в будущее. Под общ. ред. В. С. Панченко [и др.]. Речица 2013, с. 189–193.
Речица – столица белорусской нефти // Речица. Дорогой столетий в будущее. Под общ. ред. В. С. Панченко [и др.]. Речица 2013, с. 193–197.
Поиски путей подъема сельского хозяйства // Речица. Дорогой столетий в будущее. Под общ. ред. В. С. Панченко. Речица 2013, с. 197–201.
Социальные вопросы – на уровень производственных // Речица. Дорогой столетий в будущее. Под общ. ред. В. С. Панченко. Речица 2013, с. 201–207.
Чернобыльская трагедия и её преодоление // Речица. Дорогой столетий в будущее. Под общ. ред. В. С. Панченко. Речица 2013, с. 207–211.
Производственный комплекс: испытания и приобретения // Речица. Дорогой столетий в будущее. Под общ. ред. В. С. Панченко [и др.]. Речица 2013, с. 211–227.
Социальные ориентиры // Речица. Дорогой столетий в будущее. Под общ. ред. В. С. Панченко [и др.]. Речица 2013, с. 227–237.
Приумножая культурное наследие // Речица. Дорогой столетий в будущее. Под общ. ред. В. С. Панченко [и др.]. Речица, 2013, с. 237–244.

**2014**

Кантакты М. В. Доўнар-Запольскага і А. П. Сапунова // Книжное наследие А. П. Сапунова: материалы республиканской научно-практической конференции к юбилеям издания А. П. Сапуновым книг «Витебская старина» (т. 1, 1883) и «Река Западная Двина» (1893), 23 декабря 2013 г. Редкол.: А. И. Сёмкин (гл. ред.) [и др.]. Минск 2014, с. 26–30.
Полута Бодунова // Деды: дайджест публикаций о белорусской истории. Вып. 13. Минск 2014, с. 156–166.

Да гісторыі ўзаемаадносін улады і царквы ў XX стагоддзі: прыклад Рэчыцкага раёна // Православие и культура: сборник научных статей, посвященный 1025-летию Крещения Руси. Гомель 2014, с. 94–100.

Гомель у фінале Першай сусветнай вайны: абставіны эвакуацыі нямецкіх войск у студзені 1919 г. // Беларусь і суседзі: шляхі фарміравання дзяржаўнасці, міжнацыянальныя і міждзяржаўныя адносіны: зборнік навуковых артыкулаў. Вып. 3. Гомель 2014, с. 102–108.

Рэвалюцыйны 1917-ы і гомельскі друк // Палац. Літаратурны альманах Гомельскага абласнога аддзялення грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў». 2014, № 2, с. 5–15.

**2015**

Характарыстыка крыніц для вывучэння гандлёва-эканамічных дачыненняў у Беларусі падчас войнаў 1914–1920 гг. // Працы Цэнтра вывучэння гісторыі гандлю. Вып. 1. Мінск 2015, с. 77–83.

**2016**

Витоки білорусько-українських дипломатичних відносин (весна 1918 року) // Україна дипломатична. Науковий щорічник. Випуск сімнадцятий, присвячений 25-ій річниці дипломатії незалежної України. Київ 2016, с. 639–656.

Украінская мытня на беларускім Палессі ў 1918 г. // Даследаванні ў сферы мытнай справы. Навуковыя працы кафедры мытнай справы факультэта міжнародных адносін Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Вып. 4. Мінск 2016, с. 146–155.

Аўстралійка са славутага роду Дамейкаў: лёс і даследчыцкая дзейнасць Паж Дамейка // Першы Міжнародны навуковы кангрэс беларускай культуры: зборнік матэрыялаў (Мінск, Беларусь, 5–6 мая 2016 г.). Рэдкал.: А. І. Лакотка (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск 2016, с. 576–578.

М. В. Довнар-Запольский и его наследие // М. В. Довнар-Запольский. История Белоруссии. 4-е изд., испр. и доп. Минск 2016, с. 1–13 (в соавт. с В. В. Скалабаном, М. Ф. Шумейко).

Словарь устаревших слов и белорусизмов // М. В. Довнар-Запольский. История Белоруссии. 4-е изд., испр. и доп. Минск 2016, с. 507–520 (в соавт. с Д. Д. Павловцом).

Именной указатель // М. В. Довнар-Запольский. История Белоруссии. 4-е изд., испр. и доп. Минск 2016, с. 521–587 (в соавт. с Н. К. Мазовко).

**2017**

Беларускае Палессе як арэна памежных гандлёвых войнаў 1918 года // Працы Цэнтра вывучэння гісторыі гандлю. Вып. 2. Мінск 2017, с. 224–231.

Украінская мытня на Беларускім Палессі ў 1918 годзе // Управление в области таможенного дела: сб. материалов IV Междунар. науч. конф., Минск, 20 марта 2017 г. Редкол.: В. Г. Шадурский [и др.]. Минск 2017, с. 54–62.

М. В. Доўнар-Запольскі і Інбелкульт: няспраўджаныя надзеі // Інстытут беларускай культуры: здабыткі, значэнне, вынікі дзейнасці. Матэрыялы міжнароднага круглага стала, прысвечанага 95-годдзю Інстытута беларускай культуры. Мінск, 10 лістапада 2017 г. Мінск 2017, с. 83–89.

М. В. Доўнар-Запольскі. Выбранае. Укладанне, прадмова, каментар В. Лебедзевай [і інш.]. Мінск 2017, 668 с. (Беларускі кнігазбор: БК. Серыя 2. Гісторыка-літаратурныя помнікі).

**2018**

Homelszczyzna i białoruski ruch narodowy w latach 1917–1920. Wydarzenia i osoby // Drogi do niepodległości narodów Europy Wschodniej 1914–1921. Pod redakcią Doroty Michaluk. Ciechanowiec 2018, s. 253–272.

Гомельшчына: на памежжы БНР // Шляхамі БНР: Да 100-годдзя абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Пад рэд. І. Соркінай, С. Харэўскага. Гродна 2018, с. 65–78.

Кнігазбор М. Доўнар-Запольскага і яго вяртанне ў Беларусь // Рэха беларускіх кнігазбораў: лёсы прыватных бібліятэк. Зборнік артыкулаў. Мінск 2018, с. 215–222 (у суаўтар. з Л. Сільновай).

**2019**

З кагорты рэчычан: памяці Д. Р. Ліна // Рэчыцкі край: да 150-годдзя з дня нараджэння Мітрафана Доўнар-Запольскага. Зборнік навуковых артыкулаў. [Па матэрыялах Восьмых Міжнародных Доўнараўскіх чытанняў, 21–22 верасня 2017 г., Рэчыца. Укладальнікі А. Б. Доўнар, В. М. Лебедзева. Мінск 2019, с. 180–185.

Гомельшчына: памежжа Беларускай Народнай Рэспублікі // Дзяржаўнасць Беларусі ў ХХ стагоддзі. Да 100-годдзя абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі і Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Зборнік навуковых артыкулаў. Гомель 2019, с. 75–88.

М. Доўнар-Запольскі: подступы да праблемы беларускай дзяржаўнасці (1888–1918 гг.) // Беларусь у кантэксце еўрапейскай гісторыі: асоба, грамадства, дзяржава. Зборнік навуковых артыкулаў, прысвечаны 80-годдзю Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы і 65-годдзю гістарычнай адукацыі ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы. [Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі, г. Гродна, 12–13 снежня 2019 г.]. У 2 ч. [Рэдкалегія: А. А. Каваленя, І. Ф. Кітурка (гал. рэд.) і інш.]. Гродна 2019, ч. 1, с. 52–55.

**2020**

Мітрафан Доўнар-Запольскі, 1868–1934 гг.: асоба ў дакументах і ўспамінах. [Зборнік. Укладанне, прадмова, каментар: В. Мятліцкая. Пад рэд. А. Смаленчука, А. Кіштымава. Мінск 2020, 484 с.

Міжнародныя навуковыя Доўнараўскія чытанні як мадэль арганізацыі Рэчыцкага краязнаўства // Першы Рэспубліканскі краязнаўчы форум Беларусі ў рамках Года малой радзімы. Зборнік матэрыялаў у 2 т., т. 1. [Укладальнікі: П. М. Сапоцька, Ю. В. Юшкевіч]. Мінск 2020, с. 211–216.

**2021**

Гомельске міське самоврядування в період становлення Української держави у 1918 г. // Розумовські зустрічі. Збірник наукових праць. 2021, № 8. Чернігів 2021, с. 174–185.

Леў Акіншэвіч аб цывілізацыйнай парадыгме гісторыі Беларусі // Акіншэвіч Л. Выбранае. Уклад., падрыхтоўка тэкстаў, агульнае рэдагаванне, камент., паказал. Н. Гардзіенкі, Л. Юрэвіча. Мінск 2021, с. 56–67.
На пагранiччы эпох і дзяржаў: старонкі гісторыі Гомеля (1917–1918). Гомель 2021, 224 с.

Укладанне і прадмова
Андрэя Кіштымава (Менск)

# ВАЛЯНЦІНА МЯТЛІЦКАЯ ВА ЎСПАМІНАХ СЯБРОЎ І КАЛЕГ

### *«Мне её не хватает…»*

Только с уходом близкого тебе человека начинаешь понимать, что теперь всё, что связано с ним, принадлежит тебе одному. Ты единственный владелец и хранитель этой памяти.

Мне её не хватает по-разному. Даже телефонного звонка или вайбера с вопросом: «А вот что такое – авиационный парк?» И я, авиамеханик по первой профессии, терпеливо ей объясняю эту загадку.



Долгие годы я жил с ощущением: хочешь сменить картинку, надоело минское болото – дорогу на вокзал знаешь? Там, в Гомеле, будет всё. Тебя поймут, тебя ценят, ты нужен, и не только с твоими мозгами, но и просто помочь с житейскими проблемами.

Меня знала и знает её улица в Белице – улица Пугачева. Знала и знает, по-уличному, что я – это «Валин». Там ведь всё не так, как в городских многоэтажках. Там настоящее соседство. Забор к забору. Баня? Ну, знают, у кого сегодня. Можно идти после хозяев – примут. Новый год – пробило 12 – и все на улицу. Там всё и начинается, и продолжается.

После смерти я стал её душеприказчиком. Есть такое выражение из XIX века… Не знаю, как оно звучит по-белорусски. Но её библиотека и компьютерный архив оказались в моём распоряжении. Она сама этого хотела и сказала мне про это.

Сейчас, разбираясь с ее библиографическими списками, я невольно спотыкаюсь на совместных публикациях. Плохая черта моего характера: когда что-то узнаю, то теряю к этому интерес. Да, я ленивый по натуре, часто просто не отдавал в печать то, что знаю. Она заставляла всё оформить и напечатать.

Или проводила Довнаровские чтения. Если я их придумал, то надо было ехать. Ехать не с пустыми руками. Тем более что каждый раз на эти чтения собирался, без преувеличения, исторический бомонд не только из Беларуси, но и близкого зарубежья. Я был на всех. Когда-то таким ветераном был также Виталь Скалабан. И, конечно, она. Теперь их нет и не будет.

Что-то из своего я ей просто дарил. Надо было ей с чем-то съездить в Киев, Чернигов, Брянск, Нежин – бери и отправляйся в новое научное путешествие. Тем более, и я это знал, ей везде будут искренне рады.

Практически всё, что она писала, я читал еще до печати. Реже посылал ненапечатанное своё. Наверное, это даже стало нашей общей привычкой. Почему бы не проверить свой текст на подопытном кролике?

Впервые мы встретились под одной обложкой в 1995 г. «Беларускі гістарычны часопіс» № 1 за тот год был тематическим – про историю Гомельщины. Я там опубликовал статью *Гомельскі маёнтак графа М. П. Румянцава: вопыт гаспадарання*. Она – *Год 1918: барацьба за Гомель*. Я впервые её там увидел. Статьи были с фотографиями авторов. Звезды сошлись.

Для меня Гомель и Гомельщина надолго стали темой научных интересов – 50 публикаций. Одна из последних: *Гомельское имение Паскевичей: опыт хозяйствования* (*Гомельский дворцово-парковый ансамбль: от усадьбы до музейного комплекса*. Сборник материалов международной научно-практической конференции, Гомель 2019). Для неё – это было и оставалось главной темой научных интересов.

Мы так и попрощались – под одной обложкой. Она попросила рецензию на рукопись своей последней монографии *На пагранiччы эпох i дзяржаў. Старонкі гісторыі Гомеля (1917–1918)*. Я написал, и она была опубликована *Замест прадмовы*.

*Андрей Киштымов (Минск)*

### *«Пустку, што засталася пасля яе сыходу, ніхто не запоўніць»*

Так здарылася, што я не змагла правесці ў апошні шлях маю дарагую сяброўку і калегу Валянціну Мятліцкую (Лебедзеву). У памяці засталіся нашы мінулагодныя ліпеньскія сустрэчы ў альтанцы добра знаёмага мне на працягу многіх гадоў дома на вуліцы Пугачова ў Гомелі. Гісторыкі, што ехалі працаваць у архіў, тут заўсёды знаходзілі прытулак. Магчыма, якраз там мацавалася наша прафесійнае брацтва ці сястрынства.

Тады, улетку 2021 г., я моцна хвалявалася. Здавалася, што заставацца дома было небяспечна. Паразмаўляла з Валяй. Вырашылі, што прыеду да яе ў Гомель і пажыву там пэўны час. Цеплыня тых



*На канферэнцыі ў Бранску. Злева прафесар Васіль Ульяноўскі. 2010 г.*

пасядзелак, глыбокая сардэчнасць паміж намі, якую я не адчувала і не цаніла раней, з'яднала нас у тыя шчаслівыя дні. Валянціна спачувала мне з прычыны праблем са спіной. Пра сябе казала, што яна ўжо не такая спрытная, як раней. Але я гэта бачыла і сама. Не магла не заўважыць яе бледны твар. Я тады ёй сказала, што «цябе, даражэнькая як мукой прысыпалі». Пасмяяліся. Пра жудасны дыягназ яшче не ведалі.

Валя частавала самай смачнай кавай. Я была здзіўлена, калі яна прызналася, што гэта паўсюдны *Жокей*. Але ж у яе добрых і чароўных руках атрымліваўся цудоўны напой. Мне яна давярала толькі сачыць, каб кава не збегла. Потым мы ішлі ў сад, у альтанку, і з асалодай снедалі і размаўлялі, размаўлялі... Абмяркоўвалі не вельмі добрыя паўсядзённыя навіны, абсмоктвалі, як гэта ўмеюць толькі гісторыкі, нейкія дробныя факты з мінулага, успаміналі нашых агульных знаёмых.



*На юбілеі Беларускай лігі жанчын. Справа Ніна Стужынская. 2012 г.*

«Мы ж гомельскія», – казала яна, і гэта акалічнасць рабіла наша сяброўства яшчэ мацнейшым. Спрачаліся ў асноўным па нейкіх прафесійных пытаннях, адна перад адной хваліліся архіўнымі знаходкамі, а потым дзяліліся сваімі маленькімі адкрыццямі. Памятаю, што Валянціна знайшла цікавы факт з біяграфіі вядомага ў расійскай і нашай гістарыяграфіі персанажа, і гэты факт патрабаваў моцнай карэкцыі ў гістарычных ацэнках героя. Я была вельмі ўдзячна ёй за такую «бомбу». Я таксама была рада ашчасліваць сяброўку, даследчыцу жыццёвага шляха Палуты Бадуновай. Менавіта Валянціна нібыта выцягнула з гістарычнага забыцця зорную дзяячку нашага нацыянальнага руху і беларускай палітыкі ХХ стагоддзя. Менавіта ёй прысвяціла кнігу. У гэтай гераіні яна знайшла родную душу, якой захаплялася. І гэта невыпадкова. Абедзвюх жанчын розных эпох яднаў клопат пра Бацькаўшчыну, а таксама вера ў лепшую будучыню краіны.

Я бачыла, што яе паважаюць і любяць самыя розныя людзі. Быў тут і для мяне карысны момант: менавіта дзякуючы ёй атрымала картбланш у гомельскіх архівах і заўсёды прывозіла ў Менск добрую кіпу копій архіўных крыніц. Мы планавалі агульныя архіўныя пошукі матэрыялаў, якіх заўсёды не хапала. Бязмежна шкада, што не атрымалася.

А актывісткі нашай жаночай арганізацыі[1] памятаюць яе як цудоўнага выступоўца. Я нават зайздросціла, як лёгка яна знаходзіла агульную мову з аўдыторыяй, як шмат ведала. Мы аб'ехалі з ёй некалькі дзясяткаў гарадоў Беларусі. Разумею, чаму ўдзячныя гамяльчане прасілі, каб менавіта яна праводзіла экскурсію. А калі яна пагаджалася быць гідам, экскурсійны аўтобус быў паўнюткім. Яна дзялілася сваімі адкрыццямі, здзіўляла россыпам цікавых фактаў, набліжала мінулае да сучаснасці. Яе сыход – вялікая страта для Гомеля.

Калі-нікалі з'яўляецца думка, што трэба патэлефанаваць Валянціне, каб спраўдзіць нейкі гістарычны факт… І адразу даганяе боль, што яе ўжо няма і што ў Гомелі няма каго пра гэта запытаць. Пустку, што засталася пасля яе сыходу, ніхто не запоўніць.

У маёй памяці Валянціна засталася як ніхто іншы…

*Ніна Стужынская (Менск)*

### *«Яна любіла не толькі гісторыю, але і жыццё ва ўсіх яго праявах…»*

З Валянцінаю мы пазнаёміліся недзе ў канцы 1980-х – пачатку 1990-х гадоў. Перасякаліся на нейкіх навуковых форумах. Але з прычыны таго, што паміж яе і маімі гістарычнымі цікавосткамі пралягалі стагоддзі (нават амаль тысяча гадоў), кантактаў «першага ўзроўню» не было. Апрача таго ёй, як яна сама сябе называла, «паляшчучцы», бліжэй была старасветчына Паўднёвай Беларусі, памежжа Беларусі і Украіны, а мне – Полацкая зямля. Аднак усё карэнным чынам змянілася ў 2002 г.

За год да таго ўкраінскія калегі-археолагі запрасілі прыняць удзел у праграме *Кіеўская Русь. Украіна XI век*. Частка гэтай буйнамаштабнай праграмы мела на ўвазе правядзенне гісторыка-археалагічнай рэканструкцыі. А менавіта: пабудову старажытных суднаў X–XI стст. – лоддзяў і дракараў – і паходы на іх воднымі еўрапейскімі шляхамі, якія ў нас называюць «з варагаў у грэкі». Насамрэч іх было значна больш. У 2000 г. украінцы, збудаваўшы ладдзю «Княгіня Вольга», прайшлі на ёй ад Кіева да Стамбула (былога Канстанцінопаля), у 2001 г. выйшлі на мяне, і мы на ёй жа прайшлі ад Санкт-Пецярбурга да Кіева. Шлях «з варагаў у грэкі» такім чынам быў завершаны, але не завершаны сам навуковы эксперымент.

У 2002 г. капітан-археолаг Сяргей Воранаў прапанаваў дадаць у каманду яшчэ беларусаў, бо меркавалася праверыць «Казацкі шлях» – ад Кіева да Запарожскай Сечы на Хортіцы, потым – да Ачакава, вакол Крыма – да Тамані на Кубані, куды 210 гадоў таму прыйшлі былыя запарожскія казакі на чале з атаманам Антонам Галаватым. Была падрыхтавана копія-рэпліка вядомага карабля казакаў «чайкі».

[1] Гаворка пра грамадскае аб'яднанне «Беларуская жаночая ліга» (*заўвага рэд.*).

Нейкім чынам, не да канца зразумелым і мне самому, прапанаваў прыняць удзел у гэтай «авантуры» гісторыку Андрэю Кіштымаву. На працягу многіх гадоў (зараз ужо дзесяцігоддзяў) мы з Андрэем Леанідавічам так і не можам высветліць, чаму сярод дзясяткаў трывалых і загартаваных, спрытных і дужых археолагаў Інстытута гісторыі АН Беларусі, спрактыкаваных у экспедыцыйных паходах і знаёмых з жыццём у экстрэмальных палявых умовах, я выбраў мала мне знаёмага «архіўна-папяровага» гісторыка з іншага аддзела. Відаць, гэта быў лёс! І вось гэта нечаканае рашэнне прынесла найцудоўнейшыя гады сяброўства, як з Андрэем, так і Валянцінай (Валечкай, Валюшай).

Усё пачалося з абрання маршруту да злучэння з камандаю нашага карабля-чайкі «Богун», чыя прыпіска была ў Кіеве. Васпане, мыслячы простымі катэгорыямі «з пункта А – у пункт Б», натуральна, думаў: «Селі ў Менску на цягнік – і прачнуліся на раніцу ў Кіеве».

Андрэй простых шляхоў не шукаў. З Гомелем яго здаўна звязвалі навуковыя інтарэсы, асабліва на глебе вывучэння спадчыны выбітнага гісторыка Мітрафана Доўнар-Запольскага, якому без перабольшвання прысвяціла сваё навуковае жыццё і Валянціна Лебедзева. І ён прапанаваў сваю стратэгію «жабіных скачкоў»: з Менска ў Гомель, з Гомеля ў Чарнігаў, з Чарнігава ў Кіеў – і гэтаксама назад. Відавочна, так было значна цікавей, чым праспаць ноч у цягніку! Тады нават не мог падумаць, што гэта «лагістыка» стане неад'емнаю часткаю жыцця на ўсе наступныя гады нашых экспедыцый.

Як няцяжка здагадацца, гомельскай «базай» стала ўтульная і гасцінная сядзіба Валечкі Лебедзевай. Яна нас называла не іначай як «хлопцы». З Менска прыязджалі два прыгожыя, упэўненыя ў сваёй навуковай значнасці «валёнкі», а з Кіева вярталіся два брудныя, барадатыя, з моцнымі, накачанымі на вёслах цяглiцамі «марскія воўкі». «Маракоў» пасля здзейсненых «подзвігаў» літаральна «разрывала» на аповеды аб страшных хвалях, жахлівых каменных парогах і непраходных мелях.



*У сваім «батанічным садзе». 2009 г.*

Ужо на наступны год нашай лагістыкі стала заўважна, што ў часы прыезду і ад'езду «варагаў» на вячэры пад шашлыкі самі сабой збіраліся сябры і знаёмцы Валянціны з вуліцы Пугачова, што ў гомельскай Беліцы. Трэба заўважыць, што нашы размовы ў цудоўным садзе не абмяжоўваліся аповедамі пра геройскае змаганне з «дзявятым валам». Яны заўсёды тычыліся гісторыі

мінулай і будучай. Апрача таго, што ўсе мы былі і ёсць прафесійнымі гісторыкамі, мы яшчэ і неабыякавыя да падзей грамадскага жыцця. Аб гэтым боку жыцця Валянціны, упэўнены, распавядуць іншыя. Так ці іначай, як гэта ні пафасна гучыць, мы размаўлялі і аб будучыні. З надзеяй!

Размаўлялі з надзеяй. Яна была заўсёды ў душы Валі. Найперш у яе вачах. Вочы літаральна свяціліся. А калі яна карысталася падобнымі на стракозавыя крылы акулярамі, вочы павялічваліся ў бліскавічным позірку. У спалучэнні з неад'емнай усмешкай – неверагодна вясёлай, добрай, але і вострай – кожную хвіліну здавалася, што ў паветры вісіць нейкае пытанне. А яно было заўсёды.

Як сапраўдныя маракі, мы не маглі «на халяву» карыстацца гасціннасцю. Што казаць: дровы пілавалі і секлі, удзельнічалі ў рамонце і нават будавалі лазню (дзе нас пасля паходаў і адмывалі). Адзінае, да чаго нам не дазвалялася дакранацца, – сад і агарод. Тут Валянціна была не гаспадыняй, а багіняй. Няма сэнсу пералічваць, што расло на тых сотках. Гэта быў нейкі «батаніка-агародны» сад ад акадэміка Купрэвіча! Зразумела, што гэта Гомель і поўдзень, што тут цёпла, але вачам не верылася, што такая прыгажосць (смачная ў тым ліку) расце ў Беларусі.

Аднойчы Валя дазволіла нам з Андрэем дакрануцца да сваёй зямлі, а менавіта выкапаць бульбу. Мне, як археолагу, працаваць з рыдлёўкаю было звыкла і спакойна, а Кіштымаву, як архіўнаму «крату», было прасцей выбіраць і чысціць. Працуем зацята, з «аганьком», і бачым, як прыйшла да гаспадыні нібыта дама Мальвіна з пераказанай Аляксеем Талстым казкі аб Пінокіа (Бураціна) аўтарства Карла Калодзі. Суседка запытала: «Валя, а хто ў цябе ў гародзе робіць?». Не міргнуўшы вокам Валянціна адказала: «Два кандыдаты навук з Акадэміі навук у Менску».

Яна любіла не толькі гісторыю, але і жыццё ва ўсіх яго праявах – людзях, раслінах, зямлі, жывёлах. Дарэчы, спачатку мяне ўразіла (потым прызвычаіўся), як да яе прыходзілі навакольныя каты. І яны ведалі, каму дазволена зайсці ў хату, а каму не. І ніхто з хвастатых «мурзікаў» не скардзіўся. Вось такая была павага і такі мела аўтарытэт!

Аб яе выбітных навуковых росшуках-дасягненнях напішуць калегі і сябры. Яны, як ні пафасна гэта гучыць, застануцца назаўжды. Калі меркаваць катэгорыямі «нарадзіўся – ажаніўся – памёр», то жыццё прайшло марна. Калі проста думаць: а што адбудзецца тады, калі наша Сонца знікне і знікне Зямля, разам з усім, што было на ёй каля дзесяці мільярдаў гадоў, – тады прыходзіць упэўненасць, што на нейкіх «супер-пупер» інфармацыйных носьбітах далёкія будучыя людзі возьмуць з сабою ўсё лепшае, што было зроблена папярэднікамі. І працы дарагой Валюшы ў тым ліку.

У яе апошні, самы складаны год, калі скончыліся нашыя марскія і рачныя паходы, калі напярэдадні было некалькі сустрэч у Менску, мы часта размаўлялі па тэлефоне. Размаўлялі, калі яна магла. Андрэй Кіштымаў адвёз у Беліцу маю

кнігу *Ефрасіння, Офрасіння, Афрасіння. Яе час, яе Крыж.* І так сталася, што гэта была апошняя кніга, якую яна прачытала. Яна сама пазваніла. Сказала, што прачытала «ад коркі да коркі». Ёй спадабалася, але і выказала свае заўвагі. Я іх цалкам прыняў. Як і прыняў шэраг кніг з яе бібліятэкі для іншай бібліятэкі, для людзей. Яны жывуць, будуць жыць і прыносіць карысць. І яна гэта ведала, нават бачыла.

Ідучы ў далёкія паходы (за восемь гадоў – 12,5 тысяч кіламетраў), мы кожны раз развітваліся з Валяй і кожны раз, вяртаючыся, з ёй віталіся. Яна была і ёсць для нас сімвалам Радзімы, якая «Родина – мать».

*Сяргей Тарасаў (Менск)*

## *«Яна рабіла тое, чаго не маглі ці не жадалі рабіць буйныя навуковыя і акадэмічныя асяродкі...»*[1]

Не атрымліваецца пісаць і думаць пра Валянціну Мятліцкую (Лебедзеву) у мінулым часе. Яна побач, калі думаеш пра трагедыю Украіны, якая для яе была б найвялікшай асабістай бядой, або калі чуеш пра некаторых былых калег, што рэалізуюць рэжымную гістарычную палітыку ў шэрагах сяброў вядомай партыі «КВД» («Куды вецер дзьме») і паспяхова псуюць уласную біяграфію. Яе ўспамінаеш, трымаючы ў руках апошнюю кнігу *На пагранiччы эпох і дзяржаў. Старонкі гісторыі Гомеля (1917–1918)* (2021) з цёплым дарчым надпісам, датаваным першым днём гэтага года. Таксама Валя прыгадваецца з кожнай згадкай гісторыка, этнографа і эканаміста Мітрафана Доўнар-Запольскага (1867–1934), вяртанне якога ў беларускую гістарыяграфію і гістарычную памяць у вялікай ступені было менавіта яе заслугай.

Толькі цяпер, пасля сыходу Валі, многія ўсвядомілі яе асабісты ўнёсак у развіццё беларускай гістарычнай навукі на пачатку XXI стагоддзя. Дастаткова прыгадаць славутыя Доўнараўскія чытанні (Рэчыца – Кіеў), якія былі цалкам яе ініцыятывай і заслугай. Гэтыя сустрэчы былі важныя як для вывучэння навуковай дзейнасці Мітрафана Доўнар-Запольскага, так і для пашырэння кантактаў паміж беларускімі і ўкраінскімі гісторыкамі. Апошняе моцна паспрыяла развіццю гістарычнай навукі ў Беларусі. Яна рабіла тое, чаго не маглі ці не жадалі рабіць буйныя навуковыя і акадэмічныя асяродкі ў нашай краіне.

Украінскія гісторыкі часта скардзіліся на ўласную сітуацыю, бо матэрыяльныя ўмовы іх жыцця і дзейнасці ніколі не былі задавальняючымі, але ў адрозненне ад калег з Беларусі і Расіі яны мелі СВАБОДУ як навукоўцы. Дзяржава, магчыма, не дапамагала, але і не перашкаджала гістарычным даследаванням. Значэнне гэтага факта беларускія навукоўцы заўсёды добра разумелі, а гіста-

[1] Тэкст упершыню быў апублікаваны ў часопісе «Rocznik Centrum Studiów Białoruskich», 2022, tom 8, s. 298–300.

рычная палітыка ў Беларусі, галоўным суб’ектам якой у апошнія гады стала Генеральная пракуратура, гэта разуменне зрабіла яшчэ больш вострым.

Валя таксама выбрала свабоду. Магчыма, менавіта таму яна так і не абараніла дысертацыю. У Гомельскім універсітэце працяглы час выкладала курсы, далёкія ад гісторыі, а пасля сыходу на пенсію павінна была шукаць дадатковага заробку. Але якраз гэты выбар забяспечыў яе навуковыя дасягненні, а таксама павагу сяброў і калег па цэху гісторыкаў.

Наша знаёмства адбылося на адной з першых канферэнцый Беларускага гістарычнага таварыства, якое паўстала на рубяжы стагоддзяў як супольнасць даследчыкаў, гатовых працаваць у межах нацыянальна-дзяржаўнай канцэпцыі гісторыі Беларусі, прапанаванай групай прафесара Міхася Біча яшчэ ў першай палове 1990-х гг., і схільных да яе далейшай распрацоўкі. Валя ўдзельнічала амаль ва ўсіх канферэнцыях БГТ і была адным з найбольш актыўных сяброў таварыства. Навуковыя кантакты перараслі ў сяброўства. На Валю заўсёды можна было разлічваць у складаных сітуацыях, нават далёкіх ад навуковай ці грамадскай дзейнасці.

Апошняя сумесная праца была звязана з падрыхтоўкай зборніка *Мітрафан Доўнар-Запольскі: асоба ў дакументах і ўспамінах*. У архівах і бібліятэках Беларусі, Расіі, Украіны, Азербайджана, Польшчы і Літвы Валя сама і з дапамогай калег-гісторыкаў і архівістаў адшукала шмат раней невядомых дакументаў і ўспамінаў. Не маючы вялікай надзеі на выданне кнігі, яна ўсё ж пачала набіраць і каментаваць тэксты. Праблему фінансавання вырашылі, дзякуючы падтрымцы *Orsa-Romano Cultural and Educational Foundation Inc.*



*Размова з выдаўцом. Справа Аляксандр Фядута. 2011 г.*




*Абвестка аб прэзентацыі. 2021 г.*

Да падрыхтоўкі зборніка ў якасці навуковых рэдактараў далучыліся мы з Андрэем Кіштымавым. Супраца працягвалася больш за год, і не заўсёды яна была лёгкай і прыемнай. Валя была перфекцыяністкай і прад'яўляла высокія патрабаванні таксама да працы рэдактараў. Наогул маю даволі багаты досвед рэдакцыйнай дзейнасці, але магу прызнацца, што супраца з Валяй яго значна ўзбагаціла.

Дзякуючы намаганням Валі, зборнік, які выйшаў з друку напрыканцы 2020 г. у выдавецтве «Лімарыус», стаў важнай пазіцыяй у вывучэнні жыцця і дзейнасці М. Доўнар-Запольскага. На жаль, пандэмія і палітычны крызіс не дазволілі належным чынам прадставіць гэта выданне цікаўнаму да гісторыі беларускаму чытачу. У 2021 г. прэзентацыі прайшлі ў Менску, Гродне і Чарнігаве, а ў студзені гэтага года – у Нацыянальным універсітэце Украіны, у Кіеве. У апошніх прэзентацыях Валя ўжо не здолела прыняць удзел…

Пра яе хваробу я даведаўся напрыканцы верасня. Валя не адразу падзялілася гэтай інфармацыяй, а таксама тым, што лячэнне ўжо не мела ніякіх шансаў. Мы даволі часта кантактавалі ў тыя восеньскія і зімовыя месяцы. Тэлефонныя размовы звычайна тычыліся нейкіх незакончаных навуковых спраў. Вельмі хвалявалася, ці патрымае ў руках сваю кнігу пра Гомель у 1917–1918 гг., якая рыхтавалася да друку ў выдавецтве «Барк», і была вельмі ўсцешаная, калі напрыканцы 2021 г. атрымала першыя асобнікі.

Пра стан яе здароўя гаворка заходзіла зрэдку. У тых размовах Валя трымалася вельмі мужна і спакойна. Колькі каштаваў гэты спакой і як яна жыла, адчуваючы набліжэнне смерці, ніхто ўжо не даведаецца. Але нават у тыя апошнія тыдні і дні жыцця яна таксама думала пра іншых, перажывала за калег, якія страцілі працу, а некаторыя – і свабоду. Яна верыла ў вольную Беларусь, бо сама была свабодным чалавекам. А яшчэ мела пэўнасць, што сябры і калегі не здрадзяць сваёй прафесіі, а сярод новых кніг абавязкова з'явіцца грунтоўны жыццяпіс М. Доўнар-Запольскага.

*Аляксандр Смалянчук (Варшава)*

## *«Валентина… не даремно прожила життя…»*[1]

Валентина Лебедєва (Метлицька) народилася 10 березня 1955 р. За власним твердженням її захоплення білоруською історією та мовою формувалося під впливом рідних сіл батька та матері – Ларища, що на півдорозі між Гомелем та Добрушем (прикордоння, з української сторони – Городнянщина), та Остроглядово, що на Брагинщині. «Я поліщучка», «білорускість надана мені природою» – не без сентименту можна було часом почути від Валентини Михайлівни. Але переконаною білорускою її зробила Москва – опосередкований

[1] Поўная версія гэтага тэксту была апублікавана 14 лютага 2022 г. у газеце «День» (Чарнігаў). Перадрук са згоды аўтара (*заўвага рэд.*).

наслідок двотижневої музейної практики на четвертому курсі історичного факультету та ближчого знайомства з досягненнями національної культури.

Понад три десятиліття дослідниця працювала в Гомельському університеті ім. Франциска Скорини, однією з перших на початку 1992 р. розпочала викладати історію Білорусі рідною мовою. «Валентина Михайлівна принесла до аудиторії дух білоруськості», – писатимуть про неї студенти. А сама вона казатиме: «Мова – підстава до мого гонору та моя біль».

«Я зв'язана з життям та творчістю Митрофана Довнар-Запольського», – так пані Валентина говорила про свої дослідження одного з ідеологів білоруської державності, відомого нам також як засновник нинішнього КНЕУ ім. Вадима Гетьмана. Про нього вона могла розповідати годинами, а пошуку різноманітних документів присвятила понад два десятиріччя життя. Для неї Довнар – втілення духа білоруськості, тобто – власних уявлень також. Пані Валентина стала відповідальним редактором культової для нашої північної сусідки *Истории Белоруссии* авторства Довнар-Запольського. Підсумком її роботи стала книга *Мітрафан Доўнар-Запольскі (1868–1934): Асоба ў дакументах і ўспамінах*, що побачила світ 2020 року.

А ще були міжнародні конференції «Довнарівські читання», що проводилися на батьківщині науковця в місті Речиця. В 1997 р. дослідниці вдалося спокусити керівництво небідного міста (центр видобутку нафти в Білорусі), аби таким чином використати відоме ім`я для привернення до себе додаткової уваги, навіть заплющити очі на очевидний його зв`язок із БНР (офіційно не толерується в Білорусі). Дуже сучасний підхід, зі складовою економіки, чи не так? Це Валентина Лебедєва. Вона ж стала не лише автором ідеї, а й головним організатором низки згаданих наукових форумів, що проводилися через рік до вересня 2017 р. Унікальне поєднання.

Як науковець Валентина Михайлівна була переконана, що історія лише національна, це завжди національний погляд. Між іншим, це, на її думку, причина з якою не може бути спільних підручників історії навіть таких близьких і дружніх народів як білоруси й українці – завжди знайдеться те, що шокуватиме. А от поєднання зусиль для розробки близьких тем – справа дуже перспективна. До речі, до таких належить її дослідження Гомеля початку XX ст.

У січні 2019 р. під час презентації книги, що присвячувалася 100-річчю міждержавних взаємин України та Німеччини, пані Валентина зазначила: «Редактори дипломатично перестаралися, коли написали *Чернігово-Сіверщина та північне прикордоння*. Гомельщина історично – це Сіверщина». Між іншим історикиня звернула увагу на стратегічне значення залізниці в Гомелі для організації наступу червоних наприкінці 1918 р.: це ключ до Чернігова, захоплення якого відкривало шлях на Київ. *На паграніччы эпох і дзяржаў. Старонкі гісторыі Гомеля (1917–1918)*, – це її остання книга, що вийшла дру-

ком у січні цього року, вона містить розділи про перебування Гомельщини в складі Української Народної Республіки та Української Держави.

Історичні розвідки нагадують розслідування, ніколи наперед не знаєш із чим зіткнешся та до чого прийдеш, – наголошувала Валентина Михайлівна, та попереджала: «Не поспішайте, поки жива пам'ять, треба розібратися». Адже поруч люди, яким можна зробити боляче. В тому її сутність – надзвичайно високі вимоги до власної роботи, блискуча ерудиція та делікатність до свого оточення, феноменальна обов'язковість та вдячність. Як у професії, так і в повсякденному житті. В моїй родині було відомо про загибель дядька Івана, під час II світової війни десь у Білорусі. Однак знайти місце поховання солдата не представлялося можливим попри наявність документів – поховання змінювалися через ліквідацію сіл. Валентина Михайлівна взялася за справу, провела справжнє дослідження та вивела на братську могилу в селі Полісся, зрештою, забезпечила меморіалізацію.

Завдалося, вона притягує до себе добротою, з нею ставало тепліше та спокійніше. Мабуть тому часом її приватна оселя перетворювалася на неформальне осердя цвіту білоруської історичної науки, якому міг позаздрити будь-який університет.

Своїм переконанням та цінностям пані Валентина намагалась бути вірною навіть у деталях. Дуже показово – вона жила в приватному будинку свого батька, прикрашеному чудовим різьбленням по дереву, та попри явні незручності в обслуговуванні зберігала його зовнішній, дуже колоритний, типовий для місцевості вигляд. А допомагали їй в тому на дружніх волонтерських засадах співробітники музею старообрядців із Ветки.




*Валянціна Мятліцкая*
*на чарнігаўскім тэлебачанні. 2017 г.*

І знову про особисте. Дивовижним чином ми не познайомилися в 2007 р. Тоді спільно з Білоруським державним університетом редагував збірник статей, присвячених Михайлу Грушевському. Серед інших була й стаття Андрія Киштимова та Валентини Лебедєвою про співпрацю українського історика й політика з Митрофаном Довнар-Запольським. Тож все відклалося аж до 2014 р., коли ми зустріли-

ся на одному з семінарів, що проводився для підготовки проєктів транскордонного співробітництва в рамках політики ЄС Східне партнерство. Згідно одного із завдань українці та білоруси мали знайти собі партнерів. Що ми й зробили. Тоді ж автору цих рядків спало на думку похвалитися перед колегою з Гомеля згаданим виданням – факт що тут же відкрився неабияк потішив обох співрозмовників.

В наступні роки Валентина Михайлівна взяла участь в одному з проєктів, спрямованих на розвиток туризму в прикордонних областях Білорусі та України, широкому загалу він відомий під короткою назвою *Дніпровський паром*. Ба більше – в останні роки свого життя вона як професійний гід доволі часто очолювала туристичні групи й, поки було це можливо, намагалася зацікавити білорусів поїздками до України, зокрема, до Чернігова, не лише на шопінг. Аби більше знали та розуміли сусідів. Вона щиро любила Україну та хотіла передати свої почуття землякам.

У суспільному житті Валентина Михайлівна позиціонувала себе як громадянин та науковець, в жодному разі – не політик. Хоча останньою неабияк цікавилася, білоруську національну символіку захищала, а її оцінки були абсолютно відвертими та зрозумілими. 2020 року, разом із багатьма іншими білорусами, вона протестувала у відповідь на фальсифікацію президентських виборів Олександром Лукашенком. Тоді відчувалося неймовірне емоційне піднесення. «Ми самі від себе такого не очікували», – зазначила вона під час однієї з розмов. То був єдиний раз, коли ми розійшлися в оцінках – Валентина наполягала на виключно поміркованих методах у відстоюванні своїх прав, хоча й не виключала іншого перебігу подій. «Можливо, Білорусь ще чекає своя Небесна сотня», – сказала вона.

З огляду на професійні інтереси (робота в архіві, бібліотеці) Валентина Михайлівна часто бувала на Чернігівщині. Брала участь й у наукових заходах, у тому числі щорічних «Розумовських зустрічах», конференціях у Ніжинському університеті. В результаті стала цілком своєю, рідною. Існувала мовчазна домовленість – вона розмовляє білоруською, а ми (колеги-історики) – українською. Чим всі були дуже задоволені. Востаннє Валентина відвідала Київ та Чернігів у листопаді 2019 року. Планували зустрітися в січні наступного, але не склалося. А потім був ковід, небачені ускладнення для поїздок, що якось компенсувалися ледь не щотижневими розмовами за допомогою різних мобільних додатків. І приголомшлива звістка у вересні 2021 р.: «Ми більше не побачимося».

Коли людина поруч часто не усвідомлюєш, хто поруч. Тепер, через тиждень після невідворотного, біль та відчуття втрати лише посилюються. Але Валентина Лебедєва (Метлицька) не даремно прожила життя за що дяка та шана. Пам'ятаємо про неї!

*Володимир Бойко (Чернігів)*

## *Маленький некролог о большом человеке*[1]

*Вместо предисловия*

Любому священнику, может и не так часто, но все же выпадает необходимость посещения тяжко болящих людей. Самое интересное, что, как правило, нас приглашают к не всегда церковным умирающим. И тут много дилемм. С одной стороны, по мнению некоторых, визит священника – это как последняя соломинка, «а может, поможет?». И это бывает достаточно часто. Святые Таинства рассматриваются как еще один, пусть и небольшой, но шанс на выздоровление, и не более того.



*Сустрэча з акадэмiкам Барысам Патонам. 2012 г.*

Есть категория болящих, которые сами ничего не решают, за них думают родственники. Приглашают причастить человека в полуобморочном состоянии. А он и сам ничего не понимает. Зачем? Что такое Причастие? Объяснить ему уже ничего и не возможно, физически он уже не способен это воспринять. Хочется в таких случаях этим приглашающим ответить, что автоматом в Царство Небесное не зачисляют. Просто технически причастился – и вот, ты уже спасен! А спасен ли?

Одна старушка, находившаяся в момент причастия в больничной палате, отведав частицу Святых Даров, выпалила из своих уст целый фонтан крошек! Сказав при этом: «Ня укусна». Мне пришлось ползать на коленях по всей палате, собирая мелкие частички платом для причастия… А другая однажды и вовсе меня исцарапала, хотя внешне ничего и не предвещало беды. Вот что со всеми ими делать? Я и ума не приложу. Ходить к ним или отказываться? Сколько раз зарекался! А потом вновь иду с надеждой: а может, в этот раз всё будет по-другому?..

Ну а есть категория людей, которая ко встрече с батюшкой подходит более чем серьезно. Таких случаев в моей практике было всего несколько. Впервые я попал к такому умирающему лет пятнадцать назад. Он оказался директором

---

1 Тэкст упершыню быў апублiкаваны на сайце Гомельскай епархii, [online] ttps://eparhiya.by/2022/02/13/маленький-некролог-о-большом-человек/. [Дата доступа: 12.12.2022].

сельской школы. Его исповедь была самой искренней из всех, которые я когда-либо слышал. Я решил, что он практикующий христианин, настолько грамотно умирающий проанализировал свою жизнь и покаялся в своих ошибках. А какая у него была искренняя молитва ко Христу! Я такого отродясь не слышал. Самый настоящий христианин! Оказалось, что всё это он делал впервые в жизни. Это были его первые и единственные Исповедь и Причастие. Вскоре он тихо ушел к Тому, Кто стал предметом его искания…

Была еще и двадцатилетняя девушка. Ее уход был постепенным. Встреч с ней было несколько. Каждый раз она менялась. Ей становилось все хуже и хуже. Она знала, что ей уже ничем не помочь. Я был изумлен ее душевной чистотой и спокойствием. Сколько веры и доброты в ней таилось. Но самое замечательное, что у нее никогда и не возникало сомнения в том, что она уходит на встречу с Творцом!

***

Историк с лучистыми глазами, как про нее говорили друзья.

Несколько месяцев назад мне позвонил мой приятель. Его просьба заключалась в том, что со мной сильно хочет встретиться одна наша общая знакомая. С ней мы пересекались только однажды, на какой-то исторической конференции. Позже она позвонила мне сама, и на следующий день я был у нее дома.



Со слов самой Валентины Михайловны, жить ей оставалось совсем немного. И как оказалось, она давно обдумывала нашу встречу. Человек нецерковный, как сама о себе говорила. Первый ее опыт соприкосновения с Церковью оказался негативным и надолго отвернул ее от всего религиозного. И только теперь осознала, насколько была неправа в своих выводах. Оказывается, мир Церкви пёстрый, и в нем встречается порой всякое. Да и нельзя судить по одному человеку о всем сообществе…

– Если бы мне сегодня встретились такие священники, как… (тут пошло перечисление имен знакомых ей священнослужителей), я бы давно уже была в Церкви. Но, к сожалению… Сделайте со мной, всё, что положено. Моя болезнь прогрессирует. Я Ваша прихожанка, хоть я ни разу и не была у вас в храме. Но я надеюсь туда обязательно попасть. Обещайте мне, что когда со мной всё случится, именно вы меня там и отпоете. Я хочу, чтобы с хором, чтобы все было как положено! Я уже все

продумала. После вашего храма меня повезут в Ларищево, где лежат все мои родные. Это все по пути… У меня кое-что для вас есть!

Валентина Михайловна передала мне старинную богослужебную книгу.

– Вы лучше знаете, как ей распорядиться…

Я приходил к ней довольно часто. Мы вместе молились и беседовали. Как бывший редактор, она помогла мне с моей давней письменной работой, указав все ее недостатки. А еще мы успели начать работать над потрясающим фотоальбомом дореволюционного священника иерея Александра Афонского, служившего некогда на родине семьи Валентины Михайловны. Мы даже создали особый чат для совместной работы.

Много вопросов, много предположений и догадок. Масса интересных личностей и событий. Потрясающие пейзажи и семейные открытки. А какие интересные семейные предания вокруг героев этого альбома! Порядка 165 фотографий и открыток! Нам казалось, что эта работа придала ей новый жизненный импульс. Она словно погрузилась в быт дореволюционного села и глубоко прониклась личностью главного героя фотоальбома, составив его психологический портрет.

Валентина Михайловна приложила немало усилий к обработке информации, содержащейся в фотоальбоме. Мы (участники этого проекта, а это еще три человека) были безмерно рады возможности потрудиться вместе с таким удивительным и светлым человеком. Надеюсь, что издание вскоре увидит свет. И, по сути, оно станет последней книгой, в написании которой она принимала непосредственное участие. К слову сказать, Валентина Михайловна – потрясающий педагог, историк и писатель. Ее перу принадлежит несколько книг по истории Гомельщины и множество различных статей.

Уходила она тяжело. Два дня подряд я ее причащал. Этих встреч она ожидала с нетерпением. Когда я пришел в первый из этих дней, Валентина Михайловна радовалась, как ребенок! Она буквально светилась! После причастия мгновенно уснула. Причем так мирно и тихо… Пробудившись, первое, что она спросила: «Где батюшка?».

Мне позвонил ее брат и сказал, что она меня ждет. Вечером, окончив богослужение, я снова заехал. В этот раз я прочел канон Пресвятой Богородице и отходные молитвы, после чего она вновь крепко уснула и проспала всю ночь.

Утром я опять посетил ее. Причастившись, Валентина Михайловна взяла мою руку и широко заулыбалась. Ее глаза лучились…

– Мы еще встретимся. У нас много работы!

Это последнее, что я от нее услышал.

Отпевание Валентины Михайловны состоялось на третий день после ее ухода, как она и просила. Храм до отказа наполнился людьми. Пришли ее коллеги из университета, представители архивов и нескольких музеев, а также ее

многочисленные друзья. По словам одного из близких ей людей, Валентина Михайловна была одним из лучших историков нашего региона. Ее имя было известно далеко за пределами Гомеля.

Я рад, что ей удалось встретить в своей жизни Христа. Пусть и путь этот был таким долгим. А еще я надеюсь, что теперь она сможет задать все свои вопросы и герою нашего фотоальбома – о. Александру Афонскому...

А глаза у нее и впрямь лучистые!

*Протоиерей Александр Лопушанский,*
*председатель Комиссии по канонизации святых (Гомель)*

ISSN 2424-5216

# ЯК НАЦЫЯ ВУЧЫЛАСЯ СПЯВАЦЬ: ЖЫЦЦЁ І ДЗЕЙНАСЦЬ АНТОНА ГРЫНЕВІЧА

***Яніна Грыневіч,***
*канд. філ. навук (Менск)*

***Summary***

*The article is devoted to the collector of folklore, composer, publisher and educator Anton Hrynievič (1877–1937). On the basis of archival sources, new data related to his biography and views are introduced into scientific circulation. His ideas and views on folklore in the process of national revival are characterized in the context of time, the main approaches to the collection of Belarusian folklore and its popularization are revealed, his contribution to the development of Belarusian culture is evaluated.*

Імя Антона Грыневіча – збіральніка фальклору, кампазітара, педагога і выдаўца – не раз намагаліся сцерці з гісторыі беларускай культуры. Ён быў рэпрэсаваны, некаторыя з надрукаваных ім прац былі канфіскаваны і знішчаны, а яго спадчына была раскідана па розных архівах і музеях і толькі часткова апублікавана. Даследчыкамі была зроблена вялікая праца па вяртанні яго імя найперш як фальклрыста-збіральніка і выдаўца. Аднак зробленае і задуманае ім нашмат шырэйшае. Мэта артыкула – увесці ў навуковы зварот новыя матэрыялы, звязаныя з дзейнасцю Антона Грыневіча, ахарактарызаваць яго погляды і ідэі ў кантэксце часу, ацаніць яго ўнёсак у развіццё нацыянальнай культуры.

Антон Грыневіч цікавіць даследчыкаў найперш як збіральнік песень. Пачынаючы з нарыса Арсеня Ліса «Песня прасілася ў свет»[1] (1966), у якім вядомы фальклрыст наноў адкрыў постаць гэтага «рупліўца на ніве беларушчыны», цікавасць да яго асобы не знікала. Пяру А. Ліса належыць таксама шэраг энцыклапедычных нататак, дзе

[1] А. Ліс, *Песня прасілася ў свет*, «Полымя», 1966, № 2, с. 151.

асвятляюцца асноўныя этапы дзейнасці А. Грыневіча[1]. Вынікі даследаванняў вучоны абагульніў у грунтоўным артыкуле *Пакліканы песняй*[2] (1997), што ўвайшоў у том *Выбранае* з серыі «Беларускі кнігазбор». На сённяшні дзень гэта публікацыя – найбольш поўная біяграфія Антона Грыневіча.

Новыя звесткі, што датычылі розных перыядаў жыцця і дзейнасці, былі апублікаваны ў працах М. Нікалаева[3], Н. Крыловіч[4] ды інш. Абагульняючыя біяграфічныя дадзеныя прыводзяцца ў шэрагу выданняў, прысвечаных рэпрэсаваным беларускім навукоўцам і дзеячам культуры[5]. Дзейнасць А. Грыневіча асвятлялася ў працах Сцяпана Александровича[6], прысвечаных развіццю выдавецкай справы ў пачатку XX ст. (1967). Л. Доўнар[7] разглядала дзейнасць выдавецкай суполкі «Загляне сонцэ і ў наша ваконцэ», а таксама ролю і месца прыватнага выдавецтва А. Грыневіча ў працэсе культурнага Адраджэння. Г. Запартыка[8] і Т. Кабржыцкая[9] характарызавалі ўзаемадачыненні паміж выдаўцом і «Нашай Нівай».

Дадзены артыкул грунтуецца на архіўных крыніцах. У першую чаргу гэта матэрыялы са збораў Віленскага беларускага музея імя І. Луцкевіча – бадай самай аўтарытэтнай навукова-даследчай установы, што займалася сістэматычным выяўленнем, зборам і захаваннем культурнай спадчыны беларусаў у міжваенны перыяд. Частка архіва Антона Грыневіча, якая належала музею,

---

1 А. Ліс, *Грыневіч Антон Антонавіч*, [у:] *Беларускі фальклор: энцыклапедыя*. У 2 т., т. 1. Рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) [і інш.], Мінск 2005, с. 370; А. Ліс, *Грыневіч Антон Антонавіч* [у:] *Янка Купала: энцыклапедыя*. У 3 т., т. 1. А–З, Мінск 2017, с. 270.

2 А. Ліс, *Пакліканы песняй*, [у:] Ён жа, Выбранае, Мінск 2014, с. 232–242.

3 М. Нікалаеў, *Беларускі Пецярбург*, Санкт-Петербург 2009.

4 Н. Крыловіч, *Улюбёны ў песню*, «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі», 1980, № 1, с. 14–15.

5 *Возвращенные имена: Сотрудники АН Беларуси, пострадавшие в период сталинских репрессий*. Сост. и авт. предисл. Н. В. Токарев. Под ред. А. С. Махнача, Мінск 1992.

6 С. Александровіч, *Пуцявіны роднага слова*, «Полымя», 1967, № 8, с. 208–221.

7 Л. Доўнар, *Выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша аконца»*, «Роднае слова», 2006, № 8, с. 82–83; яна ж, *Выдавецтвы Антона Грыневіча і «Грамады»*, «Роднае слова», 2006, № 8, с. 85.

8 Г. Запартыка, *Антон Грыневіч і «Наша Ніва»* (Па матэрыялах Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва), [у:] *Ісці на святло лабірынтамі даўніх падзей: зборнік памяці Віталя Скалабана*, Мінск 2013, с. 210–226.

9 Т. Кабржыцкая, *Антон Грыневіч – паплечнік Язэпа Драздовіча (паводле архіўных дакументаў)*, [у:] *Матэрыялы навук.-краязнаўч. канферэнцыі «Шляхамі Язэпа Драздовіча»: Да 125-годдзя з дня нараджэння беларус. мастака, пісьменніка і грамадскага дзеяча (24 красавіка 2013 г.)*, Маладзечна 2013, с. 210–214.

знаходзіцца ў Менску ў фондзе Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва[1]. Багатая калекцыя запісаў беларускага фальклору, рукапісы спеўнікаў і асабістая перапіска А. Грыневіча была набыта аддзелам рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі[2]. Частка матэрыялаў – у фондах архіва Інстытута літоўскай літаратуры і фальклору. Яна была «пераадкрыта» спецыялістамі толькі ў пачатку XXI ст.[3] Даволі падрабязную характарыстыку гэтым музейным зборам далі літоўская фальклорыстка Аўшра Жычкене[4] (2006) і беларускі мастацтвазнавец Вольга Лабачэўская[5]. В. Лабачэўская вызначыла, што найбольшую дакументальную спадчыну гэтых архіўных збораў складаюць матэрыялы, сабраныя А. Грыневічам. Іх лаканічны агляд зрабіла Ю. Рэзнік, магістрантка В. Лабачэўскай[6].



*Антон Грыневіч. 1930-я гг. АРКіР НАНБ*

Прафесійную дзейнасць Антона Грыневіча пасля пераезду ў БССР асвятляюць матэрыялы з фонду Інстытута беларускай культуры Цэнтральнага навуковага архіва НАН Беларусі[7]. Акрамя таго, былі выкарыстаны дзве вядомыя аўтабіяграфіі А. Грыневіча, першая[8] з якіх напісана на замову фальклярыста Клімента Квіткі, а другая[9] – пасля арышту ўвосень 1933 г.

---

[1] Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛіМ), фонд 3.

[2] Аддзел рэдкай кнігі і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі (ЦНБ НАНБ), фонд 15.

[3] Lietuvių literatūros ir tautosakos institutas (LTR). Antonos Hrynewiczas fondas.

[4] A. Žičkienė, *Baltarusių tautosaka iš Vilniaus Ivano Luckevičiaus gudų muziejaus lietuvių tautosakos rankraštyne*, «Tautosakos darbai», XXXII, Vilnius 2006, p. 242–255.

[5] В. Лабачэўская, *Фальклярыстычны архіў Беларускага музея імя Івана Луцкевіча: вяртанне праз 65 гадоў*, «Homo Historicus» 2012. Гадавік антрапалагічнай гісторыі, 2012, с. 465–486.

[6] Ю. Рэзнік, *Антон Грыневіч – выбітны этнамузыколаг і адраджэнец* (*па матэрыялах Інстытута літаратуры і фальклору Літвы*), [online] https://pawet.net/library/history/bel_history/_miscellany/z_egu/reznik1/Рэзнік_Ю._Антон_Грыневіч.html. [Дата доступу: 17.04.2021].

[7] Цэнтральны навуковы архіў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, ф. 67.

[8] Российский национальный музей музыки (РНММ), фонд Квитки. Ф. 275, ед. хр. 362.

[9] Аўтабіяграфія з прыватных збораў А. С. Ліса.

Антон Грыневіч нарадзіўся 3 мая 1877 г. на хутары Іваноўшчына Віцебскай губ. Лепельскага пав. Шпакоўскай воласці. Бацька Антон Пятровіч Грыневіч і маці Фаўстына Сымонаўна Кеўліч паходзілі з беззямельнай шляхты, былі землярабамі. Паводле звестак, што прыводзіў П. Сапуноў у выданні «Список населенных мест Витебской губернии» (1906), фальварак Іваноўшчына знаходзіўся пры рацэ Нача, меў адзін двор і 38 дзес. зямлі, жыхароў – 8 (4 мужчыны і 4 жанчыны). Яго ўладальнік – Грыневіч, дваранін, каталік, які належаў да Загацкай каталіцкай парафіі[1].

Антон Грыневіч пачаў навучанне ў 1885 г. у народнай школе, затым у 1890 г. скончыў Дзісненскае гарадское вучылішча, пасля чаго вярнуўся на сваю малую радзіму. Паводле аўтабіяграфіі, перыяд 1891–1895 гг. мінуў у працы па гаспадарцы, бо «бацька памёр яшчэ ў 1887 г., а старшы брат – гаспадар на зямлі ня дбае аб маёй далейшай адукацыі»[2].

У 1896 г. ва ўзросце 19 гадоў пераехаў у Пецярбург, дзе адзін з яго братоў працаваў дробным чыноўнікам[3]. Спачатку служыў у Казённай палаце, затым у Дэпартаменце гандлю і прамысловасці ў якасці перапісчыка. У Дэпартаменце служыў да 1915 г., займаючы канцылярскую пасаду з пенсіяй 30–45 руб. у месяц. Паралельна, адчуваючы недахоп адукацыі, з 1900 г. працягнуў навучанне на вячэрніх курсах. У 1902–1905 гг. праслухаў агульныя сярэднеадукацыйныя курсы Шклоўскага ў аб’ёме праграмы навучання кадэцкага корпуса.

Вартая асобнай увагі гісторыя атрымання музычнай адукацыі. Будучы збіральнік песень авалодаў музычнай граматай у Дзісенскім гарадскім вучылішчы[4]. У Пецярбургу працягнуў адукацыю ў бясплатнай музычнай школе пад кіраўніцтвам кампазітара-рамантыка і аматара фальклору Сяргея Ляпунова. Антон Грыневіч спяваў у хоры гэтай школы, дзе «папаўняў свае тэарэтычныя веды і набываў музычна-харавую практыку»[5]. Акрамя таго, ён браў прыватныя ўрокі ў артыста Артура Мансуэ[6]. Адначасна кансультаваўся з кампазітарамі, што жылі ў Пецярбургу, вучыўся апрацоўваць народныя песні. Сярод асоб, якія аказалі на яго найбольшы ўплыў, быў малады літоўскі кампазітар Стасіс Шымкус.

---

1 *Список населенных мест Витебской губернии*, под. ред. А. П. Сапунова, Витебск 1906, с. 195.

2 РНММ, фонд Квіткі, ф. 275, адз. зах. 362.

3 А. Ліс, *Песню ў спадчыну*, Мінск 1989, с. 142–143.

4 Тамсама, с. 143.

5 П. Каруза, *Музычная спадчына Антона Грыневіча*, «Мастацтва Беларусі», 1983, № 9, с. 43.

6 Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, ф. 401, воп. 1, спр. 1, арк. 70.

Пасля Пецярбурга Грыневіч працягнуў музычную адукацыю ў Вільні, дзе ў лістападзе 1922 г. скончыў курсы спеваў для настаўнікаў польскіх школ і кіраўнікоў хораў, атрымаў кваліфікацыю вакальнага педагога[1]. Але асноўныя веды ён атрымаў дзякуючы няспыннай самаадукацыі. У гэтым, як успамінаў яго вучань кампазітар і фальклярыст Павел Каруза, «яму дапамагала прыроджаная музычная адоранасць, абсалютны слых і незвычайная працаздольнасць»[2].

### *Пецярбург. Станаўленне беларускага дзеяча*

У Пецярбургу адбылося станаўленне поглядаў Антона Грыневіча. Тут ён блізка сышоўся з Браніславам Эпімах-Шыпілам, Браніславам Тарашкевічам, Вацлавам Іваноўскім ды інш. Блізкі сябра гэтага часу – Янка Купала, які пераехаў сюды ўвосень 1909 г. У чэрвені 1910 г. у кампаніі з паэтам і Б. Эпімах-Шыпілам ён здзейсніў падарожжа ў Фінляндыю на вадаспад Іматра[3]. Збіральнік натхніў Янку Купалу на запіс народных песень, і ўлетку 1911 г. яны разам працавалі ў Акопах. Адзін запісваў словы песень, а другі – мелодыі. Адна з асноўных інфармантак – сястра паэта Леакадзія Луцэвіч. У той жа час А. Грыневіч паклаў на музыку вершы паэта з цыкла З *песень мужыцкіх*[4].

У Пецярбургу ён абраў некалькі кірункаў дзейнасці па-за асноўнай службай, якія разумеў як працу на карысць нацыянальнага Адраджэння. Найперш – гэта збіранне фальклору. «З 1906 г. я аддаюся ў свабодны час працы на карысць нацыянальнага і культурнага адраджэння Беларусі. Перш за ўсё пачынаю зьбіраць бел[арускія] нар[одныя] песьні, прабуючы разам з тэкстамі запісываць і мэлёдыі. Праца гэта была па часе, бо трэба было арганізаваць пакуль што хоць сьпявацкія гурткі і даваць ім песенны матар'ял», – пісаў ён у аўтабіяграфіі[5]. Такая ўвага да песні абумоўлена тым, што збіральнік лічыў песню найважнейшай этнавызначальнай прыкметай беларусаў, якая, з аднаго боку, мела старажытнае паходжанне, а з другога, – увасобіла ўсе этапы гістарычнага лёсу народа. Паводле меркавання А. Грыневіча, у эпоху маштабных змен палітычнай і культурнай сітуацыі народная песня магла служыць новым задачам – стаць асновай для стварэння нацыянальнай культуры. Найперш гаворка ішла пра стварэнне кампазітарскай музыкі на аснове фальклору. Гэта адна з ключавых для свайго часу ідэй, якая будзе падхоплена і развіта многімі культурнымі дзеячамі: Юліянам Дрэйзіным, Уладзімірам Дубоўкам, Міколам

---

[1] LTR 7579 / II–8.

[2] П. Каруза, *Музычная спадчына Антона Грыневіча*, с. 43.

[3] J. K. *S Finlandii*, «Naša Niwa», 1910, № 29, s. 6–7.

[4] LTR 7579 / II–7.

[5] РНММ, фонд Квіткі, ф. 275, адз. зах. 362. (*Тут і далей цытаты з захаваннем моўных асаблівасцей арыгінала – Я. Г.*)

Равенскім ды інш. Яе рэалізацыя прадугледжвала наступныя этапы: 1) збор матэрыялу; 2) яго апрацоўку; 3) выданне спеўнікаў.

Каб прыцягнуць да запісу песень як мага больш людзей, у 1909 г. у газеце «Наша Ніва» А. Грыневіч надрукаваў артыкул *Песня і народ*[1], у якім паказаў важную ролю народнай песні ў працэсе нацыянальнага Адраджэння і заклікаў далучацца да фіксацыі песень. Аўтар арыентаваўся на настаўнікаў, якія ведалі лепшых спевакоў у ваколіцах. Імкнучыся прыцягнуць да працы моладзь, ён выступаў з лекцыяй «Беларуская народная музыка» перад сябрамі «Беларускага навукова-літаратурнага гуртка студэнтаў Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта»[2]. Ён імкнуўся зрабіць збіранне сістэматычным, паставіць яго на навуковыя рэйкі. Дзеля гэтага распрацаваў і надрукаваў «Лісток для запісі беларускай песьні»[3]. Лісток прызначаўся для карэспандэнтаў, якія самастойна запісвалі фальклорныя творы. Гэта была кароткая інструкцыя і метадычныя рэкамендацыі па фіксацыі песень.

Сабраныя народныя песні для далейшага выкарыстання падлягалі апрацоўцы, якой Антон Грыневіч удзяляў вялікую ўвагу. Ён рыхтаваў творы да выканання і ўключэння ў спеўнікі як з музычнага (гарманізацыю), так і з тэкставага боку. Калі тэксталагічная работа магла быць выканана ім самастойна, то за апрацоўку мелодый збіральнік узяўся не адразу, паколькі паступова ўдасканальваў свае веды і павышаў кваліфікацыю ў сферы музыказнаўства. П. Каруза ўспамінаў: «Спачатку запісаныя Грыневічам песні апрацоўвалі Шымкус у Пецярбургу, Шыдла пры дапамозе Рагоўскага ў Вільні, Бароўскі ў Васілішках і іншыя. Сам Грыневіч за гарманізацыю сваіх запісаў адразу не браўся: ён лічыў сябе да гэтага недастаткова падрыхтаваным»[4].

Нягледзячы на захаванне дыялектных асаблівасцей пры запісе, у спеўніку «змест тэксту песень павінен быць надрукаваны па ўстаноўленым правапісу і пісьменнай мове, не захоўваючы этнаграфічных асаблівасьцей»[5]. Разлік быў зроблены на тое, што спеўнікі будуць зразумелымі і даступнымі для максімальна шырокай аўдыторыі.

Другі занятак – выдавецкая дзейнасць, накіраваная на пашырэнне друкаванага беларускага слова. У 1908 г. Антон Грыневіч пачаў дапамагаць выдавецкай суполцы «Загляне сонцэ і ў наша ваконцэ». Пазней пры пераключэнні

---

1 A. Hr., *Pieśnia i narod*, «Naša Niwa», 1909, № 30.

2 Белорусский научно-литературный кружок студентов С.-Петербургского университета [у:] Санкт-Петербургский государственный университет [online] https://history.museums.spbu.ru/b/details/1/620.html. [Дата доступу: 21.03.2022].

3 LTR 7579/II–8.

4 П. Каруза, *Музычная спадчына Антона Грыневіча*, с. 43.

5 НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 77, арк. 99.

дамовы ў красавіку 1909 г. яго імя і прозвішча з'явілася ў спісе сяброў-заснавальнікаў. Ён паспяхова вёў канцылярыю і рахункі, вырашыў фінансавыя пытанні, што паўсталі ў суполцы. З далучэннем збіральніка да працы ў сферу яе інтарэсаў трапілі фальклорныя творы. Ад імя суполкі ён склаў адозву[1], дзе пазначыў планы па збіранні народных песень разам з нотамі для далейшай публікацыі і стварэння бібліятэкі музычных твораў.

Атрымаўшы неабходны досвед, Грыневіч адкрыў прыватнае выдавецтва. У пачатку 1910 г. выйшаў з друку яго першы зборнік *Biełaruskije pieśni z notami*[2]. У прадмове аўтар чарговы раз сцвердзіў ролю песеннага фальклору ў працэсе культурнага развіцця, а ролю друкаваных спеўнікаў нароўні са зборнікамі мастацкай літаратуры – у пашырэнні беларускага друкаванага слова. Збіральнік усведамляў сябе першапраходцам у справе выдання папулярнай музычнай літаратуры такога фармату. Другі том спеўніка[3], матэрыялы для якога былі сабраны разам з А. Зязюлем, пабачыў свет праз два гады.

Песні, што ўвайшлі ў зборнікі, набылі папулярнасць не толькі сярод беларусаў, але і ў замежжы. Спрычыніўся да апошняга нямецкі журналіст Вальтэр Егер, які ў 1919 г. выдаў па-нямецку першую кнігу, прысвечаную Беларусі, яе культурнаму і сацыяльнаму развіццю, пад назвай *Weissruthenien. Land, Bewohner, Geschichte, Volkswirtschaft, Kultur, Dichtung*[4]. У апошнім раздзеле ў перакладзе прафесара Рудольфа Абіхта і Э. Вейцман былі прадстаўлены беларускія народныя песні ў перакладзе на нямецкую мову, узятыя з гэтых зборнікаў[5]. Акрамя гэтага за ўласныя сродкі ў 1910–1913 гг. А. Грыневіч выдаваў мастацкую літаратуру – зборнік твораў Янкі Купалы *Гусляр*, паэму *Адвечная песня*, і кнігі Якуба Коласа *Прапаў чалавек*, *Тоўстае палена*, *Нёманаў дар*, а таксама першую кнігу Уладзіслава Галубка *Апавяданні*, зборнікі навэл *Праклёнашы* Гвазда і *Аб чым шэпацелі лісьця* Таўруса. Гэту дзейнасць прыпыніла Першая сусветная вайна.

### Вайна

У сярэдзіне 1915 г. Антон Грыневіч быў мабілізаваны ў армію ратнікам апалчэння[6]. Спачатку служыў у канцылярыі 343-й Навагрудскай дружыны ў Гатчыне, потым у інтэндацкай краме. Урэшце быў прызначаны ваенным чыноўнікам па ўліку інтэндацкіх грузаў, што праходзілі праз станцыю Балагое

[1] БДАМЛМ, ф. 3, воп. 1, спр. 37, арк. 12.

[2] *Biełaruskije pieśni z notami*. Sabraŭ i wydaŭ A. Hryniewič, t. 1, Pieciarburh 1910.

[3] *Biełaruskije pieśni z notami*. Sabrali A. Hryniewič i A. Ziaziula, t. II, Pieciarburh 1912.

[4] W. Jäger, *Weissruthenien: Land, Bewohner, Geschichte, Volkswirtschaft, Kultur, Dichtung*, Berlin 1919.

[5] Ibidem, s. 132–135.

[6] A. Ліс, *Песню ў спадчыну*, с. 144.

на Паўночны фронт. Ён адчуваў гэты час – 1917 г. – як свабодны і пераломны для развіцця беларускай справы, таму востра перажываў адарванасць ад цэнтраў культурнага жыцця – Менска і Петраграда. Нягледзячы на загружанасць на службе, ён не пакінуў дзейнасці на карысць беларускай справы. Шляхам перапіскі працягваў кантакты з дзеячамі нацыянальнага руху, абмяркоўваў планы па стварэнні беларускай бібліятэкі і клуба. Таксама спрабаваў праз Язэпа Варонку заснаваць беларускую газету, без якой «беларуская справа гіне»[1]. Захаванае ліставанне сведчыць, што Грыневіч вырашыў перадаць частку надрукаваных ім кніг Я. Варонку з умовай, што прыбытак ад продажу павінен пайсці на выданне газеты[2].



*А. Грыневіч у час службы на чыгуначнай станцыі Балагое. 1917 г. БДАМЛМ*

Ён разлічваў на камерцыйна паспяховы праект, а таму даваў практычныя парады па арганізацыі друкарні: «Друкарні Пянткоўскага не купляйце, бо гэта будзе страта і петля на шыю. Здымайце лепш кватэру на першым этажы з двух – трох пакояў не сырых; каб было хоць акно на вуліцу, ніхай гэта каштуе ў месяц 50–60 р., купляйце ў сталялітне «Лемана» шрыфт, скольні трэба на набор газеты такой як «Грамада», і купіце пры здарэньні машыну для друку. Альбо зрабіце 3–5 абвестак, можа знайдзецца гатовая друкарня з адным друкарскім станком, такім вялікім, каб можна друкаваць две страніцы газэты прымерна вялічынёй Грамадзе. Такім парадкам друкарня абойдзецца і танна і не будзе рыску – іначэй гаворачы, можна за 30 тысячоў і друкарню мець, і паперу купіць, і газэту, і кніжкі выдаваць, і на другі час абяспечыць інтэрэс…»[3].

Але асноўная праца гэтага перыяду – падрыхтоўка падручніка па музыцы для дзяцей. Антон Грыневіч лічыў музыку адным з найважнейшых сродкаў гарманічнага развіцця чалавека. У гэтай справе шмат залежала ад наяўнасці падручніка і зразумелай музычнай тэрміналогіі. Ён узяўся за працу: «У сваёй працы аўтар кіраваўся мэтай даць магчымасць грамадзянству, праз адпаведны навучнік, без

[1] БДАМЛМ, ф. 3, воп. 1, спр. 219, арк. 43 адв.

[2] Тамсама, арк. 50 адв.

[3] Тамсама, арк. 50 адв. – 51.

вялікага высілку пазнаць і выкарыстаць у поўнай меры сваю народную песьню, каторая, пры бліжэйшым яе разглядзе, мае поўнае права займаць роўнае месца сярод песьняў другіх народаў. Дзеля гэтага, пры вытлумачэньні музыкальных правілаў, аўтар стараўся замяніць па магчымасьці усе чужаземныя словы сваімі, выводзячы іх з караня роднай мовы. Рабіў гэта дзеля таго, што на практыцы навука, перамешаная чужымі словамі, не асіліваецца бяз доўгай цяжкой працы»[1].

Падрыхтаваны *Навучнік* прызначаўся для шырокага карыстання пры навучанні музыцы ў школах, а таксама мог быць выкарыстаны для самаадукацыі. У той жа час А. Грыневіч падрыхтаваў да друку брашуру *Як трымацца змалку*[2], якая давала дзецям базавыя ўяўленні пра культуру паводзін і этыкет.

У адзін з выездаў у Петраград у 1917 г. на кватэры Б. Эпімах-Шыпілы Грыневіч пазнаёміся з Язэпам Драздовічам, што становіцца знакавай падзеяй для іх абодвух. Грыневіч адчуў, што знайшоў аднадумцу і паплечніка для будучых спраў. Ён з натхненнем дзяліўся планамі на будучыню: «Думаючы пра Вас, дужа радуюся ў душэ, што з Вамі пазнаёміўся і знайшоў у Вас цэннаго чэлавека, с каторым можна вялікія справы зрабіць. Пакуль я на ваеннай службе ды так сама і Вы, за нічога брацца ня можна, але як скончыцца вайна вазьмімся шчыра разам за выконаньне нашых ідэй аб каторых мы ўжо талкавалі. Грошы якіе маю і уся маёмасьць мая у выданьнях і рэчах будзе служыць нам абаім зароўна, а ўсіо запрацаванае будзім рахаваць папалам. Вы са сваёй павінны будзеце рабіць для агульнай справы, што патрэба пакажэць. Па майму розуму інтэрэс трэба будзе паставіць так: Хватаграфічная працоўня і што датычыць маліоніцтва (сэкція штукарства) будзіць пад Вашым загадам і даглядам і пад Вашым іменьнем, а сэкція музыкі і тэатральных твораў у маіх руках – як і самае іх выданьне. Кожнага заданьне будзе такое, каб удасканаліць і падняць на вышыню належную сваю сэкцію.

Гаварылі мы яшчэ аб лекарных травах. Яшчэ да Вас думаў аб гэтым, але вайна ды і падхадзячага хаўрусьніка не было, так гэта ў думцэ толькі і засталося. Зробім гэта дужа ліогка – зімля патрэбная будзіць, толькі-б вайна скончылася. Пакуль вы знаходзіцеся на віосцэ, цікаўцеся гэтай справай бо гэта справа вялікая дзеле таго, што мой брат хімік і паможэць устроіць лябіраторыю для выдабыцьця масла, смол, экстрактаў і т. д. з лекарных траў»[3].

Іх сяброўства і сумесныя планы знайшлі ўвасабленне ў сумесным зборы фальклору. Разам яны запісалі песні маці мастака Юзэфы Драздовіч на яго малой радзіме ў ваколіцах пушчы Цытавізна[4]. У 1920-я гг., жывучы ў адным доме ў Вільні, ладзілі сумесныя вандроўкі-экспедыцыі. Язэп Драздовіч выступіў

[1] А. Грыневіч, *Навука спеву* (*правілы і практыка*), Вільня 1923, с. 3.

[2] А. Грыневіч, *Як трымацца змалку*, Вільня 1920.

[3] АРКіР ЦНБ НАНБ, ф. 2, воп. 1, адз. зах. 49, арк. 5.

[4] Тамсама, ф. 15, воп. 1, адз. зах. 8.

мастаком-афарміцелем выдання *Школьны сьпеўнік*, што пабачыў свет у 1920 г. Апрача таго, ён быў аўтарам двух партрэтаў Антона Грыневіча.

Многія задумы перыяду службы на ст. Балагое ляглі ў аснову яго дзейнасці на пасадзе загадчыка пададдзела навукі і мастацтва ў Культурна-асветніцкім аддзеле Белнацкама. Магчымасць перайсці на гэту пасаду з'явілася ў 1918 г., калі Антон Грыневіч атрымаў дазвол Камісіі па ліквідацыі спраў і перапіскі па пераадпраўцы інтэндацкіх грузаў з Балагоеўскага чыгуначнага вузла.

## *Масква. Праца ў Белнацкаме*

Пераход у Белнацкам суправаджаўся вялікімі надзеямі. Антон Грыневіч распрацаваў грунтоўны план працы свайго пададдзела, які ўключаў музычна-этнаграфічную частку (мастацкую апрацоўку і выданне найлепшых узораў беларускіх народных песень, падрыхтоўку інструкцый для збіральнікаў фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў), тэатральную (пошук загадчыка тэатра для працы з хорам і падрыхтоўкі пастановак, адкрыццё клуба і суполкі «Злуч[энне] ахвотнікаў беларускага музыкальнага і тэатральнага штукарства»), выдавецкую (адкрыццё уласнай друкарні, выданне 8 найменняў кніжнай прадукцыі і часопіса), навуковую (стварэнне камісіі па падрыхтоўцы падручнікаў і кніг для народнага чытання, стварэнне слоўнікавай камісіі).

Пасля зацвярджэння плана Грыневіч звярнуўся да этнографаў у пошуках старых запісаў беларускіх народных песень, пачаў збіраць бібліятэку, перавёз друкарскія шрыфты для арганізацыі друкарні. Як кіраўнік беларускага хора пры Белнацкаме, арганізаваў літаратурна-музыкальны вечар для святкавання першай гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі[1], які прайшоў 8 лістапада 1918 г. У праграме вечарыны былі беларускі хор, дэкламацыя, прамовы і сольныя спевы беларускіх песень. З урачыстымі прамовамі выступілі Іван Лагун і Змітцер Жылуновіч. Хор спяваў Інтэрнацыянал, беларускі гімн *Не загаснуць зоркі ў небе*, беларускую «Марсэльянку» і беларускія народныя песні. Свае вершы чытаў Цішка Гартны, з дэкламацыямі выступілі Алесь Бурбіс, Усевалад Фальскі, Я. Лапаць і Пётр Мятла.

Вечарына сабрала шмат народу і мела поспех. Асабліва адзначалася заслуга Грыневіча: «За пекную пастанову усяе вечарынкі трэба падзякуваць супрацоўніку Беларускаго Нацыянальнаго Камісарыяту А.А. Грыневічу, на катораго была узложана уся праца па арганізацы вечарынкі і ён, бадай што адзін, ня боляй як за адзін тыдзянь, патрапіу і хор злучыць, і салістау падабраць і, нават, усю тэхнічную працу выпаўніць»[2]. У канцы 1933 г., будучы арыштаваным, збіральнік узгадаў гэты артыкул у аўтабіяграфіі ў пацвярджэнне сваёй падтрымкі савецкай улады.

---

1 LTR 7579 / II–8.

2 Зм. Чернушэвіч, *Беларуская вечарынка*, «Дзянніца», 1918, № 38, с. 3.

## *Менск*

У самым пачатку 1919 г. Антон Грыневіч пераехаў у Менск. Магчымая прычына – абвяшчэнне БССР у Смаленску 1 студзеня 1919 г. і пачатак працы Часовага ўрада. Верагодна, адыграў сваю ролю і недахоп фінансавых сродкаў для рэалізацыі зацверджаных планаў у Белнацкаме. Было спадзяванне знайсці грошы на выданне кніг у Менску.

Сярод архіўных дакументаў захаваўся чарнавік звароту Грыневіча ў Прэзідыум Часовага ўрада ССРБ[1], які тлумачыць прычыны раптоўнага пераезду, а таксама перадае яго тагачаснае становішча і ўмовы жыцця: «Справа мая стаіць так. Раз'язджаючы па Беларусі што год (1–2 разы), за 8 гадоў запісаў больш 300 музыкальных народных твораў. Выдабыў на гэта ўсё, што меў у запасе і змог зберагчы з заробку на тагдашняй службе. Апроч таго улажыў на гэта многа асабістай цяжкай працы. З усяго сабранага матэрыялу цяпер я выбраў 55 найлепшых запісаў як песень, так і скокаў для гармонізацыі для тэатру і школы, і хачу гэты матэрыял сам вывясьці на сьвет, апрацаваўшы яго лепшымі навукова-муз[ычнымі] сіламі, знаючымі нар[одную] музыку.

Гэты, так дорага дастаўшыся матэрыял, я ніколі не атважуся аддаць абы каму у рукі для пераробкі, так каб ён стаў непадобны да нашай нар[однай] муз[ыкі] і ня вышло з ім таго, што мы маім на сцэне Тутэйшага тэатру. Вось гэтые матэрыялы я здаў у гармонізацыю прафес[ару] муз[ыкі] Грэчанінаву, каторы ўхадзіў у склад Расійскай муз[ыкальна] этногр[афічнай] Камісіі ў Маскве по гарм[онізацыі] нар[однай] і белар[ускай] песні, як найлепш знаёмага з бел[арускай] нар[однай] музыкай.

Пры гэтым са сваіх грошай даў задатак і абецаўся да 15 январа заплаціць за тую работу, каторая будзіць зроблена к таму часу, і даць яшчэ задатак на апрацоўку астатняга матэр'ялу згодна з умовай. Тым часам грошы на гэта, як спадзеваўся, ад Камісарыяту я не дастаў, жыць у Менску дзеле дарагавізны не магу пражыўся да апошняга. Мушу ўсё кідаць (у тым і думку аб выдав[анні] школьных падручнікаў па беларуску) і ехаць у вёску, бо сіл не стае больш чакаць у невыразным стане, а пры тым і без надзеі на лепшае.

Перад тым як з гора зусім адкінуцца ад працы, як па музыце так і ў школьным кірунку, у каторым таксама палажыў шмат працы, я станаўлюся на калені і са сьлязьмі прашу прэзыдыум, дайце магчымасьць рушыць наперад што хоць музык[альную] справу і выдаць на яе мне зараз аванс 5 тысячаў. Я хачу, каб са сцэны народ пачуў сваю родную, чыстую, не у сапсаваным выглядзе музыку»[2].

З дакумента становіцца ясна, што прычынай пераезду было спадзяванне знайсці грошы для апрацоўкі і выдання народных песень, а таксама падрыхтоўка да друку падручніка для навучання спевам па-беларуску. Пераезд,

[1] LTR 7579 / II–8.

[2] Ibidem.

аформлены як камандзіроўка, якая была прызнана неабгрунтаванай, каштаваў яму працы ў Белнацкаме.

У выніку Грыневіч застаўся ў Менску і ўключыўся ў культурную працу: «Пераехаўшы ў пачатку 1919 г. у Менск, я станаўлюся загадчыкам Беларускага Народнага Дому, арганізую ў ім бібліятэку, драматычную трупу, стаўлю спэктаклі, канцэрты і г. д.»[1].

Пастановай Калегіі аддзела народнай адукацыі ад 3 мая 1919 г. ён быў прызначаны настаўнікам музыкі і спеваў з 1 мая да агульных перавыбараў усіх настаўнікаў горада Менска. Школа, у якую ўладкаваўся на працу музыколаг, знаходзілася па вул. Аляксандраўскай, д. 32[2].

### *Вільня*

Аднак у хуткім часе ў пошуках магчымасцей для выдання сваіх зборнікаў Антон Грыневіч зноў змяніў месца жыхарства. Ён пераехаў у Вільню, дзе 16 верасня 1920 г. быў прыняты на службу ў аддзел бухгалтэрыі Віленскага саюза кааператываў[3]. У вольны час ён займаўся ўлюбёнай музычнай справай – арганізаваў беларускі хор. У тым жа годзе за ўласныя сродкі выдаў *Школьны сьпеўнік*[4], *Народны сьпеўнік*[5] і брашуру *Як трымацца змалку*[6].

Паваротным момантам у лёсе Грыневіча стаў арышт польскай дыфензівай у 1921 г. Падрабязнасці гэтай гісторыі распавёў біёграф збіральніка Арсень Ліс. Грыневіч быў арыштаваны ў цягніку ў Маладзечна агентам польскай контрвыведкі з вялікай сумай грошай і лістамі ад менскіх беларусаў да віленскіх. Таксама пры ім знайшлі шыфроўку. Следчыя палічылі яе дэпешай менскіх камуністаў да віленскіх, а самога Грыневіча «бальшавіцкім кур'ерам». У выніку пракуратура абвінаваціла «грамадзяніна Савецкай Расіі Грыневіча Антона, год 45, сына Антона і Фаўстыны, у тым, што, будучы чужаземцам, зімой 1920–1921 г. на тэрыторыі Віленскай зямлі дапамагаў Савецкай Расіі ў яе варожых дзеяннях супраць Польшчы. Пры гэтым дапамога гэта палягала ў падтрыманні сувязі паміж беларускімі дзеячамі-камуністамі ў Вільні, а таксама дзеячамі Усходняй Беларусі. Злачынства прадугледжана арт. 119 і 108 ч. 1 КК і згодна з арт. 208 УПК падлягае разгляду ў акруговым судзе Вільні»[7].

1 РНММ, фонд Квіткі, ф. 275, адз. зах. 362.

2 LTR 7579 / II–8.

3 Ibidem.

4 А. Грыневіч, *Школьны сьпеўнік*, Вільня 1920.

5 *Народны сьпеўнік на 1–3 галасы*. Апрацаваў А. Грыневіч, Вільня 1920.

6 А. Грыневіч, *Як трымацца змалку*.

7 А. Ліс, *Эпізод з жыцця беларускага этнамузыколага Антона Грыневіча*, «Новы час», 2012, № 28.

Адсядзеўшы ў турме дзесяць месяцаў, ён быў адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе, бо шыфроўка так і засталася нерасчытанай. Цікавае сведчанне часу захавалася ў архіве Віленскага беларускага музея. У час зняволення на Лукішках 29 жніўня 1921 г. Грыневіч запісаў жартоўную песню *Дзе ты быў, дзядулька…* [1].

Пасля вызвалення з-пад арышту ён уладкаваўся сакратаром-рэферэнтам у Таварыства беларускай школы. У 1923 г. пачаў працаваць настаўнікам спеваў у Віленскай беларускай гімназіі, паспяхова скончыўшы курсы для настаўнікаў польскіх школ і кіраўнікоў хораў. У гэты перыяд ён уклаў і надрукаваў уласным коштам выданні *Навука сьпеву* і *Дзіцячы сьпеўнік*. Яны былі адзначаны Антонам Луцкевічам як праявы культурнага росту на ніве беларускай музычнай культуры[2]. Падручнік *Навука сьпеву* атрымаў вельмі высокую ацэнку ад знанага ўкраінскага кампазітара Філарэта Калесы[3].

Тры гады музыколаг знаходзіўся ў Вільні пад пільным наглядам паліцыі і падпіскай аб нявыездзе. Адпаведна, ён быў пазбаўлены магчымасці ладзіць



*А. Грыневіч сярод вучняў Беларускай гімназіі ў Вільні. 1924 г. АРКіР ЦНБ НАНБ*

[1] LTR 7579 / III–11.

[2] А. Луцкевіч, *Выбраныя творы: праблемы культуры, літаратуры і мастацтва*. Уклад., прадм., камэнт., індэкс імёнаў, пер. з пол. і ням. А. Сідарэвіча, Мінск 2006, с. 139.

[3] Бібліяграфія, «Голас беларуса», 1924, № 4, с. 4.

экспедыцыі для збору песень. Аднак справа не была закінута. Найперш ён разгарнуў актыўную дзейнасць па збіранні песеннага фальклору ў самой Вільні, дзе апытаў мноства ўдзельнікаў беларускага руху. У архівах захаваліся запісы народных твораў ад педагогаў Віленскай беларускай гімназіі (Язэпа Шнаркевіча, Вячаслава Багдановіча), сяброў Таварыства беларускай школы. Праз цікавасць да дзіцячага фальклору Грыневіч апытаў гадаванцаў і супрацоўнікаў дзіцячага прытулка ў Вільні, запісаўшы народныя гульні і песні[1], якія папоўнілі спеўнік для дзяцей[2].

Ён працягваў ліставанне з дзеячамі-беларусамі, якія дасылалі яму падборкі народных песень, цікавіліся навінамі з Вільні, паведамлялі пра справы «на месцах». Антон Грыневіч падтрымліваў цесныя сувязі з Рамуальдам Зямкевічам. Іх агульным інтарэсам былі «ўсялякія музыкальныя справы». Зямкевіч перыядычна дзяліўся са збіральнікам фальклорнымі знаходкамі, абмяркоўваў вострыя пытанні ў галіне музыказнаўства, пабуджаў да працы над гісторыяй музыкі. Праз яго ў канцы 1921 г. адбылося знаёмства па перапісцы Антона Грыневіча з Гальяшом Леўчыкам[3].



*А. Грыневіч, Я. Драздовіч ды інш.*
*Кальварыя ў Вільні. 1924 г. БДАМЛМ*

---

1 АРКіР ЦНБ НАНБ, ф. 15, воп. 1, адз. зах. 46.

2 *Беларускі дзіцячы сьпеўнік з беларускіх народных матываў і лірыкі, сабраных у 1905–1924 гг.*, Вільня 1925, с. 21.

3 LTR 7579 / II–8.

## *Вяртанне ў БССР. Музычная этнаграфія*

У канцы 1924 г. польская ўлада аднавіла судовую справу супраць збіральніка, які ўнёс грашовы залог, каб пазбегнуць новага арышту. Гэта сітуацыя вымусіла яго да ўцёкаў у Менск, здзейсненых пасля стараннай падрыхтоўкі, у красавіку 1925 г. З ліста Р. Зямкевіча да В. Ластоўскага становяцца вядомымі некаторыя акалічнасці: «Антон Грыневіч у вялікую пятніцу (нов[ага] стылю) уцёк з Вільні у Менск. Пагражаў яму прысуд да 5 гадоў вастрога за нелегальны праход граніцы (у 1920 годзе!) і за ліст які адтуль прывёз (з Менску), які цяпер толькі расшыфравалі. Бедны у Вільні галадаў, тамака у Менску дастае



*А. Грыневіч за гульнёй у шахматы. 1924? г. БДАМЛМ*

эмэрытуру да канца свайго жыцьця за грамадзкія заслугі. Страціў я цяпер у Вільні найлепшага і найбліжэйшага мне прыяцеля. Няма чаго туды езьдзіць, бо Ант[она] Луцкевіча нашага важнаго «архі-бонзу» я не надта паважаю за яго устрымовываньне культурнаго беларускаго разьвіцьця»[1].

У Менску Антон Грыневіч атрымаў пасаду сакратара Песеннай камісіі ў Інстытуце беларускай культуры (далей – ІБК), які ў той час быў «мозгам і галоўным нервам культурнага жыцця»[2]. Задачы камісіі цалкам адпавядалі

---

1 *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі*, том 1, кніга 2. Уклад. Сяргей Шупа, Вільня – Нью-Ёрк – Менск – Прага 1998, с. 1591 (ліст Рамуальда Зямкевіча Вацлаву Ластоўскаму за 11.05.1925).

2 С. Н., *Кроніка беларускага культурнага жыцця*, «Адраджэньне: літаратурна-навуковы веснік Інстытуту Беларускае Культуры», Менск 1922, сш. 1, с. 282.

роду дзейнасці збіральніка, які актыўна ўключыўся ў працу. Найперш ён падрыхтаваў грунтоўную *Праграму-інструкцыю для збіральнікаў беларускай музычна-этнаграфічнай творчасці*[1]. У ёй складальнік рэкамендаваў запісваць традыцыйны фальклор з дакладнай пашпартызацыяй. Упершыню даваліся парады па натаванні мелодый[2]. Гэта інструкцыя ў вялікай колькасці экзэмпляраў была разаслана ва ўсе краязнаўчыя таварыствы рэспублікі.

Антон Грыневіч далучыўся да экспедыцыйнай актыўнасці ІБК. У 1925 г. ён выехаў на Лепельшчыну і Віцебшчыну, дзе «на яго ўзложана зьбіраньне матэрыялаў аб беларускім народным танцы і па адшуканьні дудара-віртуоза сярод музыкаў гэтых мясцовасцяй»[3]; у 1926 г. – у Себежскі, Невельскі і Веліжскі паветы для даследавання фальклору[4]. У 1927 г. даследчык працаваў у Тураве і Мазыры[5]; у 1928 г. – на Полаччыне і Віцебшчыне дзеля вывучэння народнай музыкі і народнага тэатру[6], а таксама ў Гомелі[7].

Навуковец прымаў актыўны ўдзел у абмеркаванні працэсу і вынікаў краязнаўчай працы на пленумах Цэнтральнага бюро краязнаўства, рабіў агляды музычнага фальклору, перададзенага ў ІБК, даваў парады пра спецыфіку запісу народных мелодый, далучаўся да падрыхтоўкі і абмеркавання гарманізацыі народных песень. Але, нягледзячы на выніковую дзейнасць, сітуацыя з выданнем спеўнікаў і музычных зборнікаў заставалася несуцяшальнай. Доўгі час у БССР адсутнічалі тэхнічныя магчымасці для друку нот, таму музычныя выданні выходзілі ў Маскве ці Берліне.

А. Грыневіч удзельнічаў у працы Першага і Другога Усебеларускіх краязнаўчых з’ездаў, арганізаваных у 1926 і 1927 гг. Абодва разы ў фокусе яго ўвагі аказваўся збор народных мелодый. На з’ездзе 1926 г. ён засяродзіўся на жанрава-відавой разнастайнасці песеннага фальклору, казаў пра недахоп матэрыялаў для дзяцей і адсутнасць запісаў інструментальнай музыкі. Падчас Другога краязначаўчага з’езду танальнасць яго выказванняў стала больш рэзкай. Ён бачыў небяспеку ў імклівым знікненні песеннага фальклору, немагчымасці зафіксаваць яго ў поўным аб’ёме: «Я хацеў бы сказаць вельмі

1 [А. Грыневіч], *Праграма-інструкцыя для зьбіральнікаў беларускай музычна-этнографічнай творчасці*, «Наш край», 1925, № 1, с. 45–48.

2 Г. Тавлай, *Работы А. Гриневича, С. Сахарова*, [у:] *Белорусская этномузыкология: очерки истории (XIX–XX вв.)*, Минск 1997, с. 78.

3 *Хроніка беларускае культуры*, «Полымя», 1925, № 6, с. 210.

4 *Хроніка*, «Наш край», 1926, № 12, с. 75–76.

5 БДАМЛіМ, ф. 53, воп. 1, спр. 210, арк. 2–2 адв.

6 *Хроніка беларускае культуры*, «Полымя», 1928, № 5, с. 173.

7 БДАМЛіМ, ф. 53, воп. 1, спр. 210, арк. 3.

многа, але прыходзіцца абмежавацца і сказаць толькі, што намі зроблена і паказаць на неабходнасьць зьбіраньня народнай музыкі. [...] Цяпер неабходна напружыць усе сілы, каб сабраць гэтыя мэлёдыі, бо яны адыходзяць у мінулае і ёсьць небясьпека, што гадоў праз 5 мы ўжо ня зможам занатаваць гэтага»[1].

Па слядах з'езда быў напісаны артыкул *Крык уміраючай песьні*[2], дзе аўтар разважаў пра музычную культуру на вёсцы з нязначнай колькасцю музычна адукаваных сялян: «Я ня вораг прыгожай сусьветнай музыкі і не кажу, што яна не патрэбна. Я хачу толькі давесьці, што побач з буйнымі выдаткамі выключна на гэту музыку, ня трэба забывацца галоўнай мэты ў савецкім культурным будаўніцтве – задавальняць і бедную, працоўную, нізавую частку грамадзянства і ў першую чаргу дзяцей, школу, моладзь, сялянства і рабочы пралетарыят гораду; мне хацелася б бачыць разьвіцьцё нароўне як для інтэлігэнцыі, так і для рабочых і сялян, каб не пападаў адным «лепшы» кусок, а другім «падоначкі», якімі нашы муз[ычныя] культурнікі ня лічаць патрэбным цікавіцца. Падоначкамі гэтымі зьяўляецца пакінутая бяз увагі і апрацоўкі наша народная простая песьня...»

Збіральнік надзвычай песімістычна характарызаваў становішча народнай песні: «Народная простая песьня [...] пад гнібеньнем царскага рэжыму і капіталістычнай вайны прайшла ўсе мукі, і сягоньня яна, як хворая, зачахлая і пагарджаная з усіх бакоў бабулька дажывае апошнія дні свайго існаваньня сярод 70-ці гадовых яе прадстаўнікоў у глухіх кутках». Крытыкаваў ён і сам падыход да выдання народных песень – урыўкамі і без адпаведных нот, што не адпавядала патрабаванням адукацыі і культуры. Гэтым артыкулам ён намагаўся звярнуць увагу да фальклору, месца якога паступова займала савецкая народная творчасць.

Акрамя навукова-збіральніцкай дзейнасці Антон Грыневіч рупіўся і пра свае кніжныя выданні. Так, у пачатку 1926 г. ва ўсе кнігарні Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі паступілі ў продаж кнігі, надрукаваныя ў 1910–1913 гг. у Пецярбургу[3]. Такім чынам, здзейснілася даўняя мара пра распаўсюд беларускіх выданняў праз сетку кнігарняў. Таксама ён намагаўся ўвесці ў сістэму адукацыі такія выданні для школьнікаў, як *Школьны сьпеўнік на 60 песень* і *Практыкоўкі сьпеву*[4]. Камісія па разглядзе музычных твораў пры ІБК правяла экспертызу і ўхваліла іх. У пачатку 1926 г. *Практыкоўкі сьпеву* былі

[1] *Працы Другога Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду, 10–13 лютага 1927 году*. Аддзел 5, сэрыя 5, кніга 2, Менск 1927, с. 108.

[2] А. Грыневіч, *Крык уміраючай песьні*, «Савецкая Беларусь», 1927, № 33, с. 6.

[3] Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі (аб'ява), «Савецкая Беларусь», 1926, № 17, с. 8.

[4] *Хроніка*, «Наш край», 1925, № 1, с. 60.

разгледжаны Навукова-тэрміналагічным камітэтам Народнага камісарыята асветы[1].

Напрыканцы 1920-х гг. сітуацыя ў гуманітарнай сферы істотна змянілася. Дзяржава ўзмацняла кантроль, пад які трапіў і краязнаўчы рух. У 1929 г. сярод асноўных напрамкаў працы мясцовых краязнаўчых арганізацый збіранне і вывучэнне фальклору ўжо адсутнічала. Гэтыя перамены і выразнае адчуванне грамадскіх запатрабаванняў у друкаваных народных спеўніках не маглі не зачапіць Грыневіча. Ён, як чалавек, што жыў надзеяй выдаць сабраныя ім народныя песні, вырашыў засяродзіцца на гэтай справе. Падрыхтоўка зборнікаў да выдання была свайго роду падвядзеннем вынікаў зробленага збіральнікам і кампазітарам за больш чым дваццацігадовы перыяд. Пасля выхаду на пенсію ён пераехаў са сталіцы спачатку ў Гарадок, а затым у 1931 і 1932 гг. – у Віцебск, дзе падрыхтаваў да друку фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы і падручнік па музыцы. Пасля завяршэння працы ён вярнуўся ў Менск з мэтай іх выдання.

Аднак далейшы лёс склаўся трагічна. 6 верасня 1933 г. Антон Грыневіч быў арыштаваны Дзяржаўным палітычным упраўленнем БССР па справе Беларускага нацыянальнага цэнтра. Пад удар трапілі прыбыўшыя з Заходняй Беларусі[2]. 9 студзеня 1934 г. ён быў асуджаны да вышэйшай меры пакарання з заменай на 10 гадоў зняволення ў папраўча-працоўным лагеры. Адбываў пакаранне ў Салавецкай турме. 25 лістапада 1937 г. быў паўторна асуджаны асобай тройкай УНКВД да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 8 снежня 1937 г.[3] Разам з іншымі абвінавачанымі па гэтай справе рэабілітаваны ў 1956 г. «за адсутнасцю складу злачынства».

Выданне *Школьны сьпеўнік*, ухваленае Камісіяй па разгляду музычных твораў Інбелкульта, пад нумарам 92 было ўнесена ў загад № 33 Галоўліту БССР *Сьпіс літаратуры, якая падлягае канфіскацыі зь бібліятэк грамадзкага карыстаньня, навучальных установаў і кнігагандлю* ад 3 чэрвеня 1937 г. Спеўнік, як і іншыя выданні, уключаныя ў спіс, падлягаў канфіскацыі і знішчэнню.

Такім чынам, увядзенне ў навуковы зварот новых архіўных матэрыялаў дазваляе ўзнавіць і дапоўніць некаторыя малавядомыя этапы біяграфіі Антона Грыневіча, раскрыць яго погляды на пытанні нацыянальна-культурнага Адраджэння і, тым самым, адкрывае перспектывы для пераасэнсавання яго даробку з сучасных пазіцый. Збіральнік адносіў народную песню да найважнейшых этнавызначальных прыкмет, якія ў поўнай меры адлюстроўвалі ўнікальнасць, самабытнасць, адрознасць беларусаў ад іншых народаў. Ва ўмо-

1 *Хроніка беларускае культуры*, «Полымя», 1926, № 3, с. 199–200.

2 У. Адамушка, *Справа № 2333771 «Беларускі нацыянальны цэнтр»*, [у:] ён жа, *Палітычныя рэпрэсіі 20–50-ых гадоў на Беларусі*, Мінск 1994, с. 61–94.

3 М. Нікалаеў, *Беларускі Пецярбург*, с. 292.

вах змен палітычнай і сацыяльна-эканамічнай сітуацыі менавіта песенная творчасць бачылася асновай для развіцця нацыянальнай культуры – музыкі, тэатра, літаратуры. Патрэба ў матэрыяле абумовіла асноўны род дзейнасці – збіранне, апрацоўку і выданне беларускіх народных песень.

Праца на карысць беларускага Адраджэння вялася Антонам Грыневічам таксама ў іншых кірунках, а менавіта падрыхтоўцы падручнікаў па музыцы для школы і самаадукацыі; выданні і пашырэнні мастацкай літаратуры на беларускай мове. Нягледзячы на ўсе цяжкасці і трагічныя падзеі жыццёвага шляху, яго погляды і мэты заставаліся нязменнымі нават у самыя складаныя часы.

ISSN 2424-5216

# ДЫЯЛОГІ
# DIALOQUES

## Я СЯБЕ МІСІЯНЕРКАЙ НЕ АДЧУВАЮ...

***З доктарам мастацтвазнаўства Вольгай Лабачэўскай размаўляе Алесь Смалянчук***

*АС: Спадарыня Вольга, як атрымалася, што дзяўчына з далёкай ад Беларусі Цюмені стала адным з вядучых беларускіх даследчыкаў у галіне мастацтвазнаўства і культуралогіі, этнаграфіі і фальклору, гісторыі і музейнай справы? Ці ёсць у гэтым нейкая наканаванасць, ці папросту збег пэўных абставін?*

ВЛ: Сапраўды, Цюмень далёка ад Беларусі. Праўда, у савецкі час гэта адлегласць дастаткова лёгка пераадольвалася. Нават быў прамы авіярэйс Менск – Цюмень. Дарэчы, у Цюмені маіх радавых каранёў няшмат. Маці прыехала па размеркаванні пасля заканчэння політэхнічнага інстытута ў Горкім (Ніжнім Ноўгарадзе), дзе і нарадзілася. Яна засталася ў Цюмені, хоць з дзяцінства памятаю размовы пра пераезд у іншае месца. Але пераезд так і не адбыўся. Па лініі маці ўсе мае карані ў Ніжнім Ноўгарадзе. Пра бацькавы карані цяжка казаць, бо ён з сям'і перасяленцаў. Пасля Другой сусветнай вайны яны перабраліся ў Цюмень. Яго прозвішча (і маё дзявочае) – Свірыдэнка. Магчыма, карані недзе ва Украіне. Шчыра кажучы, яшчэ гэтым не займалася.

Бацькі працавалі на авіярамонтным заводзе. Рамантавалі верталёты, «кукурузнікі». У дзяцінстве, памятаю, мы хадзілі па цэхах. Мне вельмі падабаўся спецыфічны пах усялякіх палітур, лакаў. Яны шмат працавалі. Мама займала досыць высокую пасаду. А мы з малодшым братам увесь час былі самі сабе прадастаўлены, хоць калісьці была нянька ў доме. Бацькі асабліва намі не займаліся.

Мы жылі, як усе. Цюмень была цалкам драўляная, і жылі мы ў двухпавярховым драўляным доме на восем кватэр. Навокал былі ўтульныя і прыгожыя драўляныя хаты і двухпавярховыя былыя купецкія дамы. Толькі цэнтральная вуліца

была забудавана камяніцамі. А наша кватэра – гэта звычайная «камуналка» на тры пакоі з агульнай кухняй, кладоўкай і прыбіральняй.

Людзі тады жылі весела. Імкнуліся быць разам. Часта збіраліся на нейкія вечарыны, дзяліліся навінамі асабістага жыцця. Аднойчы на нейкім семінары я сказала студэнткам, што памятаю, як памёр Сталін. У іх нават мову заняло. Насамрэч памятаю толькі, што на той кухні вісела такая чорная радыёкропка «талерка», зацягнутая паперай. Канешне, я не памятаю, як Сталін памёр. Гэта пазней неяк звязаліся ўспаміны пра тое, як слухалі звесткі з той «талеркі», як змяніўся настрой людзей. І я адчула, што нешта адбываецца.



*Вольга Лабачэўская.*
*Фотаздымак Ю. Іванова*

Апошнім часам стала заўважаць, што калі я пачынаю прыгадваць мінулае, называю нейкія гады, то моладзь здзіўлена паглядвае і пачынае ўспрымаць цябе як нейкую археалагічную знаходку.

*АС: Ці быў дзіцячы садок у Вашым дзяцінстве?*

ВЛ: У Цюмені іх было няшмат, таму садок быў толькі перад школай. З ім шмат было звязана, бо да яго кіламетры два трэба было ісці. Горад невялікі, транспарту мала. А я ўжо мела амаль сем гадоў і хадзіла ў садок адна. Вяртаючыся, абыходзіла ўсе крамы, аглядала ўсе вітрыны, а калі бацькі лаялі мяне за затрымку, выдумляла нейкія гісторыі. Вясной, пакуль усё абыду, то ў валёнках пачынала хлюпаць вада.

Пачатковая школа была ў двухпавярховым будынку, былым драўляным купецкім доме. Калі я яе закончыла, нам далі кватэру ў новай «хрушчоўцы», на апошнім, чацвёртым, паверсе. Асобная кватэра тады здавалася чымсьці неверагодным. Мы мелі два сумежныя пакоі і цёмную кладовачку. Жытло будаваў завод. Тады так будаваліся. На кухні была печ, якую палілі дровамі, потым з'явіўся балон з газам, а пазней тытан. З таго дзяцінства памятаю, як высоўвала галаву ў фортку і слухала, як на марозе звіняць царкоўныя званы. У будні іх дапаўнялі фабрычныя гудкі. На пачатку 1960-х усё гэта было забаронена.

Гэты пераезд істотна паўплываў на маё далейшае жыццё, бо гэта быў цэнтр горада, і мяне аддалі ў 25-ю школу. Там вучыліся дзеці начальнікаў і партыйных чыноўнікаў. Школа была побач з абкамам партыі, збудаваным у стылі сталінскага класіцызму – ампіру.

*АС: Сучаснай мовай гаворачы, гэта была «элітная школа»?*

ВЛ: Яна сапраўды была элітная. Тады якраз пачыналася засваенне радовішчаў нафты і газу ў Цюменскай вобласці, і дзеткі тагачаснай «нафтагазавай эліты» вучыліся разам са мной. Мы мелі добрых выкладчыкаў.

*АС: Хто Вам найбольш запомніўся?*

ВЛ: У 8-м класе да нас прыйшла Святлана Раманаўна Шліфер. Яна прыехала з Харкава. Выкладала рускую літаратуру і мову, стала нашым класным кіраўніком. Яна была вельмі адукаваным чалавекам. Уласнай сям'і ў яе не было, і яна з намі праводзіла вельмі шмат часу. А мне пашчасціла апынуцца сярод яе «любімчыкаў». Хоць з рускай мовай я заўсёды мела праблемы.

Святлана Раманаўна жыла нашымі турботамі і праблемамі, размаўляла з намі на самыя розныя тэмы. Дзякуючы ёй мы ўзняліся на іншы культурны ўзровень. У яе была добрая бібліятэка, альбомы па расійскім і заходнееўрапейскім мастацтве. Потым яна шмат гэтых кніг мне падаравала. Па-сутнасці, гэта быў пачатак маёй бібліятэкі.

Гэта настаўніца шмат у чым сфарміравала нас. Менавіта «нас», бо апрача мяне там было яшчэ некалі маіх сяброўак. Дарэчы, мы па сённяшні дзень падтрымліваем адносіны. Пасля школы я з'ехала з Цюмені, а сяброўкі паступілі ў Свярдлоўскі ўніверсітэт. Адна потым вярнулася, а дзве засталіся ўжо ў Екацерынбургу.

З тых размоў з настаўніцай, напэўна, пачаўся і мой шлях. Напрыканцы школьнага навучання ў мяне ўжо склалася ўяўленне пра тое, чым хачу займацца. А менавіта, вырашыла ехаць вучыцца ў Ленінград, у Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя Ільі Рэпіна. Звычайна яго называлі *Акадэміяй мастацтваў*[1].

Да гэтага мела іншыя планы. Так, у 10–11 гадоў марыла пра цыркавую вучэльню. У Цюмені быў прыгожы драўляны цырк. Там было шмат розных праграм, прыязджалі гастралёры і г. д. Канешне, ні ў якую вучэльню бацькі б мяне не пусцілі. Хоць яны, асабліва мама, не перашкаджалі маім заняткам і захапленням. Я, па сутнасці, рабіла што хацела і жыла як хацела. Досыць вольна сябе паводзіла. Разам з тым з боку бацькоў быў давер, што я не буду рабіць нешта непатрэбнае. Апрача цыркавой вучэльні ў апошніх класах школы я хацела стаць акеанографам. Адкуль я гэта ўзяла, шчыра кажучы, не ведаю, бо мора я не бачыла. І нават займалася матэматыкай і фізікай, рашала нейкія задачы, якія дасылалі з МГУ. Потым неяк гэта адсяклося.

Прыгадваю часам карцінную галерэю ў Цюмені, якую мы часта наведвалі. З мамай працаваў бібліяфіл, збіральнік кніг, у тым ліку кніг па мастацтве, які рабіў мне кніжныя падарункі. Я ўжо не згадаю, як яго звалі, але для мяне гэта было важна. Ну, і дома была бібліятэка, пра якую найбольш клапацілася мама.

---

1 Сёння гэта Санкт-Пецярбургскі дзяржаўны акадэмічны інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя Ільі Рэпіна.

Кнігі з дзяцінства былі важнай часткай жыцця. Але, магчыма, я б і паехала вывучаць акеанаграфію, а потым бы шкадавала, каб не Святлана Раманаўна.

Пасля заканчэння школы мае сяброўкі паехалі ў Свярдлоўск, а я паляцела ў Ленінград. Канешне, я не паступіла. На дзённае аддзяленне факультэта тэорыі і гісторыі мастацтва быў вялізны конкурс, больш за 20 чалавек на адно месца. Туды ехалі паступаць адусюль, бо апрача гэтай акадэміі, Ленінградскага ўніверсітэта і МГУ на прасторах Савецкага Саюза нідзе не было падобнай адукацыі. Туды ехалі з усіх саюзных рэспублік. Трэба было здаваць гісторыю мастацтва, да якой я самастойна рыхтавалася. Але правалілася я на сачыненні. З гэтым заўсёды мела праблемы. Дакладней, я пісала выдатныя сачыненні, але там было вельмі шмат памылак. Думаю, што гэта неяк звязана з маім слыхам. Святлана Раманаўна пакутавала ў школе са мной. Калі я пісала выпускное сачыненне, яна стаяла побач і ціхенька мне падказвала. Ну, а ў Ленінградзе я яго «заваліла».

І ніхто мне тады не падказаў, што можна было паспрабаваць паступаць на завочнае аддзяленне. Туды прымалі каля 50 чалавек, і таксама быў вялікі конкурс, але шансаў было больш.

*АС: Вярнуліся назад у Цюмень?*

ВЛ: А куды было падзецца? Я вярнулася, і той знаёмы бібліяфіл дапамог уладкавацца на працу ў карцінную галерэю. Мяне ўзялі музейным даглядчыкам. Карцінная галерэя месцілася ў былым двухпавярховым купецкім будынку. Унізе быў вялікі выставачны зал, а на другім паверсе – экспазіцыя. У Цюмені была добрая калекцыя «рускай школы» жывапісу і былі трафейныя рэчы. Яны не выстаўляліся, але ведаю, што былі. Пазней там выплыў нават Васілій Кандзінскі, былі прадстаўнікі «Мира искусства»[1], якіх тады не прывячалі ў сталічных музеях і высылалі на перыферыю. Тады існавала сістэма размеркавання. Пры арганізацыі гэтай галерэі нешта Цюмень атрымала з Эрмітажа і Рускага музея.

Мне даводзілася прыбіраць залы і час ад часу мыць драўляную лесвіцу, якая вяла з вуліцы на другі паверх. Яна была прыбудавана да будынка звонку. Найцяжэй было зімой, калі вада замярзала падчас гэтай уборкі. Праўда, даволі хутка мяне перавялі на пасаду малодшага навуковага супрацоўніка. У карціннай галерэі быў вельмі добры калектыў. Там працавалі людзі, апантаныя мастацтвам, якія завочна вучыліся, у тым ліку і ў Ленінградзе. Я іх слухала і вучылася. Гэта была добрая школа для мяне.

Таксама часта лятала ў Маскву. Там жыла далёкая сваячка цёця Люся, якая не мела сям'і і заўсёды мяне прымала. Я хадзіла па Траццякоўцы, наведвала выставы. Гэта была выдатная магчымасць самаадукацыі. Я і сёння памятаю старую экспазіцыю Траццякоўскай галерэі, памятаю, што і дзе знаходзілася.

[1] «Мир искусства» (1898–1927) – мастацкае аб'яднанне, якое сфармавалася ў Расіі ў канцы 1890-х гг. Пад той самай назвай выходзіў часопіс, які выдаваўся з 1898 г.

Улетку я паехала другі раз паступаць, і зноў не паступіла. На трэці раз мне ўжо падказалі наконт завочнага навучання, і ў 1972 г. я нарэшце паступіла на завочнае аддзяленне факультэта тэорыі і гісторыі мастацтва. Трэба сказаць, што працэс навучання быў добра арганізаваны. Мы дасылалі кантрольныя працы, курсавыя. Усё гэта вярталася з заўвагамі і ацэнкамі выкладчыкаў. Дарэчы, я нядаўна перачытвала сваю курсавую працу і падумала, што была б рада, каб мае сённяшнія студэнты так пісалі на першым-другім курсе. Відаць, мела пэўную здольнасць да аналізу.

Пасля другога курса я напісала заяву пра перавод на дзённае аддзяленне, і ў мяне атрымалася. Там была цікавая практыка, калі на першы курс прымалі толькі 10 чалавек, а пазней яго папаўнялі лепшымі завочнікамі. Разам са мной перавялі на дзённае яшчэ чатырох студэнтаў. Там таксама былі людзі сталага ўзросту, як, напрыклад, Алег Сідарчук з Львова. Відаць, выбіралі найбольш мэтанакіраваных. А закончылі навучанне на маім курсе ўсяго 13–14 чалавек.

Вучыцца было цяжка. Курс быў маленькі, і ўсе сядзелі навідавоку ў вялікіх старых аўдыторыях Акадэміі мастацтваў, якая была збудавана ў сярэдзіне XVIII стагоддзя. Прагуляць было цяжка, і мы дамаўляліся, хто будзе на такіх занятках, як, напрыклад, гісторыя КПСС. Асноўныя заняткі намагаліся не прапускаць. Часам даводзілася ехаць з інтэрната на таксі, бо правілы былі досыць жорсткія. Спазненні не дапускаліся. У аўдыторыю пасля выкладчыка студэнт ужо не заходзіў. Ішлі і праводзілі час у бібліятэцы.

*АС: А якім вы запомнілі тагачасны Ленінград? На той час прайшло ж усяго каля 30 гадоў пасля жахлівай блакады…*

ВЛ: Канешне, ленінградцы і ў тым ліку выкладчыкі пра гэта памяталі. Але з намі пра блакаду не размаўлялі, захоўвалася пэўная дыстанцыя. Добра запомнілася іншае. Акадэмія знаходзіцца на Васільеўскім востраве. Са студэнцкага гарадка каля парку Перамогі мы ехалі на метро, а потым ішлі па 7-й лініі. А ў той час там былі г. зв. піражковыя. Мы, канешне, заходзілі падсілкавацца. За 5 капеек там можна было ўзяць чай і піражок. І я памятаю ленінградскіх бабулек у нейкіх дзіўных капялюшыках і палітончыках, якія стаялі ў піражковых і назіралі. Калі нехта не даеў той піражок, то падыходзілі і забіралі. Гэта моцна ўражвала. Па сутнасці, усе гады маёй вучобы я назірала гэтую карціну. Бабулькі, якія там засталіся, асабліва ў старой частцы горада, шмат перажылі... І ніхто іх не ганяў. Потым яны проста зніклі, павыміралі.

*АС: А што найбольш уражвала дзяўчыну, якая прыехала з Цюмені?*

ВЛ: Зразумела, уражваў сам Піцер, яго велічная і строгая прыгажосць. Тая ж Акадэмія стаіць на Універсітэцкай набярэжнай, а побач Біржа, 12 калегій – універсітэцкі будынак, Меньшыкаўскі палац і Румянцаўскі сад, сфінксы. І калі ты выходзіш папаліць каля сфінксаў, то бачыш перад сабой Ісакіеўскі сабор, Адміралцейства, Зімні палац… У розныя месяцы і нават у розныя гадзіны су-

так гэта прыгажосць мае іншыя колеры. А там жа яшчэ і Нява... Сама Акадэмія таксама ўражвала сваімі вялізнымі калідорамі, аўдыторыямі, мастацкімі майстэрнямі, выдатнай бібліятэкай са старымі абажурамі, сталамі, кніжнымі шафамі, габеленамі. У апошняй зале сціпленька стаяў бюсцік Леніна.

Акадэмія ў той час рабіла ўражанне абсалютна апалітычнай установы. У вестыбюлі ніколі не стаяў Ленін. Рэктарам тады быў Віктар Міхайлавіч Арэшнікаў[1]. Ён, дарэчы, быў беспартыйны. І гэта быў адзіны выпадак сярод кіраўнікоў вышэйшых навучальных устаноў у СССР. У той час у калідорах Акадэміі яшчэ можна было сустрэць старога Міхаіла Керзіна – скульптара, звязанага з Віцебскай мастацкай школай[2].

*АС: Студэнтаў заахвочвалі да навуковай дзейнасці, да аналітыкі?*

ВЛ: Канешне. Па-першае, былі заняткі па аналізе карцін. Быў нават такі прадмет. Па-другое, мы пісалі курсавыя, дыпломную працу, тэму для якой можна было самастойна выбраць. Звычайна гэта былі працы высокага ўзроўню. Мне, напрыклад, за свой дыплом і сёння не сорамна. Увогуле, вучоба была сур'ёзная. Тыя патрабаванні немагчыма параўноўваць з тым, што я сёння магу патрабаваць ад сваіх студэнтаў. Народ быў увесь скіраваны на вучобу. Там не было гультаёў. Вучыліся пераважна піцерцы і тыя, хто пераехаў. Са мной, дарэчы, вучыўся Валерка Буйвал з Гомеля. Потым мы разам з ім прыехалі ў Менск.

Падчас вучобы трэба было запомніць вялізарны аб'ём інфармацыі. Да розных назваў, перыядаў, храналогіі дадаваліся імёны мастакоў і скульптараў, назвы архітэктурных збудаванняў розных эпох, ад старажытнасці да сучаснасці. Амаль усе выкладчыкі былі аўтарамі падручнікаў і манаграфій, некаторыя з іх кніг стаяць у мяне на паліцы. Мы пісалі канспекты, чыталі літаратуру, аналізавалі творы і паспяхова здавалі. Ніхто ніколі не спісваў.

Падрыхтоўка да экзаменаў была моцным стрэсам. Ніякіх «аўтаматычных» залікаў прадметаў не існавала. Экзамены былі размовай з выкладчыкам, дзе таксама мела месца візуальная частка. У кабінеце мастацтва знаходзіліся скрыні з карткамі і чорна-белымі фотаздымкамі пэўных твораў або іх элементаў. Выкладчык выцягваў картку, а ты павінна ідэнтыфікаваць прадмет. На лекцыях быў нейкі апарат, на якім паказвалі шкляныя чорна-белыя слайды яшчэ з даваенных часоў. Карцінкі былі даволі туманныя. Каляровых наогул не было. Затое мы мелі «пад рукой» зборы Эрмітажа і Рускага музея. Там, у залах і фондах, праводзілі цэлыя дні. А перад экзаменамі ішлі ў кабінет мастацтва, дзе глядзелі,

1 Віктар Міхайлавіч Арэшнікаў (1904–1987) – савецкі мастак-жывапісец, педагог, майстар партрэта. Народны мастак СССР (1969). У 1953–1977 гг. – рэктар Інстытута жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна.

2 Міхаіл Аркадзьевіч Керзін (1883–1979) – беларускі савецкі і рускі скульптар, педагог. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1939). З 1923 па 1932 год кіраваў Віцебскім мастацкім тэхнікумам.

глядзелі і запаміналі. У выніку ўсё ў вачах стаяла. Адзінае, дзе лайдачылі, дык гэта гісторыя КПСС і дыялектычны матэрыялізм. Якраз тады мы дамаўляліся, хто сядзіць на занятках. Іншыя ішлі ў чабурэчную на 6-й лініі.

*АС: А хто з выкладчыкаў найбольш запомніўся?*

ВЛ: Былі такія каларытныя фігуры, як дэкан факультэта Барценьеў Ігар Аляксандравіч, што выкладаў расійскую архітэктуру. Ён паходзіў з арыстакратаў, меў адпаведныя манеры і нават прамаўляў з пранонсам.

У нас звычайна чытаецца адзін курс гісторыі сусветнага мастацтва, які вельмі складаны для выкладання. У Акадэміі па кожным прадмеце быў асобны выкладчык. Напрыклад, расійскае мастацтва XVII–XIX стст. чытаў Савінаў Аляксей Мікалаевіч, таксама прадстаўнік старой піцерскай інтэлігенцыі, пра што сведчыла і яго мова. Яго лекцыі слухаліся з захапленнем.

Наогул, чыталіся невялікія курсы. Быў асобны курс па гісторыі мастацтва Старажытнага Егіпта. Асобна выкладалі старажытнарускае мастацтва, дэкаратыўна-прыкладное, мастацтва Антычнасці ды інш. Акадэмія дала шырокі культурны кругагляд. Вера Дзмітрыеўна Ліхачова, якая выкладала старажытнарускае мастацтва, вазіла нас у Старую Ладагу, Пскоў, Пецяргоф. Аднойчы з намі паехаў і яе знакаміты бацька – сам Дзмітрый Сяргеевіч Ліхачоў. Яны ахвяравалі нам свой час. Памятаю, што ў Пецяргофе тады адбывалася рэстаўрацыя вялікай палацавай залы, і мы ўздымаліся па будаўнічых «лясах» пад столю з ляпным плафонам. Ад сваіх выкладчыкаў атрымлівалі не толькі веды, але яшчэ і ўзоры паводзін.

*АС: Вы прыгадалі ўласную дыпломную працу. А на якую тэму вы пісалі?*

ВЛ: Мой дыплом нагадваў манаграфічную працу. Я пісала пра жыццё і творчасць мастака Барыса Анісфельда[1]. У Цюменскай галерэі была адна з яго прац, і для мяне гэта была трохі знаёмая постаць. Ён быў тэатральным мастаком, звязаным з таварыствам «Мир искусства», якое існавала на рубяжы XIX–XX стст. і было ў пэўнай апазіцыі да «перадвіжнікаў». У 1917 г. напярэдадні рэвалюцыі ён выехаў у Амерыку з уласнай выставай і ўжо не вярнуўся. Гэта было цікавае даследаванне. У Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве, куды ў той час пускалі студэнтаў, я знайшла яго асабістую справу, даведалася, як ён вучыўся ў Акадэміі мастацтваў, убачыла яго на фотаздымку. Памятаю гэтае моцнае пачуццё адкрыцця, калі пачынаеш гартаць архіўную справу …

Потым у Піцеры і Маскве я шукала яго працы ў музейных калекцыях, наведвала фонды Траццякоўкі. Сустракалася таксама з калекцыянерамі, якія паказвалі мне працы Анісфельда ў сваіх прыватных зборах. Памятаю, што была ў Маскве ў калекцыянера Мікалая Блахіна, які збіраў расійскі жывапіс. Ён усё паказаў, а потым я даведалася, што ён быў акадэмікам, вядомым анколагам

[1] Барыс Ізраілевіч (Бер Срулевіч) Анісфельд (1878–1973) – расійскі і амерыканскі мастак, сцэнограф.

і дырэктарам буйнога навукова-даследчага інстытута. Такія былі часы, што нейкая дзяўчынка-студэнтка з дапамогай выкладчыкаў, якія давалі адрасы, магла наведваць прыватныя калекцыі. Дарэчы, у Траццякоўцы была нават картатэка калекцыянераў, з якой я працавала. Тады ўсе калекцыі стаялі на ўліку.

Мой дыплом быў сур'ёзнай навуковай працай. Даследаванняў творчасці Барыса Анісфельда не было і, здаецца, да гэтага часу няма. У мяне была думка напісаць кнігу пра яго, але потым жыццё неяк закруцілася… А яшчэ была праблема з англійскай мовай, якой я не валодала. Яна была патрэбная дзеля працы з амерыканскімі каталогамі.

*АС: А хто быў кіраўніком дыпломнага даследавання?*

ВЛ: Власава Раіса Іванаўна, якая выкладала гісторыю расійскага мастацтва пачатку XX ст. Памятаю, як яна вучыла мяне працаваць з тэкстам. Прымусіла шэсць ці сем раз перапісаць уводзіны. Я прыходзіла да яе дамоў з надрукаванымі на машынцы тэкстамі, а яна іх крэсліла і крэсліла. Шматразова выпраўляліся мае фармуліроўкі мэты даследавання і яго задач. Гэта была сапраўдная школа напісання тэксту, якую я засвоіла на ўсё жыццё. Калі пазней я пісала кандыдацкую дысертацыю, такіх перапрацовак ужо не было. Зараз спрабую тое ж рабіць са студэнтамі і аспірантамі, але не заўсёды атрымліваецца.

*АС: Пасля заканчэння не было намеру застацца ў Ленінградзе?*

ВЛ: Амаль усе, хто прыязджаў у Піцер, намагаліся там застацца. А вось у мяне такога акрэсленага жадання не было. Я разумела, што гэта патрабуе вялікіх высілкаў. Ведаю, што былі нават фіктыўныя шлюбы. Людзі трацілі кавалак жыцця, каб там застацца. А я выйшла замуж за хлопца з Краснадарскага краю, які вучыўся на архітэктурным факультэце. А на пятым курсе нарадзіўся сын. Але я вырашыла не браць акадэмічны адпачынак і адвезла сына ў Цюмень, да мамы. Сыну было дзевяць месяцаў. Сёння разумею, што ўчынак быў так сабе. Мама год яшчэ працавала, і нанялі няньку. Я часта прылятала ў Цюмень.

А потым было размеркаванне. Вяртацца дадому не было жадання. Здавалася, што пэўны (цюменскі) перыяд жыцця закончаны і трэба пачынаць нешта новае. Размеркаванне было агульнасаюзнае. Памятаю, што вагалася паміж Алма-Аты і Менскам. Але аднакурснік Валерка Буйвал быў з Менска, і мы з мужам, якому яшчэ год трэба было вучыцца ў Ленінградзе, выбралі Менск. Гэта трошкі жартам… Насамрэч размеркаванне было ў Дзяржаўны мастацкі музей БССР, якім тады кіравала Алена Васільеўна Аладава. Пра яе я шмат чула ад калекцыянераў, калі працавала над дыпломам. Прыгадвалі яе з захапленнем. Распавядалі, што нібыта ездзіла з чамаданам наяўных грошай, набывала карціны і адразу разлічвалася з калекцыянерамі. Казалі, што ў Мастацкім музеі вельмі добрая калекцыя, што сапраўды адпавядала рэчаіснасці. Я неяк зафіксавала для сябе, што гэта добрае месца. І зрабіла свой выбар.

Я прыехала па размеркаванні з усімі сваімі паперамі і адразу сутыкнулася з побытавымі праблемамі. Музей не меў інтэрната, а я не мела грошай, каб зды-

мацъ кватэру. Дапамагла супрацоўніца музея Ларыса Дзмітрыеўна Белікава, якая была адзінокай і ўзяла мяне на сваю кватэру. Я жыла ў яе, здаецца, паўгода, калі не больш. Нават сына прывезла. А потым узнікла праблема з прапіскай. І вось мастак Уладзімір Васільевіч Уродніч, які тады працаваў у Міністэрстве культуры, прапісаў мяне ў сваёй кватэры на вул. Сурганава, а потым, здаецца, і майго мужа там прапісаў. Сёння гэта ўявіць ужо немагчыма.

Вось так склалася, што я была прапісана ў вялікай кватэры ў доме на вул. Сурганава, які, здаецца, яшчэ Пётр Машэраў перадаў мастакам. Там былі вялікія кватэры і майстэрні. Многія нашы мастакі ў тым доме жылі і яшчэ жывуць.

Уражанне ад Менска па кантрасце з Ленінградам было моцнае. Памятаю першую паездку на таксі са старога аэрапорта ў музей па праспекце Леніна. Еду і гадаю, дзе той музей? Прыняла за музей будынак КДБ, але мы праехалі міма. А потым убачыла Дом прафсаюзаў і жахнулася. Што гэта за калецтва? Куды я трапіла? Яшчэ больш засумавала, як убачыла помнік Якубу Коласу. Думаю, навошта я сюды прыехала? Я вельмі доўга не магла прызвычаіцца да візуальнай карцінкі Менска. Мне не падабалася сталінская архітэктура. Але потым інакш стала гэта ўспрымаць.

*АС: Спадарыня Вольга, а калі адбылося Ваша знаёмства з Беларуссю ўжо не савецкай?*

ВЛ: У музеі я працавала амаль тры гады. Там дамінавала старэйшае пакаленне, і моладзь не дапускалі да важных спраў. Там нават экскурсію было цяжка здаць метадычнаму савету, хаця ў мяне была вышэйшая адукацыя – і адна з лепшых у краіне. А я ўсё ж такі самастойны чалавек, і мне нешта ўласнае хацелася рабіць.

У 1981 г. мне прапанавалі працу ва Упраўленні мастацкіх промыслаў Міністэрства мясцовай прамысловасці. Сюды ўваходзілі ўсе фабрыкі мастацкіх вырабаў. У 1979 г. там была арганізавана Навукова-даследчая мастацка-эксперыментальная лабараторыя, у якой аддзел мастацтвазнаўства ўзначальваў былы супрацоўнік Мастацкага музея Юры Іваноў. Праз два гады яго запрасілі на працу ў само міністэрства і прасілі знайсці сабе замену. Ён, канешне, прыйшоў у музей, і тут неяк я падвярнулася.

Для мяне моцным аргументам была магчымасць атрымаць, нарэшце, кватэру. Да таго ж мяне цікавіла народнае мастацтва. У тыя часы ўлада падтрымлівала яго развіццё, бо разглядала як важную частку савецкага мастацтва. Тады, дарэчы, існавала Камісія па народным мастацтве пры Саюзе мастакоў. У выніку я ўзначаліла аддзел мастацтвазнаўства ў гэтай лабараторыі. Яна і сёння існуе пад назвай Цэнтр народных рамёстваў «Скарбніца».

*АС: І як было на новым месцы?*

ВЛ: Шкадаваць не давялося, хоць новая праца выводзіла мяне з сферы прафесійнага мастацтва. Прыйшлося паглыбіцца ў народнае мастацтва. І тут адбылася мая першая сустрэча з беларускай народнай культурай. Трэба сказаць,

што ў Акадэміі мастацтваў быў курс па рускім дэкаратыўна-прыкладным і народным мастацтве, нешта казалі і пра іншыя народы СССР. Агульнае ўяўленне пра тое, чым буду займацца, я мела. Праблемай стала адсутнасць літаратуры па беларускім народным мастацтве. У Беларусі ім займаўся Яўген Сахута, які ў той час выдаў толькі адну кнігу. Таксама былі публікацыі Міхася Раманюка, было некалькі кніг пра беларускае ткацтва, дываны, габелены і… гэта ўсё.

Трэба адзначыць, што наша беларуская навука мела ў гэтым кірунку значныя прагалы. Народным мастацтвам і рамёствамі актыўна займаліся ў 1920–1930-я гады. У прыватнасці, шмат было зроблена супрацоўнікамі Інбелкульта. Але пачаліся рэпрэсіі супраць навукоўцаў – і даследаванні спыніліся. У пасляваенны час, у адрозненне, напрыклад, ад суседніх Літвы, Латвіі і Эстоніі, іх ніхто не працягваў. У суседзяў такія даследаванні сталі падмуркам развіцця нацыянальнай культуры і нацыянальнай свядомасці. Пасля вайны яны актыўна збіралі калекцыі народнага мастацтва, адкрывалі музеі і выдавалі кнігі і альбомы. У Беларусі адзінае, што выдалі, дык гэта альбом *Беларускае народнае мастацтва*, падрыхтаваны яшчэ да вайны Ісакам Сербавым і Майсеем Грынблатам. Дарэчы, дзякуючы гэтаму можна ўбачыць некаторыя рэчы, якія былі ў зборах музея Інбелкульта і кафедры этнаграфіі БДУ.

Таксама ў 1953 г. быў выдадзены альбом *Беларускі народны арнамент* з уступным артыкулам Міхаіла Кацара. Гэтым займалася Белпромкааперацыя, якая потым стала Міністэрствам мясцовай прамысловасці. Гэта яны збіралі ўзоры арнаменту для фабрык і існуючых яшчэ тады арцелей мастацкіх промыслаў. Вось і ўся літаратура.

Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Беларускай акадэміі навук пасля вайны больш займаўся беларускім прафесійным мастацтвам, а таксама этнаграфіяй у савецкім яе разуменні, скіраваным на вывучэнне новых абрадаў і свят, антырэлігійную прапаганду. Традыцыйнай мастацкай культурай яны фактычна не займаліся.

Першае даследаванне беларускага касцюму было апублікавана толькі на пачатку 1970-х гг. Гэта было даволі сціплае выданне і фактычна першая спроба абагульнення. Змены пачалі адбывацца ў другой палове 1970-х гг., калі прайшлі паспяховыя абароны некалькіх кандыдацкіх дысертацый. Так, Яўген Сахута абараніў дысертацыю па народнай разьбе па дрэве, Вольга Фадзеева – па вышыўцы, Міхась Раманюк – па беларускім касцюме. У 1980 г. Яўген Сахута выдаў кнігу *Беларускае народнае мастацтва*.

Мая праца ў гэтай галіне распачалася ў 1981 г. І ў той сітуацыі найбольш рэальнай магчымасцю вывучэння народнага мастацтва сталі экспедыцыі. Звычайна мы выязджалі ў летні перыяд групамі ў 5–6 чалавек. Гэту справу пачынаў Юры Іваноў, які праводзіў экспедыцыі ў Магілёўскай вобл. Я працягнула гэту практыку даследаваннямі на Віцебшчыне, Брэстчыне, Гомельшчыне, Гродзеншчыне і Меншчыне.

Першыя экспедыцыі былі для мяне адкрыццём ва ўсіх сэнсах. Я знаёмілася з Беларуссю, яе жыхарамі, мовай, традыцыямі. Усё пачыналася з Усходняй Віцебшчыны, дзе ў мяне не ўзнікала асаблівых праблем у кантактах з вяскоўцамі. На ўсходзе Паўночнай Беларусі пашырана «трасянка», шмат рускамоўных. На пачатку моцна здзівіў ландшафт – палі, лясы, бедныя вёскі і ніякіх дамінант, ніякіх помнікаў сакральнай архітэктуры. Па сутнасці, выпаленая і зачышчаная зямля, дзе ўсё прыгожае было знішчана. І размовы з людзьмі… Часта адказы на пытанні пачыналіся словамі: «Ой, дзетачкі, дык усё ў вайну прапала, нічога не засталося».

У мяне было адчуванне, што мы прыехалі сюды адразу пасля нямецкай акупацыі. Вайна пакінула настолькі моцны след, што перакрэслівала амаль усе падзеі пасляваенных мірных гадоў. Таксама ўражвала адсутнасць храмаў. Іх пачалі знішчаць яшчэ ў 1930-я гг., а ў «хрушчоўскі час» улады закончылі гэту сумную справу. А яшчэ трэба дадаць, што нашымі суразмоўцамі былі пераважна жанчыны. Дзядоў у вёсках амаль не было, што таксама было вынікам вайны. У вёсках дажывалі сваё гаротнае жыццё бабы. Усё гэта моцна мяне ўражвала, бо я ўсё ж гарадскі чалавек. Да гэтага ў вёсках я была толькі пару разоў, і гэта было ў Цюменскай вобласці.



*АС: Няўжо ў Цюменскай вобласці захавалася больш помнікаў мінуўшчыны?*

ВЛ: Значна больш. У цэнтры Цюмені захаваўся, напрыклад, Траецкі манастыр, узведзены ў самым пачатку XVIII ст. Зразумела, што манахаў там не было, але будынкі стаялі. Таксама ў Цюмені было шмат цэркваў, хоць дзейнічала тады, мабыць, толькі адна. Іншыя стаялі зачыненыя, але не разбураныя. А тут проста пустыня…

Таксама ўражвала і тое, што дзе-нідзе яшчэ захоўваліся маёнткі і сядзібы, якія можна было адрамантаваць, але людзі там не жылі. Наадварот, яны цягалі адтуль цэглу і заставаліся ў гэтых сваіх халупах. Памятаю, што мы заходзілі ў хаты з глінянай падлогай. Усходняя Віцебшчына была вельмі бедная. Затое калі мы наведалі Заходнюю Віцебшчыну, то пабачылі больш багаты і цікавы рэгіён. Пабачылі храмы, вёскі стараабрадцаў, мужчынскае насельніцтва сталага веку і шмат іншага. Менавіта там мы сабралі ўнікальныя рэчы, у тым ліку драўляную разьбу, маляваныя дываны ды інш. Кантраст паміж Заходняй і Усходняй Віцебшчынай, калісьці падзеленымі Рыжскай мяжой, быў велізарны.

І я стала распытваць людзей: «А як вам жылося пры Польшчы?». Людзі адказвалі неахвотна. Папросту баяліся дзяліцца ўспамінамі пра міжваенную Польшчу. Але было зразумела, што менавіта 1920–1930-я гг. і тагачасны лад жыцця паспрыялі таму, што людзі жылі больш вольна і мелі прастору для творчасці як «камерцыйнай», так і сакральнай. Тая ж драўляная разьба часта рабілася майстрамі для касцёлаў і цэркваў.

*АС: Як вы сёння ацэньваеце вынікі тых экспедыцый?*

ВЛ: Мы шмат ездзілі, шмат фатаграфавалі і запісвалі. Галоўнай задачай экспедыцый быў збор матэрыялу, якім маглі карыстацца мастакі самой лабараторыі, бо мы мелі творчыя аддзелы, якія працавалі на аснове народных традыцый, а таксама мастакі прадпрыемстваў мясцовай прамысловасці.

Мы мелі магчымасць займацца зборам матэрыялаў. У той час яшчэ можна было знайсці шмат цікавага і важнага. Сярод нашых інфармантаў былі бабулі, што нарадзіліся напрыканцы XIX ст. Яны маглі нават пра прыгон распавядаць. Мы зафіксавалі шмат унікальнага. Але тады не было ні дыктафонаў, ні іншай сучаснай тэхнікі. Ды і вопыту не было. Хоць апытальнікі мы абавязкова рабілі. І я імкнулася прыдаць гэтай дзейнасці навуковую форму. Вяліся дзённікі экспедыцый, пісаліся навуковыя справаздачы. Увесь матэрыял фатаграфавалі, змяшчалі ў альбомах і апрацоўвалі. У выніку за перыяд маёй працы ў лабараторыі быў сабраны вялізны архіў, зроблены карткі з чорна-белымі фотаздымкамі рэчаў, анатацыі, слайды. Калі я адыходзіла з лабараторыі, то пазабірала копіі тых справаздач і карысталася імі ў сваіх даследаваннях.

Дарэчы, вытокі гэтай савецкай палітыкі клопату пра народнае мастацтва можна ўбачыць ужо ў дзейнасці земстваў канца XIX ст. У кніжцы *Зберагаючы самабытнасць*[1] я пісала пра тое, што рабілася прыкладна з 1880-х гг. Ужо тады назапашваўся вопыт працы з народнымі майстрамі і «саматужнікамі», каб падняць мастацкі ўзровень іх вырабаў. Тут варта ўзгадаць дзейнасць Марыі Ценішавай[2], Савы Мамантава[3], іншых прадстаўнікоў расійскай інтэлігенцыі. У савецкі час гэты вопыт выкарыстоўваўся ў народных промыслах, кустарнай або саматужнай прамысловасці ў перыяд НЭПу і ў развіцці мастацкай прамысловасці пасля адмовы ад яго. Сярод іншага дзяржава

---

1 В. Лабачэўская, *Зберагаючы самабытнасць. З гісторыі народнага мастацтва і промыслаў Беларусі*. Мінск 1998.

2 Марыя Клаўдзіеўна Ценішава (1858–1928) – прадстаўніца рускага культурнага нацыяналізму, педагог, мецэнат і калекцыянер, заснавальніца Музея рускай даўніны ў Смаленску, мастацка-прамысловых майстэрняў ва ўласным маёнтку Талашкіна.

3 Са́ва Іванавіч Мамантаў (1841–1918) – расійскі прадпрымальнік і мецэнат. Стварыў у 1872 г. у сваім маёнтку Абрамцаўскі мастацкі гурток, які аб’яднаў вядомых дзеячаў расійскага мастацтва. У Абрамцаве дзейнічалі ганчарная і дрэваапрацоўчая майстэрні, саматужныя промыслы.

бачыла ў гэтым сродак атрымаць валюту, бо многія вырабы былі арыентаваны на экспарт.

У канцы 1940-х гг. стварылі ў Менску эксперыментальную лабараторыю, якая займалася народным мастацтвам. Гэта яе супрацоўнікі рабілі замалёўкі для альбома *Беларускае народнае мастацтва*. Там не было навукоўцаў, але Міхаіл Кацар, Майсей Грынблат і гісторык Адам Залескі патраніравалі тую лабараторыю. А ў канцы 1970-х на яе базе паўстала ўжо лабараторыя, з якой быў звязаны і мой лёс.

*АС: Вы працавалі ў дзяржаўным ведамстве, арыентаваным на патрэбы прамысловасці. А якое месца ў вашай працы і жыцці займала навука?*

ВЛ: У Маскве быў Навукова-даследчы інстытут мастацкай прамысловасці. У тым жа 1981 г. я паступіла ў яго аспірантуру. Тады ўжо зразумела, што Барысам Анісфельдам займацца не буду. Дыплом застаўся ў іншым жыцці.

У навукова-даследчым інстытуце ў Маскве тады працавалі ўсе вядучыя спецыялісты па народным мастацтве. Я ўзяла тэму *Народнае мастацтва саломапляцення Беларусі*. Выбрала яе, бо падчас нашых экспедыцый была ўражана беларускімі майстрамі. Раней не бачыла нічога падобнага. Тады сапраўды быў пэўны росквіт саломапляцення, працавалі выдатныя майстры.

Але на пачатку маіх даследаванняў сутыкнулася з той самай праблемай, а менавіта з адсутнасцю літаратуры. Для мяне было важна зразумець вытокі гэтага мастацтва, адказаць на пытанне пра карані гэтай з'явы ў народнай культуры. Звычайна даследчыкі звярталі ўвагу толькі на самакаштоўнасць народнага мастацтва, яго эстэтычныя функцыі. А я зразумела, што вытокі трэба шукаць у народных абрадах і рытуалах, што якраз яны з'яўляюцца асновай развіцця рамёстваў і промыслаў. Адпаведна давялося паглыбіцца ў вывучэнне аграрных абрадаў, звязаных з хлебам, зернем, жнівом і г. д. Магчыма, гэта было найбольш важнай часткай маёй дысертацыі. Але аспірантуру я не закончыла, бо паўсталі пэўныя асабістыя праблемы, і на нейкі час давялося пакінуць навуковую працу. Але ў 1987 г. я зразумела, што дысертацыю трэба закончыць, і даволі хутка дапісала яе.

*АС: Дзе Вы абараняліся?*

ВЛ: Абарона адбывалася ў Навукова-даследчым інстытуце мастацтвазнаўства Акадэміі мастацтва СССР у Маскве. Мой навуковы кіраўнік Серафіма Кузмінічна Жагалава[1] працавала ў Дзяржаўным гістарычным музеі. Я даслала ёй свой аўтарэферат і дысертацыю і пазней нічога там не папраўляла. Але на абароне былі пэўныя складанасці. Маім апанентам была Марыя Аляксандраў-

[1] Серафіма Кузьмінічна Жагалава (Серафима Кузьминична Жегалова) (1913–1995) – даследчык рускага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, аўтар кніг *Памятники культуры. Русская деревянная резьба XIX века* (1957), *Русская народная живопись* (1984), *Русский быт накануне Петровских реформ. Жилище, еда, одежда, деньги, занятия русских людей в XVII в.* (у суаўтарстве, 2021).

на Някрасава[1], якая была галоўным тэарэтыкам у галіне народнага мастацтва. Яна і сёння мае такі статус. Але народнае мастацтва ў Расіі – гэта мастацкія промыслы, якія ў пэўным сэнсе былі вярхушкай народнага мастацтва. Народным мастацтвам, звязаным з сялянствам і яго жыццёвым укладам, фактычна ніхто не займаўся. Гэта традыцыя ў Расіі пераламілася толькі ў 1990-я гг. На абароне Марыі Някрасавай не надта спадабаліся мае спробы знайсці вытокі мастацтва саломапляцення ў рытуале, у пэўнай аграрнай магіі. Былі спрэчкі, якія не спрыялі маім далейшым кантактам з той жа Некрасавай.

*АС: Марыя Някрасава не лічыла саломапляценне народным мастацтвам?*

ВЛ: Мяжа паміж этнаграфіяй і народным мастацтвам сапраўды вельмі празрыстая. Напрыклад, у Польшчы народным мастацтвам пераважна займаліся этнографы, бо аснова даследавання – гэта побыт і абрады. А ў Савецкім Саюзе яшчэ з 1920-х гг. склалася іншая даследчая традыцыя. Этнографы займаліся сваім, а мастацтвазнаўцы вывучалі такую рафінаваную форму народнага мастацтва, як мастацкія промыслы.

Я ж падчас даследавання зразумела, што без этнаграфіі, без вывучэння традыцый і абрадаў не атрымаецца патлумачыць, адкуль бяруцца такія дасканалыя і вытанчаныя формы. Зразумець гэта можна толькі на падставе традыцыі, звязанай з тым жа жніўным абрадам, калі абавязкова трэба было зрабіць штосьці з саломы, прынесці ў хату і захоўваць да наступнага ўраджаю і г. д. Магчыма, я не зрабіла вялікіх адкрыццяў, але для мяне гэта была вельмі патрэбная праца. Прыйшло разуменне, што маючы ў руках такі багаты матэрыял, нельга абмяжоўвацца толькі аналізам мастацкай формы, трэба сягаць глыбей.

У якасці прыкладу хачу прыгадаць уласнае даследаванне знакамітых саламяных Царскіх варот для царкоўнага іканастаса... Калі я працавала над дысертацыяй, то прыйшла ад высновы, што гэтыя Царскія вароты па сваёй семантыцы блізкія, напрыклад, апошняму снапу, які пасля жніва прыносілі ў хату і ставілі ў чырвоны кут пад абразамі. Можа, гэта і не тое ж самае, але генетычна звязанае. Я адчувала, што ў дысертацыі сюжэт пра саламяныя вароты ў іканастасе не завершаны, і жыла з гэтым шмат гадоў. Урэшце ўсё склалася ў закончаную карціну, і ў 2018 г. выйшла мая кніга *Мастацтва дзеля славы Божай*[2].

---

[1] Марыя Аляксандраўна Някрасава (нар. 1928) – савецкі і расійскі мастацтвазнавец, мастацкі крытык і педагог, доктар мастацтвазнаўства (1985). У 1989 г. – кіраўнік аддзела дэкаратыўнага і прыкладнога мастацтва НДІ Акадэміі мастацтваў СССР. Аўтар кніг *Народное искусство России. Народное творчество как мир целостности* і *Народное искусство как часть культуры. Теория и практика* (1983), *Народные мастера, традиции и школы* (1985) ды інш.

[2] В. Лабачэўская, *Мастацтва дзеля славы Божай: саламяныя іканастасныя вароты і царкоўна-культавыя прадметы*. Мінск, 2018.

Першым пра саламяныя Царскія вароты напісаў Яўген Сахута, спаслаўшыся на выданне *Епархиальныя ведомости*. Я па сённяшні дзень не ведаю, адкуль ён узяў інфармацыю, бо, як разумею, артыкула ў той газеце ён не чытаў і арыгінала не бачыў. Падобна, што даследчык карыстаўся чужымі выпіскамі з *Епархиальных ведомостей*, дзе не было ні назвы, ні аўтара. Магчыма, ён знайшоў інфармацыю ў архіве Міхаіла Кацара. Ну, а я чалавек цікаўны. Мне заўсёды трэба дайсці да вытокаў. Я пачала гэтым займацца і высветліла, што гэта публікацыя 1904 г. Потым у архівах знайшла інфармацыю, што саламяныя вароты да Другой сусветнай вайны захоўваліся ў Беларускім дзяржаўным музеі, але ў вайну згінулі. Так паступова склалася ўся карціна. Дарэчы, за гэту кнігу я нават атрымала Нацыянальную прэмію ў галіне выяўленчага мастацтва ў намінацыі «Мастацтвазнаўства і крытыка» ў 2020 г. Гэта праца была вельмі важная для мяне і, як кажуць, «гештальт быў закрыты».

Аспірантура была важнай для мяне яшчэ і таму, што давала магчымасць бясплатных паездак у Маскву і працы ў яе бібліятэках і музеях. Па сённяшні дзень карыстаюся матэрыяламі, якія тады знаходзіла і вывучала.

*АС: Гэта Акадэмія мастацтваў прывучыла Вас да пастаяннай вучобы і назапашвання ведаў?*

ВЛ: Я думаю, што гэта пэўныя асаблівасці маёй унутранай арганізацыі. У мяне быццам закладзена ўспрыманне прыгажосці і імкненне яе даследаваць. Мне прыносіць вялікае задавальненне праца ў архівах, паглыбленне ў эпоху і падзею праз пажоўклыя архіўныя дакументы. Калі працую над пэўнай тэмай, то нібыта жыву ў тым часе. Не разумею, калі пішуць навуковыя тэксты без крыніц. Для мяне навука пачынаецца тады, калі ў сістэму ведаў ты ўносіш нешта новае. Між тым наша і расійскае мастацтвазнаўства пераважна апісальнае. Зараз сітуацыя трохі змянілася, але працяглы час абмяжоўваліся апісаннем. У большасці даследаванняў мне заўсёды не хапала глыбіні і сувязі народнага мастацтва з шырокім кантэкстам эпохі. Відаць, менавіта таму пазней мяне стала схіляць у іншы бок, і я пачала займацца этнаграфіяй, антрапалогіяй і гісторыяй.

*АС: Якраз хацеў пра гэта запытаць. Як атрымалася, што Вы сталі гісторыкам?*

ВЛ: Усё пачыналася з маіх экспедыцый. Успаміны нашых рэспандэнтаў прымушалі паглыбляцца ў гісторыю. Мяне, напрыклад, цікавіла Заходняя Беларусь. Я добра памятаю, як асцярожна людзі згадвалі мінулае на пачатку 1980-х гг. А вось у перыяд Міхаіла Гарбачова, калі распачалася палітыка «галоснасці», настрой рэспандэнтаў змяніўся. Калі я задавала пытанне пра жыццё «за польскім часам», то людзі ўжо актыўна размаўлялі на гэту тэму. А пытанняў я задавала шмат, бо імкнулася дайсці да каранёў той ці іншай з'явы. Напрыклад, у 1920-я гг. пасля Рыжскай дамовы вышывальны промысел на

Палессі быў звязаны з амерыканскімі квакерамі[1]. А потым я трапіла ў Палескі музей у Пінску, дзе захавалася даваенная калекцыя і дакументацыя. У выніку была напісана кніга *Захавальнік Палескага музея* пра Дзмітрыя Георгіеўскага.

*АС: Спадарыня Вольга, што ў Вашым навуковым жыцці было найвялікшым расчараваннем, а што прыносіла радасць і задавальненне?*

ВЛ: Самае вялікае задавальненне мне прыносіла магчымасць дакрануцца да гістарычнага і «жывога» матэрыялу. Я маю на ўвазе экспедыцыі, якія я праводзіла штогод пачынаючы з 1981 па 2015 г. Гэта вялізны матэрыял па розных мясцінах, гэта размовы з людзьмі, паглыбленне ў самыя розныя тэмы. Я вельмі рада, што так склалася, што ў мяне была такая магчымасць, без якой наўрад ці можна зразумець Беларусь. Сёння мне нават цяжка сказаць, дзе я не была. Можа, трохі менш ведаю Усходнюю Магілёўшчыну, хаця і там была. Гэтыя экспедыцыі сталі асновай маіх шырока акрэсленых навуковых інтарэсаў.

Але адначасна яны давалі разуменне жыцця ўвогуле. Я ж расла ў савецкай сям'і, дзе не было рэлігіі, дзе бацькі шмат працавалі, і дзяцінства не заклала нейкай асновы, не дало разумення, што ў жыцці ўсё звязана паміж сабой. Я жыла нібыта сама па сабе, адна супраць уласных праблем. Дотык да народнай культуры і традыцыі дапамог зразумець, што ёсць пэўныя каштоўнасці і сямейныя традыцыі, ёсць сістэма, на якой трымаецца жыццё. Разам з гэтым прыходзіла таксама разуменне, што гэта сістэма мэтанакіравана разбуралася савецкай уладай. Так, традыцыя забараняла красці, а ўлада прымушала гэта рабіць, бо людзі не мелі выйсця. Напрыклад, кабеты кралі ў калгасе лён, бо трэба было ткаць.

Гэтыя экспедыцыйныя даследаванні аказаліся вельмі карыснымі ў асабістым плане. Да пэўнага часу я лічыла, што вось я сама па сабе ўся такая ўнікальная. Невядома адкуль, але амаль ад нараджэння мела нейкае адчуванне ўласнай абранасці. А потым жыццё пачало біць, наваліліся праблемы…

У тых экспедыцыях па Беларусі пастуپова з'яўлялася разуменне, як пабудавана жыццё, што змяняе і парушае яго, што нясе разлад. Мне трэба было паглыбіцца ў свае даследаванні, каб зразумець, што я толькі адна з людзей, якія прыходзяць і пражываюць сваё жыццё так, адна з мільёнаў іншых. Можа, з некаторымі асаблівасцямі. Скажам так, мая дарослосць і жыццёвая мудрасць у вялікай ступені фармавалася на гэтых сустрэчах і размовах з беларусамі і беларускамі падчас даследаванняў. Апрача таго, калі ты ведаеш, як людзі жывуць і працуюць на гэтай зямлі, колькі выпрабаванняў падкідвае ім гісторыя з яе войнамі ды палітычнымі пераменамі, ты разумееш, што твае ўласныя праблемы малыя і неістотныя.

[1] Прадстаўнікі рэлігійнай хрысціянскай супольнасці, аб'яднанай у Рэлігійнае таварыства сяброў (Religious Society of Friends), якая з'яўляецца адным з накірункаў пратэстантызму. Найбольш вядомыя амерыканскія квакеры. На тэрыторыі Усходняй Еўропы яны з'явіліся пасля Першай сусветнай вайны і разгарнулі актыўную дабрачынную дзейнасць, якая суправаджалася прапагандай уласнай рэлігійнай дактрыны.

А найвялікшае расчараванне абумоўлена, мабыць, узроўнем навуковага атачэння. Так атрымалася, што адпаведны навуковы асяродак, у якім можна было б дзяліцца думкамі, спрачацца, атрымліваць крытычныя заўвагі і выказваць іх, папросту не склаўся. Такога акадэмічнага асяродку для мяне да гэтага часу няма… Але магчыма, гэта быў падарунак лёсу. Калі б я працавала, напрыклад, у Акадэміі навук, то, напэўна, ужо парасла б там імхом. А зараз магу сабе дазволіць крытыкаваць акадэмічную навуку, бо ніколі не мела да яе дачынення. Не склаліся навуковыя адносіны з даследчыкам народнага мастацтва Яўгенам Сахутам, хоць ён быў маім апанентам на абароне кандыдацкай. Нейкі час мы супрацоўнічалі, але потым я адчула, гэта гэта не супраца, а рух у адным кірунку. Міхась Раманюк заўчасна памёр. Мне былі вельмі патрэбны супраца і ўзаемадзеянне, абмен думкамі, але з гэтага нічога не атрымалася.

*АС: Падчас Вашых беларускіх даследаванняў не паўставала моўная праблема?*

ВЛ: З беларускай мовай я сустрэлася ў экспедыцыях, але вялікай праблемы не было. З большага ўсё разумела. Праблема паўстала толькі аднойчы на Палессі. Я тады яшчэ працавала ў музеі і мяне з перасоўнай выставай адправілі ў Владаву. Гэта чыгуначная станцыя на беразе Буга на мяжы з Польшчай. На другім беразе таксама Владава, але ўжо польская. Я села ў Брэсце ў цягнік. Побач сядзелі жанчыны, якія голасна размаўлялі, а я нічога не магла зразумець і вырашыла, што гэта полькі едуць. Пазней да мяне дайшло, што слухаю палескую гаворку. Уражанне было моцнае. На Палессі, як вядома, свае моўныя асаблівасці.



Па-беларуску я пачала пісаць ужо ў 1985–1986 гг. Мела шмат публікацый у часопісе *Мастацтва*. Тады гэта быў адзіны часопіс. Рэдактарам быў Міхась Раманюк, а пазней Яўген Сахута. Канешне, пісала з памылкамі, і мае тэксты цярпліва выпраўляла рэдактар Галіна Багданава. Я чытала шмат беларускіх тэкстаў і мела беларускамоўнае асяроддзе. У 1991 г. паўстаў Беларускі інстытут праблем культуры (БелІПК), які стаў маім новым месцам працы. Гэта ўжо была навуковая ўстанова новага часу, дзе працавалі такія вядомыя беларускія навукоўцы, як сацыёлаг Андрэй Вардамацкі, культуролаг Ігар Шыршоў ды інш. Там я паспрабавала размаўляць па-беларуску. Але сапраўдны пералом адбыўся пасля таго, як у 1994 г. атрымала стыпендыю Касы

імя Мяноўскага[1] і на працягу трох месяцаў працавала ў бібліятэках і архівах Польшчы. Перад паездкай актыўна вывучала польскую мову.

Той візіт у Варшаву быў вельмі важны для мяне. Я была замацавана за Інстытутам археалогіі і этналогіі Польскай акадэміі навук. Навуковым апекуном была прафесар Ванда Папроцка[2]. Яна вельмі прыхільна да мяне паставілася і спрыяла маёй працы ў бібліятэках і архівах. Тая паездка дапамагла знайсці шмат матэрыялаў па гісторыі народнага мастацтва ў Заходняй Беларусі ў міжваенны час. Для мяне стала сапраўдным адкрыццём дзейнасць тагачасных шматлікіх таварыстваў дапамогі народнаму мастацтву і промыслам. Дарэчы, гэта былі не толькі польскія ўстановы. Там шмат рабілася мясцовай інтэлігенцыяй і энтузіястамі. Здаецца, я першая пра гэта напісала.

Адначасна я намагалася наладзіць кантакты з польскімі калегамі. Спрабавала размаўляць па-польску, хоць мая польская мова была зусім слабенькая. А аднойчы хтосьці звярнуўся да мяне: «А як там беларуская мова? А як гэта будзе па-беларуску?». Усё гэта паступова змяняла маю свядомасць...

А яшчэ ж трэба нагадаць, што на пачатку 1990-х гг. было зусім іншае адчуванне перспектыў і магчымасцей Беларусі і беларускай культуры. Для мяне было зразумела, што Савецкі Саюз адышоў у мінулае, што Беларусь мае ўласны гістарычны шлях, які яна можа прайсці без Расіі. У палітычных справах я не ўдзельнічала, але была прыхільніцай беларускай незалежнасці.

Я тады выкладала ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў і, вярнуўшыся з Польшчы, вырашыла, што буду выкладаць па-беларуску. Мая мова была, вядома, недасканалая, але студэнты слухалі і вучыліся. А ў 1998-м у выдавецтве «Беларуская навука» выйшла мая першая беларускамоўная кніга *Зберагаючы самабытнасць*. Я пачынала яе пісаць па-расійску, а закончыла па-беларуску.

Дарэчы, у той прыезд у Варшаве я сустрэлася з Ганнай Энгелькінг[3], якая мяне найперш цікавіла як аўтарка артыкула пра палескага фатографа Юзафа

---

1 Каса імя Юзафа Мяноўскага – Фундацыя падтрымкі навукі (Kasa im. Józefa Mianowskiego – Fundacja Popierania Nauki). Найстарэйшая грамадская арганізацыя ў Польшчы, створаная ў Варшаве ў 1881 г. Яе галоўнай статутнай мэтай з'яўляецца падтрымка навукі шляхам прадастаўлення навуковых стыпендый, фінансавання навуковых публікацый і інш.

2 Ванда Папроцка (Wanda Paprocka) (1931–2020) – у той час кіраўнік аддзела этнаграфіі Інстытута археалогіі і этналогіі Польскай акадэміі навук; даследавала сельскія промыслы (пляценне, ганчарства), змены ў народнай культуры, якія адбываліся пад уплывам індустрыялізацыі, пытанні ўзаемасувязі народнай і нацыянальнай культуры, уплыў народных традыцый на грамадскую свядомасць.

3 Га́нна Энгелькінг (Anna Engelking), (нар. 1959 г.) – польскі этнолаг, этналінгвістка, беларусістка, прафесар Інстытута славістыкі Польскай акадэміі навук. Доктар габілітаваны гуманістычных навук (у галіне этналогіі).

Шыманчыка[1]. Наша сустрэча стала пачаткам сяброўства, якое было і застаецца вельмі плённым для навуковай дзейнасці і маёй, і Ганны. А потым былі навуковыя праекты прафесаркі Эльжбеты Смулковай[2], канферэнцыі ў Беластоку, якія арганізоўвала кафедра беларускай культуры мясцовага ўніверсітэта, а таксама польска-беларускі праект *Палессе, якога не ведаем*.

*АС: Ці можна сцвярджаць, што пасля кандыдацкай дысертацыі менавіта гэтыя кантакты з польскім навуковым асяродкам сталі другім важным этапам навуковай біяграфіі?*

ВЛ: Напэўна, так.

*АС: Чым яны адрозніваліся ад Вашых кантактаў з расійскімі навукоўцамі?*

ВЛ: Кантакты з расійскімі калегамі ў меншай ступені датычаць даследаванняў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. У пэўны момант я адчула, што на канферэнцыях у Расіі па гэтай праблеме мне няма чаго слухаць. Мне не цікава. І яны не разумелі маіх дакладаў, якія закраналі светапогляд, карціну свету. Менавіта таму я ўсё больш схілілася ў бок фалькларыстыкі і этнаграфіі. Напрыклад, рэгулярна ўдзельнічала ва Усерасійскіх кангрэсах фалькларыстаў, дзе збіраліся вядомыя фалькларысты і этнографы. У прыватнасці, прыязджалі прафесар Ежы Бартмінскі[3], Святлана Талстая[4] ды інш. Тады я ўжо працавала ў БелІПК і мяне цікавілі этнасеміятычныя даследаванні. У мяне было шмат экспедыцыйных матэрыялаў, звязаных з абрадамі, рытуаламі, мовай. Таксама я супрацоўнічала з Цэнтрам рускага фальклору ў Маскве, пакуль яго не зрабілі часткай Расійскага Дома народнай творчасці.

Дарэчы, кантакты ў Расіі, у тым ліку з маімі школьнымі сяброўкамі, дапамаглі зразумець, што тая ж ідэнтычнасць не ёсць чымсьці дадзеным ад нараджэння, што яна пэўны канструкт. Думала пра гэта, калі адказвала на пытанні сваіх сяброўак: «А навошта вам у Беларусі беларуская мова? Вы што, па-руску не разумееце?». Здаецца, у 2000 г. напісала артыкул «Мова і самасвядомасць у асяроддзі беларускай інтэлігенцыі 1990-х гадоў», у якім у пэў-

---

1 Юзаф Шыманчык (1909–2003) – беларускі фатограф. Нарадзіўся ў Косаве. Захавалася каля 400 этнаграфічных і дакументальных здымкаў з Палесся 1930-х гг.

2 Эльжбе́та Смулко́ва (Janina Elżbieta Smułek (Smułkowa), (нар. 1931 г.) – польскі мовазнавец, славістка, беларусістка. Першая амбасадарка Польшчы ў Беларусі (1992–1995).

3 Ежы Бартмінскі (Jerzy Bartmiński) (1939–2022) – польскі мовазнаўца, этнолаг, фалькларыст, заснавальнік польскай школы этналінгвістыкі, прафесар Універсітэта імя Марыі Кюры-Складаўскай у Любліне. Адна з яго найбольш значных работ для гуманітарных навук *Jezykowe podstawy obrazu swiata* (2007).

4 Святлана Міхайлаўна Талста́я (нар. 1938 г.) – расійская лінгвістка, доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык аддзела этналінгвістыкі і фальклору Інстытута славяназнаўства РАН, кіраўнік Маскоўскай этналінгвістычнай школы. Акадэмік РАН.

ным сэнсе аналізавала ўласны вопыт і звяртала ўвагу на фактары знешняга ўплыву на ідэнтычнасць. А яшчэ я зразумела, што ў Беларусі ў постсавецкі час была іншая гісторыя і іншыя арыенціры, чым у Расіі. Канешне, грамадства ў сваёй большасці не адмовілася цалкам ад бэсэсэраўскага мінулага, але яго лепшыя прадстаўнікі вызначыліся з еўрапейскім шляхам развіцця. А ў Расіі гэтага не адбылося. І наступствы гэтага мы сёння назіраем. Калі я прыязджала ў Цюмень у 2014 г. і пазней, мае адукаваныя сяброўкі, прадстаўнікі мясцовай культурнай эліты на 100 % былі ўпэўнены, што «Крым – наш». Размаўляць на гэту тэму з імі было немагчыма. Мая прыдбаная ідэнтычнасць, канешне, звязана з тым, што я ўсё ж такі ўключана ў беларускае культурніцкае асяроддзе, маю кантакты з польскімі навукоўцамі і магу ўсё гэта параўноўваць з Расіяй.

Трэба прызнаць, што кантакты з польскімі навукоўцамі былі больш карысныя і больш выніковыя. Да таго ж гэта супраца паспрыяла новым накірункам маіх уласных даследаванняў, што датычылі праблемы памежжа, самаідэнтычнасці ды інш.

Дарэчы, тыя ж кантакты дапамаглі зразумець, якія перамены адбываюцца ў краіне. У 1997 г. разам з Ганнай Энгелькінг мы зрабілі фотавыставу *Палессе, якога не ведаем*. Яе аснову склалі фотаздымкі 1930-х гадоў даследчыка Палесся Юзафа Абрэмбскага[1]. Гэтыя фотаздымкі Ганна Энгелькінг прывезла з Амерыкі. Іх дапоўнілі здымкі студэнтаў Варшаўскага ўніверсітэта, якія ўжо ў наш час прайшлі па Палессі тым самым шляхам. Дамовіліся паказаць гэту выставу ў Брэсце, Кобрыне, Пінску і ў Менску.

Ужо ў Брэсце паўсталі праблемы. Адна з старэйшых супрацоўніц абласнога краязнаўчага музея падчас інсталяцыі выставы паведаміла ўладам пра… палітычную небяспеку. Маўляў, паказваюць не калгасныя дасягненні, а галечу і бяду Палесся. У выніку з'явіўся начальнік упраўлення культуры вобласці і запатрабаваў прыбраць некаторыя здымкі. Але нам удалося неяк улагодзіць сітуацыю і амаль нічога з той выставы не знялі. Але я ўжо зразумела, што час змяніўся. Голас падаюць тыя выхаванцы савецкай дзяржавы, якія схаваліся на пачатку 1990-х гг.

У Кобрыне было яшчэ горш. Нам дазволілі адкрыць выставу ў Музеі імя А. Суворава, а як толькі мы выехалі, яе дэмантавалі. Дырэктарка музея напісала ліст у Адміністрацыю прэзідэнта наконт «польскай інтрыгі» і дыскрэдытацыі беларускага Палесся. З Адміністрацыі паведамілі ў Міністэрства культуры, якое было вымушана рэагаваць. Адпаведна, мяне выклікалі ў міністэрства, а намеснік міністра і начальнік упраўлення паехалі ў Кобрын разбірацца і глядзець на «падрыў ідэалогіі».

[1] Юзаф Абрэмбскі (Józef Obrębski) (1905–1967) – польскі этнолаг і сацыёлаг, вучань Браніслава Маліноўскага. У 1934–1937 гг. праводзіў этнасацыялагічныя палявыя даследаванні на Палессі.

Калі я сыходзіла з БелІПК, даведалася з уласнай працоўнай кніжкі, што атрымала тады вымову і была паніжана на пасадзе. Гэта дырэктар Інстытута хуценька адрэагаваў, але я пра гэта даведалася толькі пры звальненні.

Пасля гэтага ўсё ж было адкрыццё выставы ў Пінску, у Музеі Палесся. Але выстава была ўжо падцэнзурная. Нам з Ганнай Энгелькінг давялося зняць шмат фотаздымкаў. Тады якраз прыехаў славуты польскі літаратар і ўраджэнец Пінска Рышард Капусцінскі з журналісткай, здаецца, газеты *Rzeczpospolita*. Яны заклікалі нікога не слухаць і нічога не здымаць, але мы з Ганнай вырашылі, што выстава павінна ўсё ж быць адкрыта ў Пінску[1].

Гэта быў час узмацнення ціску на ўсё нацыянальнае. Я меркавала, што ў Менску выставы ўжо не будзе. Аднак яна ўсё ж была выстаўлена ў Нацыянальным гістарычным музеі, хоць дзеля гэтага давялося схадзіць у Міністэрства культуры. Магчыма, паспрыяла і тое, што якраз выйшла з друку мая кніга *Зберагаючы самабытнасць*.

Гэтыя падзеі паказалі, што час змяніўся. Напрыканцы 1990-х гг. пачалі згортвацца многія ініцыятывы, паўсталі важныя праблемы з свабодай навуковага даследавання ды інш.

*АС: Імкненне ўлады надзець на гуманітарныя і сацыяльныя навукі кайданкі ідэалогіі вядомае з савецкіх часоў. На жаль, сёння гэта стала звычайнай з'явай. Але хачу запытаць пра іншае. Што значыць быць жанчынай у беларускай навуцы? Ці адчувалі вы пэўную гендэрную дыскрымінацыю?*

ВЛ: Ніколі гэтага адчувала. У мяне такі характар, што я заўсёды дабівалася таго, што задумала. Гэта я зараз жыву ў сітуацыі, калі ўсё больш адчуваю, што не ў стане паўплываць на абставіны. А раней маё жыццё так складвалася, што я ўсё роўна прыходзіла ў тую кропку, да якой я ішла.

*АС: А што значыць для Вас быць навукоўцам? Ці можна разважаць пра пэўную грамадскую місію навукоўца?*

ВЛ: Я сябе місіянеркай не адчуваю. Часам маю дзіўнае пачуццё, быццам знаходжуся ўнутры працэсу пазнання, унутры спасціжэння новага і невядомага. Нават самае маленькае адкрыццё прыносіць вялікае задавальненне. І заўсёды рада адчуць, што мая праца камусьці патрэбна. Можа, місія ў тым, каб сваім адкрыццём падзяліцца з іншымі. Магу сказаць, што за кожную сваю кнігу я чула падзякі ад людзей. Гаворка не пра навукоўцаў. Я ўжо казала, што не бачу ў Беларусі такога навуковага асяроддзя, якое б радаваліся чужым поспехам і дасягненням. Я ўжо спакойна да гэтага стаўлюся. Ведаю, што кожная мая кніга знайшла сваіх удзячных чытачоў. Так, кніга, прысвечаная беларускаму рушніку, выдавалася двойчы, кніга пра беларускі касцюм вытрымала ўжо чатыры выданні. Думаю, не шмат наву-

---

[1] Падзеі, звязаныя з адкрыццём выставы ў Пінску, згадвае журналістка і пісьменніца Малгажата Шайнерт у кнізе *Насыпаць горы. Палескія гісторыі* (Мінск, 2016).

коўцаў могуць пахваліцца падобнымі перавыданнямі, тым больш у дзяржаўных выдавецтвах.

Часам няма грошай на выданне чарговай кнігі, а яна ўсё ж выходзіць з друку. Быццам маё захапленне працэсам даследавання перадаецца іншым, якія спрыяюць выданню. Так, фатограф Міхась Аракчэеў бясплатна зрабіў для мяне фотаздымкі посцілак і дыванаў, што дапамагло выдаць кнігу *Беларускія посцілкі і дываны. Антрапалогія і мастацтва традыцыйнай рэчы* (2021).

*АС: Калі думаю пра Вашу дзейнасць, то паўстае вобраз чалавека-інстытута. Зроблена ў навуцы вельмі шмат…*

ВЛ: Нешта зрабіла. Магчыма, калі б я была ўключана ў інстытуцыянальнае навуковае асяроддзе, магла б зрабіць болей. Часам я рабіла тое, што толькі мяне цікавіла, а потым аказвалася, што гэта цікава і патрэбна для грамадства, для навукі.

*АС: Як Вы ацэньваеце перспектывы развіцця навук пра чалавека, то бок гуманітарных і сацыяльных навук у Беларусі?*

ВЛ: Скептычна. Зараз перажываем пэўны злом часу. Часта задаюся пытаннем: колькі мне яшчэ засталося? Хто ідзе следам? Азіраешся навокал і бачыш адзінкі даследчыкаў. Навуковыя інстытуцыі, такія як Акадэмія навук, універсітэты, займаюцца прафанацыяй навукі пра чалавека. Праводзяцца канферэнцыі на паперы, у якіх ніхто не ўдзельнічае. Тэксты друкуюцца дзеля справаздачы. Дысертацыі абараняюцца дзеля атрымання аўтарам навуковай ступені і г. д.

У Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў працую з 2009 г. Да гэтага часу я займалася пераважна навуковымі даследаваннямі, рабіла тое, што лічыла патрэбным і важным, удзельнічала ў тых канферэнцыях, якія былі цікавыя для мяне. Зараз іншая сітуацыя, і я адчуваю, што станаўлюся часткай механізму па вытворчасці навукі.

Малюю сумныя перспектывы яшчэ і таму, што зараз моцна змянілася тэхналогія здабывання ведаў. Раней трэба было, выбачайце, спадніцу ці штаны прасядзець у бібліятэцы, каб нешта знайсці, тую ж бібліяграфію аформіць як трэба. Сёння інтэрнэт дазваляе вельмі хутка працаваць. У выніку ў навуку прыходзіць моладзь, якая мае спакусу займацца не даследаваннямі, а кампіляцыяй чужых прац.

Да таго ж лічу, што мастацтвазнаўства – гэта навука не самастойная. Тут нічога не дасягнеш без ведання этнаграфіі, фалькларыстыкі, антрапалогіі, этналогіі. Прынамсі, калі займаешся народным мастацтвам, этнамастацтвазнаўствам. А яшчэ трэба абапірацца на дасягненні сусветнай антрапалогіі. Дзякуй Богу, маем доступ да літаратуры. Але не маем уласнай Школы антрапалогіі. Я гэта зразумела ўжо падчас першай паездкі ў Польшчу. Праз дзесяць гадоў я зноў атрымала стыпендыю і шмат часу правяла, чытаючы працы па культурнай антрапалогіі. Навуковыя перспектывы маюць тыя, хто выехаў на стажы-

роўку або працуе ва ўніверсітэтах ЗША і Еўропы. У Беларусі сёння я не бачу перспектыў для развіцця сацыяльных і гуманітарных навук.

Навуковая дзейнасць – гэта ж толькі элемент агульнага сацыяльнага, палітычнага і культурнага жыцця. Для яе развіцця патрэбны адпаведныя інстытуцыі, якія б карысталіся сучасным навуковым інструментарыем, а не замшэлымі савецкімі падыходамі.

*АС: Сумна гэта чуць, але не бачу падстаў Вам пярэчыць. І апошняе пытанне: што хочацца яшчэ зрабіць у навуцы? Якія маеце планы?*

ВЛ: Хачу напісаць кнігу пра беларускі арнамент як феномен нацыянальнай культуры. Апрача таго маю шмат неапрацаваных матэрыялаў. Варта ім надаць пэўную форму, бо з нашымі асабістымі архівамі ніхто працаваць не будзе.

*АС: Спадарыня Вольга, дзякуй за размову і жадаю перамен, якія б развеялі Ваш скептыцызм наконт будучыні навук пра чалавека ў Беларусі.*

ISSN 2424-5216

# ВІЛЕНСКІ СШЫТАК
# VILNA'S NOTES

## ЧАЛАВЕК, ЯКІ СКАЗАЎ ПРАЎДУ. З ЖЫЦЦЯПІСУ БЕЛАРУСА ФРАНЦІШКА АЛЯХНОВІЧА (1883–1944)

***Аляксандр Смалянчук,***
*доктар гіст. навук (Варшава)*

***Summary***

*The article is devoted to the life stages of the prominent Belarusian theatre figure and playwright, publicist and writer Frantisek Aliachnovich (1883–1944). The author follows all main stages of his life and creative biography. He focuses on the book «In the claws of the GPU» (Vilnia, 1934), which discloses details of the Aliachnovich's arrest in Minsk, imprisoning in Solovki camp and, after all, his fortunate return to Vilnia. Aliachnovich's book was the first ever attempt to tell about communist repressions in the artistic form. He was also eager to show up that a real foundation of the «socialist country» is mass political repressions and propaganda deception. It is likely, that his truth about communist repressions was the cause of his tragic death in March of 1944.*

Францішак Аляхновіч – чалавек незвычайнага лёсу. Яму, як дзеячу беларускай культуры і палітзняволенаму, наканавана было прайсці праз жудасныя выпрабаванні Салавецкага лагера[1], каб распавесці свету пра злачынствы камуністычнай сістэмы ў СССР. Кніга яго жыцця «У капцюрох ГПУ» ўпершыню была апублікавана ў 1934 г. Яго аповеду

[1] Салавецкі лагер асобага прызначэння (СЛОН) быў створаны ў 1923 г. і стаў першым у СССР канцэнтрацыйным лагерам, які афіцыйна называўся «выпраўленча-працоўным». Гэта месца катаргі было вялікай магілай для вязняў, якія гінулі ад хвароб або ад кулі ахоўніка. У 1930 г. колькасць зняволеных перавысіла 60 тыс., а па ўзоры СЛОНа пачалі ствараць новыя лагеры ва ўсім СССР. Лагер быў ліквідаваны ў 1933 г. Пазней на Салавецкіх астравах знаходзілася турма асобага прызначэння.

не ўсе паверылі. Спачатку пляткарылі, што ён агент ДПУ[1], пазней вінавацілі ў сувязях з польскай паліцыяй («дэфензівай»). Паэт і заходнебеларускі камуніст Максім Танк у адным з дзённікавых запісаў за 1936 г. сцвярджаў, што «хлопцы смяюцца з гэтай кнігі» і дадаў: «Кнігу хутка, нават не дачытаўшы, скурылі нашы курцы»[2].

Давер да савецкай прапаганды з яе байкай пра «сацыялістычны рай» аказаўся праклёнам усёй беларускай гісторыі XX ст. Насамрэч «рай» часта ператвараўся ў сапраўднае пекла, у полымі якога разам з людзьмі гінулі Праўда, Свабода і Справядлівасць. Гэты праклён адчувальны на нашай зямлі і ў XXI ст. Працэс развітання з эпохай прыніжэння і знішчэння Чалавека, што ніяк не скончыцца, усё часцей прымушае нас згадваць гісторыю савецкага палітычнага тэрору ў Беларусі, месцам памяці пра які заўжды будуць Курапаты. Аляхновіч быў ахвярай гэтага тэрору, але вырваўся на волю і стаў адным з першых публічных крытыкаў СССР як сістэмы заняволення чалавека. Магчыма, яго трагічная смерць у сакавіку 1944 г. была толькі выкананнем вынесенага Саветамі смяротнага прысуду таму, хто не збаяўся сказаць праўду пра рэпрэсіі ў «першай у свеце краіне сацыялізму».

### *Беларускае Адраджэнне: паміж тэатрам і журналістыкай*

Усё пачыналася 9 сакавіка 1883 г. у Вільні. Францішак Аляхновіч нарадзіўся ў сям'і віленскага скрыпача, нашчадка збяднелага шляхецкага роду[3]. Тэатр вельмі рана ўвайшоў у яго жыццё, бо бацька, які выступаў у тэатральных аркестрах, часта браў з сабой маленькага сына. Францішак з маленства «захварэў» тэатрам і пачаў марыць пра акцёрскі шлях. Магчыма, менавіта гэта перашкодзіла яму атрымаць сістэмную адукацыю, бо за «непаспяховасць» ён быў адлічаны з гімназіі, а пазней з Віленскай хіміка-тэхналагічнай школы. Некаторы час як вольны слухач вучыўся ў Ягелонскім універсітэце. Але атрымалася закончыць толькі Драматычную школу пры Музычным таварыстве ў Варшаве, пасля якой Аляхновіч стаў акцёрам вандроўнай польскай трупы.

У гэты ж час ён пачаў працаваць рэпарцёрам і супрацоўнічаць з друкам, у т. л. з польскай «Газетай Віленьскай» (1906), якую выдаваў адзін з галоўных ідэолагаў «краёўцаў» Міхал Ромэр (1880–1945). Гэтыя кантакты сталі

---

1 Дзяржаўнае палітычнае ўпраўленне – спецслужба, якая ў 1922 г. замяніла сумна вядомую Надзвычайную камісію (ЧК). Першым кіраўніком быў Фелікс Дзяржынскі (1877–1926). У 1934 г. ДПУ была пераўтворана ў Народны камісарыят унутраных спраў (НКУС), які ўзначаліў Генрых Ягода (1891–1938).

2 М. Танк, *Збор твораў*, т. 9. *Лісткі з календара* (*1941–1959*), Мінск 2009, с. 78.

3 С. Лаўшук, *Аляхновіч Францішак* [w] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі*, рэд. калегія: М. В. Біч ды інш., т. 1, Мінск 1993, с. 113.

пачаткам сяброўскіх адносін паміж імі, якія закончыліся толькі са смерцю Францішка Аляхновіча.

У 1908 г. ён вярнуўся ў родную Вільню. Працаваў журналістам, выдаваў на польскай мове гумарыстычны часопіс «Перкунас». Тут, у Вільні, Аляхновіч зблізіўся з асяродкам беларускай газеты «Наша Ніва» і далучыўся да беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння. У гісторыю Адраджэння ён увайшоў як пісьменнік і драматург, адзін з заснавальнікаў беларускага тэатра. У студзені 1910 г. Францішак Аляхновіч разам з Ігнатам Буйніцкім і Аляксандрам Бурбісам рэжысіраваў пастаноўку перакладзенай з украінскай мовы на беларускую аднаактавай п'есы Марка Крапіўніцкага «Па рэвізіі» і адначасова быў акцёрам. Прэм'ера адбылася 12 лютага 1910 г. падчас «беларускай вечарынкі». Гэта быў першы беларускамоўны спектакль у Вільні, які меў вялікі поспех. Вядомы беларускі мастацтва- і тэатразнавец Анатоль Сабалеўскі сцвярджаў, што менавіта гэта прэм'ера і яе поспех сталі штуршком для адраджэння беларускага прафесійнага тэатра[1].

Аднак даволі хутка пасля гэтага Аляхновіч быў вымушаны пакінуць Вільню, ратуючыся ад судовага пераследу за крытычны артыкул на старонках «Перкунаса». Ён выехаў у Галіцыю, дзе працаваў акцёрам у польскіх тэатрах пад псеўданімам Юры Монвід.

Спадзеючыся на абвешчаную амністыю з нагоды 300-годдзя дынастыі Раманавых, у 1913 г. Ф. Аляхновіч вярнуўся ў Вільню. Амністыя не дапамагла. Акцёра і журналіста асудзілі на год зняволення, якое ён адбываў у віленскіх Лукішках. Менавіта адтуль у чэрвені 1914 г. ён напісаў ліст да Антона Луцкевіча як да свайго «шэфа» па працы ў рэдакцыі «Вечерней газеты». Аляхновіча турбавалі датычныя яго нейкія «ганебныя чуткі», што распаўсюджваліся ў Вільні[2]. Трэба адзначыць, што газету выдавалі браты Луцкевічы, выдаючы сябе за «рускіх дэмакратаў». На яе расійскамоўных старонках папулярызавалася краёвая ідэя і сцвярджалася каштоўнасць беларускага культурніцкага Адраджэння.

Менавіта ў турме «нарадзіўся» драматург Аляхновіч. Яго першым сцэнічным творам стала камедыя «На Антокалі», напісаная па-польску, але пазней перакладзеная аўтарам на беларускую мову. Яна была апублікавана на старонках віленскай беларускай газеты «Гоман» ужо ў часы Першай сусветнай вайны і нямецкай акупацыі Вільні.

На пачатку 1916 г. Аляхновіч стварыў у Вільні тэатральны гурток «Беларуская драматычная дружына», сіламі якога 15 кастрычніка 1916 г. быў пастаўлены беларускі спектакль па матывах «Хама» Элізы Ажэшкі. 26 снеж-

---

1 А. Сабалеўскі, *Адметны след*, «Спадчына», 1990, № 3, с. 7.

2 Бібліятэка імя Урублеўскіх Акадэміі навук Літвы, аддзел рукапісаў, f. 21, sygn. 3, ліст Ф. Аляхновіча да А. Луцкевіча ад 19.06.1914.

ня 1916 г. адбылася прэм’ера п’есы «На Антокалі». Драматычны гурток пачалі называць «тэатрам Францішка Аляхновіча»[1]. У 1917 г. з’явіліся п’есы Аляхновіча, напісаныя паводле сюжэтаў беларускага фальклору («Бутрым Няміра», «Кветка-папараць» ды інш.).

Улетку 1918 г. Францішак Аляхновіч перабраўся ў Менск, які стаў палітычным цэнтрам беларускага руху. Тут была абвешчана БНР і рабілася вялікая праца па адбудове беларускай дзяржаўнасці. Дарога з Вільні ў Менск была цяжкай і небяспечнай, бо Аляхновіч не меў пропуска ад нямецкіх акупацыйных улад. Давялося сыграць ролю фурмана і разам з нейкімі кабетамі перайсці праз лінію старога фронту.

У Менску ён далучыўся да трупы Першага таварыства беларускай драмы і камедыі, рэжысёрам якога быў Фларыян Ждановіч (1884–1937). Першай менскай пастаноўкай Аляхновіча стала драма «Бутрым Няміра». Аляхновіч сыграў у ёй галоўную ролю, прычым з такім поспехам, што адразу ж стаў вядомым. Ён шмат працаваў, пісаў новыя п’есы, выконваў у іх розныя ролі[2].

У Менску ён сабраў уласную тэатральную трупу. Пасля захопу горада бальшавікамі ў лістападзе 1918 г. яна стала асновай Беларускага пралетарскага тэатра. Аляхновіч застаўся ў горадзе і ўзначаліў тэатр. Аднак працаваць пад уладай бальшавікоў было немагчыма, і ўвесну 1919 г. ён вярнуўся ў Вільню, дзе зноў спрабаваў стварыць тэатр. Савецка-польская вайна перакрэсліла тэатральныя планы.

У Вільні Францішак Аляхновіч пісаў п’есы, а з чэрвеня 1919 г. рэдагаваў часопіс «Беларускае жыццё», на старонках якога адстойвалася ідэя беларускай дзяржаўнасці, а таксама федэрацыі народаў былога ВКЛ як супрацьвагі ўплывам Польшчы, Расіі і Германіі. Аляхновіч не бачыў магчымасці паразумення з Расіяй, ні «чырвонай», ні «белай». Затое выказваліся надзеі на супрацу з Польшчай Юзафа Пілсудскага, асвятляліся перамовы з польскім урадам улетку 1919 г. старшыні Цэнтральнай беларускай рады Віленшчыны і Гродзеншчыны Браніслава Тарашкевіча.

У літаратурна-мастацкім раздзеле, які рэдагаваў паэт Змітрок Бядуля, асвятляліся падзеі беларускага культурнага жыцця, асабліва ў галіне літаратуры і тэатра. Аляхновіч актыўна прапагандаваў ідэю нацыянальнага тэатра як «кузьні, што выкоўвае дух народа»[3].

Напрыканцы 1919 г. ён разам з рэдакцыяй «Беларускага жыцця» перабраўся ў заняты польскім войскам Менск. Рэдакцыйную працу сумяшчаў

---

1 У. Ковель, *Камедыі з мяшчанскага жыцця. Станаўленне Францішка Аляхновіча як драматурга,* «Роднае слова», 1998, № 9, с. 36.

2 А. Сабалеўскі, *Адметны след…*, с. 8.

3 Б.п., Беларускі тэатр, «Беларускае жыццё», 1919, № 14, 30.09.

з тэатральнай дзейнасцю. Ён стварыў і ўзначаліў Беларускі народны тэатр[1]. Тэатр працаваў у складаных умовах панавання польскай цэнзуры, якая часам лютавала і забараняла пастаноўку беларускіх п’ес.



*Францішак Аляхновіч – рэдактар газеты «Беларускі звон». 1921 г.*

Наступ бальшавіцкіх войск увесну 1920 г. прымусіў Аляхновіча вярнуцца ў Вільню. Ізноў жыццё дзялілася паміж журналістыкай і тэатрам. Аляхновіч сабраў тэатральную трупу, пісаў п’есы і рэдагаваў газету «Беларускі звон». На яе старонках быў апублікаваны яго новы твор «Няскончаная драма», які меў біяграфічны характар. Паводле Анатоля Сабалеўскага, гэты твор займае цэнтральнае месца ва ўсёй тэатральнай спадчыне пісьменніка[2].

Штотыднёвік «Беларускі звон» выходзіў у Вільні з сакавіка 1921 па люты 1924 г. і ў пэўным сэнсе стаў трыбунай тых дэмакратычных сіл, якія падтрымлівалі культурна-нацыянальнае Адраджэнне Беларусі і яе права на дзяржаўную незалежнасць. Нягледзячы на рэзкую крытыку Рыжскага трактата, які падзяліў Беларусь, рэдакцыя ўсё ж спадзявалася на Польшчу і яе падтрымку нацыябудаўніцтва тых народаў, што вызваліліся з-пад расійскага панавання.

А вось у драматургіі Францішак Аляхновіч пракладаў новыя шляхі. Многія яго п’есы былі наватарскімі. Ён пісаў сатырычныя і бытавыя камедыі, творы рэвалюцыйнай тэматыкі, сацыяльныя драмы, трагедыі, алегарычныя творы ды інш. Анатоль Сабалеўскі наступным чынам характарызаваў яго драматургію: «П’есам уласцівы глыбокі дэмакратызм, а часам і больш – народнасць. Яны вызначаюцца напружанасцю інтрыгі, дынамізмам дзеяння, сцэнічнасцю. Персанажы звычайна рэзка акрэсленыя, яны ўзмоцнена камедыйныя ці ўзмоцнена драматычныя ці меладраматычныя. Творы, на першы погляд, простыя, бясхітрасныя, разлічаны на самага шырокага, у тым ліку і тэатральна малападрыхтаванага чытача. Многія з іх даюць магчымасць ствараць яркае сцэнічнае відовішча з выкарыстаннем музыкі, песень, танцаў. Усё гэта – не толькі асаблівасці ўласна драматургіі, а і шырэй – аляхновічскага тэатра, яго эстэтыкі»[3].

---

[1] Ю. Туронак, *Вацлаў Іваноўскі і адраджэньне Беларусі* [w] Ю. Туронак, *Мадэрная гісторыя Беларусі*, Вільня 2008, с. 208.

[2] А. Сабалеўскі, *Адметны след…*, с. 8.

[3] Тамсама, с. 9.

У 1924 г. выйшла з друку кніга «Беларускі тэатр», якая запачаткавала айчыннае тэатразнаўства, а таксама ў пэўнай ступені падвяла вынікі найбольш плённага перыяду тэатральнай дзейнасці драматурга і акцёра.

У тым жа годзе Аляхновіч выступіў на палітычнай сцэне. Ён далучыўся да дзейнасці Часовай беларускай рады, створанай у Вільні з ініцыятывы Арсеня Паўлюкевіча[1]. Рада была палітычным апанентам Беларускай сялянска-работніцкай грамады і КПЗБ. На гэтую палітычную ролю Ф. Аляхновіча звярнулі ўвагу савецкія спецслужбы, якія паступова распрацавалі план расправы з беларускім дзеячам.

## *У кіпцюрах ДПУ*

Адносіны Аляхновіча да савецкай улады пачалі станавіцца больш пазітыўнымі пад уплывам той інфармацыі, якая прыходзіла з БССР. Палітыка карэнізацыі і беларусізацыі, якую бальшавіцкая Масква распачала дзеля ўмацавання ўласнай улады ў Беларусі, моцна кантраставала з сітуацыяй беларускай супольнасці ў Польшчы. Улады апошняй у адносінах да нацыянальных меншасцей вагаліся паміж дзяржаўнай і нацыянальнай асіміляцыяй. Штогод змяншалася колькасць беларускіх школ, а дэкларацыя ўласнай беларушчыны трактавалася ўжо як праява варожасці да Польскай дзяржавы.

Сімпатыі да савецкай улады ў Польшчы актыўна пашыралі заходнебеларускія камуністы, шматлікія агенты ДПУ і савецкія дыпламаты, у прыватнасці Аляксандр Ульянаў. Адной з мэт было перакананне дзеячаў беларускага руху ў неабходнасці вяртання ў Менск, які яны прэзентавалі як варыянт «беларускага П’емонта». У пэўны момант пачалася апрацоўка Францішка Аляхновіча. Галоўнай прыманкай стала абяцанне найлепшых умоў для тэатральнай дзейнасці.

Урэшце ўвосень 1926 г. Аляхновіч прыехаў у Менск. Яго добра сустрэлі і прапанавалі савецкае грамадзянства. Напрыканцы снежня ён атрымаў савецкі пашпарт, а ўжо 1 студзеня 1927 г. быў арыштаваны. Пастка зачынілася. ДПУ паспяхова завяршыла аперацыю. Спробы яго маці звярнуцца па дапамогу да згаданага Аляксандра Ульянава аказаліся беспаспяховымі. Таксама не меў станоўчых вынікаў калектыўны зварот у ЦК КП(б)Б у абарону Аляхновіча вядомых беларускіх літаратараў, у тым ліку Янкі Купалы і Якуба Коласа. Бюро ЦК адхіліла просьбу пра вызваленне.

Францішак Аляхновіч быў асуджаны на 10 гадоў катаргі ў Салавецкім лагеры за «ўдзел у арганізацыі, якая дапамагала міжнароднай буржуазіі». Прыблізна так ён перадаў фармулёўку абвінавачання ў сваёй кнізе[2]. У лаге-

[1] У 1928 г. А. Паўлюкевіч быў арыштаваны польскімі ўладамі як савецкі шпіён і асуджаны на 12 гадоў катаргі.

[2] Ф. Аляхновіч, *У капцюрох ГПУ*, [online] https://knihi.com/Francisak_Alachnovic/U_kapciuroch_HPU.html, [дата доступу: 03.02.2021].

ры правёў 7 гадоў. Тое, што ён здолеў выжыць у тых нялюдскіх умовах, было нейкім цудам. Сёння мы прыблізна ведаем пра маштабы тагачасных палітычных рэпрэсій, пра мільёны загінулых у лагерах, пра дзясяткі мільёнаў людзей з паламаным лёсам. Выжыць у савецкім канцлагеры і застацца пры гэтым чалавекам атрымлівалася ў адзінак з шматмільённага кантынгенту «ворагаў народа».

Дзякуючы польскім сябрам і калегам Аляхновіча, на пачатку 1933 г. Варшава выступіла з ініцыятывай абмену Аляхновіча на палітзняволенага вязня польскай турмы. Працяглыя перамовы завяршыліся паразуменнем. Аляхновіча згадзіліся выпусціць у абмен на яго добрага знаёмага Браніслава Тарашкевіча. Вядомы беларускі дзеяч быў асуджаны па справе «Грамады».

6 верасня 1933 г. на станцыі Коласава на савецка-польскай мяжы адбыўся абмен палітзняволенымі. З кнігі Ф. Аляхновіча мы ведаем пра сціплае вітанне паміж імі, а Антон Луцкевіч у артыкуле «Тарашкевіч і Аляхновіч» на старонках газеты «Пшэглёнд Віленьскі» прыгадаў яшчэ пытанне Аляхновіча да свайго колішняга прыяцеля: «Куды ты, Бронюсь, ідзеш?»[1]. Невядома, што адказаў «Бронюсь» на гэта пытанне. Але вядомы лёс стваральніка першай граматыкі беларускай мовы, акадэміка АН БССР (1928), аўтара праграмы Беларускай сялянска-работніцкай грамады Браніслава Тарашкевіча. 5 траўня 1937 г. загадчык аддзела Польшчы і Прыбалтыкі Міжнароднага аграрнага інстытута ў Маскве Тарашкевіч быў арыштаваны як «польскі шпіён». 5 студзеня 1938 г. ён быў асуджаны да найвышэйшай меры пакарання і 29 лістапада таго ж года расстраляны ў Менску. Гэта паводле афіцыйнай інфармацыі. Паводле неафіцыйнай, якой ёсць падставы давяраць, Тарашкевіча доўгі час катавалі менскія «чэкісты» і прымушалі сведчыць супраць іншых людзей. Ён быў закатаваны да смерці. Ваенная калегія Вярхоўнага суда СССР рэабілітавала Б. Тарашкевіча ў 1957 г.[2] А яго магчымай магілай сталі Курапаты пад Менскам.

Пазней, у кнізе «У капцюрох ГПУ» Аляхновіч паспрабаваў прыгадаць свае думкі пры сустрэчы з Тарашкевічам: «Ён із вастрогу пойдзе туды, дзе ўвесь вялізарны край – гэта адзін вялікі вастрог, дзе думка чалавечая сьціснёная ў вабцугох савецкага абсурду, дзе ня толькі дзеяць і гаварыць, але й думаць і дыхаць трэба паводле аднаго, для ўсіх абавязковага шаблёну. Ён пойдзе ў край белага нявольніцтва, голаду, нэндзы, людаедзтва, а я кіруюся на Захад, да «капіталістычных» гаспадарстваў, дзе буду прынамсі спаць спакойна,

---

1 Быў выкарыстаны пераклад гэтага артыкула, апублікаваны ў 2019 г. Гл.: *А. Луцкевіч, Тарашкевіч і Аляхновіч*, «Наша слова» 2019, № 37, 11 верасня.

2 Гл.: *Беларускія пісьменнікі (1917–1990)*: Даведнік; Склад. А. К. Гардзіцкі, нав. рэд. А. Л. Верабей. Мінск 1994; Л. Маракоў, *Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі, 1794–1991*. Энцыклапедычны даведнік, т. 2, Мінск 2003.

ведаючы, што ўначы госьці з ГПУ не пастукаюцца да мае гасподы»[1]. Аляхновіч вінаваціў былога прыяцеля ў тым, што ў выніку прасавецкай прапаганды тысячы беларускіх хлопцаў нелегальна пераходзілі мяжу з СССР у пошуках лепшай долі, а знаходзілі толькі канцлагеры і заўчасную смерць.

Жыццё пасля вяртання складвалася няпроста. Паўстала праблема працаўладкавання. Па Вільні хадзілі чуткі, што Аляхновіч стаў агентам ДПУ, і многія выданні адмаўляліся ад супрацы. Ён знайшоў падтрымку з боку віленскага «Слова», выдавец якога Станіслаў Мацкевіч дапамог Аляхновічу вярнуцца да публіцыстыкі і працы рэпарцёра. Менавіта на старонках «Слова» былы вязень пачаў свой расповед пра сталінскі ГУЛАГ і палітычныя рэпрэсіі ў СССР.

Сваё першае інтэрв'ю пасля вяртання ў Вільню Францішак Аляхновіч даў журналісту віленскага «Слова». Яно было апублікавана пад назвай «Ад міража ў культурнай працы ў Менску да салавецкіх і карэла-мурманскіх лагераў»[2].

## Дакумент

*6 верасня 1933 г. паблізу станцый Негарэлае і Стоўбцы адбыўся абмен вязнямі паміж Польшчай і СССР. З польскай вязніцы выйшаў грамадавец Браніслаў Тарашкевіч, узамен з салавецкай катаргі быў вызвалены вядомы дзеяч, беларускі паэт і літаратар Францішак Аляхновіч.*

*Пра гэты жахлівы перыяд жыцця Францішак Аляхновіч распавядае нам на здзіўленне спакойна, з тварам нібыта ў масцы, з цяжкасцю прыгадваючы некаторыя імёны. Яго голас гучыць роўна, ён коратка і выразна фармулюе тэзы ўспамінаў сямігадовых пакутаў. Няма пафасу ў гэтым апавяданні пра няспраўджаныя спадзяванні і катаржныя наступствы.*

*6 верасня адбыўся абмен, 7 верасня ўжо быў у роднай Вільні. Тарашкевіча бачыў на мяжы. Абмяняліся словамі вітання.*

### *Мары пра беларускі тэатр*

*У савецкую Расію, – распавядае нам спадар Аляхновіч, – выехаў у верасні 1926 г., маючы польскі замежны пашпарт і савецкую візу. Хацеў наведаць сям'ю, блізкіх сваякоў. Прыехаў у Мінск. Здавалася мне, так, здавалася, што тут я знайду больш магчымасцей для культурніцкай працы. Перш за ўсё мяне цікавіў тэатр. У савецкай Беларусі былі тры дзяржаўныя тэатры, якія добра фінансаваліся. Адзін у Менску, другі ў Віцебску і яшчэ выязны тэатр. Вырашыў застацца і спрабаваць знайсці працу літаратурнага кіраўніка ў тэатры. Як-*

---

[1] Цытаты з успамінаў і твораў Ф. Аляхновіча даюцца з захаваннем усіх асаблівасцей правапісу.

[2] aż, *Ad miraża u kulturnaj pracy u Mieńsku po „sołowieckije i koreło-murmanskije łagiery"*, „Słowo". 1933, Nr 264, 27 września 1933 г. Друкуецца ў перакладзе на беларускую мову.

*раз у гэты час павінна было адбыцца ўрачыстае адкрыццё тэатра ў Менску.*

*– Ці сапраўды ўмовы працы ў дзяржаўным бальшавіцкім тэатры падаліся нацыянальнаму паэту і беларускаму літаратару прывабнымі?*

*– Так. Пераважна выконваліся арыгінальныя п'есы маладых беларускіх аўтараў. Зразумела, што творы былі прасякнуты духам рэвалюцыі адпаведна ўказанням партыйнай ідэалогіі. Так і было. Але пры гэтым яны сведчылі пра выдатнае [акцёрскае] майстэрства і адчуванне сцэны. П'есы мелі поспех у менскай публікі. У Віцебску пераважна выконваліся класічныя творы, часта ў вельмі добрай перапрацоўцы і перакладзе. Ставілі Шэкспіра, «Вяселле Фігаро» Бамаршэ, «Эрас і Псіхею» Жулаўскага. Зразумела, што працавалася б там з думкай пра будучыню.*

*За рэпертуар адказвае дырэкцыя тэатраў. Я не заўважыў нейкіх канфліктаў паміж аўтарамі і дырэкцыяй. Акцёры, аснову якіх складаюць прадстаўнікі маладога пакалення беларускай інтэлігенцыі, выхаванай у камуністычным рэжыме, добра разумелі патрабаванні. Мы верылі ў эвалюцыю беларускага руху, але не буду закранаць палітычных пытанняў.*

*«Участие в организации, действующей в направлении помощи буржуазии»*

*Так гучаў акт абвінавачання, які я атрымаў менш чым праз 6 тыдняў знаходжання ў Менску. Вяртаўся з Віцебска. У цягнік увайшлі супрацоўнікі ДПУ і арыштавалі мяне*[1]*. Быў прывезены ў Менск і змешчаны ў падвалах ДПУ на вул. Савецкай, былой Захар'еўскай. Мяне абвінавачвалі ў тым, што быў сябрам Беларускай Рады ў Вільні, што, зразумела, я не мог аспрэчыць і пра што савецкія службы павінны былі ведаць яшчэ тады, калі мне давалі візу.*

*– Ці доўга спадара трымалі ў Менску?*

*– У тых падвалах я сядзеў аж да ліпеня. Падвалы былі перапоўненыя. Зараз у Менску збудавалі новую вязніцу, агульнавядомую як «Амерыканка». Чаму так называецца, не ведаю. Можа таму, што збудавана па амерыканскіх узорах. Гэта будынак у форме круглай вежы. Тады будаўніцтва яшчэ не было завершана. Крымінальнікаў трымалі ў старой даваеннай вязніцы. Я сядзеў у падвалах. Разам са мной сядзелі беларускія сяляне, вяскоўцы з памежжа, абвінавачаныя ў шпіянажы на карысць Польшчы; людзі, што чакалі суда; людзі, якіх пасадзілі за хабар; група беларускіх студэнтаў, абвінавачаных у «контррэвалюцыі». У тых падвалах бачыў шмат беларускай моладзі, якая збегла з Польшчы ў надзеі на лепшае жыццё, у пошуках лепшых палітычных умоў. Усе сядзелі і чакалі на завочны прысуд Калегіі ДПУ.*

*Такі прысуд выносіцца на падставе меркавання судовага следчага, і на яго забаронена падаваць апеляцыю. У ліпені 1927 г. і я дачакаўся прысуду, які адпраўляў мяне на Салавецкія астравы на 10 гадоў.*

---

[1] Арышт адбыўся 1 студзеня 1927 г.

*З жыццяпісу беларуса Францішка Аляхновіча (1883–1944)*

*Мяч і «дрын»*

*Першае – гэта востраў, а другое – гэта сістэма, якая там панавала. Спадар Аляхновіч распавядае, як па этапу яго прывезлі на бераг Белага мора. Пакуль цягнік дабраўся да гэтай далёкай Поўначы, пачалася зіма. Спынілася навігацыя. Яго спачатку прывезлі на станцыю Сарокі, а адтуль пешшу дабіраліся 80 км да вострава Мяч. Ад берага да вострава каля 10 км воднай прасторы, якая ў той час ужо была пакрыта цвёрдым льдом.*

*– Па лёдзе, – распавядае Аляхновіч, – я дабраўся да вострава, да месца ссылкі. У той час там знаходзілася каля 400 вязняў, пераважна крымінальнікаў. Толькі каля ¼ складалі «каэры», або г. зв. «контррэвалюцыянеры». Мы жылі ў бараках.*

*Сп. Аляхновіч раптам замаўкае і задумваецца…*

*– Там было вельмі цяжка? – ціха задаю пытанне.*

*– О, так. Чалавек, не звыклы да цяжкай фізічнай працы, гэтыя ўмовы ніколі не вытрымае. Нас будзілі а 3-й гадзіне ночы. Праз паўгадзіны пераклічка і выдача інструментаў, пілаў, сякераў. А 4-й гадзіне выходзім на працу ў лес. Ісці трэба 10 км і столькі ж назад. Працаваць цяжка. А трэба сказаць, што ў той час панавала сістэма «дрына», г. зн. палкі. Людзей часта збівалі. Білі не толькі за агульныя парушэнні, але таксама за нязробленую працу. Зразумела, калі нехта нейкім чынам заслужыў пратэкцыю або неяк залагодзіў ахову, то пазбягаў пакарання. Я, напрыклад, падараваў люльку. Меў добрую ангельскую люльку. Падараваў яе ахоўніку. Былі таксама іншыя пакаранні. Распраналі да бялізны і нейкі час трымалі на марозе.*

*– Гэта жахліва!*

*– Так.*

*– Якім было харчаванне?*

*– Някепскім. Гэта значыць… Зараз распавяду… У той час, у 1927–1928 годзе нас кармілі двойчы ў дзень. Раніцай – сняданак: густы гарохавы суп або сачавіца, часам густая грэчневая каша з алеем, густы суп з макаронамі. Абед атрымлівалі ўвечары. Ізноў міска густога супу з кавалачкам салёнага мяса. Хлеба было дастаткова, недзе каля 1 кг на чалавека. Так, кармілі някепска. – Дакрануўся рукой да галавы. – Цяжка, цяжка было вытрымаць.*

*30 мая 1928 г. першым параходам, які прыйшоў на востраў Мяч, я адплыў на Салаўкі.*

*Канец «дрыну», санацыя і голад*

*Мой побыт у высылцы можна падзяліць на два перыяды: панаванне «дрыну», або палкі, адносна добрае харчаванне і другі перыяд – менш фізічных пакутаў, паляпшэнне санітарнага стану і голад вязняў.*

*У 1930 г. пра становішча на Салаўках стала вядома ў Маскве. У нас у бараках было вельмі кепска. Прыехала адмысловая камісія, якая вывучала сітуацыю на месцы. Шмат каго з адміністрацыі выслалі або расстралялі. Між іншым*

*10 гадоў катаргі атрымаў начальнік лагера Зарын, іншы высокі начальнік таксама быў асуджаны на 10 гадоў за кантакты з шайкай злодзеяў на востраве і г. д. Раскажу, як гэта адбылося.*

*Тыф на гною пакінутых стайняў*

*Калі мяне прывезлі на Салаўкі, там было вельмі шмат вязняў, каля 12 тысяч. Прыбывалі новыя і новыя транспарты. Немагчыма было ўсіх размясціць. Частка жыла ў памяшканнях былога кляштара, частка – у цэрквах альбо ў спецыяльна збудаваных бараках. Месца не хапала. Новых вязняў пачалі размяшчаць у былых стайнях, дзе заставаўся гной і вільгаць, у жахлівых умовах. Яны ўсе былі пакрыты насякомымі. Паўсюдна былі блохі, клапы, вошы. Увосень 1929 г. выбухнула жахлівая эпідэмія сыпнога тыфу. Тады капалі вялікія ровы на сотні трупаў, а калі яны запаўняліся, засыпалі і капалі новыя.*

*– Шмат памерла?*

*– Больш-менш палова. Каля 5-6 тысяч чалавек. Адміністрацыя змагалася з эпідэміяй уласным спосабам. Гэта значыць, што баракі з хворымі ізаляваліся, забараняліся кантакты, пераход з аднаго барака ў іншы. Шпіталі не маглі змясціць нават мізэрную частку хворых. Прыехаўшая камісія высветліла, што эпідэмія тыфу распачалася менавіта ў тых стайнях.*

*– Потым было лепей?*

*– Не было ўжо такіх невыносных фізічных пакутаў, і санітарныя ўмовы палепшыліся…*

*– А маральныя пакуты?*

*Замест адказу сп. Аляхновіч больш грунтоўна і канкрэтна распавядае пра Салаўкі.*

*«СЛОН», «СІКМІТЛ», «СЛАК»*

*Такую эвалюцыю скарачэнняў назваў праходзілі лагеры ссыльных далёкай поўначы Расіі. Спачатку яны называліся «Соловецкие лагеря особого назначения». Пазней «Соловецкие и карело-мурманские исправительно-трудовые лагеря». Урэшце «Соловецкие лагеря». Гэтыя назвы датычылі не толькі Салавецкіх астравоў, але таксама ўсёй Поўначы Расіі, населенай ссыльнымі. Гэта суседнія астравы і мацярык, вялікія непралазныя лясы і шматлікія пасёлкі ссыльных. Беззаконне, голад, хваробы і смерць. Вязніца народаў. Тут усе: расейцы, беларусы, палякі, украінцы, якуты, чувашы, народы Каўказа, чарамісы, туркмены, літоўцы, эстонцы, немцы, фіны і г. д., і г. д. Гэта былі навукоўцы, акцёры, музыканты, мастакі, літаратары, работнікі суда, былыя вайскоўцы, адвакаты, інжынеры, рабочыя, сяляне і яшчэ раз сяляне. Гэтых тут найбольш. Найбольш «кулакоў», а сярод іх найбольш украінцаў.*

*Салавецкія астравы – гэта свет сам у сабе. Гэты свет адарваны ад нашай зямлі не толькі маральна, але і гаспадарча. Салаўкі маюць уласныя заводы,*

*сельскагаспадарчую вытворчасць, фабрыкі, млыны, ганчарні, тартакі, тэатры і бібліятэкі. Усё, апрача свабоды, мае салавецкая катарга.*

*Новапрыбылыя атрымліваюць анкету для запаўнення. Потым г. зв. «дарадцы» размяшчаюць іх у бараках адпаведнай «спецыяльнасці». Асабіста я, – прызнаецца Аляхновіч, – быў дрывасекам, ахоўнікам, акцёрам, работнікам канцылярыі, суфлёрам і мастаком на працягу гэтых сямі гадоў.*

*Сны пра пабег*

*Сны сняцца ўсім. Збегчы з Салавецкіх астравоў немагчыма. З мацерыка значна лягчэй. Аднак на тысячы і тысячы вязняў толькі ў адзінак пры надзвычайна шчаслівым збегу акалічнасцей пабег можа атрымацца. Перш за ўсё трэба мець грошы і адзенне. Ісці няходжанымі шляхамі. Шляхоў наогул вельмі мала, заўсёды на іх сустрэнеш мясцовых жыхароў, а тыя выдаюць беглых ахоўнікам, бо за кожнага схопленага вязня карэл атрымлівае два пуды белай мукі.*

*– Прабачце, – папраўляе сябе Аляхновіч, – атрымліваў калісьці, яшчэ ў часы «НЭПу». Сёння два пуды белай мукі каштуюць вялікія грошы, і, напэўна, улада ўжо не можа такім чынам узнагароджваць мясцовых жыхароў.*

*Пабег напраскі праз лясы? Не ведаю, мне асабіста ён падаецца немагчымым. Летам перашкаджаюць балоты, а зімой – снег. Канешне, людзі, даведзеныя да апошняй мяжы роспачы, могуць наважыцца на ўсё. Мне казалі, што ў 1928 г. было расстраляна 70 чалавек, якія планавалі бунт і захоп аднаго з караблей на востраве. Ведаю, што іх расстралялі, але ці яны сапраўды рыхтавалі паўстанне, гэтага дакладна не магу сказаць.*

*Найвялікшая праблема – адзенне. Яно старое і часта выглядае як лахманы. Пры пэўнай пратэкцыі можна знайсці лепшае адзенне, а часам нават новае. Але гэта рэдка ў кагосьці атрымліваецца. Наогул, аддзенне цёплае. Прыбылым у лагер выдавалі валёнкі, ватныя нагавіцы і такія ж курткі.*

*Памада да вуснаў і алоўкі для броваў*

*Трэба зведаць усё пекла асуджаных людзей, увесь гвалт, дэмаралізацыю і голад, каб зразумець вытокі прастытуцыі на Салаўках. Колькасць жанчын на Салаўках складае ад 17 да 20 %. Паміж імі ёсць старыя, сівыя, гарбатыя і знішчаныя фізічна. Ім можна верыць, бо яны самыя прыстойныя. Усе іншыя вельмі хутка паддаюцца гвалту.*

*Усе падзеленыя. Жанчыны і мужчыны жывуць асобна. Аднак яны сустракаюцца падчас працы, у канцылярыях і г. д. Жанчыны мыюць і прыбіраюць ва ўстановах. Усялякія блізкія кантакты сурова караюцца, аднак прастытуцыя пашыраецца і набывае пагрозлівыя памеры.*

*– Спадар называе гэта прастытуцыяй?...*

*– Так, амаль заўсёды за плату. Да гэтага змушаюць умовы жыцця і найбольш голад. Гэта паўсюдная з'ява, з якой немагчыма змагацца. Наколькі я ведаю, 80 %*

*жанчын на Салаўках маюць венерычныя захворванні. Там існуюць кааператывы, у якіх можна набыць пэўную абмежаваную для кожнай катэгорыі вязняў колькасць тавару. Напрыклад, цукру, гарбаты, селядцоў. Але найвялікшы попыт існуе на памаду да вуснаў, зубную пасту і алоўкі для малявання броваў. Жанчыны набываюць іх, каб… лепей харчавацца.*

*– А ці бываюць выпадкі, калі высылаюць разам мужа і жонку?*

*– Канешне, нават часта. Аднак, як правіла, каля «яна» маладая, то на Салаўках шлюб распадаецца. Інакш быць не можа. Амаральнай гніллю прасякнуты кожны куток вострава, кожны кавалак зямлі. Усім кіруе галеча і роспач.*

### *Не ровы, а скрыні для трупаў*

*– Прабачце, але Вы казалі, што можаце падзяліць сваё жыццё ў лагеры на два перыяды. Што, зараз там сітуацыя палепшылася?*

*– Зараз смяротнасць больш-менш у норме. У выніку клімату і кепскага харчавання вязні хварэюць цынгой, сухотамі, асабліва часта гэта адбываецца з моладдзю, маюць чыракі. Гэта язвы, якія пакрываюць усё цела ў выніку кепскага і аднастайнага харчавання. Сёння сітуацыя такая: штодня а 5-й гадзіне раніцы з шпіталя вывозяць спецыяльную скрыню, у якой ляжаць ад 8 да 10 трупаў. Побач ідуць санітары ў белых халатах і чорных гумовых пальчатках. Змесціва скрыні выкідаецца ў роў, роў засыпаюць, а скрыню вяртаюць назад.*

*– Лепей…*

*– Між тым харчаванне ўвесь час пагаршалася. Чаму? Таму што на мацерыку таксама няма што есці. Апошнім часам раніцай на сняданне давалі трохі салёнага супу, зваранага на салёнай рыбе з мізэрнай дабаўкай кашы з проса. Вечарам – ізноў суп і адна салёная рыба на чалавека. Хлеб выдавалі тым, хто цяжка працуе фізічна, 800 грам, хто лягчэй – 550 грам, канцылярыстам – 400, інвалідам – 300. Апрача таго давалі трохі цукру адзін раз на паўмесяца. Цукру ў такой порцыі хапае на дзве шклянкі гарбаты. Гэта ўсё. Харчаванне паступова пагаршалася з 1930 г. Навапрыбылыя распавядалі мне, што ў Расіі пануе голад. Асабліва ва Украіне.*

*– А рэпрэсіі, перасслед?*

### *«ИСО»*

*Гэта асабліва цяжкае выпрабаванне. Існуе інстытуцыя пад назвай ИСО – Инспекционно-следственное отделение. У яго руках знаходзіцца ўся шпіёнская сетка і правакацыйна-выведкавая сістэма. На Салаўках зусім няма свабодных людзей. Нават адміністрацыя, нават узброеная ахова, нават начальнікі лагераў – гэта людзі, якія хоць афіцыйна свабодныя, але прысланы на гэтыя пасады за пэўныя парушэнні, зробленыя ў іншых месцах. Каменданты рабочых каманд і большасць ахоўнікаў набіраюцца з самых вязняў. І гэтыя найгоршыя. Яны актыўна дэманструюць сваю руплівасць, каб спадабацца начальніку. У кожнай камеры, бараку, пакоі знаходзіцца шпіён. Іх задача – сачыць за лаяльнасцю вяз-*

*няў, складаць на іх агульныя характарыстыкі і даносіць начальству пра кожнае парушэнне. Мы жывём у пастаянным страху і пастаяннай пільнасці.*

*Як там крадуць!*

*Здаецца, найвялікшая бяда на Салаўках – крадзяжы. Крадуць усюды і ўсе. Крадуць у камеры, у бараках, крадуць з кішэні, нападаюць увечары і сярод дня, на дарозе, на прыступках у канцылярыю, на полі, у лесе. Нападаюць групай, забіраюць, напрыклад, атрыманую пасылку, забіраюць беспакаранна, затрымліваюць, рабуюць. Гэтую сітуацыю, як і прастытуцыю, спарадзілі існуючыя эканамічныя ўмовы жыцця. Адміністрацыя не мае магчымасці гэта спыніць. Да таго ж, як ужо раней казаў, яна знаходзіцца ў цесным кантакце са злодзеямі, якія дзеляцца здабычай і пазбягаюць пакарання. Вязень не мае ні гадзіны, ні хвіліны спакою. У любы момант на яго можа напасці рабаўнік і адабраць уласнасць.*

*Бібліятэчнае багацце на Салаўках*

*Спадар Аляхновіч распавядае, што на Салаўках знаходзіцца вялізная і добра ўкамплектаваная бібліятэка, якая складаецца як з белетрыстыкі, так і з навуковых выданняў.*

*– Ці існуе магчымасць карыстацца гэтай бібліятэкай у сітуацыі цяжкай фізічнай працы, галечы, холаду і голаду? – задаю пытанне.*

*– Мяркую, што на чытанне заўсёды знойдзецца час, асабліва ў людзей, для якіх кніга застаецца адзінай магчымай пацехай. Маем кнігі з розных галінаў ведаў. Былі кнігі расійскія, польскія, французскія, нават італьянскія і нямецкія, нават на скандынаўскіх мовах. Апрача таго мелі тэатр.*

*– Тэатр таксама?..*

*– Я ўжо казаў, што на Салаўках сабралася вялікая колькасць розных прафесій. У 1927–1928 гг. быў перыяд сапраўднага росквіту тэатра на Салаўках. Сярод вязняў быў шэраг славутых акцёраў, спевакоў і музыкантаў. Мы стварылі трупу высокага класу. Наш тэатр быў сапраўдным феноменам. Ва ўсіх сферах працавалі спецыялісты: дэкаратары, памочнікі рэжысёра, электратэхнікі, цырульнікі, інжынеры. Бог мой, як шмат іх там знаходзілася!... Ролі выконвалі і жанчыны, і мужчыны. Мы штотыдзень давалі чатыры спектаклі. Два платныя і два бясплатныя па загаду адміністрацыі лагера. На бясплатных спектаклях мужчыны і жанчыны сядзелі асобна. А на платных дазвалялася набываць білет на любое месца. Гэтыя спектаклі былі найбольш папулярнымі, бо кожны хацеў мець побач сваю сардэчную сімпатыю. Тэатральныя прадстаўленні набывалі характар калектыўных «свiданняў», немагчымых у звычайных абставінах.*

*Вэгэракша – шлях чараўніц*

*Верасень 1932 г. застаў мяне яшчэ на Салаўках. Але я ўжо клапаціўся пра перавод мяне ў горад Кем, што знаходзіўся на мацерыку за некалькі кіламетраў*

*ад берага Белага мора на рацэ з той самай назвай. Побач з горадам знаходзіцца вялізны лагер, аточаны калючым дротам, г. зв. «Вэгэракша», або па-карэльскі – «Шлях чараўніц». У лагеры ўтрымліваюцца каля 3 тысяч асуджаных. Там таксама існаваў лагерны тэатр, які абслужваў нават свабодных жыхароў горада. Тэатр выступаў у гарадскіх клубах, публічных залах і г. д. Менавіта таму я намагаўся туды трапіць.*

*Але не прайшло і года, як нечакана 13 ліпеня 1933 г. мяне выклікалі ў канцылярыю, хутка і неяк загадкава загадалі збірацца ў дарогу, а пакуль змясцілі ў ізалятар. У ізалятары звычайна трымаюць людзей, якія здзейснілі нейкае значнае парушэнне або злачынства. На наступны дзень мяне пасадзілі ў цягнік і павезлі ў Маскву.*

*З Бутырак на свабоду*

*Я трапіў у вядомую вязніцу ў Бутырках. Сядзеў там і нічога не ведаў да 4 верасня. Толькі калі праз сем тыдняў мне выдалі чыстую бялізну, завялі ў лазню, пастрыглі нагала, з'явілася надзея, што ў маім лёсе адбудуцца нейкія добрыя перамены. Сапраўды, у той самы дзень мне паведамілі, што буду абменены. На аўтамашыне мяне адвезлі на вул. Лубянка, № 2 у цэнтр ДПУ, дзе быў прадстаўлены супрацоўніку польскага пасольства ў Маскве. Той пацвердзіў інфармацыю пра абмен і заявіў, што ўжо заўтра мяне павязуць у накірунку Польшчы.*

*5 верасня ў адкрытай аўтамашыне ў суправаджэнні афіцэра і аднаго жаўнера я праехаў вуліцамі Масквы да вакзала, а потым у асобным купэ да польскай мяжы. 6 верасня адбыўся абмен, а 7 верасня ўжо быў у Вільні.*

*Спадар Аляхновіч глыбока ўздыхнуў, быццам стомлены аповедам пра ўласнае жыццё.*

***

*– Што Вы сёння думаеце пра праблему беларускага руху ў межах СССР?*

*– Цяжка пра гэта гаварыць. Думаю, што ў СССР адбываецца павольная, але сістэматычная ліквідацыя гэтага руху. Быў сведкам гэтага, і ўсё адчуў на ўласным лёсе. Бесперапынна адбываюцца арышты сярод беларускай інтэлігенцыі ў Менску. У 1931 г. там ужо адбылася вялікая «чыстка», зараз яна зноў адбываецца. Цяжка пра гэта казаць. На працягу сямі гадоў быў адарваны ад жыцця. Жыў пасярод голаду, эпідэмій, хвароб, пакут ды іншых атрыбутаў катаргі. Думаю, што кантакт беларускага руху з сістэмай, якая пануе зараз у Расіі, не мае будучыні.*

*– Ці можна запытаць пра Вашыя планы на бліжэйшую будучыню?*

*– Буду працаваць на полі беларускай культуры, весці літаратурную і публіцыстычную дзейнасць, асцерагаючы ад ілюзіі сацыялістычнага будаўніцтва тых, хто імкнуцца туды з надзеяй знайсці новую Айчыну, як тыя беларускія сяляне, якіх бачыў па катаргах Расіі, як тыя віленскія рабочыя, якіх сустрэў у Бутыр-*

*скай вязніцы. Не прыгадваюць яны добрым словам людзей, якія пераконвалі іх і агітавалі пераходзіць у СССР. Лічу сваім абавязкам асцерагаць самыя шырокія масы ад перасячэння савецкай мяжы, дзе яны знойдуць толькі голад і вязніцу.*

Успаміны пра перажытае, а таксама думкі пра сутнасць савецкага таталітарызму сталі асновай галоўнай кнігі Францішка Аляхновіча, якая спачатку друкавалася на старонках віленскага «Слова» (1934), а пазней (1935) выйшла з друку на польскай мове пад назвай «*Siedem lat w szponach GPU*». Гэта была адна з першых спроб распавесці свету пра таталітарызм і камуністычныя рэпрэсіі ў СССР. Пазней кніга была перакладзена на расейскую, італьянскую, украінскую ды іншыя мовы, а ў 1937 г. выйшла па-беларуску пад назвай «*У капцюрох ГПУ*».




*Вокладка беларускага выдання кнігі Ф. Аляхновіча. 1937 г.*

Але тое, што павінна было стаць сенсацыяй і адкрыць людзям вочы на сацыялістычны міраж, насамрэч атрымала неадназначную ацэнку чытачоў. Не ўсе паверылі Аляхновічу. І датычыла гэта не толькі беларусаў. Чэслаў Мілаш у кнізе *Rok myśliwego* (1990) параўноўваў рэакцыю польскіх чытачоў з рэакцыяй англійскай грамадскасці на ўспаміны польскіх эмігрантаў, якія распавядалі пра савецкія лагеры. Было спачуванне, але таксама быў недавер да аўтара, бо, як лічылася, без віны не саджаюць[1]. Нават адукаваныя колы грамадства міжваеннай Польшчы, унутраная палітыка якой была далёкай ад звычайных норм еўрапейскай дэмакратыі, не разумелі рэпрэсіўнай сутнасці ленінізму-сталінізму.

Вось што ў 1942 г. пісаў Аляхновіч у эпілогу чарговага выдання сваёй кнігі:

*Дакумент*

*Эпілёг*

*І вось я на волі. Цешуся, п'янею ад волі. Месца сабе не знаходжу. Не сядзіцца на адным месцы. Вось пайду яшчэ сюды, загляну туды, пабачуся з гэтым, трэба шчэ наведаць таго. І як дзіўна. Ніхто за мной ня йдзе, ня трэба ніякага пропуску, куды хачу, туды йду.*

[1] Cz. Miłosz, *Rok myśliwego*, Paryż 1990, s. 146.

*Дзе-ж гэтыя, што паміраюць з голаду, беспрацоўныя, аб якіх я гэтулькі чытаў і чуў там, у Саветах? На гасподу майго прыяцеля, у якога я жыву, часта звоняць нейкія людзі: мужчыны, бабы... «Паночку! Калі ласка, беднаму галоднаму беспрацоўнаму, сяньня шчэ ня еўшы... Дайце, што ласка...» Гаспадыня дае галоднаму кавалак белай булкі з маслам, з сырам... У ваччу «галоднага» расчараваньне...*

*Варочаюся дахаты... Што гэта на клямцы? Прыглядаюся... На клямцы ўбіта булка з маслам і сырам... Скуль гэта булка? А! Гэта быў беспрацоўны... Галодны... Не дастаўшы грошай, у злосьці ўбіў булку на клямку... «Падавецеся вы сваёй булкаю!»...*

*Я бачу, што ў буржуазных краёх людзі не паміраюць з голаду, як аб гэтым на працягу 6 гадоў і 8 месяцаў я бязупынна чуў і чытаў у бальшавіцкіх газэтках...*

*Сяджу ў кавярні... Грае аркестра... Усе людзі чыстыя, сытыя, вясёлыя, ветлівыя... І ўспамінаюцца мне цяпер лягерныя блышыцы й вошы, гукі факстроту, якія прыносяць радыёвыя хвалі з далёкіх старонак...*

*Няўжо-ж усё гэта я запраўды перажыў? Няўжо-ж гэта ня сон, як тады на вастрожных нарах?..*

*Хочацца гаварыць, а шчэ больш хочацца пісаць. Хочацца расплюшчваць людзям вочы. А людзі кажуць: «Ну, няма дзіва, што вы гэтак настроены... Салоўкі. Блізу 7 гадоў... Гм... Гэта ня жартачкі... Дык вы ня можаце глянуць на справу бесстаронна, вы на ўсё глядзіце аднабока... Але за што-ж вас у рэшце рэштаў пасадзілі?.. Мусіць, нешта было»...*

*Ідыятычнае пытаньне!.. За што? Таксама ідыятычна. Бядуля аднойчы, спаткаўшыся на вуліцы ў Менску з маім сваяком (пасьля майго вызваленьня), сказаў:*

*– А што! Бачыце! Вымянялі! Значыцца, не здарма! Значыцца, нешта было...*

*Хочацца пісаць. Пайшоў у «Крыніцу». Разводзяць рукамі. Няма месца. Газэта бітма набітая матар'ялам... Можа, з часам... Можа, калісь...*

*Разумею... А пісаць хочацца...*

*Рэдакцыя польскае газэты «Słowo» прапануе мне, каб я надрукаваў у іх свае ўспаміны. Ахвоча згаджаюся. Пішу. Пішу праўду. Прытрымваюся прынцыпу: ня згушчаць хварбаў. Толькі праўду. Калі, што блага – пішы, што блага, калі што добра – пахвалі! Але людзі ня вераць. Не! Гэты Аляхновіч махлюе. Гэта ня так...*

*А тым часам ГПУ ня сьпіць. Шчупні паліпавы растуць, выцягваюцца, працягваюцца ажно да Вільні... Трэба неяк паралiжаваць Аляхновічаву работу...*

*У габінэце галоўнага рэдактара «Slowa» С. Мацкевіча (Cat) зьвініць тэлефон.*

*– Хто гаворыць?*

*– Заступнік начальніка 2-га аддзелу, Ш. Што вы робіце? Нашто вы друкуеце гэтага Аляхновіча? Вы нічога ня ведаеце! Гэта вельмі цёмны тып! Што?*

*Кажаце: быў на Салоўках... Ну, гэта шчэ пытаньне, ці ён там быў... Наагул, ня верце яму й будзьце асьцярожныя. Мы маем дадзеныя, што ён – агент ГПУ!..*

*Вось гэта здорава прыдумана! Як, якім парадкам ГПУ здолела сугераваць гэтую чутку польскай Дэфэнзыве, гэтага ня ведаю. Гэта застаецца таямніцай іхнай: ГПУ й Дэфэнзывы.*

*Ну, ведама, у рэдакцыі думалі, разглядалі, кумекалі і прыйшлі да выснаваў, што п. Ш мае благія інфармацыі... Што-як-што, але каб Аляхновіч супрацоўнічаў з ГПУ, ну, гэта ў галаве ня месьціцца...*

*І вось я пісаў далей. Паслаў свой рукапіс у расейскай мове ў газэту «Возрожденіе» ў Парыж. Надрукавалі. Прыслалі грошы. Тады я сваім коштам выпусьціў свае ўспаміны кніжкай у польскай мове. Зарабіў. Кніжка разыйшлася. Знайшоўся выдавец на другое выданьне. Зьвярнулася да мяне фірма «G. Nerbini» з Фірэнцэ. Выдрукавалі па-італьянску «La verita sulla Russia Bolscevica». Атрымаў прапановы з Рыо дэ Жанэйро. Зьявілася «Sete annos nas garras sovieticas» па-партугальску. Друкавала мяне ўкраінскае «Діло», а пасьля выпусьціла асобнай кніжкай «7 літ на Соловках».*

*Крыху, можа, нязручна аўтару казаць аб сваіх удачах, але мушу гэта зрабіць як уступ да новае штукі, выкінутае ГПУ у дачыненьні да мяне.*

*Як ужо я сказаў вышэй, «Крыніца» адмовілася друкаваць мае ўспаміны (нават без ганарару!). Я ведаў, што беларускае выданьне кніжкі слаба разыйдзецца. Але мне надта хацелася, каб кніжка мая зьявілася і ў маёй роднай мове...*

*І вось, у канцы 1937 г. зьявілася «У капцюрох ГПУ».*

*Я сам займаўся кальпартажам кніжкі. Пасылаў знаёмым праз пошту. Некаторыя прысылалі грошы, іншыя толькі дзякавалі. Раздаў па колькі экзэмпляраў у віленскія кнігарні.*

*І вось, як я аднойчы зайшоўся ў вадну із гэткіх кнігарняў, каб даведацца, як разыходзіцца кніжка, паміж мною і гаспадаром быў гэткі больш-менш дыялёг:*

*Гаспадар: – Што гэта вы нарабілі ў Цехацінку?*

*Я: – Дзе? У Цехацінку, кажаце? Дык гэта было ўжо так даўно... Мусіць, каля 15 гадоў... Ну, бывае... Грахі маладосьці... Рамантычная гісторыя...*

*Гаспадар: – Не. Не 15 гадоў, але зусім нядаўна...*

*Я: – Нядаўна? Я нікуды не выяжджаў зь Вільні...*

*Гаспадар: – Кажуць, што нейкія польскія ксяндзы запрасілі вас на «одчыт», вы зьявіліся зусім п’яны й пачалі там нешта плесьці аб тым, як вас выслала ў Менск польская дэфэнзыва і г.д.*

*Я: – Што?... Хто гэта казаў?*

*Гаспадар спачатку не хацеў выявіць прозьвішча інфарматара. Але ў рэшце рэштаў сказаў: гэта быў Б., бязглузды чалавечак, бацька паршывенькага віленскага камунісьціка...*

*Гэты чалавечак усю гэтую гісторыю аб Цехацінку расказаў таксама й кс. В. Г. Каму шчэ – ня ведаю.*

*Вось якія штукі прыдумвалі! Не ўдалося зрабіць з Аляхновіча агента ГПУ, дык папрабуем зрабіць яго агентам дэфэнзывы! Трэба яго неяк апаганіць, запэцкаць, каб страціў у грамадзянства ўсялякі давер...*

*Пару дзён пасьля я спаткаўся на вуліцы з гэтым Б.*

*– Што-ж гэта вы выдумалі пра нейкі Цехацінак? – спытаўся я, расказаўшы пачутае ад гаспадара кнігарні апавяданьне.*

*– Я? Крый Божа! – адпіраўся ён. – Нічога падобнага! Не Цехацінак, а Цеханавічы. Я быў у Цеханавічах. Там начаваў у ваднэй гасподзе. Гаспадар мне кажа, што быў тут зь Вільні нейкі журналісты, выпіў з хурманом літар гарэлкі й расказваў аб Салоўках... Дык я думаў, што гэта вы.*

*– Ну, дык памятайце: адбрахаць тое, што набрахалі.*

*Вось як бальшавіцкая погань атручвала мне жыцьцё нават у Вільні!*

*Канчаю. Я чуў, кажуць, што я за шмат добрага напісаў аб Саветах. Што-ж зрабіць! Я пісаў праўду. А што пры ГПУ крыху лягчэй было, як пры НКВД – гэта не мая віна.*

*У капцюры НКВД я ня трапіў. Пашанцавала. Калі-б трапіў, ужо ня пісаў-бы гэтых радкоў. І, мабыць, ужо ня траплю.*

*Вільня 1942 г.*

### Вайна, калабарацыя і смерць

У верасні 1939 г. распачалася Другая сусветная вайна. Ужо 19 верасня савецкія войскі ўвайшлі ў Вільню. Аляхновічу давялося яшчэ раз сустрэцца з бальшавікамі. Разумеючы небяспеку, ён разам з тысячамі бежанцаў, якія ратаваліся ад «вызваліцеляў», перайшоў літоўскую мяжу. У Літве знайшоў падтрымку Міхала Ромэра і нейкі час жыў у ягонай родавай сядзібе ў Багданішках паблізу мяжы з Латвіяй[1].

Аднак у кастрычніку паміж СССР і Літвой была падпісана дамова, паводле якой Літве перадавалася Вільня, але пры гэтым істотна абмяжоўваўся суверэнітэт незалежнай дзяржавы. Аляхновіч вярнуўся дадому, але ўлетку 1940 г. ізноў быў вымушаны хавацца. Войскі СССР акупіравалі Літву.

У сваёй недапісанай кнізе «Страшны сон» ён прыгадваў жыццё ў «падполлі», калі даводзілася шукаць прытулку ў сваіх знаёмых, рэгулярна мяняць адрасы і толькі ўдзень з'яўляцца дадому. Савецкія рэпрэсіі мелі татальны характар, амаль кожны мог апынуцца або ў турме ў Лукішках, або ў падвалах гмаху НКУС на былой вул. Гедыміна.

Ізноў слова Аляхновічу:

*«Ужо даўно адбыліся «вольныя» выбары ў Сойм, ужо даўно адбылося «дабравольнае» прылучэньне Літвы да Саюзу Савецкіх Рэспублік, ужо бальшавіц-*

[1] M. Römer, *Dzienniki*, t. 6. *1939–1945*, red. A. Knyt, Warszawa 2018, s. 103 (запіс ад 30 верасня 1939 г.).

*кі тэрор быў ува ўсёй сваёй моцы. Лукіскі вастрог быў перапоўнены. Падвалы НКВД на Гэдыміна вул., дзе раней памяшчаўся суд, былі таксама поўныя вязьняў. Ад часу да часу нехта зь вязьняў, якога вялі на допыты, выскокваў з вакна на вуліцу. Часам падымалі з вуліцы чалавека з паламанымі нагамі, часам спрытнейшы, выскачыўшы, здолеў уцячы. На суседніх вуліцах рабілі аблаву, шукалі, урываліся ў памешканьні... Ці знаходзілі – ня ведаю.*

*Цяжка было знайсьці сьлед чалавека, што трапіў у лапы НКВД. На Лукішках казалі, што арыштаваны, мабыць, сядзіць у падвале НКВД, а там адказвалі, што яго няма, што трэба шукаць у Лукіскім астрозе. Людзей арыштоўвалі не дзясяткамі, ня сотнямі, а тысячамі... Ніхто, кладучыся спаць, ня ведаў, ці яму ўдасца спакойна праспаць гэту ноч у сваёй хаце»*[1].

Толькі ўвесну 1941 г. Аляхновічу пашчасціла знайсці працу вартаўніка ў мяст. Алькенікі, дзе будаваўся мост. Але ён уздыхнуў з палёгкай толькі 22 чэрвеня 1941 г., калі нацысцкая Германія распачала ваенныя дзеянні супраць СССР.

Францішку Аляхновічу Германія здавалася натуральным саюзнікам у барацьбе з дзяржавай Сталіна і НКУС. Ён, як і многія іншыя беларусы, глядзеў на нямецкія войскі скрозь прызму ўспамінаў пра Першую сусветную вайну і спадзяваўся, што разгром савецкай імперыі верне Беларусі шанс на незалежнасць.

Для многіх дзеячаў беларускага руху ўлетку 1941 г. калабарацыя з нямецкай уладай была цалкам прымальным шляхам да Беларусі. Ілюзіі наконт савецкай улады, пашыраныя сярод масы заходнебеларускага насельніцтва, зніклі пасля ўсталявання гэтай улады ў Заходняй Беларусі. Яе жыхары сталі ахвярамі камуністычных рэпрэсій супраць сацыяльна і нацыянальна «чужых» ды іх «пасобнікаў», спаўна адчулі безабароннасць кожнай асобы перад гвалтам з боку таталітарнай дзяржавы, убачылі прагны твар савецкага чынавенства, зразумелі фальш афіцыйнай прапаганды, навучыліся «трымаць язык за зубамі» і выжываць ва ўмовах агульнага дэфіцыту прадуктаў і тавараў і г. д. Варта таксама прыгадаць, што, нягледзячы на кароткачасовае знаходжанне Саветаў у Вільні ў 1939 г., яны ўсё ж паспелі знішчыць мясцовы беларускі культурніцкі асяродак разам з яго дзеячамі. Толькі пасля гэтага Вільню перадалі Літве.

Думаю, што ўвосень 1941 г., калі ў Беларусі ўжо пачалося масавае знішчэнне яўрэйскага насельніцтва, а таксама разгарнуўся масавы тэрор *Einsatzgruppen der Sicherheitspolizei und des SD*, прыйшло разуменне, што беларусы ў чарговы раз у сваёй гісторыі апынуліся паміж молатам і кавадлам. Аднак пры гэтым заставалася надзея, што атрымаецца выкарыстаць нямецкую акупацыю дзеля ўласна беларускіх інтарэсаў. Гэта гісторыя нагадвала спадзяванні тых дзеячаў даваеннага вызвольнага руху ў Заходняй Беларусі, якія спрабавалі разыграць «савецкую карту», а закончылі сваё жыццё ў Курапатах або ў сталінскіх лагерах.

---

[1] Ф. Аляхновіч, *Страшны год,* [online] https://royallib.com/book/alyahnovch_frantsshak/strashni_god.html, [дата доступу: 02.02.2021].

Міхал Ромэр у сваім *Дзённіку* (запіс за 19 кастрычніка 1941 г.) прыгадаў сустрэчу з Аляхновічам і яго скаргі, што немцы ў Вільні, у адрозненне ад Менска, не даюць згоды на выданне беларускай газеты[1].

Урэшце згода была атрымана, і 1 сакавіка 1942 г. выйшаў першы нумар штотыднёвай газеты «Беларускі голас». Газета друкавала выступы кіраўнікоў нацысцкай Германіі, асвятляла становішча на франтах, міжнародныя адносіны, інфармавала пра беларускае нацыянальна-культурнае жыццё. Таксама публікаваліся нарысы па гісторыі і культуры Беларусі, матэрыялы пра сталінскія злачынствы, агляды беларускай прэсы ды інш. Незадоўга да трагічнай смерці рэдактара газета пачала друкаваць спісы беларусаў, забітых жаўнерамі Арміі Краёвай на Лідчыне.

Міхал Ромэр з пэўным разуменнем ставіўся да беларускай віленскай калабарацыі. У дзённікавым запісе за 31 траўня 1942 г. ён адзначыў, што Аляхновіч як рэдактар віленскай газеты «Беларускі голас»[2] пастаянна падвяргаецца абструкцыі і знявагам з боку былых польскіх калег і прыяцеляў. І дадаў, што палякі наогул варожа і скептычна ставяцца да нацыянальнай эмансіпацыі беларусаў і, напрыклад, лічаць беларусаў-каталікоў элементам «нацыянальнай спадчыны Польшчы». У сваю чаргу беларускія дзеячы імкнуцца абараніць масы ад паланізацыі і даволі востра выступаюць супраць палякаў. Рэдактар Аляхновіч у пэўным сэнсе з'яўляецца закладнікам гэтай сітуацыі. Паводле М. Ромэра, польска-беларуска-літоўскі канфлікт, безумоўна, абвастралі нямецкія акупанты, але таксама ў гэтым была вінавата нацыянальная палітыка польскіх улад міжваеннага перыяду[3].

29 лістапада 1942 г. пасля сустрэчы з Францішкам Аляхновічам Ромэр запісаў у *Дзённіку*: «Сітуацыя беларускага нацыянальнага руху сапраўды вельмі цяжкая. Беларусы трымаюцца немцаў, бо не маюць іншага выбару. Яны разумеюць, што немцы карыстаюцца імі толькі дзеля прыціску палякаў і пальшчызны ў духу прынцыпу *divide et impere!*, распальваючы варожасць паміж беларусамі, літоўцамі і палякамі, і што ў выпадку нямецкай перамогі лёс Беларусі немцы будуць вырашаць, як будзе ім выгодней, без аніякага клопату пра беларускую справу. Аднак у дадзены момант толькі немцы дазволілі беларусам праводзіць грамадскую нацыянальную працу на іх зямлі, дзе асабліва важную ролю адыгрывае школьніцтва»[4].

---

1 M. Römer, *Dzienniki*, t. 6. 1939–1945, s. 378.

2 «Беларускі голас» («Biełaruski hołas») – штотыднёвая газета, якая выдавалася ў Вільні з сакавіка 1942 г. па 1944 г. Мела пранямецкі і антысавецкі кірунак, але таксама шырока інфармавала пра беларускае культурнае жыццё. Усяго выйшлі 122 нумары.

3 M. Römer, *Dzienniki*, t. 6. *1939–1945*, s. 414.

4 Ibidem, s. 454.

Відавочна, што гэта быў цяжкі перыяд у жыцці Францішка Аляхновіча. Знаходзячыся ў Вільні, ён, напэўна, шмат ведаў пра вастрыню нацыянальнага канфлікту на гістарычнай Віленшчыне, да чаго прычыніліся як немцы, так і Саветы. Таксама ён мог назіраць, як у выніку рэпрэсіўнай нямецкай палітыкі ўзрастаюць сімпатыі да Саветаў, якія сапраўды пачынаюць успрымацца як «вызваліцелі». А да чаго можа прывесці такое «вызваленне», Аляхновіч добра ведаў.

Варта дадаць, што ў папулярнай літаратуры прыгадваецца прыналежнасць Аляхновіча да дзейнасці Беларускай незалежніцкай партыі (кс. Вінцэнт Гадлеўскі), якая вяла змаганне як супраць Саветаў, так і супраць нацыстаў. Даследчык беларускага антысавецкага супраціву Сяргей Ёрш нават сцвердзіў, што Аляхновіч быў кіраўніком Віленскага камітэта БНП[1].

Жыццё Аляхновіча абарвалася трагічна. 3 сакавіка 1944 г. ён быў застрэлены ў сваім доме. Вось як апісаў гэтае забойства ў сваім *Дзённіку* Міхал Ромэр: «Было 3 сакавіка, каля 8 гадзін вечара. Франак і жонка былі ў доме. Ён у працоўным кабінеце, а яна на кухні, дзе гатавала вячэру. Нехта пазваніў у дзверы, і спадарыня Аляхновічава іх адчыніла. Увайшоў добра апрануты малады чалавек, які сказаў, што хоча бачыць Франака. На заўвагу, што ўжо позна і Франак заняты, ён заявіў, што прыехаў з Менска і прывёз прывітанні ад сяброў. Спадарыня Аляхновічава паклікала Франака, а сама адышла ў кухню, і раптам пачула выстралы. Яна прыбегла да дзвярэй і ўбачыла Франака ў лужыне крыві. На яе крык забойца пагразіў рэвальверам і загадаў маўчаць. Пасля гэтага спакойна выйшаў за дзверы, якія зачыніў за сабой»[2].

Паводле Ромэра і шмат каго з віленчукоў, Францішак Аляхновіч быў забіты савецкім агентам. Дарэчы, яшчэ раней М. Ромэр пісаў пра прызнанне Аляхновіча, што той жыве ў пастаянным страху перад вяртаннем Саветаў[3]. Пра дзейнасць савецкага дыверсанта і яго выкрыццё і забойства заявілі таксама нямецкія ўлады. Праўда, імя забойцы не было агучана. Сёння сярод даследчыкаў таксама пашырана версія, што забойства беларускага драматурга і журналіста было здзейснена жаўнерамі польскай Арміі Краёвай[4].

Францішак Аляхновіч быў пахаваны на кальвінісцкіх могілках у цэнтры Вільні. Яго пахаванне, на якое масава прыйшлі віленчукі, стала дэманстрацыяй беларушчыны і веры ў беларускую ідэю. Сёння гэтыя могілкі ўжо не існуюць.

---

1 С. Ёрш, *Вяртаньне БНП. Асобы і дакумэнты Беларускай незалежніцкай партыі*, [online] www.jivebelarus.net/history/new-history/return-of-bnp.html?page=14#lnk15, [дата доступу: 02.02.2021]. Меркаванне аўтара не мае дакументальнага пацвярджэння.

2 M. Römer, *Dzienniki*, t. 6. *1939–1945*, s. 546 (запіс за 21 сакавіка 1944 г.).

3 Ibidem, s. 545.

4 Гл., напр.: Ю. Туронак, *Загадка сьмерці Францішка Аляхновіча* [у:] Ю. Туронак, *Мадэрная гісторыя Беларусі*, Вільня 2008, с. 688–691.




*Помнік на магіле*
*Францішка Аляхновіча*
*на віленскіх Росах. Лістапад 2022 г.*

Месцам памяці і магілай для Аляхновіча сталі віленскія Росы. У 1989 г. яго прах быў перанесены на г. зв. Літаратурную горку на Росах. У лістападзе 2022 г. намаганнямі віленчукоў-беларусаў на магіле быў усталяваны рэканструяваны помнік славутаму беларускаму драматургу і публіцысту[1].

У Беларусі жыве памяць пра драматурга, пісьменніка і чалавека, які адным з першых сказаў праўду пра нялюдскасць савецкай сістэмы. На жаль, у той час не ўсе паверылі гэтай праўдзе...

[1] Аўтар ідэі і першаснага помніка – беларускі скульптар Эдуард Падбярэзскі. Рэнавацыю выканаў літоўскі скульптар Aidas Rytis Vasiliauskas. Арганізацыяй збору сродкаў і вырашэннем арганізацыйных і тэхнічных пытанняў займаліся Кірыл Атаманчык, Алесь Адамковіч, Настасся і Артур Яўмены пры ўдзеле Аляксандра Смаленчука.

ISSN 2424-5216

# З ГІСТОРЫІ ДРУКАРНІ ЮЗАФА ЗАВАДСКАГА (1805–1940): ВЫДАВЕЦКАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ І СЕТКА КАНТАКТАЎ[1]

***Ала Пігальская,***
*PhD (Варшава)*

***Summary***

*The history of the Vilnius printing house Zavadzki is studied from the perspective of its network that allowed the printing house to conduct its activity and maintain its reputation throughout XIX and the first third of the XXth. The networks formed in the process of organization of the printing process, distribution of books, as well as contacts established within publishing initiatives of Zavadzki printing house are studied to discover a variety of political spectrum vies aimed at a strong focus on local history and education with prevailing polish language publications which associates with krajowa idea. Moreover, the analysis of the networks reveals how the printing press survived during the ban on printing with Latin letters after 1863, furthermore the role of competing printers, such as the Glucksberg, in strengthening local communities and institutions with printed media.*

Гісторыя дзейнасці друкарні Юзафа Завадскага ўпершыню была апісана Іаахімам Лялевелем[2] і Людвігам Абрамовічам. Іх працы, прысвечаныя гісторыі друку на абшарах былога Вялікага Княства Літоўскага, шмат увагі надаюць друкарні Юзафа Завадскага і параўноўваюць яе дзейнасць з працай канкурэнтаў. Пра гэту друкарню таксама пісаў князь Адам Чартарыйскі ў кнізе *Myśli o pismach polskich z uwagami, nad sposobem pisania w rozmaitych materiach*

[1] Artykuł został sfinansowany przez Narodową Agencję Wymiany Akademickiej w ramach programu „Solidarni z Białorusią".

[2] J. Lelewel, *Bibliograficznych ksiąg dwoje, w których rozebrane i pomnożone zostały dwa dzieła Jerzego Samuela Bandtke: historia drukarń krakowskich – tudzież Historia Biblioteki Uniwersytetu Jagiellońskiego w Krakowie a przydany katalog inkunabułów polskich*. T. 1, Wilno 1823; L. Abramowicz, *Cztery wieki drukarstwa w Wilnie: zarys historyczny (1525–1925)*, Wilno 1925.

(1812). Варта адзначыць, што кнігі Лялевеля і Абрамовіча былі выдадзены ў друкарні Завадскага, што сведчаць пра зацікаўленасць яе ўласнікаў (Юзафа Завадскага, яго сыноў Адама і Фелікса, унука Юзафа) у гэтай праблематыцы.

Гісторыя друкарні як інстытуцыі і гісторыя яе выданняў у зменлівых палітычных і сацыяльных умовах таксама стала аб’ектам увагі сучасных польскіх, беларускіх і літоўскіх навукоўцаў[1]. Хоць польская мова выразна дамінавала ў прадукцыі друкарні, але яе дзейнасць, безумоўна, мела вялікае значэнне для развіцця нацыянальных культур усяго рэгіёна былога ВКЛ.

Кожная друкарня існуе ў пэўных умовах: тэхналагічных (удасканальванне тэхналогіі друку), сацыяльных (наём і навучанне кваліфікаваных працаўнікоў, адносіны з аўтарамі), прававых (адносіны з дзяржаўнымі інстытутамі па пытаннях арганізацыі друку і цэнзуры), геаграфічных і лагістычных (дастаўка друкаванай прадукцыі), а таксама фінансавых. Падчас дзейнасці фармавалася пэўная сетка кантактаў, якія можна рэканструяваць, аналізуючы сродкі камунікацыі (карэспандэнцыя, абмен друкаванымі выданнямі). Таксама друкарскія кантакты могуць разглядацца ў перспектыве арганізацыйнай (забеспячэнне працэсу друку) і выдавецкай, бо друкарні распаўсюджвалі ўласную прадукцыю і падтрымлівалі пэўную рэпутацыю. І тут важна зразумець, як асяроддзе і геаграфія кантактаў уплывалі на дзейнасць друкарні, як яе рэпутацыя і палітычная ідэнтычнасць канструяваліся праз штодзённую дзейнасць[2].

Трэба ўлічваць, што заснавальнік друкарні і яго нашчадкі не атаясамлівалі сябе з палітычнай пазіцыяй, якая навязвалася Расійскай дзяржавай, хоць у значнай ступені залежалі ад яе. Дзейнасць друкарні прыходзілася на часы палітыкі русіфікацыі рознай ступені інтэнсіўнасці. Аналіз сеткі ўзаемадзеянняў можа паспрыяць адказу на пытанне аб тым, што дазволіла друкарні За-

---

[1] A. Romanowski, *Pozytywizm na Litwie. Polskie życie kulturalne na ziemiach litewsko-białorusko-inflanckich w latach 1864–1904*, Kraków 2003; R. Cybulski, *Józef Zawadzki – twórca nowoczesnego ruchu wydawniczego w Polsce*, Wrocław 1972; J. Kowal, *Rola wileńskiego typografa Józefa Zawadzkiego w rozwoju czasopiśmiennictwa polskiego na Litwie w epoce porozbiorowej*, „Acta universitatis lodziensis. Folia literaria polonica“, 4 (34) 2016, p. 281–289. Я. Янушкевіч, *Выдаўцы Завадскія* [у:] Роднае слова, № 8, 2006, с. 123. A. Navickienė, *Professional publishing and Lithuanian books in the first two-thirds of the 19th century in Lithuania: the case of the Zawadzki firm* [w:] Roczniki Biblioteczne, 65, 2021, s. 79–95; L. Kowkiel, A. *Pacevičius Rola księży w upowszechnianiu książek w języku litewskim* (*na podstawie korespondencji do firmy Zawadzkich w Wilnie*), „Bibliotheca Lituana“, t. 2, 2012, s. 211–235.

[2] A. Smalianczuk, *Ewolucja polskiego ruchu społeczno-politycznego na ziemiach białoruskich i litewskich. 1864 – luty 1917 roku* [w:] *Polacy na Białorusi. Od końca XIX do początku XXI wieku. Wybrane problemy stosunków polsko-białoruskich*. Redaktor Tadeusz Gawin, Warszawa 2017, s. 25–35.

вадскага перытрываць часы жорсткай цэнзуры і русіфікацыі пасля разгрому паўстання 1863 г., захаваць рэпутацыю і ўзнавіць дзейнасць у перыяд ліберальных рэформ?



*Юзаф Завадскі. Пачатак XIX ст.*

Таксама варта звярнуць увагу, на якіх спажыўцоў была арыентавана прадукцыя друкарні, з кім Завадскія падтрымлівалі кантакты, і як гэтыя кантакты змяняліся цягам XIX і XX стагоддзяў? Што датычыць крыніц даследавання, то пра геаграфію партнёрскіх кантактаў сведчыць карэспандэнцыя друкароў, аўтараў тэкстаў і рэдактараў газет і часопісаў, дамовы з аўтарамі, справаздачы па продажы і адпраўцы кніг, рахункі ды іншыя дакументы, якія захоўваюцца ў Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве. Вялікае значэнне таксама мае візуальны аналіз шрыфтоў выданняў. Іх параўнанне з каталогамі шрыфтоў словалітняў дапамагае выявіць крыніцы паходжання шрыфтоў, а значыць, яшчэ групу партнёраў друкарні.

### *Арганізацыйныя ўмовы дзейнасці друкарні*

Асоба заснавальніка друкарні заўсёды была галоўнай пры вызначэнні стратэгіі яе развіцця і дзейнасці. Дзякуючы прамысловай рэвалюцыі XIX–XX стст. друкары сталі перш за ўсё прадпрымальнікамі, але асаблівасць друку як сферы дзейнасці заахвочвала падтрымліваць і такія выдавецкія праекты, якія стваралі пэўную рэпутацыю. А гэта ў сваю чаргу фармавала больш спрыяльныя ўмовы для эфектыўнага выкарыстання магчымасцей друкарні. Высокія выдаткі ўтрымання друкарні, неабходнасць падтрымліваць разгалінаваную сетку распаўсюду кніг і перыёдыкі, а таксама ўлічваць русіфікацыйную палітыку Расійскай імперыі абмяжоўвалі кола выдаўцоў і прымушалі іх да супрацоўніцтва, нягледзячы на тое, што яны заставаліся канкурэнтамі. З гэтых жа прычын, а таксама каб не губляць напрацаваныя сувязі і досвед, друкарні часта ўтрымліваліся дынастыямі.

У гісторыі заснавання друкарні Юзафа Завадскага варта ўлічваць ролю куратара Віленскай навучальнай акругі і Віленскага ўніверсітэта князя Адама Чартарыйскага. На гэтай пасадзе ён спрычыніўся да стварэння сеткі парафіяльных школ з польскай мовай навучання, што паспрыяла аднаўленню працы друкарні Віленскага ўніверсітэта. Кантракт з маладым друкаром Юзафам Завадскім, які атрымліваў прафесійную адукацыю і досвед у Вроцлаве, Познані і Лейпцыгу, быў падпісаны ў 1805 г. Дарэчы, кантракт абавязваў Завадскага друкаваць і распаўсюджваць падручнікі для школ і выданні прафе-

суры Віленскага ўніверсітэта па адносна нізкіх коштах. Друкарня Завадскага на 10 гадоў атрымала статус друкарні Віленскага ўніверсітэта. Пазней тэрмін быў працягнуты яшчэ двойчы, а Юзаф Завадскі атрымаў тытул «кнігара Імператарскага Віленскага ўніверсітэта».



*Віленскі ўніверсітэт. 1803 г.*

Пачатковы перыяд дзейнасці друкарні характарызаваўся выкарыстаннем рэсурсаў Віленскага ўніверсітэта (памяшканні, абсталяванне, замовы на падручнікі ды іх транспарціроўка па навучальных установах, замовы літаратуры за мяжой і яе продаж на тэрыторыі Віленскай навучальнай акругі) і пошукамі аўтараў, заахвочваннем іх да публікацый. Патранаж князя Адама Чартарыйскага выяўляўся не толькі ў магчымасці пазычыць грошы на пераабсталяванне друкарні, але таксама ў распрацоўцы палітыкі супрацоўніцтва друкарні з аўтарамі і партнёрамі.

У карэспандэнцыі паміж Завадскім і Чартарыйскім выпрацоўваліся прынцыпы пагадненняў з аўтарамі па пытаннях зместу, стылю і арфаграфіі тэкстаў. Так, у лютым 1808 г. Ю. Завадскі пісаў князю А. Чартарыйскаму: «Звычайна я строга абавязаны сачыць за арыгінальным рукапісам або за правіламі «Граматыкі» Капчынскага [...] Відаць, што нашаму правапісу яшчэ далёка да дасканаласці. Да таго ж дзейнічае правіла пісаць, як вымаўляецца, але ж не заўсёды яго можна выкарыстаць»[1].

Адам Чартарыйскі таксама звяртаў увагу на нешматлікасць аўтараў, якія пісалі на прафесійнай аснове, што ён лічыў важным чыннікам паспяховай дзейнасці друкарні. Князь у якасці пэўнага ўзору разглядаў сітуацыю ў Еўропе, дзе выдавец аплачваў працу літаратараў і вучоных. Але на беларуска-літоўскіх землях сітуацыя была іншая. Тут пісьменнікі і навукоўцы звычайна належалі да шляхты і матэрыяльную залежнасць ад выдаўца лічылі прыніжэннем[2].

---

[1] Цытата паводле: *Materjały do dziejów literatury i oświaty na Litwie i Rusi. Z archiwum drukarni i księgarni Józefa Zawadzkiego w Wilnie z lat 1805–1865*. Zebrał T. Turkowski. T. 2: Czasy Uniwersytetu Wileńskiego po rozbiorach (do roku 1841), Wilno 1937, s. 235.

[2] L. Abramowicz, *Cztery wieki drukarstwa w Wilni...*, s. 89–90.

Юзаф Завадскі амаль адразу распачаў закупку і наступны продаж кніг на еўрапейскіх мовах праз кнігарню Віленскага ўніверсітэта. Ужо ў 1806 г. ён звярнуўся да рэктара ўніверсітэта з прапановай стварыць музей замежнай кнігі, у якім планаваў сабраць кнігі на чатырох мовах (англійскай, французскай, італьянскай і нямецкай) і праз пошту зрабіць іх даступнымі не толькі жыхарам Вільні, але і наваколля. Яму таксама належала ідэя адкрыцця кнігарні ў Віцебску. Ю. Завадскі разлічваў на стварэнне разгалінаванай сеткі распаўсюджвання выданняў.

Іншыя ініцыятывы, выказаныя ў лістах да Чартарыйскага, тычыліся перыядычных выданняў з публікацыяй расійскіх законаў і заканадаўчых актаў. Так, у 1807 г. Завадскі прапанаваў выдаваць газету «Goniec Obywatelski», а ў 1812 г. – «Dziennik Urządowy». Ён пісаў пра патрэбу грамадзян ведаць законы і прыгадваў практыку Аўстрыі, дзе падобныя выданні друкаваліся на дзвюх мовах, як, напрыклад, у Львове. Відавочна, што друкар і выдавец зразумеў, што паспяховая дзейнасць друкарні залежыць ад попыту на друкаваную прадукцыю і маштабу яе распаўсюду. Але гэтыя ініцыятывы не знайшлі падтрымкі[1].

Сетка распаўсюджвання прадукцыі друкарні Завадскага была даволі разгалінаванай. Пра гэта сведчыць франтыспіс *Myśli o pismach polskich z uwagami…* Адама Чартарыйскага са спісам кнігарань, у якіх можна было набыць прадукцыю Завадскага. Згадваліся кнігарні Юзафа Завадскага ў Вільні, *Thomas and Comp.* у Бярдычаве, базыльянаў у Брэсце Літоўскім, дамініканцаў у Гродне і Нясвіжы, праф. Крукоўскага ў Коўне, Мая ў Кракаве, праф. Шумскага ў Познані, Пфафа ў Львове і Камянцы Падольскім, Юзафа Завадскага і яго спадкаемцаў у Варшаве, Ксаверыя Плонскага ў Віцебску, В. Б. Корна ў Вроцлаве.

Улік замоў на кнігі з нямецкіх і французскіх друкарань, а таксама выдаткаў на іх транспарціроўку, якія часткова ўскладаліся на Віленскі ўніверсітэт, сведчыць, што гэта была значная доля бізнесу фірмы Завадскага. Дзеля пашырэння кола спажыўцоў кніг і нот Завадскі разам са сваяком Юзафам Венцкім заснаваў кнігарню ў Варшаве, у якой ён валодаў 80 % капіталаў, а Венцкі – 20 %. У Менскай губ. Завадскі распаўсюджваў кнігі і ноты па падпісцы шляхам перасылкі.

У Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве захавалася дамова Завадскага і Венцкага, а таксама замовы на ноты, часопісы і кнігі замежных выдавецтваў, рахункі выдаткаў за дастаўку прадукцыі і аплату мытных збораў. У лістах Юзаф Завадскі згадваў арганізацыйныя праблемы і высокія выдаткі, з якімі сутыкаўся пры перасылцы друкаванай прадукцыі ў Варшаву. Яны значна перавышалі выдаткі перасылкі ў адваротным кірунку – з Вільні і Варшавы ў Пецярбург.

---

[1] *Materiały do dziejów literatury i oświaty na Litwie i Rusi…*, s. 5–10.

У 1819 г. Завадскі страціў кнігарню Віленскага ўніверсітэта, якая была перададзена Фрыдэрыку Морыцу (Fryderyk Moritz). Гэта засведчыў вядомы бібліяфіл Міхал Брэнштайн: «Кнігі дастаўлялі з Пецярбурга і замежжа спачатку дзякуючы пасрэдніцтву акадэмічнага кнігара Юзафа Завадскага. Але ў 1819 г. яго адсунуў на другі план немец Морыц, які прыехаў з Пецярбурга. Морыц даволі хутка стаў адзіным пастаўшчыкам кніг для ўніверсітэта, бо дзякуючы ўплывам Баянуса і Зноскі і пры падтрымцы Гродка[1] ўзначаліў акадэмічную кнігарню, якой раней кіраў Завадскі»[2].

Падобна, што гэта адбылося пад уплывам мясцовай нямецкай арыстакратыі, больш лаяльнай да істэблішменту Расійскай імперыі[3]. Фармальнай прычынай было павышэнне Завадскім коштаў падручнікаў. Канкурэнцыя Завадскага і Морыца завяршылася кампраміснай рэзалюцыяй суперінтэнданта ўніверсітэта ў траўні 1822 г., адпаведна якой абодва атрымалі званне ўніверсітэцкіх гандляроў кнігамі. 15 траўня 1822 г. куратар Віленскай навучальнай акругі загадаў рэдакцыі газеты «Kurier Litewski» апублікаваць спіс падручнікаў, на якія Завадскі абавязваўся знізіць кошты.

Звычайна наяўнасць апекуна гарантавала адносную аўтаномію і дадатковыя рэсурсы друкарні, але пры яго сыходзе з пасады паўставалі пэўныя праблемы. Пасля працэсу над філаматамі і філарэтамі ў 1824 г. Адам Чартарыйскі падаў у адстаўку. У наступным годзе Юзаф Завадскі з вялікімі цяжкасцямі працягнуў дамовы з універсітэтам і застаўся яго друкаром і кніжным гандляром. Прэтэнзіі кіраўніцтва ўніверсітэта не змяніліся. Завадскага крытыкавалі за нібыта завышаныя кошты на падручнікі для школ. У абарону друкара выступілі прафесар Ян Снядэцкі (Jan Śniadecki) і прадстаўнік вольных муляраў Юзаф Копш (Jósef Kopsz). Яны абаранялі Завадскага і даводзілі, што пры высокай якасці друку кошты выданняў не маглі быць нізкімі[4].

Удзел Ю. Копша ў абароне Завадскага невыпадковы, бо вядома, што Юзаф Завадскі таксама належаў да прыхільнікаў «каралеўскага майстэрства» і быў братам адной з віленскіх лож. Наогул, у першай палове XIX стагоддзя прыналежнасць да вольных муляраў спрыяла шырокім кантактам, якія можна было выкарыстаць для развіцця друкарскай справы. З тагачасных віленскіх друкароў і кнігароў да масонаў належалі Юзаф Завадскі і Натан Глюксберг[5].

---

1 Гаворка пра прафесараў Віленскага ўніверсітэта.

2 M. Brensztejn, *Biblioteka uniwersytecka w Wilnie do r. 1832,* Wilno, 1922.

3 E. C. Thaden, *Russification in the Baltic Provinces and Finland, 1855–1914,* Princeton 1981, s. 3.

4 *Materiały do dziejów literatury i oświaty na Litwie i Rusi…*, s. 106–111.

5 В. Швед, *Масонскія ложы на землях Беларусі (канец XVIII – першая чвэрць XIX ст.)* [у:] *Вольныя муляры ў беларускай гісторыі. Канец XVII – пачатак XX ст.* Уклад. і на-

Дарэчы, якраз у апошнім Ю. Завадскі знайшоў годнага канкурэнта ў кніжным гандлі. Натан Глюксберг таксама падпісаў дамову з Віленскім універсітэтам і адказваў за распаўсюджванне кніг у Кіеўскай губ. Завадскаму засталіся Віленская і Менская губ. А ў 1829 г., скарыстаўшыся чарговай спрэчкай Завадскага з кіраўніцтвам Віленскага ўніверсітэта, Глюксберг атрымаў у свае рукі ўніверсітэцкую друкарню. Яе ўзначаліў яго сын Тэафіл, які раней дзейнічаў у Камянцы Падольскім.

Варта адзначыць, што ў знакамітай працы І. Лялевеля аб гісторыі друку вельмі крытычна ацэньвалася якасць выданняў друкарні Глюксбергаў першай трэці XIX стагоддзя. Аўтар звяртаў увагу на адсутнасць карэктара, з чым была звязана вялікая колькасць памылак у выданнях[1]. Гэта крытыка прагучала яшчэ да падпісання Глюксбергам дамовы на кіраванне друкарняй Віленскага ўніверсітэта, але не паўплывала на рашэнне яго кіраўніцтва.



*Заява Ю. Завадскага на далучэнне да купецкай гільдыі. 1826 г. ЛДГА*

Каб працягваць кніжны гандаль і мець дазвол на транспарціроўку кніг з-за мяжы, Ю. Завадскі ў лістападзе 1836 г. падаў заяву на далучэнне да купецкай гільдыі: «Желая на 1837 год записаться в 3-ю Гильдию виленского купечества с женой Марианною, 49 лет, сыновьями Адамом, 22 лет, Иосифом, 17 лет, Матвеем, 16 лет и Феликсом, 13 лет, прилагаю на городские и земские повинности 40 руб. ассигнациями и прошу выдать в том свидетельство»[2].

Пасля смерці Юзафа Завадскага ў 1838 г. справу працягваў яго сын Адам, які пры жыцці бацькі актыўна яму дапамагаў. Падобна, што ён меў уласны план

вук. рэдактар А. Смалянчук, Мінск 2005, с. 37–102; Ю. Гардзееў, *З гісторыі гарадзенскіх масонаў* [у:] *Вольныя муляры ў беларускай гісторыі…*, с. 120.

[1] J. Lelewel, *Bibliograficznych ksiąg dwoje…*, s. 229–300.

[2] Літоўскі дзяржаўны гістарычны архіў (ЛДГА). Ф. 1135, воп. 7, спр. 10а.

далейшай дзейнасці. Так, Завадскі-молодшы ўжо ў 1838 г. закончыў супрацу з саўладальнікам кнігарні ў Варшаве Юзафам Венцкім, а ў 1857 г. падпісаў дамову з пляменнікам колішняга бацькавага канкурэнта Натана Глюксберга Міхаілам Глюксбергам. Апошні стаў кіраваць кнігарнямі Завадскага ў Кракаве, Варшаве, Львове, Познані ды іншых гарадах Каралеўства Польскага. Тым часам кнігарня Завадскіх адкрылася ў Кіеве, што парушала колішні падзел сфер уплыву іх бацькоў.

Адам Завадскі працягваў актыўны кніжны гандаль на беларускіх землях. Архіўныя дадзеныя сведчаць, што ў сярэдзіне XIX стагоддзя штогод Завадскія адпраўлялі ў Менск каля 3 тыс. кніг, а ў Зэльву, дзе адбываліся славутыя кірмашы, – каля 600 кніг. Пераважалі выданні на польскай, французскай і нямецкай мовах[1].

Пасля страты звання кнігара і друкара Віленскага ўніверсітэта Завадскія зрабілі ўласную дзейнасць больш разнастайнай. На фірмовых бланках 1851 г. было пазначана, што фірма Завадскіх з'яўляецца друкарняй, кнігарняй і складам музычных нот. У бланку за 1862 г. дадаўся яшчэ адзін напрамак дзейнасці – склад фартэпіяна замежнай вытворчасці. Бланкі друкаваліся на французскай і польскай мовах, што сведчыла пра партнёраў і геаграфію супрацы.

Пасля забароны друку «польскімі літарамі» (пазней «польска-лацінскімі літарамі») вытворчасць друкарні Завадскага значна скарацілася. Л. Абрамовіч адзначаў, што 23 ліпеня 1865 г. генерал-губернатар Каўфман на тэрыторыі шасці літоўска-беларускіх губерняў забараніў уласнікам друкарань карыстацца «польскімі літарамі». Формы для іх вытворчасці загадалі знішчыць, а пры цытаванні польскія тэксты друкаваць кірыліцай[2]. Завадскія пачалі больш друкаваць на французскай мове, але, канешне, такія замовы не маглі кампенсаваць усіх страт ад згаданай забароны. Тым не менш павялічваць друк па-расійску яны не сталі, што сведчыла аб пэўным супраціве палітыцы русіфікацыі.

Прыбытковай аказалася вытворчасць свечак з белага і жоўтага воску, якая дапамагла не толькі ператрываць цяжкія часы, але і назапасіць рэсурсы для аднаўлення друкарскага абсталявання. Магчыма, шырокаму продажу свечак паспрыялі ранейшыя кантакты друкарні, звязаныя з выданнем рэлігійнай літаратуры.

У пачатку XX стагоддзя ў сітуацыі пэўнай лібералізацыі, абумоўленай падзеямі рэвалюцыі 1905–1907 гг., Завадскія вярнуліся да профільнай друкарскай дзейнасці. Трэба адзначыць, што ўжо з 1890-х гг. друкарня распачала друк у стылістыцы Сецэсіён, моднай у тагачаснай Еўропе. А ў 1905 г., калі аднавілася выданне «Kuriera Litewskiego», замест ручнога складання ў друкарні пачалі ўжываць лінатып, які паспрыяў больш хуткаму набору. Цяпер

1 Тамсама. Ф. 1135, воп. 7, спр. 100.

2 L. Abramowicz, *Cztery wieki drukarstwa w Wilnie…*, s. 96.

нават навіны, якія прыходзілі ноччу, друкары паспявалі змясціць у ранішнім выпуску газеты.

Яшчэ адным напрамкам бізнесу, які дапамог ператрываць часы жорсткай русіфікацыі, быў дом на Бернардзінскай вул. у Вільні, які здаваўся ў арэнду. Гэтым займалася жонка Вінцэнта Завадскага (сына Адама), што засведчыла судовая прэтэнзія арандатара адной з кватэр да ўладальнікаў.

Падчас Першай сусветнай вайны ў друкарні гаспадарылі немцы. А ў 1920 г. Юзаф Завадскі (праўнук пачынальніка друкарскай справы) перавёз друкарскія і пераплётныя машыны ў польскі Быдгашч. Пазней друкарня вярнулася ў Вільню.

Варта адзначыць, што імкненне Завадскіх супрацоўнічаць з установамі накшталт Віленскага ўніверсітэта дапамагала ў распаўсюдзе друкаванай прадукцыі, стварала магчымасць зніжэння выдаткаў, напрыклад на арэнду памяшкання, і гарантавала пастаянныя замовы. Адначасна гэта супраца да пэўнай ступені абмяжоўвала самастойнасць. Прадукцыя друкарні Юзафа Завадскага выдавалася пераважна на польскай мове і распаўсюджвалася ў Менскай, Віленскай і Кіеўскай губернях, а таксама ў Варшаве і на тэрыторыі Аўстрыі (пазней Аўстра-Венгрыі). Попыт на віленскія выданні Завадскіх на гэтым вялізным абшары сведчыў пра пэўнае ідэйнае адзінства розных яго частак.

### *Вытворчасць і забеспячэнне друкарні: шрыфты*

Уладальнік словалітні ў Гродне Зымель Нахімовіч з'яўляецца той асобай, якая дапамагла выявіць яшчэ адно вымярэнне кантактаў друкарні Ю. Завадскага. Гродзенская словалітня вядома згадкамі ў розных крыніцах. Пра яе пісаў, напрыклад, Людвіг Абрамовіч, бо менавіта ў гэтай словалітні з 1807 па 1823 г. Юзаф Завадскі замаўляў лацінскія, польскія, расійскія, грэчаскія і яўрэйскія літары, атрымаўшы 1 тыс. дукатаў ад князя Чартарыйскага[1]. Зымеля Нахімовіча прыгадваў таксама Іаахім Лялевель, які адзначаў выдатную якасць яго шрыфтоў, якія «можна было параўнаць з найлепшымі ў Еўропе. Гладкі, даволі роўны, без арыгінальнасці, але годны колер, прастата без мудрагелістасці»[2]. Лялевель сцвярджаў, што Ю. Завадскі пачаў набываць шрыфты ў Нахімовіча яшчэ ў 1807 г. і працягваў гэта рабіць да пачатку 1820-х гг.

Іншай крыніцай набыцця шрыфтоў была словалітня і друкарня Таўхніца ў Лейпцыгу, дзе Завадскі таксама замаўляў медзярыты з каліграфічнымі росчыркамі для тытульных лістоў, напрыклад да згаданай кнігі Адама Чартарыйскага *Myśli o pismach polskich z uwagami, nad sposobem pisania w rozmaitych materiach*.

У словалітні Зымеля Нахімовіча адліваліся літары і рабіліся матрыцы. Ён не распрацоўваў шрыфты. Цэнтры дызайну саміх шрыфтоў былі ў Германіі,

---

1 L. Abramowicz, *Cztery wieki drukarstwa w Wilnie…*, s. 88.

2 J. Lelewel, *Bibliograficznych ksiąg dwoje…*, s. 226.

Францыі, Англіі і Галандыі. З візуальнага аналізу тэкставых шрыфтоў прадукцыі друкарні Завадскага пачатку XIX стагоддзя вынікае, што гэта маглі быць ці французскі шрыфт Дзідо (*Didot*), ці англійскі Каслон (*Caslon*). Карыстанне такімі шрыфтамі ў друкарнях Варшавы, Вільні і часткова Менска было магчыма дзякуючы ўзаемадзеянню паміж друкарамі, вытворцамі літар і іншымі адмыслоўцамі.

Да 1863 г. пераважная большасць выданняў была на польскай мове ці іншых мовах на аснове лацінскага алфавіта. Менавіта таму навучанне друкароў адбывалася ў цэнтрах еўрапейскага друку, напрыклад, у Лейпцыгу. Аздабленне кніг таксама рабілася ў традыцыях еўрапейскага друку. Аднак Іаахім Лялевель ужо ў 1823 г. сцвердзіў, што выкарыстанне папулярных у Еўропе шрыфтоў для польскамоўнага друку не спрыяе развіццю польскай нацыі. Ён выказваўся за неабходнасць стварэння польскага шрыфту[1].

У лістах Завадскага да князя Чартарыйскага згадваецца праблема друку на польскай мове лацінкай, а на расійскай – «грамадзянкай». У першым выпадку праблемы пачыналіся, калі друкар не ведаў польскай традыцыі друку[2]. Лялевель і Завадскі звярталі ўвагу на значэнне шрыфтоў і разумелі іх сувязь з гісторыяй і ідэнтычнасцю[3].

Перапіска Ю. Завадскага з сакратаром Адама Чартарыйскага Базылём Анастасевічам за 1806 г. сведчыць таксама пра існаванне праблемы з паперай. У Літве яна была вельмі дарагая. Да таго ж існуючыя паперні ў Слоніме і Свіслачы Гродзенскай губ. і ў Супраслі Беластоцкай вобл. не спраўляліся з замовамі. Ю. Завадскі часта замаўляў паперу ў Пецярбургу[4].

Словалітня Нахімовіча ў Гродне і вытворчасць паперы на фабрыках Слоніма, Свіслачы і Супрасля ў пачатку XIX стагоддзя сведчылі пра спадчыну і багатыя традыцыі друку на землях Літвы, якія будуць зруйнаваны цягам стагоддзя.

Аснову аздаблення кніг складалі тэкставыя і акцыдэнтныя шрыфты, выкарыстанне якіх залежала ад тыпу выданняў: рэлігійнага ці секулярнага. Менавіта ад гэтага залежаў спосаб афармлення загалоўкаў, выбар акцыдэнтнага шрыфту, падыход да складання асноўнага тэксту.

У аздабленні тытульных лістоў кніг і акцыдэнцыі (загалоўкаў) цягам XIX і першай дэкады XX стагоддзя змянілася тры стылістыкі. На пачатку XIX стагоддзя кнігі набіраліся ў класіцыстычным стылі. Шрыфты Баскервіль, Дзі-

[1] Ibidem, s. 230

[2] *Materiały do dziejów literatury i oświaty na Litwie i Rusi…*, s. 7–8.

[3] Амерыканскія даследчыкі П. Шоу і П. Бэйн адзначалі сувязь паміж відамі фрактуры (гатычнага пісьма) і лакальнай ідэнтычнасцю на нямецкіх землях, а таксама шрыфту Гранжон з французскім лютэранствам (Shaw P., Bain P., *Blackletter: type and National Identity*, Princeton 1998, s. 46.

[4] *Materiały do dziejów literatury i oświaty na Litwie i Rusi…*, s. 218.

до, Каслон выкарыстоўваліся ў якасці тэкставых. На тытульнай старонцы прымяняўся той самы шрыфт, але большага памеру. Каліграфічнае аздабленне рабілася на медзярыце. Кнігі друкарні Юзафа Завадскага да сярэдзіны XIX стагоддзя аздабляліся надзвычай густоўна з выкарыстаннем замоўленых у Лейпцыгу медзярытаў.

З сярэдзіны XIX стагоддзя тытульныя старонкі кніг набіраліся ўжо рознымі шрыфтамі. На гэта паўплывалі вынікі прамысловай рэвалюцыі і выкарыстанне матэрыялаў, якія дазвалялі эксперыментаваць з формамі літар. У такой эклектычнай стылістыцы ў друкарні Юзафа Завадскага выдаваліся, напрыклад, творы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.

Напрыканцы XIX стагоддзя пашыралася аздабленне ў сецэсійным стылі. Візуальны аналіз выданняў гэтага часу паказвае, што ў друкарнях Юзафа Завадскага выкарыстоўваліся літары вытворчасці словалітні Бертгольда. Гэта сведчыць пра пэўную сінхранізацыю стылістычнага аздаблення кніг з еўрапейскімі тэндэнцыямі, што было асабліва заўважна падчас лібералізацыі і аслаблення цэнзуры.

Пасля разгрому паўстання 1863 г. і забароны карыстацца «польскімі літарамі» сітуацыя змянілася. Набор тэкстаў «грамадзянкай» абумовіў карыстанне стылістыкай, уласцівай кірылічным выданням. У канцы XIX стагоддзя для рэлігійных выданняў ужываўся паўустаў і вязь у якасці акцыдэнцыі. У свецкіх выданнях у якасці тэкставага выкарыстоўвалася лацінская антыква, а ў якасці акцыдэнтнага быў распаўсюджаны шрыфт, стылізаваны пад паўустаў з алюзіямі на вязь. Спектр стылізацыі вагаўся ад запазычання форм рукапіснага тэксту з яго прыстасаваннем да магчымасцей друкарні да карыстання літарамі з выцягнутымі ў вышыню прапорцыямі, характэрнымі для вязі.

Распрацоўка і вытворчасць кірылічных шрыфтоў у вызначаным для масавага друку дыяпазоне вялася ў Расійскай акадэміі навук і Сінадальнай друкарні[1]. Аднак асартымент быў вельмі абмежаваны і не адпавядаў патрэбам грамадства нават у Цэнтральнай Расіі. Дзеля вырашэння гэтай праблемы ў Пецярбургу з'явіліся філіялы замежных словалітняў, напрыклад словалітні Бертгольда, якая спецыялізавалася на вытворчасці кірылічных версій шрыфтоў. Асновай гэтага працэсу была пэўная «кірылізацыя» лацінскіх шрыфтоў. Апрача Бертгольда гэтым займаліся таксама словалітні Лемана і Рэвільёна. Усе яны спрабавалі адаптаваць пад расійскія патрэбы еўрапейскія тыпы шрыфтоў.

Рэпертуар кірылічных шрыфтоў значна саступаў рэпертуару лацінскіх. Паступова выявіліся дзве тэндэнцыі, якія дзейнічаюць па сённяшні дзень:

1) распрацоўка кірылічных версій лацінскіх шрыфтоў як масавая з'ява,

2) распрацоўка кірылічных шрыфтоў, непасрэдна звязаных з кірылічнымі традыцыямі пісьма. Гэта тэндэнцыя не мела масавага характару.

1 А. Шицгал, *Русский типографский шрифт*, Москва 1974, с. 96–131.

Усё гэта тычылася як акцыдэнтных, так і больш запатрабаваных тэкставых шрыфтоў. Якасць шрыфту, аздабленне і гарманічнасць набору ўплывалі на якасць друкаванага выдання, а таксама на хуткасць друку і колькасць выданняў. Пераход з лацінскага шрыфту да «грамадзянкі» найперш праяўляўся ў больш простым аздабленні тэксту, меншай разнастайнасці шрыфтоў і пагаршэнні якасці друку.

Параўнанне шрыфтоў у каталогах словалітняў і друкарняў сведчыць, што друкарня Завадскага найбольш шчыльныя кантакты мела са словалітняй Бертгольда. Вывучэнне яе каталога за 1911 г. паказвае, што менавіта яе шрыфты найчасцей ужываліся Завадскімі на рубяжы стагоддзяў. Наогул, геаграфія вытворчасці гэтай друкарні даволі абшырная: словалітні ў Гродне, Лейпцыгу і Пецярбургу, паперні ў Пецярбургу, Супраслі, Слоніме і Свіслачы.

### *Выдавецкая дзейнасць і сетка кантактаў*

Паспяховую дзейнасць друкарні забяспечвалі не толькі наяўнасць абсталявання, міжнародныя кантакты, якія дазвалялі ўдасканальваць тэхналогіі, высокая якасць прадукцыі, але і наяўнасць попыту сярод чытачоў. Адпаведна, уласнік друкарні быў зацікаўлены ў супрацы з рознымі аўтарамі, якія пісалі на прафесійнай аснове, а таксама ў пашырэнні кола чытачоў. Дзеля апошняга ствараліся пэўныя выдавецкія ініцыятывы. Аналіз кола аўтараў, з якімі друкарні працавалі пастаянна, дазваляе ўзняць праблему каштоўнасных арыентацый пры фармаванні доўгатэрміновых кантактаў.

Існуючая цэнзура і фактычная забарона друку каталогаў і рэестраў выданняў прымушалі друкароў самастойна выдаваць перыёдыку або набываць ужо існуючыя газеты і часопісы. Апошняе дазваляла публікаваць абвесткі аб новых выданнях, а таксама фрагменты кніг. Гэта была амаль адзіная магчымасць інфармаваць чытачоў аб навінках кніжнага друку.

У ліставанні з Чартарыйскім Завадскі абмяркоўваў польскамоўныя выданні па гісторыі ды іншых навуках, а таксама выданні польскіх падручнікаў для школ, што было важным кірункам універсітэцкага перыяду дзейнасці друкарні.

Падыход да выдання падручнікаў добра ілюструе праца Школьнай камісіі пад кіраўніцтвам Адама Чартарыйскага. Яна была створана дзеля рэфармавання школьнай адукацыі адпаведна палітыцы ўлад Расійскай імперыі. Адным з патрабаванняў было выключэнне школьных падручнікаў польскіх аўтараў.

24 жніўня 1817 г. міністр асветы паведаміў апекуну Віленскай навучальнай акругі князю А. Чартарыйскаму пра рашэнне міністэрства заснаваць Камітэт для рэцэнзавання школьных падручнікаў Віленскай акругі. Ён таксама прасіў даслаць камплект віленскіх падручнікаў з каментарамі, а таксама інфармацыяй пра меркаваныя змены. 28 кастрычніка 1818 г. Віленскі ўніверсітэт выслаў

у міністэрства 61 падручнік[1]. Паколькі рэцэнзаванне зацягнулася, Школьная камісія прапанавала перакладаць на польскую мову падручнікі нямецкіх, французскіх і англійскіх аўтараў. Аднак гэта канцэпцыя не задаволіла ўрад, і Камісія была ліквідавана. Цікава, што перапіска па гэтай праблеме вялася праз друкарню Завадскага, што сведчыць аб яго непасрэдным удзеле ў распрацоўцы праграмы выдання новых падручнікаў.

На пачатку выдавецкай дзейнасці Завадскі абмеркаваў з перакладчыкам і сакратаром Адама Чартарыйскага Базылём Анастасевічам магчымасць перакладаў мастацкіх твораў расійскіх аўтараў на польскую мову. Але гэты праект так і не быў рэалізаваны. Юзаф Завадскі прыйшоў да высновы, што гэта літаратура не будзе карыстацца попытам. Вось што ён пісаў у адным з лістоў: «Працуючы кнігагандляром [...] у Польшчы, я меў магчымасць спазнаць густ сваіх суайчыннікаў. Дык вось, захапленне мастацкай літаратурай, як кажуць французы *belles lettres*, палякі не падзяляюць. Яны зрэдку смакуюць лепшыя творы нашых знакамітасцей. Іх цікавіць толькі невялікая колькасць найлепшых пісьменнікаў, і тое навукоўцаў па прафесіі, у той час як гісторыя, падарожжы і апісанні невядомых нам краін, гэтыя выдумкі, што нагадваюць праўду, з'яўляюцца іх любімым таварам»[2]. Адпаведна, Завадскі спрабаваў набыць правы на выданне кнігі аб вандроўках Крузенштэрна, якія выходзілі на нямецкай і расійскай мовах[3].

Князь Чартарыйскі таксама быў ініцыятарам выдання шматлікіх польскіх перыядычных выданняў у Вільне, Варшаве і Львове. У гэтай выдавецкай кампаніі прыняў удзел і Юзаф Завадскі. Так, у 1814–1815 гг. ён непасрэдна прычыніўся да выдання навукова-літаратурных часопісаў «Pamiętnik Warszawski» і «Pamiętnik Lwowski»[4]. Між тым у Вільні ў 1815 г. па ініцыятыве Іаахіма Лялевеля пачаў выходзіць тыднёвік «Tygodnik Wileński»[5]. Яго першым рэдактарам быў якраз славуты польскі гісторык, які распачаў палеміку з месячнікам «Pamiętnik Warszawski». Тыднёвік друкаваўся і распаўсюджваўся Аляксандрам Жулкоўскім, дачка якога пазней стане нявесткай Юзафа Завадскага.

Даволі важным партнёрам друкарні Завадскіх быў каталіцкі касцёл. Прынамсі, адным з сталых заказчыкаў рэлігійнай літаратуры з'яўляліся віленскія піяры. Таксама вядома пра сувязі Адама Завадскага з біскупам Мацеем

---

1 *Materiały do dziejów literatury i oświaty na Litwie i Rusi...*, s. 113–140.

2 Ibidem, s. 30.

3 Ibidem, s. 31.

4 J. Kowal, *Rola wileńskiego typografa Józefa Zawadzkiego w rozwoju czasopiśmiennictwa...*, s. 281–289.

5 J. Lelewel, *Bibliograficznych ksiąg dwoje...*, s. 228.


JOSEPH ZAWADZKI
à WILNO

*Дамова паміж Ю. Завадскім і З. Урбаноўскай аб набыцці рукапісу „Gonitwy w dolinie Prądnika“ аўтарства Дэатымы (Ядвігі Лушчэўскай). 1897 г.*

Валанчэўскім, што спрыяла выданню літаратуры на літоўскай мове[1]. Такое партнёрства дазваляла рэалізоўваць больш рызыкоўныя выдавецкія праекты.

З сярэдзіны XIX стагоддзя друкарня Завадскіх шчыльна супрацоўнічала з аўтарамі, якія стваралі літаратуру на «народных» мовах. Паводле Людвіга Абрамовіча, у 1854–1865 гг. друкарня Завадскага выдала 605 кніг, у тым ліку 348 (57,6 %) на польскай, 114 (18,9 %) на літоўскай, 107 (17,6 %) на лацінскай, 25 (4,1 %) на рускай, 11 (1,8 %) на французскай і нямецкай мовах[2]. У статыстыку не трапілі выданні на беларускай мове лацінкай. Між тым адным з такіх аўтараў быў класік беларускай літаратуры Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. У 1846 г. у друкарні Юзафа Завадскага ўпершыню была выдадзена яго опера *Сялянка*, напісаная на змяшанай польскай і беларускай мовах. Выданні на беларускай мове таксама выходзілі ў друкарні Сыркіна ў Менску. Дарэчы, для друку па-беларуску даводзілася выраблць дадатковыя літары[3].

Яшчэ адна сустрэча друкарскіх дынастый Завадскіх і Глюксбергаў адбылася пры змене друкарні для выдання часопіса «Athenaeum» (1841–1851), дзе публікаваліся літаратурныя навінкі, артыкулы па гісторыі, мастацтвазнаўстве

[1] L. Kowkiel, A. Pacevičius, *Rola księży w upowszechnianiu książek w języku litewskim…*, s. 211–235.

[2] L. Abramowicz, *Cztery wieki drukarstwa w Wilnie…*, s. 95.

[3] М. Нкалаеў, *Гісторыя беларускай кнігі*, Мінск 2009, т. 2, с. 24–25.

і г. д. Часопіс выходзіў з ініцыятывы Юзафа Ігнацыя Крашэўскага, які і быў яго рэдактарам. З 1840 па 1848 г. часопіс выходзіў у друкарні Глюксберга, а з 1849 па 1851 г. – у друкарні Завадскіх. Змена друкарні была звязана са спробай Глюксберга паўплываць на змест часопіса, каб павялічыць яго продаж. Але паводзіны друкара і выдаўца аказаліся непрымальнымі для Крашэўскага.

Пачатак XX стагоддзя з актывізацыяй нацыянальных і сацыяльных рухаў суправаджаўся ростам попыту на газету як крыніцу актуальнай інфармацыі. Адначасна яна станавілася трыбунай пэўнай ідэалогіі. Ёсць падставы казаць пра прыхільнасць Завадскіх да «краёвай ідэалогіі», якая была выпрацавана ў асяроддзі «літоўскіх палякаў» і ўяўляла сабой нацыянальную ідэю палітычнага тыпу. Краёўцы выступалі за фармаванне «нацыі ліцвінаў», галоўным крытэрыем прыналежнасці да якой быў патрыятызм у стасунку да гістарычнай Літвы. Этнічныя, культурныя і сацыяльныя адметнасці розных народаў Беларуска-Літоўскага краю нівеліраваліся агульнакраёвым патрыятызмам.

Менавіта ў друкарні Завадскіх выдаваліся «Kurier Litewski» (1905–1915), які прэзентаваў кансерватыўны варыянт краёвай ідэалогіі, і «Przegląd Wileński» (1911–1915). Рэдактарам апошняга быў Людвік Абрамовіч, які належаў да краёўцаў ліберальна-дэмакратычнай арыентацыі. Тут друкаваліся артыкулы краёўцаў Рамана Скірмунта, Эдварда Вайніловіча, Міхала Ромэра, Людвіка Абрамовіча, дзеячаў Менскага таварыства сельскай гаспадаркі. Але варта адзначыць і тое, што ў 1907 г. Завадскія таксама друкавалі газету польскіх нацыянальных дэмакратаў у Вільні «Dziennik Wileński». Аднак гэта быў вельмі кароткі эпізод з гісторыі друкарні.

Друкарня была зацікаўлена ў разгалінаваных лакальных сетках, якія дапамагалі вырашыць праблемы з паперай, шрыфтамі і збытам прадукцыі. У апошнім важную ролю адыгрывалі кантакты з мясцовымі таварыствамі, кнігарнямі, арганізацыя падпіскі, публікацыі рукапісаў вядомых аўтараў. Важным чыннікам паспяховай дзейнасці друкарні таксама з'яўлялася існаванне прафесійнага асяроддзя, іншымі словамі, прысутнасць канкурэнтаў. Найбольш моцным канкурэнтам Завадскіх былі Глюксбергі. Аднак у пэўных сітуацыях канкурэнцыя саступала месца супрацы. Можна казаць, што цягам XIX і пачатку XX стагоддзя друкарні Завадскіх і Глюксбергаў разам абаранялі выдавецкую прастору ад напльву расейскіх выдаўцоў. Для захавання рэпутацыі прадпрыемства таксама істотным было захаванне максімальнай дыстанцыі ад расійскай дзяржаўнай ідэалогіі.

У дзейнасці друкарні Завадскіх прасочваецца тэндэнцыя ўзмацнення лакальнай супольнасці праз выданне кніг і перыядычных выданняў, публікацыю артыкулаў. Арыентаванасць на мясцовых аўтараў і вытворцаў, ужыванне польскай мовы ў друку ўмацоўвалі краёвую ідэнтычнасць.

Адначасна аналіз выяўленай сеткі кантактаў друкарні Завадскага сведчыць пра тэндэнцыю пераймання эстэтыкі і тэхналогіі еўрапейскага друку. Най-

большы ўплыў мелі нямецкія словалітні і друкарні. Адчуванне прыналежнасці да культуры і традыцыі гістарычнай Літвы, да «заходняй цывілізацыі» было настолькі моцным, што нават пэўны прагматызм друкароў-прадпрымальнікаў не дазваляўісці на кампрамісы з палітыкай улад Расійскай імперыі. Гвалтоўная палітыка русіфікацыі змушала да рэарганізацыі бізнесу ці нават яго ліквідацыі, але не да падпарадкавання і пераходу на кірыліцу. Напрацаваныя сеткі кантактаў спрыялі пошуку спосабаў утрымання друкарні да лепшых часоў.

© HOMO HISTORICUS 2023
ISSN 2424-5216

# ГІСТОРЫЯ Ў АНТРАПАЛАГІЧНАЙ ПЕРСПЕКТЫВЕ
# HISTORY IN ANTROPOLOGICAL PERSPECTIVE

## ПРАВА НА СУПРАЦІЎ ТЫРАНІІ Ў ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ НА ПРЫКЛАДЗЕ ДЗЕЙНАСЦІ ЛЬВА САПЕГІ І ЯНУША РАДЗІВІЛА (канец XVI – пачатак XVII ст.)

***Віктар Якубаў,***
*канд. гіст. навук (Варшава)*

***Summary***

*The article examines the problem of resistance of aristocratic society to abuses by the central authorities on the practice and political thought of the Grand Duchy of Lithuania in the late 16th – early 17th centuries. Cases of the right of senators to to rebuke and point out violations of the law by the king and the right of right to disobey and lawfully rebel (rokosh) are taken as samples. According to the law signed by Sigismund Vaz when he was enthroned in 1588, to which he had no hereditary rights, the senators first pointed out to the king his violation of the law, if he did not correct them, The all Parliament (Walny Seim or Confederation of all Respublica) did the same, and then the dethronement followed through a general refusal of obedience . The reasons and a case of application of these rights during Rokash 1606–1609 are considered.*

*The evolution of the state system of the Grand Duchy of Lithuania from hereditary monarchy to a limited mixed political system with great democratic rights for the nobility has been traced. One of the key elements in this process was the awareness of both the feudal lords and the king of the inadmissibility of arbitrary interpretation of laws and arbitrary rule in the monarch's own favor. It is this version of the rule of Leu Sapieha, following in the footsteps of ancient authors called tyranny. Because the GDL Statute 1588 was the most popular and widely read legal text in Eastern Europe in the XVI–XVII centuries this definition in-*

*fluenced society's understanding of the role of the ruler and the law in the state. The Radicals in the Grand Duchy of Lithuania aimed at correcting abuses and restoring the rule of law, eliminating threats to the introduction of absolute monarchy. Accusations of tyranny were declared, defending freedom against the tyrant became the duty of the citizens, but military defeat and the threat of reprisals by the regalists stopped the rokash movement.*

*Janush Radziwill wrote an apology to the king who accepted them and granted amnesty to most of his opponents in 1609. With this step Sigismund Vasa marked his mercy, ability and respect for the law (because Rokash was legal), and thus avoided accusations of tyranny and united the nation, who also realized the limits of what is permissible in conflict with the monarch.*

У працэсе пераходу Вялікага Княства Літоўскага ад спадчыннай неабмежаванай мадэлі да выбарнай манархіі важнейшую ролю адыграў перыяд праўлення караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта Вазы (1588–1632). Гэта быў першы элекцыйны манарх, які правіў больш за сорак гадоў. За гэты час адбылася стабілізацыя грамадскіх і дзяржаўных інстытутаў, прайшла трансфармацыя і практычная абкатка норм і механізмаў палітычнай сістэмы Рэчы Паспалітай і ВКЛ у форме «шляхецкай дэмакратыі».

Знакавымі падзеямі, якія паўплывалі на прававую і дзяржаўную структуру ВКЛ, сталі афіцыйнае прызнанне манархам існавання шляхецкай дзяржавы – Рэчы Паспалітай Літоўскай, Рускай і Жамойцкай – у 1588 г. і рокаш 1606–1609 гг. Абедзве падзеі выводзілі шляхту ВКЛ з-пад дзеяння спадчыннага права манарха і стваралі пэўныя прававыя гарантыі для пануючага стану. Першая падзея была звязана з тэкстамі Льва Сапегі (1557–1633), другая – з дзейнасцю Януша Радзівіла (1579–1620). У гэты час палітычная сістэма праходзіла моцныя выпрабаванні, бо вырашалася, ці можа Жыгімонт Ваза ажыццяўляць кіраванне дзяржавай.

Гэтыя падзеі адлюстраваліся ў тэкстах, што дазваляе нам рэканструяваць асэнсаванне магнатэрыяй ВКЛ узаемадзеяння ўладара, дзяржавы і шляхты ў выпадку парушэння першым прынятых «правілаў гульні».

Палітычныя намеры элітарных груп звычайна афармляюцца ў выглядзе заканадаўчых і культурных норм, якія вызначаюць рамкі дапушчальных дзеянняў бакоў. Актыўнасць часткі шляхецкай карпарацыі, накіраваная на абмежаванне ўладных паўнамоцтваў уласнага манарха, павінна была мець юрыдычнае абгрунтаванне і пасля гэтага замацавацца ў прававой культуры. Як частка «палітычнага народа» Рэчы Паспалітай з часоў Люблінскай уніі, галоўныя актары дзейнічалі ў рамках пэўнага прававога поля і дапасоўвалі яго да сваіх патрэб. Аднак у 1572–1582 гг. ВКЛ было больш занята вайной з Масквой і яе наступствамі, чым заканадаўчым вырашэннем унутрыпалітычных супярэчнасцей. Магнатэрыя ВКЛ абуралася стратай украінскіх земляў, паводле умоў

Люблінскай уніі, і тым, што польскія гарнізоны і ўраднікі засталіся пасля вайны ў Інфлянтах.

Вялікае Княства павінна было ў рамках уніі даказваць уласную суб'ектнасць. Таму на элекцыйным сейме 1587 г. асобнае літоўскае кола высунула караняжам свае патрабаванні. Палякі адмовіліся іх прызнаваць і ў аднабаковым парадку 19 жніўня 1587 г. абралі Жыгімонта Вазу каралём. Аднак іншая частка дэпутатаў сейма, у т. л. большасць магнатэрыі ВКЛ, абрала каралём Максіміліяна Габсбурга. Урэшце прадстаўнікі ВКЛ адмовіліся падпарадкоўвацца абодвум прэтэндэнтам па прычыне «неправамоцнасці працэдуры абрання»[1]. У выніку ВКЛ амаль год не мела вялікага князя.

На пачатку 1588 г. Жыгімонт Ваза перамог Максіміліяна Габсбурга, прыняў патрабаванні шляхецкай карпарацыі ВКЛ[2], прызнаў яе правы і законы[3,4], а яна, у сваю чаргу, прызнала яго гаспадаром. Такім чынам, былі сфармаваны рамкавыя ўмовы для далейшых адносін. Зацверджаная 28 студзеня 1588 г. *Універсалам да грамадзян ВКЛ* і пацверджаная ў *Статуце* 1588 г. (частка 3 арт. 2) роўнасць у правах з польскай шляхтай[5], між іншым, магла прадугледжваць юрыдычна замацаваныя механізмы легальнага супраціву злоўжываннем цэнтральнай улады.

Прынцыповым момантам у адносінах паміж дзяржавай і грамадствам з'яўляецца прызнанне суб'ектнасці бакоў. Афармленне інстытутаў аўтаномнага ад улады манарха шляхецкага грамадства ў ВКЛ пачалося яшчэ пры Казіміру Ягайлавічу (1440–1492) з выдання прывілея 1447 г. і падвышэння ролі інстытута Рады Вялікага Княства Літоўскага (паноў-рады), якая займалася адміністраваннем ВКЛ падчас адсутнасці караля ў краі, а завяршылася пры Жыгімонту Вазе (1588–1632). Да рокашу 1606–1609 гг. у ВКЛ былі спробы палацавых пераваротаў, персанальныя канфлікты магнатэрыі, але не было вы-

1 *Пратэстацыя сенатараў і паслоў ВКЛ, агульная з нейтралістамі кароннымі пасля падвойнай элекцыі. Варшава. 25 жніўня 1587 г.* [w:] *Akta zjazdów stanów Wielkiego Księstwa Litewskiego*, opracował H. Lulewicz, t. 1, Warszawa 2006, s. 257–262; Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ), КМФ 18, спр. № 65, *Універсал з'езда станаў ВКЛ*. Кастрычнік 1587 г. Вільня; Падрабязная інструкцыя да пасольства літоўскага, высланага да абодвух электаў 16 лістапада 1587 г. Вільня, арк. 248.

2 *Litewskie artykuły henrykowskie? Czyli Elucidatio przysęgi królewskiej, Brześć Litewski 23.12.1587* [w:] *Akta zjazdów stanów Wielkiego Księstwa Litewskiego*, opracował H. Lulewicz, t. 1, Warszawa 2006, s. 302–308.

3 Бібліятэка князёў Чартарыйскіх у Кракаве, аддзел рукапісаў, sygn. 2073, універсал Жыгімонта Вазы да грамадзян ВКЛ. 28 студзеня 1588 г., nr 1.

4 Статут 1588 г., звароты і прывілеі, прынятыя разам з ім 28.01.1588 г. [online], http://starbel.by/statut/statut1588.htm, [доступ: 12.01.2022].

5 Тамсама, частка 3, артыкул 2, *О волностяхъ шляхетъскихъ* [online], http://starbel.by/statut/statut1588_3.htm, [доступ: 12.01.2022].

падкаў абгрунтаванай спробы дэтранізацыі манарха з боку адразу некалькіх арыстакратычных груповак з прыцягненнем шырокіх колаў шляхты.

Права польскіх паноў-сенатараў «упамінаць» (папракаць ці ўразумляць) караля ў форме *non praestanda oboedientia* (літаральна з лацінскай мовы «не гарантаваць паслухмянасць»), калі той пачынаў супрацьпраўныя дзеянні і мог ператварыцца ў тырана, упершыню было зафіксавана ў Мельніцкім прывілеі 1501 г. Аляксандра Казіміравіча (1492–1506). Яно было пашырана на на ўсю шляхту, дзякуючы Варшаўскай канфедэрацыі і Генрыкавым артыкулам 1573 г., а пасля пацвярджалася ў *Pacta conventa* (лац. «умовы абрання») усімі наступнымі манархамі Рэчы Паспалітай.

Пакуль Вялікае Княства Літоўскае было асабістым спадчынным уладаннем дынастыі Гедымінавічаў-Ягелонаў, правы паноў-рады, а тым больш шляхты, грунтаваліся на асабістай волі («ласцы») манарха. У адрозненне ад Польшчы, дзе законы і механізмы ўзаемакантролю былі прапісаны з часоў Люксембургскай дынастыі і караля Ягайлы, прывілеяваныя станы ВКЛ, акрамя паноў-рады, не мелі пісьмова гарантаваных палітычных правоў. Пасля рэформаў Жыгімонта Аўгуста і яго смерці ў 1572 г. васальная залежнасць усіх феадалаў ад дынастыі змянілася на службу дзяржаве, утворанай усёй высакароднай шляхетнай карпарацыяй з выбарным каралём на чале. Хаця па маці Жыгімонт Ваза належаў да Ягелонаў, у Статуце 1588 г. сцвярджалася спрадвечная выбарнасць манарха ў ВКЛ. Яго дзедзічныя правы на трон дэклараваліся, але ў рэчаіснасці больш не прызнаваліся. Сама назва ВКЛ ва *Універсале* да яго грамадзян у 1588 г. была напісана ў славянскіх мовах як Рэч Паспалітая Літоўская, а ў лацінскім варыянце *Res Publica Lithuanae*[1].

Пасля Люблінскай уніі 1569 г. і «Генрыкавых артыкулаў» 1573 г. пачалося замацаванне ў практыцы грамадскага жыцця ВКЛ працэсаў і абрадаў «шляхецкай дэмакратыі». Найбольш ярка яны сфармуляваны ў г. зв. «Залатых шляхецкіх вольнасцях». Першым пунктам сярод іх было тое, што кожны новаабраны кароль і вялікі князь падпісваў «Пакта канвента», г. зн. дамову на карысць абраўшай яго шляхце. Практыка дамоваў караля з высакародным станам у ВКЛ з'явілася пазней за англійскую «Вялікую хартыю Вольнасцей» (1215) і венгерскую «Залатую булу» Андрэя II (1222) і выкарыстанні венгерскай і польскай палітычнай і юрыдычнай традыцый.

У якасці станавых прывілеяў шляхта атрымала рэгулярныя вальныя соймы, павятовыя соймікі і з'езды «ўсіх высакародных паноў-братоў». Праводзіў гэтыя з'езды адзіны абраны прысутнай шляхтай і зацверджаны, а не прызначаны каралём, ураднік Рэчы Паспалітай – маршалак. Аб'ектыўная сацыяльна-палітычная няроўнасць у межах шляхецкай карпарацыі штурхала дробных феадалаў да пошуку гарантый магчымасці выказвацца нароўні з заможнымі

[1] Бібліятэка князёў Чартарыйскіх у Кракаве, аддзел рукапісаў, sygn. 2073, nr 1.

панамi i князямi. Гэта станавiлася магчымым у межах такой формы арганiзацыi, як «канфедэрацыя» – аб'яднанне шляхты ў выпадку парушэння яе правоў з боку дзяржавы i ўраднiкаў. Паводле працэдуры, на канфедэрацкiм сходзе (коле) прадугледжвалася кiраванне абраным маршалкам, выслухоўванне ўсiх жадаючых выказацца i прыняцце рашэння большасцю галасоў прысутных.

Паводле мадэлi канфедэрацыi арганiзоўваўся i рокаш. Гэта была вяршыня «залатых вольнасцей», а менавiта рэалiзацыя права легальнага ўзброенага паўстання шляхецкай карпарацыi супраць караля-тырана. Тэрмiн «рокаш» запазычаны з венгерскай «Залатой булы» 1222 г. У «Генрыкавых артыкулах» апiсанне гэтага феномену было апошнiм – 21-м пунктам. Права «рокашу» магло быць ужыта ў выпадку парушэння манархам прынятых абавязальнiцтваў, законаў i iмкнення змянiць дзяржаўны лад у Рэчы Паспалiтай з «шляхецкай дэмакратыi» на «тыранiю». У выпадку падзей 1606–1609 гг. мы маем справу з першай практычнай спробай ажыццявiць гарантаванае *Pacta conventa* права рокашу.

У прысвячэннi Статута Вялiкага Княства Лiтоўскага вялiкаму князю Жыгiмонту Вазе падканцлер ВКЛ Леў Сапега 1 снежня 1588 г. у Берасцi наступным чынам прадставiў уласнае бачанне неабходнасцi непарушнасцi юрыдычных норм i даў вызначэнне тыранii: «Былi ж часы, ваша святлейшая каралеўская мiласць, калi ў тым натоўпе i ў згуртаваннi чалавечым, якое мы рэччу паспалiтай называем, не правам якiмсьцi пiсаным або статутам, але толькi па свайму меркаванню i вырашэнню ўладу сваю гаспадары i каралi таго свету над людзьмi ажыццяўлялi. Аднак часта ад належнай сваёй павiннасцi адступалi i толькi на сваю карысць справы паварочвалi, аб агульным дабрабыце ўсiх мала клапацiлiся, таму было распаўсюджана тое, што людзi, адчуваючы агiду да iх улады i вяршэнства i не гаспадарамi, але тыранамi iх называючы [...] Арыстоцель сказаў, што там бельлуа, а па-нашаму, дзiкi звер уладарыць [...] Здарылася такое у той час у некаторых каралевiчах i юнаках рымскiх, калi сенатары абдумвалi, як бы цяжкае ярмо панавання каралеўскага або тыранскага з сябе скiнуць, а правам пiсаным кiравацца»[1].

Такiм чынам, у самым распаўсюджаным юрыдычным тэксце ВКЛ – Статуце ВКЛ 1588 г., паводле якога выбудоўвалася прававая сiстэма наступныя тры стагоддзi, – было дадзена азначэнне тырана як таго, хто не выконвае прадпiсаннi права. Вагi акрэсленню дадавала спасылка на безумоўны iнтэлектуальны аўтарытэт тагачасных адукаваных людзей – Арыстоцеля i яго параўнанне бяззаконня з кiраваннем «звера» (Вельзевула). Рымляне, як iдэальныя носьбiты культуры i дзяржаўных норм для эпохi Адраджэння, фiгуравалi як прыклад у скiдваннi ўлады тырана. Падобная аргументацыя была разлiчана на ма-

1 *Статут Вялiкага Княства Лiтоўскага 1588 г.*, пераклад на сучасную беларускую мову А. С. Шагун. Мiнск 2002, с. 14–15.

ладога манарха, які навучаўся на антычных і біблейскіх прыкладах. Магчыма, яна спрацавала, бо кароль усё прапанаванае падпісаў, а Леў Сапега апынуўся ў амаль пажыццёвым фаворы пры двары.

Аднак права рокашу ў Статуце 1588 г. для грамадзян ВКЛ не было прапісана. Спроба яго ажыццяўлення ў 1606–1609 гг., нягледзячы на ўзаемныя абвінавачванні бакоў, дзякуючы пасрэдніцкім намаганням Льва Сапегі і Мікалая Крыштофа Радзівіла, не прывяла да перасячэння мяжы паміж законным паўстаннем і замахам на каралеўскую асобу, дзяржаўны аўтарытэт і лад («маястат»).

Паводле Статута 1588 г., замах на «маястат» кваліфікаваўся як дзяржаўная здрада (змова, бунт). У выпадку даказанасці абвінавачання на агульным судзе караля і сенатараў ВКЛ вінаваты ў горшым выпадку страчваў гонар, жыццё і маёнткі[1], у лепшым павінен быў адсядзець не больш за 6 тыдняў у вязніцы ў Верхнім Віленскім замку[2]. Жыгімонт Ваза ў 1607 г. абвінавачваў рокашан у пасягальніцтве на «маястат». А рокашане ў сваю чаргу вінавацілі караля ў спробах змены дзяржаўнага ладу з рэспублікі на absolutum dominium – аднаасобнае панаванне, а потым на сваволле – тыранію[3]. І хаця пад Гузавам у 1607 г. і на Шарашоўскім гасцінцы ў 1608 г. адбыліся ўзброеныя сутыкненні «рэгалістаў» і рокашан з ВКЛ, пазіцыя і палітычныя манеўры магнатэрыі ВКЛ дазволілі замарозіць канфлікт, захаваўшы твар абодвум дзеючым бакам. Традыцыі і нормы грамадства, у т. л. прававыя, будуюцца на падмурку паспяховых прэцэдэнтаў. Мінімізацыя страт сярод грамадзян якраз і была такім поспехам.

Практычнае ўвасабленне і тэарэтычную аргументацыю арганізаванага супраціву шляхецкай карпарацыі супрацьпраўным дзеянням манарха мы можам знайсці ў рокашавых артыкулах і ўніверсалах. Усе яны, пачынаючы са з’ездаў пад Люблінам[4], Сандамірам[5], як і адмова ад паслухмянства Жыгімонту Вазе пад Язёрнай 24 чэрвеня 1607 г., былі падпісаны падчашым ВКЛ Янушам Радзівілам у якасці маршалка рокашу. У іерархіі Рэчы Паспалітай кіраўнік ро-

1 *Статут 1588 г.*, частка 1, артыкул 3, Ображенье маестату нашого г[о]с[по]д[а]рьского в чомъ се розумети маеть и яко за то карати [online], http://starbel.by/statut/statut1588_1.htm [доступ: 12.01.2022].

2 Тамсама, артыкул 4, О ображен[ь]е маестату нашого г[о]с[по]д[а]ръского, ижъ кождый обвиненый справоватися винен. И о томъ, хто перестережеть и гдѣ таковых судити. Такъже о словномъ мовен[ь]ю або писан[ь]ю о г[о]с[по]д[а]ру [online], http://starbel.by/statut/statut1588_1.htm [доступ: 12.01.2022].

3 Бібліятэка Польскай акадэміі навук і Польскай акадэміі мастацтваў у Кракаве (БПАН і ПАМ), аддзел рукапісаў, sygn. 792, Absoluty dominium, арк. 64 аб. – 66.

4 R*okosz Zebrzydowskiego: materyały historyczne poprzedzone przedmową i rozprawą pod tytułem Konfederacya i rokosz w dawnem prawie państwowem polskiem*, wydal A. Rembowski, Warszawa 1893, s. 142.

5 Ibidem, s. 198–205.

кашу ў Польскай Кароне – кракаўскі ваявода Мікалай Зэбжыдоўскі – быў вышэйшы за падчашага ВКЛ, але маршалак паводле пасады з'яўляўся афіцыйным кіраўніком шляхецкай канфедэрацыі, якім быў рокаш.

У гэтых дакументах кароль быў абвінавачаны ў спробе ўвядзення *absolutum dominium* – у свавольнай змене дзяржаўнага ладу, то бок у тыраніі. Пасля пераліку парушэнняў формула адмовы ад паслухмянства пад Язёрнай выглядала наступным чынам: «...do ostatniej obrony swobód naszych do prawa *de non praestanda obedientia* uciecześmy się musieli. Zygmuntowi trzeciemu panu dotąd naszemu będąc po tak wielu napominania od nas według prawa i wolności naszej wolni posłuszenstwośmy wypowiedzieli jakosz tym teraźniejszym pismem wypowiedamy i dalej o sobie i o wolnościach swych za pomocą bożą radzić chcemy»[1]. Чыноўнікі і ўся шляхта заклікалася да непаслухмянства Жыгімонту Вазе, а тыя, хто захоўваў яму вернасць, абвяшчаліся «памочнікамі тырана» і «ворагамі Айчыны»[2].

Аргументацыя рокашавых актаў грунтавалася на пераліку парушэнняў абяцанняў і законаў Рэчы Паспалітай з боку караля і двара[3]. У такіх абставінах абарона перад тыраніяй станавілася абавязкам законапаслухмянага грамадзяніна. Разам з тым назваць дзеючага караля тыранам азначала абразу «маястата» з усімі вышэйапісанымі наступствамі. Нягледзячы на тое, што кліент Януша Радзівіла парнаўскі кашталян Пётр Стаброўскі быў адным з галоўных рупараў рокашу і стаўся галоўнай ахвярай рэпрэсій у ВКЛ пасля яго завяршэння[4], мы наўрад ці можам прыпісаць аўтарства рокашавых артыкулаў Янушу Радзівілу. Знайсці ў яго карэспандэнцыі, якую захавалі дзяржаўныя і радзівілаўскія архівы, азначэнне манарха як тырана праблематычна. Зыходзячы з матэрыялу першакрыніц, можна сцвярджаць, што падчас крызісных сітуацый інфармацыя фільтравалася – не давяралася паперы[5], а перадавалася вусна, праз ганцоў[6] і, магчыма, была вычышчана з архіваў пасля паражэння рокашу. Аднак пэўныя моманты, датычныя матывацыі, у карэспандэнцыі ўсё ж захаваліся.

---

1 [online], http://staropolscy.pl/akt-rokoszu-oryginalny-przeciw-zygmuntowi-iii-krolowi/akt-rokoszu-oryginalny-przeci [доступ: 9.01.2022].

2 Ibidem.

3 *Rokosz Zebrzydowskiego...*, s. 198–205, 235–238, 243–255, 286–298.

4 K. Żojdź, *Stronnictwo Zygmunta III Wazy w Wielkim Księstwie Litewskim w latach 1603–1621*. Rozprawa doktorska. Warszawa 2018, s. 107, 111.

5 Архіў галоўны актаў даўніх (АГАД), Архіў Радзівілаў (АР), аддз. IV, sygn. 171, ліст Януша Радзівіла да Мікалая Крыштофа Радзівіла ад 23.09.1607 г., арк. 30; тамсама, ліст Я. Радзівіла да М. К. Радзівіла ад 9.01.1608 г., арк. 49.

6 АГАД, АР, аддз. II, sygn. 69/4, ліст Я. Радзівіла да Жыгімонта Вазы праз Самуэля Грандскага, паданы з Сяльца, ад 2.04.1607 г., арк. 214–215.

Найбольш ярка акрэслены характарыстыкі «тыраніі» і матывавана патрэба з ёй змагацца ў асабіста выказаным меркаванні Я. Радзівіла ў закліку шляхты да пераабрання новага караля замест Жыгімонта Вазы, абвешчаным у Любліне 11 ліпеня 1607 г. Спачатку Я. Радзівіл даводзіў факты тыраніі. Першым доказам было тое, што Жыгімонт Ваза адмаўляўся абмяркоўваць прапановы па рэфармаванні Рэчы Паспалітай, хаця ўсе патрабаванні шляхты былі адпаведна аформленыя. Другім – тое, што пераход караля «ад Absoutum dominium да тыраніі» стаў яму відавочны, калі адбылося «збэшчванне» (парушэнне шляхецкага гонару) нейкага пана Лозніцкага, пасла рокашан да сенатараў Рэчы Паспалітай. Трэцім доказам з'яўлялася сама бітва 5 ліпеня 1607 г. пад Гузавам (Аранскам), якую «паганскім чынам» справакавалі «кароль і яго гетманы», падчас і пасля якой адбылося «вялікае разліццё шляхецкай крыві», а потым катаванне палонных, якія паходзілі «са старадаўніх дамоў»[1]. У завяршэнні Я. Радзівіл аргументаваў патрэбу і заклікаў шляхту прыязджаць асабіста ў рокашавае войска з усім патрэбным, дзеля таго каб змагацца «супраць тырана ўзброена»[2].

Аднак у асабістых лістах да Жыгімонта Вазы і сенатараў Рэчы Паспалітай рыторыка была значна мякчэйшая. Так, Януш Радзівіл дэклараваў, што, па-першае, ён займаўся «направай (рамонтам) рэспублікі» дзеля ліквідацыі злоўжыванняў, а не вырашаў прыватныя інтарэсы[3]. Па-другое, ён не парушаў прысягу на вернасць каралю, а паслядоўна працягваў уласную лінію паводзін ва ўжо існаваўшых і агучаных на соймах[4] рамках закона[5]. Па-трэцяе, ён сцвярджаў, што сам не пісаў і не выступаў ініцыятарам рокашавых універсалаў, а ішоў за воляй шляхты, якая яго абірала, прызначала і сама вырашыла працягнуць рокаш, а ён удзельнічаў у руху «не каб пана адмяніць, а каб з брацьмі да тых вольнасцяў

1 Бібліятэка князей Чартарыйскіх у Кракаве, аддзел рукапісаў, sygn. 103, nr 97, універсал, выдадзены ў Любліне Янушам Радзівілам, падчашым ВКЛ, які заклікае на элекцыю іншага караля. 11.07.1607.

2 «...*contra Tyranum armatum* сама айчына, сама свабода, сама кроў наша пачцівая просіць. Хто ёсць шляхцічам, хто хоча ў свабодзде жывот свой правадзіць, хто хоча быць бяспечны свайго здароўя і маёмасці – зараз няхай як на гвалт (у рокашавае войска) бяжыць» (пераклад паводле: Бібліятэка князёў Чартарыйскіх у Кракаве, аддзел рукапісаў, sygn. 103, nr 97.)

3 АГАД, АР, аддз. II, sygn. 69/4, s. 214–215; АГАД, Публічны архіў Патоцкіх (ПАП), sygn. 31, t. II, ліст Я. Радзівіла да караля ад 9.06.1608 г., арк. 272–273.

4 A. Pawłowska – Kubik, *Rokosz sandomierski 1606–1609. Rzeczpospolita na politycznym rozdrożu*. Toruń 2019, s. 180–181; БПАН і ПАМ, sygn. 792, ліст Я. Радзівіла да Жыгімонта Вазы (без даты і месца, але пасля Сандамірскага з'езда, перад Гузаўскай бітвай 1607 г.), арк. 138–139.

5 АГАД, ПАП, sygn. 31, t. II, ліст..., s. 273.

цягнуцца, новых не хачу»[1]. Па-чацвёртае, ён спасылаўся на балючы асабіста для Жыгімонта Вазы прэцэдэнт – няўдалую інтэрвенцыю караля ў Швецыю ў 1598 г. і дэтранізацыю яго шведамі ў 1599 г. Падчашы ВКЛ лічыў, што калі ў спадчынай шведскай манархіі з-за «фальшывага абвінавачання» ў спробе парушэння шведскіх правоў і рэлігіі падданыя паўсталі і ідуць тысячамі «не шкадуючы здароўя» гінуць на палях бітваў, «дык наш народ значна больш вольны». Да таго ж у Рэчы Паспалітай Жыгімонт Ваза кіруе і павінен усё рабіць «паводле элекцыі і законаў продкаў нашых слаўных»[2]. Па-пятае, асабістае: для поглядаў Я. Радзівіла характэрны правідэнцыяналізм і патрыятызм[3]. Паколькі ён лічыў, што суддзёю ў яго змаганні за Бацькаўшчыну і за гонар можа быць толькі Бог[4]. Па-шостае, для Януша Радзівіла быў прынцыповым рыцарскі кодэкс: «абавязак гонара і мужнасці»[5]. Так, ён матывуе свой ліст да Жыгімонта Вазы перад Гузаўскай бітвай прысягай падчашыя ВКЛ, у якой ён пакляўся сцерагчы здароўе манарха, якому хваляванні, звязаныя з рокашам, пагражаюць[6]. У лісце пасля Гузаўскай бітвы 1607 г. ён ганарыцца, што давёў справу да канца і выйшаў на поле боя, а не ўцёк перад ім. Па-шостае, для яго былі важныя ўзаемныя дамоўленасці. Ен спрабаваў дамовіцца з каралём у пачатку кар'еры пры двары і перад бітвай, але не атрымалася. У рокашавым абозе Я. Радзівіл і М. Зэбжыдоўскі пакляліся адзін аднаму не заключаць аніякіх дамоў з каралём без узгаднення паміж сабой. Пасля Гузаўскага разгрому, ужо будучы ў Слуцку, маршалак рокашу некалькі месяцаў чакаў адказу ад галоўнага партнёра ў Польшчы[7].

Між тым Мікалай Зэбжыдоўскі заключыў пагадненне і здаўся каралю раней за іншых. Аб перамовах кракаўскага ваяводы з дваром маршалку рокашу паведамілі яго дзядзька з нясвіжскай галіны і сіньёр роду Радзівілаў віленскі ваявода Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка, а таксама кузэн з дубінкаўскай

1 БПАН і ПАМ, sygn. 792, ліст Я. Радзівіла да Жыгімонта Вазы…, арк. 139.

2 БПАН і ПАМ, sygn. 792, ліст Я. Радзівіла да Жыгімонта Вазы…, арк. 140.

3 «…дай галаву і цела сваё на Айчыну, бо не толькі праз караля, але праз народ краі квітнеюць» (пераклад паводле: БПАН і ПАМ, sygn. 792, ліст Я. Радзівіла да Жыгімонта Вазы…, арк. 138).

4 АГАД, АР, аддз. IV, sygn. 171, № 1, ліст Я. Радзівіла да намесніка слуцкага Ежы Капачэўскага ад 26.04.1607 г., арк. 24–27; ibidem, ліст Я. Радзівіла да М. К. Радзівіла ад 2.10.1607 г., арк. 32; «У такіх рэчах, дзе аб сумленні ідзе, аб Айчыне, дзе аб гонары ідзе, толькі перад панам богам паступаць патрэбна» (АГАД, АР, аддз. IV, sygn. 171, ліст Я. Радзівіла да М. К. Радзівіла. 7.11.1607 г., арк. 34–35.

5 «*fidei et honoris* з Ласкі Божай…» (пераклад паводле: АГАД, АР, аддз. IV, sygn. 171, ліст Я. Радзівіла да М. К. Радзівіла ад 2.10.1607 г., арк. 32).

6 БПАН і ПАМ, sygn. 732, ліст Я. Радзівіла да Жыгімонта Вазы…, арк. 138.

7 АГАД, АР, аддз. IV, ліст Я. Радзівіла да М. К. Радзівіла ад 7.11.1607 г., арк. 34–35.

галіны – трокскі кашталян Юры Радзівіл і яго швагер вялікі канцлер ВКЛ Леў Сапега, якія яго наведалі ў Слуцку. Інфармацыя не стала для маршалка навіной, але ён чакаў асабістага адказу ад М. Зэбжыдоўскага ды іншых паплечнікаў. Больш за тое, ён атрымліваў з Мазовіі, Вялікапольшчы і Малапольшчы заклікі аднавіць рокаш, на якія не рэагаваў[1]. Прынамсі, да вясны 1608 г., паводле лістоў, скіраваных да дзядзькі-«рэгаліста» М. К. Радзівіла, Януш Радзівіл канчаткова не вызначыўся з уласнымі палітычнымі планамі і больш давяраў свае справы Божаму наканаванню, чым іншым палітыкам[2].

Напярэдадні Вялікадня 1608 г. сілы «рэгалістаў», узначаленыя вялікім гетманам ВКЛ Янам Каралем Хадкевічам, згуртаваліся ў раёне Гародні, а рокашане – васалы Януша Радзівіла і берасцейскія канфедэраты – перакрылі ім дарогу на поўдзень, ад Берасця да падляшскай рэзідэнцыі Януша Радзівіла – Старой Весі. Дзяржаўная армія рухалася з Гародні на Берасце па Шарашоўскім гасцінцы, дзе адбыліся сутычкі з сіламі Януша Радзівіла. Варта пагадзіцца з Я. К. Хадкевічам, які сцвярджаў, што праявіў палітычную абачлівасць і літасць да сваіх апанентаў. Ён лічыў, як і раней Я. Радзівіл[3], што ў братазабойчай бітве «ані пераможца, ані пераможаны славы не атрымае»[4], і таму не ўвязаўся ў паўнамаштабны бой, змяніў накірунак маршу, перайшоў на Нараўскі гасцінец і забараніў штурмаваць лагер канфедэратаў[5]. Войскі «рэгалістаў» сталі пад Берасцем, перакрыўшы дарогу рокашанам у ВКЛ, і тыя сабраліся каля Старой Весі.

Сенатары ВКЛ на чале з Л. Сапегам і М. К. Радзівілам, а таксама сам падчашы абвясцілі, што прычынай баявых дзеянняў з'яўляецца асабістая нянавісць Яна Караля Хадкевіча да Януша Радзівіла[6]. «Тыранскі» характар сваіх дзеянняў Я. К. Хадкевіч аспрэчваў сцвярджэннямі аб іх санкцыянаванні каралём, службовымі абавязкамі гетмана разабрацца з канфедэратамі – рабаўнікамі шляхецкіх і дзяржаўных маёнткаў, а таксама наўмысным пазбяганнем ахвяр сярод суайчыннікаў падчас сутычак[7].

Магчыма, двор меў адносна падчашага ВКЛ такі ж сцэнар, які быў рэалізаваны ў Польшчы ў выглядзе прыватнай вайны паміж «рэгалістам» Лукашам Апалінскім і зацятым канфедэратам Станіславам («Д'яблам») Стадніцкім

[1] Ibidem, sygn. 172, nr 41, ліст Я. Радзівіла да М. К. Радзівіла, 25.11.1607 г.

[2] Ibidem, sygn. 171, ліст Я. Радзівіла да М. К. Радзівіла ад 12.03.1608 г., арк. 53.

[3] «…праліццё крыві – няслаўе на дзецях і на ўнуках» (пераклад паводле: БПАН і ПАМ, sygn. 732, ліст Я. Радзівіла да Жыгімонта Вазы…, арк. 141.

[4] АГАД, ПАП, sygn. 31, t. II, інструкцыя Яна Караля Хадкевіча Радзівілам…, s. 481.

[5] Ibidem, s. 477–478.

[6] K. Żojdź, *Stronnictwo Zygmunta III Wazy…*, s. 104–107.

[7] АГАД, ПАП, sygn. 31, t. II, s. 479.

у 1608–1610 гг. і скончыўся забойствам апошняга. Аднак дзякуючы салідарнасці магнатэрыі ВКЛ такі сцэнар не быў рэалізаваны. У выніку пасрэдніцтва вялікакняскіх і каронных сенатараў 20 і 23 чэрвеня 1608 г. у лагеры пад Берасцем і Старой Вессю былі падпісаны пагадненні, у якіх «рыцарскім словам» вялікага гетмана і падчашага ВКЛ гарантавалася персанальная бяспека апанента. Пасля гэтага адбыўся роспуск войск Януша Радзівіла, а войскі Яна Караля Хадкевіча павінны былі адысці ў Інфлянты.

Яшчэ да развязкі падзей Януш Радзівіл 9 чэрвеня 1608 г. у Старой Весі напісаў ліст, у якім выбачыўся перад каралём і сцвердзіў, што ён «хцівасці не меў, аніякіх рангаў, акрамя тых, якія мне дасталіся паводле *actus libertatis,* не жадаў. На тых пляцах ставіўшыся, не патрабаваў нічога новага, а толькі тое ж, што перад тым на некалькіх соймах. Змяненне права паспалітага ў некалькіх артыкулах дамагаўся, але годнасці Вашай Каралеўскай Міласці ані ўчынкам якім, аніводным вострым словам не абражаў, хаця для таго аказій было нямала, у чым Любельскі, Сандамірскі і Анджэеўскі з'езды сведкамі і нават вашы паслы, якія прыязджалі да кола рокашавага і якіх мы з усёй пашанай трактавалі і прымалі»[1].

Далей у лісце былы маршалак рокашу адмовіўся падрабязна тлумачыцца і прыязджаць у двор асабіста, спаслаўшыся на кепскае здароўе, але прасіў прабачэння і літасці за тое, што з «іншымі братамі» адмовіўся падпарадкоўвацца каралю, паабяцаў у далейшым захоўваць вернасць і даказаць яе справай. Такім чынам, Януш Радзівіл паспрабаваў адвесці ад сябе абвінавачанні ў замаху на «маястат».

Асобна варта разгледзець дзейнасць падчас рокашу Льва Сапегі. Ён быў у фаворы пры двары Жыгімонта Вазы, і хоць афіцыйна падтрымліваў караля, але перад самай бітвай пад Гузавам з'ехаў з каралеўскага лагера[2], каб у ёй не ўдзельнічаць. Ён пастаянна заклікаў Януша Радзівіла да прымірэння з каралём[3] і да самой спробы рокашан рэфармаваць Рэч Паспалітую ставіўся крытычна[4].

Аднак тое, што дзяржаўныя войскі ВКЛ бралі прыстаўствы і стацыі на тэрыторыі Кароны, дапускаючы рабаўніцтва аж да Плоцкага біскупства[5], замест

---

1 Ibidem, ліст Я. Радзівіла да караля ад 9.06.1608 г., арк. 272–273.

2 Бібліятэка імя Урублеўскіх Акадэміі навук Літвы (БУАНЛ), аддзел рукапісаў, f. 9, j. 431, ліст Л. Сапегі да М. К. Радзівіла ад 5.07.1607 г., s. 101.

3 Тамсама, ліст Льва Сапегі да Януша Радзівіла ад 13.06.1608 г., s. 121; ліст Льва Сапегі да М. К. Радзівіла ад 13.01.1608 г., s. 122; ліст Л. Сапегі да М. К. Радзівіла ад 06.10.1608 г., s. 128; ліст Л. Сапегі да М. К. Радзівіла 05.08.1609 г., s. 138. Каралевіч Уладзіслаў Ваза і каралева Канстанцыя сталі хроснымі бацькамі сына Льва Сапегі і Гальшкі.

4 БУАНЛ, f. 9, j. 431, ліст Л. Сапегі да М. К. Радзівіла ад 6.11.1607 г., s. 112.

5 Тамсама, f. 18, j. 162, ліст Марціна Шышкоўскага да М. К. Радзівіла, студзень 1608 г., s. 21.

таго, каб ісці выяваць са шведамі ў Інфлянтах, а частка іх нанялася на службу да Ілжэдзмітрыя ІІ, прывяло да выдання восенню 1608 г. канцылярыяй ВКЛ баніцыі вялікага гетмана ВКЛ Яна Караля Хадкевіча[1]. Магчыма, на Льва Сапегу паўплывала і тое, што яго жонка была роднай сястрой Януша Радзівіла, і калі яе сваякі дазналіся пра антырадзівілаўскія гульні вялікага канцлера ВКЛ пры двары[2], дык вясной 1608 г. не адпускалі жонку да мужа ў Кракаў[3]. Адной з прэтэнзій сваякоў жонкі было тое, што нібыта па намовах вялікага канцлера ВКЛ кароль доўга не хацеў прымаць прабачэнні Януша Радзівіла і патрабаваў новых[4]. Неабходнасць доказу лаяльнасці да Радзівілаў прывяла вялікага канцлера ВКЛ да тлумачэнняў з Мікалаем Крыштофам Радзівілам[5] і, верагодна, да выдання гэтай баніцыі. Такім чынам, атрымалася патавая сітуацыя – абодва бакі канфлікту ў ВКЛ апынуліся ў складаных адносінах з законам. Нагадаем, што як за абразу «маястату», так і ў выпадку выдання баніцыі віноўныя выводзіліся з-пад дзеяння закона, ім пагражала смерць.

Толькі заступніцтва караля за Яна Караля Хадкевіча і ўсеагульная амністыя, зацверджаная вальным соймам 1609 г. канчаткова супакоілі жарсці ў ВКЛ. Жыгімонт Ваза яшчэ перад бітвай пад Гузавам патрабаваў ад рокашан прадставіць доказы яго спроб устанавіць абсалютызм і тыранію[6] і абвяргаў іх. Але пасля перамогі ён праявіў літасць, пагадзіўся на амністыю і прыняў прабачэнні ад большасці кіраўнікоў рокашу. Якраз кароль настаяў на ўзброеным сутыкненні пад Гузавам, але пры гэтым пачас і пасля бітвы не адбылося вынішчэння часткі эліты, і грамадства паступова аб'ядналася пасля шоку грамадзянскай вайны. Рокаш паказаў абодвум бакам межы дапушчальнага, ствараліся механізмы вырашэння палітычнага крызісу і мінімізацыі шкод ад яго.

Афіцыйна рокаш скончыўся соймавымі пастановамі 1609 г., якія даравалі яго ўдзельнікам паўстанне супраць уладара. Але з гэтага часу паводле права *de non praestanda obedientia* працэдура «папракання» манарха была адкарэктавана і распісана пакрокава[7]. Паслядоўнасць была наступная: спачатку караля

---

1 K. Żojdź, *Stronnictwo Zygmunta III Wazy…*, s. 108.

2 БУАНЛ, f. 9, j. 431, ліст Л. Сапегі да М. К. Радзівіла. Б.д., s. 125.

3 Тамсама, ліст Л. Сапегі да Я. Радзівіла ад 10.04.1608 г., s. 120.

4 Тамсама, ліст Л. Сапегі да М. К. Радзівіла ад 06.10.1608 г., s. 128.

5 Тамсама, s. 125.

6 Тамсама, ліст Л. Сапегі да М. К. Радзівіла ад 27.05.1607, s. 96.

7 H. Wisner, *Rokosz Zebrzydowskiego albo sandomierski: cezura czy epizod z dziejów walk politycznych początku XVII wieku*, [online] http://rcin.org.pl/Content/5275/WA303_4865_KH90-r1983-R90-nr3_Kwartalnik-Historyczny_04_Wisner.pdf, c. 531, [доступ: 7.01.2022].

папярэджваў прымас (кіраўнік польскага касцёлу), потым прымас і сенатары, а пасля гэтага ўжо пачынаўся разгляд супрацьпраўных учынкаў караля на вальным сойме. Такім чынам, рэальнае змяшчэнне караля з пасады па волі шляхты станавілася амаль немагчымым. Разам з тым механізмы актыўнай самаарганізацыі шляхецкай карпарацыі, магнацкіх колаў і іх узаемадзеяння ў выпадку канфлікту з цэнтральнай уладай атрымалі не толькі практычны прэцэдэнт, але і тэарэтычнае абгрунтаванне на айчыннай глебе.

Падсумоўваючы, трэба адзначыць, што Леў Сапега сфармуляваў вызначэнне «тыраніі», патлумачыў яе небяспеку і пашырыў яе разуменне ў грамадстве. Януш Радзівіл быў адным з тых, хто, ужываючы юрыдычную і рэлігійную аргументацыю, паспрабаваў зрынуць уладара, які парушаў законы, «тырана» – паводле вызначэння Льва Сапегі.

Неабходнасць прытрымлівацца законнасці была ўсвядомлена абодвума бакамі ў рокашы 1606–1609 гг. Жыгімонт Ваза зрабіў усё, каб не стаць «тыранам» у вачах як сваіх праціўнікаў, так і прыхільнікаў у Вялікім Княстве Літоўскім, не хацеў застацца такім у памяці нашчадкаў. У аргументацыі абодвух бакоў значную ролю адыгрывалі не толькі юрыдычныя, але таксама этычныя (вернасць, гонар, павага да роду і «маястату») і рэлігійныя матывы. Гарантам справядлівасці і судзёй у гэтым канфлікце станавіўся Бог.

Магнатэрыя і шляхта ВКЛ падчас вострага палітычнага крызісу выкарыстоўвала дзве формы супраціву беззаконню і «тыраніі» – актыўную і пасіўную. Януш Радзівіл актыўна ўдзельнічаў спачатку ў стварэнні юрыдычных норм для дзеянняў, спрабаваў дамовіцца, а потым і паспрабаваў узброена дэтранізаваць Жыгімонта Вазу. Леў Сапега, Ян Караль Хадкевіч, Мікалай Крыштоф Радзівіл прапагандавалі ўтрыманне норм закону, выказваліся публічна і ў асабістых размовах з каралём або з'язджалі з каралеўскага двара і сабатавалі тыя рашэнні манарха, якія маглі змяніць расклад сіл у дзяржаве ў накірунку зняцця абмежаванняў улады манарха.

Пасля Люблінскай уніі, Генрыкаўскіх артыкулаў і Статута ВКЛ 1588 г. шляхецкі стан і магнатэрыя на землях ВКЛ атрымалі афіцыйнае права супраціўляцца незаконным дзеянням манарха ў форме непадпарадкавання і рокашу, да гэтага прапісаных у венгерскім і польскім праве. Практычная спроба дэтранізацыі манарха стала сур'ёзным выпрабаваннем для дзяржаўнай сістэмы, але ў выніку паспрыяла наладжванню механізма ўзаемасувязей, стварэнню і замацаванню дапушчальных сцэнарыяў узаемных дзеянняў. Права папракаць караля і рокашавая самаарганізацыя шляхты прадэманстравалі магчымасці грамадства і сталі стрымліваючым фактарам для ўзмацнення каралеўскай улады і яе праяў супрацьпраўнага сваволля. Таксама статут ВКЛ 1588 г. і рокаш 1606–1609 гг. спрыялі гарызантальнаму пашырэнню ўладных паўнамоцтваў на больш шырокія групы палітычнай эліты і трансфармацыі дзяржаўнай сістэмы ў бок дэмакратызацыі.

ISSN 2424-5216

# «АЎГУСЦЕЙШЫ ДЗЕД». ІМПЕРАТАРСКІЯ СКУЛЬПТУРНЫЯ ПОМНІКІ Ў БЕЛАРУСКІХ ГАРАДАХ І МЯСТЭЧКАХ У ПАЧАТКУ XX ст.

***Сяргей Грунтоў,***
*канд. гіст. навук (Менск)*

***Summary***

*The article is focused on the early history of civil monuments in the Belarusian cities and market towns that were mainly dedicated to the emperor Alexander II. They were mainly erected in between years 1911 and 1914. The advance of the German forces in 1915 resulted with their hasty «evacuation» to the Russian Empire inner territories where they were melted just after the Revolution of 1917. No less then 70 emperor monuments were erected at the territory of modern Belarus but their fast disappearance left little trace in the memory of the Belarusians. Nevertheless, this short period was enough to forms memorial practices and principles of the territory organization that surrounded these brand-new monuments and that later were widely used in the Soviet memorial politics. The article traces the history of the emperor's monuments in Belarus, shows the territorial disproportion in their spread across country, gives closer look for cases of their erection in Minsk, Mazyr and Turau. Minsk monument and public rituals that accompanied it are analyzed in details just to show the symbolic structure, practices and ways of dealing with surrounding territory. The author understands the early Alexander II monuments as starting point that is important for understanding of the later Soviet and modern-day memorial politics in the Belarus.*

На мяжы XIX–XX стст. на плошчах і скверах беларускіх гарадоў і мястэчак упершыню пачалі з'яўляцца помнікі ў выглядзе скульптур (пагрудных ці ў поўны рост) на п'едэсталах. У маштабе Расійскай імперыі гэта з'ява не была новай. У сталіцы і ў буйных гарадах поўнафігурныя, часам конныя помнікі пачалі ставіць яшчэ ў XIX і нават XVIII ст. Але гэта былі адзінкавыя выпадкі. Сітуацыя пачатку XX ст.

істотна адрозніваласся тым, што скульптурныя помнікі пачалі масава тыражаваць. Скульптурныя выявы з некаторым спазненнем трапілі ў «эпоху тэхнічнага ўзнаўлення твораў мастацтва», як назваў яе Вальтэр Беньямін[1], што мела істотныя наступствы як для тэмпаў і геаграфіі іх пашырэння, так і для змен у арганізацыі гарадской публічнай прасторы ў цэлым.

Свайго піку мода на пастаноўку скульптурных помнікаў дасягнула ў 1912–1913 гг., калі ў Беларусі былі пастаўлены дзясяткі помнікаў «імператару-вызваліцелю» Аляксандру II. У маштабах імперыі іх былі тысячы. Гэтыя помнікі праіснавалі толькі некалькі гадоў і не дачакаліся нават таго, каб стаць аб'ектамі бальшавіцкага іканаборства ў 1917 г. і пазней. Іх дэмантавалі ў 1915 г. ва ўмовах наступлення нямецкіх войск. Жыццё імператарскіх помнікаў было кароткім, а сацыяльныя ўзрушэнні наступных гадоў такімі моцнымі, што гэты эпізод гісторыі публічнай прасторы беларускіх гарадоў і мястэчак практычна цалкам знік з памяці наступных пакаленняў. Сёння тыражаванне помнікаў і запаўненне імі гарадскіх плошчаў і сквераў звычайна звязваецца з савецкім культам асобы Леніна і праслаўленнем шэрагу іншых важных для бальшавіцкай партыі асоб.

«Помнікаманія» апошніх гадоў Расійскай імперыі вядомая мала, але яшчэ менш усвядомленае яе значэнне. Разам з тым многія практыкі ўзаемадзеяння з помнікам і арганізацыі прасторы вакол яго, якія аформіліся яшчэ ў той час, знайшлі свой працяг у савецкую эпоху і захаваліся па сённяшні дзень. У гэтым артыкуле будуць разгледжаны імператарскія скульптурныя помнікі пачатку XX ст. і тое, як яны структуравалі прастору і паводзіны людзей вакол сябе.

Гаворачы пра пачаткі пэўных практык і значэнняў, варта разумець, што і яны мелі сваю генеалогію, да якой давядзецца звярнуцца толькі коратка, каб не згубіць абраны тэматычны фокус. Дзеля разгляду абранай праблемы давядзецца карыстацца рознымі даследчымі оптыкамі. Каб разгледзець маштаб пашырэння і развіцця «помнікаманіі», падыдзе макраўзровень. Для вывучэння практык і значэнняў давядзецца засяродзіцца на асобных прыкладах і дэталях, таму оптыка тут будзе адваротнай.

### *Помнікі без скульптур, скульптуры без помнікаў*

Помнікі ў публічнай прасторы, у тым ліку ў гонар манархаў, ставілі і да пачатку XX ст., але яны не мелі скульптурных элементаў і звычайна складаліся з набору класіцысцкіх архітэктурных форм. Часцей за ўсё такія помнікі былі прадстаўлены калонай на пастаменце, якая завяршалася фігурай святога ці крыжам. Найбольш вядомы тып гэтых помнікаў – гэтак званыя «калоны канстытуцыі»[2], якія ўзводзіліся ў канцы XVIII ст. Ініцыятарамі ўзвядзення

[1] В. Беньямин, *Судьба и характер*, Санкт-Петербург 2021, с. 284.

[2] Э. Інеўская, *Калоны Славы ў гонар Канстытуцыі 3 траўня: каталог*, Мінск 2019; O. Hedemann, *Głębokie*, Wilno 1935, s. 49.

розных калон і абеліскаў была заможная шляхта, якая рабіла гэта ва ўласных маёнтках, а часам – на цэнтральных плошчах мястэчак. Так, у канцы XVIII ст. у цэнтры мястэчка Свіслач Ваўкавыскага пав. Вінцэнты Тышкевіч пабудаваў абеліск з пазалочаным шпілем, які ствараў уяўную вось для класіцысцкай планіроўкі паселішча[1].

Важна адзначыць відавочную семантычную сувязь ранніх цывільных помнікаў з падобнымі па форме рэлігійнымі аб'ектамі, найперш муравaнымі капліцамі ў форме тых жа калон і абеліскаў. Напрыклад, калоны Канстытуцыі 3 мая мелі ў сваіх завяршэннях крыжы ці фігуры святых і пры адсутнасці адпаведных інскрыпцый успрымаліся як варыянты прыдарожных капліц, а для непісьменных сялян такімі і былі. Палітычны кантэкст у такіх выпадках з часам мог лёгка сцірацца, а помнік працягваў існаваць як рэлігійны аб'ект.

Эвалюцыя грамадзянскага помніка ў гарадской прасторы – гэта рух у напрамку яго секулярнасці, канцавой кропкай якога сталі фігуратыўныя помнікі манархаў і іншых вядомых асоб. Прыкладам прамежкавага варыянта можна назваць калону ў Бешанковічах, узведзеную ў маёнтку Ірэнія Храптовіча ў пачатку 1920-х гг. на месцы, дзе сядзеў імператар Аляксандр I падчас абеду, калі наведваў маёнтак у 1821 г.[2] Кароткая, каля аднаго метра вышынёю, яна стаяла на масіўным двух'ярусным падмурку, а ўверсе знаходзіўся шар без крыжа. Сёння гэты помнік, убачыць які мы можам толькі на фотаздымку, здзіўляе сваёй дыспрапорцыяй. У ім аснаванне дамінуе над пастаўленай на яго калонай вышынёю ўсяго каля 1 метра[3]. Тое, што мы бачым, – гэта п'едэстал помніка ў сучаснай, звыклай для XX ст. форме, і атавістычная дамінанта ў выглядзе недарэчнай калоны. Апошняя была разбурана пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, а п'едэстал быў выкарыстаны для помніка Леніну, утварыўшы такім чынам характэрную для XX ст. кампазіцыю.

XIX ст. не толькі выкарыстоўвала формы з лексікону класіцызму для ўзвядзення помнікаў, але і стварала свае арыгінальныя рашэнні, якія адлюстроўвалі дзіўныя густы і ўяўленні сучаснікаў пра прыгожае. Яскравы прыклад гэтага мы можам убачыць у Полацку. Тут знаходзіцца рэпліка пастаўленага ў 1850 г., знішчанага ў 1930-я гг. і адноўленага ў 2010 г. помніка падзеям вайны 1812 г.[4] Фак-

---

[1] Л. Патоцкі, *Успаміны пра Тышкевічаву Свіслач, Дзярэчын і Ружану*, Мінск 1997, с. 26. (Лявон Патоцкі называе гэты абеліск «спічастаю пірамідай»).

[2] А. Сапунов, *Памятники времён древних и новейших в Витебской губернии*, Витебск 1903, с. 36–41.

[3] Аналагічны па кампазіцыі, але лепшы ў прапорцыях помнік быў пастаўлены ў Менску на Юбілейнай плошчы ў 1825 г. у гонар Нікейскага сабору (Гл.: З. Шыбека, *Мінск сто гадоў таму*, Мінск 2007, с. 88).

[4] А. Лукашевич, *Памятники и памятные места 1812 года в Беларуси*, Минск 2012, с. 51–68.

тычна перад намі пастаўленае на пастамент завяршэнне шатровай званіцы праваслаўнага храма ўзору XVII ст. з невялікаю цыбулінай уверсе. У ніжняй частцы яна аточана сістэмай тонкіх парных калон з цыбулінкамі, на кожнай з якіх бачым залатога арла. У архітэктурным сэнсе перад намі яшчэ большая недарэчнасць, чым бешанковіцкая калона. Яна вырастае са спробы адысці ад канонаў класіцызму і выпрацаваць новую мову для мемарыяльнай архітэктуры.

Аналагічныя працэсы ў гэты час адбываліся і ў Заходняй Еўропе, дзе асновай для эксперыментаў стала готыка. У падобнай логіцы быў вырашаны помнік Вальтэру Скоту ў Эдзінбургу (1846), які Чарльз Дзікенс называў «правалам» і параўноўваў са «шпілем, знятым з гатычнага сабора і пастаўленым на зямлю»[1].

Дысгармонія прапорцый і эстэтычных рашэнняў, якую мы бачым у помніках XIX ст., што адыходзілі ад эстэтыкі класіцызму, можна прачытаць як знак пераходнага перыяду, транзіт ад класіцысцкіх узораў да мадэрных форм, якія ў XX ст. выльюцца ў сотні шаблонных помнікаў выбітным дзеячам, адлітых у бронзе і пастаўленых на пастаменты.

Хоць абсалютная большасць помнікаў на гарадскіх плошчах і скверах Беларусі да канца XIX ст. не мела скульптур у кампазіцыі, скульптурныя выявы ўсё ж прысутнічалі ў гарадской прасторы. У першую чаргу гэта былі фігуры Хрыста на распяццях і фігуры святых у складзе мураваных і драўляных капліц. Скульптурная выява чалавека ў публічнай прасторы цягам усяго XIX ст. заставалася ў першую чаргу выявай шанаванай у хрысціянстве асобы. Гэта была найперш каталіцкая традыцыя. Цягам большай часткі XIX ст. яна знаходзілася ў канфрантацыі з расійскімі ўладамі, якія актыўна імкнуліся да змяншэння яе ўплыву і прысутнасці ў візуальнай прасторы.

Помнікі расійскім манархам у пачатку XX ст. узнікаюць там, дзе ў XVIII стагоддзі маглі размяшчацца капліцы з выявамі Хрыста, Яна Непамука ці іншых святых. Фігура манарха, не пазбаўленая вядомых сакральных канатацый, замяшчае іх, прэтэндуючы на дамінаванне над цэнтральнымі часткамі публічнай прасторы ў горадзе. У кансерватыўнай хрысціянскай логіцы ўсталяванне такіх помнікаў можам прачытаць як з'яўленне «куміраў», лагічным наступствам якога стала актыўнае выкарыстанне помнікаў у развіцці культу асобы ў перыяд пасля Першай сусветнай вайны.

Асабняком ад усёй апісанай карціны развіцця фігуратыўных помнікаў у Беларусі стаіць конная статуя Юзафа Панятоўскага, якая з 1840 па 1922 г. знаходзілася перад палацам Паскевічаў у Гомелі[2]. Першапачаткова яна прызначалася для Варшавы, дзе не была ў свой час усталявана з-за палітычнай

---

1 Х. Пирсон, *Диккенс*, Москва 1963, с. 229.

2 В. Морозов, *Гомель классический. Эпоха. Меценаты. Архитектура*, Минск 1997, с. 311–315.

рэакцыі пасля паражэння паўстання 1830–1831 гг[1]. З прыходам да ўлады бальшавікоў статуя была дэмантавана і перавезена ў Варшаву, не аказаўшы ўплыву на развіццё грамадзянскіх манументаў у беларускіх гарадах. Першыя конныя помнікі пачалі з'яўляцца толькі ў пачатку XXI ст.[2]

### *Імператары ў кішэнях, газетах і інтэр'ерах*

Адсутнасць скульптурных помнікаў расійскім імператарам у Беларусі ў XIX ст. зусім не азначала, што іх партрэты не былі вядомыя падданым. Наадварот, яны тыражаваліся незлічонай колькасцю копій у першую чаргу дзякуючы манетам, аверсы якіх (акрамя самых дробных наміналаў) аздаблялі профілі манархаў. У грашовым абароце суіснавалі манархі самых розных пакаленняў, але сучасны царскі профіль звычайна быў добра знаёмы большасці. Улада сімвалічная і ўлада эканамічная тут ішлі побач, узаемаўзмацняліся і аказваліся неадрыўна звязанымі з выявай цара, стандартызаванай і тыражаванай, як іконны вобраз[3].

Развіццё літаграфічных тэхнік і пашырэнне багата ілюстраваных газет з сярэдзіны XIX ст. зрабілі пазнавальнасць і прысутнасць цара, а таксама царскай сям'і яшчэ большай. Праўда, гэта датычыла толькі пісьменных і забяспечаных слаёў грамадства. Імператар, вялікія князі і княгіні апынуліся ў адным візуальным шэрагу з цэлым панопцікумам, які запаўняў сабою тагачасныя ілюстраваныя газеты. Канешне, мяжа захоўвалася, але можна сказаць, што гэта было важным крокам у напрамку прафанацыі вобраза манарха і стала перадумовай яго будучага з'яўлення ў скульптурнай форме пасярод шуму рынкавых плошчаў гарадоў і мястэчак.

У XIX ст. выявы імператара, звычайна надрукаваныя літаграфічным спосабам, што не патрабавала вялікіх выдаткаў і забяспечвала адсутнасць скажэнняў пры тыражаванні, запоўнілі сабою кабінеты чыноўнікаў, суды, земствы, валасныя праўленні, гімназіі, школы, сіроцкія прытулкі і многія іншыя месцы, так ці інакш павязаныя з уладай[4]. З таго часу і па сённяшні дзень гэта форма візуальнай рэпрэзентацыі ўлады ў публічнай прасторы заставалася нязменнай, змяняўся толькі змест выяваў.

---

1 H. Kotkowska-Bareja, *Pomnik Poniatowskiego*, Warszawa 1971.

2 У апошнюю чвэрць XX ст. былі пастаўлены дзве мемарыяльныя скульптуры з выявамі коней: у 1981 г. кавалерыст на кані каля вёскі Горня Хоцімскага раёна і ў 1999 г. – чырвонаармеец у вобразе Св. Георгія, які забівае змея, у Бабруйску. У абодвух выпадках гэта былі мемарыялы на вайсковых пахаваннях. Першым конным манументам у публічнай гарадской прасторы, пастаўленым у гонар гістарычнай асобы, стаў помнік Усяславу Чарадзею ў Полацку (2007).

3 Э. Фюрекс, *Оскорблённый взор. Политическое иконоборчество после Французской революции*, Москва 2022, с. 81–82.

4 Тамсама, с. 48–49.

Так, на фотаздымку 1914 г. з менскай жаночай гімназіі мы бачым яе навучэнак, якія разам выконваюць гімнастычнае практыкаванне. На сценах вучэбнага кабінета можна пазнаць партрэт імператара і нейкага іншага чыноўніка пад ім, а таксама праваслаўныя абразы[1]. Такое суседства не было выпадковым: яно злучала ў адным полі візуальнага рэпрэзентацыі нябеснай і зямной улады. Варта заўважыць, што і практыкі шанавання іх былі падобнымі. Спосабы аздаблення ікон былі пераняты для ўпрыгожвання партрэтаў ва ўрачыстыя дні. Самі ўрачыстасці, якія адбываліся ў сімвалічнай прысутнасці імператара ў якасці той ці іншай яго выявы, арганічна змешвалі царкоўны і цывільны складнікі – ад урачыстых прамоў і чытання вершаў да царкоўных малебнаў і зваротаў да духоўных асоб.

Нагодай для новых тыражаванняў партрэтаў станавіліся афіцыйныя святы, а ў XX ст. у першую чаргу святкаванне 50-годдзя Маніфеста аб вызваленні сялян ад прыгону, якое адзначалася 19 лютага 1911 г. Так, напрыклад, у Полацкай епархіі для царкоўных школ ва ўласным рамесным аддзеле пры вучылішчы былі намаляваны партрэты «цара-вызваліцеля»[2].

Друкаваныя партрэты імператара былі настолькі пашыранымі і даступнымі, што ў пачатку XX ст. траплялі нават у сялянскія дамы. Рэдкае сведчанне гэтага мы знаходзім у мемуарах Юльяна Сергіевіча, адным з першых успамінаў якога былі абразы і партрэт Мікалая II на сцяне, якія аўтар бачыў яшчэ з калыскі[3]. У гэтым няма нічога дзіўнага, бо партрэт імператара нават не абавязкова было купляць. Іх масава раздавалі разам з брашурамі ідэалагічнай скіраванасці, тэкстамі малітваў за цара і іншай падобнай прадукцыяй. Напрыклад, у час святкавання таго ж юбілея ў в. Лучыцы Мазырскага пав. у валаснай вучэльні «быў прачытаны нарыс пра адмену прыгону; некаторым дзецям раздаваліся партрэты імператара Аляксандра II і брашуры для чытання»[4].

### *Ад першых манументаў да «помнікаманіі»*

Першыя фігуратыўныя помнікі расійскім манархам ды зрэдку іншым грамадскім і палітычным дзеячам пачалі з'яўляцца ў беларускіх і літоўскіх губернях толькі на мяжы XIX–XX стст. 8 лістапада 1898 г. у Вільні быў адкрыты помнік быламу генерал-губернатару Міхаілу Мураўёву, 20 студзеня 1901 г. –

[1] З. Шыбека, С. Шыбека, *Мінск: Старонкі жыцця дарэвалюцыйнага горада*, Мінск 1994, с. 150.

[2] А. Григорович, *Пастырское братское собрание в г. Полоцке*, «Полоцкие епархиальные ведомости», 1911, № 8, с. 165–166.

[3] Ю. Сергіевіч, *Успаміны* [у] *Асоба і час*. Выпуск 1, Мінск 2009, с. 148.

[4] И. Минич, *19 февраля 1911 года в с. Лучицах Мозыр у.*, «Минские епархиальные ведомости», 1911, № 6, с. 178.

помнік Аляксандру II у Менску, 10 верасня 1904 г. – помнік Кацярыне II у Вільні[1]. Віленскі помнік графу Мураўёву належыць да нешматлікага кола мануметаў, якія ўзводзілі ў гонар не манаршых асоб. Да іх ліку на тэрыторыі Беларусі можна далучыць помнік П. Сталыпіну ў Гародні, помнік М. Гогалю ў Гомелі і ўжо згаданы вышэй гомельскі бюст І. Ф. Паскевіча[2].

Але гэта мемарыяльная актыўнасць сыходзіць на другі план у параўнанні з той сапраўднай «помнікаманіяй», якая пачалася ў апошняе дзесяцігоддзе Расійскай імперыі. Яна была выклікана маштабнымі мерапрыемствамі па святкаванні 50-гадовага юбілея адмены прыгону ў 1911 г., а пасля працягнулася ў 1912 і 1913 гг. на фоне святкавання юбілеяў вайны 1812 г. і 300-годдзя дому Раманавых. У перыяд з 1911 па 1914 г. на тэрыторыі сучаснай Беларусі было пастаўлена не менш за 68 скульптурных помнікаў Аляксандру II[3]. Магчыма, гэтых помнікаў было і болей, але не пра ўсе з іх захаваліся сведчанні ў тагачасных крыніцах, паколькі на пэўны момант іх пастаноўка стала такою масавай з'явай, што газеты, асабліва ў выпадку малых мястэчак і вёсак, нават гэта не заўважалі. Даступныя нам дадзеныя, сабраныя ў даведніку *Манументальныя помнікі Расійскай імперыі*, дазваляюць прасачыць дынаміку пастаноўкі помнікаў па гадах і папулярнасць гэтых ініцыятыў у розных губернях[4].




---

1 *Памяти графа Михаила Николаевича Муравьёва: Ко дню открытия ему памятника в г. Вильне 8 ноября 1898 г.*, Вильна 1898; *Открытие и освящение в г. Минске памятника Императору Александру II*, «Минские епархиальные ведомости», 1901, № 2, с. 35; Виноградов, А. А. *Путеводитель по городу Вильне и его окрестностям*, Вильна 1904, с. 221–223.

2 В. Целеш, *Гарады Беларусі на старых паштоўках*, Мінск 2001, с. 104.

3 К. Сокол, *Монументальные памятники Российской империи. Каталог*, Москва 2006.

4 Тамсама. Для выбаркі ўзята інфармацыя па Менскай, Магілёўскай, Гродзенскай, Віцебскай і Віленскай губ. у межах сучаснай Беларусі. Трэба адзначыць, што такое абмежаванне пакідае за іх межамі толькі чатыры населеныя пункты, уключаныя ў каталог: Белавежу (Пружанскі пав.) і Паўлы (Бельскі пав.) у Гарадзенскай губ., а таксама Ліксну і Прэлі (Дзвінскі пав.) у Віцебскай губ. У дыяграме не ўлічаны помнік у Слабодцы Новааляксандраўскага пав. Ковенскай губ., бо толькі нязначная частка тэрыторыі гэтай губерні знаходзіцца сёння на тэрыторыі Беларусі. З пабудовы храналагічнага графіка выпалі дадзеныя яшчэ двух помнікаў, час пабудовы якіх дакладна не вядомы.

Толькі ў трох ці чатырох выпадках у 1911 г. помнікі атрымалася адкрыць у юбілейны дзень 19 лютага. У большасці выпадкаў працы па ўзвядзенні манументаў спазняліся, таму асноўная частка помнікаў была афіцыйна адкрыта толькі летам і ўвосень таго ж года. Як добра бачна на графіку, ініцыятыва пастаноўкі помнікаў затухала пасля 1911 г. Тым не менш нават у 1914 г. паспелі паставіць яшчэ тры помнікі. Апошні з іх адкрылі ўжо падчас Першай сусветнай вайны ў Плешчаніцах Барысаўскага пав. Менскай губ. 1 верасня 1914 г. З улікам таго, што ўсе помнікі былі дэмантаваны ўлетку 1915 г. перад наступленнем германскіх войск, прастаяць яму давялося менш за год.

Размеркаванне помнікаў па губернях дае выразныя дыспрапорцыі, прычыну якіх складана адназначна патлумачыць. Менская губ. з пастаўленымі тут 43 помнікамі значна апераджае ўсе астатнія, што нельга патлумачыць ні яе большымі памерамі, ні колькасцю насельніцтва. Наступнай за ёю ідзе Магілёўская губ. з 13 помнікамі. Можна меркаваць, што ў заходніх губернях са значнай часткай каталіцкага насельніцтва ідэя пастаноўкі помніка Аляксандру II была менш папулярнай, але гэта не тлумачыць, чаму помнікі не былі пастаўлены, напрыклад, у паўднёвых паветах Гродзенскай губ., дзе пераважала праваслаўнае насельніцтва. Верагодна, справа ў адсутнасці земстваў у заходніх губернях, якія часта выступалі ініцыятарамі пастаноўкі помніка.




Магчыма, кіраўніцтва Менскай губ. было больш актыўным у стымуляванні ініцыятыў «знізу» па ўсталяванні помнікаў імператару. Пры гэтым трэба памятаць, што пастаноўка помніка была толькі адной з форм мемарыялізацыі асобы «цара-вызваліцеля» і юбілею адмены прыгону. Сабраныя грошы маглі быць накіраваны на пабудову храма, бальніцы, школы, якія ўзводзіліся ў памяць імператара, але мелі выразна большую сацыяльную каштоўнасць, чым бронзавы бюст. Адпаведна прапанаваная дыяграма не можа быць прачытана як адлюстраванне ступені лаяльнасці мясцовай улады.

Бюсты, а менавіта яны былі асноўнай формай рэпрэзентацыі асобы Аляксандра II, тыражаваліся па стандартнай адліўцы некалькімі буйнымі вытвор-

цамі, сярод якіх пераважала пецярбургская фабрыка Навіцкага, якая прадавала іх па 150 руб. за штуку[1]. Нават з улікам дадатковых коштаў на пастамент і падрыхтоўку пляцоўкі гэта была параўнальна невялікая сума. Напрыклад, помнік у Бялынічах Магілёўскага пав. абышоўся ўсяго ў 170 руб., а ў Веляшковічах Віцебскага пав. каштаваў 1 400 руб.[2] Узгадаем для параўнання, што віленскі помнік Кацярыне II, замоўлены ў знакамітага скульптара Антокальскага, адліўка якога была зроблена ў Парыжы, а граніт для абліцоўкі пастамента дастаўляўся з Шатландыі, абышоўся ў 150 тыс. руб.[3]

Разлік на прастымуляваную ініцыятыву знізу прыводзіў да таго, што скульптурныя помнікі маглі з'яўляцца нават у сёлах і невялікіх мястэчках, але адсутнічаць у многіх гарадах. Прычына ў тым, што танны бюст імператара маглі сабе дазволіць многія паселішчы. Ён станавіўся эфектнай і не вельмі затратнай формай дэманстрацыі лаяльнасці ўладзе і ініцыятывы мясцовых чыноўнікаў. Адсутнасць нейкіх відавочных заканамернасцей ва ўзнікненні скульптурных помнікаў нават на тэрыторыі Менскай губ., дзе іх было пастаўлена найболей, тлумачыцца яшчэ і тым, што побач з імператарскімі бюстамі на пастаментах узнікалі семантычна падобныя аб'екты, пра якія мы маем толькі спарадычныя дадзеныя.

Прыкладам можа служыць сітуацыя ў в. Цітва Ігуменскага пав. Мясцовы валасны сход усяго за тыдзень да святкавання 19 лютага 1911 г. вырашыў, што ў вёсцы таксама павінен быць помнік. Сход пастанавіў «дзеля ўвекавечання сярод нашчадкаў памяці гэтай слаўнай падзеі пабудаваць на рынкавай плошчы ў в. Цітва каменна-мармуровы помнік у агароджы, паставіўшы ў ім з лампадай абраз, тэзаіменнага Вызваліцелю-Цару святога дабравернага князя Аляксандра Неўскага, дзеля чаго з запаснога капіталу ахвяраваць 400 руб. срэбрам і абраць будаўнічы камітэт з пяці ўпаўнаважаных сходам асоб»[4]. Зразумела, што праз тыдзень, у дзень святкавання, на абраным месцы знаходзілася ў лепшым выпадку будаўнічая пляцоўка без помніка, што ніяк не перашкодзіла ўключыць яе ў святкаванне, а пазней ушанаваць выяву Аляксандра II. «Месца сярод сельскай плошчы, прапанаванае для ўстанаўлення юбілейнага помніка, было абнесена часова зладжанаю агароджай, аздоблена елкамі і развешанымі па чатырох кутах сцягамі [...] У названы час усе сабраліся ў добра асветленае да гэтага часу, prасторнае і, дзякуючы стараннасці загадчыка, клапатліва пры-

[1] К. Сокол, *Монументальные памятники...*, с. 113.

[2] Тамсама.

[3] А. Виноградов, *Памятник императрице Екатерине II в г. Вильне*, «Виленский календарь на 1905 год». Отдел исторический, Вильна 1904, с. 2.

[4] С.П.С., *Юбилейное торжество 19 февраля 1911 года, в с. Цитве Игуменского уезда*, «Минские епархиальные ведомости», 1911, № 5, с. 146.

бранае вучылішча. Сярод агульнай раскошна-святочнай абстаноўкі асаблівую ўвагу звяртаў на сябе па-майстэрску ўсталяваны тут і маляўніча аздоблены зялянінай, кветкамі і сцягамі партрэт Цара-Вызваліцеля Імператара Аляксандра II»[1].

У гэтым апісанні трэба звярнуць увагу на два аспекты. Па-першае, сабраных грошай (400 руб.) магло б хапіць на ўсталяванне стандартнага бюста імператару. Цалкама магчыма, што пры рашэнні пра форму помніка сказалася адсутнасць своечасовай прапановы і няведанне таго, што бюст імператара можна замовіць па каталогу з дастаўкай. У выніку, плануючы гранітна-мармуровы пастамент, скарысталіся больш традыцыйным рашэннем, уласцівым для мураваных капліц-пілонаў: замест Аляксандра II размясцілі абраз Аляксандра Неўскага. І гэта другі істотны момант, а менавіта выява імператара аказваецца семантычна блізкай да абраза святога, які можа яе сімвалічна замяшчаць. Гэтаксама як і абраз у рэлігійных практыках, выява імператара становіцца цэнтральным аб'ектам для правядзення цывільных урачыстасцей, а ўдзел прадстаўнікоў царквы толькі ўзмацняе згаданае падабенства.

Адкрыццё помніка і іншыя звязаныя з ім урачыстасці былі важнейшым спосабам публічнай самапрэзентацыі мясцовай улады. У губернскіх гарадах ключавой асобай у такой самапрэзентацыі быў губернатар, але ў выключных выпадках наведаць падзею мог і прадстаўнік царскай сям'і. Напрыклад, на адкрыцці помніка Кацярыне II у Вільні прысутнічаў вялікі князь Міхаіл Аляксандравіч[2]. Верагодна, прадстаўнікам мясцовай улады, нават пад самымі простымі помнікамі-бюстамі ў невялікіх мястэчках, уласнае значэнне магло падавацца абсалютным. На кароткі момант у сімвалічнай іерархіі рэпрэзентацыі ўлады яны займалі наступнае месца пасля імператара.

Так, на фотаздымку з адкрыцця помніка Аляксандру II у мястэчку Новая Мыш Навагрудскага пав., апублікаваным у часопісе «Огонёк», крыжыкамі пазначаны старшыня павятовай земскай управы П. В. Давыдаў і спраўнік М. М. Трукаў[3]. Такія дэталі ў невялікай заметцы ў ілюстраваным часопісе, які асвятляў падзеі з усёй імперыі і свету (на суседняй старонцы развароту мы бачым фота караля Англіі на паляванні на сланах у Індыі) падаюцца празмернымі і нават кур'ёзнымі, але відавочна, што для згаданых людзей яны мелі вялікае значэнне, былі свайго роду «хвілінай славы». Характэрна і тое, што сам помнік на фотаздымку бачны невыразна, у той час як у кадры дамінуюць удзельнікі адкрыцця.

---

[1] Тамсама, с. 147, 150.

[2] *Открытие памятника Императрице Екатерине II в г. Вильне*, «Виленский календарь на 1905 год». Отдел исторический, Вильна 1904.

[3] *Открытие памятника Царю-Освободителю в местечке Новая-Мышь*, «Огонёк», 1912, № 1, с. 11.

У тым жа годзе ў часопісе «Огонёк» быў апублікаваны іншы фотаздымак – з адкрыцця помніка Аляксандру II у мяст. Гарадзішча Наваградскага пав. На ім добра бачна святочнае аздабленне помніка ў час яго адкрыцця, знаёмае нам па тэкставых апісаннях: два сцягі за спіною імператарскага бюста, гірлянда з кветак, якая атачае надпіс на пастаменце, вянкі ў яго аснаванні. У нататцы пад ім адзначалася, што «помнік збудаваны на сродкі, ахвяраваныя самімі сялянамі»[1]. Гэта агульнае месца ў тагачаснай прэсе ў апісанні адкрыцця аналагічных помнікаў. У гэтым відавочная патрэба легітымізацыі ўлады праз волю народа, гараджан і сялян.





*Адкрыццё помнікаў Аляксандру II у мястэчках Новая Мыш (злева) і Гарадзішча (справа) Наваградскага пав.*

### Удзячныя мяшчане і амбіцыі «метраполіі»

Мазырскія гараджане яшчэ ў 1895 г. вырашылі, што жадаюць паставіць у горадзе помнік імператару Аляксандру III. Такім чынам яны імкнуліся выказаць удзячнасць манарху за дапамогу ў зборы сродкаў на адбудову горада пасля пажару ў 1892 г. У маі яны паслалі праект на зацвярджэнне ў губернскае праўленне. Ён не захаваўся, але з апісання вядома, што гэта павінна была быць гранітная калона[2].

---

1 *Освящение памятника Царю-Освободителю в местечке Городище*, «Огонёк», 1912, № 40, с. 14.

2 Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ). Ф. 299, воп. 5, спр. 1164 *Аб узвядзенні ў горадзе Мазары калоны ў памяць імператара Аляксандра III*, арк. 1г.

Здавалася б, для такога пачынання не можа быць перашкод з боку ўлады. Аднак з адказам зацягнулі, і ўрэшце толькі ў лістападзе губернскі архітэктар В. Маас паведаміў, што праект «у мастацкіх адносінах не вытрымлівае ніякай крытыкі»[1]. Пры гэтым ён прапанаваў уласны праект з абеліскам ці калонаю на пастаменце, завершанай скульптурнай выявай двухгаловага арла і двума кованымі ліхтарамі паабапал[2]. На гэтым справа і скончылася, не атрымаўшы працягу.

Праекты новых помнікаў з'явіліся толькі падчас «помнікаманіі» 1911–1914 гг. У мястэчку Тураве ў 1913 г. быў адкрыты помнік імператару, які карэспандэнт «Менскіх епархіяльных ведамасцей» у артыкуле *Шчаслівы дзень нашага мястэчка* апісвае так: «Імператар паказаны на ім ва ўвесь рост, у парфіры. Адной рукой ён нібыта дабраслаўляе ўрадавыя ўстановы, а ў другой трымае скіпетр Расійскай імперыі»[3]. Такім чынам, жыхары Турава паставілі на ўласнай рынкавай плошчы «велічны помнік, які цалкам мог бы служыць упрыгажэннем і вялікага горада»[4].

Узвядзенне такога помніка, без сумневу, было дэманстрацыяй вялікіх амбіцый мястэчка. Тураў на пачатку XX ст. адчуваў сябе паўнапраўным канкурэнтам Мазыра. Розніца ў колькасці насельніцтва тут была невялікай (6 435 чалавек у Тураве ў 1909 г. супраць 10 395 чалавек у Мазыры ў 1908 г. Супаставімым быў і эканамічны патэнцыял, а тураўскія кірмашы маглі быць больш прыбытковымі, чым мазырскія[5]. Мела значэнне і памяць жыхароў Турава пра тое, што іх паселішча – гэта не мястэчка, а былы ўплывовы горад і важны рэгіянальны цэнтр усяго Палесся. Для праваслаўных колаў Тураў, як былое месца епіскапскай кафедры і важны рэлігійны цэнтр, таксама меў значэнне большае за Мазыр. Аўтар згаданага артыкула ў канцы, маючы, верагодна, на ўвазе канфлікты ў мясцовым праваслаўным асяроддзі, пісаў, што калі б мясцовае духавенства магло «прынесці ў ахвяру дробязнае самалюбства і эгаізм, і розныя карысныя разлікі, то Руская справа стаяла б нязрушна і можна было б хутчэй вярнуць ранейшае гістарычнае праваслаўнае значэнне ўсёй Тураўшчыны, звязаўшы яе ў адзіны праваслаўны Рускі саюз»[6].

---

1. Тамсама, арк. 4г.
2. Тамсама, арк. 5г.
3. Очевидец, *Счастливый день нашего местечка,* «Минские епархиальные ведомости», 1913, № 15, с. 409.
4. Тамсама, с. 410.
5. Л. Смиловицкий, *Евреи в Турове: история местечка Мозырского полесья,* Иерусалим 2008, с. 134.
6. Очевидец, *Счастливый день…*, с. 412.

Гэтыя амбіцыі мястэчка не маглі прайсці незаўважанымі ў павятовым цэнтры. Тураўскі помнік быў адкрыты ў чэрвені, а ў лістападзе ў Мазыры на з'ездзе земскіх старшынь было заяўлена: «Насельніцтва Тураўскай воласці, шануючы памяць Цара-Вызваліцеля, збудавала выключна на свае сродкі ў бягучым годзе помнік Цара ва ўвесь рост. Ён каштаваў 3 500 руб. Між тым метраполія павета г. Мазыр нічым не адгукнулася ў справе ўвекавечання Аўгусцейшага Дзеда Гасудара Імператара, які шчасліва царствуе сёння. Трэба было б па прыкладу сялян Тураўскай воласці паставіць і ў Мазыры помнік Цару-Вызваліцелю, дабрадзейныя клопаты якога датычылі таксама насельніцтва Палесся»[1].

Гэта прапанова сыходзіла ад старшыні павятовага дваранства А. Перэна і была прынята адзінагалосна. У пастанове аб пабудове помніка, сярод іншага, былі прапісаны наступныя пункты: «5) Помнік збудаваць на цяперашняй рынкавай плошчы гор. Мазыра, прычым прасіць гарадское грамадскае кіраванне перанесці рынак і рундукі за мясныя рады, утварыўшы новую рынкавую плошчу шляхам падняцця глебы ля набярэжнай па напрамку да гарадской дамбы; 6) Каб пазбегнуць падмываў, паклапаціцца пра падняцце ўзроўню плошчы і ўладкавання на ёй сквера-кветніка, якому прысвоіць найменне Царскага»[2]. Такім чынам, помнік рэарганізуе адзін з цэнтральных сегментаў гарадской прасторы і ўносіць змены ў ландшафт.

Як бачна, на сходзе паўстала праблема канкурэнцыі з Туравам, прыводзіліся характарыстыкі і кошт тураўскага помніка. Відавочна, што мазырскі помнік павінен быць не меншы і не таннейшы. Характэрна і ўжыванне для свайго горада тэрміна «метраполія», хай сабе і ў павятовым маштабе. Так, пачуццё канкурэнцыі стала рухавіком узнікнення новага помніка ў гонар Аляксандра II (ранейшы намер усталявання помніка Аляксандру III быў цалкам забыты). Урачыстае адкрыццё адбылося ўжо падчас вайны – 30 жніўня 1914 г.[3]

## *Помнік у дэталях: знешні выгляд, прастора і рытуальныя практыкі*

У апісанні імператарскіх помнікаў, таго, як іх упрыгожвалі і як арганізоўвалі прастору навокал, уключалі ва ўрачыстасці, знаходзіцца шмат агульных месцаў, якія дазваляюць сцвярджаць, што вакол помнікаў склаўся стандартны набор рытарычных фігур і практык. Больш таго, гэтыя фігуры і практыкі нагадвалі тыя, што пасля будуць пашыраны ў савецкай дзяржаве, а значыць у разглядзе імператарскіх помнікаў мы намацваем пачаткі тых культурных форм, якія суправаджаюць існаванне помнікаў у нашай культуры. Для іх разгляду

[1] НГАБ. Ф. 295, воп. 1, спр. 8253. *Аб пабудове помніка Аляксандру II у г. Мазыры*, арк. 5r.

[2] Тамсама, 5v.

[3] Тамсама, 15r-v. У даведніку К. Сокала *Монументальные памятники…* гэты помнік памылкова падаецца ў раздзеле планаваных, але не адкрытых.

нам зручна будзе засяродзіцца на прыкладзе аднаго помніка і разгледзець яго ў дэталях. Такім прыкладам я выберу помнік Аляксандру II у Менску, які быў адкрыты 7 (20) студзеня 1901 г. Ён быў першым скульптурным помнікам імператару, пастаўленым у беларускіх губернях, і мы маем даволі шмат выяў месца, дзе ён знаходзіўся, апісанні яго адкрыцця і пазнейшых урачыстасцей.



*Помнік Аляксандру II у Менску. 1915 г.*

*Знешні выгляд і прастора навокал.* Вось як апісвае помнік Аляксандру II неназваны аўтар «Мінскіх епархіяльных ведамасцей»: «Помнік уяўляе сабою бронзавы бюст Імператара на даволі высокай чатырохвугольнай мармуровай прызме, умацаванай на мармуровых колах. Навокал помніка стаяць мармуровыя слупкі, праз якія працягнуты ланцуг; з паўднёвага і паўночнага бакоў ля помніка пастаўлены два ліхтары з трыма электрычнымі лямпачкамі. На пярэднім боку помніка выгравіраваны надпіс: Імператару Аляксандру II. Удзячныя грамадзяне г. Мінска. 1900 г.»[1]. Фотаздымкі і паштоўкі з выявай помніка паказваюць «парадны» бюст Аляксандра II у сталым узросце, у вайсковым мундзіры з узнагародамі. Цар, крыху павярнуўшы галаву ўлева, глядзіць перад сабою.

Вядомыя нам выявы і апісанні іншых помнікаў сведчаць пра тое, што ўсе яны прадстаўлялі стандартнае і фармальнае адлюстраванне асобы імператара, якое так ці інакш паўтарае адзін узор. Такая іканаграфічная рыгарыстычнасць

[1] *Открытие и освящение в г. Минске памятника Императору Александру II*, «Минские епархиальные ведомости», 1901, № 2, с. 35–36.

уласціва сакральным выявам і выкарыстоўвалася пры тыражаванні манаршых партрэтаў, а пазней партрэтаў кіраўнікоў савецкай дзяржавы і міжваеннай Польшчы.

З'яўленне імператарскага помніка накладвае адбітак на прастору навокал. Яна павінна быць упарадкавана, што дасягаецца, па-першае, праз дэкараванне, а па-другое, праз абмежаванне. У якасці дэкору звычайна выкарыстоўваюць клумбы, а ў святочныя дні – часовыя дэкаратыўныя элементы: гірлянды з кветак, сцягі, брамы ды іншыя інсталяцыі з галінак дрэваў.

За імператарскім помнікам замацоўваецца спецыяльны статус, які падтрымліваецца яго адмежаваннем прафаннай прасторы. Адбываецца гэта па вертыкальнай і па гарызантальнай восях. У першым выпадку помнік узняты над галовамі людзей, дзеля чаго выкарыстаны высокі пастамент. Да яго нельга дакрануцца, а глядзець можна толькі задраўшы галаву. Гэта вельмі добра бачна на фотаздымку з адкрыцця помніка ў мястэчку Новая Мыш. Такое размяшчэнне скульптуры ставарае праблемы пры яе фатаграфаванні. Выява помніка схільна ператварацца ў чорны контур.



*Помнік Аляксандру II у мяст. Любяшова Пінскага пав. 1912 г. Фотаздымак І. Сербава*

Помнік адмежаваны таксама па гарызантальнай восі. Звычайна гэтаму служылі клумбы і гранітныя слупкі з ланцугамі, якія не дазвалялі блізка падысці да яго. На фотаздымку помніка Аляксандру II з мястэчка Любяшова Пінскага пав., зробленага Ісакам Сербавым, мы бачым на пярэднім плане нават два ўзроўні агароджы – каваны і драўляны[1]. Наяўнасць імператарскага манумента прадугледжвала неабходнасць падтрымліваць каля яго асаблівы парадак, не толькі візуальны, але і сацыяльны. Каля помніка нельга было збірацца жабракам, забаранялася гандляваць. Дзеля прадухілення гэтага ў вялікіх гарадах ля помніка дзяжурылі гарадавыя. Так, адзін з іх трапіў у кадр вядомай паштоўкі з Менска.

Сімвалічнае значэнне помніка перадаецца месцу яго размяшчэння яшчэ да таго, як ён будзе ўсталяваны, і застаецца пасля яго знікнення. Узгадаем, як жыхары Літвы ўшаноўвалі месца, дзе яшчэ толькі планавалася паставіць помнік

[1] *Беларусы ў фотаздымках Ісака Сербава*. Склад. В. А. Лабачэўская, Мінск 2012, с. 182.

імператару. У 1927 г., калі менскія бальшавікі сабраліся правесці ўрачыстасць па ўшанаванні памяці Гірша Лекерта, расстралянага 25 гадоў таму, першы пункт пастановы камісіі, сабранай для гэтага, гучаў так: «Завяршыць працу, пачатую ў 1922 г., па ўзвядзенні помніка Гіршу Лекерту ў Менску на плошчы Свабоды на месцы былога помніка Аляксандру II»[1]. Помнік імператару быў дэмантаваны 12 гадоў таму, але месца ўсё яшчэ было звязана з ім. Яго выбар для новага помніка быў абумоўлены не толькі наяўнасцю вольнага пастамента, але і жаданнем зацвердзіць перамогу савецкай улады над самадзяржаўем у сімвалічным полі.

Сімвалічнае значэнне ў вачах сучаснікаў набывала таксама арыентацыя помніка ў прасторы. Напрыклад, арыентацыя менскага помніка Аляксандру II выклікала складаныя пачуцці ў карэспандэнта «Менскіх епархіяльных ведамасцей»: «Помнік, як мы ўказалі, павернуты тварам да губернатарскага дома і, адпаведна, у напрамку да рымска-каталіцкага касцёла, і спінай павернуты непасрэдна да будынка губернскіх прысутных месцаў і да праваслаўнага Кафедральнага сабора. Такая арыентацыя помніка незразумелая, а для рускага праваслаўнага пачуцця нават горкая і крыўдная. Мы думаем, што рэлігійнае і патрыятычнае пачуццё патрабавала менавіта якраз адваротнай арыентацыі. Ці не варта твар незабыўнага рускага Манарха, канчаткова адрадзіўшага і ўмацаваўшага праваслаўе і рускую народнасць у нашым Паўночна-Заходнім краі, павярнуць да праваслаўнага сабора і разам з тым да будынка губернскіх прысутных месцаў, створаных Воляй гэтага Манарха»[2]. Не зніклі гэтыя пытанні і праз дзесяць гадоў[3].

Можна меркаваць, што гэта абурэнне было абумоўлена семіятычнай спецыфікай помніка як аб'екта, асноўнай функцыяй якога з'яўляецца сімвалічная рэпрэзентацыя. Гэты статус падштурхоўваў да яго інтэрпрэтацыі, якая пашыралася на дэталі, якія ні скульптар, ні гарадскія ўлады не збіраліся ў яго ўкладваць. Можна прыгадаць папулярныя ў савецкі час жарты пра тое, у які бок глядзіць менскі помнік Леніну, заснаваныя на традыцыйным падзеле палітычнай сферы на «правую» і «левую», ці магілёўскі помнік, вядомы ў народзе як «бегущая от Лавсана» па характэрным размяшчэнні ў гарадской прасторы. Мае значэнне і размяшчэнне менскага помніка Феліксу Дзяржынскаму, які якраз у логіцы праваслаўнага карэспандэнта пачатку XX ст. «глядзіць» на будынак КДБ.

1 Я. Басин, *Дело Гирша Леккерта (1902) и его интерпретация в фильме «Белгоскино» «Его Превосходительство» (192)* [у] *Беларусь у XX стагоддзі*, вып. 3, Минск 2004, с. 43.

2 *Открытие и освящение…*, с. 36.

3 *19 февраля в Минске*, «Минские епархиальные ведомости», 1911, № 5. Часть неофициальная, с. 111.

*Рытуальныя практыкі.* З'яўленне імператарскіх помнікаў у Беларусі ў пачатку XX ст. суправаджалася фармаваннем рытуальных практык. Усе іх элементы былі вядомыя і дагэтуль, але гэтым разам сабраліся ў адзіны комплекс, які разгортваўся вакол помніка і які ў асноўных рысах захаваўся да нашага дня.

Вось кароткае апісанне таго, як адбывалася адкрыццё менскага помніка Аляксандру II: «У нядзелю ў Кафедральным саборы была праведзена ўрачыстая Боская літургія, а па завяршэнні яе да месца помніка накіраваўся хро хросны сны ход з удзелам усяго гарадскога духавенства. На чале царкоўнай працэсіі ішоў сам Менскі Архіпастыр Прэасвяшчэнны Епіскап Міхаіл. Вакол сквера стаялі войскі мясцовага гарнізона пры двух аркестрах, і ўся плошча, а таксама бліжэйшыя вуліцы, былі запоўнены насельніцтвам Менска. Каля помніка быў праведзены ўрачысты малебен. [...] Пасля гэтага хрэсны ход вярнуўся ў сабор, а потым адбыўся парад войск мясцовага гарнізона, якія прайшлі перад помнікам цырыманіяльным маршам»[1].

Тут у некалькіх сказах апісаны многія абавязковыя элементы рытуальных практык вакол помніка. Першы з іх – наяўнасць шэсця ў выглядзе хрэснага хода. Секулярны помнік фактычна становіцца часткай сакральнай тапаграфіі. Да яго, як звычайна да святыні, ідзе хрэсны ход. У савецкі перыяд гэта практыка эвалюцыянавала ў разнастайныя шэсці і маніфестацыі, дзе помнікі станавіліся ключавымі кропкамі іх маршрутаў.

Маніфестацыя каля помніка таксама становіцца важным інструментам публічнай рэпрэзентацыі гарадскіх улад. Цэнтр усіх урачыстасцей – пляцоўка каля помніка як месца прамоў. У перыяд імперыі царкоўныя і свецкія ўлады робяць гэта разам, а малебны і прамовы арганічна суіснуюць. У савецкі перыяд гэта мадэль існуе як выключна секулярная, але яна захоўвае асноўныя сімвалічныя і прасторавыя характарыстыкі. Часта помнікі Леніну будуць дапоўнены пастаяннымі трыбунамі.

Такім жа важным элементам рытуала быў удзел вайсковых злучэнняў і аркестраў у цырымоніі. Іх выкарыстанне было прынята задоўга да з'яўлення першых імператарскіх манументаў у беларускіх гарадах. Помнікі быццам акумулявалі напрацаваны раней сімвалічны і рэпрэзентацыйны патэнцыял. Іх выкарыстанне працягнецца і цягам усяго XX ст. з той розніцай, што выступленне аркестраў пачне дапаўняцца спевамі і выкананнем музыкі ўжывую з дапамогай гукаўзмацняльнай апаратуры. Натуральна, харавыя спевы актыўна выкарыстоўваліся і ў пачатку XX ст., але ў гэты час яны звычайна адбываліся ў памяшканнях, а не пад адкрытым небам[2].

1 *Открытие и освящение...*, с. 34–35.

2 У памяшканнях маглі знаходзіцца і бюсты імператара, якія ў такім выпадку помнікамі не лічыліся. Вось характэрнае апісанне пачатку ўрачыстасцей 20 лютага 1911 г. у менскім купецкім сабранні: «Але вось ціхі званок, і позіркі ўсіх накіроўваюцца на эстра-

Абавязковы элемент урачыстасцей – прысутнасць вялікай колькасці гледачоў. Без гэта любая рэпрэзентацыя ўлады не мела сэнсу. У пачатку XX ст. не патрабавалася спецыяльных намаганняў, каб сабраць натоўп ахвочых убачыць урачыстасці. У эпоху да тэлебачання і інтэрнэта жывыя забавы былі вельмі папулярнымі. Такім чынам дэманстрацыя ўлады ўраўнаважвалася дэманстрацыяй лаяльнасці насельніцтва, для якога ўрачыстасці захоўвалі зразумелую рэлігійную афарбоўку, а элементы святочнага аздаблення забіраліся дадому як рэліквіі: «Не паспелі правыя калоны войскаў рушыць вакол плошчы, як масы народу, якіх ледзь стрымлівалі нарады паліцыі, рынуліся ў сквер да помніка незабыўнага Імператара. Прычым рух народных мас быў такі моцны і вялікі, што ніякая, здавалася, моц не ў стане была яго ўтрымаць. Калі сціхла вайсковая музыка, натоўп усё яшчэ працягваў стаяць у скверы. Сяляне, якія прыехалі на ўрачыстасці з суседніх вёсак, ламалі галінкі ялін з павільёна помніка і хавалі іх за пазуху. Гэтыя галінкі, без сумневу, будуць захаваны нашым селянінам за абразамі на покуці ўбогай хаты як напамін пра тое, што ён бачыў тут 19 лютага 1911 г.»[1].

Гэты фрагмент цікавы не толькі згадкай практыкі захоўваць дома засушаныя на свята галінкі (напрыклад, на Сёмуху), але і апісаннем сілы натоўпу, якую ніхто не стрымае. Тут пазнаюцца водгукі рэвалюцыйных падзей 1905–1907 гг., што сталі ўласнай інверсіяй. За «народам» прызнаецца цяжка кантраляваная моц, якая ў сітуацыі ўрачыстасці становіцца яшчэ адным пацвярджэннем легітымнасці ўлады. Любоў да імператара рухае натоўп, які, як хацелася верыць карэспандэнту, гатовы прарваць заслоны, каб толькі прадэманстраваць сваю лаяльнасць.

Помнік, што царскі, што раннесавецкі, – гэта не месца для абыякавасці, прынамсі ва ўрачысты дзень. Тут патрабуецца праца эмоцый, выказванне пачуццяў, якія вербалізуюцца ў разнастайных прамовах і павінны перадавацца натоўпу. Канешне, да такіх апісанняў трэба ставіцца крытычна, але ясна, што царскія ўлады на вербальным, а савецкія яшчэ і на візуальным узроўні, з дапамогай фотаздымкаў, мадэлявалі падобныя эмацыйныя сітуацыі палітычнай ангажаванасці і лаяльнасці. Абыякавае сузіранне падзеі большасцю прысутных ставіла б пад пытанне легітымнасць улады, якая ладзіць урачыстасць з палітычным зместам.

---

ду, дзе перад вялікім партрэтам цяперашняга Гасудара Імператара, сярод елак і зяляніны, стаіць бюст тварца сялянскай свабоды Цара-Вызваліцеля. За ім паўколам заняў месца злучаны хор Прывакзальнай царквы і Таварыства народнай цвярозасці, а таксама аркестр Каломенскага палка. Адно імгненне – і па ўзмаху рукі рэгента гучаць велічныя акорды народнага гімна. Хто сядзеў, уздымаюцца з глыбокай пашанай. На тварах невытлумачальнае захапленне і пачуццё радасці» (*19 февраля…*, с. 132–133).

[1] *19 февраля…*, с. 115.

***

Масавая пастаноўка помнікаў Аляксандру II на пачатку XX ст. амаль не пакінула следу ў беларускім гарадскім краявідзе, затое аказала заўважны ўплыў на практыкі ўзвядзення манументаў, арганізацыі прасторы і рытуальных паводзін вакол іх у пазнейшы час. Каля 70 скульптурных помнікаў імператару дазволілі сфармавацца рытуальным практыкам, якія выраслі з сакральнага кантэксту ўшанавання абразоў, крыжоў і капліц, а працягваліся ў савецкіх секулярных практыках у форме мітынгаў перад помнікамі Леніну ды іншымі манументамі.

Помнікі Аляксандру II з'яўляліся прамежкавым звяном, якое змешвала разам і сакральныя, і секулярныя практыкі. Вакол яго выпрацоўваліся новыя формы дэманстрацыі масавай палітычнай лаяльнасці, якія семантычна могуць быць прачытаны як інверсіўныя да практык пратэсту і супраціву. Упершыню сімвал персаніфікаванай улады так яўна і так масава быў вынесены ў публічную прастору, што патрабавала яе спецыяльнай арганізацыі і рэгламентацыі паводзін. Створаныя як аб'екты для дэманстрацыі лаяльнасці, такія помнікі неўзабаве стануць першымі аб'ектамі для дэманстрацыі сімвалічнага гвалту ў перыяд змены ўлад.

Разуменне амбівалентнага характару помнікаў стала прычынай іх поўнага дэмантажу ў 1915 г. Гэтым іх спрабавалі выратаваць ад апаганьвання нямецкімі войскамі, якія вялі хуткі наступ. Імператарскія помнікі пачатку XX ст. сталі кропкай адліку і пачаткам для многіх рытуальных практык і спосабаў арганізацыі прасторы, якія з гэтага моманту суправаджалі існаванне манументаў у публічнай прасторы беларускіх гарадоў. Разуменне пачатковых этапаў у гэтай генеалогіі важнае для паўнавартаснага аналізу сімвалічнай палітыкі ў Беларусі цягам усяго XX ст. і па сённяшні дзень.

ISSN 2424-5216

# BIAŁORUŚ W KONCEPCJACH LEONA WASILEWSKIEGO I STANISŁAWA GRABSKIEGO PRZED TRAKTATEM RYSKIM

***Jan Gordziejew,***
*magister historii (Kraków)*

***Summary***

*The article deales with Leon Wasilewski's and Stanisław Grabski's political thoughts on the Belarusian issue. In the first half of XXth century these politicians represented different political circles: Wasilewski socialist-independence, pro-Piłsudski groups, and Grabsky – National Democracy. Both were the main theorists in their political groups in the field of Polish Eastern policy, also concerning Belarus. The article analyzes the evolution of their views on the Belarusian issue in the early XXth century, before the ceasefire in the Polish-Bolshevik war and the Treaty of Riga, in the conclusion of which Wasilewski and Grabski played very important roles.*

W 2021 r. minęła setna rocznica od podpisania traktatu ryskiego, który na niemal dwadzieścia lat ukształtował nową sytuację polityczną w regionie byłej Rzeczypospolitej Obojga Narodów. Jednak zanim pokój był podpisany, w polskich kręgach politycznych ścierały się różne koncepcje względem „polityki wschodniej" i samej kwestii białoruskiej. W artykule zostaną ukazane poglądy Leona Wasilewskiego i Stanisława Grabskiego, przedstawicieli dwóch przeciwstawnych obozów politycznych. Osoby te zostały wybrane nieprzypadkowo, ponieważ jawiły się głównymi teoretykami w swoich kołach – odpowiednio piłsudczykowskim i narodowo-demokratycznym.

Dlatego warto się pochylić nad kilkoma kwestiami, między innymi na ile poglądy omawianych przedstawicieli ulegały zmianom, prześledzić ewolucje oraz doszukać się czynników, które mogły wpłynąć na rewizje poszczególnych aspektów. Ponad to należałoby zadać się pytaniem, z czego mogły wynikać

osobne podejścia, a także na ile różniły się reprezentowane przez polityków wizje. Nie mniej istotnym zagadnieniem jest, w jakim stopniu Wasilewski oraz Grabski postrzegali „kwestię białoruską" jak osobne zjawisko, a na ile, jako jeden z elementów ogólnej polityki wschodniej.

## *Leon Wasilewski*

Leon Wasilewski przyszedł na świat w 1870 roku w ówczesnej stolicy Imperium Rosyjskiego, Petersburgu. Po krótkim okresie sympatyzowania ze środowiskami narodowymi, w 1896 roku we Lwowie wstąpił w szeregi Polskiej Partii Socjalistycznej, której program łączył socjalizm z walką o niepodległość Polski, czyli dwa najważniejsze dla Wasilewskiego cele polityczne[1]. Jego aktywność przejawiała się w wielu aspektach. Wydawał w Londynie czasopismo „Przedświt", redagował socjalistyczną gazetę „Robotnik" oraz uczestniczył w Międzynarodowym Kongresie Socjalistycznym w Paryżu[2]. Wraz z rozłamem w PPS opowiedział się za stronnictwem „starych", do którego należał także Józef Piłsudski[3].

Nowy etap w życiu Wasilewskiego rozpoczął się w roku 1914, gdy na 14 kolejnych lat porzucił aktywną pracę w PPS, skupiając się na ścisłej współpracy z Józefem Piłsudskim oraz pracami w rządzie[4]. W okresie międzywojennym Wasilewski zajmował stanowisko ministra spraw zagranicznych, urząd posła RP w Estonii, brał udział w negocjacjach polsko-bolszewickich w Rydze[5]. Skupiając się na pracy naukowej, był ciągle aktywny politycznie w szeregach PPS.

Zainteresowania Wasilewskiego początkowo dotyczyły jedynie badania języków i literatur słowiańskich. Dopiero z czasem, gdy zaangażował się w ruch socjalistyczny, zaciekawił się kwestiami narodowymi[6]. Zagadnienie białoruskie pojawiło się pierwszy raz w pracach Wasilewskiego w 1901 r. wraz z wydaną w Londynie broszurą *We wspólnym jarzmie*, gdzie opisując historię i ówczesny stan wybranych narodów w carskiej Rosji, stwierdził, iż Białorusini zamieszkują znaczną część Litwy, lecz świadomości narodowej nie posiadają. Przyczynę tego upatrywał w tłumieniu piśmiennictwa białoruskiego oraz braku rodzimej inteligencji[7].

---

[1] B. Stoczewska, *Litwa, Białoruś, Ukraina w myśli politycznej Leona Wasilewskiego*, Kraków 2009, s. 24.

[2] Ibidem, s. 30–31.

[3] P. Gursztyn, *Białoruś i Białorusini w pracach Leona Wasilewskiego*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne", 2001, t. 15, s. 53.

[4] B. Stoczewska, op. cit., s. 36.

[5] P. Gursztyn, op. cit., s. 53.

[6] B. Stoczewska, op. cit., s. 185.

[7] Ibidem, s. 186.

Warto tu zwrócić uwagę na dwa aspekty. Pod nazwą „Litwa“ Wasilewski nadal jeszcze upatrywał Litwę historyczną czyli tereny dawnego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Interesującym jest również stwierdzenie autora, iż ludność miejscowa posługuje się mową, która nie jest ani językiem rosyjskim, ani polskim, choć białoruskim wprost go nie nazywał. W tym samym 1901 r., polemizując z „towarzyszem Mazurem“ (Stanisławem Grabskim), Wasilewski wyraził pragnienie utworzenia na Litwie historycznej socjalistycznych partii, które miałyby w jego zamyśle współpracować wraz z PPS, a następnie zarysował koncepcję dobrowolnego federacyjnego związku Litwy i Ukrainy wraz z Polską[1].

W 1905 r. na łamach pracy zbiorowej *Kwestya Litewska w prasie polskiej*, Wasilewski ponownie poruszył sprawę białoruską, kolejny raz zaznaczając, iż Białorusini stanowią większość ludności Litwy i nie posiadają jeszcze świadomości narodowej. Autor jednak dzielił się także interesującym spostrzeżeniem, iż o ile Białorusini asymilowali się pod wpływem kultury polskiej bądź rosyjskiej, to równocześnie zachodził podobny proces wśród Litwinów, których obejmował także proces białorutenizacji[2].

W pierwszej dekadzie XX wieku, kolejno w 1907 i 1909 r., pojawiły się prace Wasilewskiego *Litwa i jej ludy* oraz *Współczesna słowiańszczyzna. Zarys etnograficzno-statystyczny*. Należy zaznaczyć, mimo, iż kwestia białoruska była nadal traktowana na tle ogólnej sytuacji w Rosji, a nie jako osobny temat. Jednak warty uwagi jest fakt samego jej relatywnie wczesnego dostrzeżenia. Co prawda, w książce *Litwa i jej ludy* padało pojęcie „narodowy ruch białoruski“, lecz był on postrzegany wraz z kulturą białoruską jako bardzo słaby. Przyczyną tego stanu rzeczy według autora była asymilacja na korzyść kultury polskiej bądź rosyjskiej, sam zaś język białoruski określony został jako „narzecze“[3].

W drugiej wymienionej wyżej pracy, autor zarysował obszar zamieszkania ludności białoruskiej, wspominając o zjawiskach asymilacyjnych na terenach etnicznie mieszanych. Wasilewski postawił także pytanie: „Czy Białorusinom uda się zachować swą odrębność i przekształcić się z materiału etnograficznego na naród taki, jakim jest każdy inny z narodów słowiańskich, jest to kwestia otwarta“[4]. Zauważmy, iż autor dość podobnie sądził o stanie świadomości ukraińskiej[5].

---

1 M. Jagiełło, *Narody i narodowości. Przewodnik po lekturach*, t. 1, Warszawa 2010, s. 162.

2 L. Wasilewski, *Jeszcze słówko o Litwie* [w:] *Kwestya Litewska w prasie polskiej*, Warszawa 1905, s. 45.

3 L. Wasilewski, *Litwa i jej ludy*, Warszawa 1907, s. 53–54.

4 L. Wasilewski, *Współczesna słowiańszczyzna. Zarys etnograficzno-statystyczny*, Warszawa 1909, s. 124.

5 M. Jagiełło, *Razem czy osobno? Przewodnik po lekturach*, t. 2, Warszawa 2011, s. 57.

W roku 1912 ukazał się praca *Litwa i Białoruś. Przeszłość – teraźniejszość – tendencje rozwojowe*, będąca pierwszą autorstwa Leona Wasilewskiego, w której autor skierował swoje zainteresowania ku sprawie białoruskiej. We wstępie do tej publikacji została poruszona bardzo aktualna jak na owe czasy kwestia wyjaśnienia terminu „Litwa", który był pojmowany w różnoraki sposób. Pierwsze rozdziały pracy zostały poświęcone zarysowaniu historii ziem byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego oraz podobnie jak w pracy *Współczesna Słowiańszczyzna. Zarys...* opisaniu struktury etnicznej oraz sytuacji ekonomicznej. Następna część została poświęcona Litwie etnicznej, a ostatnia Łotwie.

Najbardziej wartościową częścią traktującą o Białorusi był rozdział IX. Autor zarysował dzieje białoruskie, przeanalizował stan języka białoruskiego na przestrzeni dziejów oraz literatury białoruskiej w XIX i na początku XX wieku oraz szczegółowo omówił takie tematy, jak fenomen gazety „Nasza Niwa" czy twórczość poetów i działaczy społecznych Jakuba Kołasa (Kanstancin Mickiewicz) i Janki Kupały (Iwan Łucewicz). Ta część jego pracy o tyle ciekawe, iż po dzień dzisiejszy, podobnie jak w pracy Wasilewskiego, tematy te są podejmowane w podręcznikach białoruskich. Była to dość gruntowna jak na owe czasy analiza „kwestii białoruskiej" wraz z uwzględnieniem aktualnego stanu ruchu narodowego.

Wasilewski uważał, iż ruch białoruski aktywizował się dopiero w latach 1904–1905, lecz ówczesny zryw określił, jako niewykorzystany oraz nie podjął analizy dalszych losów białoruskich dziejów[1]. Podsumowując swoje rozważania, Wasilewski dochodził do wniosku, że Litwa i Białoruś „nie jest Polską i że posiada właściwe sobie, odrębne interesy". Wasilewski zaznaczył, iż rozumieją to Polacy tam zamieszkujący, niezależnie od swych poglądów[2].

Wraz z wybuchem I wojny światowej poglądy Wasilewskiego nie uległy znaczącym zmianom. Ruch białoruski był przez niego nadal postrzegany jako słaby. W jednym z artykułów z roku 1914, zauważał on, iż rusyfikacja dotknęła Białorusinów wyznania prawosławnego, przede wszystkim na Witebszczyźnie, Mohylewszczyźnie i wschodniej Mińszczyźnie. Wasilewski czynił ciekawe spostrzeżenie, twierdząc iż procesy rusyfikacyjne czy też „odpolszczające", które były prowadzone wobec Białorusinów wyznania katolickiego, przyniosły efekt odwrotny, to znaczy doprowadziły do jeszcze większego zbliżenia do kultury polskiej[3].

W tym samym roku opublikowany został artykuł Wasilewskiego *Siły i zadania żywiołu polskiego na Litwie i Białej Rusi*, w którym zaznaczył on, iż nie warto wierzyć w jakiekolwiek zmiany w państwie rosyjskim, które miałaby zmierzać w kierunku równouprawnienia narodowego. Autor był również zdania, iż rozwój kultu-

---

1 L. Wasilewski., *Litwa i Białoruś. Przeszłość–teraźniejszość–tendencje rozwojowe*, Kraków 1912, s. 279.

2 Ibidem, s. 254.

3 B. Stoczewska, op. cit., s. 208–209.

ralny litewski i białoruski leży w polskich interesach, co można było rozumieć jako przeciwwagę wobec rusyfikacji[1].

W 1915 r. w Wiedniu wydano drukiem broszurę Wasilewskiego pod nazwą *Die nationalen und kulturellen Verhältnisse in sogenannten Westrussland*, w której próbował on dowieść, iż ruch białoruski nie posiadał prawie żadnej wartości politycznej[2]. Broszura ta była skierowana do polityków w Berlinie oraz Wiedniu i miała swój propagandowy cel.

Nie można tego stwierdzić w przypadku jego publikacji zamieszczanych w ówczesnych polskich pismach. Na łamach *Kultury Polskiej*" z lutego 1917 r. Wasilewski wypowiadał się dość podobnie co w latach 1914–1915, to już w połowie roku 1917 zauważał pewne większe przejawy ożywienia narodowego, jak na przykład pojawienie się szkół białoruskich. Podjął się nawet krytyki pisma „Homan" za propagowanie jego zdaniem walki z Polakami[3].

Mimo to Wasilewski, podobnie jak i inni działacze PPS, uważał ożywienie się ruchu białoruskiego w okresie I wojny światowej bardziej za narzędzie polityki niemieckiej, aniżeli za wyraz samodzielnej aktywności strony białoruskiej[4]. Był przekonany również, że perspektywa powstania państwa białoruskiego była nierealna[5].

W 1917 r. w broszurze *O wschodnią granicę Państwa Polskiego* Wasilewski wyznaczył wschodnią granicę Polski, która przebiegać miała zgodnie z linią niemieckich okopów z 1916 r. W skład przyszłego państwa polskiego miały trafić terytoria, zamieszkane przez ludność katolicką, która, jak twierdził autor, zachowała polski charakter i była przeciwwagą dla kultury „rosyjsko-prawosławnej". W tej samej broszurze autor wyraził pogląd, iż kulturze polskiej należy zawdzięczać powstanie ruchu litewskiego oraz białoruskiego, a „żywioły" te będą mogły rozwijać się tylko w związku z Polską. Jako alternatywę wskazał Rosję, której polityka według Wasilewskiego miała prowadzić do wyniszczenia białoruskiej kultury. Zresztą, za najbardziej wysuniętą placówkę kultury zachodnioeuropejskiej autor uważał Mińsk, miasto, które stało się przedmiotem sporu podczas ryskich pertraktacji[6]. Warto zaznaczyć, iż podobne koncepcje, zakładające wchłonięcie ziem zamieszkanych przez Białorusinów-katolików, mówiące, iż istnieje wybór tylko między kulturą polską lub rosyjską były uwypuklane także przez przedstawicieli ruchu narodowo-demokratycznego.

---

[1] M. Jagiełło, *Razem czy osobno? Przewodnik po lekturach*, t. 2, Warszawa 2011, s. 169–170.

[2] B. Stoczewska, op. cit., s. 210.

[3] Ibidem, s. 210–212.

[4] P. Gursztyn, op. cit., s. 56.

[5] K. Gomółka, *Między Polską a Rosją. Białoruś w koncepcjach polskich ugrupowań politycznych 1918–1922*, Warszawa 1994, s. 19.

[6] L. Wasilewski, *O wschodnią granicę Państwa Polskiego*, Warszawa 1917, s. 11–16.

W poglądach Wasilewskiego przełomowe znaczenie w stosunku do omawianej kwestii miał rok 1918. W lutym tego roku zjawił się artykuł *Granice Państwa Polskiego na wschodzie,* w którym Wasilewski stwierdził, iż „nawet Białorusini pragną utworzenia własnego państwa". W takiej sytuacji dopuszczał utworzenie związku polsko-białoruskiego bądź w razie niepowodzenia takiego planu przyłączenie do Polski terytoriów, które swym charakterem były najbardziej zbliżone do kultury polskiej. Zdaniem Wasilewskiego pokrywało się to niej więcej z granicą wyznaniową, katolicko-prawosławną[1].

Rozważania autora dotyczyły państwowotwórczych dążeń Białorusinów oraz Litwinów. Mimo iż wyrzekał się on rozwiązań inkorporacyjnych, to uzasadniał wysunięcie granic na wschód historyczną sprawiedliwością oraz interesami „ludów przez Rosję ujarzmionych"[2]. Warto zauważyć, iż podobny argument został wykorzystany przez stronę sowiecką we wrześniu 1939 roku.

Należy tu uwzględnić dwa ważne fakty historyczne: 16 lutego 1918 r. została ogłoszona niepodległość Litwy, zaś miesiąc później, 25 marca 1918 r. w Mińsku ogłoszono niepodległość Białoruskiej Republiki Ludowej.

W sierpniu 1918 r. w Lublinie ukazała się broszura *Sprawa narodów kresów dawnej Rosji*, której współautorem był Wasilewski. W broszurze tej ponownie padły stwierdzenia negujące możliwość istnienia niepodległych państw litewskiego, białoruskiego i ukraińskiego, co warunkowano zagrożeniem ze strony Rosji. Dlatego też, jako najlepszy z wariantów autorzy tej publikacji zaproponowali projekt federacji z Polską, na zasadzie „wolny z wolnymi, równy z równymi"[3]. W tym samym 1918 r. na łamach „Kultury Polskiej" ukazał się artykuł *Likwidacja kresowych posiadłości caratu,* w którym nawiązując do nowej sytuacji politycznej po przewrocie państwowym w Rosji, Wasilewski zarysował potrzebę pewnego sojuszu państw, z których „spadło jarzmo rosyjskie". Rolę Białorusi w tym „łańcuchu" określał jako najsłabszą w ówczesnym momencie[4].

Jednak w grudniu 1918 r. Wasilewski optował za rozwiązaniem, w którym granice Polski należało przesunąć jak najdalej na wschód, powołując się na etnograficzne i kulturalne związki krajów, które miały znaleźć się w ramach państwa polskiego. Autorowi chodziło zapewne o przedrozbiorowe granice Rzeczpospolitej z 1772 r.[5]

1 B. Stoczewska, op. cit., s. 212.

2 J. Lewandowski, *Federalizm. Litwa i Białoruś w polityce obozu belwederskiego (XI 1918 – IV 1920)*, Warszawa 1962, s. 65.

3 K. Gomółka, *Między Polską a Rosją...*, s. 47.

4 M. Jagiełło, *Razem czy osobno?...* s. 251.

5 K. Gomółka, *Między Polską a Rosją...*, s. 44.

W roku 1919 pojawiła się kolejna praca Leona Wasilewskiego *W sprawie przyłączenia kresów wschodnich*, w której autor zaznaczył, iż „sprawa kresów jest przedmiotem polityki wewnętrznej, a jednocześnie dotyka polityki zagranicznej". Padły tu hasła o uwzględnieniu praw zarówno Polaków jak i innych narodowości[1]. W tym samym roku zostały wydane *Promemoria w sprawie Litwy*, datowane 23 kwietnia. Według J. Lewandowskiego, memoriał ten powstał przy współudziale Leona Wasilewskiego. Mowa w nim była o związku Polski z Litwą historyczną, ewentualnie o związku Białorusi z Polską[2].

W trakcie wojny polsko-bolszewickiej Wasilewski opowiadał się za dość oryginalnym rozwiązaniem. Jego koncepcja polegała na związaniu Mińszczyzny, jako terenu skonfederowanego z państwem polskim, w roli buforu od strony wschodniego sąsiada, a także stworzenia tam punktu oparcia dla białoruskiej irredenty, mającej być przeciwwagą dla Białorusi Sowieckiej[3]. Podczas dyskusji w komisji spraw zagranicznych na temat plebiscytu wiosną 1920 r. oraz w sprawie powołania państwa białoruskiego, Wasilewski był osobą aprobującą takie rozwiązanie[4]. Warto wspomnieć, iż podobny konfederacyjny pomysł istniał w odniesieniu do Litwy Środkowej, która w jednym z zamysłów miała być podzielona na trzy narodowe kantony: miński (białoruski), wileński (polski) i kowieński (litewski).

Podsumowując, w przypadku Leona Wasilewskiego zmiany w postrzeganiu i ukazaniu danej tematyki następowały pod wpływem różnych czynników. Wasilewski jako badacz i naukowiec próbował przestudiować owe zagadnienia. Mimo, iż był zaangażowany w działalność PPS jeszcze w czasach do wojennych, jednak wraz z wybuchem konfliktu przestał był jedynie obserwatorem i czynnie zaangażował się w kreowanie tzw. polityki wschodniej w swoim obozie politycznym, a z czasem konkretnie jako zaufana osoba Piłsudskiego i działacz państwowy. Warto również zaznaczyć, iż na poglądy i podejście Wasilewskiego jako badacza, działacza i polityka wywierał wpływ fakt rozwoju ruchów narodowych w regionie, w tym także białoruskiego, czego nie ignorował, lecz brał pod uwagę.

### *Stanisław Grabski*

Stanisław Grabski urodził się w Borowie nad Bzurą w 1871 r. Podczas nauki w Warszawie wstąpił do tajnej Centralizacji Związku Kółek Gimnazjalnych Królestwa. Właśnie w tym okresie rozpoczęły się jego zainteresowania polityką. Nawiązawszy kontakt z Józefem Potockim, jednym z redaktorów warszawskiego *Głosu*, Grabski zaczął uznawać się za socjalistę i rozpoczął działalność w postaci eduko-

1 Ibidem.

2 J. Lewandowski, op. cit., s. 222–223.

3 P. Gursztyn, op. cit., s. 56.

4 K. Gomółka, *Między Polską a Rosją...*, s. 117.

wania robotników w zakresie ekonomii i historii. Będąc studentem, wstąpił do Związku Robotników Polskich. W tym też okresie poznał Romana Dmowskiego, którego poglądów początkowo nie podzielał. Będąc na studiach w Berlinie, zbliżył się do polskich działaczy ruchu robotniczego. Został redaktorem *Gazety Robotniczej*, na łamach której pisał o niepodległości Polski, a także wydał *Przyczynek do programu socjaldemokracji polskiej*.

Chcąc uniknąć aresztu za działalność agitacyjną wśród robotników polskich na terenie Niemiec, Grabski wyjechał do Paryża, gdzie w 1892 r. z ramienia Związku Robotników Polskich wystąpił na zjeździe Polskiej Partii Socjalistycznej. W tym też roku stał się członkiem Związku Zagranicznego Socjalistów Polskich. Następnie, występując w Zurychu na Zjeździe Zjednoczenia Zagranicznych Stowarzyszeń studentów polskich, wdał się w dyskusję z Różą Luksemburg. Po aresztach w Berlinie i Wiedniu, pojechał z ramienia „pruskiego" PPS do Szwajcarii na Międzynarodowy Kongres Socjalistów. Niedługo później Grabski poznał Zygmunta Balickiego, dzięki któremu zaczął zbliżać się do ideologii narodowej. Po publikacjach na łamach *Przedświtu* pod pseudonimem „Mazur", zaproponowano mu redagowanie *Gazety Ludowej*. Już pierwszy jej numer musiał być całkowicie przepracowany przez Leona Wasilewskiego z powodu braku socjalistycznego charakteru zamieszczonych tekstów. Mimo, iż „Mazur" zerwał z socjalizmem i opowiedział się przeciwko walce klas, pozostał w dobrych kontaktach z PPS-owcami. Coraz bardziej zbliżając się do Ligi Narodowej, Grabski wpłynął na zainicjowanie osobistego spotkania Dmowskiego z Piłsudskim.

W pierwszym dziesięcioleciu XX wieku, Grabski zdążył wstąpić do Ligi Narodowej oraz Stronnictwa Narodowo-Demokratycznego, stając się w tych organizacjach jedną z postaci pierwszoplanowych, działając na terytorium Galicji.

Wraz z wybuchem I wojny światowej opowiedział się za wspieraniem Rosji. Przejechał do Kijowa, po przewrocie bolszewickim znalazł się w Anglii, gdzie czekał na niego Dmowski. Grabski został włączony w skład Komitetu Narodowego Polskiego w Paryżu, w ramach którego opracował mapę etnograficzną Polski, wraz z projektem wschodnich granic przyszłego państwa. Już jako poseł sejmu ustawodawczego, został przewodniczącym komisji spraw zagranicznych. Podczas pertraktacji w Rydze, sprzeciwiał się planom federacyjnym. Miał także wpływ na sprawę granicy na Śląsku. Tracąc na krótko wpływy polityczne, Grabski powrócił do działalności publicystycznej i uniwersyteckiej.

W latach 20. XX w., będąc dwa razy ministrem wyznań religijnych i oświecenia publicznego, Grabski stał się autorem ustawy regulującej kwestię szkolnictwa dla mniejszości narodowych (tzw. *Lex Grabski*) oraz odpowiadał za podpisanie konkordatu z Watykanem. Po przewrocie majowym, wycofał się z życia politycznego i coraz bardziej rozchodził się w poglądach z obozem narodowym.

Wraz z wybuchem II wojny światowej, został aresztowany przez sowietów, a po oswobodzeniu wyjechał do Londynu, gdzie związał się z rządem na uchodźctwie

i zbliżył się ze środowiskami ludowymi. Już w 1944 r. razem ze Stanisławem Mikołajczykiem uczestniczył w konferencjach ze Stalinem, a rok później powrócił do kraju, stając się jednym z zastępców prezydenta Krajowej Rady Narodowej, po rozwiązaniu której powrócił do pracy naukowej[1].

W odróżnieniu od swego przyszłego oponenta, Grabski zabrał się za kwestią wschodnich granic dopiero podczas dołączenia się do pracy Komitetu Narodowego Polskiego, który został założony przez Romana Dmowskiego w sierpniu 1917 r. Jednym z głównych zadań jakie komitet wziął na siebie było reprezentowanie sprawy polskiej przed państwami Ententy. Początkowo, aż do rozpoczęcia się konferencji pokojowej w Paryżu, KNP był kierowany przez przedstawicieli narodowo-demokratycznych i konserwatywnych. Jednym z celów było także wykreowanie konkretnej koncepcji względem granicy wschodniej, w czym główną rolę odegrał Grabski.

Dnia 5 lutego 1918 r. przez Stanisława Grabskiego została zaprezentowana mapa z projektem przyszłych granic państwa polskiego, w skład którego miała wschodzić katolicka część Białorusi: część guberni mińskiej z samym Mińskiem, Pińskiem, Słuckiem oraz zachodnia część guberni witebskiej[2]. Warto też wspomnieć, iż pogląd o przynależności ziem zamieszkanych w większości przez ludność rzymskokatolicką był już wcześniej prezentowany przez działaczy narodowych, dlatego też nie była to nowa koncepcja, stworzona przez przyszłego ministra wyznań religijnych i oświecenia publicznego.

Ostatecznie temat granicy wschodniej został doprecyzowany przez Grabskiego w październiku 1918 r. Składał się on z dwóch części. Pierwsza stanowiła wewnętrzny plan minimalny, zakładający zachowanie stosunku liczby Polaków wobec innych narodowości w wysokości 57% i miał za dwadzieścia lat wzrosnąć do 75–80%. Druga część, czyli plan zewnętrzny maksymalny uwzględniał granicę Rzeczpospolitej z 1772 r. jako wyjściową, możliwą do poprawy[3]. Swój projekt Grabski argumentował m. in. prowadzeniem polskich działań społeczno-kulturalnych na wschodnich terenach przyszłego państwa polskiego oraz czynnikami ekonomicznymi[4]. Dnia 5 listopada mapa Grabskiego wraz z jego linią została przyjęta w KNP[5].

---

1 H. Wereszycki, *Stanisław Grabski* [w:] *Polski Słownik Biograficzny*, t. 8, Wrocław–Kraków–Warszawa 1959–1960, s. 519–524; W. Wojdyło, *Koncepcje społeczno-polityczne Stanisława Grabskiego*, Toruń 1993, s. 11–29; W. Wojdyło, *Stanisław Grabski 1871–1949. Biografia polityczna*, Toruń 2003, s. 40–211.

2 K. Gomółka, *Między Polską a Rosją...*, s. 22.

3 W. Wojdyło, *Koncepcje społeczno-polityczne...*, s. 124.

4 K. Gomółka, *Sprawa białoruska w koncepcjach narodowej demokracji w latach 1918–1922* [w:] *Polska – Polacy – mniejszości narodowe*, pod red. E. Grześkowiak-Łuczyk, Wrocław 1992, s. 257–258.

5 J. Lewandowski, op. cit., s. 40–41.

© HOMO HISTORICUS 2023
ISSN 2424-5216

# ІНШАДУМСТВА Ў БССР У ЧАСЫ «АДЛІГІ». 1953–1968 ГГ.

***Аляксандр Гужалоўскі,***
*доктар гіст. навук,*
***Данута Грынь,***
*магістр гісторыі (абое Менск)*

***Summary***

*The studying of informal social and political activities in Soviet Belarus during the 'thaw' is at an early stage, which is explained by a number of reasons, primarily total inaccessibility of the Belarusian political police archives. However, our general perception of the republic socio-political development of that contradictory fifteen-year period would be incomplete without understanding the phenomenon of dissent. Unresolved socio-economic problems, inability of the party and state bodies to hear voices 'from below', continued repression of political opponents became the reasons that in the years of the 'thaw' part of the critical intelligentsia initiated their own, different from official one, ways of reforming socialism in the USSR. Some of those who were disillusioned with Khrushchev's course sought to rely on the 'genuine' Marxist-Leninist theory, while others were supporters of liberal democratic values. The labour movement revived. Public discontent, in some cases, grew into riots. All above mentioned opened up the opportunity to search for non-socialist alternatives to the Soviet regime, the most important of which later became the nation-state project based on the observance of human rights.*

Грамадска-палітычная лібералізацыя ў перыяд хрушчоўскай «адлігі» дала жыхарам БССР магчымасць больш адкрыта выказвацца, ажыццяўляць паўсядзённую дзейнасць без страху, які прысутнічаў у папярэднія гады. Аслаблі ідэалагічны кантроль і сацыяльная дысцыпліна. На змену суровым рэаліям сталінскага перыяду прыйшлі новыя лозунгі, больш адпаведныя эксперыменту па фарсіраванай пабудове камуністычнага грамадства. Дзяржава па меры набліжэння да камунізму павінна была «адміраць» і дэле-

гаваць уласныя паўнамоцтвы грамадству. Распачалася асцярожная перадача дзяржаўных функцый грамадскім арганізацыям у галіне працоўных адносін, забеспячэння жыллём, аховы здароўя, адукацыі, транспарту, добраўпарадкавання, арганізацыі вольнага часу. Пад пільным партыйна-дзяржаўным кантролем актывізавалася дзейнасць саветаў, прафсаюзаў, разнастайных грамадскіх арганізацый. Напрыклад, у сакавіку 1964 г. у БССР пры розных дзяржаўных установах дзейнічала 1 374 клубы па інтарэсах – аматараў кнігі, цікавых сустрэч, атэістаў, выведнікаў будучыні ды інш.[1] Ліберальныя інавацыі, аднак, не тычыліся грамадска-палітычнага ўладкавання, крытыка якога «знізу» лічылася злачынствам. Па-ранейшаму адсутнічаў вольны доступ грамадзян да інфармацыі.

Між тым змякчэнне рэжыму, пашырэнне кола рэформаў выклікала цікавасць да палітыкі ў прадстаўнікоў розных слаёў грамадства, перш за ўсё – інтэлігенцыі і моладзі. Пытанні палітычнага характару правакавалі незадаволенасць тэмпамі і маштабамі пераўтварэнняў. У сваю чаргу апазіцыйныя настроі нараджалі дзеянні, якімі апаненты рэжыму імкнуліся падштурхнуць уладу наперад. У грамадстве, палітычнае адзінства якога раней забяспечвалася бясспрэчным аўтарытэтам правадыра, паступова пашыралася іншадумства. Грамадская думка, як і раней, фармавалася ідэалагічным апаратам, але меркаванні ўсё большай колькасці людзей не супадалі з афіцыйным. Апошніх, услед за Л М. Аляксеевай, мы аб'ядноўваем у наступныя рухі: нацыянальны, грамадзянскі і рэлігійны[2].

Пасля смерці Сталіна паступова пачалі губляць уласнае рэпрэсіўнае аблічча органы дзяржаўнай бяспекі. Адным з першых крокаў на гэтым шляху быў загад Лаўрэнція Берыі № 0068 ад 4 красавіка 1953 г. «Аб забароне ўжывання да арыштаваных сродкаў прымусу і фізічнага ўздзеяння»[3]. З 1953 г. па 1955 г. штатная колькасць органаў дзяржбяспекі была скарочана больш чым удвая. Ішлі структурныя пераўтварэнні, у выніку якіх у сакавіку 1954 г. паўстаў новы саюзна-рэспубліканскі орган пад назвай Камітэт дзяржаўнай бяспекі пры Савеце Міністраў СССР. Ён павінен быў засяродзіцца на пытаннях выведчага і контрвыведчага характару, абмяжоўваючы рэпрэсіўную дзейнасць рамкамі закону.

Аднак асуджэнне з боку партыйнага кіраўніцтва масавых рэпрэсій і катаванняў не азначала адмены татальнага кантролю за грамадствам, што непазбежна ставіла перад органамі дзяржаўнай бяспекі задачы нагляду за жыццём і палітычнымі настроямі насельніцтва і пераследу іншадумцаў. У якасці аднаго з ключавых напрамкаў дзейнасці КДБ «калектыўнае кіраўніцтва» вызначыла

[1] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ), ф. 974, воп. 2, спр. 248, арк. 223.

[2] Л. Алексеева, *История инакомыслия в СССР: Новейший период*. Москва 2001, с. 5.

[3] А. Кокурин, А. Пожаров, *«Новый курс» Л. П. Берии*, «Исторический архив», 1996, № 4, с. 151.

супрацьдзеянне ідэалагічным дыверсіям, якія трактаваліся максімальна шырока. Гэта не толькі фармавала негатыўнае стаўленне да «органаў», але тармазіла фармаванне грамадзянскай супольнасці, абмяжоўвала правы савецкіх грамадзян, у тым ліку ў галіне нацыянальна-культурнага развіцця.

Русіфікацыйная хваля, звязаная з курсам на фарсіраваную пабудову камуністычнага грамадства, выклікала выступленні прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі і студэнцкай моладзі ў абарону беларускай мовы. Умацаванню падобных настрояў паспрыяў дэмагагічны заклік Мікіты Хрушчова да савецкай творчай эліты «пільней углядацца і глыбей унікаць у жыццё ўсіх нацыянальнасцей нашай краіны»[1]. Галоўнай трыбунай для тых, хто падзяляў ідэю неабходнасці захавання і пашырэння сферы ўжытку роднай мовы, стала газета «Літаратура і мастацтва». Пісьменнікі маглі выступаць на яе старонках у абарону чысціні беларускага маўлення на тэатральнай сцэне і ў радыёперадачах[2]. Выкладчыкам-філолагам дазвалялася крытыкаваць «шаблонныя, штампаваныя, [...] напісаныя складанай мовай» падручнікі па беларускай літаратуры[3]. Аматарам кіно газета паведамляла пра мастацкія фільмы, дубляваныя на родную мову перад іх пракатам у кінатэатрах рэспублікі[4].

Пасля XX з'езда падобныя публічныя выступы набылі больш эмацыйную, вострую форму. Напрыканцы 1957 г. студэнт аддзялення журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ імя Леніна Барыс Сачанка распачаў у «Літаратуры і мастацтве» вострую дыскусію пра выкладанне беларускай мовы. Канстатаваўшы абмежаваную прысутнасць беларускай мовы на філалагічным факультэце ўніверсітэта, ён прыйшоў да сумнай высновы: маючы падобным чынам падрыхтаваных настаўнікаў, беларускія школы неўзабаве зробяцца беларускімі толькі паводле назвы і мова канчаткова сыдзе з паўсядзённага ўжытку. Пераламіць гэту сітуацыю, на думку Барыса Сачанкі, можна было праз увядзенне выкладання на беларускай мове ва ўсіх вышэйшых навучальных установах рэспублікі[5].

Вострыя публікацыі на тэму моўнай дыскрымінацыі, якія з'явіліся ў «адліжныя» гады, ва ўмовах адноснай свабоды думкі не пацягнулі за сабою рэ-

---

1 М. Хрушчоў, *За цесную сувязь літаратуры і мастацтва з жыццём народа*, «Полымя», 1957, № 9, с. 8.

2 Ул. Юрэвіч, *Трэба нармалізаваць вымаўленне*, «Літаратура і мастацтва», № 47, 21.11.1953 г., с. 2.

3 С. Пась, *Патрэбны новыя падручнікі*, «Літаратура і мастацтва», № 35, 28.08.1954 г., с. 3.

4 *Дубліраванне кінофільмаў*, «Літаратура і мастацтва», № 8, 20.02.1954 г., с. 2.

5 Б. Сачанка, *Шанаваць родную мову*, «Літаратура і мастацтва», № 99, 14.12.1957 г., с. 3.

прэсіўных дзеянняў з боку ўлады. Па-іншаму складваўся лёс тых, хто абіраў не ўзгодненыя з уладай шляхі барацьбы за нацыянальную годнасць.

16 лютага 1957 г. падчас лекцыі быў арыштаваны выкладчык Гродзенскага педінстытута Браніслаў Ржэўскі, які асабіста і разам са студэнтамі праводзіў кампанію пісьмовых зваротаў да ўлад супраць дыскрымінацыі беларускай мовы. У адным са сваіх зваротаў ён пісаў: «Што вы робіце, вы ж губіце ў Беларусі ўсю адукацыйную сыстэму, вы хаваеце беларускую мову. Як гэта магчыма, што ўсе школы ў вёсцы на беларускай мове, у гарадох ёсць на расейскай, а інстытуты ўсе на расейскай, ніводнага няма на беларускай»[1].

Кропляй, якая перапоўніла цярпенне ўлады, стаў ліст, у якім выкладчык крытыкаваў галоўнага ідэолага рэспублікі Цімафея Гарбунова за прамову на пахаванні Якуба Коласа, у якой сакратар ЦК па-руску звяртаўся да памерлага класіка: «Наш дорогой Константин Михайлович Якубколос»[2].

Нягледзячы на звароты ў абарону Браніслава Ржэўскага з боку мясцовых жыхароў і нават дэпутатаў, ён быў асуджаны паводле арыкула 72 Крымінальнага Кодэкса БССР «за злосны паклёп на савецкі грамадскі лад і нацыянальную палітыку партыі» да 7 гадоў лагера, дзе працягваў кампанію петыцый у абарону беларускай мовы[3].

У тым жа годзе пляменнікі Якуба Коласа браты Белыя – 30-гадовы аспірант-філолаг Лявон і 26-гадовы студэнт-эканаміст Міхась – расклеілі ў Менску на будынках інстытута народнай гаспадаркі, медыцынскага інстытута і на дрэвах у парку Горкага ўлёткі з тэкстам напісанага Лявонам патрыятычнага верша «Усе народы прагнуць сваёй волі, улады, песні». Неўзабаве яны былі выкрыты КДБ БССР і пазбаўлены волі адпаведна на 10 і 7 гадоў (пазней гэтыя тэрміны былі скарочаны на 4 гады ).

Гады зняволення ў мардоўскіх лагерах не пазбавілі братоў патрыятычных пачуццяў. У 1962 г. інфарматар КДБ паведамляў, што «...асуджаны раней за нацыяналістычную дзейнасць інжынер-эканаміст «Белсельгастэхнікі» Міхась Белы ў прыватнай гутарцы заявіў аб неабходнасці стварэння падпольнай беларускай нацыянальнай арганізацыі. Пры гэтым ён сказаў, што для паспяховай барацьбы з савецкай уладай неабходна ўсталяваць кантакты з літоўскімі і грузінскімі нацыяналістамі»[4].

У першай палове 1960-х гг. у асяроддзі маладых навукоўцаў і аспірантаў гуманітарных навуковых інстытутаў АН БССР склалася нефармальнае кола

---

1 В. Анушкевіч, *Я ня мог цярпець гэтае сыстэмы,* «Veritas». Бюлетэнь БГА «Ветэраны Адраджэньня», 2004, № 1 (2), с. 20.

2 Я. Брыль, *Парастак. Запісы і эсэ,* Мінск 2006, с. 82.

3 А. Белакоз, *Каб жыла Беларусь: Артыкулы, успаміны, інтэрв'ю,* Мінск 2003, с. 38–40.

4 *Нонканфармізм у Беларусі. 1953–1985.* Даведнік, аўтар-укл. А. Дзярновіч, Мінск 2004, с. 36–38.

аднадумцаў, куды ўваходзілі мовазнаўца Алесь Каўрус, тэатразнавец Сцяпан Місько, літаратуразнаўцы Мікола Прашковіч і Валянцін Рабкевіч, археолаг Міхась Чарняўскі ды інш. Дзейнасць удзельнікаў «акадэмічнага асяродку», якая з'яўлялася найперш формай супраціву звужэнню сферы выкарыстання беларускай мовы, не была фармалізавана. Не вялося ні спісаў людзей, ні пратаколаў пасяджэнняў, не прымалася пісьмовых рашэнняў. Тым не менш «акадэмічны асяродак» трапіў у поле зроку КДБ БССР падчас спроб наладзіць кантакты з аднадумцамі па-за акадэміяй навук. Яны ўсталявалі сувязі з ветэранамі беларускага нацыянальнага руху Язэпам Сушынскім, пісьменнікам Уладзімірам Караткевічам, мастаком Лявонам Баразной, настаўнікам Алесем Белакозам, удзельнікамі аб'яднання мастакоў «На паддашку», студэнтамі філалагічнага факультэта БДУ[1].

Першая спроба «арганізаванай нацыяналістычнай дзейнасці» на ўніверсітэцкім філфаку была зарэгістравана ўвосень 1963 г., калі група студэнтаў на чале з Рыгорам Семашкевічам мусіла публічна каяцца за чытанне непадцэнзурнай беларускай перыёдыкі[2]. У кастрычніку 1968 г. філфак зноў «узбунтаваўся», накіраваўшы Пятру Машэраву падпісаны некалькімі сотнямі студэнтаў ліст, у якім патрабавалі выкладання ўсіх прадметаў на беларускай мове. Гэта цалкам зразумелае жаданне будучых спецыялістаў-мовазнаўцаў выклікала сапраўдны «землятрус», падчас якога зноў гучалі абвінавачанні студэнтаў у нацыяналізме. З трох ініцыятараў ліста – Льва Барташа, Алеся Разанава і Віктара Яраца – два апошнія загадам рэктара Антона Сеўчанкі былі адлічаны з універсітэта[3].

Некаторыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі адстойвалі права на нацыянальна-культурнае развіццё паасобку, удалечыні ад культурных цэнтраў, дзе шансаў знайсці аднадумцаў яны амаль не мелі. У 1963 г. у Маладзечне чатыры нумары рукапіснага часопіса «Падснежнік» выдаў Мікола Ермаловіч. У іх аўтар-выдавец дзяліўся з чытачамі ўласнай непадцэнзурнай рэфлексіяй на бягучыя падзеі ў грамадстве, накшталт «...яны [настаўнікі – *АГ*] выхоўваюць у сваіх гадунцоў нянавісць да Беларусі, да ўсяго беларускага і так яны глядзяць на ўсё»[4]. У неспрыяльных умовах антырэлігійнай кампаніі канца 1950-х – першай паловы 1960-х гг. рэгулярныя казанні і катэхізацыю дзяцей на беларускай мове праводзіў пробашч касцёла Найсвяцейшай Панны Марыі ў в. Вішнеў Валожынскага раёна Уладзіслаў Чарняўскі[5].

---

[1] *М. Чарняўскі, Акадэмічны* патрыятычны асяродак (*1960-я гады*), «Шуфляда», 1999, № 1, с. 55–64.

[2] А. Ліс, *Пад негалосным апякунствам*, «Новы час». № 42, 10.11.2017 г., с. 11.

[3] *І немагчымае зрабі!.. Успаміны пра падзеі 1968 года*, укл. З. Санько, А. Чарнавокая, Мінск 2021, с. 6–16.

[4] БДАМЛіМ, ф. 444, воп. 1, спр. 115, арк. 18.

[5] М. Казлоўскі, *Павадыр і слуга*, «Наша вера», 2001, № 1 (15), с. 52.

Курс на дэмакратызацыю і галоснасць, вызначаны XX з’ездам КПСС, спрыяў узмацненню крытыкі безгаспадарнасці, бюракратызму, карупцыі. Падобная крытыка, зразумела, мела межы і не павінна была закранаць сацыяльна-палітычную сістэму СССР. Незалежна ад маштабу крытыкуемай заганы, вінаватымі абвяшчаліся канкрэтныя асобы – мясцовыя, радзей рэспубліканскія кіраўнікі. Адразу пасля заканчэння з’езда за неэфектыўнае кіраванне героямі фельетонаў зрабіліся сакратар Крычаўскага райкама партыі Уладзімір Разанцаў[1] і сакратар Радашковіцкага райкама камсамола Мікалай Пігараў[2], міністр прамысловасці мясных і малочных прадуктаў БССР Марфа Шаройка[3] **і** міністр саўгасаў Пётр Калінін[4]. У 1959 г. рэдакцыя сатырычнага часопіса «Вожык» прапанавала старшыні Саўнаргаса БССР Аляксандру Тарасаву стварыць у яго ведамстве музей бракаваных рэчаў, у якім «заўсёды будзе багата экспанатаў»[5].

Падобная публічная, часам даволі вострая, крытыка партыйна-гаспадарчай наменклатуры стварала ў асобных прадстаўнікоў беларускага грамадства ілюзію вызвалення ад адміністрацыйна-партыйнага дыктату, правакавала на адкрыты дыялог з уладай. Дух эпохі перадае наступны эпізод, якім Кірыла Мазураў падзяліўся з удзельнікамі Рэспубліканскай нарады ідэалагічных работнікаў 17 красавіка 1963 г. Напярэдадні нарады першы сакратар КПБ пагадзіўся асабіста прыняць студэнта БПІ, які папрасіў у яго тлумачэння «некаторых рэчаў, якія ён не разумее». Падчас размовы Кірылу Мазураву давялося адказваць на даволі вострыя пытанні: «Чаму Вы, таварыш Мазураў, маеце вялікую кватэру і машыну, а я не маю не толькі машыны, але і пакоя?», «Чаму ў нас шмат несумленных людзей сярод камуністаў?», «Чаму ў нас зацiскаюць маладых пісьменнікаў?». Кіраўнік рэспубліканскай партарганізацыі не распавёў ідэолагам пра змест уласных адказаў на гэтыя пытанні, затое патлумачыў іх паходжанне ўздзеяннем на студэнта, бацькі якога былі рэпрэсаваны, «варожых галасоў»[6].

Масавую незадаволенасць грамадзян выклікала сацыяльная несправядлівасць, асаблівыя прывілеі, якія мелі работнікі партыйнага і дзяржаўнага апарату. У ліпені 1961 г. у ЦК КПСС звярнулася група мінчан, абураных забаронай адпачываць на возеры ў дачным пасёлку Гарадзішча, накладзенай упраўленнем

[1] «Вожык» 1956, № 13, с. 2.

[2] «Вожык» 1957, № 11, с. 2.

[3] В. Лемешава, *Пытанне міністру*, «Звязда», № 151, 1.07.1956 г., с. 2.

[4] В. Плешавеня, *Калі ў міністра прыніжана патрабавальнасць...*, «Звязда», № 180, 4.08.1956 г., с. 3.

[5] *Выбачайце, калі ласка!*, «Вожык», 1959, № 8, с. 3.

[6] НАРБ, ф. 4п, воп. 95, спр. 107, арк. 122.

справамі Савета Міністраў БССР. Яны, у прыватнасці, пісалі пра высокі плот, які з'явіўся вакол возера і ляснога масіва і фактычна перавёў іх ва ўласнасць супрацоўнікаў апарата Савета Міністраў, а таксама спецтранспарт, які дастаўляў чыноўнікаў на лецішча. «Усе навокал кажуць: "Адмежаваліся міністры!", "Савецкія буржуі!"», – паведамлялі аўтары калектыўнай скаргі ў Маскву[1].

Прасякнутую эгалітарысцкім пафасам «прапанову», адрасаваную партыйнаму кіраўніцтву рэспублікі, ухвалілі на сходзе 21 верасня 1965 г. старыя камуністы Ленінскага раёна г. Менска: «Праявіце ініцыятыву і перадайце квартал паміж вуліцамі Фрунзэ і Захарава пад дзіцячы аздараўленча-выхаваўчы комплекс». Ветэраны партыі называлі гэты квартал, дзе кожны жыхар хаваўся ад народа ў катэджы, пабудаваным за народны кошт, «феадальным». Асобую ўвагу аўтары прапановы прасілі звярнуць на вялікі катэдж былога сакратара ЦК КПБ Надзеі Грэкавай, «праходзячы ля якога, людзі пляваліся»[2].

Ва ўмовах невысокага ўзроўню жыцця, дэфіцыту спажывання, а таксама недахопу жылля наменклатурныя прывілеі ўспрымаліся людзьмі даволі балюча. Машыністка адной са сталічных устаноў Ляўковіч пыталася ў толькі прызначанага на пасаду «першага» Пятра Машэрава: «Чаму работнікі ЦКператварыліся ў асобную касту, што не могуць жыць у звычайных буйнапанэльных дамах разам з астатнімі жыхарамі горада і мець зносіны з імі ў непрацоўны час? У лечкамісіі ўжо месца няма... Я ўжо не кажу пра тое, што ў Менску амаль усе вялікія начальнікі з міністэрстваў маюць службовыя лецішчы... Пётр Міронавіч, можа быць, Вам пра гэта невядома? Можа, гэта робіцца за Вашай спіной, з прычыны вялікай Вашай занятасці. Мне хацелася б, каб Вы надалі крыху часу гэтым справам». Прачытаўшы ліст, Пётр Машэраў, які добра ведаў пра лад жыцця «асобнай касты», наклаў на яго расплывістую, ні да чаго не абавязваючую рэзалюцыю: «Дакласці сакратарам ЦК. Тут ёсць пытанні, над якімі трэба падумаць, каб знайсці іншае, больш правільнае іх вырашэнне»[3].

У некаторых выпадках, калі аўтары лістоў пераходзілі нябачныя межы дазволенага, іх звароты мелі сумныя наступствы. У 1956 г. на два гады мардоўскіх лагераў асудзілі 24-гадовага журналіста Чырвонаслабодскай раённай газеты «Чырвоная зара» Фёдара Кардаша за ліст да Мікіты Хрушчова, у якім падрабязна пералічваліся недахопы і злоўжыванні мясцовага кіраўніцтва[4]. Дзесяццю гадамі зняволення ў 1958 г. пакаралі дырэктара Радунскай школы Ка-

---

1 Тамсама, воп. 62, спр. 578, арк. 81–83; воп. 65, спр. 146, арк. 24.

2 Тамсама, воп. 65, спр. 152, арк. 16.

3 Тамсама, спр. 166, арк. 36–38.

4 *Боль сквозь годы: Свидетельства жертв политических репрессий в 1930–1950 гг.*, Минск 2004, с. 119.

рэліцкага раёна Аляксандра Доўбіка за спробу інфармаваць прэзідэнта ЗША Дуайта Эйзенхаўэра, прэм’ер-міністра Вялікабрытаніі Энтані Ідэна і прэм’ер-міністра Індыі Джавахарлала Нэру аб парушэннях у БССР Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека[1]. 5 гадоў лагера ў 1960 г. атрымала доктар 5-й менскай бальніцы Ніна Барбарчук за ліст прэзідэнту ЗША Джону Кенэдзі з крытыкай жыцця ў савецкай Беларусі[2].

Прызнанне на ХХ з’ездзе памылак савецкага кіраўніцтва спарадзіла ў некаторых грамадзян жаданне самастойна разабрацца ў прынцыпах, па якіх павінна развівацца сацыялістычная дзяржава. Ва ўмовах забароны на публічную палітыку гэтыя спробы ўвасобіліся ў складанне дакументаў тэарэтычнага характару, якія абмяркоўваліся ў коле аднадумцаў або накіроўваліся ў прэсу ці органы ўлады. У некаторых выпадках сяброўскія асяродкі перарасталі ў непадкантрольныя ўладам арганізацыі, дзе ішлі размовы аб неабходнасці змены палітычнага ладу. Звычайна яны налічвалі некалькі ўдзельнікаў, часта афармлялі сваю дзейнасць статутнымі дакументамі, фармалізуючы яе ў выглядзе «партыі», «саюза» або «клуба». Большасць арганізацый не здолела пайсці далей за палітычнае тэарэтызаванне або арганізацыйнае будаўніцтва і спыніла дзейнасць пасля прафілыктычных размоў або арыштаў удзельнікаў. Некалькім дзясяткам чалавек прысудзілі розныя тэрміны зняволення ў папраўча-працоўных лагерах паводле артыкулаў 67 «Антысавецкая агітацыя і прапаганда» альбо 69 «Удзел у антысавецкай арганізацыі», якія перайшлі ў Крымінальны кодэкс БССР 1960 г. з папярэдняга кодэкса 1928 г.

Частка падпольных арганізацый часоў «адлігі» вызнавала марксісцкія погляды і імкнулася не да кардынальнай змены дзяржаўнага ладу, а толькі да яго рэфармавання. Удзельнікі левых антысталінскіх арганізацый асэнсоўвалі контррэвалюцыйны, квазісацыялістычны характар дзеючай улады, якая, нягледзячы на пачатак «адлігі», захоўвала сталінісцкую структуру і метады эксплуатацыі. Належачы да розных сацыяльна-прафесійных груп (рабочыя, настаўнікі, студэнты), гэтыя людзі працягвалі традыцыю «барацьбы за сапраўдны ленінізм», закладзеную ў міжваеннай БССР яшчэ трацкістамі.

Падобную мэту ставілі ўдзельнікі студэнцкага літаратурнага гуртка Менскага медыцынскага інстытута. Яны напісалі «Маніфест рускіх марксістаў-ленінцаў», у якім КПСС называлася «халопска-дыктатарскай партыяй», а дзяржаўны лад у СССР – «дзяржаўным капіталізмам». У маніфесце сцвярджалася: «Мы з такой свядомасцю яшчэ прэтэндуем на сацыялізм! Не! Спачатку трэба дасягнуць вяршыняў буржуазнай культуры, а тады

1 *58-10. Надзорные производства Прокуратуры СССР по делам об антисоветской агитации и пропаганде. Аннотированный каталог. Март 1953–1991*, под ред. В. А. Козлова и С. В. Мироненко. Сост. О. В. Эдельман. Москва 1999, с. 486.

2 Тамсама, с. 579.

марксісцкую тэорыю народ вельмі хутка і па-сапраўднаму ўспрыме». 4 студзеня 1955 г. арганізатары літаратурнага гуртка Уладзімір Казлоў і Даніэль Марошак былі асуджаны да 5-гадовага зняволення[1].

Майстар тэхнічнага вучылішча № 2 г. Менска Валянцін Цюрын вырашыў стварыць Усерасійскую рабоча-сялянскую партыю з мэтай «звяржэння дыктатуры партыйнай бюракратыі, знішчэння дваістасці ў кіраванні народнай гаспадаркай шляхам адхілення парторганаў ад прамога кіраўніцтва прадпрыемствамі». Ён напісаў маніфест, статут, праграму і некалькі артыкулаў, у тым ліку «Аб неабходнасці сацыялістычнай рэвалюцыі», «Заклік да народа», «Нашы лозунгі». У іх праводзілася думка аб тым, што тагачаснае савецкае кіраўніцтва з'яўлялася гэткім жа ворагам рабочых і сялян, як імперыялізм. Першая спроба Цюрына пазнаёміць калег з дакументамі Усерасійскай рабоча-сялянскай партыі скончылася арыштам «камуніста-ленінца». У красавіку 1957 г. ён атрымаў 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў і 5 гадоў абмежавання правоў[2].

У верасні 1963 г. у г. Жабінка Брэсцкай вобл. органы дзяржбяспекі арыштавалі арганізатара і кіраўніка Беларускай рэвалюцыйнай партыі слесара цукровага завода Аляксандра Грыгор'ева. Створаная ім у канцы 1950-х гг. арганізацыя мела статут і прысягу, але ў практычнай дзейнасці далей за абрабаванне вясковай крамы з мэтай здабыцця грошай на партыйныя патрэбы не пайшла. Здзейсніўшы гэта злачынства ў стылі бальшавіцкіх «эксаў», Васіль Ракашэвіч быў затрыманы і асуджаны разам з Грыгор'евым па артыкуле «антысавецкая агітацыя і прапаганда»[3].

Падчас савецка-кітайскага супрацьстаяння частка жыхароў БССР левай апазіцыйнай арыентацыі падтрымалі «вялікі скачок» Мао Цзэдуна як альтэрнатыву савецкаму бюракратычнаму сацыялізму. Яны дасылалі ў амбасаду КНР у Маскве і ЦК КПСС лісты падтрымкі курса «вялікага стырніка». А ў 1966 г., напярэдадні святкавання дня Кастрычніцкай рэвалюцыі, невядомыя вырабілі і распаўсюдзілі ўлёткі пракітайскага зместу ў Менску і Гомелі[4].

Ва ўмовах, калі легальныя шляхі выказвання незадаволенасці сацыяльна-палітычным ладам былі забароненыя, а нелегальныя лічыліся злачыннымі, нешматлікія прадстаўнікі беларускага грамадства, пазбаўленыя «дзіцячай хваробы левізны», з'яўляліся прыхільнікамі ліберальна-дэмакратычных каштоўнасцей.

---

1 Тамсама, с. 237.

2 Ул. Валодзін, *У пошуках «антысавецкага падполля»: КДБ і яго прыдумкі,* «Новы час», 1.02.2019 г., № 4, с. 6–7.

3 *58-10. Надзорные производства...*, с. 653.

4 НАРБ, ф. 4п, воп. 95, спр. 112, арк. 123.

У лістападзе 1956 г. у Гомелі пачала дзейнічаць падпольная арганізацыя пад назвай Партыя свабоды рускага народа. У склад яе ўваходзілі М. Грачуха (санітарны лекар), Ф. Казлоўскі (загадчык крамы), А. Яткін (рабочы-гравёр), М. Дзехцяроў (электраманцёр), Рыгор Віннікаў (прадавец). Нягледзячы на назву партыі, яна мела інтэрнацыянальны склад – сярод яе заснавальнікаў былі два беларусы, два рускія і адзін украінец. Арганізацыя мела часовы статут, прысягу, пячатку, планавала выпуск улётак і партбілетаў, дзеля чаго з фабрыкі «Палесдрук» быў вынесены друкарскі шрыфт.

У часовым статуце партыі былі прапісаны яе палажэнні, у тым ліку права грамадзян на прыватную ўласнасць на зямлю і сродкі вытворчасці. У ім таксама ставілася мэта забеспячэння дэмакратычных прынцыпаў дзейнасці ўсіх арганізацый працоўных як сродкаў будаўніцтва «сапраўды дэмакратычнага грамадства». Дакумент адмаўляў кіруючую ролю КПСС, адстойваў шматпартыйнасць, якая «...стварае сапраўдную дэмакратыю, уздымае аўтарытэт дзяржавы, павышае дабрабыт народа». Першыя практычныя захады сябраў Партыі свабоды рускага народа па ўвасабленні статутных палажэнняў перапыніў іх арышт у лютым – сакавіку 1957 г. Рашэннем Гомельскага абласнога суда М. Грачуха і Ф. Казлоўскі былі асуджаны на 10 гадоў, Г. Віннікаў – на 5 гадоў, А. Яткін і М. Дзехцяроў – на 1 год пазбаўлення волі[1].

У канцы 1950-х гг. нонканфармісцкі асяродак на чале з Васілём Быкавым, Аляксеем Карпюком і Барысам Клейнам утварыўся ў Гродне. Месцам збору прадстаўнікоў ліберальна настроенай інтэлігенцыі стаў дом-музей Элізы Ажэшкі, дзе ў той час знаходзілася Гродзенскае аддзяленне СП БССР, якое ўзначальваў Аляксей Карпюк. Сярод іншых там можна было ўбачыць літаратараў Аляксея Пяткевіча, Дануту Бічэль-Загнетаву, Вольгу Іпатаву, выкладчыкаў і студэнтаў Гродзенскага педінстытута, гасцей з Менска і Польшчы. Барыс Клейн так перадаў іх тагачасны ўнутраны стан: «Мы былі, як гаворыцца, у росквіце сіл, і жыццё натхняла нас не менш, чым астатніх. Здавалася б, трэба карыстацца ўсімі яго дабротамі. Як гэта і рабілі ўсе. Аднак не атрымлівалася – без душэўнага спакою, які пакінуў нас»[2].

На сустрэчах у музеі Элізы Ажэшкі, прыватных кватэрах, а таксама шпацырах па горадзе вольна абмяркоўваліся літаратурныя навіны, пытанні нядаўняй гісторыі і бягучай палітыкі, абменьваліся самвыдатам. Надрукаваныя ў абыход цэнзуры творы дасылаліся з Масквы на адрас бясспрэчнага лідара гродзенскіх вальнадумцаў Васіля Быкава. У адрозненне ад Аляксея Карпюка і Барыса Клейна, якія дапускалі магчымасць існавання дэмакратычнага крыла

[1] А. Градзіцкі, *Першы вопыт іншадумства: «гомельскія дысідэнты» 50-х гг.* [у:] *Гомельшчына: старонкі мінулага. Нарысы*, вып. 2, Гомель 1996, с. 160.

[2] Б. Клейн, *Недосказанное*, Минск 2019, с. 75.

ў КПСС, яе эвалюцыі ў сацыял-дэмакратычную партыю, ён займаў бескампрамісную пазіцыю ў дачыненні да сістэмы ўлады СССР.

У сярэдзіне 1960-х гг. «гродзенскім трохкутнікам» зацікавіліся спецслужбы, вынікам чаго сталі спробы вярбоўкі, напады вулічных хуліганаў, ананімныя тэлефонныя званкі з пагрозамі. Неўзабаве пасля ўводу савецкіх войск у Чэхаславакію, які быў адкрыта асуджаны гродзенскімі вальнадумцамі, іх дзейнасць набыла агульнасаюзную вядомасць. 20 чэрвеня 1969 г. пра «мерапрыемствы» КДБ БССР, накіраваныя на іх выкрыццё, паведамляў у ЦК КПСС Юрый Андропаў. У выніку рэалізацыі гэтых «мерапрыемстваў» з кляймом «сіяніста» быў звольнены з Гродзенскага медінстытута (з адабраннем дыпломаў кандыдата гістарычных навук і дацэнта) Барыс Клейн. Аляксей Карпюк таксама згубіў працу, а разам з ёй і партыйны білет. Супраць Быкава распачалася кампанія цкавання ў друку, падчас якой пісьменніка абвінавачвалі ў «ачарненні» савецкай арміі і сацыялістычнага ладу[1].

Цэнтрам прыцягнення сталічных іншадумцаў часоў «адлігі» стаў пакой у доме па вуліцы Энгельса, дзе пражываў Кім Хадзееў. У 1949 г. у разгар кампаніі па барацьбе з «бязроднымі касмапалітамі» ён быў выключаны з філалагічнага факультэта БДУ за заклік на студэнцкім сходзе забіць Сталіна. Праз два гады Хадзеева арыштавалі і накіравалі на прымусовае «лячэнне» ў Ленінградскую турэмную псіхіятрычную бальніцу. Тут пад уздзеяннем дысідэнтаў-інтэлектуалаў Юрыя Айхенвальда, Аляксандра Асаркана, Паўла Уліціна адбылося пераўтварэнне стыхійнага антысталініста ў філосафа-нонканфарміста.

Пасля вяртання ў Менск Хадзееў скончыў экстэрнам універсітэт, паступіў у аспірантуру, але напісанне дысертацыі палічыў немагчымым з-за непрымання марксісцка-ленінскага ідэалагічнага дыктата. Уладкаваўшыся на працу інструктарам аддзела кніжнага гандлю аблспажыўсаюза, ён арганізаваў гурток маладых людзей, студэнтаў і аспірантаў універсітэта і іншых ВНУ. Яго сябры рэгулярна збіраліся на своеасаблівыя «семінары» для абмеркавання шырокага кола праблем, у тым ліку палітычных. У пачатку 1960-х гг. у гурток Хадзеева ўваходзілі як прадстаўнікі мясцовай «залатой моладзі» (сын пісьменніка Піліпа Пестрака Анатоль, сын дэкана тэатральнага факультэта тэатральна-мастацкага інстытута Піліпа Коблі Юрый), так і дзеці «простых» бацькоў, захопленыя магіяй непадцэнзурных размоў і самвыдата, перададзенага гаспадару пакоя на вул. Энгельса з Масквы[2].

У студзені 1962 г. Кім Хадзееў, які, паводле яго ўласных слоў, да таго часу ўжо з'яўляўся «паслядоўным і ўпэўненым антыкамуністам», быў арыштаваны другі раз. Разам з ім за захаванне і распаўсюд самвыдата быў арыштава-

---

[1] Тамсама, с. 78.

[2] Ж. Алферов, *Наука и общество*, Санкт-Петербург 2005, с. 151.

ны 25-гадовы акцёр Тэатра юнага гледача Эдуард Гарачы. Яны сталі фігурантамі крымінальнай справы, якая скончылася для Хадзеева другім тэрмінам у спецпсіхлякарні, для Гарачага – мардоўскімі лагерамі, для астатніх – выключэннем з вышэйшых навучальных установаў і пакаяннымі выступленнямі на камсамольскіх сходах.

Пасля выхаду ў 1963 г. з псіхлякарні Кім Хадзееў, які нідзе не працаваў і не з'яўляўся сябрам нейкага творчага саюзу, тым не менш працягваў гуртаваць вакол сябе менскую інтэлектуальную моладзь – будучых пісьменнікаў, рэжысёраў, грамадскіх дзеячаў[1].

У 1962–1963 гг. у Менску існавала падпольная арганізацыя студэнтаў БПІ на чале з сынам і ўнукам рэпрэсаваных Сяргеем Ханжанковым. У якасці першай акцыі яны вырашылі падарваць радыёглушак паміж вуліцамі Даўгабродскай і Чырваназорнай, які перашкаджаў слухаць заходнія радыёстанцыі. Дзеля гэтага пачалі збіраць снарады і міны, што засталіся з мінулай вайны. Акрамя таго назапашваўся друкарскі шыфт для вырабу ўлётак, праводзілася антыкамуністычная агітацыя сярод сяброў і знаёмых, рабіліся спробы здабыць агнястрэльную зброю. У канцы мая 1963 г. удзельнікі падпольнай арганізацыі, па даносу здрадніка, былі арыштаваны. Неўзабаве па абвінавачанні ў спробе «здзейсніць дыверсію і ў правядзенні антысавецкай прапаганды і агітацыі» Сяргея Ханжанкова і Георгія Сярогіна асудзілі на дзесяць гадоў, Віктара Храпавіцкага – на восем гадоў зняволення[2].

Незалежна ад арганізацыі Ханжанкова, падарваць менскі радыёглушак спрабавала падпольная група на чале з дзесяцікласнікам 41-й школы Аляксандрам Удодавым. Уражаныя расстрэлам рабочых у Новачаркаску, Удодаў разам з некалькімі аднакласнікамі ўтварылі «арганізацыю». Пра эклектычнасць і наіўнасць палітычных уяўленняў школьнікаў, пераймальны і гульнявы характар іх падпольнай дзейнасці сведчаць назвы іх «арганізацыі», якія паслядаўна змянялі адна адну: «Студэнцкае таварыства сяброў Захада», «Саюз камуністаў», «Падпольная КПСС» і «Рэвалюцыйна-вызваленчая сацыялістычная партыя». Не паспеўшы зрабіць нічога, акрамя вырабу ўлётак і забойства абвінавачанага ў здрадзе таварыша, школьнікі былі арыштаваны[3].

Частка актыўнай моладзі не імкнулася заняць пустуючую нішу палітычнай апазіцыі. Тым не менш яе шчырае жаданне ў адказ на заклік Хрушчова палепшыць навакольную рэчаіснасць з мэтай набліжэння камуністычнай будучыні правакавала непазбежныя канфлікты з адміністрацыяй, камсамольскім і партыйным кіраўніцтвам, а часам – з органамі бяспекі. Напрыканцы 1956 г.

1 *«Бязродны касмапаліт» Кім Хадзееў ды іншыя: Пераслед іншадумцаў за савецкім часам:* зборнік дакументаў. Укл. Ул. Валодзін, Мінск 2020, с. 52–55, 68.

2 М. Чарняўскі, *Каб слухаць вольнае слова*, «Veritas», 2005, № 1, с. 3–5.

3 НАРБ, ф. 4п, воп. 62, спр. 638, арк. 177–181.

на нарадзе дырэктараў і сакратароў партарганізацый ВНУ БССР гэтыя актывісты былі ахарактаразываны наступным чынам: «Маласвядомыя элементы і рознага роду крыкуны праяўляюць неабгрунтаванае нездавальненне лекцыямі і семінарскімі заняткамі, уносяць дэзарганізацыю ў студэнцкае асяроддзе»[1].

У 1960 г. кіраўніцтву ЛКСМБ стала вядома, што студэнты БДУ імя Леніна, БПІ, медінстытута і музычнага вучылішча стварылі нефармальны гурток «Энтузіяст», сябры якога збіраліся на кватэрах з мэтай вольнага абмеркавання праблем навукі, літаратуры і мастацтва. Падобныя непадкантрольныя камсамолу гурткі існавалі ў Гродне і Магілёве[2]. Напачатку 1963 г. намаганнямі КДБ БССР былі выкрыты моладзевыя арганізацыі «Шукальнікі» ў Полацку і «Саюз юных талентаў» у Гомелі, якія дзейнічалі ў адпаведнасці з уласнымі праграмамі і статутамі[3].

Некалькі дзясяткаў людзей атрымалі турэмныя тэрміны па артыкуле «антысавецкая агітацыя і прапаганда» за размовы. Яны не стваралі падпольныя партыі, арганізацыі ці групы і не ўваходзілі ў іх. Гэта былі неабыякавыя і адначасова наіўныя людзі, якія адгукнуліся на заклікі да крытыкі і самакрытыкі, што гучалі з высокіх трыбун, і дазволілі сябе рэзкія публічныя выказванні. Сярод іх мы знаходзім калгаснага пастуха і лётчыка-інструктара, рабочага і спартыўнага трэнера, якія выступалі супраць аднапартыйнай сістэмы, безальтэрнатыўных выбараў, усеўладдзя бюракратыі ды інш. Перыядычна ў размовах уздымалася нацыянальная праблематыка. Калі выкладчык Гродзенскага педінстытута Браніслаў Ржэўскі пратэставаў супраць звужэння публічнай сферы выкарыстання беларускай мовы, то жыхарка Гродзенскай вобласці сялянка Л. Луцкая заклікала палякаў адмаўляцца ад службы ў савецкай арміі, а выкладчык фізкультуры БПІ Анатоль Рубін крытыкаваў дыскрымінацыйную палітыку ў адносінах да савецкіх яўрэяў[4].

Акрамя вусных пратэстаў, у жыхароў савецкай Беларусі існавала яшчэ адна своеасаблівая форма выказвання ўласных думак адносна існаваўшага сацыяльнага парадку – надпісы на выбарчых бюлетэнях падчас выбараў народных дэпутатаў і суддзяў. Іх у немалой колькасці знаходзілі пасля ўскрыцця выбарчых скрыняў. Напрыклад, у лютым 1965 г. падчас выбараў у мясцовыя саветы былі знойдзены наступныя надпісы: «Галасую супраць нашай сістэмы выбараў, у бюлетэні толькі адзін кандыдат, ці гэта парадак?»; «Гэта не выбары – гэта

---

1 *Ідэйнаму выхаванню студэнцтва – штодзённую ўвагу*, «Комуніст Беларусі» 1956, № 12, с. 66.

2 НАРБ, ф. 4п, воп. 2а, спр. 8, арк. 277.

3 Тамсама, воп. 95, спр. 107, арк. 185.

4 *58-10. Надзорные производства...*, с. 286, 288, 521.

падтасоўка, спачатку прызначаюць – потым выбіраюць»; «Прашу ад многіх і сябе асабіста даць сапраўдную свабоду рэлігіі». На адным з бюлетэняў у Менску знайшлі надпіс «Усіх знішчым» і намаляваную фашысцкую свастыку[1].

Асобныя грамадзяне дэманстравалі ўласную нязгоду з савецкай выбарчай сістэмай больш радыкальным чынам. Напрыклад, жыхаркі Докшыцкага раёна Н. Паўловіч і Т. Клімашэўская 18 сакавіка 1961 г. павесілі на адным з выбарчых участкаў плакат з антысавецкім надпісам[2]. У наступным годзе рабочы Іван Казак раскідаў па Бабруйску ўлёткі, якія заклікалі не галасаваць за кандыдатаў у дэпутаты – камуністаў[3].

Эпоха «адлігі» была часам спроб аднаўлення рабочага руху. Найбольш адукаваныя, сацыяльна актыўныя рабочыя ўспрынялі рыторыку Хрушчова пра «яго вялікасць рабочы клас» як заахвочванне да абароны сваіх правоў. Рабочыя выказвалі незадавальненне заработнай платай, якая выглядала вялікай толькі ў параўнанні з заробкамі калгаснікаў, сярэднім медперсаналам, настаўнікамі пачатковай школы. 6–7 мая 1957 г. у якасці пратэсту супраць зніжэння заробкаў адмовілася выходзіць на працу брыгада тынкоўшчыкаў, цесляроў і муляраў на будаўніцтве палаца культуры завода № 511 у Магілёве. Канфліктная сітуацыя, якая знаходзілася на кантролі першага сакратара ЦК КПБ і старшыні КДБ БССР, хутка вырашылася. За дрэнную арганізацыю працы далі вымову начальніку будаўніцтва, звольнілі прараба, заробкі будаўнікоў узняліся да ранейшых памераў[4].

Акрамя незадавальнення заработнай платай, актыўныя рабочыя выступалі супраць неабгрунтаванага павышэння нормаў выпрацоўкі, звышурочных работ, за паляпшэнне ўмоў працы. 8 чэрвеня 1968 г. не выйшлі на працу 324 работніцы (з агульнай колькасці 1 030 работніц змены) Гродзенскай бавоўнапрадзільнай фабрыкі, якія такім чынам выказалі пратэст супраць прызначэння суботы незапланаваным працоўным днём. Па выніках разгляду інцыдэнту ў ЦК КПБ «за ігнараванне меркавання калектыву», сярэдні ўзрост якога складаў 22 гады, строгія вымовы атрымалі дырэктар і сакратар парткама фабрыкі[5].

Часам гэтыя патрабаванні эканамічнага характару мелі палітычную афарбоўку, і тады яны траплялі ў зводкі КДБ СССР. Так, слесар ліцейнага цэха Менскага завода імя Кастрычніцкай рэвалюцыі Камоцкі схіляў рабочых сваёй

---

1 НАРБ, ф. 4п, воп. 62, спр. 688, арк. 50–51.

2 *58-10. Надзорные производства...* с. 562.

3 Тамсама, с. 592.

4 НАРБ, ф. 4п, воп. 62, спр. 467, арк. 189–190.

5 Тамсама, воп. 81, спр. 2158, арк. 36.

змены спыніць працу, заклікаў іх: «Трэба біць камуністаў, яны давялі да такога становішча, што пачалі павышаць цэны на харчы»[1]. Незадавальненне парадкамі ў краіне выказваў таксама кладаўшчык аддзела капітальнага будаўніцтва Менскай ЦЭЦ № 3, член партыі Давідчук. На заўвагу аб тым, што камуністу так паводзіць сябе нельга, ён адказаў: «Мяне як камуніста ніхто не пытаў і не раіўся са мной, а зрабілі ўсё зверху і хочуць, каб я быў задаволены»[2].

Калі палітычныя заявы рабочых фіксаваліся ў тэчках агентурна-аператыўнай работы спецслужбаў, то большасць іх эканамічных патрабаванняў не выходзіла за межы прадпрыемстваў. У шэрагу выпадкаў адміністрацыя прадпрыемстваў, якая прытрымлівалася сталінскай мадэлі кіравання, адказвала на такія патрабаванні рэпрэсіўнымі дзеяннямі. Гэта засведчыла праверка Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў, якая праводзілася неўзабаве пасля з'яўлення ўказа Вярхоўнага Савета СССР 1958 г. «Аб правах фабрычнага, заводскага, мясцовага камітэта прафесійнага саюза». Праверка, у прыватнасці, высветліла, што толькі ў 1960 г. адміністрацыя МАЗа незаконна звольніла 105 рабочых, адміністрацыя Менскага камвольнага камбіната – 29. Падобныя факты мелі месца на Менскай тытунёвай фабрыцы, у трамвайна-тралейбусным упраўленні, трэсце водаправода і каналізацыі, на Гомельскім заводзе вымяральных прыбораў, прадпрыемствах Гродзенскай, Віцебскай, Брэсцкай і іншых абласцей рэспублікі. Усяго за 1960 г., паводле звестак Вярхоўнага суда БССР, на прадпрыемствах, установах і арганізацыях рэспублікі было незаконна звольнена 1 867 чал. Усе яны былі адноўлены на ранейшай рабоце з аплатай за вымушаны прагул[3].

Новую хвалю выступленняў рабочых у абарону сваіх правоў справакавала павышэнне коштаў на мясамалочныя прадукты 1 чэрвеня 1962 г. Адначасова з павышэннем коштаў былі перагледжаны расцэнкі здзельнай аплаты працы ў прамысловасці ў бок іх змяншэння. Падобныя захады ішлі насуперак прапагандысцкаму тэзісу пра «няўхільнае павышэнне» ўзроўню жыцця савецкага народа ў рамках выканання праграмы пабудовы камунізму. У сярэдзіне чэрвеня – сярэдзіне жніўня 1962 г. Саўнаргас БССР збіраўся пяць раз, каб абмяркоўваць эканамічныя патрабаванні рабочых, выказаныя забастоўшчыкамі на МТЗ, абутковай фабрыцы імя Калініна ды іншых прадпрыемствах. Выступленні рабочых магілёўскіх заводаў імя Кірава і Куйбышава, якія адбыліся ў 1963 г., мелі відавочна антысавецкі характар[4].

---

1 *Неизвестная Россия: XX век*, в 3 томах, т. 3, Москва 1993, с. 162.

2 Тамсама, с. 174.

3 НАРБ, ф. 4п, воп. 62, спр. 573, арк. 3–4.

4 А. Агееў, *Забастоўкі на прадпрыемствах Магілёўскай вобласці ў 50–60-х гг. XX ст.* [у:] *Гістарычныя лёсы Верхняга Падняпроўя*, ч. 2, Магілёў 1995, с. 113.

Усяго па няпоўных дадзеных на працягу 1956–1965 гг. у БССР адбылася 61 забастоўка. У Менскай вобласці рабочыя адмаўляліся ад працы 31 раз, у Віцебскай – 13, у Магілёўскай – 11, у Гомельскай – 5, у Гродзенскай – 1 раз[1].

Большасць забастоўшчыкаў, гэтаксама як і ўдзельнікаў нефармальных аб'яднанняў, а таксама асобных грамадзян, якія праяўлялі несанкцыянаваную сацыяльна-палітычную актыўнасць, не прыцягвалі да крымінальнай адказнасці. У БССР часоў кіравання Кірылы Мазурава шырокае распаўсюджанне атрымала прафілактычная праца органаў дзяржбяспекі, якая мела на мэце папярэдзіць магчымы пераход грамадзян на антысавецкія пазіцыі, прадухіліць буржуазныя ўплывы на розумы савецкіх людзей. Такім чынам, на органы дзяржбяспекі ўскладалася выхаваўчая работа, не ўласцівая спецыяльнай службе. На працягу «адлігі» супрацоўнікі КДБ БССР «прафілактавалі» 600–700 чалавек штогод.

Выступаючы на XXV з'ездзе КПБ, старшыня КДБ БССР Васіль Пятроў наступным чынам ахарактарызаваў гэты напрамак дзейнасці свайго ведамства: «На працягу 1960 г. і васьмі месяцаў 1961 г. КДБ і яго мясцовымі органамі прафілактавана каля 1 000 чалавек, з іх 32 % – моладзь да 25 гадоў. Выявілі ў Гродне тры нелегальныя моладзевыя групы: «Клуб свабоднай моладзі», «Саюз свабоднай моладзі», «Свабодная думка», – куды ўваходзілі студэнты і старшакласнікі. У першую групу ўваходзіла трое юнакоў 1940–1945 гадоў нараджэння, два камсамольцы, якія слухалі заходняе радыё, асуджалі савецкую рэчаіснасць, захапляліся джазавай музыкай і манерамі паводзін г. зв. «стыльнай» моладзі. У кватэры аднаго з удзельнікаў клуба знойдзены статут і запіскі антысавецкага зместу. У складзе дзвюх іншых груп было 9 чалавек, яны абмяркоўвалі на сходах статуты і праграмы прыдуманых арганізацый, крытыкавалі ў шэрагу выпадкаў палітыку партыі і ўрада. З улікам узросту і няспеласці, паводле ўзгаднення з Гродзенскім абкамам партыі, у дачыненні да іх былі праведзены прафілактычныя мерапрыемствы на сходах па месцы вучобы»[2]. Па словах таго ж Пятрова, на працягу 1964–1965 гг. у склад прафілактуемых за антыграмадскія праявы трапіла 55 камуністаў і каля 200 камсамольцаў[3].

Адначасова беларускія органы дзяржбяспекі спрабавалі ў сваёй дзейнасці абаперціся на падтрымку грамадства. Супрацоўнікі КДБ БССР выступалі з лекцыямі ў сталічных працоўных калектывах, ладзілі тэматычныя вечарыны «Дзяржаўная бяспека – усенародная справа» ў абласных цэнтрах рэспублікі, арганізавалі ў Менску публічную выставу, якую агледзела больш за 60 тыс. чалавек. У пачатку 1960-х гг. у некаторыя падраздзяленні, такія як служба вонкавага назірання, улікова-архіўныя аддзелы ды іншыя пачалі набіраць нештат-

[1] Тамсама, с. 114.

[2] НАРБ, ф. 4п, воп. 2а, спр. 8, арк. 352–353.

[3] Тамсама, спр. 9, арк. 175.

ных супрацоўнікаў, па аналогіі з добраахвотнымі народнымі дружынамі, якія ў той час з'явіліся ў міліцыі.

Пра згортванне рэпрэсіўнага складніка дзяржаўнай палітыкі ў адносінах да іншадумцаў сведчаць наступныя лічбы. У 1953 г. за «дзяржаўныя злачынствы» ў БССР было асуджана 74, у 1954 г. – 5, у 1955 г. – 13, у 1956 г. – 4, у 1957 г. – 96 чалавек[1]. У наступныя гады іх колькасць не перавышала дзесяці.

Рэзкае павелічэнне асуджаных у 1957 г. тлумачылася закрытым лістом камісіі ЦК КПСС на чале з Леанідам Брэжневым «Аб узмацненні палітычнай работы партыйных арганізацый у масах і спыненні вылазак антысавецкіх, варожых элементаў» ад 19 снежня 1956 г. Эксцэсы выканаўцаў гэтага дырэктыўнага ліста выклікалі нязгоду міністра юстыцыі БССР Івана Вятрова, якую ён выклаў у дакладзе партыйнаму кіраўніцтву рэспублікі пад назвай «Аб некаторых фактах парушэння сацыялістычнай законнасці па справах аб дзяржаўных злачынствах». Вятроў, у прыватнасці, паведамляў, што ў пачатку 1958 г. міністэрства юстыцыі вывучыла 61 справу, фігуранты якіх былі асуджаны па артыкуле 72 «а» КК БССР. Вывучэнне гэтых спраў паказала, што органы КДБ, пракуратура і абласныя суды дапускалі сур'ёзныя памылкі, кваліфікуючы словы, сказаныя ў стане алкагольнага ап'янення, ці антыграмадскія ўчынкі як антысавецкую прапаганду і агітацыю. У выніку Вярхоўны суд БССР змяніў значную колькасць прысудаў, перакваліфікаваўшы дзеянні асуджаных «антысаветчыкаў» як звычайнае хуліганства[2].

Але ў свядомасці супрацоўнікаў органаў дзяржбяспекі існавалі «чырвоныя ліміі», пераход якіх выклікаў з іх боку рэпрэсіі. У чэрвені 1958 г. пасля пратэсту старшыні КДБ БССР Аляксандра Перапяліцына Вярхоўны суд БССР накіраваў на дадатковы разгляд справу жыхара Клічаўскага раёна Мікалая Дубініна. Напярэдадні Судовая калегія па крымінальных справах Магілёўскага абласнога суда прыгаварала яго да трох гадоў зняволення па артыкуле 107 «б» КК БССР (злоснае хуліганства). Падобная кваліфікацыя злачынстваў Дубініна, які спачатку ў вузкім коле сяброў, а потым у публічных месцах усхваляў амерыканскі лад жыцця і крытыкаваў партыйнае кіраўніцтва на чале з Хрушчовым, выклікала абурэнне ў выкрыўшых яго аператыўнікаў КДБ. Не ў апошнюю чаргу на рашэнне перакваліфікаваць Дубініна з «хулігана» ў «антысаветчыка» паўплывалі лісты і пасылкі, якія ён рэгулярна атрымліваў з США ад сваякоў, заплямішых сябе супрацоўніцтвам з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі[3].

У верасні 1959 г., пасля звароту Перапяліцына ў ЦК КПБ, у Вярхоўным судзе БССР адбыўся перагляд справы жыхара Менска Андрэя Дастанкі. Суд

[1] Тамсама, воп. 62, спр. 487, арк. 243.

[2] Тамсама, арк. 245–282.

[3] Тамсама, арк. 351.

падоўжыў тэрмін зняволення былому інжынеру інстытута «Белэнергапраект», які знаходзіўся ў мардоўскіх лагерах, з 5 да 7 гадоў. Умяшальніцтва органаў дзяржбяспекі ў судовую вытворчасць на гэты раз выклікала дзёрзкасць «злачынцы» – са жніўня 1958 г. па красавік 1959 г. ён вырабіў і разаслаў у органы ўлады і рэдакцыі газет больш за 100 фотакалажаў антысавецкага характару[1].

Усяго ў снежні 1963 г. у Дубраўлагу – месцы ўтрымання савецкіх дзяржаўных злачынцаў у часы хрушчоўскай «адлігі» – знаходзілася каля 400 жыхароў БССР. Паводле інфармацыі лагернай адміністрацыі, многія з іх не адмовіліся ад злачынных намераў і працягвалі праводзіць антысавецкую дзейнасць. Змагацца са свавольнымі беларускімі палітзэкамі КДБ БССР планаваў у рамках іх перавыхавання шляхам прапаганды дасягненняў камуністычнага будаўніцтва ў рэспубліцы[2].

Увосень 1965 г. у Маскве былі арыштаваны пісьменнікі Юлій Даніэль і Андрэй Сіняўскі, якія надрукавалі свае творы за мяжой. Пра іх арышт і судовы працэс над імі паведамлялі заходнія СМІ. Супраць кваліфікацыі творчасці пісьменнікаў як дзяржаўнага злачынства выступілі дэманстранты на Пушкінскай плошчы Масквы. Дзякуючы гэтаму альтэрнатыўны погляд на працэс Даніэля і Сіняўскага зрабіўся вядомы за межамі сталіцы СССР. Сярод іншых падтрымку асуджаным выказалі дацэнт Віцебскага медыцынскага інстытута М. Якаўлеў, асістэнт кафедры БПІ Т. Шыманская, асістэнт кафедры Гомельскага педінстытута імя Чкалава І. Музыка, старшы выкладчык Магілёўскага педінстытута М. Луфераў, выкладчык Гродзенскага педінстытута А. Маркевіч[3].

Арышт Даніэля і Сіняўскага, які адбыўся менш чым праз год пасля зняцця Хрушчова з пасады першага сакратара ЦК КПСС, быў не адзінай прыкметай новага курсу савецкага кіраўніцтва на рэсталінізацыю. У друку з'явіліся станоўчыя ацэнкі Сталіна, узмацнілася цэнзура і ідэалагічны кантроль. Гэтыя небяспечныя сімптомы выклікалі як адкрытыя пратэсты, прагучаўшыя ў 1966 г. з вуснаў Васіля Быкава і Аляксея Карпюка на V з'ездзе пісьменнікаў, так і схаванае незадавальненне, пасіўны супраціў у колах ліберальнай інтэлігенцыі.

Адзін такіх з нонканфармісцкіх творчых асяродкаў згадаў ва ўспамінах паэт і перакладчык Валянцін Тарас. Яго удзельнікі, сярод якіх, акрамя мемуарыста, мы знаходзім мастакоў Барыса Заборава, Георгія Паплаўскага і Наталлю Лебедзеву, паэтаў Навума Кісліка і Фёдара Яфімава, скульптара Анатоля Анікейчыка, літаратуразнаўцу Алеся Адамовіча, філосафа Міколу Крукоўскага, мастацтвазнаўцу Алега Сурскага, «...зьбіраліся амаль кожны вечар, як адна

1 Тамсама, спр. 513, арк. 162–164.

2 Тамсама, спр. 633, арк. 72–73.

3 Тамсама, воп. 81, спр. 2260, арк. 14–15.

сям'я... быў час «кухонных размоў», гады «ўнутранай эміграцыі», калі толькі з самымі блізкімі людзьмі можна было гаварыць і спрачацца аб набалелым, аб тым, што дзеецца ў краіне»[1].

Няздольнасць кіраўніцтва краіны вырашыць набалелыя грамадска-эканамічныя праблемы, іх нежаданне прыслухоўвацца да ініцыятыў «знізу», рэпрэсіі ў дачыненні да іншадумцаў у другой палове 1960-х гг. радыкалізавалі лад мыслення нонканфармісцкіх інтэлігенцкіх колаў. 25 кастрычніка 1967 г. на імя Пятра Машэрава паступіла інфармацыя КДБ аб выяўленні групы інтэлігенцыі, што выступала супраць палітыкі КПСС. Збіраючыся на кватэры загадчыка аддзела газеты «Советская Белоруссия» Сяргея Вінаградава і яго жонкі пісьменніцы Лідзіі Вакулоўскай, яны вялі «палітычна нездаровыя размовы аб савецкай рэчаіснасці, чыталі і абмяркоўвалі г. зв. падпольную літаратуру, праслухоўвалі нездаровага характару песні Булата Акуджавы, Уладзіміра Высоцкага ды інш.»[2].

Казённыя радкі службовага данясення ўзбагачаюць эмацыйныя ўспаміны аднаго з удзельнікаў выяўленай групы Валянціна Тараса: «Зьбіраючыся ў Ліды ў ейнай кватэры на Берасьцянскай, мы – літаратары, журналісты, акторы, мастакі, кіношнікі – да хрыпаты спрачаліся пра палітыку, абураліся Брэжневым, ягонай хеўрай [...], цэнзура ў сваім пільнаванні даўно дайшла да ідыятызму, што паўтараецца «вялікая сталінская эпоха» ў выглядзе бяздарнага фарсу»[3].

Пасля абмеркавання «справы Вакулоўскай» на бюро ЦК КПБ 21 чэрвеня 1968 г. удзельнікаў сустрэч у доме на вуліцы Берасцянскай звальнялі з працы, выключалі з партыі, давалі строгія вымовы. Разам з імі аб'ектам ідэалагічных выхавальніцкіх мерапрыемстваў зрабіўся адзін са сталых гасцей Вакулоўскай славуты філосаф Вячаслаў Сцёпін[4].

Перыяд хрушчоўскай «адлігі» для дзяржаўна-царкоўных адносін шмат у чым быў адкатам у 1930-я гг. Распачынаючы ў 1958 г. антырэлігійную кампанію, М. С. Хрушчоў быў перакананы, што рэлігія павінна натуральна адмерці падчас пабудовы камуністычнага грамадства. Сваю задачу ён бачыў у стварэнні найбольш спрыяльных умоў для запланаванага адмірання. Пра гэта сведчыў шэраг вострых канфліктаў паміж вернікамі і ўладай, якія адбыліся ў другой пал. 1950-х – першай пал. 1960-х гг. Адзін з іх адбыўся 25 чэрвеня 1957 г. ля Дома ўрада ў Менску, дзе сабралася больш за 70 каталікоў, якія патрабавалі адкрыцця касцёла Узвіжання Святога Крыжа на Кальварыйскіх

1 В. Тарас, *На высьпе ўспамінаў*, Вільня 2007, с. 50.

2 НАРБ, ф. 4п, воп. 81, спр. 2158, арк. 59–152.

3 В. Тарас, *На высьпе ўспамінаў...*, с. 431.

4 НАРБ, ф. 4п, воп. 81, спр. 2157, арк. 32; спр. 2260, арк. 11, 13.

могілках. Прыйсці да Дома ўрада, дзе знаходзіўся кабінет упаўнаважанага па справах рэлігійных культаў пры Савеце Міністраў БССР Пятра Лабуса, людзей прымусіла безвыніковае ліставанне з прадстаўнікамі ўлады ўсіх узроўняў, уключаючы Хрушчова. Нягледзячы на шчырае жаданне вернікаў быць зразуметымі, – «габрэі ў Менску сінагогу маюць, баптысты малітоўны дом маюць, ёсць некалькі цэркваў для праваслаўных, а касцёла няма ў горадзе ніводнага» – старшыня Менскага гарвыканкама Васіль Шарапаў ім адмовіў[1].

Другая палова 1950-х гг. была часам узмацнення канфрантацыі дзяржавы з пратэстантамі, якія супраціўляліся ўсталяванню над імі адміністрацыйнага кантролю. У студзені 1958 г. у в. Манькавічы Столінскага раёна адбыўся аб'яднаны малітоўны сход ЕХБ, у якім удзельнічала каля 700 вернікаў, у т. л. з Ровенскай, Валынскай, Бранскай, Маскоўскай і іншых абласцей[2]. Асабліва небяспечнымі, з прычыны практык прароцтваў і гласалаліі, лічыліся не падлягаўшыя рэгістрацыі суполкі пяцідзясятнікаў, адна з якіх аб'яднала групу рабочых і служачых Менскага трактарнага завода. Яе сябры ладзілі таемныя сходы на кватэрах у трактаразаводскім пасёлку, дзе слухалі прароцтвы і чыталі рэлігійную літаратуру, нелегальна дастаўленую з ЗША[3]. Падчас Усесаюзнага перапісу насельніцтва 1959 г. сведкі Іеговы з в. Забор'е Браслаўскага раёна і «мурашкаўцы» з в. Рэдзькі Маладзечанскага раёна адмовіліся размаўляць з перапісчыкамі[4].

У ліпені – жніўні 1957 г. П. М. Лабус выязджаў у Іўеўскі і Нясвіжскі раёны для назірання за рытуаламі ахвярадаўства на мусульманскае свята Курбан-байрам. У кастрычніку таго ж года мясцовыя ўпаўнаважаныя па справах рэлігійных культаў інфармавалі яго пра святкаванне Ём-Кіпура ў Магілёве, Бабруйску, Барысаве і іншых гарадах. 20 мая 1958 г. у дзень з'яўлення Жыровіцкага абраза Маці Божай Г. І. Сямёнаў зафіксаваў у Жыровічах больш за 7 тыс. паломнікаў. Жыровічы былі не адзіным «святым месцам» у БССР, дзе збіраліся вернікі. Прыкладна столькі ж паломнікаў прыбыло 5 чэрвеня 1958 г. ушанаваць мошчы Еўфрасінні Полацкай у Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр. Шмат багамольцаў наведвала святыя крыніцы і камяні ў розных кутках Беларусі[5].

КДБ і мытня старанна кантралявалі ўсе спробы ўвозу кніг, часопісаў і іншай друкаванай прадукцыі рэлігійнага характару. Першае ў рамках кампаніі буйное затрыманне «рэлігійнай кантрабанды» на Брэсцкай мытні адбылося 21 лістапада 1958 г., калі шведскі місіянер Ніклас Андэрс спрабаваў увез-

1 Тамсама, ф. 952, воп. 3, спр. 9, арк. 70.

2 Тамсама, спр. 15, арк. 4.

3 Тамсама, ф. 4п, воп. 62, спр. 464, арк. 60.

4 Тамсама, ф. 952, воп. 3, спр. 17, арк. 49.

5 Тамсама, ф. 4п, воп. 62, спр. 483, арк. 240–247.

ці ў СССР каля 300 Біблій і вялікую колькасць пратэстанцкіх улётак[1]. Нягледзячы на ўзмацненне мытнага кантролю, падчас правядзення якога рэлігійная літаратура прыраўноўвалася да парнаграфіі, спробы нелегальнай дастаўкі беларускім баптыстам надрукаваных на Захадзе накладаў Бібліі рабіліся і надалей[2]. Падобным чынам рэгулярна падтрымлівалі сваіх адзінаверцаў у Беларусі польскія каталікі[3].

Нягледзячы на эканамічны, сацыяльны і псіхалагічны ціск, з мэтай больш шага ахопу людзей святары здзяйснялі па дзве абедні на дзень, завочна адпявалі памерлых, ладзілі агульныя споведзі, уключалі жанчын у царкоўныя выканаўчыя органы. Зняты з рэгістрацыі святар Сарока ўдзельнічаў у вячорках у Кобрынскім раёне ў якасці гарманіста, прапануючы моладзі правесці бясплатна абрад вянчання. Святар зачыненай царквы ў в. Дубай Столінскага раёна Вярхушкін у царкоўным уборы наведваў школу, дзе вёў з дзецьмі гутаркі на рэлігійныя тэмы[4]. Настаяцель зачыненай Голенеўскай царквы Нагорны папярэджваў жыхароў Магілёўскага раёна: «Гора тым, хто спакусіцца прынадай сатаны, выратавання ім не будзе»[5].

У дачыненні да парушальнікаў, якія працягвалі займацца душпастырскай працай, а таксама крытыкаў дзяржаўнага атэізму і антырэлігійнай кампаніі, акрамя зняцця з рэгістрацыі, дзяржава ўжывала ўвесь спектр рэпрэсіўных захадаў, ад публічнай дыскрэдытацыі да турэмных тэрмінаў.

У 1958 г. неўзабаве пасля вяртання з ГУЛАГа «як рэцыдывіст» быў асуджаны ксёндз Кобрынскага касцёла Юзаф Гарадзенскі[6]. Ён атрымаў пяць гадоў новага турэмнага зняволення. Праз два гады святара зачыненай у Хойніках праваслаўнай царквы Іосіфа Рынкевіча за арганізацыю нелегальнага малітоўнага дома выслалі ў Тураўскі раён на спецпасяленне[7]. У 1961 г. суд Варашылаўскага раёна г. Менска за правядзенне набажэнстваў у прыватных кватэрах прыгаварыў ксяндза Вікенція Варша да года зняволення[8].

---

1 НАРБ, ф. 4п, воп. 62, спр. 508, арк. 59.

2 А. Андреевич, *Контрабанда духовной сивухи,* «Советская Белоруссия», 1964, № 167, с. 4.

3 НАРБ, ф. 4п, воп. 62, спр. 651, арк. 39.

4 Тамсама, спр. 510, арк. 85.

5 Тамсама, спр. 667, арк. 226.

6 A. Hlebowicz, *Kościół w niewoli: kościół rzymskokatolicki na Białorusi i Ukrainie po II wojnie światowej,* Warszawa 1991, s. 22.

7 НАРБ, ф. 4п, воп. 62, спр. 593, арк. 154.

8 А. Лятьевский, Л. Дедковский, *Тунеядец-миссионер получил по заслугам,* «Знамя юности», 1961, № 42, с. 3.

Асаблівую нянавісць у партыйных ідэолагаў выклікала дзейнасць пяцідзясятнікаў, іегавістаў і іншых «фанатычных сект»[1]. Іх абвінавачвалі ў рэлігійным фанатызме, антыдзяржаўных настроях, разбэшчанасці і нават рытуальных забойствах. Працягам некаторых падобных абвінавачанняў, якія фабрыкаваліся партыйнымі ідэолагамі ў супрацы са спецыялістамі КДБ БССР, магло быць не толькі звальненне з працы, але таксама паказальныя судовыя працэсы і турэмнае зняволенне. У дачыненні да кіраўнікоў і сяброў пратэстанцкіх суполак ужывалі адмыслова створаны для іх у Крымінальным кодэксе БССР 1960 г. артыкул 222 «Замах на асобу і правы грамадзян пад выглядам выканання рэлігійных абрадаў»[2]. Акрамя таго, іх высылалі паводле ўказа Вярхоўнага Савета БССР ад 15 мая 1961 г. «Аб узмацненні барацьбы з асобамі, якія ўхіляюцца ад грамадска-карыснай працы і вядуць антыграмадскі, паразітычны лад жыцця»[3].

У 1962 г. розныя тэрміны зняволення (па 2 гады – шараговыя сябры, па 5 – прэсвітэры Міхаіл Пачарняеў і Леанід Ганчарэнка[4]) атрымала група менскіх пяцідзясятнікаў, якая складалася пераважна з прадстаўнікоў рабочых прафесій. Іх абвінавачвалі ў адмове служыць у войску, навучанні рэлігіі непаўналетніх ды інш.[5] Усяго ў 1962 г. у рэспубліцы было асуджана 36 актыўных прадстаўнікоў «фанатычных, антыдзяржаўных сект»[6].

У наступным годзе адбыліся працэсы над пяцідзясятнікамі ў Калінкавічах[7], Паставах[8] ды іншых мясцовасцях. Тады ж да розных тэрмінаў (ад 2 да 5 гадоў) Менскі абласны суд прыгаварыў групу актыўных евангельскіх хрысціян-баптыстаў, у тым ліку Ул. Антоненку, Р. Макаранку і А. Піліпенку[9]. Усяго ж на працягу 1963 г. супраць кіраўнікоў незарэгістраваных рэлігійных аб'яднан-

---

1 НАРБ, ф. 4п, воп. 62, спр. 535, арк. 90.

2 *Крымінальны кодэкс Беларускай ССР*, Мінск 1961, с. 74.

3 *Указ Прэзідыўма Вярхоўнага Савета Беларускай ССР «Аб узмацненні барацьбы з асобамі, якія ўхіляюцца ад грамадска-карыснай працы і вядуць антыграмадскі паразітычны спосаб жыцця»* [у] *Збор законаў, указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, пастаноў і распараджэнняў Савета Міністраў Беларускай ССР*, Мінск 1961, № 16 (936), с. 725–727.

4 Ю. Лабун, В. Яковенко, *Сколько веревочке ни виться...*, «Знамя юности», 1962, № 40, с. 4.

5 А. Сашин, *Ядовитые сорняки*, «Советская Белоруссия», 1962, № 52, с. 3, 4.

6 НАРБ, ф. 4п, воп. 62, спр. 624, арк. 30.

7 И. Климашевская, *Обчинский мученик*, «Советская Белоруссия», 1963, № 242, с. 4.

8 Н. Астаневич, *Переполох в осином гнезде*, «Советская Белоруссия». 1963, № 5, с. 2.

9 Г. Нужкова, *Фанатыкі на лаве падсудных*, «Чырвоная змена», 1963, № 27, с. 4.

няў, пераважна пяцідзясятнікаў, у БССР было арганізавана 17 судовых працэсаў, па выніках якіх да розных тэрмінаў зняволення прыгаварылі 54 чалавекі[1]. Суды над пяцідзясятнікамі, у выніку якіх некаторых з іх пазбаўлялі бацькоўскіх правоў, працягнуліся ў 1964 г.[2]

У рэдкіх выпадках анархічны пратэст супраць несправядлівасці жыцця, спантанныя антысавецкія праявы і пабытовае хуліганства факусіраваліся ў адной кропцы і нараджалі масавыя хваляванні. Яны ўвасаблялі крайнюю форму канфлікту паміж народам і ўладай, пачыналіся звычайна абурэннем дзеяннямі чыноўнікаў на месцах, а падчас іх кульмінацыі гучалі заклікі супраць усёй сістэмы ўлады. Не былі ў гэтым сэнсе выключэннем хваляванні ў Слуцку, якія адбыліся ў кастрычніку 1967 г. Прычыны тых трагічных падзей мелі відавочны сацыяльна-палітычны характар. Случчакі не паверылі, што забойства муляра Аляксандра Нікалаеўскага начальнікам мясцовага райаддзела культуры камуністам Генадзем Гапановічам будзе справядліва пакарана судом, з-за ціску партыйных органаў. Апошняе ў той час было звычайнай практыкай. Жыхары горада патрабавалі вышэйшай меры пакарання для забойцы, у той час як следства лічыла злачынства хуліганствам і абвінавачанаму пагражала да 8 гадоў.

Слуцкія хваляванні таксама справакавала парушэнне замацаванага ў законе прынцыпу галоснасці судовага разбіральніцтва. Некалькім сотням людзей, якія сабраліся ў дзень пачатку працэсу ля будынка суда адмовілі ва ўсталяванні гукаўзмацняльніка. Сітуацыя пагаршалася чуткамі пра варожасць паміж сям'ёй Нікалаеўскіх, якія ў вайну былі партызанамі, і Гапановічамі, якія служылі нацыстам.

У выніку трохтысячны натоўп, раз'юшаны ігнараваннем яго патрабаванняў, спаліў будынак суда. У агні загінула суддзя Галіна Аляксеева, а праз некаторы час у бальніцы памёр яшчэ адзін пацярпелы – старшы лейтэнант міліцыі Станіслаў Татур. 80 вайскоўцаў і супрацоўнікаў міліцыі атрымалі розныя цялесныя пашкоджанні. Напярэдадні святкавання 50-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі з натоўпу гучалі заклікі «смерць камуністам». Мясцовая ўлада і міліцыя на некаторы час страцілі кантроль над сітуацыяй.

Расследаваннем трагедыі займалася адмысловая камісія, якая складалася з прадстаўнікоў партыйнага кіраўніцтва, МУС, КДБ як рэспубліканскага, так і агульнасаюзнага ўзроўню. Усяго па справе аб слуцкіх хваляваннях было асуджана больш за 70 чалавек. 15 найбольш актыўных удзельнікаў атрымалі ад 3 да 5 гадоў зняволення, а двух падпальшчыкаў асудзілі да пакарання смерцю. Пакаралі нават тых, хто ў час судовага працэсу збіраў подпісы пад пасланнем у ЦК КПСС. Забойцу Гапановічу, як і меркавалася раней, далі 8 гадоў[3].

---

1 НАРБ, ф. 4п, воп. 62, спр. 651, арк. 30.

2 *«Служкі боскія» перад судом*, «Беларусь», 1964, № 5, с. 27.

3 Тамсама, ф. 188, воп. 4, спр. 1764, арк. 3–13, 27–33.

На думку стваральніка маскоўскага Інстытута грамадскай думкі Барыса Грушына, які на працягу 1960–1967 гг. правёў шэраг важных сацыялагічных даследаванняў, стаўленне большасці савецкіх людзей да ўлады мела «крытычна-канструктыўны» характар. Нягледзячы на крытыку паўсядзённага жыцця, на атмасферу ўсеагульнай незадаволенасці тым, як функцыянуюць сродкі транспарту, установы гандлю і пабытовага абслугоўвання, месцы адпачынку і г. д., нягледзячы нават на прамыя выпады супраць мясцовага начальства, апытанні 1960-х гг., у якіх бралі ўдзел жыхары БССР, прадэманстравалі палітычную лаяльнасць большасці насельніцтва[1].

Разам з тым спыненне масавых рэпрэсій, асуджэнне культу Сталіна, рост адукаванасці моладзі, прыадкрыццё «жалезнай заслоны», знаёмства з сусветнай культурай не толькі ўзбагацілі, але і разнявolілі беларускае грамадства. З'явіліся дзясяткі нефармальных груп і сотні асоб, якія ўзнялі пытанне аб альтэрнатыўных шляхах грамадска-палітычнага развіцця краіны. У асноўным гэта былі маладыя інтэлігенты і студэнты. Адначасова назіралася абуджэнне рабочага руху, удзельнікі якога пачалі адстойваць свае правы шляхам забастовак. У асобных выпадках у выніку неспрыяльнага збегу абставін канфлікт улады і грамадства набываў выбуховы характар і правакаваў масавы гвалт.

Усё разам сведчыла пра працяг адкладзенага на чвэрць стагоддзя працэсу фармавання грамадзянскай супольнасці, самавызвалення, адстойвання права людзей на актыўны ўдзел у грамадска-палітычным жыцці рэспублікі.

---

[1] Б. Грушин, *Четыре жизни России в зеркале опросов общественного мнения. Очерки массового сознания россиян времен Хрущева, Брежнева, Горбачева и Ельцина в 4 книгах. Жизнь 1-я. Эпоха Хрущева*, Москва 2001, с. 505.

ISSN 2424-5216

# ВОБРАЗЫ САВЕЦКАЙ РЭЧАІСНАСЦІ 1960-х гг.: ПЕРАПІСКА «АНТЫСАВЕТЧЫКАЎ» ЛУЦКЕВІЧАЎ[1]

***Мікола Бянько,***
*магістр палітычных навук (Менск)*

***Summary***

*The basis of this article is the correspondence between the former prisoner of soviet concentration camps, the founder of the Homiel branch of the Belarusian People's Front Uladzimir Stryhutsky and the children of the Prime Minister of the Belarusian Popular Republic Anton Lutskevich (Yury and Lyavon Lutskevich). The letters were written in the period from 1965 to 1968. The correspondence covers two Soviet eras: the end of the "Khrushchev Thaw" and the beginning of the "Brezhnev Stagnation". The analysis of the contents of the letters of famous anti-soviet activists significantly expands knowledge about the origins of informal communities in the BSSR, gives an idea about how famous figures of the Belarusian national movement lived and what they did during the years of "developed socialism".*

***Уводзіны***

Даследчыкі антысавецкіх і дысідэнцкіх супольнасцей Беларусі сутыкаюцца з праблемай абмежаванай колькасці крыніц для вывучэння пытання функцыянавання падпольных антысавецкіх рухаў. Гэта абумоўлена як параўнальнай слабасцю паваеннага антысавецкага супраціву ў БССР і адносна малой колькасцю ўдзельнікаў гэтага руху, так і спецыфікай тэмы, якая дагэтуль знаходзіцца пад грыфам сакрэтнасці. Дзяржаўныя архівы ў Беларусі, якія могуць захоўваць інфармацыю пра дзейнасць «антысаветчыкаў» у СССР, закрытыя для карыстання. Адпаведна, адной з нешматлікіх магчымасцей для даследавання абставін

[1] The project is financed by the funds of the Development Cooperation and Democracy Promotion Programme.

жыцця, побыту, поглядаў і каштоўнасцей прадстаўнікоў дысідэнцкіх і калядысідэнцкіх рухаў з'яўляюцца сямейныя архівы нашчадкаў рэпрэсаваных савецкай сістэмай грамадзян. У гэтых архівах часам можна натрапіць на надзвычай змястоўныя дакументы ў эпісталярным жанры, якія даюць уяўленне пра тое, як жылі і чым займаліся дзеячы нацыянальнага руху Беларусі. Аналіз лістоў «антысаветчыкаў» дазваляе папоўніць уяўленне пра вытокі нефармальных супольнасцей у БССР, якія ў канцы 1980-х гг. гучна заявілі пра сябе ў фармаце Беларускага народнага фронту.

У маім распараджэнні апынулася частка архіву былога вязня савецкіх лагераў, вядомага ў 1980-я і 1990-я гг. гомельскага актывіста Уладзіміра Стрыгуцкага[1], які цягам некалькіх дзесяцігоддзяў ліставаўся са сваімі сябрамі – віленчукамі, дзецьмі славутага беларускага палітыка, грамадскага дзеяча і выдаўца Антона Луцкевіча Юрыем і Лявонам[2]. У межах даследавання прааналізаваны змест 40 лістоў Уладзіміру Стрыгуцкаму ад братоў Луцкевічаў, напісаных у перыяд з 1965 па 1968 г. Перапіска ахоплівае канец г. зв. «адлігі» і пачатак «застою». Тэкставы масіў складае прыблізна 70 рукапісных старонак.



*Частка архіва Ул. Стрыгуцкага. 1960-я гг.*

У прыватнай перапісцы, якую захавала ўдава Уладзіміра Стрыгуцкага пані Яніна, захавалася мноства згадак пра сітуацыю ў паўпадпольным беларускім руху ў часы СССР, успаміны пра ўмовы жыцця вязняў сталінскіх лагераў, развагі пра міжнародную абстаноўку часоў халоднай вайны, жыццё беларускай абшчыны ў сталіцы Літоўскай

[1] Уладзімір Язэпавіч Стрыгуцкі (29.10.1924–03.03.2005) – палітрэпрэсаваны, заснавальнік гомельскай арганізацыі Беларускага народнага фронту, удзельнік З'езда беларусаў свету ў 1993 г.

[2] Антон Іванавіч Луцкевіч (29.01.1884–23.03.1942) – беларускі палітык і грамадскі дзеяч, выдавец, рэдактар «Нашай Нівы», сябра Рады БНР, прэм'ер-міністр БНР. Юрый Луцкевіч (22.10.1920–12.08.1992) – беларускі грамадскі дзеяч, вайсковец, палітрэпрэсаваны. Лявон Луцкевіч (13.03.1922–28.07.1997) – беларускі грамадскі дзеяч, мемуарыст, педагог, палітрэпрэсаваны.

ССР, рэфлексіі на тэму калабарацыянізму падчас Другой сусветнай вайны, пра стан медыцыны, жыллёвае пытанне, харчовыя праблемы і г. д. 1960-х гг.

Падчас працы з архівам Уладзіміра Стрыгуцкага паўсталі праблемы з вызначэннем дакладных дат напісання некаторых лістоў, а таксама з ідэнтыфікацыяй згаданых асоб. Таксама трэба адзначыць фрагментарнасць і расцярушанасць асобных лістоў.

Для навуковых і публіцыстычных матэрыялаў, прысвечаных тэме савецкай рэчаіснасці, часта ўласцівы набор тых самых хібаў, а менавіта аднабаковасць падачы фактаў, тэндэнцыйнасць, падборка дадзеных паводле ідэалагічных установак аўтараў, канстатацыя гамагеннасці савецкага грамадства, фіксацыя на тэме рэпрэсій і перабольшанне ўплыву апаратаў спецслужбаў і КПСС. Насамрэч савецкае грамадства, як і любое іншае, было працятае мільёнамі нябачных сувязяў, нефармальнымі і сваяцкімі стасункамі, працоўнымі ўзаемаадносінамі, якія заставаліся па-за кантролем кіруючых органаў. З дапамогай асабістых кантактаў савецкія грамадзяне паляпшалі побыт, здароўе і жыллёвыя ўмовы, арганізоўвалі адпачынак і дабрабыт.

Акрамя гэтага ў пэўныя перыяды пасляваеннай гісторыі СССР культура супраціву, «блатная культура» альбо праявы непрымання афіцыйных установак былі настолькі пашыраныя сярод грамадзян, што нават беларускія «антысаветчыкі» адчувалі сябе дастаткова вольна. Пра гэта, напрыклад, можна даведацца з некаторых лістоў у архіве У. Стрыгуцкага. У якасці прыкладу можна прывесці наступны факт. 25 кастрычніка 1965 г. падчас дзяжурства на віленскім заводзе «Электраканструкцыя» старшы канструктар Юрый Луцкевіч напісаў свайму сябру Валодзі Стрыгуцкаму ліст. У жартаўлівай манеры сын прэм'ер-міністра БНР распавёў «калымскаму аднапалчаніну» пра свае прыгоды падчас паездкі на вяселле да сваёй пляменніцы Маргарыты ў Ленінград. У адным з фрагментаў ліста аўтар згадваў, як ленінградскія студэнткі падчас застолля заспявалі песню «Ванінскі порт»: «Дзеўкі здорава пялі, а пялі аб усім, у тым ліку і пра праклятую цаліну, і пра Ванінскі порт»[1].

Песня «Ванінскі порт» была папулярнай сярод былых вязняў ГУЛАГа ў пасляваенны час. Дагэтуль невядома, хто канкрэтна напісаў радкі пра «праклятую Калыму», але аўтарства прыпісваюць рэпрэсаванаму паэту Барысу Руч'ёву[2]. У 1960-я гг. гэту песню выконваў спявак-самавук Серж Нікольскі (Усевалад Сцяпанаў), які тайна разам з ансамблем запісаў адзін з першых узораў шансону на падпольнай ленінградскай студыі «Залаты сабака». Браты Луцкевічы-малодшыя, якія загубілі сваю маладосць на сопках Калымы,

---

[1] Тут і далей захоўваецца стыль і арфаграфія аўтараў лістоў (*заўвага аўт.*).

[2] Барыс Руч'ёў (Барыс Аляксандравіч Крывашчокаў, 02.06.1913–24.10.1973) – савецкі паэт, які правёў шмат гадоў у зняволенні па палітычным артыкуле. Рэабілітаваны ў 1957 г.

аценілі песню «Ванінскі порт» у выкананні ленінградскай моладзі. Дарэчы, тое, што студэнткі спявалі «зэкаўскую» песню наўпрост на вяселлі, сведчыць пра яе папулярнасць у шырокіх колах грамадства.

Вывучэнне лістоў Юркі і Лявона Луцкевічаў каштоўнае таксама з пункту гледжання аналізу моўнай палітыкі ў БССР як складніка саветызацыі насельніцтва Беларусі. У развагах удзельнікаў перапіскі не аднойчы ўздымалася пытанне моўнай дыскрымінацыі прадстаўнікоў тытульнай нацыі ў БССР.

Найбольш увагі ў перапісцы надавалася вырашэнню побытавых пытанняў у ЛССР і БССР – ад жыллёвага пытання да прадуктаў харчавання. Гэты масіў інфармацыі цікавы ў плане вывучэння гісторыі савецкай штодзённасці. Варта адзначыць, што яна ацэньвалася ідэйнымі апанентамі савецкай улады, удзельнікамі беларускага нацыянальнага руху, якія жылі ў міжваенны час у Польшчы і мелі замежных сваякоў. То бок, мы маем у распараджэнні адметны дакумент часу, у якім зафіксаваны як поспехі савецкай гаспадаркі пры Мікіце Хрушчове (масавае жыллёвае будаўніцтва, 8-гадзінны працоўны дзень, санаторна-курортны адпачынак і г. д.), так і хібы адміністрацыйна-планавай эканомікі (малыя заробкі, тавары нізкай якасці, дэфіцыт прадуктаў харчавання і алкагольных вырабаў), «паказуха» юбілейных мерапрыемстваў. Даследаванне спажывецкіх звычак герояў перапіскі таксама дапамагае скласці ўяўленне пра тое, як яны намагаліся дасягнуць балансу паміж забеспячэннем камфортнага жыцця і суіснаваннем з таталітарнай сістэмай.



*Сяброўская сустрэча. Злева направа: Ул. Стрыгуцкі, Юрка і Лявон Луцкевічы. Канец 1950-х – пачатак 1960-х гг.*

«Каханенькія-родненькія», «даражэнькія», «даражэнькая нашая чацвёрка», «даражэнькія калымчане!», – так звычайна пачыналіся лісты «антысаветчыкаў» Юркі і Лявона Луцкевічаў да гомельскіх сяброў, што паказвае блізкую сувязь з людзьмі, з якімі лёс звёў іх падчас адбывання пакарання на расійскай Поўначы. «Адказным сакратаром» па перапісцы з боку віленчукоў прызначыў сябе сам Юрый Луцкевіч. Менавіта ад яго імя была напісана асноўная колькасць лістоў у Гомель.

Большасць лістоў з перапіскі датуецца 1960-мі гг., калі жыхары СССР трошкі вальней уздыхнулі пасля смерці Сталіна. На фоне хрушчоўскай «адлігі» нямногія ацалелыя ад рэпрэсій і вайны апаненты савецкай дзяржавы выпрасталі плечы і пачалі адбудоўваць жыццё, зруйнаванае тэрорам і галечай. Былыя вязні сталінскіх лагераў, у т. л. беларускія нацыянальныя дзеячы, спрабавалі наладзіць побыт, паправіць здароўе, імкнуліся дыхаць на поўныя грудзі, ездзілі адпачываць на курорты.

Чытаючы сяброўскую перапіску, не пакідае ўражанне, што аўтары падсвядома пісалі падрабязна пра савецкую штодзённасць, не абмінаючы дэталяў, спадзеючыся, відаць, што некалі нашчадкі ўсё ж пачытаюць іх думкі і зразумеюць, што нават ва ўмовах рэгламентаванай савецкай рэчаіснасці можна было ў пэўных межах рабіць беларускую справу і ўзбагачаць прыватнае жыццё дробнымі прыемнасцямі.

### *Беларуская мова і нацыянальнае пытанне ў СССР*

Лісты Луцкевічаў-малодшых да Стрыгуцкага таксама з'яўляюцца дастаткова каштоўнай крыніцай для вывучэння нацыянальнага пытання ў БССР і Літоўскай ССР. У перапісцы неаднойчы распавядаецца пра тое, як адчуваюць сябе прадстаўнікі беларускай нацыянальнай меншасці ў Савецкай Літве. Яшчэ адзін аспект – стаўленне дзеячаў беларускага руху да працэсу саветызацыі Літвы. У прыватнасці, ёсць некалькі замалёвак пра тое, як адзначалася 25-годдзе далучэння Літвы да СССР.

Зразумела, праблемы ідэнтычнасці і пытанні моўнай дыскрымінацыі не пакідалі абыякавымі тых дзеячаў, усё жыццё якіх было звязана з беларускай мовай і культурай. Асабліва гэта датычыла нямногіх ацалелых пасля Другой сусветнай вайны і сталінскіх рэпрэсій «антысаветчыкаў», якія асцярожна, ва ўмовах савецкай цэнзуры, намагаліся супрацьстаяць палітыцы русіфікацыі. Ці, прынамсі, крытыкавалі гэту з'яву падчас асабістых сустрэч.

Так, сын прэм'ер-міністра БНР Юрка Луцкевіч у лісце да свайго сябра, датаваным 27 лютага 1968 г., апісвае моўныя прыярытэты камуністаў БССР: «Атрымаў пісьмо ад Лёнькі Ганька са Злучаных Штатаў. Быў ён на выстаўцы ў Манрэалі, але ў савецкі павільён не папаў. Гэткая там была чарга. Хацеў спецыяльна прыехаць на «беларускі дзень», але дзень быў звычайны, і ён не змог звольніцца з працы. Чуў толькі, што там Кісялёў аўтарытоўна заявіў, што беларускі народ мае дзве родныя мовы. (Не сказаў толькі, відаць, якім шляхам гэтага дасягнулі)». У гэтым эпізодзе гаворка ідзе пра сусветную выставу ў канадскім Манрэалі, якую савецкія ўлады намагаліся выкарыстаць дзеля рэкламы гаспадарчых дасягненняў. СССР меў свой уласны павільён, які маглі наведаць некалькі мільёнаў чалавек. Для БССР як для вітрыны савецкай індустрыялізацыі выдзелілі адзін дзень – 28 верасня 1967 г. Тагачасныя канадскія газеты апісвалі візіт кіраўніцтва БССР, у т. л. згадвалі прамову старшыні

Саўміна БССР Ціхана Кісялёва, пра якога ішла гаворка ў лісце Юркі Луцкевіча[1].

Сітуацыя моўнай дыскрымінацыі ў БССР, калі беларускай мове адводзілася дэкаратыўная роля, не магла не хваляваць маладых бацькоў з ліку былых удзельнікаў антысавецкага руху Беларусі. Імкненне вырасціць наступныя пакаленні беларусамі сутыкалася не толькі са шматлікімі бюракратычнымі перашкодамі і адсутнасцю паўнавартаснай беларускамоўнай адукацыі, але і з натуральнымі сумневамі саміх бацькоў адносна таго, як іх дзеці будуць адчуваць сябе ў рускамоўным асяроддзі. 12 снежня 1964 г. Юрый Луцкевіч пісаў сваім сябрам Стрыгуцкім у пасёлак Матросава Магаданскай вобл.: «Даражэнькія Яня, Валодзя і Косцік! Вельмі добра, што хочаце Кастуся зрабіць беларусам не толькі па пашпарту, але і па мове. Параю толькі адно, пакуль не прыедзеце дамоў часцей гаварыце з ім па-беларуску. Не бойцеся, што ў яго мовы пераблытаюцца. Мы з Лёнькам змалку вучыліся на трох мовах: бацька гаварыў з намі выключна па-беларуску, маці больш па-руску, а кухарка – па-польску. А ў Вільні шмат хто з рускіх, ці беларусаў цяпер пасылаюць сваіх дзяцей у літоўскі дзіцячы садок: у рэзультаце дзеці адразу вучацца на дзвюх мовах і гавораць без аніякага акцэнту».



*Канатны мост у ваколіцах пасёлка Матросава на Калыме. Канец 1950-х гг.*

Юрый Луцкевіч пасля вызвалення з лагера працягваў жыць нейкі перыяд на Калыме, дзе пазнаёміўся з Нінай Злыгосцевай. Масквічка была на 15 гадоў маладзейшая і на той момант мела мужа, ад якога нарадзіла першынца Сяргея. Пазней, праўда, сямейнае жыццё ў Ніны не заладзілася. Яна пераехала да Юрыя ў Вільню, дзе яны пабраліся шлюбам. Луцкевіч-малодшы ўсынавіў Сяргея і даў яму сваё прозвішча. У лістах да Уладзіміра Стрыгуцкага, датаваных

[1] І. Астраўцова, *Рэклама БССР за мяжою, або як капіталістаў на возе з сенам каталі* [online] https://belsat.eu/opinions/reklama-bssr-za-myazhoyu-abo-yak-kapitalista-na-voze-z-senam-katali/, [дата доступу: 19.03.2022].

1967 г., ён распавядае пра поспехі ў выхаванні прыёмнага сына: «Сярожка ўжо часам прыносіць тройкі і нават чацвёркі, але-ж пакуль што і двоек хапае. Дастаў ад мяне па карку, бо «паправіў» папраўку настаўніцы, шчыра ўпэўнены, што ўсюды замест «перрон» трэба пісаць «перлон». А па-беларуску ён ужо ўмее дэкламаваць: "Ходзіць Бай па сцяне ў чырвоным жупане. Нёс сямёра лапцей: і сабе, і жане, і дзіцёнку па лапцёнку! Баяць, ці не?"».

Праз некалькі месяцаў, 23 снежня 1967 г. Сяргей змог падцягнуць адзнакі і скончыць год з добрымі вынікамі: «Сярожка першы трыместр закончыў даволі паспяхова: ёсць і пяцёркі, і чацвёркі, і тройкі. А двойка адна, вядома, па рускай мове! Думаем адправіць яго падчас зімовых канікул дзянькоў на дзесяць у Маскву – да бабкі».

### *Адхіленне ад улады Хрушчова*

У кастрычніку 1964 г. падчас адпачынку на абхазскім курорце Піцунда Мікіту Хрушчова выклікалі на пасяджэнне Пленума ЦК КПСС у Маскву. 13 кастрычніка М. Хрушчоў падвергся крытыцы за «дыскрэдытацыю папярэднікаў», «аўтарытарны стыль кіравання», Карыбскі крызіс і няўдалыя рэформы. Увесь вечар першы сакратар ЦК КПСС выслухваў прэтэнзіі ад паплечнікаў. Крытыка Хрушчова працягнулася і на наступны дзень. Не знайшоўшы падтрымкі, паводле ўспамінаў удзельнікаў сустрэчы, Мікіта Хрушчоў заявіў: «Я ўжо стары і стаміўся. Няхай цяпер даюць рады самі. Галоўнае я зрабіў. Адносіны між намі, стыль кіраўніцтва памяняўся ў корані. Хіба каму-небудзь магло прымроіцца, што мы можам сказаць Сталіну, што ён нас не задавальняе, і прапанаваць яму пайсці ў адстаўку? Ад нас мокрага месца не засталося б»[1].

У аўтабіяграфічным творы «Бадалася цяля з дубам» расейскі нобелеўскі лаўрэат і дысідэнт Аляксандр Салжаніцын успрыняў сыход Мікіты Хрушчова як пачатак магчымай рэсталінізацыі. Ва ўспамінах пісьменнік адзначаў, што пасля навіны пра адхіленне ад улады Хрушчова ён пачаў хаваць свае рукапісы. Гледзячы па ўсім, такая рэакцыя была дастаткова тыповай для крытычна настроеных да камуністычнага рэжыму грамадзян з улікам вопыту сталінскіх рэпрэсій. Пра тое, як адрэагавалі на зняцце з пасады ўсемагутнага Хрушчова прадстаўнікі беларускіх нацыянальных колаў, інфармацыі ў мемуарах надзвычай мала. У лістах Луцкевічаў да свайго «калымскага аднапалчаніна» можна знайсці частковы адказ на гэта пытанне.

Так, у лісце ад 20 кастрычніка 1964 г. Юрый Луцкевіч асцярожна пісаў пра магчымыя перамены: «16-га, у дзень армянскага радыё былі аж тры падзеі

---

1 С. Ореханов, *Как сместили Хрущева. Краткий путеводитель по первой смене власти в истории России XX века, для которой не потребовалось ни насилия, ни смерти правителя*, «Arzamas», 2022 [online] https://arzamas.academy/materials/665], [дата доступу: 20.05.2022].

важнага міжнароднага значэння: кітайцы кінулі бомбу, у Англіі прыйшлі да ўлады сацыялісты, ну, і афіцыйна абʼявілі, што скінулі Мікіту. Першы факт, безумоўна, адмоўны, другі – станоўчы, а аб трэцім судзіце, як хочаце. Мікіты мне не шкада, абнаглеў, хаця нашаму брату ён крыўды і не рабіў, – вось толькі, каб гэты новы «трыумвірат» не павярнуў на стары шлях, пратораны няслаўнай памяці «бацькам народаў». Пакуль што асабліва грозных сімптомаў не відаць, зрэшты, чорт іх ведае, можа яны і парадачныя дзядзькі – на мордах не напісана. Ну, а нашым мінскім падхалімам не прывыкаць. Ім што ні поп, дык бацька...»

Адхіленне Мікіты Хрушчова, аднак, стала завяршэннем эпохі, якая ўвайшла ў публіцыстыку, гістарычную навуку і паліталогію пад назвай «адліга». І хоць з прыходам да ўлады Леаніда Брэжнева мала што змянілася ў плане праў і свабод, аднак нават тыя нясмелыя галасы крытыкі ў публічнай прасторы сталі цішэйшымі.

3 лістапада 1967 г. напярэдадні 50-й гадавіны кастрычніцкага перавароту браты Луцкевічы ў звычайнай для іх іранічнай манеры пісалі свайму гомельскаму прыяцелю пра ўражанні ад брэжнеўскіх рэалій: «Даражэнькі Валодзька! Нешта ты, хлопча, пачаў з намі ў маўчанку гуляць. Відаць, не хапае пораху слаць эпісталы ў два адрасы. Але ж сёння журыць цябе не выпадае ў сувязі з надыходзячым святам. Вось Лёнька Брэжнеў у сённяшняй чатырохгадзіннай прамове нават і злёгка нікога не журыў за выключэннем Мао. Затое ў гэтай даўжэзнай прамове, у якой, як кажуць, словам цесна, а думкам прасторна, не знайшлося месца ні для Ёські вусатага, ні нават для Мікіты. А можа іх зусім не было? Можа, не было ні 33-га ні 37-га гадоў? Можа, не было бальшавікоў Кірава, Блюхера, Тухачэўскага і іншых? Відаць, Ілліч сам рабіў рэвалюцыю. Бо калі б былі іншыя, дык хіба яны заслужылі, каб у 50-годдзе іх хаця бы памянулі? Зрэшты, я аратара не віню. Я ўпэўнены, што гэта казарменна-казённае выступленне не ім напісана, гэта калектыўны твор сучасных тэолагаў-схаластаў, якія сябе называюць марксістамі, філосафамі ды яшчэ ганарацца навуковымі тытуламі. Вось і стварылі ура-патрыятычны твор, стэрыльна-чысты, без аніводнай свежай думкі. Як бы і сапраўды гэтыя 50 год былі шэрагам адных узлётаў ды яшчэ ў простай лініі без усякіх віражоў. Ну і алах з імі! Віншую цябе са святам, жадаю весела яго правесці».

### *Адзначэнне 25-годдзя Вільні ў складзе СССР*

У 1965 г. у СССР праходзілі святочныя мерапрыемствы, звязаныя з юбілейнымі датамі. У краінах Балтыі на дзяржаўным узроўні і ў прысутнасці мноства замежных гасцей адбываліся разнастайныя фестывалі і святы з нагоды 25-годдзя далучэння да СССР. Арганізатары ўрачыстых цырымоній усяляк імкнуліся давесці добраахвотны характар узʼяднання «братэрскіх» балцкіх народаў з СССР. У прэсе паведамлялася пра тое, як 25 гадоў таму, у чэрвені

1940 г. савецкая тэхніка, танкавыя часткі і матарызаваная пяхота заходзілі без якіх-кольвек перашкод і інцыдэнтаў у гарады былых незалежных дзяржаў Літвы, Латвіі і Эстоніі, вызваляючы прыгнечаных літоўцаў, латышоў і эстонцаў ад сваавольстваў мясцовых нацыянал-фашысцкіх урадаў. Больш за тое, гаварылася пра дзясяткі тысяч жыхароў Каўнаса і Вільні, якія воплескамі і крыкамі «ўра» віталі савецкіх вайскоўцаў, а чырвонаармейцам і камандзірам дарылі кветкі. Карэнныя віленчукі Юрый і Лявон Луцкевічы, вярнуўшыся ў ЛітССР пасля сталінскага ГУЛАГа, назіралі за падрыхтоўкай да святаў са здзіўленнем і характэрнай для іх іроніяй. У лістах свайму «калымскаму аднапалчаніну» Уладзіміру Стрыгуцкаму яны апісвалі ўсе змены ў сталіцы Савецкай Літвы.

24 красавіка 1965 г. Юрый Луцкевіч пісаў сваім сябрам: «Дарагія Яня, Валодзя і Кастусь! Уся Літва, а Вільня ў першую чаргу, рыхтуюцца да юбілея савецкай улады ў Прыбалтыцы. Будуюць новую гасцініцу, старыя дамы рамантуюць. Ад рэстарана «Паланга», дзе я радзіўся, засталіся толькі сцены, – яго поўнасцю перабудоўваюць, вось толькі не здагадаліся ўмураваць памятную бронзавую табліцу. Увесь бляск будзе наведзены да 21 ліпеня, гэткім чынам, на ваш прыезд Вільня будзе рабіць больш упарадкаванае ўражанне, чым цяпер» . У гэтым лісце завуалявана перадаецца настрой таго часу, для якога характэрны, з аднаго боку, амбіцыйныя і маштабныя горадабудаўнічыя праекты кшталту пабудовы новай гасцініцы, а, з іншага, праяўляюцца хранічныя хваробы планавай гаспадаркі з адвечнымі «аўраламі» і «паказухамі».

Наступны ліст Юрыя Луцкевіча да сям'і Стрыгуцкіх датуецца 25 ліпеня 1965 г., калі ў аўтара радкоў яшчэ былі жывыя ўспаміны і эмоцыі пра святочную Вільню. Апісваючы атмасферу свята 25-годдзя Савецкай Літвы, Юрка зрабіў некалькі яркіх зацемак пра тое, як бачылі і ўспрымалі юбілей тагачасныя жыхары Вільні: «Усю мінулую дэкаду Вільня прадстаўляла сабой нешта накшталт Рыо-дэ-Жанэйро падчас карнавалу. Гасцей з розных рэспублік і з розных канцоў свету, самай рознай масці прыбыло каля 80 тысяч. У тым ліку 30-тысячны зводны народны літоўскі хор, які пяяў на эстрадзе ў Закрэнце. Горад падчысцілі, перамалявалі бадай што кожную камяніцу, адчынілі новыя рэстараны і магазіны, збудавалі каля вакзала новую гасцініцу. Гэтак, значыцца, рыхтаваліся да святкавання 25-х угодкаў прылучэння Літвы да СССР. (Адбылося гэта прылучэнне не зусім так, як пішуць у газетах, я ж жывы сведка, але справа не ў гэтым)». Юрка і Лявон, дзеці рэпрэсаванага і забітага Саветамі прэм'ер-міністра БНР Антона Луцкевіча, маглі распавесці тое, як выглядала «добраахвотнае аб'яднанне» Літвы з СССР у 1940-м г. насамрэч[1]. Менавіта на іх вачах адбывалася трагедыя некалькіх народаў, якіх пасля прыходу камуністаў

[1] А. Антанян, *Ілюзіі былі даволі моцныя... Размова Андраніка Антаняна з Лявонам Луцкевічам*, «Дзеяслоў», 2009, № 6 (43) [online] http://dziejaslou.by/old/www.dziejaslou.by /inter/dzeja/dzeja.nsf/htmlpage/ant4302ec.html?OpenDocument, [дата доступу: 20.08.2022].

чакалі рэпрэсіі, пазбаўленне маёмасці і масавыя дэпартацыі. Далучэнне Літвы да СССР у 1940 г. праходзіла па сцэнары «паўзучай акупацыі», калі пасля перадачы Сталіным Вільні пад кантроль урада Антанаса Смятоны на тэрыторыю незалежнай Літвы ўвайшоў савецкі вайсковы кантынгент. Пазней цягам года анексія была завершана юрыдычным чынам у атмасферы страху і тэрору.

Аднак у 1965 г. былым вязням сталінскіх лагераў хацелася забыцца на падзеі 25-гадовай даўніны. Жыццё брала сваё і зацягвала нават самых вялікіх скептыкаў у вір падзей. Заўзяты аўтамабіліст Юрка Луцкевіч распавядаў пра тое, як адбілася на гарадскім руху ў Вільні вялікая колькасць гасцей: «Шафёрам дасталося найгорш: хуткасць руху на святочныя дні была агранічана ў межах гораду да 40 км у гадзіну, ды і то трэба было ўважаць, каб не пераехаць якога негра! На ветравое шкло машыны прыляпілі вось гэткі значок: (XXV на контуры ЛітССР). Гэткі ж значок красаваўся на аўтобусах, тралейбусах, вітрынах магазінаў, на сценах дамоў, на ўпакоўцы прадуктаў і прамтавараў ды наагул усюды, вось толькі не дагадаліся надрукаваць яго на туалетнай паперы (ды і то хіба таму, што гэтай паперы ў нас у продажы няма)».

Нягледзячы на эпахальнасць падзеі, жыхары Літоўскай ССР усё ж адчулі на сабе няласку Масквы, Юрый Луцкевіч пісаў, што жыхары Вільні чакалі ад Масквы дадатковага выходнага з нагоды юбілею савецкай улады, але не дачакаліся: «Чакалі, што будзе вольны дзень ад працы, але Масква не дазволіла. Затое прыехаў Суслаў і ўручыў Рэспубліцы ордэн Леніна. Вось, значыцца, мы і ардэнаносцы!»

## *«Нацыяналістаў я знаў толькі трох»*

Тэма, якую немагчыма абмінуць, гаворачы пра беларускіх дзеячаў першай паловы XX стагоддзя, – гэта абвінавачанні ў вайсковых злачынствах і сувязях з нямецкімі карнымі органамі. Дзяржаўная прапаганда дагэтуль выкарыстоўвае факт калабарацыі некаторых прадстаўнікоў нацыянальнага руху з акупантамі, каб замацаваць і за сучаснай палітычнай апазіцыяй вобраз ворага і імідж ідэйных пераемнікаў «фашыстаў».

2 сакавіка 1966 г. Юрка Луцкевіч прапанаваў Валодзі Стрыгуцкаму варыянты з вырашэннем набалелага жыллёвага пытання, пісаў пра магчымасці пераезду сям'і Стрыгуцкіх у Вільню. Але галоўны пасыл ягонага ліста ў абмеркаванні публікацыі «Магаданскай праўды», у якой адзін з былых вязняў абвінаваціў увесь беларускі нацыянальны рух у супрацы з нацыстамі. «Бакача гэтага я знаю, пазнаёміўся з ім у 52–53 годзе на Д-2 (Мяунджа). Ён працаваў на агульных работах, прыдуркам ісці не хацеў[1]. Нічога дрэннага аб ім сказаць не магу, ды, праўда, і быў ён там не больш за паўгода. А пісаніна яго робіць, агульна кажучы, непрыемнае ўражанне… Успамінае пра Грамаду, пра ка-

[1] «Прыдуркі» – асобы, якія супрацоўнічалі з адміністрацыяй лагера (*заўвага аўт.*).

муністаў Тарашкевіча і іншых, якіх усіх Сталін расстраляў, але аб гэтым факце маўчок. І аб тым, што каб з польскай турмы ўцёк не ў буржуазную Чэхію, а ў «рай», дык і яго спаткаў бы той самы лёс. Праўду піша, што Ермачэнка і Астроўскі – дзяльцы, але чаму іх ён называе нацыяналістамі? Бо напрыклад Грыб быў эсэр, былі ў нашым грамадстве хрысціянскія дэмакраты, былі сацыял-дэмакраты, але нацыяналістаў я знаў толькі трох: Акінчыца (стопрацэнтная сволач), Казлоўскага, якога забілі партызаны, і Гадлеўскага, якога забілі немцы. А ён, чалавек, які і не быў ні мінуты на тэрыторыі акупаванай Беларусі пасмеў напісаць гэткую несусветную хлусню, што ўсюды сярод катаў, якія вешалі, палілі, закапвалі жывымі ў равы сваіх суродзічаў – былі нацыяналісты… Гэта пахне паршывенькім даносам. Ды і сам каецца без патрэбы, бо няпраўда, што ён «зыграў вядомую ролю ў беларускім нацыяналістычным антысавецкім руху». І няма чаго хваліцца, што “пакаранне адбыў чэсна”», – пісаў Юрка Луцкевіч.

Чалавек, якога цытаваў Юрка Луцкевіч, – Пятро Бакач. У міжваенны час ён з'яўляўся актывістам нацыянальных арганізацый у Заходняй Беларусі, быў сакратаром пасла сойма Польшчы Браніслава Тарашкевіча. У лістападзе 1931 г. асуджаны польскім судом на 4 гады зняволення ў гарадзенскай турме. Пасля вызвалення выехаў у чэшскую Прагу, дзе вучыўся ў знакамітым Карлавым універсітэце. Браў удзел у працы беларускай эміграцыі ў Чэхаславакіі. Паводле слоў Ларысы Геніюш, Бакач «быў добры беларус, харошы, скромны чалавек, вельмі бледны, вымучаны турмою, напэўна, і нездаровы…»[1]. Пасля капітуляцыі Нямеччыны Пятра Бакача арыштавалі савецкія органы ў Берліне. Пазней яго пакаралі 15 гадамі лагераў, выслалі ў Магаданскую вобл., дзе ў зняволенні ён нейкі час кантактаваў з Юркам Луцкевічам.

І вось менавіта гэты «харошы і скромны» Пятро Бакач раптам піша зацемку ў прапагандысцкім выданні, у якім лье бруд на сваіх сяброў, якія дапамагалі яму ў эміграцыі. Юрка Луцкевіч, чалавек, які прайшоў 11 гадоў сталінскіх лагераў, спрабаваў патлумачыць напад на Янку Геніюша і матывацыю супрацы з камуністамі былога паплечніка: «І самае прыкрае, што ўспамінае пра свайго сябра д-ра Геніуша, што цяпер жыве, адбыўшы срок, у Зельве разам з сваёй жонкай паэтэсай Ларысай, якая гэтаксама скончыла берыеўскую акадэмію. Навошта ж гэтак пісаць «яры антыкамуніст па натуры» (я дык раней думаў, што камунізм ці антыкамунізм гэта светапогляд, а не натура). Гэта ўжо проста пахне паршывенькім даносам. Магчыма, вядома, што ён проста недалёкі чалавек, гэты Пятро, і яго проста абвялі вакол пальца кагебісты, сталінскія недабіткі. Яго пісанне маглі так «адрэдагаваць», што і родны бацька (г. зн. аўтар) не пазнае. А пасля ідзі жалься! Але ўсё ж чытаецца нясмачна. І гэта

[1] Л. Геніюш, *Споведзь*, Мінск 1993, [online] https://kamunikat.org/?pubid=13530, [дата доступу: 10.04.2022].

не адзіны такі выпадак, толькі пераважна пішуць (вярней распісваюцца пад чужым тэкстам) малаграматныя асобы. А гэтаму павінна быць сорамна».

### *Гумар у часы позняга сацыялізму*

У часы позняга сацыялізму гумару былі вызначаны пэўныя месцы. Гумар не мог быць скіраваны супраць кампартыі і яе лідараў. Затое ў некаторых момантах дазвалялася пакепліваць з недахопаў савецкага масавага будаўніцтва, кумаўства і хабару, дэфіцыту і заган бюракратычнай сістэмы. Адным з тытанаў савецкай сатыры, які на кожны выступ збіраў натоўпы прыхільнікаў і якога любіла савецкая масавая аўдыторыя, быў акцёр Аркадзь Райкін[1]. Як цяпер бы напісалі інтэрнэт-СМІ, амаль кожны стэндап-нумар гумарыста выклікаў рэзананс, а часам скандал. Так, у 1966 г. на Райкіна паскардзіліся ветэрынары Крымскай вобл., якія напісалі калектыўны зварот у газету «Известия». Крымскія «айбаліты» пакрыўдзіліся на спектакль, у якім акцёр высмеяў няўдаху-вынаходніка з адукацыяй ветэрынара, які трапіў на адказную пасаду дзякуючы пратэкцыі начальства. Распаўсюджаная практыка ўладкавання «па блаце», г. зн. з дапамогай сваякоў ці знаёмых, не прыйшлася даспадобы крымчукам, якія заявілі, што Райкін «плюнуў» у прафесію, у якой многа «заслужаных дзеячаў, кандыдатаў навук і генералаў»[2].

У лісце ад 17 красавіка 1967 г. Лявон Луцкевіч завуалявана намякаў на ўласныя матэрыяльныя складанасці цытатай з маналога Райкіна. «Займаю цяпер становішча замясціцеля галоўнага энергетыка на заводзе жалезабетонных канструкцыяў. Што ж сама па сабе работа для мяне не новая, а рэзультаты яе ў матэрыяльных адносінах залежаць не толькі ад мяне і ад выпаўнення плана ўсім заводам [...] Як казаў Аркадзь Райкін, «жывем у век прагрэсу і прагрэсіўнасці», а гэтай апошняй, на жаль, у першым квартале не было, бо план завалілі».

У сакавіку 1968 г. у сталіцы Літоўскай ССР праходзіла дэкада рускага мастацтва. Карыстаючыся магчымасцю, браты Луцкевічы наведалі шэраг імпрэз, пра што напісалі сваім сябрам. У лісце ад 31 сакавіка 1968 г. Юрка Луцкевіч дзяліўся ўражаннямі ад канцэрта сатырыка Аркадзя Райкіна: «Мне асабіста найвялікшую прыемнасць зрабіў Райкін, які даў напару з аўтарам ягоных фельетонаў і мініяцюр аж шэсць канцэртаў. Райкін пастарэў, цяпер яму пляваць на дзяшовую папулярнасць, абыходзіцца без масак, без пераапранання і часам кратае не толькі бытавыя тэмы. Гутарыць сабе нібы аб дарожных знаках, а выходзіць, што пры Сталіне над усім Саюзам вісеў светлафор з чыр-

1 Аркадзь Ісаакавіч Райкін (11.10.1911–17.12.1987) – савецкі артыст эстрады, тэатра і кіно, тэатральны рэжысёр.

2 А. Городецкая, *Связь сквозь цензуру*, [online] https://jewish.ru/ru/stories/reviews/175789/, [дата доступу: 14.06.2022].

воным святлом (усё забаронена), пасля хацелі павесіць зялёнае святло, але вісіць – жоўтае (нічога не забараняюць, але нічога не дазваляюць). "Ну, куда вы, лысый гражданин, с портфелем прете? Нет, почему же, не запрещается, но вы сами должны понимать! Ну, если уж Вам так приперло, пусть портфель проходит, а сами вы уж оставайтесь!"».

У іншай мініяцюры Аркадзя Райкіна, якую згадвае Юрка Луцкевіч, гаворка ідзе пра няўдаху-вынаходніка. «Вынайшаў нейкі чудак [...] машыну. Паслалі машыну ў Парыж. А вынаходніка не пусцілі, бо ў яго «аналізы не ў парадку». Паслалі дзеяцеля з добрымі намерамі, а з ім яшчэ для камплекту нейкую даярку з «чыстымі аналізамі». Ну, уваткнулі яны нешта ў гэтай машыне не туды, яна і ўзарвалася. Вынаходніка «ўпяклі», а дзеяцель збіраецца з другой машынай ужо ў Токіё ехаць...».

Далей аўтар ліста прадэманстраваў уласныя здольнасці да напісання жартаў на вострасацыяльныя і каляпалітычныя тэмы. «Ты, Федзя, настоящий пропагандист! И слова у тебя крепки, и расставляешь-то их так, что ничего понять нельзя (хаця, праўду сказаць, гэта ўжо кажу я, а не Райкін, гэтак гавора нават не Федзя, а Леанід Ільіч...). Теперь (после кукурузы) все внимание людям. К примеру, захожу в цех: в жар бросает (от холода)».

### *Прыватны аўтамабіль як раскоша*

У часы позняга сацыялізму валодаць аўтамабілем маглі толькі нямногія грамадзяне СССР. Каб сесці за стырно ўласнай машыны, недастаткова было мець грошы. Шчасце даводзілася выпакутаваць: гадамі адстаяць у чарзе і падключыць «блат». Амерыканскі прэзідэнт Рональд Рэйган, які любіў калекцыянаваць жарты пра абсурдную савецкую рэчаіснасць, неяк распавёў на публіцы адзін са сваіх улюбёных анекдотаў. Анекдот ад кіраўніка ЗША быў такі:

«У СССР, каб набыць аўто, трэба дзесяць год прастаяць у чарзе. І вось прыходзіць пакупнік, робіць аванс, а гандляр яму кажа:

– Усё, прыходзьце за вашым аўтамабілем праз 10 год.

– Раніцай ці днём?

– Гэта ж праз дзесяць год, якая розніца?

– Дык проста раніцай да мяне сантэхнік прыйдзе! – адказвае мужык».

Апантаныя аматары аўтамабіляў і вандроўнікі браты Юрка і Лявон Луцкевічы па вяртанні з Калымы набываюць сабе аўтамабіль, які ў перапісцы з сябрамі па гулагаўскім мінулым ласкава называюць «Бобікам». Верагодна, гаворка ідзе пра савецкі вайсковы джып «ГАЗ-67», які быў распрацаваны яшчэ ў гады Другой сусветнай вайны для патрэб арміі. У наступныя мірныя дзесяцігоддзі некаторыя спісаныя з уліку аўтамабілі можна было набыць для ўласных патрэб, чым, верагодна, і скарысталіся віленчукі Луцкевічы. Мянушка «Бобік», паводле некаторых меркаванняў, замацавалася за маркай гэтага аўто ў звязку з тым, што «ГАЗ-67» выкарыстоўвала міліцыя для перавозкі

затрыманых. Луцкевічы ездзілі на «Бобіку» па еўрапейскай частцы СССР, наведвалі сваіх сяброў у Беларусі і Украіне, адпачывалі на ім у паездках на Рыжскае ўзмор'е і часцяком выбіраліся па грыбы ў навакольныя лясы.

Дакладную дату, калі Юрка і Лявон сталі аўтаўласнікамі, вызначыць праблематычна. Упершыню «Бобік» упамінаецца ў перапісцы з У. Стрыгуцкім 5 жніўня 1964 г., калі віленцы выехалі ў вандроўку на Рыжскае ўзбярэжжа: «Даражэнькія Яня, Валодзя і Кастусь! Пішам Вам гэту пісульку з курорту Юрмала на Рыжскім узбярэжжы. Пагода зменная, вада ў моры халодная, але мы гераічна штодня купаемся. Жывем у палатцы, але пры поўным камфорце: на гэты раз мы, апрача палаткі, століка і 4 крэслаў заладавалі на багажнік «Бобіка» яшчэ дзве раскладушкі. Спім, як паны, на чыстай пасцелі пад цёплымі коўдрамі».

Сярод жыхароў Савецкага Саюза было папулярным меркаванне, што ўрад адмыслова стрымліваў развіццё айчыннага аўтапраму, каб не даваць грамадзянам свабоду перамяшчэння. Хаця насамрэч гаворка можа ісці хутчэй пра тэхналагічную адсталасць краіны, якая адправіла першага чалавека ў космас, але не магла наладзіць вытворчасць масавага легкавога аўтамабіля.

25 ліпеня 1965 г. Юрка Луцкевіч піша сябруку пра чуткі наконт выпуску ў СССР аўтамабіляў па італьянскай ліцэнзіі: «Новых запарожцаў у Вільні ніхто яшчэ не бачыў. Я бачыў яго на малюнку ў варшаўскай газеце. Ходзяць неправераныя чуткі быццам замест гэтай мадэлі завод у Запарожжы мае выпускаць ФіАТ-800 па італьянскай ліцэнзіі. Але нават, каб яны і з'явіліся ў продажу, то стаць на чаргу зусім не лёгка, асабліва таму, хто мае машыну (у нас пры куплі яшчэ патрабуюць спраўку ад інспекцыі, што не маеш машыны). А Лёньку і мяне палічаць за адну сям'ю, бо прозвішчы аднолькавыя і жывем у адной кватэры».

Для кожнага ўласніка прыватнага аўтамабіля ў савецкія часы востра паўставала праблема сэрвісу. Не маючы магчымасці забяспечваць прафесійнае абслугоўванне машыны, аўтамабілісты самі засвойвалі азы прафесіі механіка альбо звярталіся да народных умельцаў. Цэлае дзесяцігоддзе, цягам якога перапісваліся Ю. Луцкевіч з У. Стрыгуцкім, амаль у кожным лісце гаварылася пра рамонт «Бобіка».

У віншавальным навагоднім лісце ў снежні 1966 г. Юрка Луцкевіч пісаў пра праблемы з рамонтам машыны: «Рамонт Бобіка стаіць на пункце замярзання. Новы пярэдні мост прыдбалі, але гэта яшчэ толькі пачатак. Трэба будзе мяняць рулявую калонку, наагул працы вельмі шмат. Усё ж хоць у сярэдзіне лета – паедзем ізноў! А наагул наракаць у нас няма на што. Жывем, як і можна было прадбачыць, дружна. Хаця яшчэ і невядома, калі атрымаем водпуск, але ўпэўнены, што ў наступным годзе так, ці інакш, але адведаем вас у новай гомельскай кватэры. Эх, і дамо-ж тады ў газ».

31 сакавіка 1968 г. – зноў «Бобік» у рамонце: «Даражэнькія Стрыгуцкія ды Стрыгучаняты! Бобікаў рамонт рухаецца. Уся бяда ў тым, што майстра,

якому мы даручылі зрабіць гэту рэканструкцыю – танкіст, і яго вечна цягаюць на ўсякія зборы, вось і цяпер забралі на 2 тыдні. У нас цяпер, як пацяплела, крыху зрушылася з мёртвага пункту справа рамонту «Бобіка». Чорт з ім, хаця і паволі рамантуем, але ж будзе "люкс-машына"».

Саматужны рамонт машыны і дэфіцыт запчастак часта стваралі праблемы. «Бобік» ламаўся на дарозе, падводзіў у самыя нязручныя моманты. Юрка Луцкевіч так апісваў паездку ва Украіну: «31 кастрычніка 1966 г. Што-ж, пагасцілі – трэба і чэсць знаць. Заправіліся і паехалі назад. А выехалі позна, гадзінкі гэтак у чатыры, дык пасля поўначы каля Івацэвіч захацелася спаць. З'ехалі з шашы, пераставілі сядзенні і давай кімарыць. Прачнуліся ўранку, аж на вокнах гэткія прыгожыя ўзоры, што і з машыны вылазіць неахвота. Ды і не дзіва, замаразак салідны. І «Бобік» не хоча заводзіцца. Добра, што знайшлася сімпатычная «Калхіда», якая нас выцягнула на асфальт і раскачагарыла. Каля Дзяржынска адскочыла труба глушыцеля ад калектара, і мы шуравалі з «трактарным» трэскам цераз увесь Менск і ніводная сабака нас не затрымала. Толькі ў Радашковічах прыкруцілі трубу. У Радашковічах папалі на імяніны, схадзілі ў грыбы (набралі кош рыжыкаў і кабылак), ды атрымалі кацяня Мурзіка, што і зараз жыве ў нас у якасці самага маладога члена сям'і».

### *Знешняя палітыка СССР*

Ва ўмовах татальнай цэнзуры ў савецкіх выданнях магчымасць абмену інфармацыяй паміж грамадзянамі стварала якраз міжасабовая камунікацыя. У кампаніі блізкіх і правераных сяброў савецкія людзі абмяркоўвалі пытанні ўнутранай і знешняй палітыкі, крытыкавалі кіраўніцтва краіны і распавядалі анекдоты пра заганы савецкай гаспадаркі. Але ў лістах, якія праходзілі праз сіта кантролю з боку спецслужбаў, мала хто наважваўся адкрыта каментаваць рэальнае становішча ў дзяржаве і за мяжой. Звычайна грамадзяне ў асабістых карэспандэнцыях абміналі пытанні палітыкі. Але не «антысаветчыкі» з Вільні Юрка і Лявон Луцкевічы. Яны ў перапісцы са сваім гулагаўскім сябрам усё ж спрабавалі дзяліцца палітычнымі навінамі. Амаль у кожным лісце, напісаным у 1960-я гг., віленчукі хоць адзін абзац прысвячалі халоднай вайне, вайне ў В'етнаме, праблемам сацыялістычнага лагера, Пражскай вясне або «Культурнай рэвалюцыі» ў КНР.

У 1967 г. Юрка Луцкевіч падзяліўся занепакоенасцю сітуацыяй у КНР, якую ахапіла «Культурная рэвалюцыя» Мао Дзэ Дуна. Зрэшты, пра Кітай беларускія «антысаветчыкі» з вялікім скепсісам будуць неаднойчы пісаць да Стрыгуцкага. Нелюбоў да кітайскага правадыра ў рэпрэсаваных беларусаў была абумоўлена не толькі пагардай да плебейства хунвейбінаў, але ўсё ж асабістымі матывамі. Адносіны КНР і СССР пагоршыліся пасля знакамітага XX з'езда КПСС, на якім Мікіта Хрушчоў развянчаў культ Сталіна, чаго ў Кітаі не зразумелі. Кітайскія камуністы былі ўдзячныя Сталіну за абарону ад японскіх мілітарыстаў, за

пабудову вялікіх абарончых прадпрыемстваў, за дапамогу ў стварэнні сучаснага войска. Але больш за ўсё ім не спадабалася тое, што ў змаганні са спадчынай савецкага тырана ўзнікалі прамыя аналогіі з неабмежаванымі паўнамоцтвамі вялікага Мао. Такім чынам, натуральная нелюбоў Луцкевічаў да Сталіна нечакана зрабіла іх саюзнікамі з Мікітам Хрушчовым у кітайскім пытанні: «3 лютага 1967 г. Чорт ведае, што робіцца на гэтай планеце. Абрыдлі ўсе хунвейбіны ды цзаофані. Абрыд Мао, абрыд Джонсан. Адзінае прыемна, што ў Кітаі быццам пачынаецца ўнутраная завaруха: чым даўжэй яны будуць дзерціся між сабой, тым спакайней будзе нам. Апошняя грамадзянская вайна трывала 20 год, калі і цяпер нешта падобнае развяжацца, ну дык і чорт з імі. Урэшце кожны народ у поўнай меры заслужыў свой лёс, а ў даным выпадку асабліва, бо ва ўсіх гэтых падзеях вонкавыя ўплывы мелі мінімальнае значэнне».

1960-я гады – гэта перыяд г. зв. ядзернай гонкі, калі вядучыя дзяржавы планеты імкнуліся давесці сваю перавагу ў вырабе атамных бомб. У гэтыя гады праводзіліся інтэнсіўныя выпрабаванні тэрмаядзерных бомб у СССР і ЗША. Ад звышдзяржаў імкнуліся не адставаць Францыя і Кітай, якія таксама трапілі ў клуб ядзерных краін дзякуючы сваім распрацоўкам. У лісце ад 21 траўня 1967 г. Юрка пісаў: «Не дзіва, што нас непакоіць і В'етнам, і маоізм, і немцы. Жывем на вулкане, і калі пачне трэсці, дык гэта табе будзе не Ташкент. Але ж не хачу траціць надзеі, што можа наша пакаленне абміне гэтая «горкая чаша», калі выражацца «евангельскім стылем». Можа ў Штатах выбяруць нейкага больш талковага прэзідэнта, можа Мао здохне, можа ўрэшце фрыцы датумкаюць, што для іх атамная вайна – гэта самагубства».

16 студзеня 1968 г. Юрка Луцкевіч быў здзіўлены, атрымаўшы незвычайны ліст з Польшчы, у якім яго прасілі даць пэўныя звесткі з біяграфіі бацькі – прэм'ер-міністра БНР Антона Луцкевіча, імя якога было пад забаронай доўгія дзесяцігоддзі: «Цікава, што нядаўна атрымаў пісьмо з Польшчы ў зусім нечаканай справе. Там выдаецца біяграфічны слоўнік, нешта накшталт энцыклапедыі, дык прасілі звестак пра бацьку. Ну, я ім паслаў сёе-тое. Аказваецца, там разлік са сталінізмам зроблены значна больш грунтоўна, чым у нас. Зрэшты, і ў Маскве ўжо «дазваляюць» успамінаць пра Антона Навіну, у адным Мінску ён яшчэ табу».

Падзеі Пражскай вясны, калі ў Чэхаславаччыне пачалі весці рэй прыхільнікі «сацыялізму з чалавечым тварам», не маглі не паўплываць на атмасферу ва ўсім сацыялістычным лагеры. Не ведаючы працэсаў унутры Чэхаславаччыны, Луцкевічы ўсё ж рабілі высновы пра падзеі ў суседніх дзяржавах: «З усіх журналаў можна чытаць толькі «Новый мір», затое зусім немагчыма чытаць «Полымя». Навіны так і не даюць спакою [...] Хутчэй бы ўжо ў нашай краіне Навотных у адстаўку, бо ў Чэхаславаччыне атмасфера прачышчаецца. Людзям стала лягчэй дыхаць. А сталінскую сволач гоняць, збіраюцца садзіць за краты. Адзін пракурор іхні ўчора павесіўся».

За тры месяцы да гвалтоўнага задушэння Пражскай вясны савецкімі танкамі, у красавіку 1968 г., Юрка Луцкевіч асцярожна выказаў надзею на тое, што дэмакратычны імпульс у свеце ўсё ж пераможа: «На свеце ўсё ж неспакойна. Нішто не стаіць на месцы, і трэба сказаць, што сучасныя зрухі накіраваны ўлева (слова ўлева я разумею ў станоўчым сэнсе, у сэнсе прагрэсу). Думаю, што падзеі чыста ўнутраныя, якія адбыліся ў Амерыцы, Англіі, Італіі, Польшчы, Францыі, а асабліва ў Чэхаславаччыне, нейкім чынам крануць нейкія рычагі, ці пружыны і ў нашай краіне і можа ўрэшце скончыцца гэты застой у грамадскай думцы, які трывае ад самага прыходу да ўлады Ілліча № 2, можа і ў нас пачнецца нейкі сацыяльны, а з ім і культурны і нават эканамічны прагрэс. Бо ўсе гэтыя галіны жыцця вельмі цесна звязаны. Я дык яшчэ ўсё не страціў свайго аптымізму, хаця часам і страшна робіцца».

### *Літаратура*

У прыватным архіве гомельскага «антысаветчыка» Уладзіміра Стрыгуцкага знаходзяцца напісаныя ад рукі зацемкі пра праблемы авіяцыйнага спалучэння на савецкай Поўначы, таксама ёсць чарнавікі артыкулаў пра інавацыі на залатых прыісках. Словам, нават на Калыме былы вязень канцлагераў не забываўся пра свае журналісцкія навыкі, атрыманыя падчас вучобы ў сталіцы БССР у 1940-х гг. У перапісцы з Луцкевічамі Уладзімір таксама дэталёва фіксаваў навакольную рэчаіснасць, рабіў трапныя назіранні, што адзначалі ягоныя сябры. І зусім невыпадкова менавіта Юрка Луцкевіч стаў першым чытачом і рэцэнзентам невядомага літаратурнага твора Уладзіміра Стрыгуцкага, які ён ім даслаў на вычытку ў сярэдзіне 1960-х гг.

У лісце, датаваным 16 чэрвеня 1965 г., Юрка Луцкевіч пісаў пра літаратурныя вартасці чарнавіка рамана: «А цяпер хачу ўсё ж крыху пагаварыць аб тваёй, Валодзя, літаратурнай дзяяльнасці. Мяне вельмі здзівілі сказаныя табой апрыёры словы: «Не звяртайце ўвагі на літаратурныя якасці. Іх няма і не будзе...» Калі б ты пісаў балансавы адчот на рудніку за 2-гі квартал, дык, вядома, ніхто бы ад цябе гэтых якасцяў не вымагаў. Калі ж гэта раман, або няхай сабе дыялог (хаця па форме гэта не зусім дыялог, бо дыялог гэта гутарка двух партнёраў, абавязкова двух з супрацьлеглымі поглядамі), з прыдуманымі табой літаратурнымі героямі, дык літаратурныя якасці тут абсалютна неабходны, без гэтых якасцей і пачынаць не варта, бо літаратурны твор без літ.якасцей – гэта графаманія. А раз так, дык гутарка пойдзе перадусім аб літаратурных вартасцях гэтага эталону тваёй прозы, што ты нам прыслаў. Хачу адзначыць, што твае лісты да нас не пазбаўлены таго, што ты завеш літаратурнымі якасцямі. Калі б іх сабраць у кучу, адпаведна адрэдагаваць, і выдаць гэткі эпісталярны зборнік, я ўпэўнены, што яны прамовілі б не толькі да нас, але і да староннягa чытача. У іх ёсць і цікавыя факты, напісаныя вобразнай мовай і філасофскія разважанні і (гэта вельмі важна) шчырасць, сапраўдная, не фальшаваная.

Прычым выразна відаць, што ў цябе ёсць аб чым пісаць і ты сам добра ведаеш, аб чым хочаш пісаць. Дык вось я мушу сказаць, што твае першыя старонкі рамана (бо гэта хутчэй за ўсё хіба пачатак рамана) праігрываюць у параўнанні з тваімі пісьмамі». Нягледзячы на блізкае сяброўства з аўтарам, Юрка намагаецца пісаць сябру аб'ектыўна і без прыхарошванняў.

Разам з доляй крытыкі, выказанай на адрас літаратурнага дэбютнага твору сябра, Юрка Луцкевіч дае шэраг парад: «Вядома, калі акцыя будзе развівацца, будзеш уносіць карэктывы і ў напісаны раней тэкст, але я хацеў бы звярнуць увагу на стыль. Так пісаць можна было тады, калі Колас пачынаў сваю «Палескую глуш». Каб дабіцца большай лаканічнасці, каб на кожныя 100 словаў дабіцца максімальнай колькасці думак, вобразаў, каб кожнае слова было на месцы (ні дадаць, ні адняць) і мела глыбокі падтэкст, рэкамендую табе два ўзоры, двух аўтараў, якіх табе трэба вывучаць і з якіх трэба браць прыклад. Гэта Хемінгуэй і Салжаніцын. Гэтыя людзі пісалі таксама, як і ты толькі аб тым, што яны добра ведалі і перажылі, але яны былі адначасова і майстрамі мастацкага слова, і ў іх трэба вучыцца, а не ў раманістаў з «Полымя», бо гэтыя апошнія ўсё-такі з'яўляюцца эпігонамі рускіх класікаў (я маю на ўвазе стыль), а значыць не сучаснымі пісьменнікамі. Ну, але і «Полымя» таксама трэба чытаць больш уважна і не пісаць "па гораду", "па лайнеру", бо па-беларуску ўсё-ж трэба казаць "па горадзе", "па лайнеры"».

Юрка і Лявон Луцкевічы гадаваліся ў сям'і, дзе з маленства нормай было валоданне некалькімі мовамі. Аналізуючы змест лістоў Юркі Луцкевіча, можна зрабіць выснову пра тое, што ён таксама валодаў некалькімі еўрапейскімі мовамі (ангельскай, нямецкай і, магчыма, італьянскай). «Нядаўна я прачытаў два раманы нямецкіх дэмакратаў: «Прыгоды Вернера Холта» Дытара Ноля і «Мы не пыл на ветры» Макса Шульца. Па сутнасці, раманы не дрэнныя, але я часта сябе лавіў на думцы, што абодва трэба было скараціць напалавіну: такія даўгія і нудныя, такія педантычна нямецкія пападаліся там разважанні. І прыходзіла другая думка: «А як жа змог Салжаніцын у сваім Дзянісавічы выказаць не менш глыбокіх філасофскіх думак, не цытуючы ні Маркса, ні Гегеля, і эканомячы пры гэтым і паперу і друкарскую фарбу?» Не думай, што гэта літаратурны разбор тваіх першых старонак рамана. Залішне малы гэты адрывак і залішне сыры матар'ял, каб яго наагул можна і варта было разбіраць па костачках. Гэта проста думкі, якія ўзніклі ў мяне пры чытанні. А вось падказаць табе, куды накіраваць герояў, як развіваць акцыю далей, пакуль што ніяк не магу. Я бы хацеў ад цябе пачуць, якія ты хочаш крануць праблемы, аб чым ты хочаш падзяліцца з чытачом, які падтэкст твайго «дыялога», якія слаі грамадства ты хочаш паказваць, якія гістарычныя падзеі, ці перыяды. Ведаючы гэта, вядома, можна будзе параіцца, як гэта зрабіць», – падсумаваў Юрка Луцкевіч.

Раман Уладзімір Стрыгуцкі так і не напісаў. У наступныя дзесяцігоддзі ён актыўна ўдзельнічаў у дэмакратычным руху Гомельшчыны, выступаў перад

школьнікамі і дапамагаў ствараць нацыянальныя арганізацыі. Да літаратурнай дзейнасці ён не вярнуўся.

### *Збор грыбоў як хобі*

Адным з найвялікшых захапленняў братоў Луцкевічаў быў збор грыбоў. Практычна ў кожным лісце да свайго сябра ў 1960-я гг. віленчукі Юрый і Лявон, калі не пісалі пра тое, як збіралі грыбы ў сезон у беларускіх і літоўскіх лясах, дык апісвалі тое, як паядалі закансерваваныя грыбы падчас застолляў. У сваёй апантанасці «ціхім паляваннем» інтэлектуалы Луцкевічы былі абсалютна тыповымі беларусамі, якія і ў XXI стагоддзі ў сацыяльных сетках выхваляюцца сваімі поспехамі ў зборы і кансервацыі грыбоў.

10 кастрычніка 1964 г. Юрка Луцкевіч у лісце Уладзіміру Стрыгуцкаму скардзіцца на жыццёвыя абставіны, якія не даюць яму ў поўнай ступені атрымаць асалоду ад улюбёнага хобі – збору грыбоў: «Мінулі прыгожыя дні Аранхуэза (Die Monen Tage von Aranjuez sind vergarden), як некалі пісаў Шылер. Скончыўся адпачынак, скончылася лета, пачалася праца. Ды яшчэ падвойная, бо рашылі нарэшце канчаць будову свайго гаража. А кааператыў наш разваліўся, дык прышлося самім арганізаваць жалезабетонныя панелі і пералажыць цэглу, раствор, транспарт, механізмы. Надумалі апрача рамонтнай ямы зрабіць пад гаражом склеп для бульбы, гародніны і фруктаў. Вось і капаем гліну, добра яшчэ, што сусед і аднапалчанін Косцік Шышэя дапамагае. А тут прайшлі дажджы – у лесе поўна грыбоў. І няма калі з’ездзіць!».

У наступным 1965 г. адпачынак Лявона Луцкевіча на ўзбярэжжы Балтыйскага мора не заладзіўся. Пра гэта 28 жніўня коратка напісаў яго брат Юрый: «Лёнька датэрмінова ўцёк з Рыжскае затокі, такая паганая выдалася пагода. Затое, як яго водпуск скончыўся, у другой палове жніўня было цудоўна. Купаліся, гулялі ў валейбол, збіралі грыбы...».

Праз месяц, 21 верасня 1965 г. ужо Лявон Луцкевіч паведамляў Яніне Стрыгуцкай пра тое, як ягоны брат засвоіў навуку прыгатавання грыбоў: «Канец лета і пачатак восені ў нас сёлета лепшы, як сярэдзіна лета. Яшчэ ў другой палове жніveня і першай палове верасня мы з Юркам часта ездзілі па нашых віленскіх ваколіцах на вазёры купацца, або ў лес збіраць грыбы. Мушу прызнаць, што Юрка навучыўся прыгатоўляць грыбы, ды наогул у яго адкрыліся такія кулінарныя здольнасці, што можа зрабіць табе, Яня, паважную канкурэнцыю».

У 1966 г. сям’я Луцкевічаў павялічылася. Юрка ажаніўся з жанчынай, з якой ён пазнаёміўся яшчэ на Калыме. Масквічка Ніна Злыгосцева, у якой быў сын Сяргей ад першага шлюбу, без вялікіх ваганняў прамяняла жыццё ў сталіцы на Вільню. Праз нейкі час пасля гэтай важнай сямейнай падзеі (31 кастрычніка 1966 г.) Юрый Луцкевіч даслаў у Гомель пэўную «справаздачу»: «Атрымалі ізноў, як і раней, нармальнае доўгае паўначное пісьмо. Цешыліся з Вашага

бадзёрага настрою, а найбольш з таго, што нядоўга прыдзецца Вам марнець між Калымскіх сопак, нарэшце пачнеце навечна ўкараняцца ў роднай зямельцы. Ну, гэта прыказка, а цяпер будзе казка. Як пасля вяселля ўсе раз'ехаліся, забралі Сярожку дамоў з лагеру. Аж тут прыехалі бацькі Ніны. Мы знайшлі ім дачу – км 50 ад гораду над вельмі прыгожым возерам Дубінка (вёска Тараканцы). Даўжыня возера – больш за 20 км. І рыба, і грыбы. І гаспадар паляк (вельмі сімпатычны дзядзька). Цяпер нават Сярожка ведае, напрыклад, што такое «патэльня». А Лёнька атрымаў водпуск і паехаў разам з Багдановічамі боўтацца ў Балтыйскіх хвалях. Калі-ж скончылася гэта эпапея, усё ў нас стала пад знак грыбоў. Ніна вялікі майстар збіраць баравікі. А цешча – «гросмайстар цераз вялікае «Г». Насушылі, насалілі, намарынавалі... А смачныя. Пальцы абліжаш! (асабліва марынаваныя кабылкі пад 43-градусную старку, але аб гэтым пазней)», – распавядаў Юрка.

Восень 1967 г. аказалася надзвычай ўраджайнай на грыбы. Але не толькі гэта цешыла Юрыя Луцкевіча. Ён з вялікай радасцю канстатаваў выдатныя гаспадарскія якасці сваёй жонкі, з якой у шлюбе пражыў ужо год. 9 кастрычніка 1967 г.: «Працягваю сваю пісаніну. Цешча ўжо выехала, гасціць цесць, але і ён заўтра выязджае. Грыбы растуць, баб'е лета, тэмпература ўдзень +18 у цяню. Ніна аказалася выдатнай гаспадыняй. Мы нарыхтавалі агуркоў і грыбоў гэткую колькасць, што бадай не справіліся з імі да лета. Ды яшчэ і канфітураў нейкіх наварыла...».

Ранняя вясна 1968 г. прынесла шмат прыемнасцей віленчукам Луцкевічам, якія ў пачатку траўня паспелі пазагараць і нават знайсці першыя ў сезоне грыбы. «Выбачайце, што «працягнуў разіну» на цэлы месяц. Асаблівых падзеяў у нас не было, дзеля чаго пачну ад пагоды. Канец красавіка і пачатак траўня ў нас былі цудоўныя. Усё расцвіло не менш як на два тыдні раней, чым звычайна. Даволі сказаць, што 4-га мы з Нінай не толькі загаралі, але і знайшлі першыя грыбы! Праўда гэта былі смарчкі. Затое тыдзень таму назад Ніна знайшла 5 баравікоў і аднаго масляка! Затое ж другая дэкада мая была да нічога, то халодныя дажджы, то замаразкі. У людзей памерзлі памідоры, агуркі, бульба. Зрэшты, такі ж быў і канец месяца – сёння першы пасля гэтага перапынку цёплы дзень», – пісаў напрыканцы траўня 1968 г. Юрый Луцкевіч у Гомель.

### *Санаторна-курортны адпачынак*

У эпоху позняга сацыялізму мільёны савецкіх грамадзян штогод папраўлялі сваё здароўе ў санаторыях. Адпачынак у санаторыях быў даступным для многіх катэгорый насельніцтва, але прыярытэт у атрыманні пуцёвак мелі «сілавікі», члены КПСС і шахцёры. Хоць беларускія «антысаветчыкі» Юрка і Лявон Луцкевічы да пералічаных катэгорый не належалі, але і яны ў 1960-х гг. скарысталіся магчымасцю аздаравіцца у санаторыях.

У пачатку 1965 г. Юрка Луцкевіч зламаў нагу. І толькі ў сакавіку пасля досыць цяжкага і працяглага лячэння ён змог не толькі ачуняць, але і нават заняцца любімым зімовым спортам – лыжамі. Аднак пералом той, ды і лагернае мінулае на Поўначы перыядычна нагадвалі пра сябе. «У чэрвені я бяру водпуск. Атрымаў курсоўку ў Пяцігорск – лячыць нагу», – напісаў Луцкевіч у красавіку. «Курсоўка», альбо прафсаюзная пуцёўка, – адна з форм сацыяльнай абароны ў Савецкім Саюзе, якая забяспечвала адпачынак і лячэнне. Размеркаваннем «курсовак» займаліся прафсаюзы, якія кампенсавалі ад 70 % да 100 % кошту. Дзякуючы наяўнасці прафсаюзнай пуцёўкі Юрка Луцкевіч правёў месяц на курорце Пяцігорска ў чэрвені 1965 г.

У лісце да свайго сябра Уладзіміра Стрыгуцкага ад 16 чэрвеня 1965 г. ён апісаў падарожжа ў Стаўрапольскі край, каб лячыць хранічныя хваробы суставаў і наступствы пералому нагі: «Выляцеў я з Вільні 28 мая ў прыгожы сонечны дзень. У Кіеве быў дожджык, у Растове – гарачыня і з гэтага моманту праз амаль тры тыдні тэмпература паветра трымалася ўвесь час каля 30 градусаў. Толькі вось цяпер крыху пахаладнела, ідуць дажджы. Пяцігорск – адзін з курортаў Каўкаскіх мінеральных водаў. Непадалёку – Кіславодск, Жалезнаводск, Есентукі. Усё гэта прадгор'і Каўказу... З вышыні палёту яны выглядаюць як невялікія ўзвышэнні зямлі, якія раптам з'яўляюцца пасля роўных як стол прыдонскіх стэпаў. А з зямлі дык яны парадачныя 1–1,5 км вышыні. Узлезшы на такую горку ў ясны дзень, відаць хіба з палову Каўказскіх гор, асабліва прыгожа выдзяляецца Эльбрус з дзвюма снежнымі вяршынямі».

Юрка Луцкевіч, апынуўшыся на расійскім Каўказе, з задавальненнем праходзіў медычныя працэдуры і вывучаў маляўнічыя наваколлі: «...Сам Пяцігорск гэта жывая ілюстрацыя да кожнай старонкі «Героя нашего времені». Тут і месца, дзе Пячорын спатыкаўся з Верай і дзе забіў Грушніцкага і г. д. Ну, і, вядома, месца, дзе сапраўды забілі Лермантава і дзе яго пахавалі. Лячэнне тут вельмі разнастайнае. Ёсць серныя, серавадародныя, серне-радонавыя, радонавыя ды яшчэ чорт ведае якія ванны, з 24 розных мінеральных крыніц, гразь і г. д. Дзве асноўныя гары: Машук і Бештау (пяць гораў), два паркі, штучнае возера. У Кіславодску парк прыгажэйшы, але там лечаць толькі нарзанам і чыстым паветрам хворых на сэрца. Адлегласць ад Пяцігорска – 40 км электрычкай. Я туды ездзіў у адну з нядзеляў, спаткаў знаёмую з Маладзечна і абедаў у горным рэстаране "Храм воздуха"».

Умовы пражывання і лячэнне ў пяцігорскім санаторыі Юрка Луцкевіч ацаніў здавальняючымі, канстатаваў, што пасля шэрагу працэдур палепшылася ягонае здароўе: «Памясцілі мяне ў самым цэнтры горада на праспекце Кірава. Харчуюся ў дыетнай сталовай – кормяць ад пуза, якое (я маю на ўвазе пуза) расце. Ва мне перад выездам было 79 кг, баюся, каб не прыбавілася. Лячэнне: масаж, паўгадзіны гімнастыкі, паўгадзіны распрацоўкі сустава на спецыяльных механічных прыборах, радонавыя ванны і гразь на нагу. Калі да

гэтага дадаць снеданне, абед і вячэру дык больш на нічога не застаецца часу. Рэжым запісалі «танізіруючы» – вось я і стараюся сябе «танізіраваць» як толькі магу. Сустаў крыху распрацаваўся. На Машук узлез ужо не толькі па серпантыне, але і па горнай трапе. Ну, але да поўнага выздараўлення яшчэ вельмі далёка».

У лісце сябру курортнік Луцкевіч, аднак, прызнаўся, што не вытрымаў рэжыму і патрабаванняў санаторнай установы: «Сонечныя ванны і купанне забаранілі. Спачатку не загараў і не купаўся, але калі пераканаўся, што ўсе гэтыя ванны ды гразі мне на сэрца не шкодзяць, што ціск крыві дайшоў да нормы, плюнаў на ўсе забароны... Крыху фатаграфую, але плёнкі буду праяўляць толькі, вярнуўшыся дамоў, бо баюся, каб тут халтуршчыкі мне не папсавалі плёнкі».

За некалькі дзён да заканчэння адпачынку Луцкевіч адзначыў станоўчыя перамены ў здароўі: «Думкі мае пакрысе пераключаюцца ў бок хаты. Застаўся роўна тыдзень. За гэтыя тры тыдні я сапраўды добра адпачыў, успакоіў нервы, падлячыўся, а цяпер адчуваю, што на нейкі час ізноў змагу займацца вытворчымі справамі, планамі, падгатоўкай эл.мантажных работ і ўсякім іншым паскудствам, адным словам, справамі, якія мне перад водпускам аканчальна абрыдлі. І даходжу да пераканання, што ў маім веку трэба часцей гэтак адпачываць і часцей ездзіць на «рэмонтны завод» накшталт Пяцігорска. Што-ж яшчэ напісаць? Ага, рэзультаты пяцігорскага лячэння: сустаў крыху разварушыў, кульгаю трошкі менш, але да добрага яшчэ далёка. Скінуў паўтара кг лішняга сала з пуза. Ціск крыві дайшоў да нормы, сэрца працуе, як гадзіннік».

### *Дэфіцыт*

Юрка Луцкевіч у лістах часцяком выкарыстоўваў савецкія анекдоты, якія адлюстроўвалі рэчаіснасць. У адным з лістоў да Уладзіміра Стрыгуцкага ён прывёў «непаліткарэктны» анекдот, датычны штучна створанай навамовы і дэфіцыту прадуктаў: «Паехаў я неяк у Ленінград. Куды ні ткнуся – шыльды: «Ленмалако» – «Ленмяса» – «Ленфрукты» – «Ленабутак» – «Ленадзенне». Прыязджаю ў Маскву. Ізноў тое ж: «Мосмяса» – «Мосфрукты» – «Мосмалако». Адтуль накіраваўся ў Нікалаеў. Гляджу – «Німяса» – «Ніфруктаў» – «Німалака» – «Ніабутку» – «Ніадзення». Плюнуў, паехаў у Адзесу. Хаджу па вуліцах: Адземяса, Адзефрукты, Адземалако, Адзеабутак? Ну, а закончыў падарожжа ў Херсоне. Якія там былі шыльды, самі здагадайцеся».

Самы вялікі ажыятаж на спажывецкія тавары і прадукты назіраўся падчас свят. Пасля лістападаўскіх свят 1966 г. Юрый Луцкевіч пісаў пра тое, як пазбег чэргаў: «Калі ўсё таўпіліся перад святамі за барахлом, мы і блізка да крамаў не падыходзілі, а цяпер ціха і спакойна без усякай чаргі Нінка абулася. Купілі чорныя чэхаславацкія туфлі і зімовыя жоўтыя шведзкія па 30 руб. пара».

Дзякуючы таму, што Луцкевічы мелі сваякоў у ЗША, яны былі трошкі ў прывілеяваным становішчы ў плане адзення. 21 траўня 1967 г. Юрый Луцкевіч у лісце Уладзіміру Стрыгуцкаму апісаў змесціва пасылкі ад амерыканскіх сваякоў: «Атрымалі пасылку ад нашых амерыканцаў. Тое-сёе для мяне, Лёнькі... але галоўнае гэта дамскія шмоткі. Мая Яня ўсё-ж стопрацэнтная жанчына. Відавочна, яна па фатаграфіі ўстанавіла ўсе габарыты Нінкі і прыслала рознае барахло, якое на ёй так ляжыць, быццам на яе шыта. Асабліва-ж добрыя гэтыя, ведаеце, «інтымныя часткі» жаночага гардэробу. Не забылі і пра Сярожку». У адказ у знак удзячнасці беларусы адправілі рэчы, якія цяжка было знайсці ў ЗША: «Мы ім паслалі дэкаратыўную дубовую бочку гэтак літры на тры віна, выкананую ў майстэрнях мастацкага фонду. З кранікам і падстаўкай. Драўляныя шчыпцы для гарэхаў (щелкунчік) з мордай Мефістофеля. Штук пяць бурштынавай біжутэрыі (медальёны, бусы, брошкі, бранзалеткі). Ну, і яшчэ сёе-тое».

У юбілейны для камуністычнай улады 1967 г. па ўсёй Краіне Саветаў праходзіла мноства святочных мерапрыемстваў, у межах якіх адкрываліся гандлёвыя павільёны і крамы, будаваліся аб'екты інфраструктуры. А ў савецкіх крамах з'явіліся замежныя тавары з краін сацлагера і нават з Францыі. У лісце ад 3 лістапада 1967 г. Юрый Луцкевіч апісаў спажывецкі ажыятаж у крамах напярэдадні 50-годдзя савецкай улады: «Купіў дзве бутэлькі югаслаўскага віняку (3 зорачкі, 0,75 л. – 5 руб. 70). Добра, што гэты Броз-Цітаўскі прэзэнт выкідаюць у гандлёвую сетку, бо ў Вільні армянскія ды грузінскія каньякі прадаюць толькі ў буфетах ЦК і Савета Міністраў. А з барахла ў Вільні некалькі месяцаў нічога не было, перад святам выкінулі лакіраваныя французскія туфлі па 45 рублёў ды ўсякія шарсцяныя шматкі. Трэба было бачыць, як душыліся бабы ў чарзе за гэткім барахлом. А цяпер гэтыя лякеркі здаюць назад у магазіны, бо аказалася – дрэнь!».

### *Жыллёвае пытанне*

Адным з найбольш вострых пытанняў, якім пераймаліся савецкія грамадзяне ў 1960-я гг., была жыллёвая праблема. Мільёны людзей у СССР, якія ўдзельнічалі ў паваеннай адбудове гарадоў і індустрыялізацыі, жылі ў чаканні атрымання ўласнай кватэры. Дзякуючы Мікіце Хрушчову, які зрабіў стаўку на масавае будаўніцтва таннага і простага ў архітэктурным плане жылля (у народзе – «хрушчобы», «хрушчоўкі»), многія грамадзяне здолелі атрымаць уласнае жыллё. Для былых палітзняволеных, якія выжылі ва ўмовах сталінскіх лагераў, на шляху вырашэння жыллёвай праблемы стаялі заканадаўчыя і бюракратычныя абмежаванні. Некаторым катэгорыям вязняў было забаронена жыць у сталіцах саюзных рэспублік і курортных гарадах.

25 ліпеня 1965 г. падчас адпачынку на Каўказе Юрка Луцкевіч сустрэў сваю стрыечную сястру, якая распавяла яму пра дыскрымінацыйны ўказ адносна за-

бароны былым палітрэпрэсаваным сяліцца ў сталіцы БССР. Вось што ён пісаў сябру Уладзіміру Стрыгуцкаму ў пасёлак Матросава на Калыме: «А цяпер аб адной вельмі важнай справе. Пад канец маёй бытнасці на паўдні я спаткаўся ў Есентуках з дваюраднай сястрой Маней (з той, што жыве ў Мурманскай вобласці). Яна мінчанка, рэабілітавана і мае права на атрыманне жылое плошчы ў Менску. Дык вось яна мне сказала, што ў чэрвені была ў Менску і цікавілася справай пабудовы кааператыўнай кватэры. Паміж іншым ёй там сказалі, што нейкім спецыяльным указам (калі не памыляюся месяцы два таму назад) Менск уключаны ў спісак тых гарадоў (Масква, Ленінград, Кіеў, курортныя гарады), на якія не распаўсюджваецца тая пастанова партыі і ўраду аб якой ты, Валодзя, пішаш. Правер, калі ласка, гэтыя звесткі, пры дапамозе Тваіх крыніц інфармацыі. Калі толькі гэта праўда, дык Менск, як Ваша пастаяннае «locum», адпадае. І трэба будзе ізноў вельмі сур’ёзна падумаць, які горад выбраць, каб пасля не шкадаваць. На выпадак, калі-б Ваш выбар паў Вільню, дык мы можам дапамагчы, (калі, вядома, цераз год і Вільню не ўключаць у гэты спіс)».

Уладзімір Стрыгуцкі пасля вызвалення з ГУЛАГа некалькі гадоў разам з сям’ёй працягваў жыць на Поўначы, паколькі там для былых вязняў адкрыліся перспектывы працаўладкавання на залатых прыісках, што давала магчымасць зарабіць неблагія грошы, а таксама дабіцца шэрагу льгот, у т. л. ранняга выхаду на пенсію. Аднак увесь час Валодзю не пакідала жаданне вярнуцца разам



*Ул. Стрыгуцкі і Юрка Луцкевіч. Пасёлак Матросава. Канец 1950-х гг.*



*Ул. Стрыгуцкі і Лявон Луцкевіч. Пасёлак Матросава. Канец 1950-х гг.*

з маладой сям'ёй на радзіму. Першапачаткова ён імкнуўся трапіць у Менск, у якім ён жыў у гады студэнцкай маладосці.

З ліста Уладзіміра Стрыгуцкага Юрыю Луцкевічу: «Вось перада мной на стале ляжыць адказ з Менска. Сутнасць яго была і нам, і Вам вядома ўжо даўно. Коратка і ясна: адмовіць. Абгрунтаванне: пастанова Савета Міністраў СССР ад 27.05.65 № 1009, з якой значыцца, што на горад Менск распаўсюджваецца парадак прапіскі і прыйма ЖБК, як для гарадоў: Масквы, Кіева, Ленінграда. Што-ж бывайце ілюзіі. Адвяртаецца бацькаўшчына задам. Можна было б пусціцца ў розныя авантуры, камбінацыі і рознымі левымі шляхамі неяк дабіцца квадратных метраў пад менскім небам. Але годзе! Бывайце, ілюзіі... А можа, гэта і лепш, што мы падамося ў Вільню. Зрэшты, яна мала што не інтэрнацыянальная сярод прызваітых гарадоў. Давайце, браткі, будзем супольна ціснуць у адну кропку, у адзін штырок званка. Чым гучней будзе звон той, тым пэўней гарантыя ў звяршэнні варыянта...».

28 жніўня 1965 г. Юрый Луцкевіч даслаў сябру Валодзі падрабязныя тлумачэнні наконт імавернасці пераезду сям'і Стрыгуцкіх у Вільню. Па інтанацыі ліста бачна, што абодва сябрукі загарэліся ідэяй, што іх сем'і стануць суседзямі. «Не чакаючы, пакуль Барада[1] раскруціцца, і карыстаючы з дзяжурства на заводзе пішу Вам «дзелавое» пісьмо. Primo: мы вельмі рады, што вы выбралі Вільню! Калі ўсё атрымаецца, як мяркуеце, не пашкадуеце! Secundo: Алік, наш школьны сябра і старэйшы эканаміст горбесталкома абяцаў дапамагчы, а гэта вельмі многа значыць, бо за ўвесь час дзеяння Пастановы СМ у Вільні ўдалося пабудаваць кааператыўную кватэру толькі двум «золотопромышленнікам». Tertio: Рыхтуй, Валодзя справўку, а калі пасылаць яе і ці пасылаць, напішам пасля. Quarto: пашпарт трэба мець чысты без рагоў і палажэння, не памятаю, які ў цябе, але здаецца ў 66-м годзе зменіш яго, бо інакш могуць быць камплікацыі. Quinto: неадкладна напішы заяву на імя «зампреда Вільнюсского горісполкома тов. Сташкус», пасылай яго проста па пошце ў гарбесталком, справак не далучай, а проста напішы, што ты адпрацаваў 10 год на золаце і карыстаючы з пастановы СМ хочаш пабудаваць кватэру і на стала перасяліцца ў Вільню. Спытай, якія трэба прыслаць паперы, наагул якія фармальнасці. А калі атрымаеш адказ, напішы нам, што адказалі, а мы будзем дзейнічаць далей, бо зусім не выключана, што адказ будзе негатыўным. Нашы бюракраты трымаюцца практыкі: спярша заўсёды табе адмовіць, а калі трэба, дык можна будзе зрабіць ласку і дазволіць; а вось калі адразу дазволіш, дык адмаўляць пасля неяк не выпадае. Sexto: геаграфічнае становішча – пакуль што – тэрра інкогніта. Сёлета будуюць на другім баку Вяллі, а на Антокалі будуюць штосьць з 4 каап. дамы. Але Антокаль сёлета закончаць, на пачатак году застанецца квартал д-10 – гэта на другі бераг ракі, крыху бліжэй да гораду,

[1] Такую мянушку ў перапісцы Луцкевічаў меў малодшы брат Лявон.

а дзе адкрыць новы мікрараён, яшчэ дакладна невядома. Але як толькі даведаемся, напішам. Калі толькі будзе выбар, дык вядома, пастараемся ўладкаваць Вас у такі кааператыў, які будзе ў найлепшым раёне [...] Septimo: Дазваляюць будаваць да 15 $м^2$ (жыл. плошчы) на чалавека. Вас трое, значыць, тры пакоі. Раздзяліць на чатыры гэтую плошчу бадай што не ўдасца (вокны!). 1 $м^2$ жылой плошчы каля 110 руб. Гэта значыць, кватэра да 5 тысяч. Плаціць адразу 40–45% – рэшта раскладаецца на 15 гадоў + працэнты з разліку 1% гадавых. За лепшую якасць нічога не бяруць, але ў Вільні якасць і так значна вышэй, чым сярэдняя па Саюзу».

Цягам усяго 1965 г. сям'я Стрыгуцкіх гарэла ідэяй пераезду ў Вільню. Каб вырашыць жыллёвае пытанне, «антысаветчыкі» вывучалі заканадаўства, збіралі неабходныя дакументы і вялі перапіску з чыноўнікамі. Аднак гэтыя планы так і не былі рэалізаваны. 14 лютага 1966 г. Юрка Луцкевіч напісаў ліст сваім сябрам Стрыгуцкім, у якім выказаў спачуванне з нагоды таго, што віленскія бюракраты ствараюць перашкоды на шляху пераезду ў Вільню. «Даражэнькія Яня, Валодзя і Косцік! Учора атрымалі Ваша пісьмо з нечаканай і прыкрай весткай. Нечаканай і для нас, аб гэтым ніжэй. Дзеля таго да гэтага часу і не пісалі, бо хацелі паведаміць аб нечым канкрэтным. Аж тут, на табе!.. Пакенас аказаўся скацінай і то «дубальтовай». [...] Ён узяў у Аліка паперы, нешта бурчэў, што цяжка зрабіць, але будзе старацца, а тымчасам «уціхара» адаслаў дакументы з адмоўным адказам табе, аб чым мы даведаліся з твайго, Валодзя, ліста. Бо па дагавору ён меўся ў выпадку, каб не змог рашыць справу пазітыўна, вярнуць дакументы Аліку без рэзалюцыі. Ясна, каб хтосьці з Вас быў ліцвін, дык ён бы сабе такога не пазволіў. А ў адпісцы хлусня, бо і цяпер запісваюць на 68-ы, а нават і на 67-ы год», – са скрухай адрэагаваў на факт адмовы Юрка Луцкевіч.

Ён заўважыў адчайны настрой свайго сябра і спрабаваў яго суцешыць: «Мне здаецца, што адразу пасаваць адносна Вільні рана. Вось вам адзін з прыкладаў: наш сусед і аднапалчанін Косця[1]. У Інце «вывучыўся» на токара. Прыехаў. Не мог прапісацца. Дапамог дырэктар заводу, на які ўстрайваўся. Год памучаўся адзін, бо жонку з дзіцём не было куды памясціць. Цяпер жыве як пан на трэцім паверсе ў нашым доме. Другі прыклад мы. Пачалі з Ляндварова. Улучылі момант, прапісаліся ў горадзе. А цяпер у межах гораду ёсць саўгас, які дае памяшканне (хаця б у інтэрнаце). Але-ж важна не памяшканне, а гарадская прапіска. А тады ўжо і Пакенас нічога не зробіць. Ёсць і іншыя варыянты, але ўсё гэта сталася настолькі нечакана, што, вядома, усяго, як належыць не прадумалі...».

1 Канстанцін Шышэя (1921–11.12.2004) – дзеяч беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, сябра Беларускай незалежніцкай партыі, дэсантнік батальёна «Дальвіц», адзін з камандзіраў Беларускай краёвай абароны падчас Другой сусветнай вайны.

Юрка Луцкевіч раіць Стрыгуцкім не здавацца з прычыны адмовы і скарыстацца праверанымі ў савецкай дзяржаве спосабам, а менавіта пісаць скаргі. Цытуем параду Юркі Луцкевіча: «Цяпер, па-мойму, трэба пачынаць трубіць ва ўсе трубы і званіць ва ўсе званы уключаючы Вярхоўны Савет, Савет Міністраў, «Ізвестія» і г. д. Што вось у слаўным і вялікім месце Віленскім упарта ігнаруюць Прыказ Савета Міністраў, што заселі бюракраты ды буржуазныя нацыяналісты, што хлусяць, бо па першае табе вядома, што гаражан запісваюць і цяпер на 67-68 год, а па другое што зусім дакладна ён і не можа ведаць, якія ліміты кааператыўнага будаўніцтва будуць у бліжэйшыя гады, бо план маецца пакуль што толькі на 66-ы год, а будаўніцтва на аснове рашэння вераснёўскага пленуму будзе расшырацца і г. д. Адным словам паступілі няправільна, цябе пакрыўдзілі, бо ўсё роўна павінны былі запісаць на чаргу, хаця бы апошнім, што і для чаго ж Савет Міністраў выдае прыказы, каб розныя пакенасы іх адмянялі, адным словам, вучыць цябе не трэба як пісаць [...] Калі хаця 10 % ёсць шансаў, што адна з жалаб паможа, то пісаць варта, бо ў грашова-рэчавай латарэі шансы на выігрыш значна меншыя, а людзі ўсё-ж купляюць білеты і плоцяць па 30 капеек. [...]

І яшчэ адна справа. Відавочна, не ўсе справы можна вырашыць завочна. Нават, каб ажаніцца і то ты мусіў прыехаць з Калымы ў Барысаў, а не проста выпісаць Яню па пошце «наложенным платежом». Выснаў з гэтага такі: трэба прыязджаць і папахадзіць і за работай, і за кватэрай, і за прапіскай. І тады не можа быць такога факту, каб двое людзей з прафесіяй ды яшчэ з ашчаднымі кніжкамі не змаглі ўстроіцца так (ці амаль так) як яны хочуць. Мы з свайго боку будзем дзейнічаць, збіраць інфармацыю, можа, падумаўшы што-небудзь талкова і парадзім. А вы пішэце жалабы і рыхтуйцеся да ад'езду».

Луцкевічы моцна перажывалі, што іх калегі па няшчасці Стрыгуцкія не могуць пераехаць у Вільню. Яны шукалі магчымасці, якія б дазволілі беларусам замацавацца на першы час у савецкай Літве. 2 сакавіка 1966 г. Юрка прапанаваў Стрыгуцкаму разглядзець варыянт з пасяленнем у віленскім прадмесці Грычышкі: «Трэба будзе запусціць зонд у Грычышкі, – гэта пасёлак пад Вільняй, які раней ці пазней будзе прылучаны да гораду і знаходзіцца ў 5 км ад знаёмага табе Лентварыса. Там вялікі эксперыментальны папяровы камбінат і прыгожы пасёлак, дзе будуюцца дамы з усімі выгодамі. Там можна нават лічыць на казённую кватэру. Дырэктар камбіната Осіпаў, дык нац. пытанне адпадае. Ёсць знаёмыя, што могуць даць інфармацыю, а можа і дапамагчы. Там пераважна працуюць цэлымі сем'ямі. Ёсць у Вільні і магчымасць купіць хату, ці палову хаты, але з гэтым асцярожна, бо цэны непараўнальна вышэйшыя, чым кааператыў, а сапраўдных выгодаў няма. Усе варыянты трэба правяраць, прашчупаць і толькі тады прыняць аканчальнае рашэнне».

У тым жа сакавіцкім лісце Луцкевічаў да Стрыгуцкіх можна азнаёміцца з тым, як у савецкія часы вырашаліся жыллёвыя пытанні, і якую ролю ў гэтым

адыгрывалі асабістыя сувязі: «Трэба сказаць, што ўсе гэтыя справы робяцца па прынцыпу: «Ятабетымне». Гэта значыць Алік чакаў, каб т. Пакенас, ад якога ў гэтай справе шмат залежыць, прыйшоў да яго з нейкай справай, а пасля вылажыў сваю. Абяцае, што першая кааператыўная кватэра, якую ў Вільні збудуюць для б. «золаташукальнікаў» будзе кватэра Стрыгуцкіх. Пасля Новага Году прысылай усе патрэбныя паперы: 1. Заяву з указаннем на колькі пакояў хочаш кватэру 2) спраўку з места жыхарства з указаннем складу сям'і 3) спраўку з места работы як сваёй так і жонкі з указаннем сярэдняга месячнага заробку 4) тую спраўку, аб якой ты пісаў, дзе сказана аб тваім стажы на золаце 5) усякія характарыстыкі ды хадатайствы, чым больш, тым лепш. Усё гэта ўкладай у адзін канверт і шлі на мой адрас».

Пасля вызвалення са сталінскага лагера Уладзімір Стрыгуцкі разам з сям'ёй цягам некалькіх гадоў пражываў у пасёлку Матросава Магаданскае вобл. Ягоная жонка Яніна працавала ў гандлі, а ён, знаходзячыся на вольным пасяленні, працягваў працаваць на залатых прыісках. Праца была цяжкай, але за яе добра плацілі. Да таго ж праца на Поўначы давала былым палітрэпрэсаваным шэраг ільгот на пабудову жылля на «мацерыку». Але на практыцы для былых «ворагаў народа» ўвогуле накладаліся забароны на атрыманне кватэр у сталіцах саюзных рэспублік і курортных гарадах. Што праўда, некаторыя спрытныя грамадзяне ўмудраліся абыходзіць забароны рознымі спосабамі. Але ў выпадку Стрыгуцкіх тое не выйшла.

Узгадвае Яніна Стрыгуцкая: «У Гомелі апынуліся, таму што ільгота была для тых, хто на Поўначы пражыў 10–15 гадоў. Для гэтай катэгорыі будавалі жытло па-за чаргой. Мы спачатку адправілі дакументы ў Вільнюс. І там ужо мусілі абжывацца – там, дзе жылі Луцкевічы. Але па розных прычынах Валодзю адмовілі. Мы б, канешне, на Менску спыніліся, але і там ільготы не распаўсюджваліся. У Гомель прыехалі, тыдзень жылі ў гасцініцы на Сялянскай. У нас прынялі дакументы. І праз год пабудавалі кватэру. У 1967 годзе ў нас ужо была кватэра атрыманая»[1].

У 1966 г. сям'я Стрыгуцкіх пераехала ў абласны цэнтр БССР Гомель. Гэты горад, які імкліва адбудоўваўся пасля вайны, спадабаўся «калымчанам». Пра гэта яны напісалі сваім віленскім прыяцелям Луцкевічам. 31 кастрычніка 1966 г. Юрка Луцкевіч узрадваўся, што, нарэшце, ягоныя сябры вызначыліся з месцам пражывання: «Даражэнькія! Атрымалі ізноў, як і раней, нармальнае доўгае паўначное пісьмо. Цешыліся з Вашага бадзёрага настрою, а найбольш з таго, што нядоўга прыдзецца Вам марнець між Калымскіх сопак, нарэшце

---

[1] М. Бянько, *Я сын таго краю. Уладзімір Стрыгуцкі – рэпартаж Міколы Бянько і Юліі Сівец,* [online] https://www.racyja.com/repartaz-rr/ya-syn-tago-krayu-uladzimir-strygutski-r/, [дата доступу: 19.08.2022].

пачнеце навечна ўкараняцца ў роднай зямельцы. Эх, і здорава-ж будзе адведаць вас у вашай 4-х пакаёвай Гомельскай кватэры! Заўсёды Вашы».

Напярэдадні свята Новага года, 21 снежня 1966 г. Луцкевічы павіншавалі Стрыгуцкіх і пажадалі ім як мага хутчэй абжыцца на новым месцы: «З добрым, шчаслівым годам, з годам аканчальнага звароту на бацькаўшчыну. Не ведаю якія тэмпы будаўніцтва ў Гомелі, але ў Вільні ад моманту закладкім фундамантаў да здачы панельнага дому праходзяць тры месяцы, а цаглянага дому – восем».

Пераезд у Гомель для сям'і Стрыгуцкіх адбыўся не адразу. Атрымаўшы права на жытло, яны яшчэ нейкі час жылі на арандаваных кватэрах. Каб заплаціць унёсак за кааператыўную кватэру, абставіць яе мэбляй і ўвогуле ўтрымліваць сям'ю, Валодзя Стрыгуцкі яшчэ некалькі месяцаў працягваў працаваць на Калыме. Юрый Луцкевіч спрабаваў падбадзёрыць прыяцеля, які пакутваў ад самоты. У лісце ад 5 жніўня 1967 г. ён пісаў: «Даражэнькі наш саламяны ўдавец! Віншуем і адначасна спачуваем. Вестку аб тым, што рэшта сям'і ўжо ў Гомелі атрымалі ў адзін дзень з дзвюх крыніц: ад Яні тэлефонам і ад цябе лістом. На жаль, падвяла сучасная айчынная тэхніка сувязі: амаль нічога не было чуваць. Зразумелі, што ўсё ў парадку, што кватэру заняла, патроху ўстраіваецца, што мэблі яшчэ няма... Ні адрасу яе не запісалі, ні да чаго не дагаварыліся... і маўчок. [...] На ўсякі выпадак прышлі нам Ваш Гомельскі адрас!».

Знаходзячыся на Калыме, Уладзімір Стрыгуцкі апісаў тып кватэры, якую яго сям'я пабудавала ў Гомелі. У лісце ад 15 жніўня 1967 г. Юрый Луцкевіч падзяліўся ўражаннямі наконт планіроўкі кватэры сяброў: «Тып гэтай кватэры мне добра вядомы. Гэта серыя 1–464 А. У Вільні ўжо будуюць паводле новай планіроўкі, больш выгоднай. І чатырохпакаёвыя маюць большую плошчу. Бо фактычна гэта 3-хпакаёвая кватэра, толькі апошні пакой перадзелены. Наша кватэра мае плошчу толькі на 4 кв. метры меншую. А наагул дык кватэра нядрэнная. Ёсць месца і на салон, і на дзіцячы пакой, і на кабінет, і на спальню. Адносна Вашага новага і аканчальнага плану развітання з Калымой магу сказаць адно: Вам на месцы лепш відаць. Вядома, каб прыехалі ўсе разам сёлета, дык было бы лягчэй супольнымі сіламі абсталявацца на новым месцы. Але-ж тут іграюць роль фінансы, а я (асабліва цяпер) адчуў, што іх значэнне ў сямейным жыцці даволі фундаментальнае».

У 1967 г. віленчукі Луцкевічы, якія любілі падарожнічаць па еўрапейскай частцы СССР на ўласным аўтамабілі, завіталі ў Гомель. 9 кастрычніка 1967 г. у лісце да Стрыгуцкіх Юрка Луцкевіч распавёў пра паездку: «У Гомелі нам наагул спадабалася. Вядома, нам у Вільні больш прытульна, Гомель – гэта ўжо Палессе, няма марэнавых узгоркаў, да якіх прывыкла вока. Затое Сож – выдатная рэчка. Ваш мікрараён цераз некалькі гадоў будзе прыгажэйшы і больш прыдатны да жыцця. Цяпер яшчэ многа пылу, крамы, школа і садок далёка. Але ўсё гэта будуецца ўжо цяпер, а тэмпы будаўніцтва там нязгоршыя».

## *Сустрэчы з аднадумцамі*

Вядомы беларускі гісторык Міхась Чарняўскі ў некаторых публікацыях распавёў пра тое, як у 1960-я і 1970-я гады паўставаў беларускі дысідэнцкі рух, аснову якога складалі прадстаўнікі акадэмічнай супольнасці. Паводле гісторыка, пра беларускія антысавецкія структуры практычна не гаворыцца, паколькі ў сталіцы БССР, у адрозненне ад Масквы, не было замежных амбасад і іншаземных карэспандэнтаў[1]. Гэта значыць, пра беларускі супраціў не было каму пісаць і казаць за межамі краіны. Другім адрозненнем беларускага дысідэнцтва, на думку даследчыка, быў нацыянальна-патрыятычны характар дзейнасці. Беларускія «антысаветчыкі», хоць і падзялялі агульнадэмакратычныя каштоўнасці і абураліся акупацыі Чэхаславаччыны, але імкнуліся супрацьстаяць імклівай русіфікацыі БССР. У гэтым іх мэты супадалі з задачамі папярэднікаў – беларускіх нацыянальных дзеячаў даваеннага часу, да якіх адносіліся ў тым ліку браты Луцкевічы-малодшыя.

Адной з галоўных тэм іх перапіскі з Уладзімірам Стрыгуцкім былі падарожжы і сустрэчы з ацалелымі дзеячамі беларускага нацыянальнага руху, з якімі Юрка і Лявон кантактавалі яшчэ ў міжваеннай Польшчы ці падчас нямецкай акупацыі Беларусі. «У мінулую нядзелю былі ў Смаргоні, там ізноў гулялі залатое вяселле ў Капусцінскіх[2], што прыходзяцца нейкімі там сваякамі Багдановічам[3]», – пісаў Юрый Луцкевіч пра адну з паездак у ліпені 1965 г.

Ці не найчасцей у лістах Юркі Луцкевіча згадваецца Кастусь Шышэя. За сваё змаганне ў шэрагах беларускай нацыянальнай партызанкі і ў складзе Арміі Краёвай па заканчэнні вайны ён быў асуджаны на 10 гадоў лагераў. Выйшаў на волю ў 1953 г. Падчас зняволення ў Інце пазнаёміўся з паэткай Ларысай Геніюш, якая сасватала яму Леакадыю Кавальчук – беларуску, асуджаную за ўдзел у СБМ. Пасля заканчэння вайны ён пераехаў у Вільню і стаў суседам братоў Луцкевічаў. «Вось прыехаў з Інты наш аднапалчанін Кастусь (цяпер ён наш сусед) – сярэдняй рукі токар і прайшоўся па віленскіх заводах. Уяві сабе што абсалютна на ўсіх заводах яму прапанавалі работу. А што выпіць любіць, дык у Вільні не п’юць толькі дзве карыятыды (балваны), што на Троцкай вуліцы падтрымоўваюць балкон (бо рукі занятыя, ды ніхто ім не падносіць), а яшчэ Алік Багдановіч», – пісаў 24 красавіка 1965 г. Юрка Луцкевіч.

Кастусь Шышэя разам з жонкай Лёдзяй як суседзі Луцкевічаў часта ўдзельнічалі ў супольных святах, разам сустракалі Новы год, адзначалі ўлазіны і дапамагалі Луцкевічам будаваць гараж. «Найбольш кантактаў у нас з Косцям Шышэям і не толькі дзеля таго, што сусед, проста гэта сапраўды добры – шчы-

---

[1] М. Чарняўскі, *Акадэмічны асяродак* // Вытокі: грамадскі вэб-архіў [online] https://vytoki.net/?organization=00002663, [дата доступу: 13.06.2022].

[2] Сям’я вядомых у Смаргоні юрыстаў і настаўнікаў (*заўвага аўт.*).

[3] Сям’я Багдановічаў – гэта віленскія беларусы, прыяцелі Луцкевічаў (*заўвага аўт.*).

ры хлапец. Ягоная Лёдзя – круглая выдатніца». Ці ў іншым лісце: «Хакей глядзелі пераважна ў суседа Косці Шышэі, знаёмага Вам. Яго Лёдзя папрацавала ў нас крыху на заводзе, а цяпер пайшла касірам у банк і адначасова канчае на «выдатна» дзясяты клас. А Косця ўкалывае цэлы дзень на заводзе, а вечарам Лільку няньчыць».

Таксама ў ліставанні ёсць інфармацыя пра сувязі з былымі вязнямі сталінскіх лагераў, якія жылі ў розных гарадах Беларусі пасля смерці Іосіфа Сталіна. У некаторых лістах апавядаецца пра перыядычныя паездкі віленчукоў па шэрагу беларускіх гарадоў у 1960-х гг., падчас якіх Луцкевічы сустракаліся з мясцовымі актывістамі і нацыянальна арыентаванай інтэлігенцыяй. І хоць яны не паведамлялі пра тое, якія тэмы ўздымаліся на падобных сустрэчах, аднак некаторыя высновы і ўражанні ад тых паездак сведчаць пра тое, што Юрка і Лявон не гублялі магчымасці падзяліцца сваімі ведамі пра беларускую гісторыю з маладым пакаленнем беларусаў. У прыватнасці, у адным з лістоў гаворыцца пра сустрэчу з моладдзю Маладзечна на базе мясцовага краязнаўчага музея, падчас якой мясцовыя актывісты распавялі старэйшым таварышам пра іх змаганне за беларушчыну і супрацьстаянне рэсталінізацыі.

З ліста Юркі Луцкевіча ад 25 жніўня 1964 г.: «Агледзілі ў Маладзечне краязнаўчы музей, які нам спадабаўся тым, што рыхтуючы экспазіцыю там пастараліся адыйсці ад сталінскіх штампаў і паказаць сапраўды тое сёе з гісторыі Беларусі і беларускай культуры. Там сабралася кучка «заўзятых беларусаў» (ёсць і моладзь, якая нядаўна скончыла інстытуты), яны захапляюцца Каліноўскім, «Нашай Нівай», зачытваюцца перадавіцамі Антона Луцкевіча, напісанымі паўвека таму назад і вядуць ціхую барацьбу з сталінцамі і вялікадзяржаўнымі шавіністамі, якіх яшчэ ў нас хоць адбаўляй...».

Можна меркаваць, што візіты, якія рэгулярна здзяйснялі Луцкевічы па некалькіх беларускіх гарадах, маглі паўплываць не толькі на з'яўленне незалежніцкіх асяродкаў, але і на фармаванне светапогляду асоб, якія спрычыніліся ў 1980-я гады да стварэння БНФ. Цалкам магчыма, што Луцкевічы, якія выступалі некалькі разоў перад жыхарамі Маладзечна ў 1960-я гг. з аповедамі пра свайго бацьку і нацыянальны рух пачатку XX ст., маглі сустракацца з Міколам Ермаловічам, які ў той час жыў і працаваў у Маладзечне. Больш за тое, па храналогіі паездкі нацыянальных дзеячаў супадаюць з падпольным выданнем кнігі Міколы Ермаловіча «Па слядах аднаго міфа» (выдадзена самвыдатам у 1968 г. і распаўсюджвалася нелегальна) – знакавай працы беларускага гісторыка пра ВКЛ. Не выключана, што менавіта кантакты з Луцкевічамі, якія дзяліліся сваімі ведамі пра генезіс беларускай дзяржаўнасці, падштурхнулі М. Ермаловіча на даследаванне гісторыі ВКЛ, што вылілася ў некалькі кніг, у т. л. у згаданую вышэй.

З іншымі беларускімі дзеячамі Юрку Луцкевіча звязвалі ранейшыя дачыненні ў межах нацыянальных арганізацый першай паловы XX ст. У адным

з лістоў ён распавёў пра сустрэчу з вядомым дырыжорам, народным артыстам СССР Генадзем Цітовічам, які разам з Беларускім народным хорам прыехаў на гастролі ў Вільню: «У панядзелак былі ў філгармоніі на канцэрце беларускага народнага хору Цітовіча. Зал быў няпоўны (хто ж гэта прыязджае на гастролі ў панядзелак!), пераважна наш «віленска-беларускі архіў». Але канцэрт наагул удаўся нядрэнна. Вядома пяюць не на такім узроўні, як капела Шырмы, але народ маладзейшы, ёсць танцавальная група, група народных інструментаў (цымбалісты), добры тэмп, весела. Ну, і з самым кіраўніком было цікава сустрэцца, бо Цітовіч быўшы віленчук (я быў з ім знаёмы яшчэ ў Баранавічах, дзе ён падчас акупацыі вучыў дзетак спяваць)».

Асобная тэма – кантакты беларускіх нацыянальных дзеячаў з прадстаўнікамі ўкраінскага антысавецкага падполля. У сталінскіх канцлагерах адной з найбольш шматлікіх катэгорый вязняў, асабліва ў пасляваенны час, былі ўдзельнікі збройных фармаванняў з Заходняй Украіны. Пра ўкраінскіх палітычных вязняў у сваіх аўтабіяграфічных творах згадвалі Ларыса Геніюш, Рыгор Клімовіч, Сяргей Грахоўскі і іншыя беларускія рэпрэсаваныя. Не дзіва, што пасля выхаду на волю ў 1950-х гг. Луцкевічы таксама захавалі шэраг кантактаў з украінскімі палітвязнямі, з якімі яны падтрымлівалі сувязь у наступныя дзесяцігоддзі.

Увосень 1966 г. Луцкевічы выправіліся ў падарожжа па Заходняй Украіне, дзе пражываў іх сябар па гулагаўскім мінулым Міхайла Скалецкі. Украінец быў асуджаны ў 1947 г. за ўдзел у антысавецкай партызанцы. У шэрагах УПА юнак выконваў абавязкі стральца, за што быў накіраваны ў высылку на 20 гадоў з абмежаваннем правоў на 5 гадоў. У 1956 г. быў вызвалены. Пражываў у в. Острівок Сокальського р-на[1]. І вось менавіта да яго ў госці ў 1966 г. выправіліся Юрый і Лявон Луцкевічы.

Вось як апісваў сваё падарожжа ў Заходнюю Украіну Юрый: «Назаўтра апошні этап Баранавічы – Брэст – Уладзімір Валынскі – Чырвонаград – Бэлз і сяло Астравок, дзе жыве Мішка Скалецкі. Брэст выглядае прыгожа, горад чысты, шмат новых дамоў, як ні дзіўна, аде надпісы пераважна на беларускай мове. Едучы цераз Палессе бачылі ўсякае: нават эрозію глебы ў выніку некалі шырака разрэкламаванай мэліярацыі. Нававалынск і Чырвонаград гэта шахцёрскія гарады ў поўным гучанні гэтага слова (не ўступаюць, напрыклад, Варкуце). Кругом гарацць тэрыконы, смурод, кварталы і кварталы новых жылых дамоў і г. д. Нарэшце ціхі Бэлз (быўшая 100 % жыдоўскае, як напрыклад, Бердычэў, мястэчка на самай польскай граніцы) і цераз 12 км Мішкава хата, тая самая правізарычная пабудова, якую мы з Лёнькам бачылі ў 1962 годзе...».

[1] Б. Нечай, *Сокальщина. Книга пам'яті України. 1914–1990, Сокаль і Сокальщина, 2005* [online] http://sokal.lviv.ua/sokalschyna_knyha_pamiati_ukrainy_1914_ 1990/page__941.html, [дата доступу: 13.05.2022].

Лагернае зняволенне і жорсткія ўмовы расійскай Поўначы адбіліся на здароўі Міхаіла Скалецкага: «Мішка быў відавочна вельмі здаволены. Выглядае наагул марна, асабліва дзеля таго, што страціў і не паставіў дагэтуль усе пярэднія зубы. Хлопчыкі ў яго растуць добрыя. Старшая дзяўчынка Вольга працуе настаўніцай, малодшая мед. сястрой у Чырвонаградзе (але сёлета паступіла на завочнае аддз. Політэхнічнага інстытуту). Паклаўшы нас спаць, Мішка пабег на рэчку ставіць сеці. І праўда злавіўся сімпатычны язь кілаграмы на чатыры. Мішка апрача сваёй асноўнай працы мае «хоббі» – гэта рыбалка. На другі дзень аказалася свята ды яшчэ нейкае поснае, уніяцкае («чысты крэчт», ці нешта ў гэтым родзе, але я чуў там і гэткі тост): «Що-ж вип'емо за нашого чесного Хріста, за котрого ми терпіли на далекій Півночі!». Нас запрашалі бадай у кожную хату, дык і набраліся добра. Пілі самагонку і польскі медыцынскі спірт на 95 градусаў. Закуска была выключна нясмачная. На Нінку загадзя павязалі хустку "па-іхнему", каб не выглядала на "кацапку"».

Як бачым, у карэспандэнцыі Юркі і Лявона Луцкевічаў з Уладзімірам Стрыгуцкім утрымліваюцца звесткі пра розныя аспекты жыцця колішніх удзельнікаў антысавецкага руху ў Беларусі ў 1960-я гг. Былыя вязні сталінскіх лагераў абмяркоўвалі не толькі грамадска-палітычныя падзеі, але і дзяліліся вопытам у плане паляпшэння дабрабыту і жыллёвых умоў. З лістоў вынікае, што пры фактычнай адсутнасці падпольных антыкамуністычных структур у БССР у дадзены перыяд паміж былымі вязнямі, асуджанымі паводле палітычных артыкулаў, існавалі трывалыя ўзаемасувязі. Пра гэта сведчаць як сам факт перапіскі паміж «былымі калымчанамі», так і сістэмныя сустрэчы былых вязняў, пра якія неаднойчы згадвалі браты Луцкевічы ў лістах гомельскаму сябру. Аналіз прозвішч, якія згадваюцца на старонках архіва, а таксама вывучэнне геаграфіі паездак дазваляюць зрабіць выснову пра наяўнасць сеткі дзеячаў, якія захоўвалі і папулярызавалі антысавецкую беларускую традыцыю. У далейшым гэта паўплывала на з'яўленне моладзевых нефармальных рухаў, якія заявілі пра сябе падчас гарбачоўскай «перабудовы».

ISSN 2424-5216

# ВОБРАЗ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ Ў ГІСТАРЫЧНАЙ ПАМЯЦІ СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСІ (на прыкладзе афіцыйных сайтаў мясцовых органаў улады)

***Аляксандр Радзюк,***
*кандыдат гіст. навук (Гродна)*

**Summary**

*In the focus of author's attention are sites of Belarusian local authorities (regional soviets). He puts under the review their historical contest. The prime goal of the research is to reveal how is this period of the Russian Empire is presented and assessed at these web sites.*

*The research disclosed several important issues concerning its subject. First of all it evidences the absence of any common approach neither in revealing nor in assessment of the past on the sites of local authorities. As a rule history is presented as a sequence of some events which are very often not correlated with one another. As for the most important event of the 19th – beginninh of the 20th centuries the authors of the historical content put the Napoleon's Russian campaign of 1812 on the first place. Much attention is paid to the economic development of the regions within the framework of the period. Cultural life, national processes as well as oppressive policy of the Russian authorities is almost completely neglected on the web sites.*

*Summing up, the author comes to the conclusion about positive image of the Russian Empire on the sites of local executive power. Generally this period is also very positively assessed especially from the economic point of view. The analysis also witnessed the force of the Soviet tradition in description as well as in evaluating of the Russian Empire period in Belarusian history.*

2022 год, які быў абвешчаны беларускімі ўладамі Годам гістарычнай памяці, у значнай ступені актуалізаваў праблему нарацыі і трактоўкі мінулага нашай краіны. Пералік мерапрыемстваў, прысвечаных гэтай падзеі, а таксама комплекс разнастайных захадаў, якія робяцца структурамі ўла-

ды на розных узроўнях, дэманструюць імкненне дзяржаўнага апарату ўсталяваць татальны кантроль над гістарычнай памяццю як асобнага індывіда, так і грамадства ў цэлым. Дзеля дасягнення падобнай мэты ствараецца безальтэрнатыўнае інфармацыйнае і камунікацыйнае асяроддзе.

Найбольш значная роля ў гэтым працэсе адводзіцца сістэме адукацыі, а таксама медыйнай прасторы. У сувязі з гэтым у 2021–2022 гг. суцэльнай рэвізіі былі падвергнуты падручнікі для школ, створаны новы курс «Гісторыя беларускай дзяржаўнасці» для ВНУ, для якога «правільнымі» гісторыкамі былі распрацаваны новыя праграмы і навучальныя дапаможнікі. Для трансляцыі новых гістарычных установак, якія набываюць усё больш безальтэрнатыўны і безапеляцыйны характар, улады актыўна задзейнічаюць медыйна-камунікацыйную прастору, і ў тым ліку сайты разнастайных дзяржаўных структур.

Аб'ектам дадзенага даследавання з'яўляюцца сайты мясцовых органаў улады, а менавіта раённых выканаўчых камітэтаў. Мэта даследавання – выявіць і прааналізаваць іх зместава-ацэначны кантэнт, які тычыцца гістарычнага перыяду, звязанага з часам знаходжання гэтых тэрыторый у складзе Расійскай імперыі.

Дзеля гэтага былі прааналізаваны сайты ўсіх 118 раённых выканаўчых камітэтаў у межах сучаснага тэрытарыяльна-адміністрацыйнага падзелу Беларусі. Структура афіцыйных сайтаў гэтых органаў улады, нягледзячы на пэўныя рэгіянальныя адрозненні, па сваім змесце і афармленні досыць уніфікаваная. Яна ўключае ў сабе такія абавязковыя пазіцыі, як «Кіраўніцтва», «Эканоміка», «Сацыяльная сфера», «Рэгіён» і г. д. Таксама абавязковымі (за рэдкім выключэннем) з'яўляюцца звесткі пра гісторыю краю. Апошнія прадстаўлены ў раздзелах «Рэгіён», «Аб раёне», «Раён», дзе разам з падраздзеламі «Геаграфія», «Геральдыка», «Насельніцтва» і падобнымі прысутнічае «Гісторыя».

Заўважу, што інфармацыя для наведвальнікаў сайтаў гэтых дзяржаўных устаноў павінна быць даступнай на некалькіх мовах. (У Гомельскай вобл. нават на кітайскай мове). Насамрэч не ўсе моўныя опцыі працуюць. Найгорш сітуацыя выглядае на афіцыйных старонках райвыканкамаў Брэсцкай вобл., дзе цалкам адсутнічае беларуская мова. У многіх адміністрацыйных адзінках, нягледзячы на заяўленую магчымасць выбару мовы, інфармацыя часцяком даступна выключна па-расійску. Акрамя таго, параўнанне руска- і беларускамоўных варыянтаў гістарычных раздзелаў засведчыла, што досыць часта першыя з іх з'яўляюцца больш інфарматыўнымі ў параўнанні з іх беларускамоўнымі аналагамі. Аналіз апошніх дае падставы меркаваць, што пры іх стварэнні ў некаторых выпадках актыўна выкарыстоўваўся *Google Translate* ці яго аналаг.

Інфармацыйнае напаўненне сайтаў гістарычнай інфармацыяй у вялікай ступені вар'іруецца. Значныя адрозненні назіраюцца не толькі паміж геаграфічна аддаленымі паміж сабой тэрытарыяльнымі адзінкамі, але і тымі, то мяжуюць

паміж сабой. Адсутнічае адзіны падыход адбору і трактоўкі звестак аб мінулым, даволі часта парушаецца храналагічная паслядоўнасць выкладання фактаў, у значнай ступені адрозніваюцца аб'ёмы інфармацыі, прысвечанай гісторыі краю. Напрыклад, на сайтах Браслаўскага, Бабруйскага, Смалявіцкага і Менскага райвыканкамаў раздзел «Гісторыя» адсутнічае цалкам. Салігорскі райвыканкам пачынае гістарычны экскурс з 1926 г., а вось на старонцы Старадарожскага яшчэ на пачатку 2022 г. у якасці эпіграфа да адпаведнага раздзела фігуравала цытата (на рускай мове) з «Кароткай гісторыі Беларусі» Вацлава Ластоўскага: «История – это фундамент, на котором возводится жизнь народа. И нам, для того, чтобы построить свою жизнь, надо начать с фундамента, дабы строение было прочным. А фундамент у нас важный, история наша богата...»[1]. Аднак ужо з траўня гэтага года дадзеная цытата на сайце адсутнічае.

Падача гістарычнага матэрыялу на старонках некаторых сайтаў ажыццяўляецца праз храналагічны пералік найбольш значных падзей. У некаторых выпадках гэта робіцца ў выглядзе табліцы найважнейшых дат (Нясвіжскі, Любанскі, Бярозаўскі, Маларыцкі, Добрушскі, Нараўлянскі, Чашніцкі, Ашмянскі, Астравецкі райвыканкамы ды інш.). Разам з тым некаторыя аўтары гістарычных раздзелаў не ўскладнялі сабе работу стварэннем візуальных эфектаў у выглядзе табліц, а абмежаваліся прывядзеннем розных, лагічна не звязаных паміж сабою гістарычных фактаў з жыцця рэгіёна. Напрыклад, «у 1823 г. у Бешанковічах сяляне зладзілі бунт»[2], альбо «ў 1812 г. землі Зэльвеншчыны сталі арэнай Айчыннай вайны»[3].

Менавіта «событийность», адсутнасць трактоўкі ці ацэнкі тых ці іншых падзей, іх адарванасць ад гістарычнага кантэксту, адсутнасць разумення логікі гістарычнага развіцця з'яўляюцца галоўнымі характарыстыкамі большасці сайтаў раённых выканаўчых органаў. Часам у фокусе ўвагі стваральнікаў гістарычнага кантэнту знаходзіцца выключна сталіца раёна, а яго рэшта застаецца па-за гістарычным наратывам (Слуцкі, Клічаўскі ды інш.) Падобны дысбаланс, а таксама вельмі павярхоўнае насычэнне некаторых сайтаў падзеямі мінуўшчыны можна растлумачыць тым, што да пэўнага перыяду гэтыя землі ніколі не з'яўляліся часткай асобнай тэрытарыяльна-адміністрацыйнай адзінкі. Вось чаму ў некаторых выпадках летапіс жыцця раёна пачынаецца фактычна толькі ў ХХ ст. (Дзяржынскі, Лунінецкі, Сенненскі ды інш.).

Аналіз фактагічнага насычэння раённых сайтаў засведчыў, што перыяд Расійскай імперыі прадстаўлены пераважна падзеямі, якія адлюстроўваюць

[1] В. Ластоўскі, *Кароткая гісторыя Беларусі*, Мінск, 1992, с. 5.

[2] *Гісторыя* [у:] *Бешанковіцкі раённы выканаўчы камітэт,* [online] https://beshenkovichi.vitebsk-region.gov.by/by/history-by/, [доступ: 19.11.2022].

[3] *Гісторыя* [у:] *Зэльвенскі раённы выканаўчы камітэт,* [online] https://zelva.grodno-region.by/by/history-by/, [доступ: 19.11.2022].

адметнасці і найбольш важныя этапы мясцовага, лакальнага жыцця ў дадзены перыяд. Разам з тым параўнальны аналіз кантэнту рэсурсаў дазваляе вылучыць пэўныя гістарычныя падзеі, якія ў большай ступені адлюстраваны ў агульнарэспубліканскім кантэксце.

Падзеяй № 1, безумоўна, з'яўляецца вайна 1812 г. На рэгіянальных сайтах мясцовых улад падзеі вайны маюць розную назву (і, адпаведна, гістарычную канатацыю): «Великая война 1812 года»[1] , «наполеоновское нашествие 1812 г.»[2], «нашэсце французаў»[3], «вайна з Напалеонам»[4], «вайна Расіі і Францыі»[5] і найчасцей «Айчынная вайна 1812 г.». Апошні варыянт сёння афіцыйна замацаваны ў навучальных праграмах Міністэрства адукацыі.

У невялікім па аб'ёме гістарычным тэксце яго аўтары фіксуюць увагу на розных аспектах вайны 1812 г. Адныя робяць акцэнт на ваенных падзеях:

• «Во время Отечественной войны 1812 года в Кобрине русская армия одержала первую крупную победу над наполеоновскими войсками».

• «На Верхнядзвінскай зямлі войскі Напалеона ўпершыню адчулі сілу і славу рускай зброі. Тут мужна змагаўся і склаў сваю галаву генерал Кульнёў – годны вучань Суворава, герой вайны 1812 года».

• «14 верасня 1812 г. у наваколлях Глуска адбылася бітва паміж польскімі войскамі і атрадам рускага генерала Ф. Ф. Эртэля. На некаторы час Глуск быў вызвалены, у палоне аказалася больш за 100 салдат. Гэта мела немалаважнае значэнне для аказання дапамогі Бабруйскай крэпасці, якая апынулася ў аблозе» і г. д.

На двух сайтах адзначаны факты партызанскай барацьбы мясцовага насельніцтва супраць «захопнікаў»:

• «В Отечественную войну 1812 г. жители Кличева активно участвовали в партизанской борьбе. Особенно отличался отряд под руководством Тараса».

---

1 *От истоков до наших дней* [у:] *Брестский районный исполнительный комитет,* [online] http://brest.brest-region.gov.by/index.php?option=com_content&view=article&id=50522%3A2018-09-10-12-54-23&catid=1371%3A2018-09-10-12-22-49&Itemid=3493&lang=ru, [доступ: 19.11.2022].

2 *История* [у:] *Пружанский районный исполнительный комитет,* [online] http://pruzhany.brest-region.gov.by/index.php?option=com_content&view=article&id=15710%3A2004-11-23-192905&catid=211%3Aarea&Itemid=1366&lang=ru, [доступ: 19.11.2022].

3 *История* [у:] *Пинский районный исполнительный комитет,* [online] http://pinsk.brest-region.gov.by/index.php?option=com_content&view=article&id=15179&Itemid=3215&lang=ru, [доступ: 19.11.2022].

4 *Гісторыя* [у:] *Рагачоўскі раённы выканаўчы камітэт,* [online] https://rogachev.gomel-region.by/by/history-by/

5 https://www.molodechno.gov.by/region/istoriya, [доступ: 19.11.2022].

• «Незадаволеныя напалеонаўскай палітыкай ігуменскія сяляне ўключаюцца ў партызанскую барацьбу. Адзін з першых на Беларусі партызанскі атрад створаны сялянамі вёскі Трасцянкі Ігуменскага павета. На чале атрада стаяў селянін Тарас».

Дарэчы, у апошнім выпадку мы маем прыклад таго, як адна і тая ж падзея «прыватызуецца» рознымі тэрытарыяльна-адміністрацыйнымі адзінкамі. Тут можна яшчэ ўзгадаць Маладзечна[1] і Смаргонь[2], якія вядуць завочную спрэчку за права называцца тым горадам, дзе Напалеон кінуў сваю армію. Падобная тэндэнцыя характэрна не толькі для апісання падзей 1812 г., але і ўсяго гістарычнага кантэнту.

Дарэчы, вобраз вайны 1812 г. на сайтах райвыканкамаў багаты не толькі на «событийный» матэрыял, але і на розныя імёны. Натуральна, што па колькасці ўзгадак на розных сайтах дамінуе французскі імператар. Думаю, што Напалеон моцна быў бы здзіўлены, калі б даведаўся пра тую колькасць малых і вялікіх гарадоў і мястэчак, у якіх яму давялося «спыняцца» падчас кампаніі на землях Беларусі. Калі б у кагосьці ўзнікла ідэя праклaсці «напалеонаўскі маршрут» на карце адпаведна дадзеным гэтых сайтаў, ён быў бы шакіраваны вынікам. Таксама звяртае на сабе ўвагу і той факт, што галоўнакамандуючы расійскімі арміямі Міхаіл Кутузаў узгадваецца на гістарычнай старонцы толькі аднаго Круглянскага райвыканкама:

• «У лістападзе 1812 г. у маёнтку графа Варанцова знаходзілася галоўная кватэра М. І. Кутузава»[3].

Дарэчы, расійскі імператар Аляксандр I таксама фігуруе ў гэтым кантэксце толькі аднойчы (Мёрскі раён). Іншыя асобы, якія згадваюцца ў сувязі з вайной 1812 г., – гэта пераважна военачальнікі рускіх і французскіх войск або нейкія адметныя асобы:

• «Інтэндантам Оршы быў прызначаны Анры Бейль (пазней вядомы пісьменнік Стэндаль)».

Наступствы, якія прынесла вайна для роднага краю, – гэта іншы важны аспект, на які звяртаецца ўвага наведнікаў сайтаў:

• «Война 1812 года нанесла большой урон городу. Из 630 городских домостроений осталось лишь 79» (Кобрынскі райвыканкам).

• «1812 г. – падчас вайны французы спалілі палац у в. Міхалішкі» (Астравецкі).

---

1 *История* [у:] *Молодечненский районный исполнительный комитет*, [online] https://www.molodechno.gov.by/region/istoriya, [доступ: 19.11.2022].

2 *История* [у:] *Сморгонский районный исполнительный комитет*, [online] http://www.smorgon.grodno-region.by/ru/history-ru/, [доступ: 19.11.2022].

3 *История* [у:] *Круглянский районный исполнительный комитет*, [online] http://krugloe.gov.by/ru/new_3-ru/, [доступ: 19.11.2022].

• «У 1812 годзе Клімавічы былі падвергнуты жорсткаму спусташэнню» (Клімавіцкі).

• «Пры надыходзе войскаў Напалеона ў 1812 годзе Чавусы былі спалены і разрабаваны» і г. д.

Як звычайна ў такіх выпадках, увесь цяжар адказнасці за разбурэнні і спусташэнні ўскладваецца на бок, які прайграў кампанію. Адзіным выключэннем у падобным адзінстве меркаванняў з'яўляецца сайт Нясвіжскага райвыканкама, дзе ў храналагічнай табліцы найбольш важных дат пад 1812 годам пазначана, што «во время войны 1812 г. Несвиж был опустошен и разграблен российскими войсками»[1].

Яшчэ адзін важны аспект расійска-французскай вайны – гэта мемарыялізацыя памяці аб тых падзеях і людзях, якія прымалі ў ёй удзел. На інтэрнэт-старонках некаторых райвыканкамаў прысутнічаюць узгадкі аб асобах, чые імёны былі тым ці іншым чынам увекавечаны на іх тэрыторыі:

• «У вёсцы Дзярэчын на могілках захаваўся помнік герою Айчыннай вайны 1812 г. генералу Ермалаю Ермалаевічу Гамперу» (Зэльвенскі райвыканкам).

• «К 100-летию этого события в Кобрине установлен памятник русским воинам».

• «О битве между русской армией под командованием генерала А. П. Тормасова и наполеоновскими войсками во время Отечественной войны 1812 года напоминает восстановленная часовня у деревни Поддубно» (Пружанскі).

Таксама трэба адзначыць, што вайна 1812 г. у свядомасці некаторай часткі людзей да гэтага часу асацыіруецца з міфам аб «карэце Напалеона» з незлічонымі скарбамі, якую той загадаў закапаць у беларускай зямлі. Афіцыйна гэта версія падтрымліваецца сайтам Крупскага райвыканкама, на старонцы якога сцвярджаецца, што «ёсць каля горада возера Лясное. Кажуць, што там патанула карэта Напалеона з усім багаццем»[2].

У цэлым аналіз матэрыялаў, прысвечаных вайне 1812 г. на сайтах райвыканкамаў, засведчыў існаванне яе двух асноўных вобразаў. Першы з іх, моцна звязаны з савецкай гістарыяграфічнай традыцыяй, імкнецца да стварэння карціны гераічнай барацьбы народа супраць акупантаў, а таксама актыўна карыстаецца тэрмінам «Айчынная вайна». Другі акцэнтуе ўвагу на тым, што беларускія землі ў 1812 г. чарговы раз сталі арэнай барацьбы двух варагуючых бакоў, у выніку чаго панеслі значныя страты і разбурэнні. Неадназначнасць гэтай падзеі з палітычнага і сацыяльнага пункту погляду зафіксавана на электроннай старонцы толькі аднаго Брэсцкага райвыканкама:

---

[1] *История* [у:] *Несвижский районный исполнительный комитет,* [online] https://nesvizh.gov.by/ru/region/istoriya.html , [доступ: 19.11.2022].

[2] *Исторический экскурс* [у:] *Крупскі раённы выканачы камітэт,* [online] https://krupki.gov.by/bel/regijon/gistarychny-ekskurs, [доступ: 19.11.2022].

• «Нашествие французов раскололо местную элиту – некоторые ее представители считали Наполеона освободителем, другие выступили на стороне Москвы»[1].

Наступная магістральная падзея, якой надаецца шмат увагі на сайтах мясцовых органаў улады, – гэта Першая сусветная вайна 1914–1918 гг. У адрозненне ад папярэдняй падзеі, яна ахапіла значна меншыя абшары тагачаснай Беларусі. Трэба адзначыць, што паведамленні, датычныя гэтай вайны, у большасці выпадкаў носяць лаканічны характар і абмяжоўваюцца канстатацыяй факта, што раён быў акупаваны нямецкімі войскамі або па яго тэрыторыі праходзіла лінія фронту. Напрыклад, сайт Баранавіцкага райвыканкама канстатуе: «Здесь на протяжении 1915–1917 годов проходила линия фронта, поделившая район на восточную и западную части». Пры гэтым ігнаруецца цікавы факт, што ў горадзе пэўны час размяшчалася стаўка галоўнакамандуючага расійскім войскам[2].

Аб баявых дзеяннях на тэрыторыі раёна распавядаецца на сайтах толькі трох райвыканкамаў – Вілейскага, Нарачанскага, Маладзечанскага. Апошні варты асобнай увагі, бо акрамя даволі эмацыйнага апісання паветраных баёў у раёне горада, ён паведамляе пра асоб, звязаных з Маладзечнам тых часоў: «Реалии войны на молодечненском участке фронта стали широко известны благодаря русской и мировой литературе. Их описывали русские писатели К. Паустовский, М. Зощенко, В. Катаев, поэт К. Симонов, белорусский прозаик М. Горецкий, венгерский писатель Б. Илеш, чешский поэт Я. Бернарж и др. Не остался незамеченным среди солдат приезд на фронт в район Молодечно премьер-министра Временного правительства А. Керенского»[3].

На гістарычнай старонцы Смаргонскага раёна хоць і адзначаецца, што ў верасні 1915 г. – лістападзе 1917 г. адбывалася «гераічная абарона Смаргоні падчас Першай сусветнай вайны» і што часопіс «Огонёк» у 1916 г. называў Смаргонь «мёртвым горадам», але адсутнічае інфармацыя, якая б раскрыла гэта сцвярджэнне.

Пры апісанні падзей Першай сусветнай вайны на тэрыторыі Беларусі інфармацыйны акцэнт звычайна робіцца на ўсталяванні савецкай улады ў рэ-

---

1 *От истоков до наших дней* [у:] *Брестский районный исполнительный комитет,* [online] http://brest.brest-region.gov.by/index.php?option=com_content&view=article&id=50522%3A2018-09-10-12-54-23&catid=1371%3A2018-09-10-12-22-49&Itemid=3493&lang=ru, [доступ: 19.11.2022].

2 *История* [у:] *Барановичский районный исполнительный комитет,* [online] http://baranovichi.brest-region.gov.by/index.php?option=com_content&view=article&id=65&Itemid=118&lang=ru, [доступ: 19.11.2022].

3 *История* [у:] *Молодечненский районный исполнительный комитет,* [online] https://www.molodechno.gov.by/region/istoriya, [доступ: 19.11.2022].

гіёне. У гэтым выпадку вайна з'яўляецца толькі фонам, на якім адбываюцца больш важныя падзеі:

- «18 февраля 1918 года местечко оккупировали войска кайзеровской Германии, что не позволило закрепиться здесь Советской власти, которая восстановилась здесь в декабре 1918 г.» (Ляхавіцкі райвыканкам).

Менавіта перамога бальшавікоў і ўсталяванне іх дыктатуры займае адно з цэнтральных месц у храналогіі найбольш важных падзей лакальнай гісторыі большасці раённых сайтаў. Пры гэтым аніводны з іх не ўзгадвае спробу стварэння беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці ў 1918 г., абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі. Нацыянальны кампанент палітычнага ці культурнага жыцця гэтага перыяду ігнаруецца амаль цалкам.

У некаторых выпадках увага стваральнікаў гістарычнага кантэнту традыцыйна акцэнтуецца на віктымізме беларусаў, якія моцна пацярпелі падчас вайсковага канфлікту:

- «Солдаты кайзеровской армии вывозили в Германию все, что представляло для них ценность» (Столінскі райвыканкам).

Такая важная падзея для беларусаў таго часу як бежанства займае маргінальнае месца і ўзгадваецца зрэдку. Выключэннем з'яўляецца сайт Драгічынскага райвыканкама, дзе не толькі паведамляецца пра бежанства, але і фігуруе яго прычына: «В 1915 году население было принудительно выселено и отправлено в беженцы. Десятки деревень были сожжены».

Пры гэтым амаль поўная адсутнасць нацыянальнага гістарычнага наратыву ў інтэрпрэтацыі ваенных і палітычных падзей вайны 1812 г. і Першай сусветнай вайны дзіўным чынам спалучаецца з даволі шырокім асвятленнем на сайтах мясцовых органаў улады паўстання 1863 г., а таксама яго трактоўкай. На сайтах Баранавіцкага, Свіслацкага, Рэчыцкага, Валожынскага і Клецкага райвыканкамаў яно апісваецца як паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Хоць, напрыклад, у Горках на чале паўстання стаў паплечнік Каліноўскага Людвік Звяждоўскі[1].

Акрамя таго ўзгадваюцца імёны Рамуальда Траўгута, Тамаша Грыневіча (расстраляны ў Рагачове), Сігізмунда Серакоўскага, Валерыя Урублеўскага, Станіслава Ляскоўскага (Чэрвеньскі). Нельга не звярнуць увагу і на факталагічнае напаўненне некаторых сайтаў. Так, напрыклад, сайт Баранавіцкага райвыканкама сцвярджае, што «данное событие осталось бы рядовым, если бы не сокрушительная победа повстанцев над превосходящими в вооружении и обученности российскими войсками». На Драгічыншчыне, як можна меркаваць, паўстанне з'яўлялася пікам рэвалюцыйнай сітуацыі 1860-х гадоў: «После отмены крепостного права в 1861 году Кобринский уезд охватило

[1] *История региона* [у:] *Горки. Районный исполнительный комитет,* [online] http://gorki.gov.by/region/4300-istoriya-regiona.html, [доступ: 19.11.2022].

массовое выступление крестьян, на подавление которого были брошены силы армии и полиции. Однако уже в 1863 году восстание охватило все Загородье. Силы повстанцев на Дрогичинщине возглавил Ромуальд Траугутт»[1]. У часы паўстання ў Рэчыцы «многія спачувалі паўсталым і насілі жалобныя нарукаўныя павязкі па пакараных К. Каліноўскаму і С. Серакоўскаму». Яшчэ адной, на нашу думку, важнай характарыстыкай гэтай падзеі з'яўляецца тое, што, узгадваючы аб паўстанні 1830–1831 гг., інтэрнэт-рэсурсы органаў улады найчасцей апісваюць яго, выкарыстоўваючы прыметнік «польскае», у той час як у дачыненні да 1863 г. такое азначэнне не ўжываецца. Больш за тое, у тых рэдкіх паведамленнях аб сутычках паўстанцаў з урадавымі войскамі відавочна, што сімпатыі аўтараў на баку першых.

Важнай падзеяй, якая ў значнай ступені вызначыла трактоўку чытачом перыяду знаходжання беларускіх зямель у складзе Расійскай імперыі, з'яўляецца факт іх далучэння да гэтай дзяржавы, а таксама яго інтэрпрэтацыя. Што тычыцца апошняга, то ў абсалютнай большасці выпадкаў на сайтах райвыканкамаў ацэначны складнік гэтай падзеі адсутнічае. Пераважаюць досыць нейтральныя выразы:

- «После 2-го раздела Речи Посполитой в 1793 г. (Столінскі) район вошел в состав России».
- «В 1793 году Пинские земли были присоединены к Российской империи».
- «1772 г. В результате первого раздела Речи Посполитой Добрушчина включена в состав Российской империи».

Акрамя таго ўжываюцца дзеясловы «адыходзіць да Расійскай імперыі», «перайшоў у склад Расійскай імперыі», «становіцца часткай Расійскай імперыі». Асобна ў гэтым шэрагу стаіць Шумілінскі райвыканкам, на старонцы якога мовай савецкіх падручнікаў адзначана, што «в 1772 году при воссоединении с Россией земли Шумилинского грая (так у арыгінале – *А. Р.*) вошли в состав Витебской губернии»[2].

Варта заўважыць, што на некаторых падобных інтэрнэт-рэсурсах гэта падзея не ўзгадваецца зусім. Напрыклад, пра Шклоў паведамляецца, што «в конце XVIII века город стал уездным центром Могилевской губернии России», а сайт Магілёўскага райвыканкама, цалкам ігнаруючы надзвычай багатую гісторыю горада і рэгіёна, стварае карціну бесперапынных войн, якія хвалямі накрывалі рэгіён на працягу ўсяго часу яго існавання: «Не паспелі зажыць раны ад вайны XII стагоддзя, як пачалася Паўночная вайна», за якой адразу

---

[1] *История* [у:] *Дрогичинский районный исполнительный комитет*, [online] http://drogichin.brest-region.gov.by/index.php?option=com_content&view=article&id=11780&Itemid=765&lang=ru, [доступ: 19.11.2022].

[2] *История* [у:] *Шумилинский районный исполнительный комитет*, [online] http://shumilino.vitebsk-region.gov.by/ru/new_3-ru/, [доступ: 19.11.2022].

надышла Айчынная вайна 1812 г[1]. За кругаверцю бясконцых вайсковых канфліктаў абсалютна не відаць змены дзяржаўна-адміністрацыйнай прыналежнасці раёна ці адметнасцей нацыянальнага і эканамічнага развіцця.

Аўтары сайтаў некаторых выканкамаў прычыны падзелаў Рэчы Паспалітай звязваюць выключна з унутранымі праблемамі гэтай дзяржавы:

• «Бесперапынныя паўстанні на Беларусі і міжусобная барацьба расшатвала асновы Рэчы Паспалітай, што прывяло яе да глыбокага эканамічнага і палітычнага крызісу. У выніку Другога падзелу Польшчы Лоеўшчына апынулася ў складзе Расійскай імперыі, і толькі ў 1926 г. землі Лоеўшчыны ўвайшлі ў склад Беларусі»[2].

• «Сярод паноў Рагачоўшчыны панавала прававое бязмежжа: амаль кожны з іх меў свае войска і хадзіў «вайной» на суседа, набягалі і рабавалі атрады казакоў і татар. Дзяржава пастурова прыходзіла ў заняпад. У 1772 годзе ў выніку Першага падзелу Рэчы Паспалітай усё левабярэжжа краіны з Рагачовам адыходзіць да Расійскай імперыі»[3].

Натуральна, што такая аналітыка смеху вартая. У цэлым трэба адзначыць, што гістарычныя раздзелы сайтаў багатыя на розныя фактлагічныя, храналагічныя, граматычныя і іншага кшталту памылкі.

Нават павярхоўнае азнаямленне з гістарычным кантэнтам сайтаў раённых органаў улады сведчыць, што ў сваёй абсалютнай большасці палітычныя падзеі перыяду Расійскай імперыі ў іх фактлагічным напаўненні адыгрываюць другасную ролю. Асноўная ўвага сканцэнтравана на адлюстраванні эканамічнага развіцця рэгіёна. У большасці выпадкаў гэта робіцца праз фіксаванне даты і факта заснавання нейкага прадпрыемства, якое адыгрывала істотную ролю ў жыцці рэгіёна:

• «У сярэдзіне XIX стагоддзя ў вёсцы Чэрнеўка быў пабудаваны жалезаплавільны завод. Гэта прадпрыемства выпускала даменны чыгун, жалеза, паравыя машыны, якія былі ўдастоены бронзавага медаля на Усерасійскай мануфактурнай выставе» (Барысаўскі райвыканкам).

• «У 1813 г. пачаў даваць прадукцыю чыгуналіцейны завод у в. Старынка. У 1858–1862 гг. завод быў адным з найбуйнейшых металургічных прадпрыемстваў еўрапейскай часткі Расійскай імперыі» (Слаўгарадскі) і г. д.

Безумоўна, адным з найбольш важных фактараў эканамічнага развіцця амаль усіх рэгіёнаў, на які звяртаюць увагу сайты мясцовых уладных струк-

[1] *Гісторыя* [у:] *Магілёўскі раённы выканаўчы камітэт*, [online] https://mogilev-rik.gov.by/by/gist/, [доступ: 19.11.2022].

[2] *Гісторыя* [у:] *Лоеўскі раённы выканаўчы камітэт*, [online] https://loev.gomel-region.by/by/gistoryay-by/, [доступ: 19.11.2022].

[3] *Гісторыя* [у:] *Рагачоўскі раённы выканаўчы камітэт*, [online] https://rogachev.gomel-region.by/by/history-by/, [доступ: 19.11.2022].

тур, з'яўляецца чыгуначнае будаўніцтва. Некаторыя з іх падкрэсліваюць выключнае значэнне, якое мела дадзеная падзея ў жыцці раёна. Так, на сайце Ганцавіцкага райвыканкама паведамляецца, што «история города Ганцевичи более молодая. Его появлению на картах Российской империи способствовала инициатива царя Александра III о строительстве Полесских железных дорог. В 1884 году железная дорога была построена и на ней появилась станция Ганцевичи. Небольшая деревня переросла в местечко»[1]. Падобным чынам ацэньваецца роля чыгункі і на сайце Асіповіцкага райвыканкама, дзе між іншым адзначаецца, што дзякуючы яе развіццю «поселения около станции Осиповичи получили статус местечка».

У цэлым нельга не заўважыць, што менавіта дзякуючы «эканамічнаму блоку» сайтаў раённых выканаўчых камітэтаў ствараецца досыць пазітыўны вобраз усяго перыяду Расійскай імперыі. Нават звычайны факталагічны пералік дат уводу ў эксплуатацыю розных прадпрыемстваў, шасэйных, водных і чыгуначных шляхоў сведчыць аб значным прагрэсе, які дасягнуў той ці іншы рэгіён. Акрамя таго гэты вобраз досыць часта дапаўняецца некаторымі фактамі з сацыяльна-культурнай сферы: заснаванне школ, вучылішч, гімназій, лякарняў, храмаў і г. д.

Правілам «добрага тону» на такіх сайтах таксама лічыцца прывядзенне пэўных статыстычных дадзеных, дзеля чаго звычайна выкарыстоўваюцца матэрыялы Першага ўсеагульнага перапісу насельніцтва 1897 г.: «У 1897 годзе ў Бешанковічах былі 1 099 будынкаў, працавалі пошта, тэлеграф, школа, тры народных вучылішчы, 127 лавак, бальніца»[2].

У рэдкіх выпадках на старонках сайтаў можна сустрэць і ацэначныя меркаванні адносна знаходжання таго ці іншага раёна ў складзе Імперыі. «Далучэнне да Расіі стварыла ўмовы для хутчэйшага развіцця эканомікі», – адзначае сайт Рэчыцкага райвыканкама. Адпаведная старонка ў Оршы паведамляе аб «мірнай стогадовай перадышцы», якая «дала штуршок развіццю»[3], а «эканамічны ўздым Клімаўшчыны, які пачаўся пасля ўваходжання ў склад Расійскай імперыі быў перапынены нашэсцем Напалеона I у 1812 годзе».

Нават той факт, што цэлыя рэгіёны пасля далучэння да імперыі ў якасці данацый раздаваліся расійскімі імператарамі сваім фаварытам, мае станоўчую канатацыю. У большасці падобных выпадкаў сайты адзначаюць унёсак новага

[1] *История* [у:] *Ганцевический районный исполнительный комитет,* [online] http://gantsevichi.brest-region.gov.by/index.php?option=com_content&view=article&id=19549%3A2012-03-16-09-24-22&catid=68%3Aarea&Itemid=3214&lang=ru, [доступ: 19.11.2022].

[2] *Гісторыя* [у:] *Лоеўскі раённы выканаўчы камітэт,* [online] https://beshenkovichi.vitebsk-region.gov.by/by/history-by/, [доступ: 19.11.2022].

[3] *Гісторыя* [у:] *Аршанскі раённы выканаўчы камітэт,* [online] https://www.orsha.vitebsk-region.gov.by/by/gistoria, [доступ: 19.11.2022].

гаспадара ў эканамічнае і культурнае развіццё рэгіёна. У першую чаргу падобны падыход уласцівы ўсходнім раёнам сучаснай Беларусі. Так, Чачэрскі райвыканкам паведамляе, што «в 1772 году Чечерское староство было подарено первому белорусскому генерал-губернатору графу З. Г. Чернышеву. Именно в этот период в городе был создан уникальный архитектурный ансамбль, состоящий из каменной ратуши, трёх православных церквей и католического костёла. В возведенном дворце зеленели оранжереи с лимонами, давал представления крепостной театр». На сайце Круглянскага органа раённай улады пазітыўна ацэньваецца ўнёсак Кацярыны Дашковай: «В 1782 г. Екатерина II пожаловала Круглое с его угодьями княгине Екатерине Романовне Дашковой (президент Российской академии, директор Петербургской АкаН), которая владела им до 1810 г.» Па ініцыятыве княгіні ў 1785 г. сяло Круглае было пераведзена ў разрад мястэчка, а ў 1802 г. А. Дашкова асвяціла праваслаўную царкву, пабудаваную на яе сродкі ў Круглым, у імя святых Кіра і Іаана[1].

У аналагічным ключы інфармацыя падаецца на сайтах Шклоўскага (Сямён Зорыч), Светлагорскага (Пушчын), Крычаўскага (Г. А. Пацёмкін) і Слаўгарадскага (А. М. Галіцын) райвыканкамаў. Натуральна, аб тым, што сотні тысяч сялян падчас такіх «падарункаў» страцілі свабоду і сталі прыгоннымі, нідзе не ўзгадваецца.

Разам з тым нельга не адзначыць, што станоўчымі героямі гістарычных старонак мясцовых выканкамаў з'яўляецца не толькі расійская (па сваім паходжанні), але і мясцовая арыстакратыя. Гэта Тызенгаўзы ў Паставах, Горваты ў Нароўлі, Пуслоўскія ў Слонімскім раёне і Тышкевічы ў Свіслачы і Лагойску:

- «У Свіслачы былі свой заапарк, тэатр. Горад быў упрыгожаны паркам, 20-метровым абеліскам, ўязнымі варотамі. У 1805 годзе Тышкевіч на свае сродкі заснаваў у Свіслачы гімназію як першую свецкую школу ў Беларусі».
- «Особого расцвета Логойск достиг в XIX ст. В 1801 г. граф Пий Фелицианович Тышкевич стал единственным полновластным владельцем Логойского имения».

У сувязі з шырока прадстаўленай пазітыўнай ацэнкай дынамікі развіцця многіх рэгіёнаў у складзе Расійскай імперыі не зусім лагічна выглядае інфармацыя аб паўсюдным «уздыме рэвалюцыйнага руху» на пачатку XX ст. Наведвальнікам сайтаў даводзіцца:

- «Волнения крестьян и рабочих охватили деревни и местечка».
- «Прошла массавая демонстрация под лозунгом "Долой царя"».
- «Революционные события 1905 года нашли свой отклик».
- «Пралетарыят Смаргоні прымае актыўны ўдзел у Першай расійскай рэвалюцыі».

---

[1] *История* [у:] *Круглянский районный исполнительный комитет*, [online] http://krugloe.gov.by/ru/new_3-ru/, [доступ: 19.11.2022].

• «Востра праходзіла рэвалюцыйная барацьба ў раёне ў 1905–1917 гадах».

• «Паўсюдна адбываюцца сялянскія хваляванні, якія суправаджаюцца самавольным захопам зямель, высечкай лясоў, адмовай ад выплаты падаткаў» і г. д.

На першы погляд пазбаўленая прычына-следчых сувязяў спецыфіка гістарычнага наратыву становіцца больш зразумелай пасля далейшага азнаямлення з матэрыяламі гэтых рэсурсаў. Справа ў тым, што падзеі 1905–1907 гадоў асвятляюцца як прэлюдыя да аповеду пра «Вялікую Кастрычніцкую рэвалюцыю». Пры гэтым падзеі лютага 1917 г. нідзе не згадваюцца.

Усталяванне савецкай улады з'яўляецца другой па значнасці пасля «Вялікай Айчыннай вайны» падзеяй гісторыі Беларусі. Аб прыходзе савецкай улады ў 1920 г. паведамляюць сайты раённых камітэтаў Брэсцкай і Гродзенскай абласцей, каб пасля падкрэсліць «прыгнёт» Польскай дзяржавы на гэтых тэрыторыях. Падобная трактоўка гісторыі цалкам адпавядае той традыцыі, што існавала за савецкім часам. Дарэчы, у сувязі з падзеннем царызму і распадам Імперыі толькі адзін сайт узгадвае спробу стварэння беларускай нацыянальнай дзяржавы: «С 25 марта 1918 г. территория современной Светлогорщины находилась в составе провозглашённой Белорусской Народной Республики»[1].

Вяртаючыся да аналізу зместу гістарычных раздзелаў сайтаў райвыканкамаў у цэлым, хацелася б адзначыць, што ў некаторых выпадках іх стваральнікі разбураюць агульнапрынятыя шаблоны гістарычнага аповеду і спрабуюць намаляваць вобраз мінуўшчыны праз апісанне гістарычных мясцін свайго рэгіёна. У гэтым плане вылучаюцца сайты Валожынскага, Лагойскага і Сенненскага райвыканкамаў, дзе замест звыклай лінейнай храналагічнай схемы наведвальнікам прапануюць азнаёміцца з архітэктурнай спадчынай рэгіёна: касцёламі, цэрквамі, палацамі, гаспадарчымі пабудовамі, паркамі і г. д. Падобны адыход ад канонаў, імаверна, тлумачыцца не крэатыўнасцю іх аўтараў, а хутчэй адсутнасцю ў апошніх дакладнага разумення і ведаў пра тое, што сабой уяўляе гістарычны працэс і якія адметнасці ён меў на тэрыторыі краю.

У кантэксце даследавання вобразу Расійскай Імперыі ў сучаснай Беларусі варта прасачыць практыку яго канструявання на сайтах недзяржаўных установ і, адпаведна, параўнаць з тым, што прадстаўлена на інтэрнэт-старонках райвыканкамаў. З гэтай мэтай звернем увагу на афіцыйныя старонкі праваслаўнай і рымска-каталіцкіх цэркваў Беларусі.

Абодва гэтыя актары адыгрывалі важную ролю не толькі ў рэлігійным, але таксама ў палітычным і культурным жыцці цягам XIX – пачатку XX ст. Яны былі важнымі суб'ектамі імперскай урадавай палітыкі, якая з другой паловы XIX ст. была накіравана на падтрымку толькі праваслаўнай царквы. Ці захавалася рэха даўняга антаганізму паміж гэтымі канфесіямі на ўзроўні гістарычна-

---

[1] *Историческая справка* [у:] *Светлогорский районный исполнительный комитет*, [online] http://svetlogorsk.by/ru/pages/svetlogorsk/history/, [доступ: 19.11.2022].

га наратыву афіцыйных сайтаў Беларускай праваслаўнай царквы і Каталіцкага касцёла ў Беларусі на пачатку XXI стагоддзя?

Аб'ектамі аналізу сталі сайт Рымска-каталіцкага касцёла ў Беларусі catholic.by і афіцыйны партал Беларускай праваслаўнай царквы church.by. Тут неабходна адразу адзначыць, што ў абодвух выпадках гістарычныя даведкі выглядаюць вельмі сціпла. Магчыма, гэта робіцца свядома, але прычыны падобнага падыходу не зусім зразумелыя. На платформе catholic.by кароткі экскурс у мінулае касцёла ў Беларусі прадстаўлены на галоўнай яго старонцы, а таксама ў некаторых выпадках на старонках асобных парафій. У сваю чаргу на партале church.by звесткі пра гісторыю праваслаўя на землях Беларусі адсутнічаюць цалкам. Асобныя факты па гісторыі царквы ўдалося выявіць толькі на сайтах асобных епархій і храмаў.

У сувязі з такім абмежаваным характарам рэсурсаў досыць складана выявіць нейкія заканамернасці ў асвятленні мінулага на азначаных парталах. Тым не менш некаторыя тэндэнцыі заўважныя нават пры такім інфармацыйным мінімуме. Так, перыяд Расійскай імперыі ў артыкуле «Гісторыя беларускага касцёла» на сайце catholic.by характарызуецца як «перыяд жорсткага, больш чым 200-гадовага нацыянальнага і рэлігійнага прыгнёту», які суправаджаўся закрыццём амаль усіх каталіцкіх кляштараў і навучальных устаноў, ліквідацыяй уніі і прымусовым пераводам насельніцтва ў праваслаўе. Таксама адзначаецца пазітыўнае значэнне рэвалюцыі 1905–1907 гадоў, якая садзейнічала пэўнаму ажыўленню рэлігійнага жыцця і адраджэнню асобных парафій[1].

У падобным ключы перыяд Расійскай імперыі прадстаўлены на старонках асобных храмаў. На іх падкрэсліваецца, што паўстанні 1830 г. і 1863 г. мелі негатыўныя наступствы для асобных храмаў і рэлігійнага жыцця ў цэлым:

- «У выніку рэпрэсій, якія праводзілі царскія ўлады ў адказ на Лістападаўскае паўстанне, кляштар дамініканцаў быў ліквідаваны, а манахі вымушаны былі выехаць з Дзярэчына», «Каталікі без парафіі – 1867–1905 г.»[2] (Дзярэчын).
- «Падзеі паўстання Кастуся Каліноўскага 1863–1864 гадоў трагічна адбіліся на лёсе касцёла святога Мікалая. Першапачаткова яго закрылі, а пасля прыстасавалі пад праваслаўную царкву, у якасці якой ён дзейнічаў ажно 54 гады»[3] (Мір).

---

1 *Гісторыя касцёла ў Беларусі* [у:] *Касцёл у Беларусі,* [online] https://catholic.by/3/kasciol/history, [доступ: 19.11.2022].

2 *Дзярэчын – парафія Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі* [у:] *Касцёл у Беларусі,* [online] https://catholic.by/3/kasciol/parishes/21-grodna/3582-dzyarechyn-parafiya-unebauzyatstsya-najsvyatsejshaj-panny-maryi, [доступ: 19.11.2022].

3 *Мір – парафія св. Мікалая, біскупа* [у:] *Касцёл у Беларусі,* [online] https://catholic.by/3/kasciol/parishes/21-grodna/3543-mir-parafiya-cv-mikalaya-biskupa, [доступ: 19.11.2022].

• «...на ўдзельнікаў гэтага паўстання і каталіцкі касцёл пачаліся ганенні. Касцёл у Асавой хацелі зачыніць і перарабіць у царкву, але мясцовы люд не дазволіў зрабіць гэтае царскім чыноўнікам» (Асавая парафія) і г. д.

Абсалютна супрацьлеглыя ацэнкі тых самых працэсаў, што адбываліся ў рэлігійным жыцці беларускіх зямель канца XVIII – пачатку XX ст., можна сустрэць на афіцыйных сайтах Беларускай праваслаўнай царквы. Гэта тычацца сайтаў як асобных храмаў ці парафій, так і цэлых епархій. Так, на старонцы Магілёўскай епархіі распавядаецца, што «после этого (першага падзелу Рэчы Паспалітай – *А. Р.*) состояние и отношение к православию в корне изменилось. Стали возрождаться православные храмы, открывались новые епархии. У Православной церкви в Белоруссии наступил благоприятный период»[1].

Падобная думка аб «спрыяльным» часе ўсяляк падтрымліваецца і прасоўваецца на старонках асобных храмаў: «Будаўніцтва царквы адбывалася пад час праўлення імператара Аляксандра II. Дабратворна, што дзяржавец і члены царскай сям'і праявілі ўвагу да будаўніцтва Шчучынскай царквы. Да сённяшняга часу захаваліся падарункі ад царскай сям'і»[2].

У некаторых выпадках падчас апісання лакальнай гісторыі ўласнага прыхода на падобных рэсурсах закранаюцца пытанні ўзаемаадносін з каталіцкім касцёлам. У трактоўцы гістарычных падзей захоўваюцца ацэнкі і нават мова таго часу: «Рядом с этими остатками (піярскага кляштара – *А. Р.*) в 1863 году на средства, выделенные из казны царским правительством, был построен из кирпича Свято-Михайловский собор в виде креста с кругом в центре. С 1866 по 1919 годы в соборе служил протоиерей Иосиф Иосифович Коялович. В 1919 году он принял мученический венец за православную веру от фанатично настроенных римо-католиков. В этом же году, когда Западная Беларусь была захвачена польскими войсками, храм был осквернен фанатичной толпой римо-католиков и впоследствии переделан в костёл»[3].

Можна канстатаваць што сайты абедзвюх канфесій утрымліваюць дыяметральна супрацьлеглыя трактоўкі вобраза Расійскай імперыі. У католікаў гэта – перыяд ганенняў, гвалту і цяжкіх часоў для духавенства і вернікаў, у праваслаўных – час актыўнага царкоўнага будаўніцтва, росту колькасці вернікаў, перыяд дзяржаўнай падтрымкі. Тут не назіраецца аніякіх кропак сутыкнення ў апісанні ці ацэнцы рэлігійнага жыцця расійскага перыяду. Было б дарэчы

[1] *История* [у:] *Могилёвская епархия*, [online] http://mogeparhia.by/eparxiya-2/istoriya/, [доступ: 19.11.2022].

[2] Храм Святого Архангела Михаила г. Щучин [у:] Гродненская епархия [online], https://old.orthos.org/eparhiya/blagochiniya-i-hramy/schuchinskoe/schuchin-mihaila, [доступ: 19.11.2022].

[3] Собор Архистратига Михаила [у:] Лидская епархия, [online] http://lida-eparhia.by/?page_id=316, [доступ: 19.11.2022].

прыцягнуць матэрыялы і ацэначныя суджэнні іншых рэлігійных супольнасцей Беларусі, але сайты islam.by і beljews.by, на жаль, не маюць адпаведных гістарычных раздзелаў.

Праведзены аналіз засведчыў адсутнасць адзінага падыходу да падачы і інтэрпрэтацыі вобраза Расійскай імперыі ў сучаснай Беларусі, вобраза, вакол якога ідзе змаганне паміж афіцыйнымі ўладамі і гісторыкамі, што разглядаюць мінулае з пункту гледжання нацыянальнага гістарычнага наратыву. Аналіз афіцыйных інтэрнэт-старонак дзяржаўных органаў выканаўчай улады таксама зафіксаваў жывучасць савецкай традыцыі ў апісанні і ацэнцы падзей не толькі вызначанага перыяду, але і ўсёй мінуўшчыны таго ці іншага рэгіёна.

У цэлым перыяд знаходжання ў складзе Расійскай імперыі разглядаецца і ацэньваецца з пазітыўнага пункту гледжання. Праблемныя моманты (русіфікацыя, рэлігійныя ганенні, ліквідацыя уніі ды інш.) ігнаруюцца. Асноўны націск робіцца на дэманстрацыі пазітыўнай дынамікі эканамічнага развіцця рэгіёна. Сацыяльныя, культурныя і нацыянальныя аспекты гісторыі Беларусі расійскага перыяду на электронных старонках раённых органаў выканаўчай улады не закранаюцца.

ISSN 2424-5216

# ВОЛЬНАЯ ТРЫБУНА
# FREE TRIBUNE

## ПРОБЛЕМЫ ИСТОРИЧЕСКОГО СОЗНАНИЯ В СОВРЕМЕННОЙ РОССИИ

***Игорь Баринов,***
*канд. ист. наук,*
***Иван Стрелков***
*(Москва)*

Любое общество рано или поздно начинает задумываться о движущих силах его истории. Осмысление причин судьбоносных событий прошлого страны имеет не только академическое значение. Оно также играет большую роль в формировании самосознания и политической культуры. При этом особый смысл приобретает не столько оценка исторического события (положительная, отрицательная или нейтральная), сколько мировоззренческий подход к пониманию его происхождения.

Историческая подоплёка того или иного политического решения всегда играла в России особую роль. Общая эмблематичность сильного государства, берущая своё начало во временах феодальной раздробленности и последовавшей централизации, определила подход к восприятию прошлого. Помимо прочего, в нём содержались попытки выстроить устойчивый континуитет национальной истории. В этой связи можно выделить несколько главных моментов, характеризующих историческое сознание в том виде, в каком оно конструируется в российском общественном и властном дискурсе:

- Базовый подход к преподаванию истории в российской системе образования по-прежнему строится на государственно-персоналистском принципе. В центре истории находятся деяния очередного правителя. К его «эпохе» подводится не только политический процесс (что в целом оправдано), но также социально-экономическое и культурное развитие страны. С одной стороны, подобная персонификация истории помогает выстроить прочную шка-

лу прошлого от одного лидера к другому. Вместе с тем такой подход приводит к тому, что в сознании общества все происходящие события и явления связываются с волей лидера. При этом результаты правления обычно делятся на удачные и неудачные. Преобладание первых или вторых призвано дать оценку периоду и правителю.

Такое дробление истории на «периоды» приводит к восприятию каждого из них как самоценного сюжета. К примеру, конституционные и освободительные начинания Александра I традиционно оцениваются как неудачные. Между тем любая реформа познается в протяженности. Почему Александр I не смог отменить крепостное право, тогда как Александр II смог сделать это? Как отмечают российские историки, благодаря реформам двух предыдущих правлений сложился слой либеральной образованной бюрократии, на который власть смогла опереться. Отмена крепостного права и «великие реформы» ковалась десятилетиями в гимназиях, лицеях и университетах, в том числе и в николаевскую эпоху, которая, вслед за дореволюционной демократической традицией, нередко именуется «реакционной».

• Важную роль в формировании исторического сознания играет образ «правителя-творца». Наиболее ярко это прослеживается по восприятию советского периода истории. В России он чётко делится на *НЭП, сталинский период, оттепель, застой* и *перестройку*. Успехи и неудачи каждого из периодов в обществе принято приписывать лидерам партии, фактически руководившим государством. При этом порой знаковые события какого-то правления затмевают связанный с ним негатив, а иногда даже встраивают его в позитивный континуитет. Характерным примером здесь может служить коллективизация, где складывается формула «колхоз помог выиграть Войну – колхоз хорош как способ ведения хозяйства в принципе», при том, что коллективизация проводилась не во время войны, не для войны и не была отменена после нее. Об эффективности колхоза в мирное время говорит хотя бы то, что Югославия и Китай отказались от этой формы хозяйствования уже в 1950–1960-е гг. Такой подход распространяется и на многие другие события и явления.

С другой стороны, как и в случае с реформами XIX в., из виду теряется процесс смены или преемственности элит различных «эпох» советского периода. За грозными, яркими или комичными фигурами партийных лидеров общество не замечает формирования новых поколений номенклатуры. Между тем существенно, откуда она набиралась, в каких условиях и под чьим влиянием формировалась. Не столь важно спорить о «целесообразности» или «обоснованности» репрессий 1930-х гг., сколь важно понять, что Сталин уничтожал «старую элиту», не производя аналогичную по качеству новую. Можно по-разному относиться к Ленину и той когорте «старых большевиков», которая его окружала, но высокий уровень их образования и понимания ими текущей ситуации в стране и мире неоспоримы. Чему сталинская

*1928; O Edwardzie Woyniłłowiczu po jego śmierci (lata 1928–1931); O Edwardzie Woyniłłowiczu i jego pamiętnikach, po ukazaniu się I części Wspomnień 1847–1928, lata 1931–1935; Edward Woyniłłówicz w memuarystyce; Pierwsza drukowana biografia Edwarda Woyniłłowicza, 1938 rok.*

У зборніку бачым дзве асноўныя катэгорыі крыніц. У першую ўвайшлі крыніцы, створаныя Э. Вайніловічам. Яны істотна дапаўняюць яго ўспаміны, першая частка якіх выйшла з друку яшчэ ў 1931 г., а другая – у 2016. Гэта лісты Э. Вайніловіча, артыкулы ў перыядычным друку, тэксты прамоў, тастаменты, падпісаныя ім звароты і дэкларацыі. Крыніцы дапамагаюць зразумець погляды Вайніловіча па найбольш важных сацыяльна-эканамічных і палітычных праблемах эпохі, хоць варта адзначыць, што ў адрозненне ад многіх сваіх калег нязменны кіраўнік Менскага таварыства сельскай гаспадаркі аддаваў перавагу практычнай дзейнасці і быў даволі скупы на публічнае праяўленне ўласнай пазіцыі.

У гэтай групе крыніц адсутнічаюць тыя, якія могуць распавесці пра яго пецярбургскі перыяд дзейнасці ў 1906–1909 гг., калі Вайніловіч быў абраны сябрам Дзяржаўнай Рады імперыі і ўзначаліў «Польскае кола». У яго ўваходзілі абранцы польскага зямянства Літвы, Беларусі і Украіны, а таксама дэпутаты ад Каралеўства Польскага. Фактычна Эдвард Вайніловіч быў галоўным прадстаўніком Польшчы ў расійскіх органах улады. Аналагічныя функцыі выконвалі граф Войцах Дзедушыцкі ў парламенце Аўстра-Венгрыі і князь Фердынанд Радзівіл у германскім рэйхстагу. Пошук гэтых матэрыялаў вымагае ад укладальніка працы ў архівах Пецярбурга і Масквы, што зараз немагчыма. Будзем спадзявацца, што ў блізкай будучыні такая магчымасць для замежнага даследчыка з’явіцца і мы атрымаем яшчэ адзін том дакументаў. Прынамсі, пра гэта напісаў сам укладальнік у Прадмове.

Другая катэгорыя крыніц прадстаўлена ацэнкамі, меркаваннямі і заўвагамі сучаснікаў, датычнымі жыцця і дзейнасці галоўнага героя выдання. Імкнучыся неяк нейтралізаваць вядомы прынцып «пра мёртвых – добра альбо нічога» Раман Юркоўскі гэтыя пасмяротныя меркаванні падзяліў храналагічна. Спачатку былі прадстаўлены сведчанні, якія з’явіліся яшчэ да выдання першай часткі ўспамінаў Вайніловіча (1931), потым пазнейшыя. У асобны раздзел трапілі фрагменты мемуараў, у якіх фігураваў «Пан Эдвард», а напрыканцы чытач атрымаў магчымасць пазнаёміцца з першай апублікаванай біяграфіяй Эдварда Вайніловіча (1938). Яе аўтарка Габрыэля Ланцуцка асаблівую ўвагу звярнула на рэлігійныя аспекты ў жыцці і дзейнасці галоўнага героя.

Публікацыя дакументаў суправаджаецца вялікай колькасцю каментароў і заўваг укладальніка, якія разам са спасылкамі наблізіліся да 1700. Месцамі зборнік нагадвае сапраўдную энцыклапедыю жыцця эліты польскай супольнасці Беларуска-Літоўскага краю падчас кардынальных палітычных і нацыянальных перамен.

Упэўнены, што кніга *Umysł miał jasny i serce miłujące...* зойме важнае месца ў гістарыяграфіі вывучэння польскага руху і праблематыкі польска-беларускіх адносін на рубяжы XIX–XX стст.

*Аляксандр Смалянчук*

## J. Grzybowski, *Białoruski ruch niepodległościowy w czasie II wojny światowej,*
Warszawa 2021, 432 s.

Прафесар Варшаўскага ўніверсітэта Юры Грыбоўскі ўзняў адну з найбольш вострых праблем айчыннай гістарыяграфіі. Яго кніга прысвечана беларускаму незалежніцкаму руху ў гады Другой сусветнай вайны (1939–1945). Асаблівая ўвага надавалася праблематыцы калабарацыі, а менавіта стварэнню беларускіх вайсковых фармацый на баку III Рэйха, адносінам дзеячаў беларускага руху да Польшчы, а таксама дзейнасці беларускага падполля пасля прыходу «другіх Саветаў» (лета 1944 г.).

Даследаванне грунтуецца на даволі шырокай базе крыніц, сярод якіх дамінуюць дакументы з бібліятэк і архіваў Беларусі, Польшчы, Расіі, Літвы, Латвіі, Германіі, ЗША, Вялікабрытаніі ды інш.

У першым раздзеле (*Państwo białoruskie – idea czy możliwość? Białoruskie dążenia państwowe do czasu okupacji Białorusi przez III Rzeszę. Marzec 1918–czerwiec 1941)* Юры Грыбоўскі прааналізаваў «беларускае пытанне» ў міжваенны перыяд, звярнуў увагу на кантакты лідараў беларускай дыяспары з нямецкімі арганізацыямі, адзначыў рост спадзяванняў на спрыянне беларускай незалежнасці з боку III Рэйха напярэдадні вайны.

У другім раздзеле *(Walka o niepodległość czy kolaboracja? Białoruski ruch niepodległościowy w czasie wojny niemiecko-sowieckiej. Czerwiec 1941 – maj 1945)* аўтар звярнуў увагу на нацыянальную палітыку Германіі на акупаваных тэрыторыях і засяродзіўся на дзейнасці беларускіх нацыянальных арганізацый.

Датычна праблемы калабарацыі ён прыйшоў да высновы, што ў канфлікце двух таталітарызмаў – нацысцкага і камуністычнага – лагер прыхільнікаў беларускай незалежнасці не стаў «трэцяй сілай». Ён не меў ні палітычных сродкаў, ні вайсковых сіл, каб весці вайну на два фронты. Разлічваць можна было толькі аказанне пасіўнага ўплыву на акупантаў. Даводзілася весці складаную гульню з немцамі ў надзеі схіліць акупантаў да ўспрымання беларусаў як палітычных саюзнікаў, а таксама пераканаць кіраўніцтва Германіі ў неабходнасці аптымальнага для беларускага руху вырашэння беларускага пытання. Аўтар прызнаў, што з перспектывы сённяшняга дня гэта была нерэальная мэта. Таксама ён выказаў меркаванне, што беларускія актывісты не маглі не

разумець, што нямецкія планы толькі ў нязначнай ступені адпавядалі іх імкненням.

У сваім даследаванні прафесар Грыбоўскі не мог абмінуць савецкіх і постсавецкіх міфаў, якія актыўна выкарыстоўваюцца сучаснай афіцыйнай прапагандай у Беларусі. Вывучэнне архіўных дакументаў дазволіла сцвердзіць, што падчас акупацыі беларускі нацыянальны сцяг і герб «Пагоня» выкарыстоўваліся неафіцыйна. Яны не мелі аніякага прававога статусу. Гэта была ініцыятыва беларускіх прыхільнікаў незалежнасці. Менавіта таму, на погляд аўтара кнігі, гэта сітуацыя ніякім чынам не можа трактавацца як ганьба для беларускіх нацыянальных сімвалаў (s. 94). Тут варта прыгадаць, што нацыянальная сімволіка таксама выкарыстоўвалася іншымі палітычнымі сіламі і нацыянальнымі рухамі, якія выступілі на баку III Рэйха. Так было з рускімі, украінцамі, літоўцамі, латышамі, грузінамі, харватамі ды інш.

У трэцім раздзеле (*„Substytut niepodległości". Białoruskie formacje zbrojne w służbie niemieckiej. 1941–1945*) аўтар засяродзіўся на вайсковых аспектах калабарацыі. Ён адзначыў імкненне беларускіх палітыкаў пры дапамозе немцаў стварыць аснову нацыянальнага войска, але таксама паказаў усю беспадстаўнасць такіх спадзяванняў.

Асобнай старонкай гісторыі беларускага нацыянальнага руху ў гэты перыяд былі ўзаемаадносіны польскай і беларускай палітычных эліт (*„Pogoń z Orłem czy bez Orła?" Polska wobec białoruskich dążeń niepodległościowych i stosunki polsko/białoruskie podczas okupacji niemieckiej. 1941–1944*). Тагачасная міжнародная сітуацыя не спрыяла пэўным партнёрскім адносінам. Урад Польшчы ў выгнанні імкнуўся да аднаўлення польскай дзяржавы ў даваенных межах. Беларускі нацыянальны лагер спадзяваўся на адзінства зямлі і народа ў межах уласнай дзяржавы. Адпаведна паўстаў польска-беларускі канфлікт, які, на думку аўтара, усё ж не закрануў шырокіх слаёў грамадства і абмежаваўся яго палітычна актыўнай часткай.

Пэўная частка беларускіх дзеячаў, якая не верыла ў поспех супрацы з немцамі, шукала кантактаў з польскім падполлем. Яны спадзяваліся праз польскае падполле наладзіць сувязі з заходнімі саюзнікамі па антыгітлераўскай кааліцыі. Але і ў гэтым выпадку галоўным прадметам нязгоды заставалася пытанне аб усходняй мяжы Польшчы.

Юры Грыбоўскі сітуацыю беларускага лагера падчас Другой сусветнай вайны параўноўвае са становішчам паміж молатам і кавадлам. Беларусь апынулася паміж двума антычалавечымі таталітарнымі сістэмамі – нацысцкай і камуністычнай. Жаданне вызвалення з путаў аднаго таталітарызму штурхала беларусаў у абдымкі да іншага. У гэтай сітуацыі намеры прыхільнікаў беларускай незалежнасці не мелі шансаў на рэалізацыю. Аднак гэта змаганне працягвала ранейшыя традыцыі, закладзеныя яшчэ ў 1918 г. падчас абвяшчэння незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі.

У апошнім раздзеле кнігі (*Epilog*) Юры Грыбоўскі засяродзіўся на лёсе беларускіх дзеячаў як у краі, так і па-за яго межамі. Ён крытычна ацаніў міф пасляваеннага беларускага антыкамуністычнага супрацiву.

Кніга таксама ўтрымлівае бібліяграфію азначанай праблематыкі і вартыя ўвагі ілюстрацыі.

*Аляксандр Смалянчук*

## *Беларускі гістарычны агляд,* т. 29, сшытак 1–2 (56–57), снежань 2022 (*Галоўны рэдактар Генадзь Сагановіч*)

Агляд беларускіх гістарычных часопісаў варта пачаць з тома 29 *Беларускага гістарычнага агляда*. Часопіс быў заснаваны ў 1994 г. і па сённяшні дзень застаецца найбольш аўтарытэтным перыядычным навуковым выданнем. Гэта адзіны беларускі гістарычны часопіс, які індэксуецца ў базах ERIH PLUS і EBSCO. Але справа не толькі ў фармальным моманце. Галоўны рэдактар Генадзь Сагановіч за 30 гадоў працы набыў унікальны вопыт рэдагавання, які адчувальны ў кожным новым томе БГА. Апрача таго рэдактар застаецца навукоўцам і выдатна арыентуецца ў актуальных пытаннях сучаснай гістарычнай навукі.

У гэтым томе БГА ў першую чаргу хочацца адзначыць артыкулы з галіны антрапалагічна арыентаванай гісторыі. Так, даследчыца гісторыі каталіцкага Касцёла ў Беларусі Раіса Зянюк засяродзілася на такім неардынарным боку жыцця каталіцкіх манастыроў і семінарый, як спажыванне і выраб алкаголю. Храналагічна артыкул ахоплівае амаль увесь расійскі перыяд беларускай гісторыі – 1772–1914 гг. Алкаголь, дарэчы, выраблялі як для ўласных патрэб манахаў, так і на продаж праз корчмы.

Алесь Пагарэлы працягвае нас знаёміць з праектам мадэрнасці Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, прадстаўленым на старонках партыйнага друку. На гэты раз гаворка ідзе пра праблему суадносін катэгорый «прырода» і «культура». Паводле даследчыка, прапанаваны дыскурс аб прыродзе павінен быў замяніць веды вяскоўцаў пра навакольнае асяроддзе. Прырода станавілася сінанімічнай культуры.

Варта адзначыць, што ў 2021 г. аўтар артыкула надзвычай паспяхова абараніў у Беластоцкім універсітэце доктарскую працу *Społeczno-kulturowe aspekty kształtowania się wspólnoty politycznej w prasie Białoruskiej Chrześcijańskiej Demokracji w okresie międzywojennym*.

Упэўнены, што ўвагу чытачоў таксама прыцягне артыкул Г. Сагановіча *Шматаблічнасць Крычаўскага паўстання, або Патрэба новага погляду на сацыяльныя канфлікты*. Апошнім часам даследчык усё часцей звяртаецца да тэматыкі беларускай савецкай гістарыяграфіі і яе слядоў у сучасных публіка-

цыях. Апошняе між іншым датычыць асвятлення Крычаўскага паўстання 1743–1744 гг. Аналізуючы гістарыяграфію сялянскіх паўстанняў, Г. Сагановіч адзначыў, што беларуская гістарыяграфія дагэтуль не мае даследаванняў з выкарыстаннем немарксісцкіх тэарэтычных мадэляў. Дасягненні сусветнай гуманітарыстыкі апошніх дзесяцігоддзяў быццам невядомыя ў краіне. Між тым у сацыяльнай гісторыі мала хто з даследчыкаў раннемадэрнай Еўропы верыць у тое, што галоўным фактарам палітычных трансфармацый быў класавы канфлікт. Сучасныя даследаванні грамадства выпрацавалі рознаарыентаваныя тэарэтычныя падыходы да розных праяў сялянскага руху, у якіх нават само паняцце «сялянства» разумеецца неаднолькава. А вось беларуская гістарычная літаратура па-ранейшаму выкарыстоўвае паняцці і тэрміны, перанятыя з савецкай эпохі.

Асаблівай увагі заслугоўваюць тэксты вядомых даследчыкаў эпохі нацыяналізмаў і праблематыкі ідэнтычнасці Рышарда Радзіка (Люблін) (*Палякі і ўсходнія славяне: сацыяльныя ўмовы фармавання ідэнтычнасці і ментальных рысаў*) і Міраслава Гроха (Прага) (*Пра еўрапейскія карані нацыі, нацыяналізм і патрыятызм*).

Гісторык Сяргей Новікаў у артыкуле (*У пошуках дакладнай колькасці нацысцкіх ахвяр у Беларусі* (*на прыкладзе Трасцянецкага лагера смерці*) заклікае дзеля ўдакладнення колькасці ахвяр нацысцкай акупацыі Беларусі ўлічваць працы нямецкіх даследчыкаў.

Традыцыйную для БГА праблематыку гісторыі Вялікага Княства Літоўскага працягваюць публікацыі Аляксандра Доўнара (Менск) пра фінансавую справаздачнасць органаў гарадскога самакіравання Беларусі ў другой палове XVI – XVIII стст. і Роберта Калодзея (Вроцлаў) аб праблеме лімітацыі на сойміках ВКЛ у канцы XVII ст.

Як заўсёды, прыцягвае ўвагу раздзел рэцэнзій, у якім зроблены крытычны агляд наступных выданняў:

Алена Дземідовіч, *Вялікае Княства Літоўскае ў адносінах Рэчы Паспалітай з Расіяй і Швецыяй у першай трэці XVII ст.*, Мінск 2021 (В. Якубаў);

Franziska Exeler, *Ghosts of War. Nazi Occupation and Its Aftermath in Soviet Belarus*, Ithaca – London 2022 (I. Раманава);

Eduard Mühle, *Słowianie. Rzeczywistość i fikcja wspólnoty, VI–XV wiek*, Warszawa, 2020 (В. Варонін);

Леонід Тимошенко, *Руська релігійна культура Вільна. Контекст доби. Осередки. Література та книжність (XVI – перша третина XVII ст.)*, Дрогобич 2020 (Ю. Лаўрык);

Ирина Романова, *Клеймение Красного дракона: 1937–1939 гг. в БССР*, Москва 2021 (I. Махоўская, В. Мянькоўскі);

Оксана Кісь, *Українки в ГУЛАГУ: вижити значить перемогти*, Львів 2017 (Т. Астроўская);

Tatsiana Astrouskaya, *Cultural Dissent in Soviet Belarus (1968–1988). Intelligentsia, Samizdat and Nonconformist Discourses,* Wiesbaden 2019 (Ф. Акерман);

Tomasz Kamusella, *Words in Space and Time: A Historical Atlas of Language Politics in Modern Central Europe,* Budapest and New York 2021 (С. Запрудскі).

Эда. *Песні пра багоў.* Уклад., пер. са старажытнаісл., камент. Я. Папакуля, Мінск 2021; *Эда Сноры Стурлусана.* Уклад., пер. са старажытнаісл., камент. Я. Папакуля, Мінск 2021; *Эда. Песні пра герояў.* Уклад., пер. са старажытнаісл., камент. Я. Папакуля, Мінск 2022 (С. Емяльянаў).

У рубрыцы *In memoriam* Захар Шыбека ўспамінае Адама Мальдзіса (1932–2022), а Віталь Зайка – Янку Запрудніка (1926–2022).

*А.С.*

## *ЗАПІСЫ 42. Беларускі інстытут навукі й мастацтва*
## *ZAPISY 42. Belarusan Institute of Arts and Sciences*

New York – Miensk 2022
(*Рэдактар нумара Лявон Юрэвіч*)

Чарговы том «Запісаў» налічвае больш за 900 старонак і з’яўляецца рэкордным па сваім аб’ёме. А распачынаецца ён тэкстам, прысвечаным памяці гісторыка і сябра Беларускага інстытута навукі і мастацтва, а таксама рэдакцыйнай калегіі часопіса Янкі Запрудніка (1926–2022).

Галоўныя тэмы гэтага нумара – *Беларуская бібліятэка імя Францішка Скарыны* і *Царква на эміграцыі*. У першай з іх прыцягваюць увагу інтэрв’ю з айцом Сяргеем Стасевічам (*У бібліятэцы мне найбольш цікавы быў сам айцец Аляксандр Надсан*) і сябрам Апякунскай рады бібліятэкі Каралінай Мацкевіч (*Пра Скарынаўскую бібліятэку раней, цяпер і ў перспектыве*). У размовах, якія вяла Наталля Гардзіенка, закраналася гісторыя бібліятэкі і яе фондаў, роля і асоба яе стваральніка айца Аляксандра Надсана (1926–2015), дзейнасць Апякунскай рады, а таксама далейшыя перспектывы. Адной з галоўных задач бліжэйшага часу застаецца поўная каталагізацыя музейнай калекцыі, кніжных і архіўных фондаў Скарынаўскай бібліятэкі, стварэнне Музея беларускай дыяспары ды інш. Бібліятэка будзе выконваць запавет айца Аляксандра Надсана, які падчас хваробы неаднаразова паўтараў, што беларускае жыццё мусіць працягвацца.

Амаль 300 старонак «Запісаў» прысвечана эпісталярнаму архіву царкоўнага і грамадскага дзеяча айца Льва Гарошкі (1911–1977). Гэты матэрыял падрыхтавала Наталля Гардзіенка, якая адзначыла «надзвычайную каштоўнасьць [карэспандэнцыі] для тых, хто цікавіцца рознымі аспэктамі беларускай прысутнасьці на Захадзе. Тут і дэталі да біяграфіяў, і гісторыі арганіза-

цыяў ды асяродкаў. З паасобных допісаў, згадак можна складаць захапляльныя пазлы, разгадваць таямніцы, вывучаць кантэкст беларускага жыцьця на чужыне ў сярэдзіне XX ст.»

У часопісе апублікаваны лісты Язэпа Гладкага, Аляксандра Калодкі, Уладзіміра Клішэвіча, айца Часлава Сіповіча, Уладзіміра Цьвіркі, Міколы Цэлеша, Янкі Чарнэцкага, айца Францішка Чарняўскага, Сяргея Хмары, перапіска з некаторымі з іх, а таксама перапіска айца Часлава Сіповіча і Антона Адамовіча, Юзэфы Найдзюк і Кастуся Акулы ды інш. У падрыхтоўцы іх да друку таксама ўдзельнічаў Лявон Юрэвіч.

Раздзел *Царква на эміграцыі* прадстаўлены артыкуламі Юрыя Грыбоўскага *Беларусы й Польская праваслаўная царква на чужыне падчас Другой сусьветнай вайны і ў паваенны час,* Наталлі Гардзіенкі *Беларускае праваслаўнае Жыровіцкае брацтва на чужыне й ягоныя выданьні,* Надзеі Дробінай *Уладыка Мікалай (Мацукевіч)* і Аляксандра Сьлесарава. Апошняму належыць тры (!) тэксты, прысвечаныя розным аспектам гісторыі праваслаўя ў Паўночнай Амерыцы ў пасляваенныя гады, а таксама публікацыя лістоў архімандрыта Язэпа (Іван Строк) да рэдактара газеты «Беларускі голас» Сяргея Хмары (1969–1981 гг.).

Раздзел *Архівы* знаёміць з матэрыяламі фонду Антона Адамовіча з Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, біяграфіяй і вершамі паэта Рыгора Данілеўскага, лістамі Герасіма Галожына да пісьменніка Міколы Сільвановіча, аўтар якіх распавядаў пра ўласнае адкрыццё Канады. Лісты датаваныя 1949–1964 гг. Таксама апублікаваны лісты беларуска-расійскага пісьменніка Уладзіміра Сядуры да Льва Акіншэвіча (1954–1958), арыгіналы якіх захоўваюцца ў Навуковым таварыстве Тараса Шаўчэнкі (Нью-Ёрк). Яны выдатна ілюструюць пачатак жыцця беларускай эліты ў амерыканскім свеце.

У раздзеле *Публікацыі* можна пазнаёміцца з даследаваннямі асобных старонак гісторыі беларускай эміграцыі ў даваенных Чэхаславакіі (Вольга Зубко) і Латвіі (Юры Грыбоўскі). Н. Гардзіенка і Л. Юрэвіч прадставілі адлюстраванне падзей 1956 г. на старонках газет «Бацькаўшчына» і «Беларус».

Генадзь Сагановіч у разважаннях над кнігай Н. Вакара (Nicholas P.Vakar) *Belorussia: The Making of a Nation. A case study,* (Cambridge (Mass.): Harvard University Press, 1956) узняў актуальную праблему адсутнасці прафесійна напісанай англамоўнай гісторыі Беларусі. Аналіз згаданай працы дазволіў Г. Сагановічу прыгадаць ацэнку Вітаўтам Тумашам асобы Н. Вакара як «расейскага велікадзяржаўніка». У канцы артыкула даследчык працытаваў беларускага пісьменніка і грамадскага дзеяча Кастуся Акулу: «Вакарова кніга нарабіла нам многа шкоды. Але мы не зрабілі нічога, каб выказаць сваё ды паставіць такую працу на полкі бібліятэк» (с. 671).

Н. Гардзіенка і Л. Юрэвіч прыгадалі асобу першага рэдактара газеты «Беларус» грамадскага дзеяча Леаніда Галяка (1910–1980), распавялі пра яго *Ўспаміны*, якія выйшлі ў з друку пасля смерці аўтара, і падрыхтавалі да друку яго лісты да Ст. Станкевіча (1952) і Вацлава Пануцэвіча (1974). Л. Юрэвіч у іншым артыкуле выказаўся пра магчымую сувязь легенды Уладзіміра Караткевіча і легенды славутага амерыканскага пісьменніка Вашынгтона Ірвінга (Washington Irving, 1783–1859). Падставай для гэтага стала параўнанне сюжэтаў *Легенды пра Сонную Лагчыну* з *Кнігі накідаў* (*The Sketch Book of Geoffrey Crayon, Gent*) і *Дзікага палявання караля Стаха*.

Як заўсёды, вартая асаблівай увагі публікацыя ўспамінаў. У гэтым томе «Запісаў» публікуюцца ўспаміны Міколы Шылы, які прыгадаў сустрэчы з Цёткай (Алаізай Пашкевіч), і Вінцэнта Сьпічонка (*Мая аўтабіяграфія*) пра перадваенныя і ваенныя гады на Дзісеншчыне. У цэнтры ўспамінаў Вітаўта Кіпеля (*Добра памятнае…* ) падзеі дзяцінства і маладосці, якія ўмацоўвалі беларушчыну ў свядомасці юнака.

У раздзеле *Беларусіка* Віталь Воранаў (Познань) у эсэ *Весялі ты мяне на чужой старане* прадставіў замалёўкі пра лёс дудароў. Л. Юрэвіч зрабіў падборку эміграцкіх успамінаў пра Алеся Гаруна (Аляксандра Прушынскага) і Якуба Коласа. Сяргей Харэўскі (Вільня) у артыкуле *Раньнія фота Яна Булгака* распавёў пра пачатак біяграфіі Булгака як вядомага фотамастака.

У раздзеле *Угодкі* прадстаўлены матэрыялы, прысвечаныя этнографам Язэпу Гладкаму і Паўлу Шэйну, пісьменніку і гісторыку Аўгену Калубовічу, заснавальніку Беларускага інстытута навукі і мастацтва Вітаўту Тумашу, лінгвісту і даследчыку беларусаў у Амерцы Зміцеру Саўку.

Таксама хачу звярнуць увагу чытачоў на *Кніжны агляд* Яны Славінай і рэцэнзіі. А. Горны і К. Ананька (Гародня) распавялі пра трэцяе выданне кнігі Вітаўта Кіпеля *Беларусы ў ЗША* (Мінск 2020), Юры Грыбоўскі (Варшава) – пра *Выбранае* Вітаўта Тумаша (В. Тумаш, *Выбранае.* Укладанне, падрыхтоўка тэкстаў, агульнае рэдагаванне, каментары Н. Гардзіенкі, Л. Юрэвіча (Мінск 2020), Віялета Кавалёва (Таронта) – пра зборнік, прысвечаны кампазітару і дырыжору Міколу Равенскаму (*Мікола Равенскі.* Укладальнік Л. Юрэвіч, навуковы рэдактар Н. Гардзіенка (Мінск 2020), Н. Гардзіенка (Менск) – пра кнігу Сяргея Кнырэвіча *Магілы беларусаў у Чэхіі і Славакіі = Běloruské hroby na českých a slovenských hřbitovech* (Praha 2020), а рэцэнзент *У. П.* – пра *Выбранае* Льва Акіншэвіча (Л. Акіншэвіч, *Выбранае.* Укладанне, падрыхтоўка тэкстаў, агульнае рэдагаванне, каментары, паказнік Н. Гардзіенкі, Л. Юрэвіча (Мінск 2021).

У заключэнне хочацца павіншаваць Лявона Юрэвіча і Наталлю Гардзіенку з выданнем тома «Запісаў» як важнага ўнёска ў гісторыю беларускай эміграцыі.

*А.С.*

***Rocznik Centrum Studiów Białoruskich =***
***Гадавік Цэнтра беларускіх студыяў,***
2022, nr 8.
(*Redaktor Aliaksandr Smalianczuk*)

Чарговы нумар Гадавіка распачынаецца дыскусіяй вядомых гісторыкаў з Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны наконт месца Люблінскай уніі і Рэчы Паспалітай у гістарыяграфіі чатырох краін. У размове ўдзельнічалі Н. Старчанка і Н. Білоус (Україна), Г. Сагановіч, А. Краўцэвіч і У. Падалінскі (Беларусь), A. Zakrzewski i Ł. Adamski (Polska), A. Bumblauskas (Lietuva).

Складаным пытанням гісторыі ўзаемадачыненняў краін УЛБ з Польшчай прысвечаны матэрыялы раздзела *Артыкулы і паведамленні*. Вадзім Аніпяркоў (Варшава) разважае пра значэнне Канстытуцыі 3 мая 1791 г. у гісторыі Вялікага Княства Літоўскага і ставіць пад сумнеў некаторыя ацэнкі польскай гістарыяграфіі. Аляксандр Радзюк (Гродна) звяртаецца да праблемы рэадаптацыі ўдзельнікаў паўстання 1863 г., якія вярталіся з ссылкі ў Каралеўства Польскае. Мікалай Мязга (Гомель) аналізуе стаўленне польскай дэлегацыі да ўдзелу беларусаў у савецка-польскіх мірных перамовах 1920 г. Сяргей Токць (Варшава) засяроджваецца на ўдзеле беларусаў у парламенцкіх выбарах 1922 г. у Польшчы. P. Cichoracki (Wrocław) аналізуе палітыку паланізацыі ў паўночна-ўсходніх ваяводствах міжваеннай Польшчы ў канцы 1930-х гг. Уладзімір Лобач (Полацк) на падставе матэрыялаў вуснай гісторыі разважае пра свядомасць беларускіх палякаў. Тадэвуш Гавін (Варшава) характарызуе палітыку Польшчы адносна сітуацыі польскай супольнасці ў Рэспубліцы Беларусь. Пра пачаткі ўласнага шляху ў навуку і ролю гуманістыкі ў XXI стагоддзі ў размове з А. Смаленчуком разважае вядомы польскі гісторык Лешак Заштаўт.

У радзеле *Дакументы* можна пазнаёміцца з успамінамі Рамана Скірмунта пра эвакуацыю парэчскіх і моладаўскіх Скірмунтаў з Палесся на Пазнаншчыну ўлетку 1920 г. (каментары А. Смаленчука). Таксама тут прадстаўлены зварот беларускіх арганізацый (1931) у Лігу Нацый са скаргай на палітыку польскіх улад. Яго падрыхтоўку да друку распачаў яшчэ Уладзімір Ляхоўскі. Дакумент публікуецца з каментаром прафесара Пятра Ціхарацкага. Юры Грыбоўскі (Варшава) падрыхтаваў да друку лісты кіраўніка Беларускай цэнтральнай рады Радаслава Астроўскага да Уінстана Чэрчыля і Уладзіслава Рачкевіча (1945) з просьбай дапамагчы беларусам у іх барацьбе супраць савецкай улады.

Таксама публікуюцца рэцэнзіі А. Краўцэвіча (R. Kamuntavičius, *Gudijos istorija. Baltarusijos istorija*, Vilnius 2022), А. Радзюка (St. Wiech, *Litwa i Białoruś. Rządy Potapowa (1868–1874)*, Kielce 2021), С. Токця (*Сацыяльна-эканамічнае развіццё Беларусі (канец XVIII – пачатак XX ст.)*, рэдкалегія В. В. Даніловіч

(гал. рэд.) [і інш.], Мінск 2020), Ю. Грыбоўскага (E. Mironowicz, *Wojna wszystkich ze wszystkimi. Białoruś 1941–1944*, Kraków 2015), А. Чарнякевіча. Рэцэнзія апошняга датычыць зборнікаў Інстытута гісторыі НАН Беларусі, прысвечаных гісторыі беларускай дзяржаўнасці (*Брацкія магілы айчыннай гістарычнай навукі…*).

Рубрыка *Pro memoriam* прывечана памяці аднаго з патрыярхаў беларускай гістарыяграфіі, стваральніка славутага Скарынаўскага цэнтра Адама Мальдзіса (1932–2022), а таксама Валянціны Мятліцкай (Лебедзевай) (1955–2022), якая вярнула ў гістарычную памяць асобу і працы Мітрафана Доўнар-Запольскага (1867–1934).

*А.С.*

# ЗВЕСТКІ ПРА АЎТАРАЎ

**Игорь Игоревич Баринов** – кандидат исторических наук, старший научный сотрудник Института славяноведения РАН, специалист по истории Восточной Европы. Автор монографии *Направление – Украина. Опыт изучения нацистской оккупационной политики, 1941–1944* (2014).

**Мікалай Бянько** – магістр палітычных навук, рэдактар, журналіст. Сфера навуковых інтарэсаў: візуальныя даследаванні, праблематыка памяці, масавыя рэпрэсіі ў гады сталінізму, гісторыя нефармальных і дысідэнцкіх рухаў у БССР у перыяд «позняга сацыялізму».

***Апошнія публікацыі:***

- *Гомель и Севастополь – постколониальные антиподы*, Вильнюс 2010;
- *Будні «савецкага акупанта». Пра апошнія гады ГДР згадвае беларускі жаўнер са спецчасткі ўрадавай сувязі КДБ*, Менск – Беласток 2019;
- *Гарэлка, літаратура, нацыяналісты*, Менск – Беласток 2019;
- *Забытая жаночая турма НКВД*, Менск – Беласток 2019.

**Сяргей Уладзіміравіч Грунтоў** – кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік аддзела народазнаўства Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі. Сфера навуковых інтарэсаў: даследаванне могілак Беларусі і сумежных рэгіёнаў, вывучэнне культуры захавання і трансляцыі памяці ў беларусаў.

***Асноўныя публікацыі:***

- *Мемарыяльныя помнікі* [у:] *Нарысы гісторыі культуры Беларусі. У 4 т. Т. 1. Культура сацыяльнай эліты XIV – пачатку XX ст.*, Мінск 2013, с. 557–571;
- *З'яўленне могілак. Рэформа месцаў пахавання на беларускіх землях канца XVIII – пачатку XIX ст. у антрапалагічнай перспектыве,* «Homo Historicus», 2016, с. 45–56;
- *Смерць як структурны шок і механізмы яго пераадолення ў традыцыйнай культуры беларускіх сялян XIX – першай паловы XX ст.* [у:] *Беларускі фальклор: матэрыялы і даследаванні.* Зборнік навуковых прац. Выпуск 4, Мінск 2017, с. 55–67;
- *Символика дерева в христианских и еврейских надгробиях Беларуси XIX–XX веков* [у:] *Вещь – символ – знак в славянской и еврейской культурной традиции,* Москва 2019, с. 169–187;

- *Пахавальныя фотаздымкі ў беларускай культуры XX ст.: вытокі традыцыі, тыпалогія, сацыяльны кантэкст,* «Беларускі гістарычны часопіс», 2021, № 9, с. 11–19.

**Яніна Ігараўна Грыневіч** – кандыдат філалагічных навук, загадчык сектара захавання фальклорнай спадчыны Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі. Сфера навуковых інтарэсаў: беларускі фальклор, гісторыя фалькларыстыкі, фальклорныя ўзаемасувязі, фальклорныя архівы, праблемы захавання нематэрыяльнай культурнай спадчыны, савецкі фальклор і мастацкая самадзейнасць, этнабатаніка.

***Асноўныя публікацыі:***

- *Беларускія пазаабрадавыя лірычныя песні,* Мінск 2018;
- Ya. Hrynevich, I. Vasilyeva, *Folklore Heritage of the Local Community and Archives,* «Letonica», vol. 36, 2018, pp. 72–81;
- *Worldview of Belarusian folk songs lyrics,* "Folklore", vol. 72, 2018, pp. 55–84.
- *Развіццё беларускай фалькларыстыкі ў 20–30-я гады XX ст.* [у:] *Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі да 150-годдзя А. К. Сержпутоўскага;* 19–20 чэрвеня 2014 г., рэдкал. А. І. Лакотка [і інш.], Мінск 2014, с. 150–155;
- *Традыцыі выкарыстання дзікарослых раслін у сістэме харчавання беларусаў,* [у:] *Расліны ў сістэме традыцыйных ведаў беларусаў = Plants in the System of Traditional Knowledge of Belarusians,* рэдкал. Т. В. Валодзіна [і інш.], Мінск 2019, с. 93–108.

**Данута Грынь** – магістр гісторыі. Сфера навуковых інтарэсаў – гісторыя культуры Беларусі найноўшага часу.

***Публікацыі:***

- *Археалагічны помнік: фіксацыя мінулага ў мінулым. Выстава ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь у межах праекта «Мінулае мае будучыню: дыялог культуры і навукі»,* «Беларускі музей», 2021, № 1, с. 14–16;
- Д. Грынь, В. Тарасевіч, *Асоба і помнік. Беларуская археалогія ў фотаздымках 1920–1930-х гг.* [фотаальбом], Мінск 2021.

**Аляксандр Гужалоўскі** – доктар гістарычных навук, прафесар кафедры этналогіі, музеалогіі і гісторыі мастацтваў БДУ (Менск).

***Асноўныя публікацыі:***

- *Нараджэнне беларускага музея,* Мінск 2001;
- *«Міласці вашай просім...», альбо Адзін год у навейшай гісторыі Беларусі, адлюстраваны ў лістах, заявах, скаргах і іншых формах звароту грамадзян.* Зборнік дакументаў. Укл. А. А. Гужалоўскі, Мінск 2006;
- *Чырвоны аловак: нарысы па гісторыі цэнзуры ў БССР*: у 2 кн. Кн. 1: 1919–1941 гг. Мінск, 2012; кн. 2: 1943–1991 гг. Мінск, 2018;
- *Сэксуальная рэвалюцыя ў Савецкай Беларусі. 1917–1929 гг.,* Мінск 2017.

**Ольга Євгеніївна Зубко** – кандидат історичних наук, старший лаборант кафедри всесвітньої історії та археології Донецького національного університету ім. В. Стуса. (Вінниця). Сфера наукових інтересів: суспільно-політичне та культурно-освітнє життя української та білоруської еміграцій в міжвоєнній Чехословаччині; історія повсякдення української та білоруської еміграцій в міжвоєнній Чехословаччині (1919–1939).

***Основні праці:***

- *Берестейський мир на сторінках подільської преси (1918 р.)* [в] *Матеріали міжнародної наукової конференції «Берестейський мир – 100 років: передумови і наслідки»*. Збірник наукових праць. Мінськ 2019, с. 36–41.
- В. Зубко, С. Кнырэвіч, *Матэрыялы да жыццяпісу Аляксандра Максімавіча Жыховіча (1900–1973) – «беларуса на службе УНР»*, «Rocznik centrum studiów białoruskich», 2019, nr 5, s. 281–297.
- *Беларуская эміграцыя ў міжваеннай Чэхаславаччыне: «Залатыя 1920-я» й навукова-тэхнічны прагрэс*, «Запісы». Беларускі інстытут навукі й мастацтва, т. 42. New-York – Miensk 2022, с. 580–588.
- *Празьке повсякдення професора Василя Сімовича (1923–1933)*, «Науковий вісник Чернівецького національного університету імені Юрія Федьковича». Історія. 2022, № 1, с. 42–50.
- *Лаврівчанин Григорій Мельник (1893–1938 (1939?)) – один із фундаторів Української автокефальної православної церкви України в міжвоєнній Чехословаччині (1918–1939)*, «Вісник Луганського національного університету імені Тараса Шевченка». Історичні науки, 2022, № 4, с. 111–119.

**Андрэй Леанідавіч Кіштымаў** – кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Рэспубліканскай лабараторыі гісторыка-культурнай спадчыны Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Сфера навуковых інтарэсаў: захаванне гістарычнай спадчыны, праблемы сацыяльна-эканамічнай гісторыі, гісторыя прадпрымальніцтва ў Беларусі, урбаністыка, канфесійная гісторыя, праблемы гістарыяграфіі і крыніцазнаўства.

- Аўтар звыш 330 публікацый у навуковых выданнях Беларусі, Германіі, ЗША, Вялікабрытаніі, Польшчы, Чэхіі, Расіі, Украіны, Літвы, Эстоніі ды інш.
- Аўтар манаграфіі *Беларусь на выставках XIX – начала XX века*, Минск 2021.
- Суаўтар *Handbuch der Geschichte Weissrusslands* (Gottingen, 2001); 4-га тома *Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XX ст.)* (Мінск, 2005) у 6-томнай гісторыі Беларусі; энцыклапедыі *Экономическая история России (с древнейших времен до 1917 г.)*: в 2 т. (Москва, 2008–2009); *Вялікага гістарычнага атласа Беларусі*. У 4 тамах. Т. 3 (Мінск, 2016), сборника *Банкаўская справа Беларусі: Гісторыя* (Мінск, 2017) ды інш.

**Вольга Аляксандраўна Лабачэўская** – доктар мастацтвазнаўства, прафесар кафедры этналогіі і фальклору Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта куль-

туры і мастацтваў. Даследуе пытанні тэорыі і гісторыі народнага мастацтва, беларускія народныя промыслы і рамёствы, народны тэкстыль, яго рэгіянальныя і лакальныя асаблівасці, гендарныя аспекты, гісторыю этнаграфічнай фатаграфіі ў Беларусі.

***Некаторыя публікацыі:***
- *Захавальнік Палескага музея – Дзмітрый Георгіеўскі*, Мінск 2011;
- *«Мабыць, я вельмі захапляюся Палессем…». Пра фатаграфічную спадчыну этнографа Ісака Сербава*, «Архэ», 2011, № 3 (102), с. 28–52;
- *Белорусский народный текстиль: художественные основы, взаимосвязи, новации*, Минск 2013;
- *Белорусский народный костюм: крой, вышивка и декоративные швы*, Минск 2013;
- *Беларускія посцілкі і дываны. Антрапалогія і мастацтва традыцыйнай рэчы*, Мінск 2021.

**Валянціна Міхайлаўна Мятліцкая** (1955–2022). Даследаванні беларускага нацыянальнага руху, гісторыі Гомеля пачатку XX ст., жыцця і навуковай спадчыны М. В. Доўнар-Запольскага.

- Аўтар звыш 200 публікацый, сярод якіх – біяграфічнае даследаванне пра Палуту Бадунову (2004). Адна з арганізатараў міжнародных навуковых Доўнараўскіх чытанняў у Рэчыцы, адказны рэдактар I–VII зборнікаў *Доўнараўскія чытанні*. Сябра рэдакцыі *Беларускай гістарычнай энцыклапедыі* (Т. 1–6).

**Ала Пігальская** – PhD (доктар гуманітарных навук). Ад'юнкт дэпартамента гісторыі Інстытута славістыкі Польскай акадэміі навук. Сфера навуковых інтарэсаў: гісторыя візуальнай культуры і даследаванні штодзённасці Беларусі XIX–XX стст.

***Асноўныя публікацыі:***
- *Hand-Making Modernist Forms: The Visual Environment In Visaginas From the 1970s to the 2010s* [in:] *Visaginas From the 1970s to the 2010s. In Re-Tooling Knowledge Infrastructures in a 'Post-Nuclear' Town*, Vilnius 2021.
- *The Materiality of Visual Hierarchies and the Presumptuous Charm of Russian 1990s Post-Soviet Magazine Design* [in:] *In Defense of the Mainstream*, edited by L. Alyabyeva, A. Gorbachev and L. Danilkin, Moscow 2021.
- *Graphic design practices, technologies of reproduction and communication strategies in Belarus after the collapse of the Soviet Union*, «Acta Academiae Artium Vilnensis», 83, 2017, p. 113–124.
- *Public space typography in Visaginas* [in:] *Mapping Visaginas. Sources of Urbanity in a Former Mono-functional Town*, Vilnius 2016, p. 55–61.
- *Visual Traces of Individualization Practices in 1960-70s Posters of the BSSR* [in:] «Acta Academiae Artium Vilnensis». 73, 2015, p. 123–139.

**Аляксандр Радзюк** – кандыдат гістарычных навук. Сфера навуковых інтарэсаў: паўстанне 1863–1864 гг., палітычны курс Расійскай імперыі на беларускіх землях.

***Асноўныя публікацыі:***
- *Пад скіпетрам Расейскай імперыі. Рэпрэсіўная палітыка царызму на землях Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст.*, Мінск 2017;
- *Дзейнасць следчых і судовых камісій на тэрыторыі Беларусі ў 1863–1867 гг. (на прыкладзе Гродзенскай губ.)* [у:] *Паўстанне 1863–1864 гг. у Польшчы, Беларусі, Літве і Украіне: гісторыя і памяць*: зборнік навуковых артыкулаў, Мінск 2014, с. 208–223;
- *Зьнішчэнне шляхецкіх ваколіцаў на Гарадзеншчыне ў 1863–1864 гг.* // Arche, 2010, № 12, с. 151–173;
- *Канфіскацыя маёмасці ўдзельнікаў паўстання 1863–1864 гг.: гісторыка-юрыдычны аспект праблемы*, «Веснік ГрДУ», 2018, т. 10, № 1, с. 22–30.

**Аляксандр Смалянчук** – доктар гістарычных навук, прафесар Інстытута славістыкі ПАН, візіт-прафесар Варшаўскага ўніверсітэта, галоўны рэдактар гадавіка антрапалагічнай гісторыі «Homo Historicus» (з 2008 г.), «Гадавіка Цэнтра беларускіх студыяў» (з 2020). Праблематыка даследаванняў датычыць гісторыі нацыянальных рухаў у Беларусі і Літве ў XIX–XX стст., палітычнай гісторыі Беларусі ў XX ст., *memory studies* (вусная гісторыя).

***Асноўныя публікацыі:***
- *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917*. Выд. 2-е, Санкт-Петербург 2004;
- *Краёвая ідэя ў беларускай гісторыі*, Мінск 2017;
- *Раман Скірмунт (1868–1939): жыццяпіс грамадзяніна Краю*, Мінск 2018;
- *«За першымі саветамі»: польска-беларускае памежжа 1939–1941 гг. у вусных успамінах жыхароў Беларусі*. Уклад. В. Івановай; пад рэд. А. Смаленчука, Мінск 2019;

**Иван Павлович Стрелков** – специалист по истории Гражданской войны в России.

***Основные публикации:***
- *К вопросу об идеологии Русского политического совещания*, «Вестник ТвГУ. Серия История», 2021, № 4, с. 43–56;
- *Внешнеполитические ведомства ранних антибольшевистских правительств: Самара, Архангельск, Омск*, «Новейшая история России», 2018, № 1, с. 45–56;
- *Взгляд белых дипломатов на главные цели внешней политики России*, «Вестник СпбГУ», сер. 2, 2013, вып. 3, с. 169–176.

**Віктар Уладзіміравіч Якубаў** – кандыдат гістарычных навук, дацэнт, з 2007 па 2021 працаваў у Полацкім дзяржаўным універсітэце, зараз афіляваны ў Варшаўскім універсітэце ў якасці візітуючага навукоўца.

Навуковыя інтарэсы: знешняя і ўнутраная палітыка ВКЛ у часы Жыгмонта Вазы, інтэграцыя Інфлянтаў у склад Рэчы Паспалітай, вайсковая гісторыя ВКЛ, гандаль, рэлігія і культура ВКЛ у канцы XVI – пачатку XVII ст.

- *Выбудова кліенцкай сеткі Льва Сапегі ў канцы XVI – пачатку XVII ст.*, «Rocznik Centrum Studiów Białoruskich = Гадавік Цэнтра беларускіх студыяў», 2020, № 6, с. 6–23;
- *Магнатэрыя ВКЛ у ракашовых падзеях 1606–1609 гг.* [у:] *Вялікае Княства Літоўскае: палітыка, эканоміка, культура*. Зб. навук. артыкулаў у 2 ч. Ч. 1. Уклад. А. А. Скеп'ян, Мінск 2017, с. 253–269;
- *Стратэгія і тактыка кіруючых колаў ВКЛ і Рэчы Паспалітай адносна зямель былой Лівонскай канфедэрацыі ў XVI–XVII стст.,* «Гісторыка-археалагічны зборнік», 2018, № 32, с. 68–79;
- *Станаўленне найманага войска ў ВКЛ*, «Arche. Пачатак», 2014, № 12, с. 508–528.

**Jan Gordziejew** – magister historii, absolwent Instytutu Historii Uniwersytetu Jagiellońskiego, doktorant na Uniwersytecie Pedagogicznym w Krakowie. Obszar zainteresowań: historia miasta Grodna, stosunki narodowościowe w Europie Środkowo-Wschodniej w XIX–XX wieku, pamięć historyczna.

Kaimszczyna na Litwie i Bielajrusi

Niech będzie pochwalony Jezus Chrystus!

Bratki – Hramada.

Josć Boh nad nami! – a sud jaho sprawiadliwy rana, czy pozna ukaraje kaimaŭ! –

A ciamiciaż bratki chto byŭ kaim? – byŭ jon synam praatca naszaha Adama; – zły i nia pakorny, zabiŭ rodnaha brata Abla za to, szto toj, milujuczy Boha, szanujuczy backoŭ i kachajuczy bratoŭ swaich, spadabaŭsia Hospadu, – i Boh praklaŭ na wieki razbojnika! – pastaŭ na patampieńnia wyradnaha brata, s pahanym jaho rodam! –

K wiecznamu naszamu stydu! – s ciażkaju na sercy tuhoju was, mai bratki, kaimami nazwać muszu! – Nia każu ŭsich, bo razumnyje muzyczki dakazali na dziele da dabra achwotu; – durnyje tolka, atumanienyje złymi papami, padnimajuć świętakradzkije ruki na bratoŭ rodnych! –

Chtoż tyje braty? – taź dzietki zrodzonyje z tojże maci, szto i wasza, – maci Ajczyzny, – ziamielki Litoŭskaj i

*Kaimszczyna na Litwie i Bielajrusi [1].*
*Lietuvos Nacionalinis Muziejus (LNM), R–15702*

*Kaimszczyna na Litwie i Bielajrusi [5]. Lietuvos Nacionalinis Muziejus (LNM), R–15702*

maskalami, – htumicie jaje i zabiwajecie! – Papraŭciesia, pakul jaszcze zmohat, bo jak Pranсuz zatje Polskuju i Litoŭskuju ziamielki, tahdy nia para ŭże budzie; – spaznajecie, da pozna, szto za kaimszczynu na hetam swiecie kara at ludziej, a u pruszłam życci wiecznaja patampiennia i ahoń piakielny at Hospada Boha was czakajuć. –

Zabujuczy was, jak bratoŭ rodnych, praszu Usiawysznia ho sztob aswiacił wasz ciomny rozum, – kalib mai słowa, światoju zaznaczany praudaju, jak haroch at ściany, nia atpali at waszaho sierca. –

Niech będzie pachwalony Jezus Chrystus! –

Janka z pad Wilna. –

Przestroga do rękopismu: u z oznaczkiem ˘, często tu używane, to jest: (ŭ) w druku powinno być zastąpione przez u cursive, czyli (u). –

Przestroga (drukarska). – u cursive, czyli (u) w wymawianiu iknie, – spajasię niejako one z poprzedzającą, lub też następującą, wedle potrzeby, zgłoską. –

R-15702

*Kaimszczyna na Litwie i Bielajrusi [7]. Lietuvos Nacionalinis Muziejus (LNM), R–15702*



Wolno drukować, z obowiązkiem zło-
żenia w komitecie cenzury pra-
wem przepisanej illości ekzem-
plarzy. – Wilno Maja 26go 1863 r.
Cenzor Muchin

R-15702

*Kaimszczyna na Litwie i Bielajrusi [8]. Lietuvos Nacionalinis Muziejus (LNM), R–15702*

Ty uże ze nami prosi, nie sprawiedliwości, a miłosierdzia
bożaho a prakleństwo tohoświata niechaj padzie na
dyszohubców naszych.

Przyjmi św. Ojcze pismo moje po szczyrości i błahasławi
ludziej szto dobro dumajuć i dobra chaczuć. —



*Ліст "Do Ciebie swiaty nasz Ojcze" [2].*
*LNM. R–15782*

№ 6 Mużyckaja Prauda

Wy Dziacinki peunie niewiedajecie chto wy
takije, jak nazywajeć sia heta ziemla na
jakoj naszyje baćki żyli, na jakoj my żywiemo
i naszyje dzietki życi buduć, - szto z jeju zrau-
bło sia z dawnich let, jakim heto sposobam ma-
skal pad siebie zahornuu i dla czoho to jon nas
da hetaje pary jeszcze trymaje. Kab kożen z nas
nie byu jak bydla, szto niczoho nie znaje, a wiedau
usio toje szto czełowiek wolny wiedać pawinien,
- ja piszu heto pismo - wy Dziacinki adno z
uwahaju mienie pasłuchajcie.

Ziemla nasza z wiekou wiecznych nazywajeć-
sia litouskaja, a my to nazywajem sia Litoucy.
Kaliś to i naszyje baćki mieli swaich karalou,
szto adwahu ich na wajnie, a sprawiedliwość u
sudzie na cały świet znali. Dla toho to Palaki
szto to żywuć kala Warszawy naszaho Karala wy-
brali i swaim Karalom, z hetaje pary Dziacinki
my przyjaćmi na wiek wiekou życi s Palakami
razom na wajnu chadzici, mieci adzin rad, adnu
wieru, i jak szyroka ziemla nasza, adnu wolność
dla usich. -

No nie dumajcie kab usie hetaho chacieli, było
i miez nami szmat, a najbolsz z (wielikaho) panskaho rodu,
szto im wolnosć takaja wielmi kałoła u oczy;
dla toho to jany szukali tolko sposobu jak skru-
cici wolnosć, i samim adno z jeje karystawać. No
praciu hramady niemahli niczoho zrabici. -

I byłoby dobre u naszom krаju. No niа naszeje
bezhałowje u susiedztwie z nami żyu maskou-
ski Car. U jeho Dziacinki z rodu nie było ni-
jakoj wolnosći, [illegible] nawet nie byu życia peuny.
Dla toho to Car maskouski wielmi zbajau sia,
kab narod jeho uhledziuszy naszu wolnosć, nie
stau buntowaci sia i nie wyhnau Carou swoich

*Неапублікаваны чарнавік.* Mużyckaja Prauda*, nr 6. 12 кастрычніка 1862 г. [1].*
*LNM. R–15886*



cie sia što nie addawajcie u ruki panou nijakoho
rądu, — my dawno Wam budziem wieryci, a to dla
toho, szto adno (sami) my hatowy życie swaje
addaci za naszu wolnaść. —
Dziaciuszki, braty maje mużyckaho rodu,
błyszczyć nam uże toj czas, kali my na wieki
rastaniemsia z maskouskim rządom, a
wolnaść sprawiedliwaja budzie nahradaju
za naszu pracu, za naszu krou, szto pra-
lić sia my hatowy maskouskaj ...
...! —
Prowincyonalny Litewski Komitet
pozwala drukować z warunkiem
niezmiany i zwrotu oryginału. —
Wilno d. 12 ... 1862.



*Неапублікаваны чарнавік*. Mużyckaja Prauda*, nr 6. 12 кастрычніка 1862 г. [3]. LNM. R–15886*

## RĄD NARODOWYJ POLSKOJ

Polszcza podniałasia za waszu i swoju swobodu. Wojna z Moskalom wielika. Krou liecsa usiudu. Bog błohosławić. Skoro budziem wolny. Rąd Polski hetym objaulaječ usim pousiemiestno szto zo dnia objaulenia hetoho Manichwesta usie rauny, usie syny odnoj Polszczy Ojczyzny naszej, szto usiem mużykam oddaječsa na uwieś wiek ziemla jakaja była uich używalności biez żadnoj pańszczyzny, ni czynszu ni jakoho otrobotku. Parobkam że, bobylam i kutnikam kotoryje pojduć na Maskala daruječsa 5 morgou ziamli z majątkóu skarbowych. Usie szto pojduć w wojsko Polskoje dajecsa szlachectwo na wiek. Wiera dla usiech swobodnaja, jak kto chocze. Uniaty kotorych perewiarnuli u prawosławje mohuć wiarnuć do swojej wiery. Podaciej Caru płacić, ni rekruta dawać nie treba. Braty Biełorusy, pryszła pora dobraja. Praczuiciaż sia i wy da pryzwawszy Boha u pomoszcz, branicie woli, ziamli i wiery waszej a Boh wam dopomoże.

Hoda 1863 Maja 3 dnia.

**Ukażnoj chacie charanicie hety Manichwest, jak hramatu na swobodu praudziwuju.**



*Маніфест Нацыянальнага ўрада. 3 мая 1863 г.*
*LNM. R–15953-1*

